

## СЭРЦА Ў ЯГО САПРАЎДЫ БЫЛО ШЧОДРАЕ

З Міхасём Ціханавічам Лыньковым я быў добра знаёмы. Мы разам ездзілі ў падшэфны калгас у Нясвіжскім раёне, сустракаліся там з настаўнікамі і вучнямі розных класаў. Ён запрашаў мяне на сваю радзіму, але не ў Зазыбы, у якіх нарадзіўся, а ў блізкія Крынкі і ў Віцебск — там жылі яго сваякі. Віцебск ён добра ведаў і любіў яўна больш, чым шумную сталіцу. У такіх паездках хораша адкрываліся яго чалавечае высакародства, душэўная далікатнасць і дабрыня, якія з адлегласці часу бачацца асабліва выразна.

Пра гэта я трохі спрабаваў гаварыць і раней, у артыкуле-ўспаміне «Чалавечнасць». Ён друкаваўся ў маёй аднайменнай кнізе (1985), а яшчэ раней — у «Полымі» (1979. № 11). Кнігу ж пра лыньkоўскую творчасць назваў «Шчодрае сэрца пісьменніка». Праўда, даючы такі загаловак, меў на ўвазе найперш не асабістыя чалавечыя якасці мастака (пра іх пры ягоным жыцці пісаць як быццам і не выпадала — не дазваляла наша тагачасная па-дурному пурытанская літаратуразнаўчая звычка), а шчодрасць пісьменніцкай самааддачы Міхася Лынькова, якая нарадзіла гранічную пачуццёвую насычанасць яго прозы, яго павышаную рамантычна прыўзнятую эмацыянальнасць, вельмі прачулы лірызм ды іскрысты, гарэзліва-ўсмешлівы гумар, звычайна ўласцівы добрым, сардэчным людзям, гумар, які хораша праменіцца ў многіх лыньkоўскіх творах.

Лынькоў быў, безумоўна, добрым чалавекам, але расправы над «буржуямі» не жахаўся і ён, сам прымаў удзел у Грамадзянскай вайне, вядома, быў у стане чырвоных, са зброяй у руках змагаўся супроць войскаў кайзера Вільгельма і польскіх уланаў (у час паходу Тухачэўскага на Варшаву), а прыйшоўшы ў літаратуру, славіў камуністаў і савецкую ўладу, якая абяцала такім, як ён, усе жыццёвыя даброты. Ды ён, хоць кар'ерыстам ніколі не быў, дзякуючы сваёй неардынарнасці, таленавітасці, працалюбству, і дасягнуў значных вышынь, стаўшы ўрэшце акадэмікам АН БССР і народным пісьменнікам Беларусі.

Быў ён і дэпутатам Вярхоўнага Савета рэспублікі ўсіх скліканняў, якія адбыліся пры ягоным жыцці, прычым апошні раз вылучаўся ў тыя дэпутаты ўжо зусім нямоглым, няздольным нават правесці асабіста сустрэчу з выбаршчыкамі. Зрэшты, гэта не мела істотнага значэння, бо самі тагачасныя выбары былі пустой фармальнасцю — іх вынікі прадвызначаліся партнаменклатурай ужо на стадыі вылучэння кандыдатаў у дэпутаты.

Дэпутацкае званне, ад якога спрытныя дзялкі таксама мелі немалыя выгоды, такім сціплым па свайму характару людзям, як Міхась Лынькоў, практычна мала што давала, затое ўскладвала дадатковыя, няхай і не асабліва цяжкія, абавязкі. Але яно было важкім сведчаннем поўнага даверу да пісьменніка з боку партыйнага кіраўніцтва. А гэта ўжо нешта значыла, пэўную цану мела.

Словам, Міхась Лынькоў быў і да апошніх сваіх дзён заставаўся тыповым савецкім пісьменнікам, які з маладых гадоў пранікся камуністычнай ідэалогіяй і служыў ёй да канца. Гэта была адданая служба таму палітычнаму ладу, які даў пісьменніку пуцёўку ў вялікае жыццё, узняў яго на вяршыню грамадскага і літаратурнага прызнання.

Сумненні на шляху гэтага служэння калі і ўзнікалі, дык яны засталіся незафіксаванымі. Толькі па некаторых ускосных сведчаннях можна меркаваць, што зусім без сумненняў усё ж не абышлося. Узяць хоць бы тое, што за ўсе пасляваенныя гады Лынькоў не напісаў ніводнага мастацкага твора пра тагачасную савецкую рэчаіснасць увогуле і пра вясковае жыццё ў тым ліку. Лічыў за лепшае паказваць беды Амерыкі ды нахабства англійскіх каланізатараў. Праўда, у публіцыстычных артыкулах ён не скупіўся і на пахвалу савецкай рэчаіснасці, нашай прамысловасці і сельскай гаспадаркі, але рабіў гэта, калі мець на ўвазе яго пісьменніцкі талент, не вельмі вынаходліва, абыходзячыся найбольш звычайнай агульшчынай. І толькі рэтраспектыўнае прызнанне, што калгасніку жылося вельмі нялёгка, часам у яго прарывалася. Так, у адным з лістоў 1956 года зазначана: «Быў у сваіх выбаршчыкаў у пінскіх краях. Вельмі рады, убачыўшы важкі, сапраўдны перанлом да лепшага ў жыцці калгаснікаў. Працуюць людзі па-сапраўднаму, а добрая праца дае і добрыя рэзультаты». Пра тое, колькі з тых рэзультатаў даставалася самім калгаснікам, у лісце не паведамляецца.

Па-свойму красамоўная і згадка ў артыкуле «Надзейным шляхам», напісаным у канцы 1971 года. Тут прызнаецца, што «яшчэ параўнальна нядаўна аплата працадня калгасніка» была слабою — «далёка ад кілаграма збожжа». На самай справе яна ў пасляваенныя гады часта была сімвалічнай і ніяк не забяспечвала дабрабыт сельскіх працаўнікоў, якія тады жылі галоўным чынам за кошт прысядзібных участкаў.

Моцная ідэалагічная запраграмаванасць пісьменніка, яго актыўнае служэнне ўтапічнай і ў практычным прымяненні злачыннай камуністычнай дактрыне, якая ўрэшце давяла вялікую краіну да распаду, сёння не можа імпанаваць, прынамсі, тым, хто ведае цану камуністычнай дэмагогіі. Яно, тое служэнне, успрымаецца цяпер са знакам мінус. І гэты мінус фактычна абясцэньвае амаль усю лынькоўскую публіцыстыку. Менш адчувальны ён у літаратуразнаўчых і крытычных працах пісьменніка, асабліва ў канкрэтным аналізе мастацкіх твораў, у гаворцы пра іх эстэтычныя вартасці.

У сапраўды мастацкіх творах ідэалагічная арыентаванасць увогуле ўсё ж не самае галоўнае. Ва ўсякім разе, яны, тыя творы, здольныя хваляваць і тады, калі нас не задавальняюць ідэалагічныя пазіцыі іх

стваральнікаў. Ці так ужо шмат у народным і прафесійным мастацтве мінулых стагоддзяў знойдзецца твораў, сугучных нам, сённяшнім, ідэалагічна, светапоглядна-палітычна? А нас хвалююць і «Рамаяна», і «Калевала», і «Манас», і гамераўскія «Іліяда» з «Адысеяй», хоць у прынцыпе нам не так ужо істотна, хто перамог у той жа вайне грэкаў з траянцамі. Важна, што ўсё гэта — выдатныя творы мастацтва, у якіх жыццё старажытных народаў, іх уяўленні пра свет адлюстраваны з высокай эстэтычнай дасканаласцю, якая найперш і найбольш выклікае нашу цікавасць.

Словам, чым больш таленавіты мастак, тым большыя ў яго шансы на шырокае кола прыхільнікаў рознай палітычнай, ідэалагічнай арыентаванасці. У Міхася Лынькова талент быў сапраўдны. У яго творах па-майстэрску адлюстраваны цэлы перыяд нашай гісторыі з тагачаснымі людскімі марамі, надзеямі, спадзяваннямі і бадай непазбежнымі памылкамі, якія таксама складаюць няхай і не лепшую, але частку нашай гісторыі і не могуць быць выкраслены з яе пры колькі-небудзь аб’ектыўным падыходзе. Таму гэтыя творы яшчэ доўга будуць захоўваць сваю цікавасць для тых, каму дарагая Беларусь і яе сыны, якія ў самых складаных умовах імкнуліся сумленна служыць ёй.

* * *

Вельмі ярка выявіўся Міхась Лынькоў-мастак у жанры апавядання. Ужо яго раннія апавяданні, апублікаваныя ў 1926–1928 гадах («Гой», «Чыгунныя песні», «Крот», «Над Бугам», «У мястэчку», «Маньчжур», «Журавель мой, журавель», «Андрэй Лятун», «Радо» і інш.), атрымалі шырокі грамадскі рэзананс. Яны вылучылі пісьменніка ў шэрагі лепшых беларускіх празаікаў той пары. Асабліва папулярнымі былі лынькоўскія апавяданні пра Грамадзянскую вайну, пра барацьбу чырвонаармейцаў за новы грамадскі лад, стваральнікі якога не скупіліся на самыя шчодрыя абяцанні сваім прыхільнікам і з поспехам спакушалі іх зманлівым прывідам вельмі блізкай шчаслівай долі. Гэтыя апавяданні пісаліся на аснове асабістых уражанняў пісьменніка ад удзелу ў Грамадзянскай вайне і вызначаліся сваёй мастацкай дасканаласцю. Міхась Лынькоў «добра ведае паходны быт чырвонаармейцаў, па-мастацку дае іхнія размовы, трапна выяўляе адносіны іх адзін да аднаго. Аўтар не ідэалізуе чырвонаармейца, а паказвае яго такім, які ён ёсць у праўдзівым жыцці. Чытач, па волі аўтара, зжываецца з яго сябрамі-чырвонаармейцамі, пераймаецца іхнімі інтарэсамі, жыве іхнімі надзеямі. У апісанні драбніц паходнага чырвонаармейскага жыцця Лынькоў часам пакідае за сабой і Коласа, і Нёманскага, і Зарэцкага», — падкрэсліваў (думаецца, слушна) Максім Гарэцкі ў сваёй кнізе «“Маладняк” за пяць гадоў» (1928).

Вабілі да лынькоўскіх апавяданняў і спробы празаіка паказаць, як тады гаварылі, «рэвалюцыйнае абнаўленне свету» пасля кастрычніцкага перавароту бальшавікоў, перамены ў людской псіхалогіі і нават

нараджэнне «новага чалавека», нібыта вольнага ад старых грахоў, забабонаў і перажыткаў мінулага. Ствараўся далёкі ад жорсткай рэальнасці сацыяльны міф. Але яму хацелася верыць, бо ён выглядаў вельмі прывабна і навязваўся масавай свядомасці не толькі літаратурай. Пра паспяховае перавыхаванне мільёнаў крычалі ўсюды, па ўсіх ідэалагічна-прапагандысцкіх каналах. І гэта затуманьвала галовы многім і надоўга. Я сам пры аналізе лынькоўскай творчасці заўзята, з палемічнай задзірыстасцю абараняў тое перавыхаванне, бачыў у яго паказе галоўную вартасць многіх апавяданняў пісьменніка. Перачытваючы тыя апавяданні цяпер, асэнсоўваючы іх з улікам новага гістарычнага вопыту, выразна разумееш, што роля і ўдзельная вага перавыхавання ў пісьменніцкай праблематыцы перабольшвалася, а пра пераканальнасць яго паказу ўвогуле гаварылася дарэмна. Якраз тут, у сцвярджэнні, што бальшавікі, прыйшоўшы да ўлады, абудзілі ў людзей лепшыя якасці, дамагліся карэнных дабратворных перамен у псіхалогіі мільёнаў, была вялікая няпраўда. Бальшавіцкая дыктатура толькі на словах разняволіла чалавека, а на справе прыціснула яго яшчэ больш, чым пракляты царызм, супроць якога ўзбунтаваўся народ. У разбуральнай віхуры рэвалюцыйных падзей 1917 года, у параксізмах развязанай бальшавікамі Грамадзянскай вайны, калі вогненны смерч ушчэнт руйнаваў краіну, тады адзін другога знішчалі свае людзі, брат ішоў на брата. А ў выніку адбылося не разняволенне, не вызваленне ад прыгнёту, а паніжэнне самога чалавечага тыпу, аслабленне геннага патэнцыялу народа, бо ў братазабойчай разні часцей гінулі лепшыя, самыя рашучыя, адважныя і смелыя. Палахліўцы, як заўсёды, адседжваліся і пладзілі такіх, як самі, нашчадкаў. Лынькоў жа ў адпаведнасці з духам свайго часу, як і многія іншыя тыпова савецкія пісьменнікі, славіў героіку рэвалюцыі і Грамадзянскай вайны, паказваў, як тады, а таксама ў паслярэвалюцыйныя будні нібыта перавыхоўваліся людзі. Паўтару, што сёння гэта ўспрымаецца як самае павярхоўнае і непераканальнае ў ягоных творах.

Вось апавяданне «Маньчжур», адно з тых, дзе перавыхаванне не выдумана намі, крытыкамі, а сапраўды адлюстроўваецца пісьменнікам. Толькі як? Празаік упэўненай рукой намаляваў па-свойму каларытную фігуру чалавека, які пацярпеў жыццёвае крушэнне, зрабіўся горкім п'яніцам, нават уласнае імя страціў. «Кожны заве яго Маньчжурам, і не крыўдзіцца ён, і ніхто не ведае, як завуць яго інакш, якое ў яго імя, якое прозвішча. Дый нават і сам Маньчжур пра гэта добра не ведае. Ці скурыў з п'яных воч дакумент, ці проста згубіў дзе-небудзь пад плотам ці каля сметніка, але дакументальна ўстанавіць сваю асобу ён не меў ніякай магчымасці. І ў першыя разы, калі забірала яго паліцыя за розныя п'яныя справы, усе вельмі дзівіліся, калі чалавек на ўсе запытанні безнадзейна адказваў адно і тое слова: Маньчжур і Маньчжур…» Слова, вядома, не выпадковае. Яно намёртва засела ў памяці лынькоўскага героя, бо той стаў адной са шматлікіх ахвяр ганебнай для Расіі руска-японскай вайны 1904–1905 гадоў. У далёкай Маньчжурыі ён пабачыў багата жахаў, у крывавай бойні страціў сваіх сяброў, а ў

канчатковым выніку стаў глушыць душэўны боль гарэлкай. І дайшоў да ручкі. Была ў яго жонка, якая звыш меры напакутавалася ад п’яных Маньчжуравых выбрыкаў і ўрэшце памерла ад сухотаў. Былі дзеці, якія таксама паўміралі. А Маньчжур усё п’е ды ў п’яным ачмурэнні чаўпе пра Маньчжурыю, а маладым насмешнікам адказвае: «Ты вось зубы выскаляеш, а запытаць цябе — чаму? — і не адкажаш. А таго не ведаеш, што я табе пра Маньчжурыю гавару, а не пра калдобіны на тваёй вуліцы. А раз пра Маньчжурыю — маўчы і не дыхай, бо мы там кроў пралівалі, супастат ты гэтакі, мы сопкі маньчжурскія шынялямі заслалі ды пахавалі пад імі косці салдацкія, шэрыя…»

А вось як гаворыць ён пра свой узрост: «Сорак пяты гадок, а гэта табе не “ізюміна”, не бок тарана… Паспрабуй вось, голуб, падскочыць на столькі — пуп падарвеш… Так-то, браце…» Гаворыць у абодвух выпадках каларытна, па-свойму, хоць і з характэрным лынькоўскім акцэнтам (ён зусім відавочны ў канцы першай цытаты), уласцівым многім героям пісьменніка і прыкметным ва ўсёй яго прозе.

Каларытна акрэслены ў апавяданні і некаторыя эпізадычныя персанажы, напрыклад салдат-франтавік, які бравіруе сваёй расправай з афіцэрамі царскай арміі. «А стары, даўнейшы сусед Ігнат, вярнуўшыся з-пад далёкага немца, сустрэў Маньчжура каля калодзежа, расцалаваўся з ім і, запытаўшыся пра сваю жонку і дзяцей, весела гэтак сказаў:

— Жывём, брат, цяпер, ого… і ніякага табе, братка, нічога, а ім, галубок, прыдуха, ды яшчэ якая прыдуха. Былі яны капітаны ды паручыкі — чыкі-чыкі, а цяпер мы іх пад крылле і ўраз: чыкі-чыкі, і гатова — вашых няма».

Ігнат паказвае зрэзаныя ў афіцэраў пагоны, але зусім магчыма, што «чыкаў» ён і афіцэрскія галовы. Сёння ад такой бравады жахаешся. Але ж так было. Пісьменнік добра ведаў пра гэта і дужа не бедаваў ад таго «чыкання»…

Рэзка і, трэба сказаць, зусім нечакана змяняецца Маньчжур пасля бальшавіцкага перавароту. Маўляў, тады «забіла ў жыцці нейкай свежай крыніцай. Якой — яшчэ добра не разумеў Маньчжур, але адчуваў ён істотай сваёй, што гіне стаячае балота, дух падуў новы, разышлася гнілая вада, і гэтак добра дыхаць, цікава назіраць, як бегаюць па двары людзі, сустракаюцца, гамоняць. І ўвесь стары пахмурны двор з асклізлымі сценамі шэрых камяніц нібы асвяціўся якойсьці прывабнай прыгожай усмешкай. Нават старая памыйніца брудная перастала страшыдлам быць: па ёй скакалі і звычна чырыкалі вераб’і, а знізу прымайстраваўся сусветны жулік — Цімкаў кот Васька, настаражыў аблезлыя вушы, нецярпліва мяў падагнутымі пад сябе заднімі нагамі, штопарам хвост пакручваў і раптам падскакваў. Але вераб’і — заўсёды вераб’і. Яны паказвалі не зусім спрытнаму Ваську пушыстыя хвасты, а ён, схапіўшы ў зубы з гарачкі замест вераб’інага сэрца гнілую цыбуліну і вінавата марганууўшы вачыма, нехаця лез уніз, садзіўся і прымаўся старанна і спакойна за чыстку сваіх задніх лапак, нібы і не зважаючы зусім на вераб’ёў-задзіраў».

Пра вераб'інае чырыканне ды пра няўдачу і хітрыкі ката Ваські напісана сапраўды па-мастацку, з лынькоўскім бляскам і гумарыстычнай усмешкай. Але ж таго чырыкання, Васькавых хітрыкаў ды раптоўна павесялелай памыйніцы яўна недастаткова, каб пераканаць, што алкаголік з вялікім стажам у адначассе становіцца прыхільнікам чаю-гарбаты, як гэта адбылося ў апавяданні з Маньчжурам. Нават грамадскай дзейнасцю ён заняўся, атрымаў пасаду старшыні кварткама, на якой праяўляе добрую распарадчасць і, вядома ж, пільнуецца класавага падыходу.

* * *

Тут я мушу зрабіць адступленне. 23 лістапада 1999 года на філфаку БДУ мы праводзілі навуковую канферэнцыю, прысвечаную Міхасю Лынькову. Мой даклад на той канферэнцыі выклікаў рашучую нязгоду В. В. Казловай, якая шмат пісала пра Лынькова. Наколькі я зразумеў, яна ўвогуле лічыць, што і сёння трэба непарушна захоўваць ранейшыя ацэнкі лынькоўскай творчасці, па-ранейшаму разглядаць як вялікую вартасць непахісную ідэалагічную ангажаванасць пісьменніка, яго жорсткую падпарадкаванасць камуністычнай дактрыне. Але такое захаванне мне ўяўляецца немагчымым. Бо карэктывы ў наша ўспрыняцце мастака ўносіць час. І ён у прынцыпе незваротны. Спробы ж гвалтоўна павярнуць яго назад да дабра не вядуць, а, згодна з Марксам (ён тут меў рацыю), ператвараюць высокае, сур'ёзнае ў камічна-парадыйнае. А яно ж у сваёй абсурднасці вельмі небяспечнае. Словам, якраз час уладарна дыктуе новыя падыходы, неабходныя, нават абавязковыя для даследчыкаў, калі яны не жадаюць заставацца палоннікамі ўчарашняга і пазаўчарашняга дня.

Сярод канкрэтных закідаў было і несумяшчальнае з логікай згаданых разважанняў сцвярджэнне, што Лынькоў у сваіх творах пра Грамадзянскую вайну асуджаў яе з гуманістычных, агульначалавечых пазіцый. Колькі ні перачытваў тыя творы, я такога асуджэння ў іх не знайшоў. Праўда, у цудоўным апавяданні «Над Бугам» разанскі селянін Іван, які ўжо стаў чырвонаармейцам, перад наступленнем на белапалякаў успамінае родную вёску, дзяцей і жонку, бядуе, што цяпер не можа дапамагчы ёй у клопатным земляробчым занятку, па якім яўна сумуе. Але і ён зусім не супроць таго, каб «штыком паварочаць», калі ўжо ад спрадвечнай сялянскай справы аказаўся адарваным. Ды і ў наступленне ён проста рвецца («Ах, хоць бы хутчэй, хоць бы хутчэй!»). Ад імя апавядальніка, таксама чырвонаармейца, у творы сцвярджаецца: «Мы павінны ўзяць той бераг, адагнаць вочы смерці далей, каб на тым беразе сустрэць сонца, а з ім разам залатую радасць жыцця». Таму ў бой чырвоныя ідуць, «напружваючы радасцю сілы», з «грамавымі выкрыкамі "ўра"». Вылучаны ж, як і Ванька разанскі, буйным планам былы басяк Васька Шкетаў напярэдадні атакі і ўвогуле гаворыць: «Жыць я пачаў цяпер, жыць чалавечым жыццём». А тое, што абодва цэнтральныя ге-

роі ўрэшце гінуць, ніяк не цягне на асуджэнне ні таго наступлення на белапалякаў, ні, тым больш, самой Грамадзянскай вайны. У кантэксце твора іхняя смерць набывае высокі сэнс. Яна ўспрымаецца як плата за новае жыццё, вартае чалавека.

Вядома, тут прасвечвае і матыў жорсткасці Грамадзянскай вайны. Тую жорсткасць Лынькоў сапраўды паказваў у цэлым шэрагу твораў. Але ён спісваў яе толькі на белых. Чырвоных жа заўсёды апраўдваў, хоць яны ў крывавай братазабойчай сечы лютавалі ва ўсякім разе ніяк не менш за сваіх праціўнікаў.

Неаднаразова гучала ў Лынькова і прамое, адкрытае апраўданне Грамадзянскай вайны (побач з паказам яе непазбежнай жорсткасці). «Завіхурыў буран крывавы, і ў павевах яго людзі шчасце знаходзяць, вось такія людзі, як яны з Арынкай, як рамонтшчыкі пуцявыя, як прамасленыя дэпоўцы-рабочыя», — зазначаецца ў апавяданні «Чыгунныя песні». Праўда, у Арынкі і яе бацькі, старога стрэлачніка, тое шчасце разам з жыццём неўзабаве адбіраюць мяцежныя чэхаславакі, якія паўсталі супроць чырвоных. Але гэта ўжо зноў гаворка пра жорсткасць ворагаў простага люду.

«Напаўняліся сэрцы грымучаю радасцю — перад намі ўставалі новыя дні, дні наступленняў» — так узвышана ўспрымаюць свой удзел у Грамадзянскай вайне чырвонаармейцы з апавядання «Крот». Апавядальнік з гэтага твора, зноў жа чырвоны, са шкадаваннем адзначае, што пад ненавісным яму крыжам ляжаць «тры чалавекі, тры забітыя салдаты: два польскія і адзін чырвонаармеец». Ён адзін і апраўдваецца, бо аддаў сваё жыццё «за лепшую долю, за шчасце дзён новых». Польскія ж салдаты апраўдання не атрымліваюць, бо яны загінулі дарэмна — «за ліпкія кайданы сваёй сіне-змрочнай айчыны».

У апавяданні «Сінія галіфэ» без усякага шкадавання расстрэльваюць дэзерціра Івана Гнёта, які не захацеў «крывямі сыходзіць» за чужыя для яго інтарэсы новай улады, а смерць ад уланскай шаблі начальніка разведкі ў чырвоным палку Ермальчука падаецца зноў у высокім арэоле, бо гэта смерць «людская, баявая», за справу, у паказе пісьменніка, вартую, вялікую. Адкрыта славяцца і Ермальчуковы таварышы-пабрацімы. Яны прыгожа, з «шырокімі, заліўнымі» песнямі, ад якіх сум растае, «як пад сонцам раса высыхае», ідуць у новы паход: «Конскія капыты паблісквалі срэбрам — то ляцела насустрач бязмежная і бясконцая дарога.

Баявая дарога».

Пісьменнік не баяўся славіць, адкрыта ўзвышаць тую бясконцасць баявых чырвонаармейскіх дарог. Для яго ўсё гэта было зусім натуральным, бо ён сам змагаўся на баку чырвоных. Але ж асуджэннем Грамадзянскай вайны тут і не пахла. Наадварот, Лынькоў шукаў і знаходзіў у ёй высокую героіку і паэтызаваў яе ярка расквечанымі фарбамі рамантычнай стылістыкі, як гэта рабілі ў рускай літаратуры Ус. Іванаў, І. Бабель, А. Гайдар. І такая рамантызацыя тады карысталася поспехам, павышала цікавасць да лынькоўскіх апавяданняў.

Не агульначалавечы, а класавы падыход выразна выяўляецца ва ўсёй лынькоўскай творчасці. У адпаведнасці з гэтым падыходам і згадваны ўжо апавядальнік з апавядання «Крот» гатовы застрэліць шляхціца Зяленскага, хоць як быццам кахае ягоную дачку Яніну. Але гэтая акалічнасць для байца за рэвалюцыйнае пераўтварэнне свету не мае значэння, бо той шляхціц Зяленскі заможны, а значыць, ужо не бацька, а «люты вораг» і сыну, які падаўся да чырвоных, і сваёй дачцэ, той Яніне, гатовай пайсці за братам. Такі трагічны разлад паміж кроўнымі сваякамі быў прыкметай часу. І савецкая літаратура ахвотна адлюстроўвала яго, насуперак нармальнаму чалавечаму ўспрыняццю не жахалася гэтай анамальнасці, а славіла яе.

Безумоўны прыярытэт класавасці перад кроўным сваяцтвам сцвярджаў Міхась Лынькоў і ў некаторых апавяданнях пазнейшай пары. Так, у апавяданні «Аб чалавечым сэрцы» (1935) адзін з сюжэтных паваротаў, пачаўшыся ў духу класавасці, потым ушчыльную падводзіў пісьменніка да агульначалавечай трактоўкі сваяцкіх узаемаадносін. Такую магчымасць падказвала развязка ў гісторыі двух братоў, прадстаўнікоў простага люду, якія прымалі ўдзел у Грамадзянскай вайне, але апынуліся ў розных лагерах: адзін чамусьці падаўся да белых, стаў польскім уланам, а другі — чырвонаармейцам. З ім, тым чырвонаармейцам, па-садысцку распраўляецца польскі паручнік Бжызецкі, які люта ненавідзіць працоўных, бо сам ён багаты памешчык ды яшчэ граф (гэта ўсё яшчэ праяўляе сябе класавасць). Ён смяртэльна раніць чырвонага байца, але знарок робіць гэта так, каб той доўга канаў у вялікіх пакутах. «Чалавек ляжаў цяпер, уперыўшы прыжмураныя вочы ў трапяткую сіняву неба. Быў ён нерухомы, маўклівы. Адна нага была перасечана ў калене і так і ляжала надломленая. Рубец запёкшайся крыві прайшоўся па валасах ад ілба і да самага вуха. Хлопцы паправілі далонь рукі, яна вісела, бездапаможная і непатрэбная цяпер, на брудным шматку скуры. Тапырыўся рассечаны ад самага пляча шынель. Хлопцы рассунулі полы шыняля, каб дастаць з гімнасцёркі дакументы, і ціха падаліся назад. Зіяючая рана была на грудзях, яна ішла ад самага пляча, і праз чорныя, запёклыя берагі раны відаць было яно, звычайнае чалавечае сэрца. Чалавек быў нерухомы, а яно білася ціха, павольна», — піша празаік пра выгляд знявечанага чырвонаармейца, яўна злоўжываючы слоўнымі канструкцыямі, звыклымі ў рускай мове, але неўласцівымі мове беларускай («рубец запёкшайся крыві», «зіяючая рана»…).

Здаецца, што і з сэрцам тут выйшаў перабор: наўрад ці будзе яно біцца, няхай сабе і «ціха, павольна», без дапамогі медыкаў, калі ўжо стала бачным для «хлопцаў». А ў апавяданні чалавек з такой ранай прыйшоў да прытомнасці і яшчэ прамаўляе некалькі слоў.

Але вярнуся да тых хлопцаў, якія знайшлі параненага. Сярод іх і брат пакутніка. Ён потым забівае паручніка Бжызецкага, разам з якім трапіў у палон да чырвоных. Атрымліваецца як быццам традыцыйная ў жыцці і мастацтве сітуацыя: перамаглі сваяцкія пачуцці, брат адпомсціў за брата, знішчыўшы ягонага забойцу. Але ў апавяданні вуснамі чыр-

вонаармейскага камісара даецца зусім іншая трактоўка, ужо зведзеная да ўсё той жа класавасці. «Паручнік польскай арміі забіты польскім салдатам», — абвяшчае камісар.

Дарэчы, блізкі матыў ёсць і ў апавяданні «Няўдача Ота фон Гаўэра» (1939). Там нямецкі палкоўнік страляе ў нямецкага ж тэлеграфіста (той спачуваў беларускім працоўным і абвясціў пра рэвалюцыю ў Германіі яшчэ да таго, як яна адбылася), але сам атрымлівае кулю ад сваіх салдат.

Камісар жа з апавядання «Аб чалавечым сэрцы» ў развагах пра класавую і кроўную роднасць канчаткова расстаўляе ўсе неабходныя пісьменніку акцэнты: «Не ў кроўным сваяцтве ён бачыў спружыны ўсёй гэтай, як называў ён, бузы, усёй гэтай гісторыі са смерцю паручніка. Было нейкае другое сваяцтва, якое заўважыў ён у гаручым бляску воч некаторых з уланаў, якія абзывалі апошнім гадам пана паручніка… І гэта сваяцтва было куды вышэй звычайнага, кроўнага».

Такі вывад быў ідэалагічна запраграмаваны. Маральнае апраўданне забойства польскім салдатам з парабкаў польскага ж афіцэра, але ўжо з памешчыкаў, як і нямецкага палкоўніка ягонымі суродзічамі-салдатамі, скіроўвалася супроць традыцыйных людскіх узаемадачыненняў, у якіх кроўная роднасць, прыналежнасць да аднаго народа многае значыла. Яна лічылася непарушнай. А ў нашай таталітарнай дзяржаве яна, як і многія іншыя традыцыйныя маральныя каштоўнасці, свядома разбуралася, бо чалавек павінен быў служыць толькі ёй, дзяржаве, не лічачыся ні з чым, ні з якімі ранейшымі чалавечымі каштоўнасцямі і маральнымі забаронамі. Нездарма ж тады заахвочваліся даносы на блізкіх сваякоў, у тым ліку на бацьку і маці, братоў і сясцёр і нават на ўласных дзяцей.

У Лынькова такіх даносаў добрыя людзі не робяць. Але забойства свайго прыяцеля, калі той стаў небяспечным правакатарам, Захар Крымянец з апавядання «Сустрэчы» (1939) бярэ на сябе. Чалавек ён сапраўды цвёрды, як крэмень. А па канонах рамантычнай літаратуры, калі яна і не грэшная на жорсткую ідэалагічную зададзенасць, менавіта такім людзям належала канчаць нягоднікаў.

* * *

Народжаныя сваім часам і пазначаныя ягонай выразнай пячаткай, лынькоўскія апавяданні, падкрэслім, усё ж здольныя і сёння хваляваць чытача, аказваць на яго моцнае эстэтычнае ўздзеянне, але не дзякуючы сваёй ідэалагічнай запраграмаванасці, а насуперак ёй. Нас і цяпер узрушвае паказ жахаў Грамадзянскай вайны ў апавяданнях «Чыгунныя песні» і «Радо», уражвае высокая псіхалагічная дакладнасць у апавяданні «Над Бугам». Тут асабліва кранае туга па мірнай земляробчай працы паважнага ў сваёй памяркоўнасці селяніна з разанскай вёскі Івана, які і на фронце ў Беларусі ўспамінае свае «далёкія сенажаці, роднае поле, палосы аўсяныя, п’яныя канаплянікі», жаласлівую, на ўсё спрытную жонку Алену ды дзяцей-румзаў, хоць яны ў яго хлопцы, а тым румзаць як быццам і не да твару, але вось румзаюць, мабыць, па

маці пайшлі, таксама жаласлівыя… А як прачула, хочацца сказаць — хораша, па-чалавечы бядуе разанскі селянін, што не можа дапамагчы жонцы ў гаспадарчых клопатах летняй пары: «У нас, брат, цяпер самы гарачы час у полі, а рукі, яны, браток, адны ў гаспадарцы [жончыны], куды іх ні кінь — не абярэшся працы, а я вось лодар…»

Вядома, тут ён па дабрыні душэўнай трохі нагаворвае на сябе, бо ніякі ён не лодар (той лайдаком сам ніколі не назавецца), а працаўнік найшчырэйшы, з тых, што спрадвеку забяспечваюць народны дабрабыт. Але так і не давядзецца яму вярнуцца да клопатнага і разам з тым любага сялянскага занятку, бо загіне ён у баі над Бугам, загіне проста, звычайна, без гучных патрыятычных воклічаў, якія так любіць паказушная літаратура. Не лічыць жа залішне гучнымі Іванавы словы наконт «неперраможнага палка нашага» з апошняга, так і не дадыктаванага ліста жонцы, абарванага на паўфразе. Іх звычайна вылучала буйным планам колішняя крытыка як хоць нейкую зачэпку, няхай і вельмі хісткую, для гаворкі пра выдуманае ёю перавыхаванне Івана ў чырвонаармейскіх шэрагах. А ён як быў тыповым па ўсёй сваёй сутнасці селянінам, так ім і застаўся. Ды ён жа ведае, што памірае, а таму для апошняга паклону родным, для развітання з імі назаўсёды імкнецца знайсці нейкія небудзённыя, хоць трохі нязвыклыя словы. Гэтага вымагала і даўняя традыцыя пісьмовых пасланняў, у сялянскім асяроддзі даволі трывалая. Яна таксама схіляла да пэўнага падвышэння тону. Міхась Лынькоў усё гэта ведаў. Ён добра адчуваў свайго героя. І таму ўсё, што той у яго гаворыць, гучыць вельмі натуральна ў агульнай рамантызаванай атмасферы апавядання.

Асабліва прыкметная рамантызаваная стылёвая прыўзнятасць пры абмалёўцы Ваські Шкетава, Іванавага сябра і пабраціма па чырвонаармейскай долі. Але тая прыўзнятасць не перашкаджае пісьменніку ствараць жыццёвыя характары персанажаў, а, наадварот, павялічвае хараство твора, у якім выразна адчуваецца паэтыка лірычнай прозы.

Адзін са сродкаў гэтай паэтыкі — шматразовыя, крыху вар'іраваныя паўторы. Яны шчодра выкарыстоўваюцца, напрыклад, для перадачы псіхалагічнага напружання, што апаноўвае чырвонаармейцаў уначы перад боем, для многіх з якіх ён будзе апошнім, паставіць кропку на іх жыццёвай дарозе.

«Булькае вада пад навіслымі лазнякамі.

Булькае чорнымі пузырамі, бо як сажа — цёмная ноч. Ля поўначы блізка. Над Бугам мёртвая цішыня, толькі там, пад лазнякамі, чуюцца прыдушаныя ўсплёскі вады», — піша Лынькоў, празаік з паэтычным складам мыслення, а потым усяго на трох з хвосцікам старонках тэксту яшчэ не менш дзесяці разоў згадвае ў самых разнастайных камбінацыях тыя лазнякі, напружаную цішыню чакання, начную цемру ды вадзяное бульканне ў ёй.

Такая частотнасць паўтарэння ключавых дэталяў не ўспрымаецца як празмернасць. Яна стварае адпаведны эмацыянальны настрой, у лірычнай прозе асабліва істотны, бо яе паэтычнасць непасрэдна звязана з выверанасцю гэтага настрою, у вялікай ступені трымаецца на ім.

Паэтыка лірычнай прозы кладзе свой выразны адбітак і на іншыя лынькоўскія апавяданні, абумоўлівае іх яскравую маляўнічасць.

«Лес стаіць задуменны, пад яго чорнымі ў змроку зубчыкамі старых ялін гойдаецца маладзенькі месячык, мігацяць сарамліва зоркі. А лёгкія-лёгкія, як пярынкі, празрыстыя хмаркі плывуць карагодам, ахінаюць месяц, але ён, жартаўнік, нырне, нырне ў серабрысты туман бягучы, ды і вынырне потым і нібыта смяецца:

— А вось і я, маладзік срэбравокі, глядзіце на мяне, каму я дораг і люб».

Гэта з апавядання «У мястэчку», у якім той гарэзлівы месячык паявіцца і яшчэ раз, але ў трохі змененым выглядзе і зноў засвеціцца хораша, паэтычна: «У вокны заглядае бессаромны месячык. Хітры, хоча ўсё паглядзець сваім срэбным вокам». Такім ён бачыцца гераіні апавядання яўрэйскай дзяўчынцы Эйдлі.

Яўрэйская тэма, папулярная ў нашай літаратуры, асабліва ў даваенную пару, у творчасці Лынькова прадстаўлена даволі грунтоўна. Яна гучыць, акрамя апавядання «У мястэчку», і ў такіх творах гэтага жанру, як «Гой», «Гома», «Беня-балагол», у аповесці «Апошні зверыядавец», у рамане «На чырвоных лядах». Пісьменнік добра ведаў жыццё яўрэяў па вучобе і працы ў Рагачове і Бабруйску. Першым шлюбам ён быў жанаты з настаўніцай-яўрэйкай Ханай Абрамаўнай Аранковай, меў ад яе надзвычай любага яму сына Марыка, якога гітлераўцы разам з маці знішчылі ў 1942 годзе. Натуральна, што празаік, калі пісаў свае даваенныя творы, не мог і здагадвацца пра трагедыю, якая чакала яго сям’ю наперадзе. Яўрэйскі побыт ён адлюстроўваў з разуменнем, любасцю і такой дакладнасцю, якая рэдка сустракаецца ў пісьменнікаў, калі яны звяртаюцца да жыцця іншага народа.

Вядома, і ў Лынькова не ўсё напісанае пра яўрэяў аказалася слушным і даўгавечным. Скажам, ягоныя камсамольцы з апавядання «У мястэчку» перабольшваюць, сцвярджаючы, што «каля палавіны мястэчка пацягнулася да зямлі». Спробы трывала пасадзіць яўрэяў ды яшчэ цыганоў на зямлю, зрабіць з іх прыкладных хлебаробаў, а потым яшчэ і калгаснікаў, у даваенны час сапраўды рабіліся, але поспеху не мелі. У час адной з дыялекталагічных экспедыцый мне самому давялося чуць у Горвалі (колішняе вядомае ў гісторыі Беларусі мястэчка з моцнай яўрэйскай праслойкай), што ў іх пасля вайны быў у калгасе адзін яўрэй, але і той перасяліўся ў Рэчыцу.

У лынькоўскім апавяданні ўрэшце схіляецца да працы на зямлі і стары шавец Шолам, які ў канцы гэтага завершанага на бадзёрай ноце твора правёў дачку, ужо ўпамінаную Эйдлю, на вучобу ў горад (раней ён пра гэта і слухаць не хацеў), а сам «пайшоў у поле, дзе канчалі разбіўку зямлі для тых, хто хацеў бліжэй з ёй парадніцца, набыць новае, непарушнае сваяцтва».

У рэальным жыцці такога сваяцтва, ды яшчэ непарушнага, не атрымалася. І стары Шолам меў рацыю не ў досыць нечаканай надзеі на яго, а тады, калі пераконана казаў агітатарам за земляробчую працу яўрэяў:

«І хіба з гэтага што будзе, ой-ё-ёй. Вы думаеце, што гэта і сапраўды, калі зямля, дык ты і гаспадар. Не, не… пачакайце, пабачыце, з чым цыбулю ядуць…» На падказку маладога дасціпніка, што цыбулю ядуць з хлебам, які можна прыдбаць, засеяўшы зямельны надзел, Шолам абурана сячэ: «Ой, каб табе атруты насеялася! Ён пасее, ён пасее… Бачылі людцы, то ж галоўкі бязглуздыя». Думаецца, што і тут, і ў некаторых іншых мясцінах апавядання пісьменнік не толькі адэкватна адлюстраваў псіхалогію мітуслівага персанажа, але і дакладна ўзнавіў самую інтанацыю яўрэйскай гаворкі.

Хораша ўспрымаецца ў гэтым апавяданні і шырокае, разгоністае дыханне фразы з нахілам да філасофскай абагульненасці, прыкметнай і ў развažаннях Шолама, і асабліва ў непасрэдна аўтарскіх пасажах, якія пры ўсёй сваёй абагульненасці суадносяцца з душэўным станам і таго Шолама, і іншых персанажаў. «Калі нырне чалавек у хвалі радасці, нырне ўсёй сваёй чалавечай істотай, тады не чуе ён ног пад сабой, а часам і сонца не бачыць, бо сонца — радасць, і радасць — сонца. Кожнае дарага, кожнае міла, і ў кожным светла і цёпла. Люба і хараша жыць на свеце, калі радасць тваю абдыме, пачне песціць слодыч сонечных дзён, калі ў сэрцы тваім закрынічаць надзеі. Не стрымаць іх жыццёвай віхурай, ні цёмным вірам, ні маленькай няўдачай людской. Бо наперадзе вялікі шлях, наперадзе велізарныя агні полыхам веюць, завуць, запрашаюць — ідзі каваць, гартаваць шчасце, долю лепшую». Гэты тэкст увогуле можна разглядаць як пісьменніцкае лірычнае адступленне, бачыць у ім уласцівае самому аўтару захапленне жыццём і яго прыгажосцю, педаліраванае ў многіх лынькоўскіх творах. Але ж гэта і настрой гераіні апавядання Эйдлі, адбітак і яе радасці, яе «надзей маладых», яе ўзнёслых думак, якія «плылі карагодам», «запляталіся вянкамі» з-за таго, што дзяўчына ўрэшце дамаглася свайго — яна едзе ў горад працягваць вучобу.

А яшчэ ў яе сэрцы нараджаецца юнацкае каханне да каваля Далькі. Дык як тут не радавацца, як не ўсміхацца, не марыць пра вялікі шлях, які ў маладосці ўсім нам уяўляецца адкрытым? Рэальнае жыццё рэдка спраўджвае такія надзеі. Але ж ці дзяўчыне юнацкага ўзросту ведаць пра гэта? Не здагадваўся тады і сам пісьменнік, што спраўдзіцца не Эйдліна радасць, а людская трывога, якая адбілася ў наступным, таксама не пазбаўленым філасофскай абагульненасці пасажы: «І пусцее мястэчка, брыдуць людзі па пуцінах, шляхах адвечных, шукаюць шчасця і хлеба. Але цяжка злавіць у паветры шчасце, слізкі хвост у яго, не даецца ў рукі. І мястэчка жыве не жыве; паўзуць дні за днямі, і кожны баіцца заглядваць у вочы будучыні».

Усё ж глыбокая праўда тут. А згадка пра трывогу перад вачыма будучыні асабліва слушная: хочаш не хочаш, а іх заўсёды даводзіцца хоць трохі асцерагацца, бо яны таемныя, загадкава-непрадказальныя і могуць да пары да часу хаваць любую нечаканасць. Змірыцца з гэтым няпроста, але іншага выйсця ў чалавека няма.

* * *

Многія лынькоўскія апавяданні даўно сталі класічна-хрэстаматыйнымі. Адно з такіх апавяданняў — «Андрэй Лятун». Але сёння і яно прачытваецца па-новаму. Звычайна пры аналізе гэтага твора падкрэслівалася адданасць пісьменніка рабочай тэме, яго майстэрства ў паэтызацыі працы чыгуначнікаў, жыццё якіх Лынькоў да драбніц ведаў з дзяцінства і з асаблівай замілаванасцю пісаў пра чыгунку не толькі ў гэтым і іншых апавяданнях, але і ў аповесці «Міколка-паравоз», і ў раманах «На чырвоных лядах» (асобныя старонкі), «Векапомныя дні» (заслонаўская сюжэтная лінія), і ў разгорнутым аўтабіяграфічным нарысе «З родных крыніц».

У старога паравознага машыніста Андрэя з прозвішчам Сапун, якога Летуном празвалі ў маладыя гады за прыхільнасць да хуткай язды, вылучаліся яго вялікае працалюбства, душэўнае багацце і чалавечая высакароднасць. Усё гэта ёсць у апавяданні і складае істотную частку яго зместу. Але не менш істотнае там і іншае — трагедыя старасці, пра якую ў крытычных разважаннях калі і згадвалася, дык толькі мімаходзь, нейкім беглым радком. А празаік тую трагедыю адчуваў, бачыў даўно, яшчэ ў часы ўласнай маладосці, а ў 1975 годзе, за два месяцы да смерці, мабыць, прадчуваючы яе, напісаў з афарыстычнай выразнасцю: «Старасць горш за любую хваробу — яна невылечная».

У апавяданні «Андрэй Лятун» трагедыя старасці, паказ якой не вельмі стасаваўся з абавязковым аптымізмам савецкай літаратуры, знарок трохі прыглушаецца выдатна напісанай канцоўкай з крылатымі словамі старога машыніста: «І ляцім жа, браткі!.. Э-эх, ляцім!.. Даганяй — не дагоніш…»

Ляцім-то ляцім, але ці надоўга гэты лёт? На бліскучы рэгулятар новага і, здавалася на тыя часы, магутнага паравоза Андрэй націскае «дрыжачай рукой», весці новую машыну яму дазваляюць маладыя сябры толькі на працягу нейкіх хвілін і тады, калі «цягнік адыходзіць ад станцыі», бо Андрэева бадзёрасць вельмі ненадзейная, хліпкая. Яна можа нечакана згаснуць, абарвацца. Разумее гэта і сам колішні Лятун. «Стары я, браткі, недалугай раблюся. Што год, то горш», — прызнаецца ён у адным з апошніх эпізодаў твора. А яшчэ раней так гаварылася пра машыністава сэрца: «Яно старое, яно пракурана агнём і мазутам, яно пражжаўлена, як пражжаўлены стары паравоз». Ды і запеўка апавядання, не менш славутая, чым яго фінал, — гэта звернутыя да самога сябе скрушлівыя словы старога машыніста, у якіх трагедыя старасці паўстае ва ўсёй яе прыкра-жорсткай няўмольнасці: «Эх, Андрэй, Андрэй, да чаго ж ты дажыў, да чаго дастукаўся: ні раздолля табе, ні жазлоў, ні пуцёвак… Стой, гібей са сваёю “кукушкай-свістушкай”, чакай гнілых шпал, платформу адвядзеш за паўсотні сажняў. Не жыццё, а маслёнка мазутная. І ні пары табе паддаць, а ні поўны ход, ні табе семафоры крылатыя, а ні вёрсты бліскучыя, што мігцяць-сакацяць пад грымучымі коламі… Так, браце Андрэй, сядзі цяпер і не рыпайся… А чаму?

Таму, што старыя мы сталі, а віною ўсяму: годы точаць падшыпнікі, не разгонішся цяпер, не раз'едзешся… А іначай кажучы, старасць — не радасць. Баста! Годзе! Ад'ездзіўся». Здаецца, больш ясна ўжо і не скажаш. Але мы ўсё роўна як бы і не заўважалі гэтай яснасці.

Нямала праўдзівых штрыхоў, разважанняў, заўваг і рэплік, якія адлюстроўваюць калгаснае бязладдзе, але з ідэалагічных меркаванняў часта ўкладваюцца ў вусны адмоўных персанажаў, ёсць у лынькоўскіх вясковых апавяданнях пачатку 30-х гадоў («Саўка-агіцірнік», «Світка», «Салавей-разбойнік»).

У фармальных адносінах адпавядаюць усім канонам жанру і апавяданні пра перавыхаванне «зэкаў» на будаўніцтве Беламорска-Балтыйскага канала — «Баян», «На вялікай хвалі». Але пра тое, як успрымаюцца гэтыя апавяданні цяпер і наколькі намаляваная ў іх карціна разыходзіцца з рэальнасцю, мне ўжо даводзілася гаварыць у артыкуле «Дасягнутае і страчанае» (Полымя. 1996. № 5). Там жа з сучасных пазіцый разглядаецца згаданая вышэй «калгасная» нізка.

Цэлы зборнік апавяданняў («Сустрэчы», 1940) прысвяціў Лынькоў падзеям 1939 года, у выніку якіх Заходняя Беларусь стала савецкай, уз'ядналася з БССР. Ідэалагічная зададзенасць у гэтай кнізе адчуваецца моцна, але лепшыя творы з яе, такія, як блізкае да аповесці апавяданне «Сустрэчы», з вострым, драматычна-напружаным сюжэтам, актывізаваным за кошт прыгодніцка-дэтэктыўных элементаў і інверсійных зрухаў, здольныя і сёння хваляваць чытача, які любіць займальныя творы.

У апавяданнях перыяду Айчыннай вайны (кніга «Астап», 1944) празаік адлюстроўвае барацьбу нашых людзей з гітлераўцамі, з болем сардэчным піша пра гібель у гэтай барацьбе не толькі дарослых, але і дзяцей, смерць якіх паказваецца з асаблівай трагічнай абвостранасцю. Высокае пісьменніцкае майстэрства ў кнізе «Астап» прызнана даўно. Але часам, найбольш у апошнія гады, гучаць сцвярджэнні пра недастатковую псіхалагічную глыбіню ў лынькоўскіх апавяданнях ваеннай пары, пра спрошчанасць і перабольшанні ў іх. Пры гэтым не ўлічваецца рамантычны характар твораў. Для рамантызму ж нармальнымі з'яўляюцца і агульная ўзвышаная танальнасць, і перабольшанні markedly рознага плана, якіх не прымае рэалістычная паэтыка, арыентаваная на заземлена-побытавую адпаведнасць, строгую жыццепадобнасць ва ўсім.

Не бяруцца пад увагу і спецыфічныя агітацыйныя задачы, якімі кіраваліся тады нашы пісьменнікі. Думаецца, мае рацыю І. Шамякін, калі ён падкрэслівае, што ў час найцяжэйшай вайны «менавіта такія, як у Лынькова, кароткія, па-народнаму простыя, вострасюжэтныя апавяданні, якія друкаваліся ў газетах і размнажаліся ў форме лістовак, прачытваліся і расказваліся вусна партызанамі і насельніцтвам у тыле ворага, часта неслі духоўны зарад, роўны сіле баявой зброі».

У пасляваенныя гады Лынькоў, заняты рознымі службовымі справамі і працай у іншых жанрах, да апавядання звяртаўся не часта. Усе ягоныя апавяданні гэтай пары ў канчатковым выніку змясціліся ў адной кнізе «За акіянам» (1962), дапоўненай яшчэ нарысамі і нататкамі.

Стваралася яна з установкай на выкрыццё заходняга свету, перш за ўсё амерыканскай рэчаіснасці. І таму тая рэчаіснасць у лынькоўскіх апавяданнях, як і ў яго публіцыстыцы, падаецца вельмі выбарачна, без адлюстравання яе глыбіннага зрэзу. Пісьменнік шукае толькі «чорныя плямы» ў амерыканскім жыцці і піша пра іх не без бляску. Нават даволі сентыментальнае апавяданне «Чорная пляма», у якім расказваецца пра добрага негрыцянскага хлопчыка Ніка і гібель у акіянскіх хвалях ягонага бацькі — сляпога музыканта, можна чытаць без натугі.

І ўжо хвалююць па-сапраўднаму такія апавяданні, як «Цана крыві» або «Падарунак матцы», бо па-майстэрску разгорнутае ў іх сюжэтнае дзеянне пабудавана зноў на трагічных здарэннях. Пра іх пісьменнік ведаў з паведамленняў амерыканскага друку. У адным выпадку («Падарунак матцы») — гэта забойства маткі яе ўласным сынам дзеля грошай, якіх той усё роўна не атрымаў, а сам закончыў жыццё ў газавай камеры. У «Цане крыві» размова ідзе пра гібель дзіцяці, выкрадзенага, каб атрымаць за яго буйны грашовы выкуп. З'ява, канечне, ганебная, жахліва-бесчалавечная. Ды яна вядомая ўжо і нашай рэчаіснасці. А гэта дае немалыя шансы на новую актуалізацыю лынькоўскага апавядання.

Мастакоўскі дар Міхася Лынькова выяўляўся і ў лепшых пісьменніцкіх нарысах («Пад сонцам Індыі» і асабліва «З родных крыніц», дзе старонкі пра дзяцінства — чыстая мастацкая проза), а часам прарываўся і ў ягонай публіцыстыцы. Вось як пачаты публіцыстычны артыкул «Вострацъ сякеры беларусы» (1943), у якім потым пойдзе гаворка пра нескаронасць нашых людзей перад гітлераўскім нашэсцем: «З'явіліся жаўрукі на палях. Забярэцца каторы пад самае сіняе неба, трапечацца ў сонечным золаце і спявае, пераліваецца, нібы тысячы срэбных званочкаў пакаціліся, рассыпаліся па нябеснаму блакіту. А на зямлі цямнеюць снягі, расталая вада залівае рачулкі, балоцінкі. Набухае лёд на рацэ, трашчыць, падымаецца. Вось-вось пойдзе ламаць і крышыць, падточваць цесныя берагі, зносіць масты і грэблі». Такі запеў мог бы стаць пачаткам і самага лірычнага апавядання.

* * *

Значны ўклад унёс Лынькоў у развіццё беларускай займальнай вострасюжэтнай аповесці. Пачынаў ён у гэтым жанры з аповесці «Апошні зверыядавец» (1929), якая ў свой час карысталася поспехам, у 30-я гады шмат перавыдавалася. Тады пра яе з прыхільнасцю пісалі і сябры-празаікі, і крытыкі. А ў пасляваенны перыяд аповесць стала разглядацца як няўдача пісьменніка. А. Кучар, напрыклад, сцвярджаў, што «Апошні зверыядавец» «пазбаўлены філасофскай думкі, тыповых вобразаў, застаўся ў творчасці і Міхася Лынькова як бібліяграфічны факт».

Пісьменнік і сам амаль паверыў такім прысудам, ва ўсякім разе, сумняваўся, ці ўключаць аповесць у свой адзіны прыжыццёвы Збор твораў, выдадзены ў 1967–1968 гадах. Гэтымі сумненнямі ён падзяліўся

са мною ў тэлефоннай размове. Я адназначна выказаўся за публікацыю, мяркуючы, што аповесць будзе зноў чытацца хоць бы таму, што ў ёй ёсць востры, драматычна напружаны сюжэт з нечаканымі паваротамі і элементамі загадкавасці, характэрнымі для заўсёды папулярнай дэтэктыўнай літаратуры. Ды і час жа ў творы па-свойму адлюстроўваўся, а гэта таксама павінна быць цікавым для новых чытачоў.

Званіў жа мне пісьменнік таму, што ў сваёй кнізе пра ягоную творчасць я напісаў пра «Апошняга зверыядаўца» нямала пахвальнага. Крыху раней апублікаваў змястоўную кнігу пра Лынькова Ф. Куляшоў, які таксама выказваўся пра аповесць у цэлым станоўча. Але і ён, і я, грэшны, хвалілі твор пераважна за выкрыццё шкодніцкай дзейнасці, якою нібыта актыўна займаліся ў нас свядомыя ворагі савецкай улады. Гэтым шкодніцтвам тады тлумачыліся галоўныя беды краіны, на самай справе найперш звязаныя з няўменнем новых улад разумна гаспадарыць. А папрокі пісьменніку і ў Ф. Куляшова, і ў мяне рабіліся за недастаткова ўзорны паказ рабочых, а таксама партыйных дзеячаў.

Перачытваючы аповесць цяпер, я пераканаўся, што і наша пахвала, і нашы папрокі, калі не лічыць асобных слушных заўваг адносна формы твора, былі далёкімі ад ісціны. Міхась Лынькоў ужо ў той перыяд, калі пісаў «Апошняга зверыядаўца», добра ведаў рэальнае рабочае асяроддзе. У час працы ў газеце «Камуніст» ён, як сам казаў, часта бываў «на розных прадпрыемствах, на шкляных заводах, на фабрыках і заводах Бабруйска», а сваю першую аповесць ствараў, адштурхоўваючыся ад сапраўдных падзей, якія адбываліся на шклозаводзе «Кастрычнік» тагачаснага Свіслацкага раёна. Не вельмі прывабнае жыццё рабочых ён паказваў без лакіроўкі і падфарбоўвання. Таму і выглядала яно далёкім ад звыклых для савецкай літаратуры стандартаў. Але ў гэтым ёсць немалая вартасць твора, цяпер дастаткова прыкметная.

Вялікі поспех выпаў на долю лыньkоўскіх аповесцей для дзяцей «Пра смелага ваяку Мішку і яго слаўных таварышаў» і «Міколка-паравоз», хоць спачатку перастрахоўшчыкі іх нават не хацелі друкаваць. Абодва творы датуюцца 1935 годам (пазней рабіліся толькі асобныя дапіскі ды некаторыя стылёвыя праўкі) і маюць шмат агульнага ў сюжэтна-кампазіцыйнай структуры, а таксама ў характары самога апавядання, шчодра насычанага вясёлым і дасціпным гумарам, у якім праменіцца добрая душа самога пісьменніка, ягонае жыццялюбства.

У аповесці «Пра смелага ваяку Мішку…» серыя асобных, сюжэтна завершаных навел са сваім загалоўкам у кожнай з іх, які падкрэслівае завершанасць і адносную самастойнасць гэтых навел, згрупавана вакол мядзведзя Мішкі і яго таварышаў. Гэта казёл Барадаты, ён жа Вясёлая Барада, і «звычайны сабака звычайнай пароды» Жук з падпаленым у паходным жыцці з чырвонаармейцамі бокам. У «Міколку-паравозе», таксама «зманціраваным» з асобных завершаных навел, кожная з якіх можа існаваць і самастойна, скразных цэнтральных герояў двое: той, вынесены ў загаловак, падлетак Міколка і ягоны дзед Астап, найбольшы Міколкаў таварыш і друг-прыяцель, які па жывасці характару,

схільнасці да розных прыгод і здольнасці трапляць у самыя нечаканыя сітуацыі ніколькі не саступае свайму ўнуку. А разам яны, можна сказаць, — ідэальная пара для твора з дасціпным абыгрываннем камічных сітуацый і займальным прыгодніцкім сюжэтам, які разгортваецца, як і ў аповесці «Пра смелага ваяку Мішку…», з высокім майстэрствам.

Як і ў іншых сваіх творах, пісьменнік у абедзвюх аповесцях для дзяцей кіраваўся афіцыйнымі ідэалагічнымі ўстаноўкамі. Мішка, Барадаты і Жук сваімі прыгодамі і забаўнымі «артыстычнымі» прадстаўленнямі падвясельваюць чырвонаармейцаў і робяць (галоўным чынам смелы ваяка Мішка) прыкрасці іх праціўнікам-белапалякам. А Міколка з другой аповесці ўвогуле бальшавіцкі сын, разам з дзедам ён змагаецца супроць «буржуяў» рознай нацыянальнасці. Гэткая ідэалагічная запраграмаванасць была істотнай для лёсу твораў пры савецкай уладзе. Але яна ўжо цяпер адышла на задні план, а з цягам часу, думаецца, і зусім перастане ўспрымацца ўсур'ёз. Але чытача, вядома, найперш дзіцячага, заўсёды будуць хваляваць сапраўдная займальнасць аповесцяў, дасціпнасць пісьменніцкай выдумкі і заразлівасць гумару ў іх. А яшчэ будзе захоўвацца тая прачуласць, з якою ў «Міколку-паравозе» адлюстравана Міколкава чыгуначнае дзяцінства. За ім бачыцца ўласнае дзяцінства мастака, пра якое пісаць непаэтычна ён не ўмеў, не мог. Ён увогуле валодаў выдатнай здольнасцю дасканала, ва ўсіх тонкасцях разумець псіхалогію дзяцей і таму з вялікім майстэрствам паказваў іх непасрэднасць, шчырасць іх душэўных парыванняў, адметнасць іх погляду на ўсё навакольнае. Пісьменнік з асаблівай замілаванасцю ставіўся да дзяцей, умеў знайсці з імі агульную мову і ў рэальным жыцці. «У дзецях галоўнае шчасце людзей», — пераконана пісаў ён, хоць у самога яго гэтае шчасце доля адабрала. Ды ён не скарыўся ёй, а выхаваў прыёмных дачку і сына. Добры дзясятак гадоў цешыла яго сэрца, поўнае гарачай любві да дзяцей, і ўнучка, схільная да гарэзлівасці.

Ужо з 1950 года ён гаварыў пра свой намер напісаць новую дзіцячую кнігу, шмат разоў даваў абяцанні засесці за яе, але гэтыя абяцанні засталіся няспраўджанымі.

Выношваў пісьменнік і задуму рамана або аповесці «пра рабочых чыгуначнікаў самага пачатку Грамадзянскай вайны». Значыць, бачыўся твор пра часы пісьменніцкай маладосці і пра тое асяроддзе, у якім прайшло ягонае дзяцінства. У Лынькова было ўжо назапашана шмат матэрыялу для гэтага твора. Мабыць, для яго ж празаік збіраўся выкарыстаць і нешта з рамана «На чырвоных лядах» (1932). «Што датычыць "Чырвоных лядаў", дык я ж нават ніколі не дапусціў іх да перавыдання, паколькі яны зусім мяне не задавальняюць. Я іх пакідаю як чарнавы матэрыял для адной задуманай працы», — пісаў ён Я. Мазалькову, з якім падтрымліваў даволі блізкія сяброўскія адносіны.

Як бачым, да свайго дэбюту ў раманным жанры, твора, спыненага на першай кнізе, аўтар паставіўся з празмернай суровасцю. Нямала садзейнічала гэтаму і крытыка. Пра яе грахі (і свае ўласныя) у дачыненні да гэтага твора і пра тое, як ён успрымаецца цяпер, я падрабязна пісаў

ужо ў згадваным палымянскім артыкуле. Таму цяпер паўтару толькі галоўны вывад. Пры ўсіх уступках пісьменніка савецкім ідэалагічным догмам і відавочных недахопах сюжэтна-кампазіцыйнай арганізацыі, недастаткова зладжанай і для даволі свабоднай структуры рамана-хронікі (такі жанр твора), «Чырвоныя ляды» не толькі не з'яўляюцца безумоўнай няўдачай пісьменніка, як гэта шмат разоў сцвярджалася, а, наадварот, належаць да найбольш істотных і па-свойму цікавых набыткаў нашай прозы 30-х гадоў.

* * *

Шмат напакутаваўся пісьменнік і з «Векапомнымі днямі». Матэрыялы для гэтага велізарнага рамана ў чатырох кнігах празаік пачаў збіраць яшчэ ў 1942 годзе. Урыўкі з твора друкаваліся ўжо ў вайну. Але інтэнсіўная праца над ім за пісьменніцкім сталом пачалася з 1947 года. Ды ішла яна часта з вялікім скрыпам, са шматлікімі перапынкамі. Перашкаджалі і службовая занятасць, і розныя няшчасці. Асабліва ўзрушыла Міхася Ціханавіча бяда з Соф'яй Захараўнай, ягонай маладой, поўнай жыццёвых сіл жонкай, якую ён узяў праз тры гады пасля гібелі першай сям'і. У верасні 1948-га яна трапіла ў аўтамабільную аварыю. Становішча было настолькі крытычнае, што Міхась Ціханавіч думаў нават пра самагубства. Пяць месяцаў ён дапамагаў медыкам выходжваць жонку. І яна стала на ногі. Пра «Векапомныя дні» ў гэты час не было чаго і думаць. Скаргі на цяжар працы над імі ў пісьменніцкіх лістах ідуць адна за другой. I.X.1949: «Працаваў на поўную моц сваіх сіл — гнаў раман. Не ведаю, я яго адолею ці ён мяне». 5.IV.1950: «Страшэнна стаміўся… Апошнія старонкі першай кнігі рамана даюцца з цяжкасцю». 25.III.1952: «Амаль год, як не напісаў ніводнай старонкі для 2-й кнігі "Векапомных дзён"». 12.VI.1955: «Націскаю на другую кніжку рамана, які цяжкай гарой наваліўся на мае плечы, і я пачынаю пабойвацца, што гэтая гара зусім прыцісне мяне». 6.IV.1956: «Гэта не праца ўжо, а сапраўдная катарга». 23.II.1957: «Я ўсё націскаю на свае "Векапомныя дні", абалдзеў ужо ад іх да замарачэння… папраўляю, рэжу, скарачаю».

Гэта ўжо рыхтавалася чатырохтомнае выданне рамана, надрукаванае ў 1958 годзе. Тут кожная ранейшая кніга была падзелена на дзве. Але і яно не задаволіла пісьменніка. Праз дзесяць гадоў ён апублікаваў новую рэдакцыю твора, зрабіўшы ў ім шэраг розных паправак і скараціўшы каля 400 старонак. Раман урэшце быў адзначаны Дзяржаўнай прэміяй Беларусі. Але аўтар і пасля гэтага сёе-тое правіў у ім і нават збіраўся перапісваць яшчэ раз. Ды здароўе падводзіла ўсё больш і больш, а таму гэты намер ужо не ажыццявіўся. І кананічным цяпер лічыцца выданне 1968 года.

Вельмі вялікім быў у «Векапомных днях» пісьменніцкі замах паказаць партызанскую і падпольшчыцкую барацьбу ў Беларусі супроць гітлераўцаў ад пачатку да яе пераможнага завяршэння. Празаік гэта

зрабіў, але ўсёй складанасці нашай партызанскай вайны ён, вядома ж, не адлюстраваў. Для аднаго твора, якім бы аб'ёмам ён ні быў, гэта і ў прынцыпе непасільная задача. А Лынькова ж яшчэ і скоўвала, жорстка абмяжоўвала тое, што ён павінен быў кіравацца тагачасным афіцыйным поглядам, які аднабакова-тэндэнцыйна тлумачыў і гераізм народа, сапраўды праяўлены ў той вайне, і сам яе характар, свядома «падпраўляў» гісторыю партызанскага руху, замоўчваючы ўсё тое, што не адпавядала ўра-патрыятычнай бальшавіцкай версіі падзей.

У адпаведнасці з гэтай устаноўкай і партызанскіх кіраўнікоў ён прыхарошваў, маляваў беззаганнымі. А яны, як паказала і дакументальная, і мастацкая літаратура, але ўжо ў наступныя дзесяцігоддзі, такімі не былі і быць не маглі. Сустракаліся ж сярод тых кіраўнікоў і проста жорсткія людзі, якія з гітлераўцамі таксама неяк змагаліся, але з насельніцтвам акупаванай Беларусі, абаронцамі якога лічыліся, асабліва не цырымоніліся, маглі пад гарачую руку пусціць у распыл і цэлую вёску.

Пэўная аднабаковасць заўважаецца ў рамане і ў паказе калабарантаў з так званага нацыяналістычнага асяроддзя. Яны падаюцца як хцівакарыслівыя, безумоўна подлыя ворагі беларускага народа. А пра тое, што яны небеспадстаўна гаварылі пра бальшавіцкія злачынствы, ад якіх ці не ўсе нацярпеліся асабіста, што гэтыя дзеячы таксама неяк імкнуліся змагацца за Беларусь, няхай і на бесперспектыўных шляхах, — пра ўсё гэта не магло быць і гутаркі. На гэта адважылася толькі літаратура 90-х гадоў.

Такім чынам, «Векапомныя дні» канцэптуальна цалкам належаць свайму часу, калі сапраўдная павага да нашай нацыянальнай гісторыі ніяк не заахвочвалася. Між тым некаторыя даследчыкі разглядалі іх як ваенна-гістарычны твор. Гэтую думку абгрунтоўваў Ф. Куляшоў, які шмат зрабіў для вывучэння лынькоўскай творчасці. «Следам за Якубам Коласам, аўтарам трылогіі "На ростанях", Лынькоў стварыў першую беларускую ваенна-гістарычную эпапею пра народных мсціўцаў», — пісаў даследчык у сваёй кнізе «Міхась Лынькоў» (Мінск, 1961). Тэрмін «эпапея» тут паявіўся таму, што Лынькоў спачатку і сам так вызначаў жанр «Векапомных дзён», але потым схамянуўся і зняў гэтае вельмі ж замашыстае вызначэнне. Ён не раз жартам называў раман «апупеяй», праца над якой можа ўрэшце давесці аўтара, як ён казаў, да «апупення».

Эпапеі ў пісьменніка не атрымалася. Мастак стварыў аб'ёмны панарамны раман, які на эпапею не цягне з-за таго, што ў ім не стае вялікай глыбіні ў адлюстраванні сапраўднага народнага жыцця ў яго нескажонай ідэалагічнай зададзенасцю праўдзівасці.

Да гонару Міхася Лынькова, ён, чалавек вельмі самакрытычны, разважлівы ў ацэнках не толькі чужых, але і ўласных твораў, на дакладную гістарычнасць у «Векапомных днях» і не прэтэндаваў. У лісце да настаўніцы В. Лапіцкай і якраз у сувязі з «Векапомнымі днямі» пісьменнік патлумачыў: «Я не дакументаліст, пішу не дакументальныя творы. Большасць вобразаў — гэта абагульненыя, у якіх можна знайсці рысы,

характэрныя для многіх і многіх людзей. Некаторыя героі маюць сваіх прататыпаў. У некаторых паасобныя рысы нагадваюць да некаторай ступені канкрэтныя факты з жыцця канкрэтных людзей… З найбольшай дакументальнай дакладнасцю выпісаны вобраз К. С. Заслонава».

Але ў «Векапомных днях» і Заслонаў, як ужо адзначалася ў крытыцы, часам робіць тое, чаго ў рэальным жыцці не рабіў. Міхась Лынькоў быў мудрым чалавекам. Гэта ён казаў, што старасць горш за ўсякую хваробу, бо яна, старасць, не паддаецца лячэнню. Паводле ўласнага прызнання, сябе ён адчуваў больш-менш здавальняюча да сямідзесяці гадоў, а потым пачаў прыкметна старэць. Ды гэта яго ўжо асабліва не бянтэжыла. На непазбежны скон чалавечага жыцця ён глядзеў спакойна, з мудрай філасофскай разважлівасцю. Калі пісьменніку мінула 70 гадоў, ён смяяўся, што цяпер яму «самы раз сушыць вёслы». Міхась Лынькоў меў усе падставы «сушыць вёслы», асабліва не хвалюючыся. Ён заўсёды заставаўся сціплым у асабістым побыце, сумленным ва ўсіх справах і вызначаўся рэдкай бескарыслівасцю. Застаюцца ў людской памяці і дабрыня, чалавечнасць, праўдалюбства Міхася Лынькова, дружна засведчаныя тымі, хто яго ведаў.

Добрую чалавечую спагадлівасць да людзей, якія трапілі ў бяду, праяўляў Міхась Лынькоў і ў перыяд жорсткіх рэпрэсій савецкай улады. У самым пачатку 30-х гадоў ён працаваў загадчыкам аддзела ў Дзяржаўным выдавецтве БССР. Ведаючы жахлівае становішча жанчын, якіх пасля арышту іхніх мужоў — дзеячаў беларускай культуры — усюды выганялі з працы, каб пазбавіць сродкаў для існавання, Міхась Ціханавіч імкнуўся неяк дапамагчы і гэтым жанчынам, хоць сам рызыкаваў вельмі многім. Як успамінае Марыя Кіпель, муж якой Яўхім апынуўся за кратамі па сфабрыкаванай карнымі органамі справе выдуманага «Саюза вызвалення Беларусі», Лынькоў «даваў падзарабіць у выдавецтве». «Калі б да яго ні звярнуліся, заўсёды можна было атрымаць што-небудзь для перакладу. А зробіш пераклад — вось і капейка, і можна неяк перакідацца… Вялікая яму падзяка… А часы ж тады надыходзілі жудасныя». Людзі баяліся «выходзіць на вуліцы, каб не спатыкацца са сваякамі арыштаваных». Лынькоў жа і ў такіх умовах заставаўся чалавекам.

Гэтая ўласна чалавечая прывабнасць пісьменніка павялічвае ўвагу і павагу да ягонай творчасці, у якой жыве, праменіцца яркім святлом дабрыні сапраўды шчодрае лынькоўскае сэрца.

Памёр Міхась Ціханавіч Лынькоў 21 верасня 1975 года. Пахаваны ў Мінску на Усходніх могілках. Там стаіць зроблены яму прыгожы помнік, да якога ў юбілейныя дні і цяпер людзі прыносяць кветкі.

*Дзмітрый БУГАЁЎ*



# ГОЙ

І плакала Рыва…

Плакала ціха, непрыкметна, тымі прыдушанымі слязьмі, якія цяжка стрымаць, цяжка высушыць, бо ідуць яны ад самай глыбіні сэрца…

Плакала Рыва… Яна палюбіла гоя.

За акном было цёмна і сумна. Асенні дождж, нібы праз рэшата, сеяўся па гразкай вуліцы. Глуха стагнаў вецер і мокрым галлём каліны стукаў у вокны. Жудасна звінелі шыбы, і здавалася Рыве, што вецер дражніць яе:

— Гой… гой… гой…

Стары Мотэль, бацька Рывы, скончыўшы дзённую працу і палажыўшы апошні чобат пад свой шавецкі столік, маліўся Богу. То ціха-ціха, ледзь чутна прасіў ён свайго старога замшэлага Бога дапамагчы яму ў нудным жыцці, дапамагчы зарабляць кавалак хлеба. Часам голас яго ўзмацняўся, гучнеў, нібы Мотэль злаваўся на Бога, злаваўся за тое, што дарагі падэшвы, дарага гваздзё, дратва дарага…

Прыслухоўвалася Рыва да бацькавай малітвы, і ёй здавалася, што бацька не моліцца, а толькі гаворыць:

— Гой… гой… гой…

Старая маці варочалася на ложку, размінала старыя косці, кашляла, вохкала, нібы скардзілася на жыццё. І ў кожным матчыным стогне Рыве здавалася адно і тое страшэннае слова:

— Гой… гой… гой…

Жалобна гудзеў вецер у коміне, ціха плакалі шыбы, абліваючыся слязьмі — дажджынкамі асеннімі, то ціха, то гучна сыпаліся словы бацькавай малітвы. І ўсё гэта, перамешваючыся з вохамі маткі, цяжкім жудасным каменем лажылася на сэрца Рывы, сэрца, палюбіўшае гоя.

Хто ж плача, калі палюбіць? Хто аблівае слязьмі сэрца, у якім узняліся кіпучыя агні, выраслі вялікія крыллі?

А плакаць трэба…

Стары бацька сказаў:

— Рыва… ты была маёй дачкой, але цяпер… у мяне дачкі няма… Я стары сумленны яўрэй… у мяне шмат мазалёў, але гэтыя мазалі ў суботу не бачылі шыла, не датыкаліся да грошай… у сваім сэрцы я насіў Бога, і ён шанаваў маю хату. А цяпер… цяпер, калі ты спазналася з паганым, у маёй душы стала пуста, парог маёй хаты Бог пакіне, бо ты, пераступіўшы гэты парог, спаганіла яго сваімі слядамі… Дык ведай жа, што ты мне не дачка…

І дрыжала сівая барада, калі гэтыя балючыя словы жорнавам цяжкім пракатваліся па грудзях Рывы. Зірнула Рыва на бацьку і чуць-чуць прагаварыла, давячыся словамі:

— Тата…

— Не заві мяне болей татам…

— Дарагі тата… Ну, я палюбіла яго, які ж тут грэх? Што я нядобрага зрабіла, што вы ад мяне адракаецеся?

— І ты яшчэ пытаеш мяне… Палюбіла гоя, палюбіла рускага і яшчэ кажа, які тут грэх? Ды цябе каменнем пабілі б, калі б ты жыла ў мой час… Што скажа цяпер рэбе Нісан, што скажа ўсё мястэчка ад яго апошняга краўца да рэбе Ісака, якімі вачамі пагляджу я на іх у сінагозе?.. А ты пытаеш, які грэх. Я не сказаў бы ні слова табе, калі б ты палюбіла яўрэя. Твая маці даўно чакала часу, калі б давялося цябе выдаць замуж. І колькі прыгожых багатых яўрэяў на цябе пазіралі і пачыналі ўжо гутарыць аб гэтым са мной. А цяпер… гора маё, вялікае гора…

— Тата, даражэнькі, ну чым жа ён горш за яўрэя? Ён жа такі добры, так шчыра, так горача мяне любіць, з ім буду шчаслівa…

— Годзе… не пагань сваімі словамі мой пакой, бо мне і так цяжка дыхаць…

— Даражэнькі тата, я ведаю, ты мяне любіш, зачым жа ты хочаш адняць ад мяне маё шчасце?..

— Годзе… Не гавары хлусні… Не гавары насупраць майго Бога, бо ты павінна ведаць, што самы апошні яўрэй куды лепш таго, аб кім ты думаеш, і лепш таму, што яго нарадзіў яўрэй…

— Тата, тата, пры чым тут Бог?

— Маўчы і супакой свой паганы язык…

Маўчыць Рыва… Ні слова ад яе цяпер не дазавешся. Толькі не змоўклі яе думкі, лётаюць яны спалоханай ластаўкай, лётаюць лёгка і смела над той вялікай сцяной, якую пабудавала старое жыццё паміж людзьмі.

* * *

А пачалося ўсё летам.

Ціха драмала Палессе пад цёплым дыханнем сонца. Мястэчка заблыталася сярод неабдымных лясоў і балот, у якіх загрузлі лянівыя дні, і нічога шумнага, нічога выдатнага не забягала на местачковыя вуліцы, па якіх галузвалі толькі жэўжыкі Моўшы, Янкі, Іцкі, Язэпкі, якія яшчэ не адрознівалі сваіх багоў ад чужых, бо яшчэ і бацькі памыляліся часам і абзывалі Іцку — Сорай, а Янку — Гануляй, бо бегалі яшчэ хлопцы без порткаў.

І дзетвара галузвала ўмясцёх, заводзіла розныя гульні: і ў ката, і ў каршака, і ў палачку-шукалачку, і было так хараша, так весела, што Янка ці Іцка раптам асушвалі слёзы пасля якога-небудзь няўдалага паходу ў чужы сад ці гарод, калі прыходзілася занадта блізка знаёміцца з лазінай ці з бярозавым дубцом.

А вечарам заціхала зусім вуліца, і ўсё мястэчка з бакоў імжылася сівым туманам з зялёных балот. Туман насоўваўся белай шапкай над саламянымі стрэхамі, распаўзаўся па вуліцах, і салодка спала мястэчка пад гэтым кажухом.

І вось раз раніцой, калі ўсміхнулася сонца з-за лесу і дзед Панкрат выйшаў з хаты запрагаць сівага, каб ехаць у поле, а Мотэль садзіўся за чобат, — уздрыгнула нешта паветра, нібы хто кашлянуў чыгунным горлам дзесьці далёка-далёка, і глухое рэха грамніцай пракацілася па лясах і палях, дзвынкнула ў шыбы і ўстрывожыла людскія сэрцы. Толькі Панкрат і Мотэль падумалі, што гэта значыць, як нехта невядомы і патаемны зноў кашлянуў. І так некалькі разоў. Ёкнулі сэрцы Мотэля і Панкрата. Палахліва мільганула думка: «Вайна…» Узварухнулася і мястэчка, нібы той мурашнік, што жыў сабе ціха і мірна пад старой разгаліністай хвояй. І вось прыйшоў нехта чужы, карпануў ненавісная нагой мурашнік стары, і палахліва забегалі, замітусіліся мурашкі. Бегаюць, топчуцца, папраўляюць свае руіны. Так і мястэчка. Не відна было яго жыцця, а цяпер глядзі — кожны вечар на вуглу вуліцы, каля замшэлых крам, збіраецца жыхарства, вядзе гутаркі, чуюцца вохі і ўздыхі.

— Кажуць, белапалякі блізка, трэба хаваць жывёлу ў лясах, бо забяруць, не пашкадуюць, не паглядзяць на тваё мазалі і слёзы.

Стары Мотэль сказаў жонцы:

— Трэба пахаваць падсвечнікі, самавар, бо, як я чуў, усё дачыста забіраюць ворагі, не будзе чаго і запаліць у суботу.

А гукі чыгунныя ўсё мацней і мацней патрасаюць паветра. Вечарам у мястэчка прыйшоў атрад чырвонаармейцаў. Дзетвара,

як вераб'і тыя, паразляталася спачатку па хатах, але праз якую-небудзь хвіліну са ўсіх бакоў абкружыла салдат, знаёмілася з імі, заглядала ў вочы, распытвала пра стрэльбы, і ўжо Язэпка казаў па сакрэту Янку на вуха, што ў яго ёсць «нештачка», і паказваў у кулаку бліскучую кулю і скакаў ад гэтай вялікай надзвычайнай дзяцінай радасці. І ў Янкі наварочваліся слёзы: «Чаму не ў мяне гэта прыгожае, гэта бліскучае-бліскучае…»

Чырвонаармейцы размясціліся па хатах, і ў Мотэля на кватэры астаўся малады камандзір. Хутка на стол з'явіўся самавар, зашыпела на трыножцы скаварада — частавалі нечаканага госця. Разлівала чай Рыва, паглядала на таварыша Міхася (так звалі маладога камандзіра), сарамліва апускала вочы, калі Міхась наўмысля ўглядаўся ў яе чорныя бровы.

* * *

І пацяклі дні за днямі. Прыціхлі палохаўшыя мястэчка гукі, вуліцы зноў прынялі свой звычайны выгляд, і толькі шэрагі салдат, часта праходзіўшых па ёй, і гучнае «аць… два…» сведчылі аб тым, што дзесьці недалёка блукаюць варожыя сілы, рыхтуюць замах на мірнае жыццё.

І зноў Мотэль спакойна сядзеў за чобатам, калупаў шылам, цягаў, як раней, дратву і, седзячы за працай, вырашаў мудрыя філасофскія пытанні аб сувязі паміж дратвай і ботам, аб цвіках і памёршым рабіне… Праўда, і новая думка неяк мімаволі ўсё часцей і часцей мітусілася ў галаве, думка аб Рыве… Чаго гэта яна так таемна іншы раз пазірае на Міхася… на рускага?.. Старыя вочы не ашукаеш, яны добра бачаць на свеце ўсё, яны заўважаюць часам тое, што маладому веку ніколі не ўбачыць. Вось і цяпер, за сталом сядзіць Міхась, перад ім якаясьці кніжка, на канапцы сядзіць Рыва, аб чымсьці гаворыць.

— Аб чым гаварыць яўрэйцы і рускаму? — разважае сам з сабой Мотэль. — Здаецца, няма аб чым, а во, на́ табе — гутараць. Аб чым — не чутна, бо малаток спрытна ходзіць у старых руках, стукае па падэшве, заганяе адзін за другім драўляныя цвікі і заглушае ўсе іншыя гукі. А Міхась аб чымсьці смяецца з Рывай. Толькі і чутна: «Ха-ха-ха…»

Зірнуў у іх бок Мотэль, пакасіў сівым брывом, прамармытаў нешта пад нос і, адлажыўшы чобат на зэдлік, ціха пазваў:

— Рыва!

— Чаго, тата?

— Хадзі сюды на хвілінку, ты мне патрэбна…

Рыва да бацькі ідзе, уважліва слухае.

— Як табе не сорам, Рыва, сядзець падоўгу з гэтым… ну… з шэйгіцам гэтым, ды яшчэ смешкамі займаешся, ну што скажуць людзі, як убачаць…

— Татачка… — толькі і прагаварыла Рыва і, зачырванеўшыся макам агнёвым, адышла назад, села на старым месцы, але куды дзелася яе ранейшая жвавасць, куды дзеўся яе срэбны смех, які толькі-толькі званочкамі лугавымі звінеў, пераліваўся ў цесным пакоіку, і ўсё, здаецца, звінела тады і пералівалася нейкімі радаснымі хвалямі, якія так ласкава, так пяшчотна казыталі сэрца слухаўшага Рыву Міхася.

Рыва нервова перабірала чырвоныя кутасы свайго пояса, недарэчы, нясказладна адказвала на словы Міхася, ружовы твар апавіў смутак.

— Што з вамі, Рыва?

— Нічога…

— Ну, скажыце, Рывачка, чаго вы так адразу перамяніліся, вы толькі абяцалі расказаць мне нешта смешнае-смешнае, а цяпер і маўчыце. Хіба ў сям'і вашай здарылася што-небудзь, мо захварэў хто?

— Не, нічога, гэта я… так сабе… — і раптам, закрыўшы вочы рукамі, усхапілася Рыва і хутка-хутка пабегла ў другі пакоік. Упаўшы на падушку тварам ніц, Рыва ціха-ціха плакала, і сударгава ўздрыгвала ўсё яе цела.

— І чаго чэпіцца тата, што яму трэба? І чаму «шэйгіц»? Міхась — чалавек, ну няхай сабе рускі, што ж з таго, хіба з ім нельга пасядзець, які ж сорам гаварыць з ім і што тут кепскага, ён жа нічога дрэннага мне не сказаў. Калі б ведаў толькі татка, як добра абыходзіцца са мной Міхась, які ён добры чалавек, здаецца, і палюбіць такога чалавека не грэх. А хіба ж ён мне і не падабаецца?

* * *

А Міхась незразумела паглядзеў услед Рыве, і ў першы раз за ўвесь час свайго жыцця на новай кватэры ён неяк непрыветна і чуць не злосна зірнуў на старога Мотэля.

Міхась адчуваў за апошнія тыдні нейкую, ну, калі не варожасць, дык непрыхільнасць да сябе з боку бацькоў Рывы. І асабліва гэта непрыхільнасць яскрава стала вызначацца за апошнія вечары, калі Міхась падоўгу сядзеў з Рывай, вёў з ёй бясконца розныя гутаркі. Аб чым толькі ні гаварылі. Міхась абкружыў са сваёй ротай чуць не паўсвету, пабачыў народу, пападаўся, як кажуць, не адзін раз у пераплёт, шмат пабачыў, шмат перажыў.

А Рыва расказвала аб сваім мястэчку, аб тых навінах і чутках, якія ішлі з сінагогі, быўшай адначасна і домам Божым, і местачковай біржай.

Расказвала, як прыходзіў у сваты да яе стары меламед рэбе Нісан і як бацькі, маючы на ўвазе адмовіць паважанаму рэбе, клапаціліся аб тым, каб не сапсаваць з ім адносін. І многа, многа гаварылі паважанаму рэбе, што дачка іхняя яшчэ занадта маладая, што няхай яшчэ Рыва пабачыць вольнага жыцця, што замужжа ад яе не ўцячэ, усё будзе ў свой час, і як матка, зачыніўшы за ім дзверы і пацалаваўшы Рыву, гэтак весела-весела прагаварыла:

— А маке ён не хоча?!

Расказвала пра краўца Лёву, які сядзіць над іголкай ад усходу да захаду сонца, а жонка яго — гультай адвечны — палец аб палец не стукне, выкручвае носам перад люстэркам ды цэлы дзень распявае:

Гандалье-е-ер малады-ы…

Расказвала аб бедным Абраме, які вырабляе цэглу на продаж, сам за глеем ездзіць, сам месіць, а есць толькі бульбу ды хлеб з цыбуляй і толькі ў суботу дазваляе жонцы купіць селядца на святочны абед. Усе свае невялікія грошы аддае на сына, які ў горадзе вучыцца. І рад жыццю Абрам, не сумуе і, сустрэўшы суседа, заўсёды кажа:

— А сын мой ужо ў чацвёртым класе…

Гаварылі і аб рабіне Майсеі, як прыходзіў ён перад пейсахам благаслаўляць іх жаночую працу па выпечцы мацы і як гаварыў з імі рабін, апусціўшы вочы долу, бо грэх рабіну на дзяўчат ды на маладых жанчын глядзець. А потым рабін жаніўся, узяў сабе дачку памёршага рабіна, старую, непрыгожую дзяўчыну. І на шлюб усе грошы збіралі, і бацька Рывы аддаў тады свой заробак за цэлую пару чобатаў новых.

Вось за гэтыя гутаркі і расказы коса пазіраў на Міхася і Рыву стары Мотэль. Не спадабаліся яму гэтыя гутаркі, бо бачыў, адчуваў сваім чулым сэрцам, што Міхася і Рыву з кожным вечарам звязвае ўсё болей якаясьці патаемная, невядомая нітка.

Мо каханне? Не… гэтай думкі баяўся стары, баяўся як самага надзвычайнага, самага цяжкага гора. Проста, ну, сімпатызуюць адзін другому, маладыя, хіба ж ім і не пагаварыць, хіба ж ім і не пасмяяцца. Толькі… зачым жа ўжо занадта, чаму Рыва не ідзе цяпер, як хадзіла раней, да сваіх таварышак, чаму так рана

прыбегла ўчора са шлюбу Гехтманавай Мані, чаму ўжо занадта кідаецца раніцой і завіхаецца каля самавара, каб таварышу Міхасю своечасова быў чай гатоў, перад тым як таму ісці на заняткі з чырвонаармейцамі? Не, недарма гэта… Ёсць тут нешта другое, нешта куды глыбей, чым, ну, сімпатыі гэтыя самыя… Каб не было часам нядобрага чаго… Ён жа рускі, шэйгіц, ад іх усяго можна дачакацца.

І ўспаміналася яму, як год пятнаццаць, а мо чатырнаццаць таму назад загінула яго сястра на Умані. Атрымаў ён тады ліст ад сваякоў, і коратка было там напісана: «Маліцеся Богу. Сястру вашу забілі ўчора рускія ў часе пагрому. Будзьце шчаслівы!»

І ўсе гады свайго жыцця не гасіў Мотэль у сэрцы затаёную, крывавую крыўду на рускіх. Здаецца, і гаварыў з імі і абыходзіўся добра, але дзесьці глыбока-глыбока ў нявідных сутарэннях чалавечай душы захоўвалася гэтае варожае пачуццё да іх, да гояў, да Міхася…

І Міхась адчуваў, што ў адносінах да яго захоўваецца гэта варожая непрыхільнасць. Учора вечарам ён гутарыў з Мотэлем. Тут жа сядзела Рыва. Мотэль расказваў аб мінулых пагромах, гаварыў:

— …Гоі толькі самі хочуць жыць, а да іншых ім дзела няма… Але гэта яшчэ не гора, кепска тое, што яны бываюць часам звярмі, самымі звычайнымі, самымі дзікімі звярмі…

— Ну, гэта ўжо, татачка, вы занадта хапілі цераз край, — умяшалася ў гутарку Рыва, — хіба ўжо ўсе рускія і звяры, як вы кажаце, дык хіба яны такія нядобрыя людзі, як вы іх абмалявалі? Ну, чым кепскія нашы местачковыя суседзі, не яўрэі, што яны благое вам зрабілі, хіба толькі, як я памятаю, хлопцы пару гусей скралі, дык гэта ж глупства. Калі казаць аб тым, дык трэба і пра Міньку слова сказаць. Ён жа яўрэй, — па-вашаму павінна быць — чалавек добры, а чаму ж ён коней крадзе, чаму ён зладзюга? Дык вось, татка, па маёй думцы, усе людзі як людзі, і як сярод яўрэяў ёсць добрыя і благія, так і сярод рускіх гэта самае, і нечага гаварыць аб тым, чаго і ў жыцці нямашака.

Апошнія словы Рыва прагаварыла з нейкім гарачым запалам, нібы саромелася перад Міхасём за недарэчныя словы бацькі.

— Пажыві з маё, тады і пабачыш, з бацькавых слоў не пасмяешся. А цяпер, пакуль зелена-молада, дык нечага языком совацца ў нашы гутаркі і сакатаць сарокай. Пажыві — убачыш…

— Дык я, татка, жыву ўжо і не сляпая — бачу ўсё. Ну, вось вы кажаце аб рускіх, як аб нашых ворагах. Добра. Але возьмем, напрыклад, хоць, ну, вось таварыша Міхася, — тут Рыва

ўсміхнулася Міхасю такой радаснай ветлівай усмешкай, — ці чырвонаармейцаў нашых. Хіба ж яны нашы ворагі? Яны ж абараняюць ад ворагаў, ад белапалякаў, ад розных бандытаў і наша жыццё. Чым жа яны дрэнныя, благія людзі?

— Ат… з табой гаварыць, што лапаць плесці, — і Мотэль, узняўшыся з зэдліка, нездаволены пасунуўся ў другі пакоік, з якога хутка пачуліся ўсплёскі вады (то Мотэль апаласкваў свае рукі перад малітвай), і потым пацягнуліся нудныя пякучыя словы яўрэйскай малітвы, у вымове якой нібы захавалася сусветнае гора, палітае морам слёз.

* * *

Была субота. Міхась прыйшоў з заняткаў. Ціха ў хаце. Прыбрана ўсё па-святочнаму. У большым пакоіку стол засланы зялёным аксамітным абрусам. У куце на століку падсвечнікі ярка блішчаць начышчанай меддзю. На вокнах свежыя фіранкі ўсміхаюцца; прасцірадламі чыстымі пазасланы зэдлік і столік з шавецкім капыллем, шыллем і начыннем розным, неабходным у шавецкай працы. У хаце анікагусенькі… Бацькі Рывы ў даведзіны пайшлі да сваякоў, да знаёмых. На тое і субота, каб адпачыць, пагуляць, з суседзямі аб жыцці пагаварыць, аб справах мазольных параіцца і, вядома, трохі языкі пачасаць пра блізкіх і далёкіх.

Назірае Міхась праз акно святочны натоўп, думае свае думы. Даўно ён бадзяецца па белым свеце, горад родны даўно пакінуў. Раней салдатам быў «непабядзімага, хрысталюбівага воінства царскага», шмат нацярпеўся — усяго было ў тыя часіны, аб якіх і ўспамінаць не хочацца.

Цяпер Міхась — чырвоны афіцэр. Любіць службу, але не тою любоўю, якою любілі ў старыя часы сваю службу царскія афіцэры, якія толькі і думалі і снілі аб мундзірах, пагончыках, аб шнурках малінавых, аб недасяжным срэбным крыжыку на жоўта-чорнай істужцы, які шырока адкрываў дарогу да новых звёздачак на пагонах, аб чароўных ножках не менш чароўных дочак камандзіра брыгады, якога-небудзь там графа Пшыбышынскага.

Не, не гэткаю любоўю…

Чырвонаармейцы любілі свайго камандзіра, бо ён быў для ўсіх іх найлепшы прыклад, заўсёды быў справядлівым да кожнага і ўсюды клапаціўся, каб іх жыццё праходзіла як мага найлепей.

Вось і цяпер, седзячы пад акном, ён піша паперу — рапарт па начальству, піша, што ўсё спакойна, што заняткі адбываюцца добра, што трэба хутчэй прыслаць бялізны, яшчэ што-колечы з адзежы чырвонаармейцам, бо хутка будзе восень, холадна і г. д.

Напісаў рапарт, успомніў трохі аб сваіх справах. Падумаў, да якога часу прыйдзецца яшчэ вандраваць па свеце, калі гэта прыйдзецца заняцца мірнаю працай, па якой так садніць іншым часам сэрца. Аб Рыве ўспомніў. Добрая дзяўчына, прыгожая, аб усім знойдзе слова сказаць. У чорных вачах прыветнасць такая ціхая, радасная, і ў хаце не сядзіць рукі злажыўшы, заўсёды за працай, матцы дапамагае ў гаспадарцы, хоць і ў невялічкай гаспадарцы, але ж клапотнай. На гародзе корпаецца.

І разам заныла нешта на сэрцы, нібы правёў па ім хто далонню шурпатай, халоднай. Раней, за кіпучай працай, не думалася, што жыве ён без сям'і, не адчуваў сябе ў сваім асабістым жыцці адным-адзіным. А цяпер гэта пачуццё — нібы не хапае каго ля цябе, з кім можна, як з самым найбліжэйшым, самым дарагім таварышам, падзяліцца і горам і радасцю, расказаць яму свае думкі, падзяліцца надзеямі. І нібыта пуста і холадна ў сэрцы.

І ўстаюць перад Міхасём вочы Рывы — такія глыбокія, як тое бяздонне цёмнае, і ў гэтым бяздонні мітусяцца, гараць самацветам агеньчыкі дзявочай прыветлівасці, радасці дзявочай. А на вуснах — вішнях ружовых — усмешка такая прывабная, цёплая ўсмешка з наіўнаю дзявочаю хітрасцю, з пажаданнем усяго найдаражэйшага чалавеку.

І раптам нешта цёплае нахлынула на сэрца, агарнула яго ціхаю радасцю з нейкім невыразным смуткам.

Папаўся, браце Міхась, не дасталі твайго сэрца ні кулі варожыя, ні ўрэзы бандыцкія, а завалодалі табой, ды яшчэ як завалодалі, дзявочыя вочы чорныя…

Падумаў Міхась і радасна ўсміхнуўся:

— Прыйдзецца, пэўна, рапарт пісаць па начальству аб сямейных зменах у маім службовым спіску. Але рапарт рапартам, а як Рыва? Яшчэ, брат, далёка да таго, каб запоўніць у спіску графы аб сямейным становішчы.

А вось і Рыва. Убегла ў хату, такая прыгожая, зграбная, вясёлая.

— Добры дзень, таварыш Міхась!

— Добры, добры, Рывачка, а я вось толькі думаў аб вас.

— Вы?.. думалі аба мне? Ніколі вам не паверу, з якой гэта прычыны вам думаць аба мне… — сказала Рыва і, зачырванеўшыся, засаромеўшыся, не гледзячы ў вочы Міхасю, села каля

зялёнага стала. І здавалася Міхасю, што зялёны стары аксаміт абруса, на якім ляжала рука Рывы, зрабіўся прыгожай муравой зялёнай, дзе мільгацяць чароўныя краскі вясенніх, льецца пах кветак прыгожых.

— А вось і думаў, Рыва! Аб вас думаў. Скажыце, чаму вы ўчора вечарам так хутка ўцяклі ад мяне, пакінулі гутарку і не паказваліся потым увесь вечар?

— Гэта я… нездаровілася мне… ну, я і пайшла.

— Не, вы хочаце ад мяне ўтаіць нешта, не кажаце поўнасцю аб усім. Скажыце, чаго вас бацька паклікаў учора?

— Ай, таварыш Міхась, зачым вам аб усім ведаць, ды гэта і не цікава для вас. Мала на што пазваў… трэба было матцы дапамагчы вячэру падгатаваць.

— Толькі і ўсяго?

— Толькі і ўсяго.

— І болей нічога?

— Ну, што гэта з вамі, таварыш Міхась? Вы дапытваецеся ў мяне, як той следчы. Што гэта з вамі зрабілася і навошта вам выпытванні гэтыя?..

— Не, мне хочацца аб вас усё ведаць, усё-ўсё, што вы робіце, што вы думаеце, ну што вы думаеце часам… пра мяне?..

— Пра вас?

— Хоць бы і пра мяне.

— Ха-ха-ха, нічога я аб вас не думаю, што мне думаць аб вас? Праўда, дзяўчаты нашы сёння казалі, што вы, таварыш Міхась, чалавек нічога сабе, добры, іншыя казалі, што з гэтым гоем…

— Што-што?

— Ах… таварыш Міхась, з вамі дагаворышся тут да чаго-небудзь нядобрага…

— Вы вот нейкае слова сказалі, быццам «гой» ці што іншае. Што гэта за слова?

— Нічога я вам не казала… гэта вам здалося нешта… Дык вось, гаварылі нашы дзяўчаты, што з таварышам Міхасём яны б і пагулялі б ахвотна, калі б вы былі…

— Ну, чым?

— Ні чым, а хоць бы яўрэем.

— А хіба я так ужо і кепскі чалавек?

— Не кепскі, але… не яўрэй.

— Ну, дык гора яшчэ малое. Я думаў, што вы мяне ў злачынцы якія-небудзь запісалі ці ў што горшае, а гэта яшчэ нічога.

На хвілінку замоўклі, у акно зірнулі. Далёка па вуліцы ішлі дахаты бацькі Рывы.

— Вось і татка дахаты ідзе, палуднаваць будзем.

— Рыва…

— Што?

— Мне трэба б пагаварыць з вамі, Рывачка, аб сур'ёзных справах.

— Вам?.. Са мной аб сур'ёзных справах? Мо ад шыняля гузік адарваўся, дык я заўтра прышыю, сягоння ж мама іголкі не дасць.

— Ды не, Рыва. Якія там гузікі. Бачыце, я аб другіх зусім справах…

— Ну, дык гаварыце.

— Нельга, Рыва, так хутка сказаць, бо гэта… важная справа, дый бацькі вашы перашкодзяць нашай гутарцы. Трэба, Рывачка, перагаварыць нам як-небудзь адзін на адзін, каб ніхто не чуў і не бачыў.

— Што гэта, даражэнькі… ах, таварыш Міхась, што гэта вы надумаліся, ды яшчэ сур'ёзнае?..

— Потым даведаецеся. Скажыце, вы не супроць таго, каб пагуляць сёння са мной вечарам?

Шчокі ў Рывы — адразу агонь пякучы, чырвоны. Вочы ў падлогу ўпіліся.

— Не… немагчыма гэта, таварыш Міхась… Я не супроць… Але калі бацькі даведаюцца… бо ў нас вуліца — той жа пакой хатні: самі не ўбачаць, дык суседзі вушы прагудуць. Не, нельга гэта… хіба так… за мястэчкам дзе стрэцца. Але што я гавару… І не думайце… нельга… як гэта можна…

На дварэ бацькі форткай рыпнулі. Рыва ўстала.

— Рыва!

— ?

— Рывачка!

— Не завіце мяне Рывачкай, завіце проста Рывай.

— Чаму так? Я ж дагэтуль зваў вас, як хацеў.

— Не завіце так пры бацьках…

— Чаму?

— Ды проста так… Ну, трэба так, таварыш Міхась.

— Адкуль гэта ўзялося ў вас: трэба ды трэба?

— Ну, мне так хочацца, таварыш Міхась…

— Хіба ўжо так. Добра. Дык прыйдзеце сёння гуляць са мной? Я буду, як сцямнее, за мястэчкам… каля старое хвоі…

— Ай, таварыш Міхась, і не думайце аб гэтым, і якія ў вас там сур'ёзныя справы, хіба тут, пры бацьках, нельга абгаварыць?

— Дык не думаць, кажаце?

— Не можна… Не… Ах, Божа мой, і што за чалавек такі… Ну… я падумаю…

Сказала і хутка пабегла ў другі пакоік, адкуль праз хвіліны дзве-тры ўносіла талеркі і іншы посуд к абеду. Увайшлі бацькі Рывы, скоса зірнулі на Міхася і Рыву, пачалі распранацца, і хутка ўся сям'я сядзела за сталом — спраўляла традыцыйны абед.

* * *

— Ах, як доўга цягнецца гэты дзень, нібы нітка, калі размотваеш яе з вялікага клубка. Цягнецца, цягнецца, а канца не відаць. — Паглядзела Рыва на гадзіннік, а там толькі-толькі яшчэ пяць гадзін. Ой, гэтая нялюбая маленькая стрэлка! Ёй і дзела няма да таго, што робіцца ў маленькім сэрцы Рывы, якое сягоння хацела б абняць увесь свет, якое хоча крычаць усім і кожнаму аб сваіх радасцях, апавіць гэтаю радасцю і родную хатку, і мястэчка, гэтыя кучаравыя бярозы на вуліцах, сенажаць над рэчкай, недалёкі лес за палямі. Маленькае сэрца, а колькі ў ім радасці!

— Мяне любіць Міхась! Праўда, ён ні слова не сказаў аб гэтым, але ж я адчуваю гэта з кожнага яго слова, хіба не відна гэта ў яго вачах?

— Рыва, падай вады.

— Ах, гэта матка кажа… Бацькі…

І бязмерная радасць адразу тухне, нібы ў сэрцы агні чорным радном пакрыліся.

— І што я нарабіла? Навошта я сказала яму, што падумаю? Хіба ж мне можна?.. Ну, я люблю, а што, што скажа татка, як загаворыць маці, калі толькі даведаюцца нават аб думках маіх.

І хоча Рыва плакаць і хоча смяяцца. Плакаць перад сцяной, якую пабудавалі людзі ў мінулыя гады праклятых вякоў паміж ёй, Рывай — чарнавокай яўрэйкай, і Міхасём — рускім-шэйгіцам, у якога вочы — кавалак блакіту. Смяецца ад радасці, любіць Міхася, любіць горача, так глыбока-глыбока. Смех і слёзы, радасць і смутак, шчасце і сум-туга шыракакрылая ў сэрцы Рывы, у сэрцы дзяўчыны, палюбіўшай гоя.

— Ах, ну што мне рабіць… Сказаць матцы… Пайсці да яе, параіцца… Не… Усё загіне тады. Не трэба нікому ні слова, ні адзінага слоўка гаварыць аб гэтым…

* * *

Вечар ліпнёвы ахінуў змрокам сінім палі местачковыя. Цішыня косамі шаўковымі атуліла саламяныя хаты, пад месячыкам бледным жаўцеюць плямамі пахілыя стрэхі, лес чарнее за рэчкай.

А ў сэрцы Рывы: тах-тах-тах… Вунь і хвоя і… ён! Насустрач ідзе.

— Вы, Рыва?

— Я…

З хвіліну памаўчалі.

— Давайце пройдзем, Рыва, паўз рэчку. Бачыце, як прыгожа там, ці гулялі вы тут калі-небудзь?

— Чаму, мы з дзяўчатамі заўсёды гуляем тут, гэта ў нас самае прыгажэйшае месца.

— І вы любіце гэта месца?

— Ну, як вам сказаць… вядома, люблю, як усё прыгожае ў свеце.

— Што ж у вас яшчэ прыгожае ў свеце — у мястэчку вашым?

— А вы думаеце, няма і прыгожага, калі ўжо мястэчка, дык, па-вашаму, і нічога добрага няма? У нас усё добра, усё прыгожа: і само мястэчка, і людзі. Песні ў нас прыгожыя, рускія і яўрэйскія. Ды ці мала чаго прыгожага!

— А калі б часам давялося вам мястэчка пакінуць, назаўсёды пакінуць?..

— Не, тады б цяжка было, бо тут усе свае, як жа гэта без іх жыць можна…

Прыйшлі да рэчкі. Па-над кручай Міхась пад ручкі яе ўзяў. Неяк нязручна Рыве і добра разам, соладка на сэрцы, добра ісці, прытуліўшыся блізка-блізка да Міхася, калі адчуваеш тахт яго сэрца.

— Сядзем, Рывачка, на бервяно гэта, бо і ногі нешта ўтаміліся.

— Давайце сядзем, але толькі на хвілінку, бо, бачыце, туман які, аж холадна, ды і дамоў трэба хутка пайсці.

— А дамоў яшчэ паспеем…

Цішыня кругом, толькі чуць-чуць булькацяць струмені вады чорнай пад кручай, у якіх, як у люстэрку, захаваліся ўсе нябесныя зоркі, купае свае халодныя зеленаватыя праменні месячык бледны, якому, мабыць, холадна трохі, і хаваецца ён, блукае паміж лёгкіх срэбна-шэрых хмарак. А там далей, на вадзе, адбіваюцца агеньчыкі мястэчка, пераліваюцца, расплываюцца бліскучымі плямамі, то залатой кропкай скачуць, калышуцца на вадзяных струменях.

Як прывабна тут і чароўна…

— Рывачка!

— Што?

— Я даўно, даўно хацеў пагаварыць з вамі.

— Аб чым?

— Ах, аб чым! Хіба можна адразу сказаць, аб чым?..

І словы гэтыя невыказнай пяшчотай казычуць вуха Рывы. Вось Міхась ціха, гэтак нясмела, здаецца, за руку ўзяў, пацiснуў яе.

— Рывачка… ну, я…

І цяплом, гэткім хмельным цяплом аддаюць яго словы. Яе вочы ўзіраюцца ў вочы Міхася, а ў іх нібы праменяць залатыя зоры.

— Я… люблю… вас, Рывачка, люблю цябе, мая дарагая.

Над мястэчкам певень галасістую песню завёў. Усхапілася раптам Рыва, палахліва зірнула наўкол.

— Міхась, даражэнькі… пара дамоў… позна ўжо…

— Пасядзі яшчэ трохі, Рывачка…

— Не, нельга, дома спяць ужо.

— Ну, пойдзем.

— Не, ты пасядзі трохі тут, разам ісці немагчыма, бо сустрэне хто… дый дамоў разам нельга…

— Чаму нельга, Рыва?

— Ну, хіба не ведаеш, што ты…

Не дагаварыла Рыва, але Міхась адразу ўгадаў яе думку.

«Гой, ненавісны для бацькоў гой», — мільганула чорнай хмаркай прыкрая думка.

* * *

Усміхнулася раніца ўсмешкаю сонечнай саламяным хатам. Прачнулася мястэчка, прачнулася і Рыва. Завінулася каля работы хатняй. Кіпіць работа ў спрытных руках, а ў сэрцы — сонца косы залатыя сплятае, уплятае ў іх радасці чалавечай каралі чырвоныя. Эх, як лёгка дыхаць, як хочацца жыць, калі думкі кросны снуюць з жыцця, з летуценняў, з пажаданняў бурлівых!

Учарайшае здаецца нібы ў сне чароўным, прыгожым. Але гэта не сон. І ўсміхнулася радасна Рыва.

— Што гэта з табой? Чаго ты смяешся гэта, здаецца, і прычыны няма?

А… гэта бацька ля сцяны дратву сукае, шаруе яе пекам смаляным, гатуе дратву на цэлы дзень, а то і на два.

— Гэта я, татачка, так сабе, успомніла пра нешта смешнае — учора цётка расказвала…

— А-а… ну, смейся, смейся. На то і гады твае, каб смяяцца шчасліва. А потым, потым… — не дагаварыў бацька, уздыхнуў

цяжка, прымайстраваўся на сваім скрыпучым зэдліку і заняўся якойсьці латкаю на старым парыжэлым чобаце. І толькі ў думках яго было:

«А потым… потым вось гэтыя латкі рыжыя… жыццё і латкі… Пройдуць яшчэ гады, і зробішся сам гэтай зморшчанай латкаю жыцця, нікому не дарагою, нікому не патрэбнаю. І выкінуць адарваўшуюся латку на сметнішча… у бруд… у пыл… Дык вось яно як… жыццё і латкі… не да смеху…»

Ніжуцца думкі ў галаве старой, абрываюцца часта, як нітка струхлелая, зноў чапляюцца, гудзяць часам звонкай струной успамінаў аб гадах пражытых, гадах ранейшых, гадах маладосці кучаравай, бо на пазнейшыя гады адмаўляецца памяць, хавае іх у шэрую муць. Што было ў дні юнацтва і маладосці — як на далоні стаіць, а вось што пяць ці шэсць год назад — імглою, туманам пакрылася. «І чаму гэта так?» — дзівіцца стары. І сам сабе ўголас адказвае:

— А таму, што латкі гэтыя самыя…

— Што, татачка?

— Нічога… Ці скора там самавар у цябе будзе?..

— Зараз, тата, вось толькі вугалля яшчэ трохі падкіну.

— Падкідай, падкідай, галубка, а то нешта чаю хочацца. Што гэта я сказаць табе хацеў? Ага, вось успомніў. Тут у госці да Шэвеля пляменнік яго з горада прыехаў, малады яшчэ чалавек, прыказчыкам там дзесьці ў горадзе, у багатым магазіне служыць… Але гэта не галоўнае… Учора Шэвель казаў мне, што пляменніку яго ты спадабалася больш ад усіх дзяўчат…

— Ай, татка, яшчэ што, спадабалася ды спадабалася… Прыехаў і няхай гасцюе на здароўе, калі хоча, якое мне да яго дзела…

— Ну вось і засакатала ўжо, якое ды якое ёй дзела. Вядома, дзела. Дык вось, сягоння ён збіраецца наўмысля зайсці да нас, з табой пазнаёміцца бліжэй хоча, дык ты глядзі ўжо, сама ведаеш… не маленькая… прычапурыся, ну хоць у тое плацце шаўковае, якое дзядзька твой з Кіева прыслаў.

Куды падзелася ранейшая радасць Рывы, адразу спахмурнела, трубой аб самавар наўмысна гучна ляснула, вочкі вугаллем разгарэліся.

— Не патрэбны мне прыказчыкі вашы. Няхай і не ідзе. Дарам час сапсуе…

— Чаму?

— А мяне і дома не будзе.

— Як гэта не будзе?

— А так і не будзе, пайду гуляць куды-небудзь.

— Ну, жарты жартамі, а дзела дзелам. Што ж ты, хочаш мяне перад мястэчкам асароміць? Дзе ж гэта відана, каб жаніх у дзверы, маладая з хаты?

— Што вы, татка, гаворыце, які жаніх, якая маладая? І што гэта за спрытнасць у вас такая, і пажанілі ўжо ў думках, хіба я вам так надакучыла?

— Не надакучыла, а сама ты ведаеш, што замуж выйсці табе ж трэба.

— Ну дык што, што трэба? Ну і выйду, але ж не так ужо раптам за першага стрэчнага-папярэчнага, як вы хочаце.

— Ну, ты там як сабе хочаш, але ж прыняць чалавека трэба, трэба і пагутарыць з ім.

— Калі вам хочацца, дык і гутарце з ім на здароўе, а мне няма часу, у мяне працы хопіць…

— Ну, Рыва, глупства казаць нечага. Павінна быць так, як я хачу.

— І яшчэ павінна быць так, як хачу я…

— Рыва… Не забывай, што гаворыш з бацькам, а хіба я табе зла жадаю?

— Жадаць не жадаеце, а зрабіць можаце…

— Ну, добра. А за каго б табе хацелася выйсці? Ну, вось скажы, як бацьку… Хто болей за ўсіх спадабаўся табе?

Ну, што казаць? Хто спадабаўся? Хіба скажаш бацьку аб тым чалавеку, які даражэй за ўсё для яе на свеце. Ах… самавар закіпеў. Вялікае яму дзякуй… Трэба чай заварваць, шклянкі прыгатаваць. Заварушылася Рыва каля самавара, і бацька адстаў са сваімі пытаннямі, цягае дратву ў задуменні, калупае шылам старыя латкі.

«Як добра б было, калі б мой Міхась дарагі не рускім, а самым бы звычайным местачковым яўрэем быў. Навошта тады і ад бацькоў хавацца, палохацца гэтых вуліц родных, захоўваць сваё шчасце глыбока-глыбока ад паганага іншым часам вока людскога», — думае Рыва, наліваючы бацьку шклянку чаю.

* * *

Размовы з бацькам увесь дзень атруцілі. А тут яшчэ матка таксама прыстае з прыказчыкам гэтым, потым пачала занадта хваліць Піню-разніка, які, па яе словах, аб Рыве так уздыхае, што чуць памяць не страціў, кашэрнага ад трэфнага не адрозніць і пазаўчора сунуў старой Шэманісе — замест кашэрнага — пеўня трэфнага. З’елі Шэманы пеўня, а як даведаліся, перапалохаліся, да рабіна на параду бегалі, і апошні сказаў:

— Хоць вялікі грэх, але нічога, на Піню грэх ляжа, не на вас.

Паведаміла матка і аб крамніку Ёселі, які нібы матцы сваёй прызнаўся, што яго сэрца даўно сасмагла па Рыве, як той гаршчок цымусу, што доўгую-доўгую суботнюю ноч смагне ў печы.

— Годзе, мама… І к чаму вы мне ўсё гэта кажаце?

— Як гэта к чаму… Хіба мне не радасна, што ў маёй дачкі жаніхоў столькі… Вось толькі трэба яшчэ шубу табе набыць, чаравікі новыя, жоўтыя… Ну, ды за гэтым справа не стане…

Не люба Рыве, прыкра. І любіць яна матку, ой як любіць, але пачынае сэрца паціху садніць, калі матка пералічвае на пальцах усіх «уздыхаючых» ды загаварвае аб тым, што не шкодзіла б пер’я купіць на пярыну новую для яе, для Рывы.

А вось і прыказчык прыйшоў, пляменнік Шэвеля. Зірнула Рыва і ў думках усміхнулася. Увішны такі, апрануты з іголачкі, гальштук стракаты звісае з-пад каўняра белага, а на яго абвіслі дрыготкія, залітыя тлушчам шчокі. На гальштуку шпонька блішчыць, жабка алавяная з зялёнымі шклянымі вочкамі. А вочкі ў самога нібы масліцам ці шмальцам гусіным памазаны, бровы — шкваркі гусіныя. Самому гадоў трыццаць шэсць — трыццаць восем.

— Добры дзень…

— Дзень добры, добры… Як гэта вы надумаліся да нас зайсці? — і на матчыным твары ветлівасць ракой расплываецца. Іначай і нельга, як жа можна, жаніх, ды яшчэ які, такія ў мястэчку рэдка бываюць.

— А так, па-суседску, як жа не зайсці!

— Дык сядайце, калі ласка…

З Рывай знаёміцца. Трэба і ёй ветлівай быць, хіба ж хочацца бацькоў крыўдзіць.

— І як гэта я з вамі да сённяшняга дня не знаёмы, і жыву блізка ад вас, і трэба ж гэткае здарэнне, не ведаць пра вас, не гаварыць з вамі…

Матка пацiху, непрыкметна на задні план адступае, адышла, быццам фіранку паправіць, і хутка выйшла ў другі пакоік, не прыходзіць…

— І не нудна вам жыць у мястэчку, у балоце гэтым?

— Ну, каму балота, а нам лес зялёны…

— Што вы кажаце, не паверу; я б, здаецца, і месяца не выжыў бы тут. Так, яшчэ тыдзень які, як цяпер у гасцях, цярпець яшчэ можна, а каб болей, дык… о, не…

І адразу:

— Ах, якія ў вас прыгожыя ручкі!

У Рывы чырвань на шчокі паўзе.

— А вашы вочы… Якія прыгожыя вочы…

І холадна гэтак, сурова адказвала Рыва:

— Вам што?.. Справы якія?.. Дык пагаварыце з бацькам…

Бачыць герой — не паласа, куды і жвавасць падзелася. Маўчыць, за капялюш узяўся, такім мязджулым зрабіўся, і вочкі лыпаюць, як у курыцы старой павекі. Вось узняўся.

— Ну, дык бывайце здаровенькі…

— Шчаслівай дарогі…

У дзверы ідучы, аб вушак ілбом лузнуўся, гуз набіў і шпарка, зачырванеўшыся, выйшаў у сенцы.

— Ох!.. — палягчона ўздыхнула Рыва.

А вось і матка.

— Ну што, пагаварылі?

— Пагаварылі…

— Ну і добра, дачушка… Толькі ж нешта хутка занадта?

— А хіба доўга гаварыць трэба?

— Так, так… — кажа матка і хутка ідзе да старога Мотэля паведаміць яму, што ідзе ўсё добра, пагаварылі…

* * *

А вечары адзін за адным ідуць чарадой нязменнай. Толькі змрок сінявокі атуліць вуліцы, узнімецца вэлюмам белым туман над ніцымі прыбярэжнымі лазнякамі, і расой убяруцца палі і мурагі — прабіраецца Рыва праз гароды, да зямлі туліцца, палахліва азіраецца наўкол, а ў галаве думка адна:

— Ах, каб нікога… каб ніхто не сустрэўся…

А Міхась па-над кручай сядзіць. У яго свае думкі:

— І не ведаю, што рабіць. Чым дапамагчы і сабе, і ёй… Хіба гэта не дзіўна: любім, шчыра любім адзін другога, а на людзі не паказвайся, ды нават хавай свае пачуцці, бойся кожнага свайго слова пры людзях. Ды мне і не трэба выказваць сваю любоў на людзях, але ці добра ж гэта, калі хаваешся, нібыта злачынец які, нельга па вуліцы прайсці, нельга днём гаварыць з ёй. Усе людзі як людзі, а ты беражыся на кожным кроку. Не, не па-людску гэта. А як іначай?.. А вось і яна, Рыва.

— Ну што, зачакаўся, Міхась, а мне, даражэнькі, усё не было часу выйсці. То ў хаце што загадаюць, то на вуліцы народ ходырам ходзіць, няведама як і прабрацца…

— Рыва… ну зачым нам далей хавацца гэтак, не будзем жа век у схоўкі з бацькамі гуляць. Давай скажам ім, і ўсё добра будзе.

— Ах, Міхась, дарагі, ну што ты гаворыш? Хіба ты бацькоў маіх не ведаеш? Паспрабуй, скажы ім, і ўсё тады прападзе, мяне з хаты не выпусцяць ні на крок.

— Дык ты ж не маленькая, не захочуць яны, ну і клопату столькі… Хіба ж кланяцца будзем, свет перад намі вольны…

— А не, не можна так. Хіба я пакіну сваю маці ці татку, каб яны злаваліся потым на мяне, праклiналі маё імя?.. Ды я ж люблю іх, ахвота мне крыўдзіць іх…

— Ну, дык ты мяне не любіш… ну, так жа выходзіць — бацькі табе даражэй, чым я…

— Міхась, што ты кажаш… Хіба так можна? Падумай, ці хочацца гэта мне хавацца, але трэба так пакуль што, няхай не адразу бацькі даведаюцца, звыкнуцца, потым і ўсё добра будзе…

— Прывыкаць і дзесяць год можна…

— А не, Міхась, неўзабаве і ў нас усё добра будзе, нашто тады і ад людзей ды ад бацькоў хавацца…

* * *

Калі вечарам, трохі спазніўшыся, Рыва дамоў прыйшла, яна застала матку зусім заплаканай, засмучонай, а бацька, раптам падняўшыся на зэдліку, сурова запытаў:

— Дзе была?

— Дзе была?.. У цёткі была, а што?

— Ты ў цёткі была… Дзе ж твае вочы, дзе ж твой сорам, калі ты мне, твайму бацьку, пачынаеш ілгаць у вочы… Ой, гора маё, вялікае гора, і за чые грахі павінен несці я пакуту гэтую, каб мая родная, любая калісьці дачка і, на́ табе, спазналася… з кім, з гэтым гоем агідным, з гэтым няшчасным шэйгіцам…

— Дачушка мая… ой, божачка мой, што ты нарабіла… зачым табе захацелася зневажаць валасы мае сівыя… — голасна казала маці.

— Татачка… мама… я не разумею, аб чым вы гаворыце…

— Паглядзіце на яе! Яна яшчэ не разумее… яна не хоча разумець… яна не думае разумець… яна мае смеласць насміхацца над намі…

— Татачка!

— Замаўчы, нягодніца… зачыні свой паганы рот!

— Божа мой, ну што вы ад мяне хочаце?.. — і залілася Рыва слязьмі, балючымі, нястрымнымі.

І ўсю ноч не спала Рыва, думкі, адна другой цяжэй, мітусіліся ў зморанай галаве, ліліся на падушку слёзы крыўды, цяжкай чалавечай крыўды.

— І што ім трэба… І што я зрабіла кепскага, чым я пакрыўдзіла, чым не дагадзіла бацькам сваім? І хіба ж яны не добрыя, яны ж любяць мяне. Зачым жа яны Міхася лічаць такім кепскім чалавекам, што ён кепскага зрабіў ім? Ну, што мне цяпер рабіць, што думаць?..

Толькі пад самае ранне заснула Рыва хворым, нервовым сном.

* * *

А раніцой зноў узняліся на захадзе спалохаўшыя ўжо раз мястэчка гукі. І зноў жыхарства загаварыла аб вайне, загаварыла аб тым, што блізка белапалякі і зноў небяспека. На дзень, на другі забыліся і пра Міхася, і пра Рыву.

Раз удзень Міхась з заняткаў прыйшоў вельмі хмурны і смутны. Дачакаўшыся хвіліны, калі бацькі Рывы выйшлі з хаты, ён паведаміў:

— Рывачка, сягоння я выходжу з чырвонаармейцамі з мястэчка, гэтак гадзіны праз дзве, павінен на фронт ісці…

Рыва, як падсечаная, апусцілася на зэдлік, зірнула дзіка на ўсё, і доўгі працяжны енк вырваўся з яе грудзей.

— Што ж я буду рабіць цяпер, бацькі зусім не дадуць жыцця, яны кожны дзень будуць дапякаць табой… ды і што з табой будзе там… на фронце… О, якая я няшчасная, і зачым я ўрадзілася на свет…

І пакаціліся пацеркі слёз, плакала Рыва, плакала ціха, наўзрыд…

— Рывачка… ну годзе… даволі. Хіба ж я зусім расстаюся з табой… Хутка-хутка, і мы будзем зноў умясцёх. А бацькі… ну, я пагавару з імі, яны не будуць мецць нічога супроць цябе…

— О не, не, Міхась, дарагі, не гавары, нічога не гавары з імі… Няхай будзе, як будзе.

У хату бацькі ўвайшлі. Здзіўлена паглядзелі на заплаканы твар Рывы і моўчкі ўзяліся за працу. Міхась складаў свае рэчы, укладваў вопратку ў ранец і ў невялікі куфэрак. Вось і ўсё зладжыў, пастаяў з хвіліну, к бацькам падышоў.

— Дазвольце аддзякаваць вам за кватэру і за ўсё тое, што я бачыў тут добрага для мяне, за…

— Як жа гэта, куды ж вы гэта пераходзіць думаеце, хіба на другую кватэру? — запытаў здзіўлена Мотэль.

— Не… зусім з мястэчка…

Зірнулі ўсе ў акно, а там на вуліцы ўжо ўся рота ў паход сабралася.

— Дык што ж гэта такое?

— А нічога, мо хутка зноў убачымся, на фронт ідзём цяпер.

— А-а! вось якая справа… Ну, дык шчаслівай дарогі вам.

— А вам шчасліва заставацца…

Міхась усім руку падаў, за парог ідзе, і раптам усхапілася Рыва. Адна хвіліна, і ахапіла Міхася за шыю, на грудзі к яму галаву прытуліла.

— Міхась… Мой дарагі… Мой мілы… Ты ж забудзешся там аба мне, мой любы… Міхась, мне страшна, мой родны, заб’юць цябе там, і нічога, нічога я не буду ведаць, дзе ты і што з табой, мой каханы…

— Рыва, Рывачка, супакойся. Усё добра будзе, і ты аба мне ўсё ведаць будзеш — ад мяне лісты атрымліваць будзеш…

Пацалаваліся на развітанне. Пайшла Рыва ў хату, села на зэдлік у куточку, упялася ў падлогу вачамі засмучонымі.

— У-у… погань няшчасная… Божа, Божа, да чаго я дажы-ыў, — прашыпеў злосна-злосна бацька і зноў уюшыўся ў дратву.

У маткі на вачах слёзы мігцелі.

* * *

Пацягнуліся дні за днямі, шэрыя, нудныя. Працуе Рыва, як і раней, але ўжо не чутна яе звонкага смеху ў хаце. Пасля працы ходзіць сумная, выраз твару задуменны найболей, нібы думае штосьці, вырашае нешта цяжкае-цяжкае… А бацькі кожны дзень раяцца, гутараць між сабою:

— Ну, што мы цяпер рабіць будзем… з ёй… (іначай і не называе цяпер Рыву бацька), — кажа Мотэль да жонкі.

— Ну, што рабіць — адзін Бог ведае, што рабіць, дый ты павінен ведаць, ты ж мужчына, ці ты ж не гаспадар у сваёй хаце…

— Лёгка сказаць, што рабіць…

— Ой, не перанясу я гэтага, не перанясу-у-у, ой-ой… — І заліваецца маці слязьмі, дрыжаць яе старыя плечы, з сівых валасоў спаўзае і падае на падлогу хустка.

— Ну, нечага там. Сама нарадзіла во дачку сабе, цяпер… пацяшайся з ёю… Але вось што павінен я сказаць табе, трэба хутчэй замуж яе выдаць, тады нічога з ёю кепскага і не выйдзе.

— Хто ж яе возьме цяпер?

— Ну, вядома, добры чалавек ці з маладых хто і не возьме. Ну… а з старых які-небудзь, на якога добрая дзяўчына і не паглядзіць, той мо часам і падумае ўзяць…

— Ой-ой… маё дарагое дзіцё, што сабе… што ты нарабіла.

І ўжо і жаніх на прымеце: стары Нейлух, які скупляе па вёсках караўкі, рыззё трухлявае. У яго жонка памерла, а трэба ж каму гаспадарку прыгледзець, бо Нейлуху некалі, заўсёды ён вандруе са сваім канём лапавухім па вакольных вёсках.

— Вось я і скажу яму калі-небудзь… гаварыў жа ён мне, аб жыцці сваім скардзіўся.

Вечарам маці к Рыве прыстае, угаворвае выйсці замуж за Нейлуха.

Усхапілася Рыва і рукі сабе ломіць, на матку зло-зло пазірае.

— Калі вы мне, мамка, хоць яшчэ адзін раз, толькі адзін раз скажаце пра гэтае самае, тады памятайце…

Матка адступае, спалохаўшыся. Бацька ўвайшоў.

— Што гэта? Чаго ты?

— Татачка, любы…

— Не заві мяне татам, я табе не бацька цяпер, і ты мне не дачка.

— Божа, Божа…

— Не пагань, распусніца, Божага імя…

* * *

Вось чаму плакала Рыва…

Яшчэ месяц прайшоў. Нічога не чутна Рыве аб Міхасю. Дзе ён і што з ім — нічога невядома. Бацькі не гавораць з ёй, пра замужжа думку пакінулі, бо на ўсе іхнія словы яна то адмоўчваецца, то заліваецца слязьмі.

І ў мястэчку пра Рыву і Міхася забыліся. Не выходзіць Рыва нікуды на вуліцу, дый людзям цяпер не да таго, каб пра другіх языкі часаць. Другі час настаў, і цяжкі час у жыцці мястэчка.

Накацілася на яго ціхія вуліцы грозная і крывавая хваля, хваля вайны. Адступалі чырвоныя. Дні тры ў мястэчку панавалі белапалякі. Доўга будуць памятаць местачкоўцы гэтае панаванне. Адступаючы пад новым націскам чырвоных, ворагі пакінулі на памяць аб сабе новыя свежыя могілкі — расстралялі раніцой чалавек з дванаццаць жыхароў местачковых на плошчы, каля старой сінагогі.

Расстралялі так сабе, ні за што ні пра што, для прыгрозы, для парадку, як яны казалі. Да самага вечара ляжалі акрываўленыя трупы ў чырвоных лужынах, і ашклянелыя вочы забітых пазіралі безнадзейнасцю смерці ў далёкае неба, адкуль сонца пасылала свае залатыя ўсмешкі-промені, зайчыкамі мігцеўшыя ў мёртвых вачах.

Усе баяліся падыходзіць да трупаў, і толькі ноччу галасілі ў цемені плошчы старыя маткі. Галасілі па-рознаму, на розных мовах.

Розныя былі словы, але аднолькавыя ліліся слёзы чалавечыя, матчыны слёзы.

Прайшло дні са два. Была пятніца. Трохі ачуняла мястэчка, пахавалі забітых, сумесна паплакалі, пагаварылі і зноў збіраліся за працу ўзяцца. І толькі пачаў народ з плошчы разыходзіцца, як прыбег з суседняй вёскі ў пылу, зморан ы, гразны, потам абліты сын Шэвеля, малады шавец Янкель. Вочы дзіўныя нейкія, спалоханыя, закрычаў не сваім голасам:

— Уцякайце куды хто!.. Там… Балаховіч… Зараз тут будзе…

Болей не трэба гаварыць Янкелю. Даволі слова «Балаховіч», каб усе, нібы страціўшы розум, разбегліся па сваіх хатах. Чулі ўжо аб Балаховічу, ведаюць…

А вось і яны… На ўзмыленых конях шалёна праскакалі два коннікі, забіўшы на вуліцы малую дзяўчынку. Папалася яна скронню пад цяжкую жалезную падкову капыта конскага, і заскраблі маленькія ручкі пыл лёгкі, дарожны, пальчыкі сударгава сціснулі залацістую саломінку, сціснулі, не выпускаюць.

А коннікі ў канцы вуліцы з коней пасаскаквалі, угару стралялі, крычалі:

— Гэй, па хатах усе! Хто ўцякаць будзе — зараз прыстрэлім!

Па-за гародамі поўна ўжо коннікаў — не пускаюць нікога бегчы ў поле, у балота зялёнае.

А вось і галоўны атрад. Скачуць, гарцуюць гарачыя коні пад балахоўцамі. Паперадзе камандзір задуменны, пахмурны. На рэмені кольт боўтаецца, пара гранат прычэплена збоку. Едзе, пазірае скоса з-пад русых брывей, сочыць за вокнамі ў хатах.

За ім чалавек з сорак салдат. Цьмяныя шэрыя шынялі, новыя жоўтыя паясы раменныя, шызыя баранчыкавыя шапкі. Некалькі каламажак з кулямётамі. На адной заліваецца на шалёныя галасы гармонь, ёй дзіка падпяваюць некалькі п’яных салдат. На плошчы супыніліся. Чакаюць чагосьці. Ага, вядуць некага. Не вядуць, а гоняць, падганяючы карабіннымі шомпаламі.

— Ганіце іх сюды, вось да гэтай сцяны! Стаўце іх тут, каля сінагогі…

Абарваныя, закатаваныя, пазвязваныя калючым дротам адзін да другога, стаяць чуць жывыя дзевяць яўрэяў, прыгнаныя з суседняй вёскі. Балахоўцы спяшаліся да мястэчка, не хацелі ў вёсцы расправу рабіць, баяліся, каб хто не папярэдзіў аб іх прысутнасці местачковае жыхарства.

Паставілі ля сцяны.

Маўчыць жывы чалавечы плот, адзін паваліўся ў сярэдзіне, але падштурхнулі яго, паставілі ля сцяны.

— Ну, дык што ж гэта маўчыце вы, дзе ж языкі вашы, хіба ад радасці рты пазамкнула?

— Зверы вы, а не людзі, таму і маўчым мы…

Дзве чорныя французскія гранаты, адна за адной, ціха звякнулі каля ног палонных.

І цяжка ўздрыгнула мястэчка, зазвінелі жалобна шыбы ў саламяных хатах… Сінагога сляпой стала — высыпалася шкло з акон. Уся плошча ахуталася высокім слупам чорнага дыму і пылу.

А людзі Богу маліліся. Іншыя сядзелі нерухома, упяўшыся вачамі ў вокны, на вуліцу. Ціха і ў хаце Рывы. Рыва ў падушку галаву ўткнула, думкі адна за адной плывуць, безнадзейныя, чорныя, як хмары асеннія…

— Усё загінула… І жыццё… і Міхась, і ўсё, усё на свеце…

І міжволі ўспомніліся бацькавы словы: «Пажыві, убачыш…»

— Няўжо праўду бацька казаў, няўжо ўсе… толькі зверы…

Бразнулі дзверы, аж затрымцелі талеркі ў шафе.

— Гэй, сволачы, дзверы адчыняйце, не то выб’ем адразу!

Б’юць у дзверы прыкладамі, шалёна б’юць.

— Пачакайце, адчыню зараз, — і старыя дрыжачыя рукі доўга-доўга кручок адшчапляюць, засаўку адкінулі.

Уваліліся ў хату, каля шафы ўз’юшыліся, разанулі прыкладам у яе шкляныя дзверцы, зазвінелі талеркі, пасыпаліся з грукатам на падлогу, звонка дзынкнуў паднос.

— Гэй, дзе серабро? Ну, гавары!..

— Няма… вунь срэбныя лыжкі…

Адзін з рэвальверам падскочыў да Мотэля. Прыціснуў халоднае дула к яго пабялелай скроні…

— Золата давай!.. Ну, гавары, дзе яно, ды хутчэй?!

— Няма… якое ў мяне золата…

— А-а… няма, кажаш, пастой жа, я прымушу твой паганы язык загаварыць па-іншаму! Вось слухай, буду табе гаварыць: раз, два, тры… І калі ты мне не скажаш да трэцяга разу, дык ведай: тры — гэта твая смерць.

— Божа мой, Божа, што я скажу вам…

— Ра-а-аз… два…

— Стой, стой, не трэба біць яго. Заб’еш — зглуміш усю справу. Давай мы распытаем яго, развяжа тым часам язык…

А Рыва і матка Рывы сядзяць у непрытомнасці цяжкай.

Штыком лямпу бронзавую са столі сарвалі, на кручок вяроўку закінулі. Падцягнулі Мотэля, зацягнулі пятлю на шыі.

— Ну, не хочаш казаць? Не хочаш? Падцягвайце, хлопцы, да столі. Нябось загамоніць…

Апаматалася Рыва, кінулася да бацькі, пазногцямі ўчапілася ў твар аднаму з катаў.

— А… і красунька тут! Прытрымай яе там…

З крыкам дзікім да Рывы кінулася матка.

— Прэч, старая!..

І бліскучае жала шаблі са свістам узляцела ўгору і…

Што гэта? Нібы сцёбнуў хто па акне бізуном сталёвым. Паляцелі шкляныя пырскі, дым на падлогу сцелецца, салодкі парахавы дым узвіваецца пад чорную столь.

Узнятая шабля ціха дзёўбнулася астрыём у падлогу, забрынчэла, дрыжучы і ківаючыся з боку на бок, а той, хто падняў шаблю, прастагнаў, ссунуўся на зэдлік, перакуліў яго і пакаціўся сам на падлогу.

На вуліцы стрэлы, сумяціца. Замітусілася ўсё ў хаце. Вось яшчэ некалькі стрэлаў у акно… Мотэль стаіць і здзіўленымі, яшчэ поўнымі жудасці вачыма пазірае наўкол.

Адчыніліся дзверы, нехта парог пераступіў, у руках наган дыміцца.

І раптам кінуліся ўсе: і Мотэль, і старая маці, і Рыва насустрач гэтаму чалавеку.

— Міхась… даражэнькі!..

— Наш Міхась… Мой каханы…

Неспадзяваная радасць змяшалася з цёплымі крыштальнымі слязьмі, слязьмі шчасця і вызвалення…

А на вуліцы чырвонаармейцы раззбройвалі апошніх балахоўцаў.

У гэты дзень стары Мотэль забыўся вечарам запаліць шабасовыя свечкі, забыўся таму, што не ў іх полымі ён бачыў цяпер шчасце і праўду жыцця.

* * *

Шэсць год прайшло з таго часу. Паменшыўся лік шаўцоў і краўцоў у мястэчку. Большасць іх працуе ў сельскагаспадарчых арцелях, якія тут жа змясціліся каля мястэчка.

Сора Гілерава не носіць болей сахарыны па вёсках, яна корпаецца кожны дзень на агародах арцелі, поле і палівае гуркі, капусту, абкапвае бульбу, доіць кароў. Абрам па-старому цэглу

паліць, толькі ўжо на добра абсталяваным заводзе арцелі. Як і раней, кожны дзень паведамляе знаёмых Абрам:

— А мой сын на аграднома вучыцца, на апошнім курсе цяпер…

А Міхась, о, ён тут жа, у мястэчку, працуе ў каапарацыі. Арганізаваў ячэйку партыйную. Ранейшыя шаўцы і краўцы, працуючыя цяпер у арцелях, называюць Міхася не іначай, як:

— О, гэта наш дарагі хавар, ён шмат чым пасобіў нам у жыцці…

Міхась жыве ў адной хаце з старым Мотэлем, які, як і раней, сучыць дратву, чобаты шые. Латак цяпер менш, больш новыя шыюць. Каля Мотэля часта маленькая дзяўчынка гуляе, падбягае к яму, заводзіць з ім дзіцячыя гутаркі.

— Ну, што, Дзіначка, скажаш?

— Ужо, дзед, абедаць трэба, хадзі, мамка клікала…

Адкладвае Мотэль чобат, бярэ на калені ўнучку, цалуе, песціць, кучаравыя валосікі гладзіць. Чорныя валасы, чорныя бровы, а вочы — блакітныя.

— Гоя майго любага вочы, — шэпча дзед і цалуе маленькую ўнучку.

Зірне з-пад дзвярэй Рыва, усміхнецца:

— Ну, хадзі, татка, абедаць. І Міхась прыйшоў ужо…

І ідуць гады чарадой несупыннай. Новыя гады лечаць жыццё, зажыўляюць мінулага раны. І калі запытаюць старога Мотэля:

— А як жыве Рыва, зяць?

Адказвае:

— О! Мой зяць!.. За шчасце б кожнаму мець чалавека такога…

***1926***

## ЧЫГУННЫЯ ПЕСНІ

Студзень, люты… Марозы лютыя і ледзяныя каралі, як кажуць паэты. У іх заўсёды каралі — і вясною зялёнай, і сонечным летам, у восень глухую, дажджлівую, і ў снежні, і ў лютым. Яны і ў сняжынках шукаюць агню і знаходзяць у іх іскры, бліскучыя і пякучыя агні холаду. Ды як іначай — не можа чалавек жыць без агню, хіба сэрца без іскраў — сэрца? Тады мяшок яно, непатрэбны мяшок, у якім ні свету, ні радасці. Шукайце ж агню, знаходзьце яго, напаўняйце іскрамётным полымем вашы думкі і сэрца, тады пазнаеце свет, чалавечую радасць і боль.

Мароз пякучы, у ім сапраўдны агонь і дзіўны — ён не песціць душы чалавечай, да касці пранізвае стрэламі аснежанымі тваё кволае цела, якое вечна цягнецца к сонцу. І кажуць — зімой любоў не цвіце, бо стыне кроў, мароз пацалункаў не любіць, робіць блядымі губы чырвоныя, тушыць агні ў шэрых і сініх вачах і робіць іх празрыста-халоднымі, падобнымі на шкло туманаў асенніх, а завеі, віхуры снежныя блытаюць думкі, наганяюць сіняга суму і чорнай жуды. Хіба тут пра любоў ды пра карую цвецень воч дарагіх успомніш, калі няма ні пахучага бэзу, ні майскіх зор прамяністых, ні срэбных песень салаўя. Дзе там… Мо і так, мо і не так, — аднаму адно падабаецца, другому — другое…

А я ўсё ж такі люблю: у марозы, у снежні, у лютым, калі замярзаюць сонечныя вёслы, як кажуць паэты. Я люблю, люблю горача, вернай, надзейнай любоўю. І чым болей мароз, чым сільней ён стрыбушыць саламяныя стрэхі, дзынкае ў драўляныя сцены кулаком касцяным, узнімае снежныя хвалі жорсткія, кідае іх на абледзянелыя сляпыя шыбы, стукае, шархаціць палахліва аб комін аснежаны, — тым сільней, гарачэй любоў у маім сэрцы, тым святлей мая радасць.

Вунь вые віхура за цёмным акном, і, нібы здані, праносяцца стаі мёрзлых сняжынак, к акну прынікаюць, плачуць нуднай адзінай слязой, прымярзаюць, а вецер гоніць усё новыя снежныя хмары, гудзіць і шалёна рагоча завея голасам ледзяным, рыпучым. І скагоча мароз, бяжыць, грукаціць па завеяных сцежках, дарогах, снегам у зоры кідае, у месяц бліскучы — бач, зайздрасць бярэ, хоча ўладу на ўсё налажыць, прыдавіць жывое ледзяшом-брыльянтам пякучым.

Ну і вый на здароўе, пацяшайся мароз ледзянымі караляміі, покуль сонца іх не сарве з тваіх халодных грудзей.

Што мне да цябе. Вунь стаіць мая мілая, мая радасць — любоў. У яе ножкі малыя і лебядзіная шыя. У яе сэрцы агні бурлівыя і кіпучыя і ў грудзях крамяных запал, — што супроць яго снегавыя завеі і траскучы мароз.

Я гляджу на мілую вокам улюблёным, я дам мілай бярозавых трэсак, запяе яна песні дзіўныя, запяе голасам залацістым, гарачым… І лятуць, кружацца агнявой струменню гукі медныя і чыгунныя, песцяць рукі твае і ногі, песцяць сэрца цяплынню чароўнаю. Люблю песні чыгунныя. Чаму? Мая мілая, мая радасць — печка чорная, печка чыгунная. Яна любіць трэскі, пахучыя трэскі. Гараць яны, трашчаць вугалі залатыя, а мілая песні спявае:

— Жш-ш-ш… жш-ш-ш… сзы-і-і-ш-жш….

А ў жалезнай трубе гудзіць вецер, працягвае ў трубу мароз свае сінія лапы і, апёкшыся, уцякае ад хаты. Болей трэсак — болей агню і малінавы бок у печкі, люба глядзець на яго ў цёплай хаце. І ў вячэрнім змроку цёплым, калі хіліцца галава да сну, паціху дрэмлюць думкі ад працы дзённай, люба слухаць чыгунныя песні. У гэтых песнях пад халодныя спевы завеі пачуеш ты многа слоў, многа праўды жывучай аб жыцці, аб мінулых дзеях, аб днях мінулых. Печка любіць спяваць аб мінулым, бо пражытыя дні праз яе пракаціліся, праз яе чыгунныя грудзі, сляды аставілі на яе тонкіх баках.

І заўсёды яна пяе аб мінулым. Вось паспрабуй толькі, закрый вочы пялёсткамі дромы — і паляціш у думках разам з песняй чаруючай к дням пражытага, к дням, што таксама аставілі след на несталёвым чалавечым сэрцы. Пяе мая мілая: Чж-ж-ш-сзы-і-с-ш…

[…]

Семафор глядзіць вокам чырвоным у далі снежныя, змрочныя, туды, дзе на захад уходзяць, уюцца істужкай бліскучай сталёвыя рэйкі, дзе ў сініх туманах паляглі, захаваліся горы Уральскія. І пад рэйкамі скачуць завеі, скавыча мароз. А белым вокам углядаецца семафор на ўсход, на станцыю, туды, дзе за белай раўнінай палошча берагі крутыя сярдзіты, буяны Іртыш. Холадна, сумна ветры плачуць, рагочуць, песні шалёныя граюць на тэлеграфных струнах, і гудзяць яны, надрываюцца нечалавечым жалем і сумам нязведаным.

Толькі весела ў будцы, вунь там, недалёка ад высокага семафора. Там Арынка песні спявае, а ёй падпявае чыгунная печка — і абаім цёпла і светла, і радасна. У абаіх агонь у грудзях і маладыя гады за плячамі. Што ж трэба болей, толькі тады і радасць цвіце. А з радасцю добра і шанежкі пекчы, шаньгі смачныя і румяныя, як румяныя шчокі Арынчыны, калі ўглядаюцца на іх Алесевы вочы. Але што Алесь… Ён даўно за Урал пайшоў, за туманныя горы, якіх ніколі-ніколі не бачыла Арынка. Чаго пайшоў і зачым, хіба ведаць Арыне аб гэтым, толькі чула ад таткі яна, што адтуль, з па-за гор, па чыгунцы чуткі плывуць, чуткі казкам падобны, што там, дзе Алесь, завіхурыў буран крывавы, і ў павевах яго людзі шчасце знаходзяць, вось такія людзі, як яны з Арынкай, як рамонтшчыкі пуцявыя, як прамасленыя дэпоўцы-рабочыя.

Шкада Алеся, шкада воч яго сініх, ды нічога не зробіш — чакай, дзяўчына, з-за сініх гор свайго шчасця і долі, а мо і дачакаешся. Праглядай свае вочы на захад, прыглядайся да

вокнаў вагонаў. І глядзіць Арынка, прыглядаецца, не прапусціць цягніка, не прапусціць вагона. А воч сініх няма, як няма. Ну і што ж, не настаў яшчэ час, але прыйдзе…

А печка гудзіць, усміхаецца бокам малінавым, нібы выказаць хоча:

— Не думай занадта, Арынка, падгараць твае шанежкі, а падпаленых татка не любіць.

Татка… Ён хутка са стрэлак прыйдзе, прыйдзе змораны працай: не жарты — стрэлкі прачысціць у завею, у траскучы мароз, — заносіць іх снегам, замярзаюць — ці доўга ж так да бяды. Татка шанежкі любіць гарачыя і румяныя, бо халодныя рукі ў яго і іх трэба пагрэць. Чым жа лепей сагрэеш, як не шаньгаю цёплаю, — і нагрэешся ад іх, і голад прагоніш, сыт будзеш.

Татка, татка… Любіць Арына яго зморшчаны твар суровы, абветраны жыццёвымі клопатамі, яго вочы глыбокія з-пад навісшых брывей. Суровыя вочы, а колькі ў іх ціхай радасці і бацькавай ласкі, калі паглядзяць яны на дачку, дарагую Арыну. І яшчэ гэтыя вочы ліхтары любяць: чырвоныя, белыя і зялёныя, многа іх, ліхтароў, вунь ззяюць, мітусяцца зоркамі па раскіданых стрэлках станцыі. І татка даглядае іх. Пад вечар зносіць ён лямпы, працірае іх пакляй старанна, праглядае на свет, потым запальвае свой ліхтар ручны (хітры ліхтар, які захочаш, зробіш у ім свет: белы, зялёны, чырвоны) і разносіць лямпы па стрэлках, потым ідзе к семафору, спускае з-пад неба ліхтар вялікі, чысціць яго, налівае газу, запальвае, і ліхтар падымаецца ўверх, рыпіць, скрыгочa, пакуль не ўзбярэцца на самую вышыню і застыне там немігаючым вокам чырвоным. Дзіўнае вока: яно, як камень самацвет, іншым часам зялёным робіцца, і тады Арынка ведае, што хутка поезд падыдзе, і загудзіць цягнік сталёвым горлам, і прагрымяць, прасакочуць па стрэлках чыгунныя колы. А вока зялёнае стане ізноў чырвоным.

Як вабіла раней у дзяцінстве Арынку гэтая чырвань і зелень! Часта, выняўшы з таткавага ліхтара цвятное шкло, яна прыкладала яго к вачам і глядзела скрозь яго на сыпучыя снежныя раўніны, на бліскучыя рэйкі. Чырвонае шкло — і снег чырвоны, нібы палыхае па ім пажар і нават цёпла робіцца, нібы пад летнім сонцам, у цяплынь, у прыволле. Паглядзіш у зялёнае — снег зялёны, і адразу ў паветры свежым мурогам запахне. Што гаварыць — дзіўнае шкло.

Але татка заўсёды смяяўся:

— Дурная ты, Арынка, глядзіш ты вось і не ведаеш, а нашто гэтае шкло чырвонае. А пакажы машыністу яго, паравозу напе-

рад і — стоп машына, далоў качагар… Зялёны агонь пакажаш і — цішэй, галубец, цішэй, глядзі, не спатыкніся на стрэлках, не паламай краставіны чыгунныя… Вядома, ён і цішэй, цішэй. Ну, а з белым сунешся, што там: бяжы, браток, бяжы, браток, — дарога табе вольная і прамая, буфяроў не зломіш, не пашчэплюцца колы…

То ў дзяцінстве было. А цяпер што. Эх, лепей бы ўглядацца ў Алесевы вочы, а ў іх — што хочаш: і цёплая чырвань лета, і зялёная свежасць вясны, а свету, свету ў іх белага колькі! Ды што ж зробіш…

Уздыхнула Арынка, падкінула трэсак у печку, печка песняй вясёлай захлібнулася, чырванеюць бакі яе чыгунныя, цёпла і весела і трошачкі сумна чагосьці… Нешта татка не ідзе, а пара б вячэраць. Забавіўся, пэўна, на станцыі той, мо справы якія. Ды хіба не знойдуцца справы, вунь дні якія пайшлі непакойныя. Эшалон за эшалонам ідуць войскі з-за Урала, туды, на Омск, на буяны Іртыш. Колькі за дзень прайшло! І ўсё палкі чэхаславацкія. Куды яны, чаго ім, што трэба ім — хто іх ведае.

А шанежкі ўжо гатовы, пара б вячэраць, таго і глядзі прастынуць, ну, што з імі тады. А таткі няма і няма. Гараць трэскі ў печцы, абвіло іх чырвонае полымя, і трашчаць яны, каробяцца, гнуцца, чарнеюць пад гарачымі языкамі агню і пакрываюцца з бакоў залатымі акрайцамі вугалёў брыльянцістых. Ад іх водбліскі мітусяцца па сценах, цалуюць залатой чырванню Арынкіны вусны, зайчыкамі прабягаюць у цёплай шэрані воч і калышуць, нібы шавеляць у водблесках цвецені агнявой расніцы шаўковыя. Пунсавеюць шчокі румяныя, і пад подыхам цяплыні ўздымаюцца крамяныя грудзі, і ціхія думы аб шчасці, аб крылатым шчасці лунаюць у цёплым змроку, дзе іграюць залатыя водблескі, нібы зарніцы ціхія і яркія, дзе казычуць вуха цёплыя песні — спевы чыгунныя.

— А таткі няма і няма. Ну дзе б ён мог быць?

— Гу-гу-гу-у-у…

Зазвінела ў паветры сталёвае горла. «Зноў цягнік», — думае Арынка і глядзіць у аснежанае аконца ў бок семафора. Што за штука — семафор закрыт, а павінны адкрыць бы. За семафорам шыпіць паравоз, за ім істужкай уходзяць вагоны ў завеі снежныя, у снежную даль. Паравоз крычыць, надрываецца меднай сірэнаю і ўсё бліжэй і бліжэй грукаціць, набліжаецца к станцыі. Але закрыт семафор, хіба пойдзеш далей. Заскагаталі тармазы чыгунныя, снапы іскраў кінуўшы на халодныя рэйкі. Стаў паравоз, аддуваецца беласнежным парам, задыхаўся, бач,

з дарогі, дрыжаць стаміўшыся грудзі сталёвыя, бліскучыя вочы-ліхтары засцілае дыханнем цёплым. Людзі з вагонаў вылазяць, на станцыю ідуць.

— Мо Алесь, — мімаволі думка ўзнікае і раптам гасне. — Не, чужая гаворка, не наша. Ды злосна гавораць нешта, што ім трэба?

Прыпала Арынка к замерзламу аконцу, прадыхаўшы наперад у ледзяным узоры дзірачку-глядзелачку, і адхілілася адразу, неяк трывожна на сэрцы стала.

— Ідуць, сюды ідуць, што ім трэба ад нас…

А ў печцы трэскі гараць, палахліва гараць, кідаюць пужлівыя водбліскі на сцены, на вокны, на Арынчыны вочы спалоханыя.

Рыпнулі дзверы, застукалі чабаты на прыступку, і ў хатку паплыў, закружыўся белы клубок халоднага пару, ахутаў печку, Арынку, нічога не відна. А яны рагочуць, гавораць нешта. «Мусіць, пагрэцца прыйшлі», — узнікае думка і рвецца, як слабая нітка. Белы пар халодны тае, нікне пад подыхам печкі, зноў відна ў хатцы. Вунь колькі прыйшло іх, салдаты, розныя ёсць: маладыя і старыя, вунь і п’яныя, гавораць, нібы заплятаюцца языкамі. І яны заўважылі Арынчыны вочы, што гарэлі вугольчыкамі з-за малінавай печкі.

— Гы-гы-ы, і дзяўчына ёсць…

— Гэй, хлопцы, а яна ж і красавіца! Подзь сюды, дарагая, пакажы нам румяныя шчокі, дай на цябе паглядзім. Не хочаш, ну, я ў госці к табе…

Рыжыя вусы пасунуліся блізка, блізка… Чужая рука надавіла плячо, нібы агнём апякла. Брыдка, брыдка на сэрцы. Увярнулася Арынка, у куток забілася, а думкі, думкі мітусяцца, як тыя вугольчыкі, што блішчаць вунь і гаснуць у печцы малінавай.

— А татка дзе, дзе даражэнькі татка…

А яны рагочуць, заліваюцца смехам паскудным, скаляць зубы, і здаецца Арыне, што гэта зубы звярыныя, і смех не смех, а жудаснае завыванне воўчае ў цёмным лесе дрымучым. І вочы ў іх, брыдкія вочы, нібы маслам палітыя… І зноў ён, гэты агідны, чужы, з вусамі калючымі лезе, садзіцца поплеч, нахіляецца к збялеўшаму твару, дыхае ў вочы гніючым дыханнем, вышчарыў зубы, заліваецца рогатам п’яным. І ўсё бліжэй, ва ўсіх вочы гараць, нібы хочацца ім праглынуць яе, аблізаць са шчок румянец пунсовы, выпіць вочы хрустальныя з залатой іскрой.

Цапнуў за грудзі ненавіснай рукой, сцяў нібы кляшчоткай жалезнай, аж кроў нахлынула ў віскі, так усхадзілася сэрца, і ўваччу захадзілі агеньчыкі, нібы тыя ліхтарыкі родныя: белыя,

зялёныя, чырвоныя; многа іх, многа, мілыя, родныя… Ненаглядны татачка, дзе ты, дзе ты… Выслізнулася з рук ненавісных, ударыла па калючай шчацэ, але многа рук гэтых, многа ратоў ліпучых цягнецца к вуснам збялеўшым.

— А, дык ты так! Іш, бальшавічка знайшлася. Я ж пакахаю цябе іначай…

А печка гасне, заміраюць залатыя іскры, зніклі водблескі яркага полымя, цямней і цямней…

Толькі стогны прыдушаныя ды звярыныя ўздыхі, нецярплівае патопванне ног плылі ў карагодзе п’яным, шалёным, дзе мутнее чалавечы розум і становіцца цёмна-цёмна, цямней ночы асенняй, ухутанай у чорныя слізкія хмары.

— Сабакі, зве-е-ры… татка родны… — вырвалася раптам скрозь п’яны гоман галасоў нецярплівых і змоўкла, нібы падбілі, абсеклі чалавечае слова каменем вострым і цяжкім.

А печка загасла, застылі залатыя вуглі, ахінуліся попелам шэрым, халодным. І калі эшалон, забразгатаўшы звонкімі талеркамі буфяроў, заскрыгатаўшы чыгуннымі коламі па абмерзлых рэйках, пасунуўся у поўнач далей, у расчыненай напята хатцы панавалі холад і цемень, беспрасветная цемень, у якой звычайна не бывае ні іскр, ні агню, ні прыветнага свету…

* * *

Колькі дзён завывае буран, і насупіў Урал свае старыя бровы, ускудлачаныя ветрам паўночным. Глуха стогнуць лясы і калышуцца, нібы грывы сівыя, над Міасам-ракою, увабраўшайся ў лёд блакітны і звонкі. Завывае буран, і струменяць на ўзгор’ях снегавыя павеі, ветры рогат узнімаюць, галосяць шалёна, крычаць, надрываюцца, нібы выйшлі з пячоры Кунгурскай падземныя чудзішчы і адкрылі свае пасткі страшэнныя, збраўлі гудам звярыным на свет, на жывое, на ўсё, у чым трапечацца радасць дыхання, дзе праменіць агонь жыццёвы.

Сумна ў гарах, здаецца — плачуць над Міасам старыя яліны; холадна ім і ад золкага ветру, і ад скал халодна-пякучых, па якіх распаўзліся цэпкія корні-рукі. Холадна корням, холадна, а ў паніклых лапах-галінах гойдаюцца сняжынкі беспрытульныя, ганяе іх вецер з узвышшаў у даліны, з далін на ўзвышшы. А мароз скавыча зласней і зласней.

Страшна тады ў гарах, і дарогі не відна. Толькі поезд скрыгоча паціху, рыпяць абмерзлыя рэйкі ды пастукваюць на стыках чыгунныя колы, ляніва пастукваюць — не разгонішся ў гэтую

замецъ, таго і глядзі пакаўзнешся, паляціш старчаком пад аблядзянелы гранітны адшыб, разаб'еш, пашчэпіш у дробныя трэскі аб скалы вагоны прамерзлыя, астылыя. Вецер шалёны кідае глыбамі снегу на буфяры, на сталёвыя скрэпы, узрывае пражавеўшую жэсць на скрыпучых і дрыжачых крышах.

У вагоне холадна. Звычайны вагон, таварны, такі, як і ўсе ў гэтым цягніку доўгім. Папрамярзалі сцены, іней лядзянай воўнай павіс са столі, паглядзіш на яго — нібы па сэрцы ледзяшы коўзаюцца, паліваюць яго вадой сцюдзёнай, холадна робіцца ў ім, пякуча холадна. І печкі няма. Замест яе пустое месца, хіба тыя гады, каб з печкамі ездзіць. А ў столі, дзе праходзіла калісьці труба, — пустая дзірка ззяе, і яна, нібы сабачая пастка, на марозе хаўкае парам халодным ды цярушыць ігольчастымі сняжынкамі шэрымі ў вагонным змроку.

Зыбаецца, падскоквае вагон на стыках, ржава скрыпіць на рысорах прастуджаных, дзесьці жалобна скагоча, галосіць прарэзліва перагарэўшая букса, ды гудзіць па-за сценамі вецер, шархаціць, барабаніць па крышах. Ціха ў вагоне, каму гаварыць ахвота. І кожны ціснецца адзін да другога на дошках-палацях: усё ж такі цяплей, не так кусае мароз праз худыя шынялі. Толькі ногі вось шчымяць, пальцы стынуць, папрыліпала к ім халодная падэшва чаравік парыжэлых. І надаедліва дзынкаюць, бразгаць па сценах салдацкія кацялкі.

— Эх, і жыццё ж, каб цябе прыдушыла…

— Чаго ты?

— Нічога… Бач, сукярэчыўся ў тры пагібелі, а яшчэ — вагон завецца, хужэй, чым скварэшня тая, пад кустом і то лепей.

— А табе як хацелася б?

— Ды што хаценне. Вось цягнецца, каб яму спухнуць, нібы тыя гаршкі на кірмаш вязе, разбіць баіцца…

— А як бы ты думаў, дур'я галава твая? Кур'ерскі хочаш? Не, трасцы… Чэхі, яны, брат, паклапаціліся, галубчыкі, аб тваіх костках: таго і глядзі, рынешся куды-небудзь у прорву і касцей не сабярэш тады… Вось і сунемся паціху, вобмацкам, ды завея к таму, што ж ты хочаш?

— Ды што ты ка мне прычапіўся: хочаш ды хочаш… Памерзнем вось скора, вось табе і будзе: хочаш ды хочаш…

— Не змерзнеш… Эх, галава твая яловая, пра печку ўспомніў, а яшчэ чырвонаармейцам завецца. Табе б на печы ляжаць, падкамячыўшы пад голаў андарак жончын, ды паглядаць, як жонка аладкі пячэ. Ваяка…

— Адкасніся ты… — і абазваны «ваякам» яшчэ старанней укутваецца ў дзіравы шынель, выставіўшы з каўняра толькі кончык носа.

Хіба злуюць? Не. Трэба ж парушыць чым-небудзь непрыемную цішыню, бо спаць усё роўна не хочацца, дый не заснеш тады, калі хочаш. І ўсе ляжаць нерухома, углядваюцца ў змрочную столь, прыслухоўваюцца да бразгатання кацялкоў непакойных ды шурхацення завеі. Часам скажа хто-небудзь, не зварочваючыся асабліва ні да каго:

— Эх, чайку б цяпер…

І хто-небудзь з кутка адзавецца:

— Мо малачка захацеў яшчэ…

Але кожны не быў бы супроць, каб папіць чайку ды пагрэцца ці ў цёплай хаце, ці так дзе-небудзь, каля агню, каля вагоннай печкі, толькі быў бы агонь ды шугала б полымя. Але што зробіш, няма, павывезлі хціўыя чэхі ўсё, што толькі магчыма павезці, пагналі вагоны з сабой, цёплыя, прытульныя вагоны.

А поезд рыпіць і рыпіць, і дзень, і ноч, усё суне ўперад, рассякае ўпартымі сталёвымі грудзямі марозныя подыхі ўсходу. Засталіся ззаду горы, і шыбчэй засакаталі колы, адбіваючы тахты чыгунных напеваў:

— Та-та-та, та-та-та, та-та-та…

Ім падпявае, шуміць цягнік:

— Бяжым-бяжым, бяжым-бяжым…

Але не ўсё ж бегчы. Марознай раніцой стаў поезд, далей нельга ехаць — паўзарваны на станцыі стрэлкі. Абрадаваліся і хлопцы — трохі абагрэемся хоць — і палезлі з надакучыўшага вагона:

— Ну і мароз!

— Гэта, братка, табе не ў нас на Дняпры, дзе і зімой зарыўся ў стог і праспіш, як на печы.

— На печы, не на печы, а ўсё ж не хапае за нос так, як тут.

— Што і гаварыць. Але пойдзем, хлопцы, хоць пагрэемся трохі ў будцы.

Падышлі.

— Ну і людзі, напята дзверы адчыняюць…

І раптам, зірнуўшы туды, усе разам, нібы па якойсьці камандзе таемнай, знялі шапкі, замоўклі і чамусьці пільна ўсе сталі глядзець толькі долу, нібы ніколі не бачылі сваіх чабатоў ірваных, сваіх парыжэлых чаравік. І кожнаму страшна было і неяк непрыемна глянуць туды, дзе на ложку нібы спала маладая дзяўчына. Вунь і рука павісла, і раскінуліся кучаравыя валасы па падушцы…

Але чаму яна нерухома, чаму адкрыты вочы, і на іх, на бліскучай шэрані, не таюць пухавыя сняжынкі?

І адзін з чырвонаармейцаў — стары, абветраны нягодамі і жыццём чалавек, ціха ўвайшоў у будку, знайшоў коўдру нейкую і прыкрыў нагату дзяўчыны, нібы вочы хрустальныя, апушаныя снегам, прасілі яго аб гэтым. І тады нібы з усіх грудзей вырваўся цяжкі-цяжкі ўздых, і нехта моўчкі памахаў кулаком на ўсход, махнуў, не сказаў нічога, але ўсе яго зразумелі, і з грудзей выдавіліся скупыя словы:

— Сволачы, бандыты, а яшчэ — культурныя…

Ля штабеля дроў, што стаяў каля будкі, знайшлі старога стрэлачніка. Ён ляжаў ніцма на снезе, побач ляжаў яго разбіты ліхтар. І агнявымі плямамі свяціліся на сонцы аскалёпкі чырвонага шкла і кроплі крыві. Чырвоныя кроплі на халодным снезе. Так адплацілі старому бацьку бандыты за цёплую шэрань вачэй Арыны, вачэй з залатою іскраю.

А малады чырвонаармеец, які ў першы раз убачыў неўміручую крыўду над чалавекам, над чалавечым жыццём, здзіўлена паводзіў вачамі наўкола і, ні к каму не зварочваючыся, гаварыў, нібы шаптаў паціху:

— Эх, чаму гэта так, чаму, бач, блішчыць яна, рэжа вочы…

— Што?

— Кроў.

— Кроў? А як жа ты думаў? Кроў — яна, братка, гарачая, а снег халодны, таму яна і блішчыць, і чырвань мае…

Хутка пахавалі нябожчыкаў, наладзілі стрэлкі чыгунныя, і пайшоў эшалон на ўсход сваёй пуцявінай жалезнай. З асірацелай будкі ўзялі ў вагон печку чыгунную, зноў у яе бок малінавы — і ад яго цяплынь і пунсовыя шчокі ў абветраных сонцам і марозамі людзей, якім люба ў цяпле піць гарачы чай, прыслухоўвацца к завеям марозным. Што яны ім, калі спевы чыгунныя поруч, гарачыя спевы. Печка спявае — і радасна ўсім, і з радасцю пойдуць усе слухаць назаўтра новыя песні, свінцовыя песні аб жыцці і смерці, песні перамогі над горкай нядоляй людской, перамогі над жыццёвай трухой і брудам варожым.

* * *

Прагрымелі гады поступам чыгунным і аставілі ў сэрцы сталёвую накіп. А печка гарыць, не стухаюць агні ў ёй, блішчаць залатыя зарніцы, мітусяцца па сценах, свецяць прыветна, і ад свету, ад полымя яркага вее цяплынь пяшчотная, грэе сэрца і

думкі грэе, песціць рукі з мазалямі гаручымі. І малы сын — у яго вочы зыркія аганькі — к каленам лашчыцца, углядаецца ў вочы і сур'ёзна-сур'ёзна гаворыць:

— Тата, я люблю жыжу…

Жыжа — агонь, жыжа — іскры.

— Сапраўды любіш?

— Люблю.

— Ну і любі ды расці вялікім-вялікім, падрастай, сынку, на бацькаву радасць, на нашу падмогу…

А печка пяе і спявае чыгунныя песні. За акном траскацяць марозы, завывае вецер галодны. Але што нам? Хіба страшны яны, хіба знімем мы з сэрца сталёвую накіп, хіба зробім яго мяккім і кволым… Не, ніколі, ніколі, покуль ззяюць агні, покуль іскры гараць залатыя…

*1927*

## КРОТ

Плылі туманы…

Дарога плыла…

Драмалася… Не, не драмалася, а хацелася спаць, так хацелася, нібы сон быў найвялікшым шчасцем на свеце, і шчасце гэта стапудовым цяжарам лажылася на распухшыя векі, сціскала іх, але закрыць не магло. Крычалі людзі, дзесьці назойліва гудзеў прапелер, падскаквалі і грукацелі па слізкіх каменнях нашы арбы, цяжка дыхалі коні…

Адступалі…

Трэцяя ноч ахінула дарогу і не самкнула воч нікому.

Блукалі думкі, мітусіліся, насіліся ў карагодзе дзіўным, нібы залатыя пылінкі ў промені сонца, напаўняючы сэрца ціхім смуткам. Смутак, бо распухшыя вочы і вільгаць туману, і раніцы холад, і ўперадзе не Варшава, а Седлец.

Гэта галоўнае што каменем цяжкім прыдавіла плечы, асунула іх, палажыла на траскую арбу. А з боку пан Зяленскі бубніць на вуха. Што ён бубніць, не разбярэш адразу, хіба ахвота слухаць яго, дый ці варта слухаць.

— Мо пан хоча паслухаць, што скажа яму найлепшы прыяцель?

— Хто ж гэты прыяцель?

— Хіба пану казаць трэба хто?

— Ну?

— Хіба ў пана вачэй няма, каб убачыць шчырую праўду?

— Пане Зяленскі, не цягні ты, як ксёндз у касцёле. У чым справа?

— Ах, свенты Езус, пан не хоча разумець праўды, пан не хоча бачыць яе. Хіба не бачыць ён, што я яго лепшы прыяцель?

І пан Зяленскі стараецца ветліва ўсміхнуцца, ад чаго сівы ржэўнік яго шчок нібы палахліва хвалюецца, абгрызеныя вусы ўздрыгваюць разы са два, чырванее нос, на якім асела раса халодных тумaноў. І толькі вочкі, маленькія вочкі ніяк не здолеюць усміхнуцца, глядзяць кудысьці ўбок, знізу ўверх з-пад навісшых брывей, палахліва перабягаюць то на драбіны, то на раменную пужку, то касавурацца ўверх, дзе гудзіць, не змаўкае прапелер.

Я гляджу на прыяцеля вокам здзіўленым, нешта адказваю, не то дзякую за сяброўства, не то сумняваюся ў ім.

Пан Зяленскі наш фурман. Пара гнядых яго коней цягнуць па гразі нашу цяжкую арбу. Ён заможны шляхціц, у яго некалькі коней, але толькі пару з іх мы засталі на стайні на хутары пана Зяленскага. І ён сеў на воз, уздыхнуў некалькі раз, памянуў святога Антонія, памянуў пра шчасце ў дарозе і, узмахнуўшы пужкай, не з-за патрэбы, а так сабе, для формы, выехаў са двара ў неспадзяванае вандраванне.

Я ўспамінаю выезд, успамінаю тры дні, праведзеныя на хутары пана Зяленскага, яго дачку панну Яніну, яе вочы і залаты лён шаўкавістых кос. Ці не ў гэтых косах заблыталася маё сэрца, ці не ў цёмнай глыбіні сініх воч свяціліся тады цёплыя агеньчыкі ветлівасці, а мо болей чым ветлівасці да нас, да прышэльцаў. Бацька глядзеў зверху ўніз, яе вочы глядзелі проста, упіваліся блакітным позіркам у самую глыбіню тваёй душы. Кожны любіў гэты позірк, і ў кожнага ад яго адлятала кудысьці і зморанасць і сотні вёрст пераходаў.

Дзіўная Яніна… Ці не яна сваімі рукамі змыла бруд з нашых сарочак, якіх не дакраналася вада ад крутых дняпроўскіх берагоў да цёмных і бяздонных віслянскіх віроў. Заўважылі ж яе вочы наш ціхі сорам — мы не хацелі лажыцца на беласнежныя прасціні, не хацелі пакрыць іх пылам дарог, упляміць тванню непраходных балот. І мы прасілі сена, пахучага сена, мы прасілі саломы — у ёй цвет сонца і раздолле неабсяжных палёў, якім родны былі нашы сэрцы і думкі, нашы казачныя пераходы.

Панна Яніна памыла сарочкі нашы і палажыла нас на беласнежныя прасціны. Мо яна любіла нас, мо чыё прапыленае

сэрца заглянула ў глыбіню яе дзіўных вачэй? Хто яго ведае? Але кожны з нас ведаў, што ў панны Яніны брат — чырвоны, і кожны чуў на зары, як шыпеў за сцяною пан Зяленскі:

— Я пракляну цябе, няшчасная мая дачка, калі не кінеш ты ўглядацца ў вочы нашых ворагаў, забруджваць хату маю іхнім смеццем… У-у… здрадніца…

А ціхі голас адказваў:

— Ты хочаш, тата, застацца адзін, бо мне заўсёды знойдзецца месца там, дзе брат мой…

— О свенты пан Езус, даруй мне прадвечную тваю літасць… Змоўкні, нягодніца, закрый свае брудныя вусны — у іх здрада, у іх хула на прадвечнага Пана Бога.

— Тата…

— Годзе…

Мы чулі, мы ведалі гэта. Ведаў і я, чаму цяжка ўсміхнуцца пану Зяленскаму, чаму сівы ржэўнік шчок яго замест усмешкі хвалюецца кіслай шчацінай, чаму вочы яго замест цеплыні стрыкаюцца снапамі іголак. А пан Зяленскі лісліва бубніў:

— Пане, даражэнькі пане, паслухай, што скажа табе вернае сэрца… Вайна — зло, асабліва для тых, у каго гарачая кроў, хто кахае.

— Ну?

— Пан кахае Яніну, я ж гэта бачу, я ж гэта ведаю… А я ж даводжуся бацькам ёй…

І ў тон яму адказваю:

— Ну, што з таго? Калі пан і кахае Яніну, навошта яму любіць пана Зяленскага?

— О-о… пан любіць жарты, але старыя жартаў не любяць, навошта яны, яны атрута старому сэрцу. Я без жартаў, мілы мой пане, без жартаў, я маю лес і зямлю…

— Ну?

— Лес і зямлю, даражэнькі мой пане. Мая хата… дык навошта казаць, хіба ясны пан не бачыў яе сваім уласным вокам. А мой сад, вы не знойдзеце такіх у самой Варшаве, не то што ў Гарволіне нашым…

— Ну?

— Што пан даражэнькі занукаў? Я хацеў бы яшчэ сказаць, што ў мяне стаеннікі коні і варшаўская збруя, што ў мяне каровы…

— Годзе, пан, даволі, бліжэй да справы!

Пакрыўджаны пан маўчыць з хвіліну, потым зноў стараецца зрабіцца цяплей за сонца і, нібы робіць мне надзвычайны падарунак, паціху гаворыць:

— Я б хацеў… я б жадаў мець пана за зяця…

Мне смешна, мне здаецца, што смяюцца туманы наўкол, заліваюцца шалёным рогатам колы арбы, грукаючы па слізкіх каменнях, і самі каменні заліваюцца слізкім смехам.

Усё смяецца, смяецца чалавечаму глупству, мізэрнасці чалавечых жаданняў. Мне здаецца, што заліваецца рогатам сам пан Езус, што павіс нямым распяццем на раздарожжы на пахілым, замшэлым крыжы, на якім мае зліплыя ад роснай вільгаці вочы чытаюць такія смешныя, такія недарэчныя словы: «Свенты пан Езус, сховай нас от твоего гневу!»

Хіба не з'яўляюцца яны, гэтыя словы, самай цяжкай насмешкай над чалавечым жыццём, данню чалавечаму глупству, асабліва калі ляжаць пад крыжам тры чалавекі, тры забітыя салдаты: два польскія і адзін чырвонаармеец. Яны трое маўчаць, аддаўшы жыццё сваё — адзін за лепшую долю, за шчасце дзён новых, два — за ліпкія кайданы сваёй сіне-змрочнай айчыны. Мне балюча, мне шкада іх усіх. Мне балюча за надпіс на пахілым крыжы, ён апаганьвае іх, апаганьвае памяць аб іх, спыніўшых сэрцы свае навекі.

Пан Зяленскі баіцца зірнуць у шкляныя вочы забітых, у якіх холад туману. Пан Зяленскі, зірнуўшы на прыдарожны крыж, сціскае плечы, апускае павекі на свае кратовыя вочы і шэпча нешта, шэпча ціха. Моліцца, ён баіцца смерці, ён баіцца пакінуць кароў сваіх, варшаўскую збрую, п'яныя слівы сваіх садоў.

Крыж перарваў нашу гутарку, мы едзем моўчкі, але нядоўга.

— То што пан скажа?

— Аб чым?

— Ды я ж казаў пану?

— Ага… добра, я згодзен, чаму мне не быць вашым зяцем. Вось скончым вайну, і я прыеду да пана Зяленскага пад зялёныя слівы. Мы справім шлюб з паннай Янінай на вялікую радасць і ўцеху пана Зяленскага…

Я бачу, як гасне паволі ўсплыўшая на калючую шчаціну радасць пана Зяленскага, і ён шэпча ціха:

— Не… не… я думаў іначай… А пану ўсё жарты, усё жарты… Для чаго і навошта чакаць? Хіба не можам… ну… паехаць цяпер… Навошта ехаць на Буг, калі можна паехаць на Віслу… Хіба пана кране хто пальцам? Хіба я не вазьму яму пашпарт у гміне?..

Словы прыдушаным шэптам льюцца з-пад абгрызеных вусоў, кожнае слова вострым джалам упіваецца ў маё сэрца, абурае яго з нечуванай сілай… Мне хочацца крыкнуць на пана нечалаве-

чым крыкам, закрыць яму рот прыкладам халоднага карабіна. Але пан сам змаўкае, кратовыя вочы палахліва замітусіліся, і, уцягнуўшы галаву ў плечы, ён сядзіць нерухома, баіцца зірнуць мне ў вочы, заўважыўшы ў іх агні чалавечай нянавісці.

З-за сіняга лесу выплывае паволі сонца і купае шнуры залатыя ў паўзучых струменях туману. Туман пачынае клубіцца, падымаецца ўверх і нікне, растайвае ў бяздоннай вышыні блакіту. Ад сена — вераснёвы пах і ліпнёвая цяплынь. Яны хіляць галаву да сну, ахінаюць яе ў чароўныя мары. Закрыеш вочы — і дзіўныя вобразы адзін за адным лунаюць у карагодзе бясконцым, у карагодзе, сатканым з красак стагоддзяў, з магутных подыхаў людской грамады, з вобразаў даўно мінулых дзён прашумеўшых, з жалезнага рокату расквітаючых дзён будучыні, з чалавечых дум і жаданняў… Вунь устаюць з шэра-змрочнай глыбіні вякоў крывавыя барыкады Парыжа, дзе халодны граніт і слізкія каменні чалавек напаіў сваёй лепшай крывёю.

У чырвоным дзіўным тумане праходзяць польскія валанцёры сталёвых кагорт Гарыбальдзі. У іх сэрцы агонь, і думкі іх — праменні будучыні… Хіба не гэтымі праменнямі свіціліся і барыкады Варшавы?!

І аднекуль з-пад шэрых і слізкіх туманаў выплываюць кратовыя вочы, яны шырацца, шырацца, засцілаюць гнілымі павекамі дзіўныя здані мінулага, іх шэрыя плямы расплываюцца слязою авечай па чырвані пламянеючых зор…

Ах, гэта збруя варшаўская! Гэта пан Зяленскі бубніць паціху пра коней ды пра белых авечак, балазе здаецца яму, што я сплю.

— О, каб ён ведаў ці бачыў! Яму не давялося зірнуць на маю збрую варшаўскую, на маіх парсюкоў знатных.

— Пан, бачу я парсюкоў тваіх знатных, бачу белае тваё сэрца авечае, што заблыталася ў варшаўскай збруі.

Але разблытаецца яно, я пашлю яму залатога чмяля з слаўнай маёй карабінкі.

Пан касавурыцца на карабінку, пан закрывае рукамі вочы, калі дула патыхае на сівыя скроні холадам смерці, з-пад пальцаў п’яўкамі шэрымі ўюцца слёзы і капаюць, капаюць на пахкае сена. І нібы з магілы чуецца голас:

— Пане, найдаражэнькі пане, гэта толькі маленькі жарт, самы малюсенькі жарт, мы назад не паедзем, з вамі ехаць гатоў да Масквы. Дый хіба пане, няхай ён будзе здаровым навек, хіба ён забыў на Яніну, хіба хоча ён, каб яна засталася без бацькі?

— Так, я хачу, каб яна засталася без пана Зяленскага, бо ён не бацька ёй, а люты вораг.

Пан шалёным голасам крычыць «ратуйце» і стараецца ўліпнуць у драбіны, зрабіцца нявідным для жорсткага халоднага дула.

Прачнуўшыся, чырвонаармейцы хапаюць мяне за руку.

— Не чапай, чорт яго бяры…

Кратовыя вочы засталіся жывымі.

Пан Зяленскі ўцёк цёмнаю ноччу. Ноч спрыяла яму — пан любіў цемень — цемень ночы і кратовай нары.

— Застаўся ты, браце, без цесця сірата сіратою, — смяяліся на зары нашы хлопцы.

— Нічога не паробіш, не судзіў лёс…

— А слаўная ўсё ж такі была дзяўчына Яніна… — адзываліся задуменна другія.

І ўсплылі ў думках у кожнага блакітныя вочы і залаты лён шаўкавістых кос…

І поруч крот і кратовыя вочы, ненавісныя, нелюдзімыя, якія не любяць сонца, не любяць святла.

Плылі туманы…

Дарога плыла…

І мы самі плылі ў чырвоных туманах, у іх купаліся нашы прапыленыя сэрцы і, змываючы сум і тугу, напаўняліся грымучаю радасцю — перад намі ўставалі новыя дні, дні наступленняў.

*1927*

## НАД БУГАМ

Хто не любіць адпачынку на зялёных лугах, асабліва, калі пякуць мазалі пасля пераходу і пацягвае жывот ціхім сумам аб кашы з салам, аб шклянцы чаю з пахкім хлебам салдацкім. Адпачынак быў, але не было кашы, не было сала і толькі чай булькаў у кацялках. На бульбатках скакала сонца, а навокал лугі расцвіталі кураслепам і незабудкамі, і дзесьці там, каля вёскі, кудахталі куры.

І ўсім было весела, усе смяяліся, смяяліся сонцу, падобнаму часам на кураслеп жоўты, смяяліся незабудкам і цвятам купальскім, смяяліся Ваську Шкетаву, яківарыў ужо гадзіны са дзве жыта з сырымі падабабкамі. Ён часта бегаў да рэчкі мяняць ваду ў кацялку, не хацела ж бо жыта мяккім быць, ніяк не ўдавалася варыва Ваську, хоць і быў ён на гэтыя штукі добры майстра, бо быў Васька раней за кухара ў Маскве. За кухара не за кухара, а

падкухарам, так сказаць, аб чым кожны з нас дасканала ведаў. Ведалі, бо сам Васька не раз казаў аб гэтым, і, калі сумняваўся хто, ён казаў заўсёды:

— Ты не верыш… Не верыш, вось табе крыж чэсны і зялёныя макаўкі, няхай я з месца не ўстану, калі не прыпраўлю табе селядца так, што запяе язык твой Херувімскую з Багародзіцай. Эх, елкі-палкі зялёныя…

Але нягледзячы ні на елкі, ні на палкі зялёныя, не паддавалася жыта кулінарнаму майстэрству Ваські, хоць даўно павыкідваў ён з кацялка падабабкі, насыпаў у жыта недзе скрадзеных чарніц сушаных і ўсё варыў і варыў, варыў да дзясятага поту. Не даварыўшы, панюхаў і, памянуўшы Хрыста з усім сваяцтвам, выліў цудоўную страву з усімі прысмакамі пад лазовы куст, спаласнуў кацялок і, зачарэпаўшы ў кагосьці кубак чаю, падступіў да кампаніі, якая вяла шырокую дыскусію пра папоў і ксяндзоў.

Чырвонаармеец Тарас, уфімец з-пад Белебея, спрачаўся са старым фурманам панам Антосем, хто лепшы: поп ці ксёндз. Спрэчкі былі гарачыя, бо для некаторых само пытанне было, так сказаць, цікавым і важным, патрабуючым безадкладнага вырашэння. У дыскусію ўмешваецца Васька.

— Эх, елкі-палкі зялёныя! Яны аб ксяндзах, яны аб папах… Ды начхаць я хацеў на іх на ўсіх, нашлі аб чым языкі часаць. Эх, людзі вы, чалавечкі…

Дыскусія відавочна расстройваецца, пане Антось, нездаволены, лезе ў кішэню па табакерку. Тарас, зірнуўшы на неба і пачухаўшы спіну, прымайстроўваецца спаць пад арбой, паслаўшы ўслед Ваську пару не зусім прыемных пажаданняў. Усе разбрыдаюцца пад арбы, а Васька… Васька ідзе да вёскі пашукаць яек курыных, на якія ён вялікі аматар і вялікі спец па адшукванню курыных гнёздаў.

* * *

Спяць хлопцы пад доўгімі арбамі. Коні хрумстаюць сена, авёс. Натапырыліся ўгору аглоблі жоўтыя, нацэліліся ў бяздонныя люстры блакітныя, якія праціраюць беласнежныя воблачкі. Плывуць воблачкі, карагодзяць, з блакітам зліваюцца, нікнуць і тонуць у пяшчотных хвалях сонечных. Нікнуць і тонуць… Хрумстаюць коні авёс, умінаюць зямлю капытамі. Хрумстаюць коні авёс… Не спіцца Івану.

Ён пакінуў у далёкай вёсцы разанскай жонку з чатырма дзіцянятамі, аб якіх часта і часта думае. Вось і сягоння, лежачы

каля арбы, ён некалькі раз уздыхнуў, успомніў далёкія сенажаці, роднае поле, палосы аўсяныя, п'яныя канаплянікі. Уздыхнуў, сказаў уголас:

— І як яна там, ці ўправіцца ў час, ці даглядзіць…

— Хто, што, чаго?

— Вядома хто — жонка…

І чорная барада Івана нерухома вісіць, з хвіліну вочы, не міргаючы, глядзяць кудысьці ўдаль праз лясы, праз дарогі, праз празрыстую дымку палёў.

— У нас, брат, цяпер самы гарачы час у полі, а рукі, яны, браток, адны ў гаспадарцы, куды іх ні кінь — не абярэшся працы, а я вось лодар…

Іван сумуе аб працы, сумуе аб каласах жытніх на сваёй паласе, аб заліўных сенажацях, аб дзецях-румзах, аб жонцы, аб тым, што не шкодзіла б плуг наварыць, бо, мусіць, сцёрся адвал даўно. Многа аб чым ёсць падумаць, і каб прыбіць крыху думкі да сырой зямлі, прыглушыць іх чым-небудзь, Іван знаходзіць сякую-такую працу. З салдацкага мяшка дастае штаны і пачынае старанна прышываць адарваны гузік. Тоўстую шэрую нітку шморгае кавалачкам воску, каб даўжэй быў нітачны век. Закручвае на пальцы вузел і пачынае арудаваць іголкай, з якой, відаць, не так яму зручна абыходзіцца, як са штыком.

Іван шые старанна, аж пот выступае на лысіне, але ж і гузік цяпер не адарвеш паўротай салдат, прышыў гузік навек, штаны падзяруцца, а гузік цэлы будзе. Завязаўшы на нітцы вузельчык, Іван перагрызае яе вострымі беласнежнымі зубамі, акуратна складвае, здуваючы пылінкі, штаны і кладзе іх у мяшок. З мінуту думае нешта, маўчыць, потым кажа суседу:

— Бач, гузік — невялічкая справа, а павінен ён, гузік гэты самы, сваё месца мець, бо не можа адзежына быць без яго, як, напрыклад, карабін твой без затвора.

— Ну, параўнаваў… яшчэ што скажаш…

— А то і скажу, павінна кожная рэч сваё месца ведаць, іначай, голуб мой, непарадак. Вось я, напрыклад, сябе вазьму, хіба я чалавек цяпер…

— А хто ж, мо блыха вадзяная?

— А мо горш і блыхі. Бач, мазалі чэшуцца, ім працы падай, а дзе яе возьмеш. Каторыя ўжо суткі ідзём, а хоць бы штыком паварочаць, ці што…

— Хто ж вінават, калі ўцякаюць без памяці белыя, ніяк не дагнаць іх…

— Так, не дагнаць…

Іван зноў корпаецца ў сваім мяшку, наводзіць парадак, складвае да месца ніткі, кавалачак воску, агрызкі засаленай паперы, абмусолак аловачны, пудэлачак з-пад ваксы з іголкамі і сухарны мяшочак з цукрам, старанна зашыты, будучы падарунак жонцы. Пераклаўшы ўсё ў парадак, агледзеўшы зноў пару новых, толькі што атрыманых, летніх анучак, Іван доўга любуецца на сваё багацце, на сваю салдацкую гаспадарку, уздыхае разы са два, завязвае мяшок і вымае з-за пазухі скомканы канверт, закаплены салам. То ліст ад жонкі.

Калі няма чаго рабіць, Іван заўсёды чытае гэты ліст, чытае паціху ўголас, каб чуў і сусед.

— «…І яшчэ кланяецца табе ўсеніжаючым паклонам сын твой Кірыл Іванавіч і гаворыць ён ужо “тата”. І яшчэ пішу табе, дарагі супруг мой, Іван Сяргеевіч, што жыта на “лужках” вымакла зусім, затое на гары і пад лесам сцяной ідзе, не пралезеш. І яшчэ ў цялушкі ўжо рогі выраслі і болей каровы не ссе. І ці праўда, Вань, што белыя нехрысці, не нашае веры, так і на сяле бабы баюць. І яшчэ пішу табе, дарагі мой супруг, Іван Сяргеевіч, што жысць мне не ў жысць, і калі лягу я цёмнай ночанькай, ніяк вочы не самкну, бо ў іх слёзы стаяць і пакута мая, доля мая гарапашная, бо не маю я шчасцейка пацалаваць цябе ў твае сахарныя вусны. І яшчэ жадаю табе скорага поспеху ў справах рук тваіх і ўсякага шчасця ў тваёй салдацкай долі».

— Та-ак… жаласлівая ў цябе баба, відаць, — уздыхае сусед і круціць цыгарку з газеты.

— Баба, браток, як баба, найлепшая баба, што і гаварыць, на ўсё спрытна.

— Гэй ты, пяхцер, разлёгся тут бабай разанскай, нельга і да арбы падысці, — раздаецца раптам голас Ваські Шкетава, прыйшоўшага з вёскі.

— Ну, ты памалу, не рыкай, — бурчыць спакойна Іван.

— Табе гавару ці не, павярніся, дарогу дай.

— Можаш з другога боку падысці.

— А я табе гавару — павярніся!

— Адчапіся…

— А-а-а… дык ты так… пачакай жа, я цябе павярну…

Васька Шкетаў цягне Івана за нагу ад арбы. Ён і так бы падышоў да арбы, але як жа, хіба можа хто станавіцца Ваську на дарозе. Іван сапе, чырванее і, злаўчыўшыся, дае па шапцы Ваську. Апошні адразу кідае нагу, бо чуе, як нешта ліпкае і цякучае льецца за каўнер, льецца па твары, залівае шыю і вушы.

Іван на хвіліну слупянее ад перапалоху, потым заліваецца грамавым рогатам, і толькі бабы-фурманшчыцы, сашчарэпіўшы рукі, галосяць:

— А божачка ж мой, забілі, бач, і мазгі пацяклі.

А «забіты» спрытна бяжыць да рэчкі, скідае шапку, старанна абмывае галаву і каўнер гімнасцёркі, потым доўга лае Івана:

— Пяхцер ты разанскі, елкі-палкі, і больш нічога, бач, усе яйкі пад шапкай пабіў, вось табе і дуля цяпер, а не яешня, пасмакуй цяпер трасцу з макам.

— Хопіць з цябе яшчэ ў кішэнях, а пагавары вось толькі, — і тыя патаўку.

— Ат, з табой гаварыць, елкі-палкі.

І каб далей ад граху, Васька ідзе да цяпла і пячэ моўчкі ў прысаку яйкі, цярпліва перасыпае іх гарачым вуголлем. Сядзіць і маўчыць, а ў галаве мітусяцца думкі, лянівыя думкі, туманныя.

«Хутка яйкі спякуцца… Ну і што ж з таго? З’ем я іх, ну і што ж, болей нічога… Дурань быў, не сцягнуў курыцы, а была нішто і зручна б узяць, эх, падзакусіў бы, елкі зялёныя… Але што з таго, глупства ўсё, хіба вось галіфэшку справіць мадней, каб дуліся на ўвесь свет пузырамі гэткімі важнецкімі з чырвонымі кантамі, — нябось і дзяўчаты не крысіліся б тады. Але што дзяўчаты, хіба іх не бачыў, і, елкі-палкі, калі сам я… эх, што гаварыць, нічога не варты, мухаморына адна, так нешта-нейкае з боку прыпёку…»

І ўспамінаецца Ваську не жыццё, а нейкае непаразуменне — быў падкухарам, быў і чалавекам у тракціры, потым неяк здарылася — захляснула Ваську жыццё цёмнай хваляй, і куды ні кінь на жыццёвыя сцежкі мінулыя, на іх толькі боўтаюцца кішэні павыразаныя, павыціснутыя шыбы акон, клумкі бялізны крадзенай, цёмныя сінякі пад вачамі і пабітыя рукі, пабітыя ногі. Праўда, успамінаецца яшчэ тоўстая Манька, якая дарыла каханне за пяць пятакоў, і было гэта каханне гарачэй да тых, хто звінеў серабром перад меддзю, хто не ўглядаўся, даючы пятак, — якога ён года. І так брыдкі былі яе потныя абнімкі, калі, круцячы любоў, яна гнусавіла часам:

— Купі, Васька, залаты браслет, буду век любіць, маё золатца… А не купіш браслет… купі семечак.

І біў Васька кулаком па няцвёрдых ужо Маньчыных грудзях, біў і прыгаварваў:

— Ты цяпер пра каханне мне кажы і не кідай на сэрца гнілых семечак… гнілых семечак ды браслетаў тваіх непатрэбных…

Але што Манька? Хіба ёй зразумець душу Васькаву, хіба з ёй гаварыць пра сэрца, у якім палаюць часам нязведаныя агні, непазнаны сум аб чымсьці дарагім у жыцці, дарагім і страчаным, якое не вернеш ніколі. І што яно — гэтае самае непазнанае, — не ведае і Васька сам. Вось устае нешта перад вачамі, дарагое, дзіўнае, сатканае з тваіх жаданняў, са светлых надзей, апавітых нібы сонцам ружовым, а што — не разбярэш добра.

Але добра ведае Васька, што за гэтым самым непазнаным і нязведаным пайшоў ён у Чырвоную Армію. А мо прыйдзе шчасце, звычайнае шчасце людское, якога не бачыў Васька ніколі.

У прысаку трашчыць шкарлупа.

— Эх, елкі зялёныя, яечкі чуць не спаліў. Гэй ты, цяцера разанская, хадзі на яешню!

— Еш сабе сам на здароўе, — бурчыць з-пад арбы Іван.

— Хадзі, хадзі, пяхцер, чаго дуешся…

Іван думае з хвіліну — ці ісці, ці не ісці, але пацягнуўшы носам прыемны пах ад цяпла, нерашуча падымаецца, апіраецца на локаць і глядзіць на Ваську, які падкідвае яйка ў руках, каб астыла. Ну, дзе тут сцерпіш, і Іван рашуча падымаецца, укладвае наперад свой мяшок на арбу, акуратна пакрывае яго шынялём і ідзе ўразвалку да цяпла, да Ваські.

— Бяры вунь тое, павінна гатовым быць.

Між Іванам і Васькам цячэ мірная бяседа. Васька расказвае, як удалося яму ў вёсцы з яйкамі, як падміргнуў ён маладой дзяўчыне і як яна праз акно паслала пацалунак яму.

— Мо дулю? — сумняваецца Іван.

— Ну… выдумаў, табе толькі дулі і сняцца…

Хутка Іван расказвае, як качаў ён калісьці ў вёсцы яйкі і выйграваў заўсёды:

— Бачыш, трэба сакрэт такі невялічкі ведаць. Не кладзі яйцо проста, а трошкі бачком, бачком. Яно як пакоціцца — коціцца, коціцца, дый як чукнецца ў самы гэты, значыцца, акурат…

— Т-а-а-к… — адказвае Васька. Але ён не думае ўжо пра яйкі. Васька глядзіць на сонца, якое знізілася над далёкаю вёскай, ушчэрбілася ветраком, спускаецца ўсё ніжэй і ніжэй. Хутка ноч, а ноччу, чуў Васька, наступленне, пераход за Буг. І раптам, нібы падштурхнуты кім, ён гаворыць вясёла:

— Жы-ы-вём, Ванька!

— Чаго?

— Нічога…

* * *

Булькае вада пад навісшымі лазнякамі.

Булькае чорнымі пузырамі, бо як сажа — цёмная ноч. Ля поўначы блізка. Над Бугам мёртвая цішыня, толькі там, пад лазнякамі, чуюцца прыдушаныя ўсплёскі вады. Не разбярэш адразу, ці то хвалі на хвалі сярдуюць і, злосныя, б'юцца адна аб другую, наганяюць адна адну і ў бяссіллі сваёй барацьбы ліжуць пясок прыбярэжны языком вадзяным, халодным… А мо насцілаюць сапёры масты — надуўныя пантоны.

Так, насцілаюць.

Мы ляжым у лазняках і чакаем з хвіліны на хвіліну, калі скажуць нам:

— Па два ў рад, на пантоны!

З-за Буга глядзяць у цёмнай слепені тысячы вачэй смерці, глядзяць таемныя, невядомыя, як дно Буга начнога. Мы павінны ўзяць той бераг, адагнаць вочы смерці далей, каб на тым беразе сустрэць сонца, а з ім разам залатую радасць жыцця і поспех наступлення.

Поплеч Ванька ляжыць. Ванька разанскі. Перад выступленнем ён выняў з мяшка салдацкага свае запаветныя штаны з прышытым гузікам новым, паглядзеў неяк дзіўна і, прыбраўшыся ў іх, сказаў ціха і глуха:

— Яно, браткі, усяк бывае… На тое ж ён Буг, бачыў днём, як круцяць віры на ім, аж жоўтая пена з пузырамі скача…

І мы зразумелі Івана, хоць ён і не гаварыў пра варожыя акопы на тым беразе, памянуў толькі пра пену. І цяпер Іван нецярпліва шэпча:

— Ах, хоць бы хутчэй, хоць бы хутчэй…

А поплеч Васька Шкетаў, захліпаючыся, сыпле незразумелыя словы:

— Ноч ты мая, ночанька, ночанька блакітная…

— Што ты вярзеш немаведама што, якая табе блакітная?

— Каму што, а мне блакітная. Каму цемень, а мне — жысць ты мая, жысць ты мая размалінавая!

І, нахіліўшыся да мяне на вуха, Васька шэпча з запалам:

— Братка ты мой, братка родненькі. Жыву ж я цяпер, жыву, чалавек я цяпер, не абы-хто…

— Што з табой?

— Ах, хіба табе зразумець мяне… Брат ты мой даражэнькі, кім я быў да гэтага часу, а цяпер хто я? Хто я цяпер? Ты кажаш цёмная ноч, а мне яна сонца святлей, бо вочы мае адкрыты, вочы

бачаць жыццё… Не тое… не старыя дні… Эх, елкі зялёныя, няхай бы дні тыя захлынуліся ў гэтай начы… Жыць я пачаў цяпер, жыць чалавечым жыццём, вось у чым справа… Чарвяк я быў, і нікчэмны чарвяк, а цяпер, цяпер…

Шалясцяць галінкі лазняку прыбярэжнага ад мядовага подыху ночы. Булькае вада чорнымі пузырамі. Дзесьці там, далёка, на тым беразе, мусіць, на старой сівой званіцы, прагудзеў мілагучны звон і пранесліся гукі ў цёмных пахучых туманах ночы, скалыхнуўшы паветра медна-шоўкавымі невядомымі хвалямі.

— Эх, мусіць, дзве гадзіны ўжо…

І зноў напружаная цішыня, закаваная ў ланцугі чакання, чакання невядомага, магчыма, страшнага, чакання непазнанага, якое нават пасля пазнання становіцца зноў таемным, зноў чаруючым для чалавечага сэрца.

Вымі сэрца сваё, адкрый перад ім усе таямніцы жыцця, ахутай цеменню і халоднымі туманамі ночы і падстаў яго пад свінцова-агнёвыя віхры, і замрэ яно болем ціхім, салодкім, заные ад суму і радасці — у гэтым вось яно — непазнанае і чаруючае…

Цішыня. На тым беразе загарэлася іскра, мусіць, неасцярожны вартавы запаліў папяросу, закалыханы цішынёю ночы і марамі аб далёкай Познані.

Загарэлася іскра і згасла, і толькі Васька дыша часцей, і гарачы шэпт яго апальвае твар мне:

— Вось успомню я, успомню… Каменні шэрыя… Слізкія сцены ліпучыя і пратухлы кут… А сэрца, яно, браце, пустое, і ніякай у ім радасці, ні агню ў ім, ні дыму — усё копаць адна, беспрасветная копаць…

І закопчаны думкі.

І забруджаны рукі.

І сэрцу так хочацца жыць, яно хоча цвісці… І скажуць тады яму сцены ліпучыя, брыдкія шэрыя каменні:

— Каханне — што каханне? Каханне — штука няхітрая, толькі дай чацвяртак, і пазнаеш, што на свеце салодкае.

Так, чацвяртак… і салодкае робіцца горкім, і ўсё жыццё тады — тухлыя сцены памыйніцы. Не ў адным каханні справа. Дарагі яшчэ вочы людскія. А калі яны, гэтыя вочы, глядзяць на цябе халоднымі пузырамі бычынымі, а людскія заткалы-раты гнусавяць ляніва:

— Гэй ты, чалавек…

— Шантрапа…

— Замухрыжаны шкет…

— Што будзеш рабіць тады, хіба ноч расцвіце перад табой пахучымі краскамі… Не, папаўзуць нудныя думкі твае шэрай

змяёй па слізкіх каменнях, і сэрца патопіш у бруд. А цяпер… што цяпер, братка мой, родненькі, дарагі… Я цяпер…

З-за лазнякоў чуцен голас каманды:

— Уніз, на пантоны. Ды глядзі, не бразгаць і ніводнага слова, ні гуку — замры, бы вадою раты наліўшы.

І адразу ўсіх кідае ў хмель, хмель гарачы, вясенні і разам хмель восені яснай, калі ясныя думкі і гарачая кроў. А рукі і ногі нібы наліваюцца сталлю, і цела спружыніць, і ўглядаюцца вочы ў сляпую цемень ночы і ў цёмную слепень будучыні.

Булькае вада чорнымі пузырамі, пена віроў ліжа ногі, і гойдаюцца калыскі-масткі зыбучыя, масткі пантонныя.

А ў сэрцы музыка. Граюць цудоўныя струны аб непазнаным, таемным, і гукі музыкі дзіўнай то запальваюць кроў агнямі, то астуджваюць яе крыштальнымі льдзінкамі… Але тонуць ільдзінкі, растайваюць у гарачым хваляванні крыві.

Наўкол цішыня, толькі ціхія ўсплёскі вады, усплёскі прыдушаныя.

І раптам сіратой адзінокай праграымеў выбух стрэлу. Бліснула ціхая цемень залатою істужкай агню. Здаецца, з хвіліну цішыня яшчэ мацней згусціла свае невядомыя фарбы, здаецца, ноч яшчэ ніжэй апусціла свае мяккія чорныя крыллі.

Толькі хвіліну…

І, абуджаючы лясы і цёмнае неба, узняўся і нібы зашалясцеў у паветры магутны рокат, усё сільней, сільней, запальваючы мора агню, і над морам вогненным замітусіліся ў карагодзе шалёным цудоўныя іскры.

Закіпела вада наўкол. Скалыхнуліся масткі зыбучыя, вадзяныя пырскі змяшаліся са свінцовымі віхрамі…

Штосьці вялікае прасвірчэла з гарачым звонам у паветры, бухнула недзе блізка, і ўзвілася вада ў агнявы клубок, які разляцеўся вадзянымі і сталёвымі пырскамі.

Гудзенне сталі змяшалася з завываннем свінцу, сударгавай трэллю вінтовак, і цёмнае далёкае неба пералівалася па ўсёй сваёй шырыні хваравітымі дрыжачымі ўспышкамі.

А ўжо там, на тым беразе, узнімаліся віхрам новыя гукі.

То чалавечыя грудзі, напружваючы радасцю сілы, рассякалі паветра грамавымі выкрыкамі «ўра».

І ў гэтых гуках раставалі, ніклі свінцовыя песні і ржавае свішчэнне сталі. Цемень ночы паблякла, паліняла, зрабілася шэрай, празрыстай.

Бераг стаў нашым.

* * *

А раніцою, калі першы промень сонечны прастроміў прапахлыя порахам халодныя туманы над Бугам, мы пахавалі сваіх таварышаў. І пахавалі Ваньку разанскага і Ваську, Ваську Шкетава. Яны памерлі ад ран.

Санітарка Насця, сціраючы назойлівую слязу з вока, чытала ліст, які напісала яна пад Ванькаву дыктоўку. Ліст быў дадому:

— «…І пішу табе, дарагая мая супруга Алена, не палохайся ты… І шлю табе паклон з непераможнага палка нашага… І яшчэ табе паклон ад сырой зямлі і жадаю табе шчасця і долі, а таксама і маім дарагім сынам. І яшчэ пішу табе, што я ўжо…»

Плакала Насця, не ведала, як ліст пасылаць, калі ён не дапісаны, — не дачакаўся Ванька канца дыктоўкі. Плакала Насця, і каціліся слёзы на сіратлівы мяшок салдацкі. Ванькаў мяшок — яго пасылала Насця ў разанскую вёску нечаканым падарункам Ванькавай жонцы…

Васька не пісаў нікому, толькі ўсміхаўся шчаслівай усмешкай сваім таварышам, ды збялелыя вусны шапталі апошнія, незразумелыя для некаторых словы:

— Эх, позна, позна, і так рана, рана…

*1927*

## У МЯСТЭЧКУ

У нядолі і ў долі шчасце куй ды падкоўвай, прыгравай несціручымі мазалямі. Рукі апусціш — не чалавек ты, а стары атопак, якім папіхаюць куры на сметніку. Ды вось як, не апускай жа рукі, бо заўсёды іх шыла чакае. А з шылам і малаток запанібрата. А да іх — скуры кавалак, дратвы маток, і што табе трэба, — сыт будзеш, жонка часцей усміхнецца, і весела скажуць дзеці:

— Татка, татачка, на яблыкі дай!..

І дасі… На тое ж яны і дзеці, каб на яблыкі ім даць, бо іначай… іначай ты не татка і не чалавек.

А калі заварушацца шэраю купінай нудныя клопаты, калі чорныя думкі апануюць розум і на сэрца наляжа камень шызага суму, — бяжы тады, чалавеча, узніміся з скрыпучага зэдліка і бяжы, прабегайся, праветры зямелыя ногі, развей, раскідай нуду жыццёвую па вуліцах ды па завулках ціхіх. Потым будзеш вясёлым.

І бегае стары Шолам, хутка бегае. Сядзіць, сядзіць над шавецкім начыннем і раптам падскоча, шапку нацягне, у рукі палку — і толькі ты яго і бачыў; а ён ужо на другім канцы мястэчка. Праз хвіліну назад лапаціць.

Дзіўны чалавек Шолам. Пабегае, пабегае і зноў на месца, зноў шархаціць дратва і скача малаток на падэшве. А там, глядзіш, з-пад рук і выйдзе чаравік новы ці бот прыгожы. І тады Шолам заўсёды кажа сваёй жонцы:

— Эстэрка! Бачыш, бот новы — на суботу пшанічнай мукі купіш. А чаму бот новы? Бегаў я, занадта бегаў, бо вельмі перапляліся думкі паміж сабой, перапляліся так моцна, як добра падсмажаны грыбэнэс. А калі пераплятаюцца думкі, тады ніводнай не відаць, бо адна засціць другую. Прабяжыш — усё і становіцца ясным, на месцы сэрца і розум…

Шолам гаворыць, а дратва шорхае ў спрытных руках, глядзі — другі бот вылузнуў капыл з сябе і, чорны, бліскучы, ставіцца на паліцу. Бот на паліцу — і ўсміхнецца Шолам, рукі патрэ, жонцы міргне і скажа:

— Гут…

— Ой, гут, гутэньке… — адказвае Эстэр, а Шолам, зглымаўшы печанае яблыка, зноў за бот, за новы, бо шмат ботаў трэба. Але што ж, калі ў Шолама толькі пара рук уласных ды поўная хата таксама ўласных дзяцей, а ў кожнага дзіцяці рот, і кожны рот мае за звычай адкрывацца па некалькі раз на дзень ды пачынаць адну і тую ж нудную казку:

— Мамка, хлеба…

— Мамка, есці…

— Гурка-а…

— Цыбу-у-лі…

— Рэдзькі, рэдзькі, рэдзькі…

А самы меншы селядца любіць, ой, як любіць, ды яшчэ дай яму не што-небудзь, а хвост.

— Татка, хвост, хво-о-ст…

— Ну, на табе хвост, толькі замаўчы ты, зачыні сваё зяпала.

— Ой, Шолам, Шолам, што ты на дзіця кажаш, вярзеш немаведама што.

— Ну, яшчэ што скажаш? Хіба я свайму дзіцяці вораг? Ну, няхай сабе есць на здаровейка, ну што я сказаў, ну гавары, ну… Калі я брыдка сказаў, ну дай яму яблыка, няхай на здаровейка есць…

А малому што: і хвост, і яблыка! Гэта лепей, чым сухая маца на вялікдзень, чым горкая рэдзька з мёдам. Грызе малы яблыка,

і ўсе пазіраюць яму ў вочы. Яшчэ як пазіраюць — і пачынаецца зноў:

— Татка, і мне…

— І мне…

Але ж трэба ведаць меру: не сем, а пара рук у Шолама, і ботаў Бог не кідае з неба, як манну калісьці… Дый кожны бот мазалёў каштуе, а мазалёў больш як можна на далоні не змяшчаецца. Таму і ўстае Шолам з скрыпучага зэдліка, бровы насупіць, рукой махне і раптам адрэжа:

— Годзе… ш-ша…

Калі ша, дык і ша… Дзецям не ўпершыню загад гэты, і яны гурмой сыпяць на двор.

Шолам працуе і бегае, бегае і працуе і кажа ўсім:

«Дзень добры!» Але не падумайце, што ён думае толькі пра добры дзень, калі ім прывітае суседзяў, знаёмых. Не, і другія думкі, другія словы мітусяцца ў яго галаве неспакойна, калі, стуліўшыся, навастрыўшы худыя плечы, ён шэраю зданню праносіцца ўзад і ўперад па ціхай вуліцы местачковай, ад самай сінагогі і да шырокага рынку, дзе штодзённа сядзіць над перавяслам абаранкаў старая Роха. Чакае яна не дачакаецца, покуль вынырне з-за вугла які-небудзь хлопчык-купец і прамяняе скрадзенае ў клеці яйка на чэрствы абаранак, печаны перад мінулым шабасам. І, пабачыўшы Роху, ветліва ўсміхнецца Шолам:

— Ну, як гандаль?

— Дзякаваць Богу і людзям — нічога сабе…

І ці скажа Роха, што абаранак чэрствы, ці ж яна скажа, чаму ён чэрствы. І не будзе Шолам пытацца, ён і так ведае, што абаранак чэрствы, бо чэрствае жыццё, чэрствыя сцежкі людскія. І чэрствыя думкі:

— У Эдлі сукенкі няма.

— Жонка датоптвае чаравікі…

— Айзік ходзіць без порткаў. Праўда, ён малы, але ў мяне бацькава сэрца, таму, як жа быць без порткаў.

— А ў Лёвы, у Лёвы кашуля падралася, у Гінты панчох няма, у Ісака няма… няма… ды ці мала чаго няма. Куды ні круці — усё няма і нямашака…

І думкі пачынаюць круціцца ў другі бок:

— Івану боты пашыць — Эйдлі сукенку.

— Сцяпанісе чаравікі абсаюзіць — панчохі Гінце.

— На порткі — дзясятак лапікаў, кашуля — абшыць валёнкі дзеда Гаўрылы.

Латкі, падэшвы, саюзкі, глядзіш — і ўсміхнуўся Шолам, павёўшы нервовай брывёю. Дый як не ўсміхнуцца, калі лічыў,

лічыў ды і вылічыў, што застанецца яшчэ і на хлеб, а то, чаго добрага, і на кавалак мяса на суботу. А калі так, дык зноў за працу.

Шолам сядзіць і, супакоены пагулянкай па вуліцы, весела калупае шылам ды пастуквае малатком па боце, нават песню зацягвае паціху. Песню не песню, а так нешта нейкае — без слоў, без думак, нешта ціхае і цягучае:

— Ой-о-о-й-ой-ой-ой, а-я-я-й, а-я-я-я-я, ой-ой-ой…

Пачуўшы гэтыя гукі, заўсёды пытае маленькі Айзік матку:

— Мама, мамачка, чаго тата галосіць?

— Дурніца ты, тата песню пяе…

Але Айзік не верыць, хіба ж так можна спяваць, хіба так спяваў ён, Айзік, з другімі дзецьмі на вуліцы, калі скакалі гурмай каля старой бярозы на залатым пяску. Ого, там спявалі не так, хоць і разбілі трохі Айзіку нос, і адарвалі казырок ад шапкі, за што мамка пачаставала трапкачом. Але што трапкач, калі перад гэтым было так весела, дый пасля трапкача мамка дала хлеба з маслам. Усё ж такі весела, а тут…

І Айзік ідзе да бацькі, нерашуча становіцца перад ім, кладзе палец у рот і заглядае ў бацькавы вочы.

— Чаго ты?

— А чаго ты, татка, галосіш?

— Што?

— Чаго ты кажаш: ай-яй-яй?..

— Вось дурань, ідзі гуляй.

І пагавары тут з таткам. Айзік пачынае крывіць рот, моршчыць твар, нібы збіраецца ўсміхнуцца, і раптам пачынае румзаць, размазваючы слёзы запэцканымі кулачкамі.

Гэта Шоламу не па душы.

— Эстэр, прыбяры хлапца, бач, раскіс зусім.

За ўсім гэтым моўчкі назірае Эйдля — старшая дачка. Ёй дванаццаты год, але па выгляду можна даць трохі болей. Вечна задуманыя вочы, нібы пакрыліся яны якойсьці пеляной смугі і ціхага, невыразнага смутку. Дзве чорныя касы старанна заплецены і перавіты чорнай істужкай. Сукенка старая, але чысценькая, — то клопаты маткі. І як не клапаціцца — Эйдля ходзіць у школу, носіць кніжкі з сабой і зялёныя сшыткі. І кніжкі, і сшыткі грошай каштуюць, але знаходзіць іх Шолам, бо як жа дзяцей без навукі пусціць, хіба невукам жыццё на гэтым свеце?

Носіць кніжкі Эйдля, чытае іх. Вось і цяпер на старой канапцы сядзіць Эйдля з кніжкай, і калі перастаў румзаць Айзік, яна ўткнулася ў старонкі яе, нібы прыліпла да тых дробных літар, да белай паперы. Эйдля нерухома, толькі шавеляцца часам

губы, парой уздрыгнуць чорныя бровы, румянец шчокі залье, і ляціць за старонкай старонка, як белыя пуховыя сняжынкі ў дзень асенні. А ў хаце шархаціць дратва, пастуквае роўна і мерна малаток, ды ледзь чутна трашчаць гусіныя пер'і ў руках матчыных — тая скубе пух на пярыну, бо кожная матка павінна клапаціцца пра пасаг для дачок сваіх.

А Эйдля чытае «Прынца і Нішчага». Ляцяць словы за словамі, уюцца дзівосныя малюнкі, адзін прыгажэй за другі, чароўныя з'явы, жыццё чароўнае. Закрывае Эйдля вочы, а перад ёй, як жывыя, ходзяць нявіданыя людзі, бліскае залатой каронай кароль, у сталёвых шлемах праходзяць палкі салдат, і грыміць незвычайная музыка. Блішчастыя велізарныя пакоі, і ў іх падлогі люстэркамі свецяцца, у паветры струменіць пах заморскіх кветак, і ў пакоях вялікіх гуляе прынц і б'е залатою пячаткай арэхі. Не простыя арэхі — залочаныя. Стукне раз — і з-пад залатой пячаткі сыплюцца бурштынавыя іскры, срэбным звонам звініць бліскучая шалуха, і арэх, такі прыгожы смачны арэх, коціцца з-пад залатой пячаткі. Прынц стукае ўсё і стукае, а сонца скрозь колерныя шыбы лье свае прыгожыя праменні: ліловыя, светла-ружовыя, чырвона-агнёвыя. І кветкі цвітуць, шмат кветак. А прынц усё б'е і б'е залатой пячаткай, б'е залочаныя арэхі… Мітусяцца бурштынавыя іскры…

— Эйдлечка, вазьмі падэшвы ў таткі ды памачы ў цэбры…

…Усё дым, усё туман шызы. Ні прынца, ні кветак, ні залатых арэхаў. Татка стукае малатком па падэшве. Трэба скураты намачыць, скуры брудныя і смярдзючыя, не пазалочаныя.

— Ой, татка, татачка!..

— Што з табой?

— Нічога… гэта я так… нічога… — і зноў супакоена Эйдля, толькі вочы робяцца глыбокімі-глыбокімі, нібы захаваўся ў іх вір жыцця процьмай нявырашаных пытанняў. Толькі ўздрыгне часам брывом, ды непрыкметна плячо ўскалыхнецца. Праўда, іншым часам Эйдля расказвае матцы пра бліскучыя пакоі і залатую пячатку, пытае парой:

— Мамачка, а чаму там… ну, чаму там залатыя арэхі, а ў нас… скураты?

— Дурная, што ты кажаш! Няма на свеце залатых арэхаў.

— Ёсць.

— Няма.

— Ёсць, мамачка… Ну, няхай сабе гэта — кніжка, гэта — казка, а ўсё-такі, чаму там залатыя арэхі?

— Ай, адвяжыся ты, от выдумала немаведама што.

— Ну, добра, а чаму ў таткі такія худыя плечы?

— Вось нахаба на маю галаву! Чаму худыя плечы? Ну, вядома, худыя таму… што… ну… таму, што худыя. Раз худыя, дык яны і худыя, аб чым тут і гаварыць. І хто пра гэта кажа, хіба тата твой пра гэта не ведае?

— Ну, дык чаму ж яны ўсё ж такі худыя?

— Ай, адвяжыся, назола…

Няма ў маткі слоў пра залатую пячатку, дый не прыходзілі ў галаву думкі аб ёй, а пра плечы худыя… што казаць — і ўчора яны былі худыя, пазаўчора, і цэлыя гады прайшлі, пранесліся па запыленых вуліцах — і ўсё худыя плечы, не змяняюцца яны. Праўда, мо былі яны другімі даўным-даўно, тады яшчэ, калі не было ні Эйдлі, ні Лёвы, ні Гінты, тады яшчэ, калі звонка разбіваўся фаянсавы чарапочак, калі надзяваліся, на пальцы залатыя пярсцёнкі і хадзілі яны — Эстэр і Шолам, — некалькі раз абышлі наўкол чырвонага балдахіна. Дык вось, мо тады? Але ўжо Эстэр не памятае і пары гэтай. Захавалася яна за прапыленымі сцежкамі, за векавечнай нізкай людскога клопату, матчыных турботных думак. Забылася Эстэр і на пякучы агонь кахання, які калісьці быў, і калі парой, у ціхі час ночы, занадта мяккі бывае Шолам у словах да жонкі, песціць Эстэр яго і думае пра адно: «Так трэба Богу, Бог любіць дзяцей».

А шчасце сваё — што шчасце? Не трэба думаць пра яго, бо выцвілі чорныя вочы і рэдкая каса, а сэрца б’ецца паціху, халоднае яно. Чаму? Таму, што вунь у дзяцей гараць бліскучыя агеньчыкі воч. І трапечуцца сэрцы крывёй гарачай. Дзеці плачуць прарэзліва, зычна смяюцца, а словы што іскры — светла і цёпла матчынаму сэрцу.

Дык што ж трэба болей? Найвялікшае шчасце ў дзецях, і нездарма адказвае Эстэр, калі запытаюцца яе старыя знаёмыя з далёкіх мястэчак і гарадоў:

— Ну, як жывеш, як дзеці, колькі?

— Дзякаваць Богу, яшчэ толькі восьмерка…

— А мо і дзявяты будзе?

— А што ж, калі Бог дапаможа, доля не пакарае…

Навошта ж тут гаварыць пра пячатку залатую і навошта ў Эйдлі такія словы? Дзіўная Эйдля!

А Эйдля сядзіць нерухома над кніжкай і думае: «Дзіўная мама! Чаму яна аб усім не гаворыць? А мо не ведае? Яна ж не хадзіла ў школу, яна не ўмее чытаць. А чаго-чаго ні гавораць у школе, здаецца, няма нічога на свеце, аб чым бы не давялося думаць там. Вось і сягоння казалі пра піянераў, пра іхнія атрады».

Вось маленькая Лея — шчаслівая. Бацька яе ў горадзе працуе, і ў яго была нядаўна Лея, і там… там бачыла сапраўдных піянераў. Казала, вельмі прыгожыя, як ідуць яны і песні спяваюць — і ўсё гэта пад медную музыку. І ўсё распытваліся, якая гэта медная музыка, бо ў мястэчку з усёй музыкі адна толькі скрыпка ў крывога Лейзара ды грамафон у старых Пінсаў. І не дзіва — яны ж атрымліваюць з Амерыкі долары — чаму ім не мець грамафона?

З піянераў думка ў Эйдлі пераскаквае на яе таварышку, суседаву Маню. Як яны дружаць, пра гэта ведае кожны, бо сядзяць яны ў школе на адной лаўцы, пішуць з адной чарніліцы. Падарункі робяць: Маня дасць Эйдлі прыгожую паперку, Эйдля Мані — істужку чырвоную. І заўсёды ходзяць разам, водзяць сакрэты паміж сабой, розныя сакрэты — учора Маніна мама абскубла гуску — прыслаў з горада тата, а Эйдліна мама прынясе хутка ці новага браціка, ці сястрыцу новую… І абедзве сястрыцы чакаюць, бо хлопчыкі — задзіры і чарнілам пэцкаюцца, ды ці мала ад іх чаго кепскага.

Але не толькі пра гэта думаюць Эйдля і Маня. Яны яшчэ любяць кніжкі, занадта любяць, і ўжо ў школе няма і кніжак для іх — перачыталі ўсе, і прыходзіцца шукаць іх па ўсяму мястэчку.

Вось пра гэта ўсё і думае Эйдля. І лётаюць думкі адна за адной: кніжкі, залатая пячатка, пер’і гусіныя, «ці сястрычка, ці брацік?», прыгожы паркалік у кветачкі — татка Мані з горада прыслаў.

— А ў мяне няма, а ў таткі худыя плечы, і мамка нічога не ведае.

Гінта палец накалола на шкло і плача цяпер, а мамка хукае ёй на нагу і кажа: «Ну, не плач, не баліць ужо, дай яшчэ на больку пахукаю трохі, во і няма нічога, загаілася».

І Гінта плакала, плакала, а потым пачала смяяцца, і ад яе звычнага смеху так цёпла робіцца ў хаце, як ад гэтага сонейка, што пасылае свае зайчыкі скрозь галінкі плакучай бярозкі ў светлыя шыбы. Поўзаюць зайчыкі па сцяне, па падлозе, вунь татку на спіну ўзабраўся адзін, а татка і не бачыць яго, дзе яму, калі ён над скуратом сагнуўся.

А сонейка ўсё ніжэй і ніжэй, ужо цалуе саламяныя стрэхі на тым баку вуліцы. Затое зайчыкі пад самую столь забраліся, не дастаць іх рукой.

То надыходзіць вечар.

Цёплы ветрык гультаявата дыхае ў акно. Чуць-чуць трапечуцца лісточкі бярозы, а галінкі зусім нерухомыя, застылі ў

пахучым паветры, не калышуцца. На вуліцы пыл павіс белай наўлачкай — то з поля каровы прайшлі, і дзе-нідзе рыкаюць яны, нібы завуць нерухлівых гаспадынь, каб хутчэй адчынілі форткі ды ўпусцілі на двор да цёплых памыяў.

Эйдля сядзіць на бярвеннях пад вокнамі сваёй хаты, пазірае на вуліцу. Чаго толькі не ўбачыш тут! Хлапчукі ў клёка гуляюць, а там і дзяўчаткі, пабраўшыся за рукі, гуляюць у коршака.

Насупраць на лавачцы сядзіць сусед Пінька — цырульнік. Ён толькі што прыехаў з далёкіх вёсак, прывёў адтуль пару худых кароў. Эйдля бачыла, як упіралася карова адна, падала на пярэдняе калена, не хацела ісці. Але Пінька хітры, ён падганяць умее — і біць не б’е, а так хвост накруціць, што тая аж трухам бяжыць. І шкода кароў Эйдлі, і Пінькі шкода, бо ў Пінькі больш дзяцей у хаце, чым круп у крупніку, і ў маленькай Соры заўсёды вочы баляць.

Пінька — цырульнік. Але ён гандлюе каровамі. Праўда, не каровамі, а мясам — купіць карову, авечку і гандлюе тыдзень-другі, там зноў паедзе куды-небудзь, зноў прывядзе якую-небудзь недалугу старую, бяззубую. І мястэчку добра — заўсёды ў Пінькі і кошар, і трэф.

А ў пятніцу Пінька заўсёды дома. У пятніцу Пінька — цырульнік сапраўдны. Раніцой ён наводзіць брытву, ставіць на стол вялікі асклёпак ад люстры, у рукі пэндзлік — і падыходзь, калі хочаш. Так абголіць, лепш, чым у горадзе, нават і духамі спырсне, калі ў цябе гальштук стракаты.

Пінька цырульнік і яшчэ які! Недарма калісьці над вокнамі вісела і шыльдачка: «Французскі цырульнік Пінхус Пэндлік — стрыжом дам і мужчын». А яшчэ вышэй вісела другая шыльдачка, дзе красаваўся «гаспадзін» з намыленай галавою, з узнятай над ёй брытвай, трохі падобнай на сякеру дзеда Панкрата. А пад «гаспадзінам» стаяў залаты надпіс «Гігіенічная цырульня». Але няма цяпер шыльдачак, зняў Пінька са сцяны свае залатыя літары і «гаспадзіна» з падазронай «гігіенай». Чаму? — хто спытае. А хіба Пінька дурань, — за шыльды, брат, патэнты гані, а патэнты, вядома, рэч не зусім прыемная і, паміж намі кажучы, для Пінькавай кішэні не вельмі пажаданая, бо бразгацяць ножны толькі ў пятніцу, і адзін раз на тыдзень бывае шабас.

Ды што шыльды? Каму ахвота ў суботу кудламі трэсці? Таму і ходзіць народ, і рыпіць Пінькава брытва, ляскочуць пагражаюча нажніцы, абразаючы і падраўноўваючы пэйсы старым, а маладым, ого, тым не да пэйсаў. Тым дай прабор ангельскі, тым так прыгладзь валасы, каб блішчалі і свяціліся сонцам.

Бяда з маладымі, не патрапіш ім часам, што ні тыдзень, давай новую моду.

Але Пінька спец, ён майстар на ўсе рукі, і справа пакуль што ідзе на лад. З каровамі таксама добра — на цэлы тыдзень забяспечаны, а там доля не пакарае. Таму і спакойны наш Піня, паважна дастае з кішэні капшук, паперу і пачынае круціць цыгарку.

«Калі Піня выняў капшук, павінен татка выйсці з хаты да Піні ў кампанію», — думае Эйдля.

І Эйдля не памыляецца, праз хвіліну рыпаюць дзверы і татка хутка, нервова суне да Піні. Як жа, сябры! Да іх хутка далучаецца кравец Сіман, і на лавачцы гутарка пачынаецца ваўсю. Звычайна за ўсіх тата гаворыць, гаворыць хутка-хутка, махае пры гэтым рукамі, галавой і ўсёй сваёй сутульнай постаццю.

— Ну, што вы скажаце, хіба гэта жыццё? Гэта ж, выбачайце за слова, паскудства, а не жыццё, — і пры гэтым Шолам падымае палец угору. Пінька заўсёды пускае паважна клубы дыму і, заўважыўшы Шоламаў палец, басам пускае:

— Вядо-ома…

А Сіман, заклаўшы правую руку ў камізэльку, левай махае ў паветры і адрэжа:

— Ну, так, так…

— І што вы думаеце, хіба так можна жыць? Фэ, паскудства… Калі ў нас была прыстань і калі вадзіліся на ёй людзі, я, паміж намі кажучы, і гора не бачыў. Колькі ботаў пашыў, няхай мне столькі здароўя, ды хіба я брашу, няхай Пінхус скажа.

— Вядома…

— Ну, так, так…

— Вы толькі падумайце, кожнаму дзясятніку па пары, а хіба і рабочы не любіць ботаў? Ды што гаварыць, колькі людзей на прыстані таўклося, кожны Шолама ведаў, бо я чалавеку дагадзіць рад, і бот у мяне, дык бот, яго і вада не бярэ, не пячэ агонь. А цяпер што? Фэ, паскудства… Што я раблю цяпер, хіба бот? Не, гэта, выбачайце за слова, атопак стары. Хіба я няпраўду кажу, няхай скажа Сіман.

— Вядома…

— Ну, так, так…

— І што вы сабе думаеце: тавару няма, людзей на яго няма — якія ж тут заработкі? Фэ, паскудства, а не заработкі, няхай скажа Пінхус…

— Вядома…

— Ну, так, так.

— А хіба мае дзеці не хочуць жыць? А хіба мае дзеці — не дзеці, ці я ім не бацька?

— Вядома…

— Так, так…

Да кампаніі падыходзіць стары Бонька. Ён арандуе ў суседняй вёсцы сад, прыйшоў па хлеб дамоў і цягне пад пахай пеўня.

— Дзень добры!

— А-а… добры, добры, ну, як яблыкі?

— Што яблыкі? Вы запытайце пра чарвяка, а яго болей, чым яблык!

— Чаму так?

— А я вас сам запытаю — чаму так? Хіба я рад чарвяку, ён жа пагрыз усю завязь. А чаму? Таму што няма дажджу, а без дажджу чарвяк яблыка любіць, гад, і табе не аставіць ні фунта. Вось табе і зарабіў тады, вось табе і гандаль на дулі сушаныя.

— І што вы на гэта скажаце, ці ж я не казаў вам, што гэта не жыццё, а паскудства? — кажа тата.

— Ну, вядома…

— Так, так…

А Эйдля сядзіць і слухае. Часам яна мала разумее, чаму гэта яе тата заўсёды абзывае жыццё паскудствам. Хіба ж гэта паскудства, ну, вось тут, на вуліцы, у мястэчку, на шырокіх палях і паплавах, у тым вунь лесе, што стаіць, таемны і кучаравы, за мястэчкам. Лес стаіць задуменны, а пад яго чорнымі ў змроку зубчыкамі старых ялін гойдаецца маладзенькі месячык, мігацяць сарамліва зоркі. А лёгкія-лёгкія, як пярынкі, празрыстыя хмаркі плывуць карагодам, ахінаюць месяц, але ён, жартаўнік, нырне, нырне ў серабрысты туман бягучы, ды і вынырне потым і нібыта смяецца:

— А вось і я, маладзік срэбравокі, глядзіце на мяне, каму я дораг і люб.

Хіба ж гэта паскудства? Не, тысячу, сто разоў не…

А мо татка кажа праўду, у яго ж плечы худыя і ў вачах заўсёды непакойны агонь, дый локці ў мяне дзіравыя… Але не, тут штосьці не так.

А як жа, дзе адказу шукаць?

— І жывуць там не так, як мы, і зямля там чарней чакаляды, а яўрэй — не абы-хто, ён сам сабе гаспадар, бо і дзяржава яўрэйская, наш закон і звычай, той закон, што ідзе ад спрадвечнага Бога. І зямля ад Бога, таму і шчасце там, і спакой…

Эйдля прыслухоўваецца. Хто ж гэта гаворыць так сціха, не гаворыць, а шэптам пякучым пранізвае цёплы змрок. Ага! Гэта вось хто… Гэта стары Нісан, рыжы меламед, далучыўся ў кампанію і пачаў сваю заўсягдашнюю штодзённую прамову.

Ён ціха гаворыць, аглядаецца па баках — маладых не любіць, не любіць іх вока і вуха. Чаму? А хто яго ведае…

Але Эйдля ведае другое. Усе слухаюць Нісана, нібы і ўважліва слухаюць, слухаюць пра далёкую Палесціну, пра гарачае сонца і белы хлеб. Ніхто і не спрачаецца асабліва, але заўсёды татка, калі прыходзіць дахаты, матцы кажа:

— Прыгожая казка, што і гаварыць, люба паслухаць, але ж толькі паслухаць, бо казка заўсёды застаецца казкай, мо і прыгожай, і чароўнай, але ўсё ж такі застаецца выдумкай, самай звычайнай выдумкай людской. А дурняў няма больш.

— Чаму?

— Таму што сама ты дурніца. Бач, пытае яшчэ. Ну, скажы ты мне, як жыве твой пляменнік?

— Мой пляменнік? Няхай не дае Бог нікому…

— А дзе ён жыве?

— А што ты пытаеш, ну ў Палесціне, ды што з таго? Ён даўно паехаў адтуль.

— Ага! Паехаў, кажаш. Дык вось, няма больш ехаць куды, гавары не гавары, Нісан, хоць лопні…

— Уй, які ты ў мяне разумны, а я і думала, навошта ты пра дурняў кажаш.

Таму і ведае Эйдля, што Палесціна — гэта прыгожая казка, а казку пачуць добра раз. А калі табе будуць гудзець аб ёй штодня і штовечар, тады і аскома будзе, нецікава і слухаць.

— Гэта ты, Эйдлечка?

Эйдля спалохана ўзварушылася. Хто гэта такі за плячо ўзяўся? І раптам радасць — перад ёй Маня: яе таварышка, саўдзельніца яе думак, яе гора і радасці.

— Пойдзем, Эйдлечка, да Фані па дрожжы, мама заўтра булкі пячэ.

— Па дрожжы? Ну, пойдзем.

Каля рэчкі, у старой спарахнелай хаце жыве старая рабініха — мудрая Фаня. Памёр даўно мужык — мудры, яшчэ мудрэйшы за яе, рабін Залман. Жыў-быў, тады і жылося нішто. А цяпер… цяпер Фаня гандлюе рэдкімі дражджамі, назапасіць іх і прадае тым, каму ёсць патрэба ў іх. А патрэба, вядома, заўсёды ёсць, — там дзіцяці абаранак спячы, там булкі на суботу, ды ці мала што. Вядома, пякуць памалу — і дражджэй трэба не вельмі. Не пойдзеш жа ў краму па чвэртку, бо многа, а ў Фані можна купіць колькі хоць: шклянку і паўшкляначкі, а то і лыжкі са дзве. Таму і ходзяць.

Фаня мерае шклянкай, адлажыўшы ўбок векавечную панчоху з бліскучымі спіцамі. Яна асцярожна налівае з гладыша ў

шклянку шэрае, рэдкае цеста, падносіць блізка да вока, прыглядаецца, але не верыць сваім вачам, надзявае другія вочы — такія ж старыя, як сама, акуляры і доўга налівае, адлівае, перамервае паўшклянкі дражджэй, нібы перасыпае мяшкі золата. Ох, як марудна ў яе, як сумна!

І Маня, і Эйдля шпарка бягуць ад старой рабініхі. Дый чаму не бегчы: па-першае, у іх ёсць дрожджы, а па-другое — яны заўтра пойдуць купацца, на тое і ўмова ёсць. Ну, як тут не жыць і навошта тата пра паскудства гаворыць…

* * *

Гады пыл па дарогах узнімаюць, пасцілаюць вуліцы снегам, абуджаюць вясной румянай чалавечыя радасці і скавычуць восенню на аблезлых палях і лугах.

Год за годам ідзе, нібы сцелецца ліст на траве шоўкавай. Сцелецца ліст, і больш бадзёрыя думкі ў Шолама і больш сутулая спіна. Як жа — дзеці растуць, падрастаюць, як грыбы ў сырое лета пад цёплым сонцам.

Ой, дзеці, дзеці, куды вас падзеці, доля з вамі і нядоля. Свет шырокі і шырокая плынь жыцця, але дробныя ў ёй сляды чалавечыя — ідуць, брыдуць, разыходзяцца… Куды пашлеш, куды патрапіш…

І часта думае Шолам пра дзяцей, пра іх цёмную і далёкую будучыню. Эйдлі 14 год. Пара аддаваць у швачкі. Але Эйдля, здаецца, не думае пра гэта, загаварвае зусім пра другое. Эйдля піянерка, піянер і Лёва.

Даліся гэтыя піянеры Шоламу. Калі толькі даведаўся ён, што яго Эйдля, яго чарнавокі Лёва ўступілі ў гэтыя самыя «камуністы», ён, хто б мог пра гэта падумаць, ён з лазінай ганяўся за дзецьмі. Ды дзе там… Хіба зраўняеш ногі яго з спрытнымі маладымі нагамі. І абяссілены, задыхаўшыся, ён сеў на суседнюю лаўку і, трасучы галавой, трасучы ўсім сваім кволым целам, наўзрыд, захліпваючыся, давіўся рэдкімі і цягучымі словамі:

— О, мае дзеці, дзеці мае, дзеці…

А Эйдлі было сорамна вясёлых таварышак, сорамна за дарагога тату. І на перапынку, у цёмным кутку, у калідоры яна хавала ў хустку слёзы крыўды, каб ніхто не заўважыў іх, не падумаў кепскага пра тату, якога яна вельмі любіць, хоць тата бывае і дзіўны часам, не разумее такіх простых рэчаў, якія ёй вядомы даўно.

Злосць не камень. Калі вечарам Шолам пасунуўся да дачкі, трасучы перад ёй кулакамі, — ён усё ж такі не пасмеў крануць

яе, бо неяк дзіўна паглядзела на яго Эйдля. Ён бачыў, як шэры бурштын яе воч заблішчаў залатымі іскаркамі, зубы сцяліся і на шчокі ўспаўзлі шырокія бледныя плямы. І пачуў ён яшчэ, як прашапталі яе збялелыя вусны:

— Та-а-та, татачка…

Што рабіць, што прыдумаць? Ат, няхай так будзе, мусіць, век такі і такія дзеці. Чаму ж не любіць ён піянераў? Не любіць — бо нічога, мабыць, сам ён не бачыў такога ў сумным, туманным дзяцінстве.

Ён не любіць піянераў таксама, як не любіць, як не можа яшчэ поўнасцю зжыцца з сучаснымі днямі, якія падарвалі мястэчка, паразганялі яго любых заказчыкаў, пазакрывалі крамы сваякоў і суседзяў. Чым жыць, чым жа выбіваць ад жыцця кавалак патрэбнага хлеба? І хто вінават?

Мусіць, тыя, што перавярнулі ўверх дном прызвычаенае жыццё, што пасадзілі гэтую Савецкую ўладу. А хто яны — хіба разбярэшся адразу ва ўсім. Вунь стары Нісан пляце палесцінскія казкі пра гарачае сонца і хлеб белы, хлусню нясе чалавек, ведае пра гэта Шолам, калі не з свайго, дык з чужога вопыту.

А дзе ж праўда? Дзе пэўныя шляхі да лепшых дзён? А яны патрэбны, усім патрэбны. Хіба з дабра пабег да міліцыі ўчора стары кравец Пейсах і заявіў, што на гародзе ў яго зладзеі пакралі закапаныя ў зямлі пляшкі з самагонам. З гарачкі пабег чалавек, не падумаў добра, што не вернецца самагон, не вернуцца пляшкі, што давядзецца яшчэ наверх і штраф заплаціць, і заплаціў… За што б, спытацца… А за гандаль самагонам, як сказалі ў міліцыі! А хіба Пейсахавы дзеці не хочуць есці, хіба ў Пейсаха не заржавела машына адна? Чаму? Шыць няма чаго, мала нясуць пакуль што. Вось і заскачаш па пыльных вуліцах, засмяюцца і людзі часам тваёй непрытомнасці.

Ды хіба толькі Пейсах адзін? Вунь закройшчыкі ў сады пацягнуліся, а яблыкі не заўсёды харч. І крамы пустыя стаяць, ёсць тавары, але ж яны ў каапературыве.

А што ж есці, чым дзяцей карміць? І пусцее мястэчка, брыдуць людзі па пуцінах, шляхах адвечных, шукаюць шчасця і хлеба. Але цяжка злавіць у паветры шчасце, слізкі хвост у яго, не даецца ў рукі. І мястэчка жыве не жыве; паўзуць дні за днямі, і кожны баіцца заглядваць у вочы будучыні.

Таму і Шолам вечна нездаволены, і на кожным сходзе ён кідае гарачыя абрыўкі слоў, што ўсё прапала, што няма жыцця, што ніхто не глядзіць на яўрэя, не хоча дабра яму. Ды ці мала ён кажа, і ўсе прывыклі, прызвычаіліся да слоў гэтых, і не дзівіцца ніхто.

А дзеці, дзеці… ат, што ім робіцца… Вунь цягнуцца на вуліцу, маленькія і тыя ў піянераў гуляюць.

Зірне на іх Шолам і чмыхае носам, нездаволена чмыхае.

— Вось растуць на бацькава гора. Яшчэ не абсохлі, а туды ўжо, падаюцца ў бок той…

Эйдля таксама думае пра будучыню, толькі трохі іначай. Для яе будучае — шырокі і светлы шлях, толькі падрасці б вось ды расправіць шырэй свае маладыя крыллі.

Эйдля ведае жыццё не з прыгожых казак, а з самога жыцця, з праўдзівага слова. А слова гэта можна пачуць колькі хочаш і ў атрадзе, і ў камсамоле, куды кожны вечар заглядае Эйдля са сваёй неразлучнай Маняй.

* * *

Ціха ў сельсавеце. Толькі шалясціць часам папера ды рыпае паціху сакратарскае пяро. Сагнуўся Ісак над грудкай папер. Ісак — сакратар, трэці год сакратарствуе. Нязручна было трохі спачатку, але, бач, уцягнуўся ў працу. І цяпер вольнай хвілінай расказвае Ісак, як баяўся ён раней ездзіць па справах службовых па суботах у вёскі, бо скоса пазіралі суседзі.

Расказвае, як давялося яму першы скрылёк сала з’есці. Не ахвота было закон парушаць, але што ж зробіш, калі сяляне частуюць, хіба гожа адмовіцца? І з’еў. Тры дні пакутаваў, стары бацька дазнаўся і штодня дапякаў. Усё ж нічога, абжыўся вось, і сала для яго глупства цяпер, не страшна. І сяляне любяць — не дзіва, трэці год на пасадзе.

— Каго ж і абраць, як не Ісака — ён жа чалавек чэсны, дый дома застанеш яго, калі хочаш, ніколі не адмовіцца, ці днём ці ноччу, калі трапіцца якая справа.

Дый жонка Ісака прымірылася з яго службай. Як-ніяк, усё ж такі грошы, а не абы-што мае чалавек за працу. І часам, — вядома, жанчына, — расказвае суседкам, як давялося год назад Ісаку на аўтамабілі ў горад паехаць з нейкім начальствам важным. Рада жонка, як жа ж:

— Мой Ісак на аўтамабілі ехаў, і што вы сабе думаеце…

Але справа не ў гэтым. Ісак сам не думае пра аўтамабіль. Што ў ім! Вось з горада цікавая папера прыйшла, і ў ёй пішуць, каб зрабіў ён — Ісак — сакратар сельсавета — спіс на жыхароў яўрэяў, згодных на перасяленне на зямлю. Нібы адводзіцца зямля дзесьці там у Крыму. І яшчэ прыпісалі, каб перапісаў ён і тых, хто хоча зямлю атрымаць на месцы. Цікавая папера, і старанна

перапісвае яе Ісак ва «ўхадзяшчыя». Перапісвае, прыглядаецца да нумара, а голаў думкі свідруюць:

— Ну, хто я цяпер? Некалькі год назад меламедам быў маладым. Шархацеў пажоўклымі счарнеўшымі лістамі талмуда, шукаў у яго высахлай паперы крупінкі чалавечага розуму, чалавечую праўду. А мо не шукаў, мо сам сіліўся зразумець, адгадаць гэтую праўду.

Адшукваў, дакопваўся да глыбіні мудрых законаў жыцця, знаходзіў іх, але яны, гэтыя мудрыя законы, убраўшыся ў старыя сцёртыя літары, бляклі перад жыццём і расплываліся якімсьці празрыстым туманам. Пад сонечным днём туманілі чорныя вочы дзяцей, і дзеці плакалі за старою кнігаю, бо не разумелі законаў.

І дзе зразумець! Вунь Майсей выцяў кіем аб камень, і пацякла сцюдзёная вада. Ідзі ж, паспрабуй, адшукай гэты чароўны камень, знайдзі гэты цудоўны кій. Не… Вунь стары Мікола (а ён любіць пагаварыць з Ісакам) казаў аднойчы:

— Справа, браце, не ў камені, яны для нас гора. У зямлі, голуб, справа, у зямлі. І ты не бі яе, а палі слязьмі сваімі ды гаручым потам, тады і колас убачыш, і будзе радасць, бо ў коласе, голуб мой, захована вялікая сіла, і сіла гэта — жыццё…

Але раней пра зямлю не думалася. Дый нашто было думаць пра яе — іншыя былі гады.

— А цяпер вось я сакратар сельсавета, і няма талмуда, на стале вунь зборнік дэкрэтаў, і пра іх сяляне пытаюць. І чытаю ім, і разумеюць, бо свежыя словы і думкі свежыя ў гэтых літарах, а свежага хто не зразумее?

Трэба вечарам сход. Няхай паслухаюць, няхай паразважаюць, а мо што і скажуць.

Эйдля ведае даўно пра зямлю. Ды хіба яна і не любіць яе? Ці не яна з маткай агарод завяла даўно і цэлае лета працуе ў ім? Затое і купляць не трэба ні цыбулі, ні рэдзькі, нават бульбы трохі свае пад восень бывае.

Праўда, скардзілася матка часам, што няма месца дзе пасадзіць болей, бо вялікай падмогай у сям'і агарод свой, не трэба штодня на рынак бегаць, шукаць перад суботай морквы на цымус.

Любае дзела — агарод мець, а каб яшчэ трохі зямлі, яшчэ б лепей, не быў бы і татка такім засмучаным.

У камсамоле даўно пра зямлю кажуць, даўно гавораць, што без яе нічога не будзе, без яе жыцця не наладзіш. Гаварылі і пісалі, цяпер чакалі толькі, што выйдзе, ускладалі надзеі на сход сённяшні. І, калі звечарэла, Эйдля з Маняй ідуць у сельсавет.

Трэба прайсці цвінтаром, потым праз старое яўрэйскае клодаўе, а за ім у старым магазіне грамадскім сельсавет змяшчаецца.

Ліпы на цвінтары вялікія-вялікія, шапацяць паціху лістом. Пад ліпамі захаваліся макаўкі царкоўныя. Ціха тут і жудасна трохі — занадта цішыні многа. Вокны царквы ззяюць чорнымі плямамі, ды ў вячэрнім змроку ўглядаецца ў глыбокае неба старая званіца. І наўкол яе мышы лётаюць — без гуку, без посвісту, не лётаюць, а праносяцца змрочнай ніткай, і нітка бясшумна вузлы робіць ды гіне дзесь на старой званіцы ды ў старых разгацістых ліпах у цёмных дуплах. І паціху лісты шалясцяць, свіціцца крыж белы пад старой рабінай. Ух… страшна тут Эйдлі і Мані, і шчыльней прытуляюцца яны адна да адной.

— Пойдзем хутчэй, бо занадта тут пуста…

А далей яшчэ страшней. Тут клодаўе. Спяць людзі сном адвечным — ні ім зямлі, ні ім піянерскія гальштукі, а пра сонца і не гавары. Моцна ўціснуліся ў зямлю вострыя каменныя пліты, уціснуліся і ўсё на адным месцы стаяць і вечна стаяць будуць, стаяць векавечна сведкамі дзён старых і старога шчасця. Вунь магілка Бэйніна Лёвы… І шчыльней прытулілася Эйдля да Мані. Хто не ведаў Лёвы? Многа аб ім казалі. Нібы шчасця шукаў па свеце, а мо хлеба кавалак… і быў сумным заўсёды, і сумна пазіралі вочы яго і на яснае сонца, і на лісце зялёнае румянай вясны.

А потым не стала Лёвы. Шукалі яго, знайшлі. Вунь у тым ляску, на старой хвоі павесіў Лёва сваё шчасце-жыццё, павесіў яго на тоўстым суку. Пахавалі. Але кожны памятае яго сумныя вочы і ціхую жудасць яго незразумелых слоў. Аб чым ён думаў, аб чым марыў? Мо аб новым сонцы, аб новай вясне, а мо пра кавалак хлеба, які туга падаваўся ў рукі, — ніхто не ведае, і нашто ведаць, бо прысыпала зямля сумныя вочы, а язык болей слова не скажа — няма Лёвы. Толькі вочы яго нібы зданню стаяць вунь сярод дрэў; прыгледзься — і ўбачыш агеньчыкі чалавечай жудасці, вострае пакуты чалавечага сэрца, сцятага кайданамі жыцця, старымі кайданамі даўно мінулых дзён.

— Бяжым хутчэй, Маня, страшна мне тут, і на сэрцы робіцца холадна.

Хіба Эйдля баіцца мерцвякоў?

* * *

— Ой-ой… вы думаеце, яму трэба зямля-а-а… Вы думаеце, ён будзе араць? Вы думаеце, ён трымаў плуг, ці ведае, дзе ў каня галава, а дзе хвост? — То разышоўся ваўсю Эйдлін бацьк-

ка Шолам. Ён накінуўся на Міньку, што хадзіў па вёсках, што скупляў шчаціну і цялячыя скуры, накінуўся з тае прычыны, што Мінька папрасіў сакратара запісаць яго на перасяленне ў Крым. Шолам бегаў з кутка ў куток, нечакана выныраў то тут, то там і гаварыў усё адно і тое:

— І хіба з гэтага што будзе, ой-ё-ёй… Вы думаеце, што гэта і сапраўды, калі зямля, дык ты і гаспадар. Не, не… пачакайце, пачакайце, пабачыце, як боб садзіць трэба, пабачыце, пабачыце, з чым цыбулю ядуць…

— З хлебам, — абрэзаў нехта Шоламаву гутарку.

Шолам аж падскочыў. Хто можа супярэчыць яму, яму, які так добра ведае жыццё? І, расцягваючы кожнае слова, насупіўшы бровы, Шолам важна гаворыць, нібы працэджвае кожнае слова праз чыстае сіта сваіх рудых вусоў:

— Ой, адкуль ты такі разумны, і ведае ўсё, як малое… З хлебам, — бач, адказаў, а дзе ты той хлеб знойдзеш, галоўка твая яловая?

— Пасеем…

— Ой, каб табе атруты насеялася! Ён пасее, ён па-а-сее… Бачылі людцы, то ж галоўкі бязглуздыя.

Але ніхто асабліва не зварочваў увагі на прамовы Шолама, і ён, азірнуўшыся па баках і яшчэ гаворачы: — Ён пасее, ё-о-он пасее, уй… — тым часам мітнуўся пад сакратара і на вуха шапнуў яму, каб ніхто не чуў:

— Ісак, Ісак, глядзі ж, на мяне не забудзь, запішы дзесяціны са тры…

Але хіба людзі не пачуюць, хіба ў камсамольцаў вочы і вушы не маладыя? І раптам з усіх бакоў:

— Брава, Шолам, брава, вось маладзец, дык маладзец!

— Ну, што, што вам трэба і чаго вы раты паразяўлялі?

— Брава, Шолам, пасееш!

— Ой, каб вам спухнуць, і што з вамі гаварыць… — Шолам захаваўся ў людскім натоўпе, які разышоўся цяпер ваўсю, гудзеў на ўсе галасы, лаяўся, спрачаўся, грукацеў нагамі, і ляцелі новыя словы, словы аб зямлі, самай звычайнай зямлі, на якой бывае ўраджай і людское шчасце. А камсамольцы смяяліся, чаму не смяяцца — сход прайшоў вельмі ўдала, з вялікім і вялікім поспехам: каля палавіны мястэчка пацягнулася да зямлі. Каля палавіны, а гэта што-небудзь ды значыць.

Толькі вунь нешта сумныя, быццам нездаволеныя, стаяць стары Лейба і Саламон. Яны даюць грошы ў рост, жывуць з гэтага — і што ім да зямлі, не яна іх цікавіць, а так прыйшлі

на сход паслухаць, аб чым гаварыць будзе галота гэта. І, крыва ўсміхнуўшыся адзін аднаму і насунуўшы ніжэй старыя шапкі, яны кінулі адзін аднаму па слову: «пабачым…» і пасунуліся моўчкі на мястэчка.

А Эйдлі было весела. Чаму? Яна і сама добра не скажа чаму. Але заўсёды весела тады, калі ў шэрыя дні ўпаўзе нешта смелае, нешта новае, што ўзніме людзей да новых думак, да новых дзей, што прымушае мацней біцца сэрца і надае бадзёрасці ўсяму тваймy руху: і ідзеш весялей, і гаворыш смялей, а то і заспяваеш песню. І льюцца песні ў цёмным змроку летняй ночы. Галасы маладыя, песні агнявыя, кіпучыя, як кіпучая маладосць.

Бо ўсё ў маладосці горача — і словы, і думкі, і дзеі. Дрыпаюць вунь па вуліцы старыя, боўтаюцца полы вопратак, калені спакваля згінаюцца і разгінаюцца. Думкі і словы ў старых не плывуць, а таксама прыгінаюцца, паўзуць па змрочнай вуліцы, і ў думках што: грошы, шабас, тры фунты газы ды селядзец з паранай бульбай. Вось і думкі, вось і шчасце…

А ў Эйдлі сэрца гатова разліцца неўміраючаю радасцю, бо гудзе звон-перазвон:

Мы кавалі з юнацкім духам,
Куём мы будучыні дні.

І ўсіх спрытней заліваецца песняй малады каваль Даля. Прыгожы хлапец, а рукі, рукі, нібы наліў іх хто гнуткаю сталлю. Моцныя рукі, і калі вітаецца з табой, так паціснe, што аж пальцы храбусцяць і зліпаюцца — і балюча, і страшна робіцца. Але што там, паглядзі ў Далькавы вочы, а ў іх цяпло струменіць, мітусяцца агеньчыкі такой таварыскай вясёласцю, што дзе той і страх, дзе тут і боль. Адразу адыдуць пальцы, і засмяешся такім пераліўным смехам, што хлопцы і дзяўчаты змоўкнуць разам, а потым і пайшло, і пайшло:

— Ой, Эйдлечка, не углядайся ў Далькавы вочы!

І колькі смеху, такі гармідар учыняць, што, здаецца, бярозы і тыя пачынаюць ківаць сваімі маўклівымі галінкамі. Эйдлі бывае тады сорамна. Але што там, і ёй смешна, хіба ж яна зрабіла што кепскае? А Далька, ну што Далька? Далька хлопец, ну прыгожыя рукі, праўда, і вочы ў яго прыгожыя. Але якое да яго дзела Эйдлі. Далька — Далькам, а Эйдля — сама па сабе Эйдля. А хіба нельга пазіраць на Дальку, паглядзець на яго шэрыя вочы? Глупства. Так разважае Эйдля, ідучы дамоў. Тата яшчэ сядзіць і нешта горача гаворыць з маткай.

«Мусіць, пра зямлю», — думае Эйдля.

Але татка пачынае прымайстроўвацца нанач, кідае ўсякую гаворку, і хутка хатай апаноўвае сонная цішыня, якую парушае толькі цвыркун за печкай, ды ў вокны заглядае бессаромны месячык. Хітры, хоча ўсё паглядзець сваім срэбным вокам.

Эх, спаць пара, бо ноч над людам пануе, ноч-начніца зялёная з блакітнымі іскрамі-зоркамі…

* * *

— Эйдля, восень падходзіць, трэба брацца за працу, бо ты ж не малая ўжо, — пачынае чамусьці татка нудную гутарку.

Чаму нудную?

А як жа, тут ён пагаворыць і пра кавалак хлеба, і пра скураты, і пра тое, што кожны чалавек павінен потам і слязьмі зарабляць на дзень сабе, і не толькі на дзень, а наогул клапаціцца аб жыцці сваім. І як інačай, калі Эйдля хутка ўжо чалавекам будзе. Хіба ж на бацькавым мазалі век пражывеш? Дый бацькава спіна ўжо занадта сагнулася, не ёй высцілаць жыццёвыя сцежкі, ды каму? — маладой дзяўчынцы. Дый трэба трохі і сэрца мець, і жаль да бацькавай працы, бо…

— Ой, татачка, годзе, ну што вы…

— Што годзе, што годзе? Хіба я няпраўду кажу?

— Ды вы праўду кажаце, але…

— Што «але»? Я ж цябе не папікаю хлебам, бо я ж бацька, а не хто іншы. Але, як татка твой, павінен сказаць табе, што трэба да жыцця бліжэй падыходзіць ды нешта ў рукі ўзяць, бо за жыццё голымі рукамі не схопішся.

— Дык што вы хочаце сказаць?

— А вось што, школу ты скончыла — чытаць і пісаць можаш, што болей трэба? Але гэтым сыта не будзеш. Трэба працу мець. Мо скажаш, нашто табе праца, мо хутка збіраешся замуж выходзіць, дык цяпер, галубка мая, жаніхі пайшлі, і такія пайшлі, што хоць ты ім галовы адрывай. Ну хай бы сабе і жаніх тым часам, але ведаеш, даражэнькая, і жаніху прыемней тады, калі нявеста ці жонка ў жыцці не толькі канарэйкаю пяе, але яшчэ і мае якое ні на ёсць рамяство ў руках, бо, ведаеш, спакойней куды. Справа не ў заработках, а калі жонка каля хаты што зробіць сама, ці дзіцяці пашые, ці мужыку свайму што — дык гэта ў сям’ю прыбытак, і вялікі прыбытак.

— Ай, татка, татка! І якія жаніхі, і якія прыбыткі… Хіба не працую я, хіба гультайка я ў вас?

— Эй, не туды пачала ты казаць. Я ж не гавару, што гультуеш ты ў сям'і. Але што зробіш у хаце — яно ўсё непрыметна. Трэба другі занятак, ну рамяство якое, ці што, ну хоць бы швачкай быць, усё ж ткі людзі гэтым кормяцца, а бывае, і другіх кормяць.

— Дык чаго вы хочаце?

— Чаго я хачу? Хаценне малое, трэба з восені да швачкі Фані цябе аддаць — пашыеш год, другі — глядзі і навучышся. А гэта хлеб, пэўны хлеб, не Нісанавы казкі…

— Ну, я, татачка, я… згодна… Я нічога не маю супроць. Але мне думалася… Мне хочацца… дый і Маня паедзе ў горад і многа хлопцаў са школы… Мо лепей, тата…

— Што лепей, што, што?

— Я, татачка, хачу вучыцца…

Шолам смяецца:

— Яна хоча вучыцца! Ха-ха-ха… Хто? Шоламава дачка… Якога Шолама? Шаўца… Шылам свет, галубка, не нагрэеш… Хоць і невялічкі свет у нас, а ўсё ж такі не нагрэеш, не хопіць агню, не хопіць…

— Пра што вы, татка, гаворыце?..

— Пра што, пра што — ды пра гэтыя самыя грошы… Без іх не сунешся ў горад, а з гэтай вунь хеўрай, вунь з Айзікамі тваімі ды Гінтамі, бач, куточак сястрыц і братоў, з гэтай гурмой не падскочыш высока; у кожным разе, за парог местачковы нам совацца цяжка, ой як цяжка, ой як цяжка.

Эйдля гатова плакаць, у Эйдлі сэрца шчыміць калючым болем і ў вачах туман, засцілаюць іх здраднікі-слёзы. Але хіба Эйдля не камсамолка, маладая, з кіпучай думкай і смелай надзеяй…

— Тата, пры чым тут грошы? Мо і дарам буду вучыцца, дый ячэйка хадайніцтва дасць.

— Хадайнічаць яна будзе, хадайнічаць… Свая кішэня — вось і хадатай… А ў мяне там вятры веюць, у кішэні ў гэтай.

— Татачка, я ж кажу, што без грошай, ну што вы не верыце…

— Ат, выкінь з галавы думкі дурныя. Яна хоча вучыцца. Яна хоча свет змяніць. Шоламава дачка хоча вучонай быць. Ну, дзе вы бачылі справы такія? Кінь і не гавары болей глупства, бо ўжо не малая, пара свет разумець і справы людскія. Яна да Мані раўняецца… Што Маня? Яе бацька ў горадзе на гатовых грашах служыць, а ты паспрабуй, выбі малатком свае грошы — выбіваеш, выбіваеш і дух займае. Яна вучыцца… добра сказаць… Але даволі, што гаварыць, пара розум мець ды глупствамі не займацца. Дый павінна яшчэ ведаць, што на свеце ў жыцці кожны чалавек сваё месца мае. Ты, напрыклад, шавец. А чаму? А таму — твой бацька шаўцом быў, і сын ім павінен быць, а

дачка… дачка за шаўца замуж пойдзе. Не за шаўца, дык каваль знойдзецца, дый краўцоў хапае.

І сяк-так кожны і кавалак хлеба прыдбае, не памрэ з голаду. А яна — вучы-ы-цца… Жыццё навучыць, і бясплатна навучыць, як на свеце жыць ды як варочаць мазгамі шавецкімі. Шылам свету не нагрэеш. Даволі глупства. А яна — вучы-ы-цца..

* * *

Прыгожа на вуліцы ў дзень шабасовы, асабліва калі сонца і ад яго цяплынь вее. Маладым што, а вось старым прыемна на прызбе сядзець ды падстаўляць гарбатыя спіны і худыя калені пад сонечныя хвалі. Сонца пяшчоты разлівае нямераным келіхам, і пі, колькі душы тваёй зажадаецца, толькі б здароўе, карыстайся ласкаю сонечнай, набірайся цяпла яго на зіму, калі ў самога трохі высахла сэрца і кроў не бурліць, не пеніцца, а струменіць крыху гультайна перасохлай ручаінай.

Дзетвара на вуліцы мітусіцца, гульні водзіць, смяецца, плача — чаго не бывае толькі. Але смеху болей і болей радасці, бо жыццё для іх — дзверы не адчыненыя, не стаяць за імі годы пражытыя. Таму і смяюцца, а плачуць — і тады смяюцца.

І старыя ўспамінаюць жыццё і расказваюць пра падзеі мінулыя. А болей за ўсіх расказвае Арон. Ён болей за ўсіх пабачыў свету, паспытаў і салодкага і горкага, а калі па праўдзе казаць, дык болей горкага. Дзе ні пабыў толькі чалавек, нават у Амерыку ездзіў да старшага сына. Але не паладзіў з нявесткай, назад вярнуўся да родных мясцін, да наседжанага гняздоўя, дзе стаяць пад сонцам саламяныя стрэхі і іх цалуюць бярозы купчастыя і зубчастыя клёны. Многа ведае Арон, таму і расказвае цікавае:

— Быў я маладым, і расцвіталі кветкі на сэрцы… Праўда, цяпер я другі — абламаліся лёгкія крыллі, прыланцужылі сэрца гады, і ногі слабыя, і старыя вочы — мусіць, хочуць зачыніцца. Ну, што ж — пара… Але справа не ў гэтым. Пра што гэта я расказаць вам хацеў? Ага… Вы вось пра зямлю ўсё. Як што, дык — зямля і зямля, толькі і чуткі аб ёй ды размовы. Што ж, дзела добрае, нездарма аб ёй словы пайшлі, бо зямля — цвёрды грунт, нерухомы, і шчасце захавана ў ёй, паспрабуйце знайсці. Знойдзеце — небяспекі не ўбачыце — зямля надзейна і не любіць маны.

Не верыце мо, дык паслухайце. Многа ездзіў калісь па краінах чужых я, шукаў, а чаго шукаў — запытайцеся ў сонца, запытайцеся ў павеваў ветру… Дык вось… Давялося мне раз на моры быць. Не адзін я там быў, а многа людзей. Прыглядаліся,

але бачылі мала, толькі блакітнае неба, ды ўсплёскі зялёных хваль, ды солкія пырскі, вось і ўсё… Потым вецер шалёны. Мора супакою не любіць, падабаюцца яму мяцежныя віхры ды жарты з вадзянымі немярэчамі. Захвалюе мора, захвалюецца жудасцю сэрца, сціснецца болем, а сам ты зробішся маленькай-маленькай істотай, якую зыбае мора на ўспененых хвалях, нібы хоча захаваць цябе ў цёмнай глыбіні зялёнага шкла. А кожнаму хочацца сонца, у глыбіню глядзець неахвота.

Разышлося, разгулялася мора, а людзі плакалі, Богу маліліся, успаміналі пройдзены шлях, праклінaлі дзень і час, калі ступілі на зыбучыя шляхі, шукаючы ўперадзе таемнага шчасця. І для кожнага найвялікшым шчасцем стала адно — жыццё, худое ці бліскучае — усё роўна, толькі б жыццё. А на моры ўсё горш і горш, пазрывала мачты даўно, вада падбіраецца пад самую шыю, казыча яе сваёй халоднай пяшчотай. І ўсе прымоўклі — супроць смерці нічога не скажаш, трэба стрэць яе спакойна, бо ты чалавек, не абы-хто. І было ціха і сумна, толькі хвалі марскія на дыбкі станавіліся ў шалёных скоках, хацелі абняць, абдараваць пацалункамі смерці. І ў гэты час хтосьці крыкнуў, нечалавечым голасам крыкнуў:

— Зямля, зямля-я-я!..

І адразу нібы адышла смерць, адвяла свае вадзяныя, зялёныя вочы. Загарэлася радасць у грудзях пякучым агнём, усцешыліся сэрцы ў васкрэсшых надзеях, і ўсе весела зірнулі наўкол — недалёчка была зямля, самая звычайная зямля, на якой цвёрды грунт і надзейнае шчасце.

Некалькі хвілін — і мы на зямлі, і мокрыя, стомленыя, мы палка цалавалі зямлю і плакалі ад незвычайнай радасці. Мы бачылі перад сабой жыццё са ўсімі яго радасцямі і ўцехамі, са слязьмі цёплымі і гаручымі. Жыццё… і мы былі вясёлыя.

— А ўсё ж такі розум трэба мець, і вялікі розум, — кажа паціху Шолам.

— Што розум?

— Дык вось, каб да зямлі дабрацца…

— Ну, вядома… У кожнай справе на першым месцы павінен розум стаяць.

— Так, так, розум — без яго не абыдзешся.

— Хто і спрачацца будзе — без розуму не пражывеш, асабліва ў нашы дні.

— Так, так, розум і толькі розум, а з ім чалавек не загіне…

Бегай не бегай, Шолам, дум сваіх не зланцужыш — рассыпаюцца яны, як каралі з парванай ніткі: адну прыгорнеш —

другая далей бяжыць, пераймеш яе, а наўцёкі сямёра новых. І ўсё дражняцца:

— Шолам, Шолам, ці табе шылам свет нагрэць — у цябе ж кішэня шавецкая, а ў ёй дзіркі свіцяцца, бо залапіць некалі — калі ж зарабляць на хлеб?

Ой, грошы, грошы, без вас пакута, а кажуць людзі — і з вамі гора… Чаму? — а ліха вас ведае. Не ў грашах было Шоламу шчасце, а ў працы спрытнай ды ў сытых дзецях. А цяпер? Немаведама… І новыя думкі лашчаць подыхам цёплым.

— Што грошы? — смяццё… Не ў іх справа. Было б здароўе ды моцныя рукі, не аслаблі б вочы ад бліскучых цвікоў, а там… усё, што захочаш. Дый Эйдля ад бацькавага сэрца ўпартасць мае і розум жыццёвы — не прападзе, не загіне на сцежках людскіх, часам слізкіх для іншага чалавека…

Трэба розум вялікі мець, каб да ўсякае справы прыкласці ўдала мазольныя рукі. Іменна розум… Значыцца, Эйдлі трэба… што — яшчэ не ведае Шолам, а калі і ведае, дык як жа адразу і згадзіцца так. А вунь сям’я, апоўзлікаў колькі, і ўсе смяюцца. Чаму? А мусіць таму, што бацька сумуе, ніжа вузлы расхістаных думак… Не… Хіба ж можна так, — дзеці яны, дзецьмі і застануцца, ну ў чым яны вінаваты? Не ў іх справа…

А ў жонкі зноў чаравікі стапталіся. Хто вінават: мо жонка, мо чаравікі, ці свае рукі шавецкія. А там вунь яшчэ колькі патрэб, і патрэб неадкладных. І што рабіць, і што думаць…

А ўсё ж такі розум вялікая штука… Ну… дык няхай жа будзе, што будзе…

— Эйдля!

— Што, татачка?

— А ўсё ж такі ты…

— Чаго, тата?

— А ўсё ж такі ты будзеш… вучыцца…

— ?

— Ну, чаго ўныпіла вочы, хіба не рада, дык я… без прымусу…

— Татачка! Даражэнькі! Міленькі мой татачка!

Эйдля цалуе бацьку, і Шоламу прыемна: усё ж такі ён бацька, не хто іншы, Шоламу прыемна, што ў яго такая прыгожая і разумная дачка. Прыгожая, што і гаварыць. Бач, шаснаццаты год ідзе, калі што — і жаніхоў чакай. Дый хіба яны не заглядаюцца, ого-о, пранырыя людзі, асабліва гэтыя самыя хлопцы маладыя. Але што гаварыць, не ў іх справа — Эйдлі трэба вучыцца, і гэта перш за ўсё.

— Правільна думка мая, Эйдлечка?
— Што, тата?
— Ды нічога, ідзі вунь да маткі, яна нешта сказаць табе хоча.
Хіба матка не чуе справы? Хіба ёй не хочацца пацалаваць дачкі, хіба не аб ёй яна ноччу прамазоліла вушы Шоламу, прамазоліла да таго, што ўзлавала яго не на жарты, і ён нават, які страх вялікі, вылаяўся тады:
— Спі ты ўжо, жлукта асінавая…
Праўда, Эстэр ноччу трохі плакала — хіба мае права Шолам так абражаць яе? Праўда і тое, што Шолам раніцой казаў жонцы паціху:
— Ты, Эстэр, забудзься пра тое, што я ноччу сказаў. Ну, сказаў, бачыш… вядома, ад глупства сказаў… забудзься…
І паміж імі зноў згода.
Згода і спакой ва ўсёй хатцы. Нейк весялей нават стала ў ёй, вунь скачуць дзеці.
— Эйдля едзе вучыцца, вучыцца…
І ўсім смешна, а татку, вядома, болей, на тое ж ён і татка, не абы-хто.

* * *

Калі нырне чалавек у хвалі радасці, нырне ўсёй сваёй чалавечай істотай, тады не чуе ён ног пад сабой, а часам і сонца не бачыць, бо сонца — радасць, і радасць — сонца. Кожнае дорага, кожнае міла, і ў кожным светла і цёпла. Люба і дорага жыць на свеце, калі радасць тваю абыме, пачне песціць слодыч сонечных дзён, калі ў сэрцы тваім закрынічаць надзеі. Не стрымаць іх жыццёвай віхурай, ні цёмным вірам, ні маленькай няўдачай людской. Бо наперадзе вялікі шлях, наперадзе велізарныя агні полыхам веюць, завуць, запрашаюць — ідзі каваць, гартаваць шчасце, долю лепшую. Не тваю долю, не тваё шчасце, чалавеча няшчасны, калі ты з душою сваёй адзін-адзінюткі, а шчасце агульнае, долю агульную для людзей мазаля і поту.
Плылі карагодам думкі, запляталіся вянкамі, і ад дум, ад надзей маладых усё для Эйдлі наўкол было прыгожым і новым. Саламяныя хаткі, здаецца, не хацелі пакрыўленымі быць, усміхаліся ёй, міргалі прыжмураным вокам-акенцам, нібы сказаць хацелі:
— І мы не абы-што… Мы старыя хаткі, але люба нам маладое шчасце, і любы нам карыя вочы і вочы шэрыя, бо ў сценах нашых яны пачалі вучыцца глядзець на шырокі свет…

Эйдлі было весела, да таго весела, што вечарам, калі сабраліся хлопцы і дзяўчаты пад старой бярозай каля светлага клуба і калі ў жартах зачапіў яе Далька-каваль — хацеў пацалаваць знянацку пры ўсіх, — яна так ушчыпнула яго, што ён аж падскочыў і круглей зрабіліся шэрыя вочы. Вось-вось пайшлі б маршчакі па твары. Але сцярпеў ён і засмяяўся так, што ўсіх у рогат кінула:

— Што, з'еў, Далька? Упярод, браце, не лезь, не будзь занадта ласым на дзявочыя пацалункі, — жартавалі дзяўчаты.

Смяялася і Эйдля, і на яе ўглядаўся Далька і думаў, думаў. Аб чым? Мо аб тым, аб чым думала Эйдля. Аб чым? А хто іх ведае — ідзі разбярыся ў дзявочым сэрцы, калі спавівае яго год шаснаццаты…

* * *

Лета страціла моц, пахаладзела сонца, падкасіў яго промені подых восені блізкай. Раніцой туманы халодныя сцелюцца на бліскучым іржэўніку, хутка, хутка адыдуць кучаравыя дні, дні цеплыні, дні шырокага прыволля. Але ўсё прыгожа яшчэ, вунь і дрэвы лістом шалясцяць, нібы шэпты шлюць сонцу раніцы, і ў паветры свежым яблыкам пахне і мёдам ліпавым.

І дыхаць вольна, бадзёрыць шыр палёў чалавечыя грудзі, асабліва, калі шыр гэтая рассцілае перад табой усё новыя дываны, абшары.

Эйдля з Маняй едуць у горад вучыцца. Тата правёў з паўвярсты дый пайшоў у поле, дзе канчалі разбіўку зямлі для тых, хто хацеў з ёй бліжэй парадніцца, набыць новае, непарушнае сваяцтва.

Эйдлі весела і сумна трохі — што ўперадзе будзе? А дарога туды — у горад, віецца істужкай простаю, і няма ёй канца, няма краю. Шалясцяць бярозы лістом, у задуменні клёны ахінулі дарогу кучаравымі кронамі ды асіна трапеча лісточкамі, да вятроў палахлівымі.

І ўсюды ціхая радасць паразліта. І ў сэрцы яна. І радасцю вунь на ўзгорку пад зялёным лесам, каля маладых зялёных бярозак ірдзеюць на сонцы залатыя брусніцы…

Ірдзеюць брусніцы…

Залатыя брусніцы…

То ў каплях расы свежай купае сонца свае ранішнія праменні…

***1927***

# МАНЬЧЖУР

— І-і-і… браток ты мой, медныя твае галасы… Ты не падумай, сокал мой родны, што я… што я абы-хто.

— О-го… Ты не глядзі, браце, што гарнітур на мне — не гармонь мая — трохрадка венская з пазалочанымі галасамі… Пасціраліся лады на мне, лаку няма, дый адкуль узяць яго. Гады-годзікі:

Пазарасталі сцежкі, дарожкі,
Дзе прахадзілі мілага ножкі…

Не дзіва, браце, — сорак пяты гадок, а гэта табе не «ізюміна», не бок тарана… Паспрабуй вось, голуб, падскочыць настолькі — пуп надарвеш… Так-то, браце… А я вось пражыў і, дзякаваць Богу, чаго не пабачыў і хто толькі не глядзеў на мяне… Падумай толькі, сам генерал Курапаткін са мной гаварыць ізволіў… Усяго было. Іду гэта я з даручэннем ад ротнага камандзіра ў штаб палка, і… брацiку мой, шась насустрач мне генералаў з шэсць, і ўсё ў палетах бліскучых. Ну, я адразу, як след, круць ва фронт і зенкамі старшому зенкі пакрыў.

— Ты, — гаворыць, — салдацік, куды?

— Так і так, ваша правасхадзіцельства, з даручэннем ротнага камандзіра…

— А ці ведаеш ты, — кажа, — хто гаворыць з табой?

— Не магім знаць, ваша правасхадзіцельства!

— Ду-у-рак!

Вось тут-то я як рыкнуў на ўсё сваё горла салдацкае, вядома, малады быў, не тое, што цяпер:

— Так точна, ваша правасхадзіцельства!

Бухнуў гэта я, аж генеральскія коні вушы нахмылілі, ад’ютант малады, ат, падсосак мамчын, чуць з сядла не споўз. Ну, думаю, нарабіў бяды, тут табе, галубок, не гаўптвахтай пахне, пазнаеш, пачым фунт ліха. Але нічога. Паглядзеў гэта ён на мяне, усміхнуўся другім ды кажа:

— Хоць ты і дурак дураком, але ўсё ж такі хлапец зухаваты, адказваць можаш як след. Ідзі ў штаб і скажы, што генерал Курапаткін загадаў табе лычка даць, запішы паручнік…

Ну, вядома, хваціў я яшчэ раз: «Рад старацца, ваша правасхадзіцельства», яны і паехалі, а я сваёй дарогай. Так і яфрэйтарам стаў. Ты, галубок, не смейся, молад яшчэ, і смешнага тут, браце, нямашака. Ты вось зубы выскаляеш, а запытаць

цябе — чаму? — і не адкажаш. А таго не ведаеш, што я табе пра Маньчжурыю гавару, а не пра калдобіны на тваёй вуліцы. А раз пра Маньчжурыю — маўчы і не дыхай, бо мы там кроў пралівалі, супастат ты гэтакі, мы сопкі маньчжурскія шынялямі заслалі ды пахавалі пад імі косці салдацкія, шэрыя…

— І ты кроў праліваў?

— Ах ты, агідная душа твая, «і ты кроў пралі-ва-аў»… ды хто ж яе і праліваў, калі не я?

— Яно і праўда, казаў жа ты ўчора, што кашаварам у Маньчжурыі быў і даводзілася рэзаць быкоў маньчжурскіх.

— Я?.. Я?.. Быкоў маньчжурскіх? Ах ты, шымоза ты дзіравая японская, «кашавар», бачыш ты…

— Ды ты ж сам казаў…

— Я… Я казаў? Перахрысціся, і хто цябе навучыў сказаць гэта, каб я, яфрэйтар, кашаварам быў, і калі…

— Пазаўчора.

— Згінь, нячысты дух, а то не пашкадую гармоні… Бач, што надумаўся, я «кашаварам быў»…

— Ну, супакойся, можа, ты і не быў, хто ж цябе ведае?

— Я, я ведаю, няшчасная твая галава, хто ж болей павінен ведаць?..

— Правільна, Маньчжур, правільна, мо ты і афіцэрам часам быў?

— А што ж ты думаеш, я не мо-ог быць і афіцэрам, што ж ты сабе думаеш — я не мо-о-г насіць пагоны блішчастыя, бач, знайшоў мудрасць…

— Дык чаму ж ты не быў?

— Чаму, чаму… А таму, што мурлом мы, браце, з табой не выехалі. Мужычае мурло і розум мужычы. А мурло то яно шэрае; мазгі мохам пазарасталі, калі ё розум, і той ззаду. Яно, канечне, і ў панкоў розум не абы-які быў, мо слабей і нашага задняга, ды, бач, мурло то ў яго белае, і без цвілі, і рукі — далікатныя рукі, белыя рукі. Адным словам, не да працы рукі, голуб ты мой. Чым жа ім і падзаняцца, як не быць панамі ды афіцэрамі. Вось і былі, і пагоны насілі з эпалетамі, а мы, значыцца…

— Яфрэйтарамі служылі…

— А хоць бы сабе і яфрэйтарамі. Адно лычка, дый тое бліскучае…

Маньчжур ужо не крычыць, ён гаворыць паціху, але злосныя ноткі іголкамі тапыршчуцца ў асіплым голасе, шчацініцца рыжая барада, а закарузлыя дрыжачыя рукі цягнуцца да чаркі, не першай і не апошняй. Мутнымі, як асенняя імгла, міргаючымі

вачыма доўга ўзіраецца ён скрозь заседжанае мухамі шкло на пякучыя «божыя слёзы», падносіць на свет замурзанай газоўкі і потым ужо, нібы набраўшыся шчырай адвагі, падносіць чарку пад абшчыпаныя, рэдкія рудыя вусы. Закінуўшы назад галаву, за два-тры каўткі высмоктвае ён пахучую, празрыстую гарэлку, моршчыцца пры гэтым, як сто сопак маньчжурскіх, нібы збіраецца ўсяму свету прадаваць гэтыя маршчакі глыбокія. Чарка ціха стукае аб стол, крэкча Маньчжур, лахмацяцца яшчэ болей рыжыя кудлы на галаве, а вочы — слязлівыя, асалавелыя — узіраюцца на гармонь.

Маньчжурава гармонь…

Маньчжурава сэрца…

Гэта ж адно і тое. Сумуе сэрца — сумуе гармонь, плача гармонь — плача і сэрца. Гармонь Маньчжуру — жонка і дзеці, усіх перажыла і ўсяго пабачыла, не на адной сцяне павісела. Але не перажыла яна чалавечае радасці і чалавечага смутку. Пасля першай чаркі Маньчжур заўсёды рады, пасля другой — ён вясёлы. І тады старыя, паабшчыпваныя лады трохрадкі, пазвязваныя ніткамі, дроцікам, залепленыя лакам і воскам, а то і проста паклееныя хлебам, пачынаюць залівацца вясёлаю песняй. Сам Маньчжур, скрывіўшы набок галаву, выводзіць разам з старым, залепленым і абмусоленым мехам гармоні словы песні, ківае ў такт галавою і падгоцвае правым каленам.

Калі ж дапівае Маньчжур апошнюю чарку і слязлівыя вочы заўважаюць пустое і нуднае дно, — апускаецца галава на грудзі, з вачэй скочваецца сірацінa-сляза, і Маньчжур успамінае Маньчжурыю. Успамінае маньчжурскія сопкі і пачынае цягуча-цягуча выцягваць з роднай гармоні гукі вальса «На сопках Маньчжурыі». Ён прынікае вухам да самых ладоў, закрывае вочы, і льюцца гукі ручаінаю слёз, мітусяцца паміж цесных і сырых сцен, але на вуліцу выйсці баяцца — Маньчжур іграе ціха. Дый нашто яму гучна, калі і так далятаюць гукі да самае глыбіні душы, хвалююць і шчыпаюць за сэрца, моцна шчыпаюць. Да таго шчыпаюць, што не даводзіць да канца вальса Маньчжур, кладзе гармонь на стол, ашчарэпіць галаву далонямі і ціха ўсхліпвае.

— Эх, брат ты мой, як былі мы ў Маньчжурыі…

— Кладзіся ты спаць лепей, мо Маньчжурыя табе і прысніцца, сопкі пабачыш тым часам.

— Не ў сопках справа, мой голуб… Эх, брат ты мой, калі быў я ў Маньчжурыі, дык.. охо-хо… Хіба расказаць можна ўсё, не…

— Ну, ладна, ладна, спі і годзе, і ніякіх табе тут гутарак.

— Браточак мой, і гэта, значыцца, быў я ў Маньчжу-жу-у-р…

Далей язык яго зусім заплятаецца, думкі пачынаюць іграць ціхую завею, Маньчжур засынае.

* * *

Кожны заве яго Маньчжурам, і не крыўдзіцца ён, і ніхто не ведае, як завуць яго інакш, якое ў яго імя, якое прозвішча. Дый нават і сам Маньчжур пра гэта добра не ведае. Ці скурыў з п’яных воч дакумент, ці проста згубіў дзе-небудзь пад плотам ці каля сметніка, але дакументальна ўстанавіць сваю асобу ён не меў ніякай магчымасці. І ў першыя разы, калі забірала яго паліцыя за розныя п’яныя справы, усе вельмі дзівіліся, калі чалавек на ўсе запытанні безнадзейна адказваў адно і тое слова: Маньчжур і Маньчжур…

— Як імя?

— Маньчжур…

— Прозвішча?

— Маньчжур…

— Па бацьку?

— Маньч… не, не, галубкі мае, яксьці іначай бацьку звалі, а хто яго ведае, ці Панкрат, ці Кандрат… Але я пасля ўспомню.

Так і пайшло: Маньчжур і Маньчжур. Дый нашто яму дакументы, нашто тое прозвішча, калі і так кожны добра ведае, як аблупленага. Маньчжур з’явіўся на вуліцы год з дзесяць-пятнаццаць таму назад. Тады была ў яго жонка, былі дзецi, а сам Маньчжур насіў тады прыгожыя бліскучыя боты, бо меў работу, і не абы-якую работу. Такую работу, якая давала магчымасць пашыць і боты, і ў нядзелю апрануцца ў чорную новую жакетку, купіць і жонцы вялікую цёплую хустку, а дзецям перавясла абаранкаў у свята. І Маньчжур купляў. Даўно гэта было, даўным-даўно. Не любіць думаць пра гэта Маньчжур, бо няма цяпер ні дзяцей, ні жонкі, ні цёплай хусткі, ні перавясла абаранкаў. Усё сплыло, усё загінула.

Чаму?

Не пытайце пра гэта Маньчжура, бо носіць ён у сэрцы сваім толькі думку аб пляшцы, аб чарцы, не першай і не апошняй. І добра ведае Маньчжур, як не любіла жонка пляшкі, як плакалі дзеці, калі занадта пачаў углядацца ён у мокрае хмельнае дно. І чым болей ён углядаўся ў дно чаркі, тым болей плакалі дзеці і маўклівай рабілася жонка. Яна сядзела нерухома, падпёршы далонямі галаву, сядзела, маўчала і, углядаючыся ў дзяцей, выціскала з вачэй халодныя скупыя слёзы. Ох, як не любіў іх Маньчжур, як узненавідзеў ён гэтыя слёзы, не раз жонцы казаў:

— Ты лай мяне, лай апошнімі словамі, ну дай мне, калі хочаш, у пысу, да крыві дай, бо я не абы-хто, я стары салдат… Толькі не маўчы, о, смерць мая, не маўчы ты, не маўчы-ы… Ну, чаго ты хочаш?

А жонка маўчала, палахліва пазіралі дзеці адно на аднаго і, нібы па камандзе, пускаліся ў скогат.

А Маньчжур, тады ўжо назло ім, піў яшчэ болей і, калі заставалася ў галаве яшчэ хоць адна светлая думка, браў гармонь са сцяны і на гуках дрыжачых пускаўся ў далёкія маньчжурскія сопкі. І плакала гармонь, плакала жонка, плакалі, усхліпвалі дзеці, але пад гармонь заціхалі і толькі размазвалі слёзы на задуменных тварыках. Маньчжур іграў; і з чароўнымі, шчыпаўшымі за сэрца гукамі ўнасіўся ў далёкае жыццё, дзе няма гэтых шэрых сцен, дзе няма гэтых шэрых будняў, гэтых нудных і пахмурных дзён, у якіх ёсць задаволенне ў адной толькі працы, а больш… больш нічога… бо гразка на вуліцы, шэрыя і непрытульныя сцены, а ў акне гразкі і хмуры двор. А Маньчжур быў у розных краях, ці ж можна яму знайсці радасць у гэтым сметнішчы, што вунь там прытулілася пад слізкай каменнай сцяной. А вочы яго, якія бачылі і блакітнае неба, якія бачылі глухія лясы сібірскія, суровы і строгі Байкал і такія смешныя, смешныя фанзы кітайскія, — хіба гэтыя вочы радасць знойдуць у каменных буднях, у пялёнках дзяціных…

— Эх, разысціся б, распрастаць плечы…

І хочацца Маньчжуру нечага новага, светлага, а чаго — і сам не ведае. А жыццё — камень цяжкі, прыціскае на самае дно, на твань, і навокал зірнуць некуды, стаіць, не скалыхнецца вада мутная, гнілая вада.

Толькі застаецца пускаць пузыры, і Маньчжур іх пускае… Хмельныя пузыры, зыркія, іскрацца агеньчыкамі рознакалёрнымі. І чым больш пузыроў, чым больш чарак, тым вышэй ада дна, тым больш якойсьці таемнай, цёмнай радасці ў шэрых вачах. Блішчаць яны, іскрацца, а з сэрца скатваюцца чорныя павукі і падаюць кудысьці ў бяздонную яму. І сэрцу лягчэй, б'ецца яно мацней і мацней, круціць галаў хмелем крыві вясёлай, плаваюць мазгі ў слізкіх туманах, ногі зямлі не чуюць.

А жонка… Эх, жонка, яна толькі і здолее плакаць. А потым, назаўтра, у галаве нібы клёпку збіваюць, гудзіць яна, стукаюць невядомыя малаткі па чэрапе, а ў сэрцы чарвяк высмоктвае кроў. І жудасць тады, і нуда непамерная.

Трэба пахмяліцца.

— Жонка, схадзі па сотку…

Потым… потым не стала і жонкі. Пэўна, і ёй не даспадобы былі шэрыя сцены і пахмурны двор пад акном, а мо вінаваты тут былі сухоты, толькі памерла яна. За ёй і дзеці пайшлі неўзабаве адзін за адным. І застаўся Маньчжур адзін у сценах пустых з шэрымі буднямі. На сцяне вісела гармонь, а ў куце мятла прытулілася. Мятла самая звычайная, вышарпаная мятла.

Маньчжур працуе з ёй ад раніцы да самага позняга вечара.

Ён падмятае вуліцу, чысціць вулічны брук ад гразі, збірае яе ў дзіравыя бразготныя вёдры і носіць гэтую гразь у памыйную яму.

Раніцой, калі яшчэ цемнавата, калі так гулка раздаюцца крокі адзінокіх прахожых, калі пачынаюць блякнуць ліхтары, — выходзіць Маньчжур на працу, на вуліцу.

Дзіравыя лахманы, ускудлачаныя, нібы падбітыя ветрам. Постаць яго ківаецца з боку на бок. Шархаціць мятла, раскідае яе Маньчжур шырокім кругам, змятае ў кучы вулічнае смецце, што пакінуў тут вечарам і ноччу людскі натоўп. Недагаркі папярос, луска ад семечак, арэхаў, абрыўкі газетнай паперы, прыгожыя паперкі ад цукерак, гразь, гной — чаго тут толькі нямашака.

Мяце Маньчжур, мармыча нешта пад нос, а часам лаецца ўголас:

— І халера ж іх не падуша… Мяцеш, мяцеш, а раніцой — на табе, зноў… І адкуль толькі бярэцца поскудзь гэта. Вось прымусіў бы каторага пазаграбаць рукамі бруд гэты, нябось не стаў бы потым пакідаць па сабе смецце ды трасцу розную.

Часам Маньчжур спыняецца, углядаецца пільна ў смецце і цягне адтуль які-небудзь пудэлак з-пад папярос. Асабліва падабаецца яму «цыганка Аза». Паклаўшы мятлу на вядро, доўга-доўга ўглядаецца ён у нерухомыя папяровыя вочы дзяўчыны, уздыхне, упіўшыся вачыма ў сырое каменне бруку, і потым, выпрастаўшыся, раптам цепане плячом, усміхнецца, языком прыцмокне і, сплюнуўшы разы са два на далоні, бярэцца за мятлу. Цыганку ж кідае ў вядро. Часам Маньчжурава вока заўважае што-небудзь бліскучае, якую-небудзь алавяную паперку з-пад чакаляды. Ён бярэжліва чысціць яе аб шапку, аб крысы сваіх лахманоў і хавае, смеючыся, за пазуху. Гэта падарунак будзе суседскаму сыну Цімку, які любіць Маньчжура і заўсёды яго прывітае:

— Дзядзька Маньчжур, цацку дай…

А цацак у Цімкі мала, бо бацька боты чысціць на рагу вуліцы і прыходзіць заўсёды дамоў такі чорны, чорны… Ён аб Цімкавых цацках ніколі не думае, калі і скажа слова, дык толькі пра ваксу,

пра старыя галёшы, якія зашывае Цімкава матка, а бацька потым залівае нечым рэдкім і смярдзючым.

Працуе Маньчжур, цягае цяжкія вёдры, а калі пачнуць стукаць аканіцы ў дамах, пераходзіць на двор — трэба і яго да парадку давесці. Мятла шархаціць, пялёхкае па гразі, а за ёй пасоўваецца мернымі крокамі Маньчжур. Пасоўваецца цвёрда, бо на цвёрдых нагах — яшчэ раніца, не адкрыта манаполька. Хутка пачынае калодзеж скрыпець калясом іржавым, жалезным. З усіх куткоў і закуткаў двара спяшаюцца яшчэ сонныя людзі, больш жанчыны. Бразгаюць вёдры, скрыпіць калясо, бабы лаюцца за чаргу. Чарга стаіць, гутарыць, дзеліцца навінамі ці снамі сённяшнімі, не пускае ў чаргу прыдуркаватага ваданоса Элю.

— Ты пасля ўсіх нас, бо мы для сябе бяром, а ты, брат, на продаж, выганяеш прыбытак, чыстыя грошы з вадзіцы, не абы-што. Дык і пачакаеш, ліха цябе не возьме.

Эля шлёпае вёдры ў гразь, паварочвае атопкі назад і нібы адыходзіць, злосна мармычучы пад нос нешта невыразнае.

Услед рогат, кпіны:

— Эля, пачакай, навошта нас пакінуў, дзівіся — вёдры плачуць!

Эля суне назад, бяжыць да каляса, совае кулакамі пад самы нос нейкай кабеціне, якая накачвае ваду. Чым болей лаянкі — тым болей смеху, чым болей смеху — болей лаянкі. Эля крычыць, гатоў лопнуць, кулакамі махае, напружвае ўсе свае сілы. І ўсе рагочуць, захапляюцца да таго, што спыняюць і калясо, і забываюць пра ваду, «падаграваюць» Элю ўсё болей і болей.

— Гэй, вы, жывадзёры, вады чалавеку шкода, а што, калі б ён хлеба папрасіў у вас?

— Га-га-га… І Маньчжурыя тут… Бач, указчык знайшоўся, тут табе не японцы, брат, — адказвае языкастая баба Яўдоха.

— Язык падатні, трапло, ды падцягні панчохі. Глядзі — з-пад суботы пятніца відаць.

Яўдоха хутка хаваецца за спіны другіх, каб не знайшоў часам Маньчжур і другіх дзён у яе палатаных і паразалатаных рызманах. Вядома, з Маньчжурам і пажартаваць можна, але сёння ён яшчэ на цвёрдых нагах, дык лепей ад яго далей. А Маньчжур ужо парадак наводзіць, балазе двор прыбраў.

— Ну, ты, малы, чаго шлепталы паразвесіў, налівай, а то не дачакаешся. Тут, браце, і вады не дадуць: бач, людзі, здаецца, а паглядзіш, дык смецце трухлявае, агрызкі, не людзі.

Усе маўчаць — не любіць Маньчжур, каб хто наўпракі гаварыў.

* * *

Раніца горад абудзіла. Стукае, грукоча, пераліваецца на розныя галасы вуліца, дрыжаць камяніцы ад людскога гоману. Мітусяцца людзі, спяшаюцца хто куды, кожны на сваё месца, бо хлеба дарма ніхто не дае. Вясёлы ідзе Маньчжур дамоў. Ён ужо пабываў у манапольцы, а з кішэні так ветліва і цёпла выглядае чырвонай галавой яшчэ непачатая пляшка. Ногі вырабляюць нібы тыя крэндзелі залатыя, што вісяць над дзвярыма Пінхусавай пякарні. Заблытваюцца ногі — нібы звязаў іх хто танюткім шпагатам. За Маньчжурам дзятва бяжыць, хапае за рызманы, назаляе.

— Маньчжур, Маньчжур, скажы пра японца…

— Брысь, вось я такога японца дам, што не будзеце,назолы, ведаць, скуль ногі растуць.

Але вось Маньчжур і на дварэ, узбіраецца на ганак, крэкча, як сто крактуноў, некалькі разоў асоўваецца назад, але, як-ніяк, напяўшы сілы, узбіраецца наверх, і хутка ў хаце пачынае залівацца гармонь. Маньчжур вясёлы — п'е першыя чаркі. Хутка сусед прыходзіць, Кузьма Крываногі.

Любіць ён паслухаць Маньчжурава слова і яго галасістую гармонь. А Маньчжур, ужо крыху засмучаны, ціха расказвае:

— Брат ты мой! Жыццё наша з табой — не жыццё, ну і не маслянка. Мадзееш, трухлееш, як пень стары, — а радасць каму? І ніякай павагі табе, браце, ні сэрца шчырага, ані слова лагодлівага. Кожны сабе ў ногі глядзіць, а куды твае брыдуць — ім і ў недагадзь. А чаму? А таму, браце, што таўсцеюць на людзях скуры звярыныя, а ў сэрцы, як жолуд, камень расце, і не прастукаеш гэтага сэрца ані словам, ані песняй цёплай, ні гаручай слязою — дзе ўжо там. Дык вось як… Але дзіўна мне сёння… Іду гэта я па вуліцы, а насустрач дзяўчына, такая дзяўчына прыгожая, маладая, вочы смяюцца, а каса чорная да кален. Іду я гэта і, загледзеўшыся на красу маладую, штурхель дзяўчынку ў плячо. Ну, вядома, ці хацелася ж мне рабіць гэта, нечакана здарылася… А яна… І што ты думаў — паглядзела мне ў вочы дый кажа гэтак паціху, нібы крыху спалохаўшыся:

— Пардон…

І жаль мне яе зрабілася, вялікі жаль — навошта дзяўчыну пакрыўдзіў. Я назад, ды за ёй, нагнаў і кажу гэтак:

— Выбачайце, галубка, чалавека старога. Не вы павінны былі пардон казаць, а ад мяне вам належа пардоны два.

І што б ты думаў? Не ўспеў я сказаць гэта, а яна і выпалі:

— Адвяжыся, нахаба…

Ну, што ты скажаш цяпер, за што ж я крыўду панёс?

— Ну, не зразумела цябе, вось і ўсё, якая ж тут крыўда?

— Не, браце, крыўда, вялікая крыўда, і за што?

Маньчжур выпівае чарку, з хвіліну маўчыць і пачынае зноў.

— Ты вось кажаш — і крыўды нямашака. Можа, і так, хто яго ведае, не скажу цяпер, бо яшчэ не ведаю, ці ўспомню пра гэтую крыўду праз тыдзень. Але бываюць, браце, такія крыўды, што навек захаваеш у сэрцы і не выкурыш яе адтуль аніякім чынам. Вось раскажу табе, калі хочаш, сам убачыш. Быў я гэта, браточак, у Маньчжурыі…

— Ты мо пра Курапаткіна?..

— Ды не, які табе там Курапаткін, не ў ім справа. Дык вось, браточак, быў я ў Маньчжурыі, і вось у паход пайшлі. І спыніліся ў месцы адным, бач, адпачын на абед. Ну, добра. І тут, брацiку мой, фанза табе стаіць, а ў ёй звычайныя кітайцы жывуць, ат, небаракі працоўныя. Вядома, бульбіны або там хлеба жытняга не знойдзеш у іх, крупені і тае не бачыў, бо рысам займаюцца болей, зразумела, яда хаўтурная. Але людзі як людзі, хоць па-наску і не кажуць, нічога іх не разумееш; і толькі б гэта нам далей збірацца, бачу, а фельдфебель, ат кабель руды, за дзяўчынай прыўлёг, за маладзенькай кітаянкай прыгожай, цягне яе за руку. Ну, а тая, бачу — слёзы ракой — па-нашаму плачуць вочы. Чорныя вочы, чорныя, а зрабіліся на тыя льдзінкі асеннія, вострыя льдзінкі, халодныя, нават сэрца ў мяне так і сцялася, нібы снегам яго агарнулі. Бача кабель — не даецца дзяўчына, схапіў яе аберуч дый пацягнуў, толькі і замітусіліся яе ножкі ўваччу, маленькія такія цыпы-цыпачкі. Не сцярпеў я тут, схапіўся дый кажу яму:

— Што гэта робіце вы, зачым дзяўчыну спаганіць хочаце?

Нібы вадой яго абліў. І што б ты думаў? Павярнуўся ён да мяне, паглядзеў звер зверам ды як дасць, браце мой, па вуху, ды яшчэ абазваў «чабатом салдацкім». Чуць-чуць на нагах устояў, але добра — уцякла дзяўчынка. А крыўда? Не ўцякла крыўда да гэтага часу.

За што? І хоць забілі фельдфебеля самі ж салдаты, а крыўда жыве і точыць, падточвае часам сэрца, бо жывуча крыўда, ніколі яе не забудзеш, ніколі ад яе не пазбавішся.

— Так, братка, так, вядома, не пазбавішся. Але і час ужо не ранні, забавіўся я тут у цябе, — і Кузьма Крываногі ідзе да свае хаты, дзе ён выразае на продаж шавецкія калодкі.

А Маньчжур ужо іграе пра маньчжурскія сопкі і, не дайграўшы палавіны, падае на мулкі свой ложак, сіліцца нешта сказаць, але вусны шавеляцца ўсё слабей і слабей, замаўкаюць.

Спіць Маньчжур сном хваравітым, п’яным.

* * *

Маньчжур пузыры пускае, а гады ляцяць хутчэй пузыроў. Нечакана вайна падышла. Хацелі Маньчжура ў салдаты забраць, нават рады быў ён. Прапіўшы свае вёдры жалезныя за сотку горкай, з'явіўся ён на прыём герой героем. Шапка на адным вуху тарчыць, старыя атопкі як жар гараць, падышоў козырам да стала, нагою аб нагу па-салдацку стукнуў, аж забрынчаў кацялок медны, на рамяні прывязаны.

— Ты хто?

— Яфрэйтар, ваша благароддзе, 117-га пяхотнага палка, у баях бываў і маньчжурскія сопкі за веру, цара і айчыну крывёю свайго сэрца паліць зволіў…

— Ладна… агледзець яго, доктар.

Маньчжур «рукі па швах», паварочваўся, як машына, калі доктар з трубкай у руках пастукваў яго па хрыбту, у рот паглядзеў, вымерваў грудзі істужкай бліскучай.

— Мне б у артылерыю, ваша благароддзе, стараваты я ў пяхоту, дый дыхавіца да таго ж…

— Мразь ты хадзячая, а не артылерыя, а яшчэ яфрэйтар, кажа. Колькі год? Ого-о… Не гож, — мармытнуў доктар.

Ёкнула сэрца ў Маньчжура, але нічога не зробіш. Вечарам выкупіў свае дзіравыя вёдры, паправіў мятлу, узяўся быў за гармонь, пра сопкі ўспомніў, але куды там, не ігралася, не сыходзіла і вялікая крыўда.

* * *

А годы ляцяць. Цяжкія годы, гудуць галасамі меднымі, агнявымі. І ад тых галасоў чамярэюць людзі, людзі гінуць, і замест каласоў на палях, на пожнях уздымаецца пара крывавая. Не год, не адзін, як людзі ўсе кажуць, — вайна. Каля калодзежа раніцой не сакочуць весела кабеты, а часта, часта выціраюць падоламі слёзы і бразгацяць вёдрамі гэтак сумна і нудна. І гавораць не аб снах, не аб святочных спадніцах.

Хутка над горадам новыя ветры падзьмулі, ускалыхнулі бляшаныя стрэхі. Уз'юшыліся людзі, забегалі па вуліцах, як непрытомныя. Новыя словы з непрывычкі вуха рэзалі. Дзіўныя словы, таемныя: свабода — раўнапраўе…

Але хутка апамяталіся ўсе, і прыгожыя словы забляклі. А Маньчжур, убачыўшы раніцой, як праходзіў полк салдат на станцыю, каб ехаць пад далёкага немца, убачыўшы, як хмуры былі салдаты, як стукалі яны чобатамі, як блішчалі залатыя

афіцэрскія пагоны, як шчаціniліся і натапырыліся грозныя вусы палкоўніка, — падумаў: «І брэшуць жа людзі: свабода, свабода… Дзе ж яна, пакажыце… Зноў будуць румзаць жанкі, выціраць падоламі слёзы. Вядома, мазгі мужыцкія, уцялёпілі немаведама што. Дый дзе гэта відна, каб свабоду табе, шэраму пузу капуснаму, галаве нячэсанай…»

І нездаволены Маньчжур мармытаў пад нос нешта нуднае і цягучае. Чым ён быў нездаволены? Хто яго ведае. Мо шкадаваў старое? Мо жадаў чаго светлага, новага? Цяжка разабрацца і ў шэрым сэрцы яфрэйтарскім, дзе ўжываецца лычка бліскучае з пякучымі крыўдамі ад залатога пагона.

І вось пасля новых вятроў прамчаліся нечуваныя віхры, закруцілі горад у карагодзе шалёным. Нешта новае, сапраўды новае, у чым ніхто ўжо болей не сумняваўся, апанавала вуліцай. Па-новаму крычалі людзі. Яны збіраліся вялікімі натоўпамі. На Маньчжураў двор з'явіліся здалёк салдатаў колькі і казалі нешта незразумелае:

— Даволі, брат, годзе…

— Цяпер, голуб, без палетаў…

А стары, даўнейшы сусед Ігнат, вярнуўшыся з-пад далёкага немца, сустрэў Маньчжура каля калодзежа, расцалаваўся з ім і, запытаўшыся пра сваю жонку і дзяцей, весела гэтак сказаў:

— Жывём, брат, цяпер, ого… і ніякага табе, братка, нічога, а ім, галубок, прыдуха, ды яшчэ якая прыдуха. Былі яны капітаны ды паручыкі — чыкі-чыкі, а цяпер мы іх пад крылле і ўраз: чыкі-чыкі, і гатова — вашых няма. А гэтыя штуковіны ў памыйніцу, каб не смуродзілі часам.

І салдат-сусед, выняўшы з кішэні, кінуў у вядро Маньчжуру пару залацістых пагонаў з прасветам чырвоным і трыма срэбнымі зорачкамі.

— Гэта, браток, на станцыі адрэзаў у аднаго. Бач, у сталіцы гэтыя зоркі не ззяюць ужо, а тут яшчэ спаткаеш каго часам. Ну, а цяпер да жонкі, даўно я, брацiку, не бачыў яе…

А Маньчжур стаяў нерухомы, не ведаў, узяцца за што, і ў сэрцы то сум, то радасць. І не ведае Маньчжур, чаго болей. І думкі адна на адну набягаюць, ускудлачаныя, расхістаныя думкі. Але вось узнікла думка аб сопках маньчжурскіх. І «дурак дураком», і «мразь хадзячая», і такія прыгожыя цыпы-цыпачкі ў думках прамільгнулі, і, узяўшы мятлу, загроб Маньчжур апошняе смецце, кінуў у вядро і пацяг у памыйніцу.

— Так вам і трэба. Усім вам месца тут, матары вашай вілы ў бок. Даволі, годзе…

У гэты дзень Маньчжур не піў, бо і не было, а па-другое, нешта і не думалася. Час не такі. Не да пузыроў, бо забіла ў жыцці нейкай свежай крыніцай. Якой — яшчэ добра не разумеў Маньчжур; але адчуваў ён істотай сваёй, што гіне стаячае балота, дух падуў новы, разышлася гнілая вада і гэтак добра дыхаць, цікава назіраць, як бегаюць па двары людзі, сустракаюцца, гамоняць, рукамі махаюць. І ўвесь стары пахмурны двор з асклізлымі сценамі шэрых камяніц нібы асвяціўся якойсьці прывабнай прыгожай усмешкай. Нават старая памыйніца брудная перастала страшыдлам быць: па ёй скакалі і зычна чырыкалі вераб'і, а знізу прымайстраваўся сусветны жулік — Цімкаў кот Васька, настарожваў аблезлыя вушы, нецярпліва мяў падагнутымі пад сябе заднімі нагамі, штопарам хвост пакручваў і раптам падскакваў. Але вераб'і — заўсёды вераб'і. Яны паказвалі не зусім спрытнаму Ваську пушыстыя хвасты, ён, схапіўшы ў зубы з гарачкі замест вераб'інага сэрца гнілую цыбуліну і вінавата маргнуўшы вачыма, нехаця лез уніз, садзіўся і прымаўся старанна і спакойна за чыстку сваіх запэцканых лапак, нібы і не зважаючы зусім на вераб'ёў-задзіраў.

Пасля працы Маньчжур пайшоў у кватэру, паглядзеў на гармонь, пакратаў яе, да ладоў дакрануўся. Але не, не граецца нешта. І, пастаяўшы з хвіліну, зусім не ведаючы, што рабіць, пацягнуўся Маньчжур да суседзяў, паслухаць аб усім новым, паслухаць аб мінулым, пра немцаў далёкіх, распытаць аб тых чамаданах страшэнных, аб тых пузырах цэпелінаўскіх, на якіх немец на рускага чалавека смерць пасылаў. Дый ці мала аб чым распытаць.

І ніхто не здзівіўся, калі прыйшоў Маньчжур, хоць раней ён ніколі не вылазіў са свае кануры. І нашто дзівіцца, не той час, ёсць многа цікавага, новага, захапляючага. І аб гэтым кажуць. А Маньчжур слухае, перамінаецца з нагі на нагу, хоча слова аб Маньчжурыі ўставіць і не адважваецца — адчувае, што нікому яна цяпер не патрэбна, бо нешта большае засланіла свет і ціхія вуліцы, чымся далёкія маньчжурскія сопкі.

* * *

Гэта было ўжо нядаўна. У пракураным пакойчыку кварткама, куды трапіў я выпадкова па справах, было поўна людзей. Наведнікі сядзелі на лавах, тоўпіліся ў невялічкай чарзе каля стала, гаманілі, спрачаліся.

— …Дык ты ўжо, таварыш кварткам, сунімі сына крыху, не дае жыцця, хоць ты прыся на вуліцу, — так скардзілася старая бабка.

І нехта, мусіць, «таварыш кварткам», суцяшаў бабку, адказваў:

— Ах, бабка ты мая, неўгамонніца, анёльскія твае галасы…

Нешта знаёмае, даўно знаёмае пачулася ў гэтых словах.

— …А словы твае, ого-о… не туды вернеш, дарагая, бачу я наскрозь цябе, да апошняй тваёй панчохі. Ну, што? Зноў не паладзіла з нявесткай? Не падзяліла пярыну? Ведаю ж я тваю справу, дарагая мая сіраціна, — глупствам займаешся, дарэмна час марнуеш і сабе вось, і нам. Ну, чым табе дрэнна ў сына?

Бабка маўчыць. Яна збіраецца з думкамі, шавеліць зморшчкамі-вуснамі і раптам зноў:

— Што ж я, па-твойму, не варта і гаспадыняй быць у сваёй хаце?

— Гаспадыняй, кажаш? Якая з цябе гаспадыня цяпер, калі ўся гаспода твая ўжо на печы; дык нечага, дарагая, і рыпацца. Даглядаюць цябе? — даглядаюць; кормяць? — кормяць; пояць? — пояць. Бач, і новая хустка нават, і сядзіш ты ў цёплым, і каб не язык твой смяртэльны, кажу табе ў вочы, доўгі язык твой — было б і пашаны больш і ад сына, і ад нявесткі. Ну, ці не праўду кажу я?

— Дзе ж там праўда… Няма толку, я яшчэ надзею мела… Каторы раз казала табе, не дае сын грошы — усё самі рахуюць, а я што? — дзяркач, па-твойму, ці гаспадар у хаце?

— Грошы? грошы, кажаш… бач, яшчэ задумала што. Паміраць збіраешся, а пра грошы думкі. Людзей бы хоць пасаромелася. Грошы… Даволі, бабка, здымай якар, адчальвай… А калі ўжо табе прыпякло так — у суд падай, а нам няма чаго ў твае сямейныя справы совацца. Бач, не ўгамоніцца… — кажа «таварыш кварткам», як відаць, крыху раззлаваны.

Каля стала чарговы наведнік. З-за коцікавага каўняра відны толькі яго тлустыя аплыўшыя шчокі ды шызы нос. Ён часта азіраецца назад і з ліслівай усмешкай абводзіць вачыма ўсіх прысутных. І ў гэтай усмешцы нібы крыюцца чорныя думкі:

«Ах, паглядзіце на мяне, добрыя людзі. Ну, што з таго, што я багаты, што ў мяне дзве крамы. Я ж няшчасны чалавек, яшчэ які няшчасны, бо паспрабавалі б вы плаціць патэнт, ды падаткі, ды ўраўніцельны… ці мала клопату на нашы галовы бедныя…»

А з-за стала ўжо чуюцца словы:

— Грамадзянін, вам тут не прылавак. Вы, мусіць, забыліся, што не перад касай у сваім магазіне. Дайце месца людзям…

— Дык як жа так, я ж маю права, што за парадак…

— Грамадзянін…

— Ды я сто і тысячу разоў чуў, што я грамадзянін, але ж дазвольце…

— Вось насланнё яшчэ… Ды не маеце вы аніякага права на даведку гэтую самую…

— Дазвольце, як жа так, чаму ж гэта я не маю!

— Ну, пагавары ты з ім тут. Яму кажы адно, а ён сабе другое. Ну, падумайце самі, дарагія таварышы…

І старшыня кварткама, прыўстаўшы за сталом, зварочваецца да ўсіх наведнікаў. Ён абводзіць усіх шэрымі выцвілымі вачыма, не страціўшымі, аднак, маладога бляску і таго зыркага аганьку, які так малодзіць чалавека, прыдае яму здатнасць, адкідае дзясяткі пражытых год і прыдае надзвычайную прыгожасць шэрым пасівелым бровам. Раптам позірк яго робіцца нерухомым, чуць-чуць раскрываецца рот, больш шырокімі робяцца вочы і левае брыво пачынае падзёргвацца ўверх.

— А, брато-о-чак!

— …Медныя твае галасы, — дадаю ў тон.

— Пасцёрліся яны, браце, пасцёрліся крыху… Але ж адкуль, братка ты мой! Вось не чакаў, не думаў… Да чаго ж гэта я! Хто-хто, а чалавек чалавека напаткае заўсёды… Братка ты мой, ну, пачакай жа ты крыху, вось скончу справы, пагаворым, ну і пагаворым жа.

І Маньчжур трос руку, прагінаўся, углядаўся ў вочы, абышоў кругом і нават сумна галавой паківаў.

— Т-а-ак… А скажу табе, пасунуўся, браце, і ты, што казаць. Дый не дзіва — хутка вы, маладыя, на ногі асядаеце. Але дармо, жыццё не міндаліна — пабачыш і салодкага, і горкага, усяго бывае часам.

— А чаго болей?

— Як табе сказаць: каму што, а нам яно, братка, лепей…

* * *

У прытульным цёплым пакойчыку частаваў Маньчжур гарбатай. Старая гармонь з пабляклымі ладамі вісела на сцяне. Побач з ёй некалькі яскравых малюнкаў, адрыўны каляндар, партрэтаў некалькі. На стале з дзясятак кніжак.

— А як… з пляшкай?

— Няма.

— Чаму?

— Ат, гаварыць не варта. Старына ўсё… Усяго было, усяго перабачыў, жыў, пераўжыў і цяпер жыву. Лепш, браце, аб цяперашнім. У кварткаме, бачыш, старшынёй, каторы год абіраюць… Праца ёсць, чаго-чаго, а яе хопіць, абы толькі рукі. Вось і ў кватэрным таварыстве працую: беганіны, тлуманіны штодня, але ж, братка, нішто… Прычэпка, голуб, і не то што прычэпка, а вялікі прычэп да жыцця. Трымайся прычэпу — жыў будзеш, не звянуць рукі… Так, не звянуць.

— Ну… а шчаслівы ты? не?

— Шчасце… Як табе сказаць? Шчасце — рэч неразумная. Чуў я, як казалі старыя людзі — адзін едзе на шчасці, другі на снасці. А ў мяне, як і табе вядома, не было калісьці ні таго, ні другога. Ні табе шчасця, ні табе снасці. Гол, як сакол, ды з падрэзаным крыллем яшчэ…

— А цяпер?

— Цяпер? Нішто… Што гаварыць, сам бачыш. Толькі вось, братка, скажу я табе адкрыта — часам сум закрадзецца ў сэрца… Вось так, непагодамі, вечарамі, калі адпачын… І вось, браце, сядзіш ты адзін, і разам нібы ўстаюць перад табой… Нібы ходзяць жывымі… жонка… дзеці… Заглядаюць у вочы табе, усміхаюцца… Нібы голас пачуеш дзяціны: татка, татачка, родненькі татка…

Голас Маньчжура робіцца цішэй і цішэй. Стук ходзікаў аддаецца гучна ў сценах, у аконных шыбах. Дзесьці за сцяной загушкала ціха калыска і маладых жаночы голас заспяваў ціхую, пяшчотную песню. Яе гукі ласкавымі, дрымотнымі пераліўамі хвалявалі прытульны зрок пакойчыка і соладка казыталі сэрца.

— А-а-а, а-а-а, баю-ю, бай…

Я бачыў, як Маньчжур адвярнуўся назад і ўпотайкі ад мяне змахнуў хустачкай нечакана набегшую на шчаціністую шчаку госцю-слязу.

Хто не даруе чалавеку гэтай слязы, хто зробіць від, што яе заўважа?

— Ах, братка, ты збіраешся ўжо ісці? Дык заходзь, не абмінай… Стары я ўжо… пагаворым ад сэрца… Дый весялей, бачыш. Дык заходзь жа, заглядвай…

Позна вечарам я развітаўся з Маньчжурам.

*1928*

# АНДРЭЙ ЛЯТУН

— Эх, Андрэй, Андрэй, да чаго ж ты дажыў, да чаго ж дастукаўся: ні раздолля табе, ні жазлоў, ні пуцёвак… Стой, гібей са сваёю «кукушкай-свістушкай», чакай гнілых шпал, платформу адвядзеш за паўсотні сажняў. Не жыццё, а маслёнка мазутная. І ні пары табе наддаць, ані поўны ход, ні табе семафоры крылатыя, ані вёрсты, ані рэйкі бліскучыя, што мігцяць-сакацяць пад грымучымі коламі… Так, браце Андрэй, сядзі цяпер і не рыпайся. А чаму? Таму што слабыя мы сталі, а віною ўсяму: годы точаць падшыпнікі, не разгонішся цяпер, не раз'едзешся… А іначай кажучы, старасць — не радасць. Баста! Годзе! Ад'ездзіўся!

Так разважае часам сам з сабою стары машыніст Андрэй Сапун, які калісьці вадзіў дзясяткі год кур'ерскія цягнікі і які калісьці меў славу адважнага, смелага машыніста. І звалі яго тады не Андрэй Сапун, а Андрэй Лятун, бо яго цягнікі не хадзілі, а лcraталі. Ён любіў пад'язджаць да кожнай станцыі з уласціваю толькі яму пыхаю і смеласцю. Заўсёды стрэлачнікі ўваходных стрэлак закрывалі вочы, калі праносіліся каля іх віхрам шалёныя вагоны не менш шалёнага цягніка. Вось-вось, здаецца, шыбане пад адхон паравоз, пашчапаюцца колы на крыжавінах ці ў пух разляцяцца стрэлкі.

Але неяк абыходзілася добра; цягнік віхрам падлятаў да станцыі і раптам спыняўся як укопаны.

Праўда, калі якая-небудзь важная асоба набівала гуз на лбе пры такой астаноўцы — Андрэю даводзілася крута. Яго зводзілі з высокай будкі пасажырскага паравоза, і цэлага паўгода ён прымушаны быў ездзіць з таварнымі цягнікамі. Але толькі паўгода. Потым зноў — пасажырскі і, урэшце, кур'ерскі, на якім праездзіў Андрэй палавіну свайго жыцця.

Гэта нямала. Не жалезныя вочы, не сталёвыя рукі чалавек мае, а звычайныя вочы, звычайныя рукі чалавечыя. А агнёў на пуці не злічыш: і белыя, і зялёныя, і чырвоныя. Ззяюць яны на стрэлках, зіхацяць на семафорах высокіх, мігацяць на далёкай лініі. Паспрабуй, паўглядайся ў марозную ноч — у вятры, у завеі — на мігценне агнёў, паўглядайся не ноч і не год, а цэлыя гады, — праміргаеш зоркія вочы, памутнее бляск іхні, пагасне іх позірк. І не толькі вочы. Бачыш, высахлі грудзі — на іх дыхае страшыдла-печ, пясціць холадам снежная замець — горача і маразяна.

Вось чаму на «кукушцы» Андрэй. Старасць. Немач. Вочы сталі нязоркія, вушы нячуткія, слабая рука — трасецца на рэгу-

лятары. І не дзіва, калі счэпшчык Іван, які двойчы падаў сігнал «паравоз — пад вагоны», гучна лаецца:

— Не чуе, панчоха старая, хоць ты яму свішчы ні свішчы. Пайсці і падштурхнуць хіба, заснуў мо…

Счэпшчык ідзе да паравоза, лезе на прыступкі і прарэзліва свішчыць-верашчыць над самым Андрэевым вухам.

Задрамаўшы над топкай, Андрэй усхватваецца з перапалоху, працірае вочы і, агледзеўшыся, падступае з кулаком пад Іванаў нос:

— Ты глядзі ў мяне, блыха крыжавінная. Ужо я табе пакажу, як над вухам гугнець, людзей непакоіць. Калі-небудзь пападзешся, гад, прышчамлю буферамі, як жабу, — не піснеш…

— «Кукушкай» прышчэміш?

Андрэй не адказвае. Дый ці можна адказаць чалавеку, які так зняважліва ставіцца да паравоза. Хоць гэта і паравоз не паравоз, а так сабе, непаразуменне нейкае, але ўсё ж такі машына, і павінна яна павагу мець і пашану належную. А то нá табе, «куку-у-шка».

Андрэй моўчкі кладзе руку на рэгулятар і пагардліва пытае, гледзячы зверху ўніз на Івана:

— Куды?

— Айда на чацвёртую лінію, прычэпка вагонаў.

— Ну?

— Што — ну? Да транзітнага. Гружаныя. Падбаў у свой самагрэй пары.

— Ну, гэта ўжо мая справа.

Іван маўчыць. Андрэй торгае гудок, моўчкі паварочвае рэгулятар. Іржавы манеўровы паравоз пачынае дрыжаць усім сваім старым нутром, ахутваецца, як воблакамі, парай і раптоўна, забуксаваўшы і забразгаўшы на ўсе свае жалезіны і жалезінкі, кранаецца з месца.

— Змазаў бы хоць, вушы праскрыпіш, — не сцерпіць счэпшчык.

— Вось я ўжо калі-небудзь ды змажу, ну і змажу, месца жывога на табе не пакіну.

— Ну, годзе, чаго там, глядзі, куды едзеш…

Можна падумаць, што стары машыніст і счэпшчык злуюць адзін на другога, што яны лютыя ворагі, што яны толькі і думаюць аб помсце, крыўдах і іншых падобных рэчах.

Не, гэта старыя прыяцелі, прадвечныя дружбакі, якіх не разальеш вадой, не разгоніш парай. Многа рэек пасцёрлася за доўгія гады, пагнуліся кастылі, тысячы буксаў перагарэлі, паз'езджаны сотні паравозаў, а чалавечае жыццё — крэмень: ні яму сонца, ні золь, ні вятры, ні завеі. Кулдыкнецца паравоз

пад адшыб, тут яму і канцы. А глядзіш, машыніст выберацца цэлы з-пад расшчэпленых колаў і праз дзень, праз другі зноў вядзе паравоз. Чалавек жывучы, а дружба яшчэ больш жывучая. Счэпшчык Іван быў калісь качагарам на паравозе і ў старыя гады ездзіў разам з Андрэем. Таму і дружбакі старыя. Вось і цяпер, калі счэпшчык блыхой шныпарыць паміж буфераў, Андрэй, назіраючы за ім са свае будкі, крычыць:

— Глядзі, раздаўлю, сцеражыся!

І ў той жа час думае: «Трэба асцярожней, а то, чаго добрага, цісканеш знянацку, спячэш з чалавека блінец. А ці ж гэта доўга: стары Іван, не такі ўжо ёмкі, як раней, спозніцца, не патрапіць у час праслізнуць між талерак, а то паслізнецца часам».

І, асцярожна націскаючы на рэгулятар, Андрэй прымушае сваю «кукушку» плаўна прыстаць да вагонаў, без штуршкоў, без тограння. Нават тады, калі счэпшчык прасвішчыць у свой свісток, што «гатова, давай уперад», Андрэй чакае, пакуль вылезе з-пад вагонаў Іван, і толькі тады дае ход сваёй «кукушцы»; праўда, Іван злуе часам:

— Нешта ты спіш занадта; раз свішчу — паязджай!

Як жа, ён стары счэпшчык, ён прывык усё рабіць на хаду: на хаду прычапляць, на хаду выскакваць з-пад вагонаў, на хаду хапацца за вагонныя ці паравозныя прыступкі, на хаду скакаць каля стрэлак. Усё на хаду.

Але не ўвесь жа дзень на хаду. Станцыя невялікая. Манеўры ў большасці ўдзень. І калі замігцяць семафоры за станцыяй і абалье месяц рэйкі сярэбраным святлом — тады адпачынак. У апошні раз прабраскоча «кукушка», забярэцца ў тупік і стаіць там спакойна да раніцы.

Тады стары Андрэй дастае з прамазучанага куфэрка, што стаіць за тормазам, шчарбаты чайнік, налівае яго вадою з тэндэра і, калі гарацць яшчэ дровы, прымайстроўвае чайнік ля топкі. Потым дастае паклю, старанна выцірае ёй запэцканыя мазутам рукі, дастае з куфэрка ручнік і ракопчаны змылак і ідзе да вадакачкі. Там ён старанна наводзіць «туалет».

— Без туалету нельга. Адразу патрэскаюцца рукі і нос аблупіцца, дый твар не халява — яму мазутнага бляску не трэба, — так кажа заўсёды Андрэй, калі, памыўшыся старанна, расчэсвае перад разбітым люстэркам свае рэдкія рудыя космы. Барады ў Андрэя няма.

— З барадой ля машыны нязручна: і ў мазут умажаш, дый яшчэ абсмыліць часам, а ў дадатак і кабета не паважае: што ты, кажа, з памялом прэшся.

Прывёўшы ўсё да парадку, Андрэй садзіцца на сукаваты цюльпак перад топкай і моўчкі чакае вячэры. Хутка шчарбаты чайнік пачынае выказваць адзнакі непакою, і падскаквае накрыўка, нос пускае гарачыя пырскі, увесь чайнік пачынае трымцець, як у той ліхаманцы. Ледзь прыкметная ўсмешка прабягае па шчацiністым твары Андрэя.

— Пазлуй у мяне, пазлуй, і вось я ўжо зніму цябе, дык як запару… ну і чай жа важнецкі будзе…

Такім жа манерам, як чайнік, прымайстроўваецца патэльня з салам. Тут ужо Андрэй робіцца весялейшым, бо больш работы: трэба круціць, трэба пераварочваць, бо недагледзіш — перапячэцца.

— Неспакойны ж элемент гэта сала, да чаго сквірчыць, да чаго верашчыць, нібы той начальнік станцыі.

Ад печанага сала па ўсіх лініях разносіцца прыемны пах. Да таго прыемны, што дзяжурны стрэлачнік, чмыхнуўшы некалькі раз носам, памкнуўся быў даць лататы дахаты, але, успомніўшы, што да змены яшчэ далёка, нехаця паклыпаў да будкі. Там ён так узяўся праціраць ліхтарнае шкло, што ад яго засталіся адны аскялепкі.

— То ж спакуса, даруй ты, Божа, вячэраў бы дзе-небудзь у хаце, а то на́ табе, узапрэцца на паравоз і пачынае ладзіць яечні.

Пах ад сала непакоіць не толькі стрэлачніка. Вось некалькі рамонтных рабочых, якія начуюць звычайна летам на станцыі, таксама, як па камандзе, павялі насамі і ўтаропіліся на паравоз.

— Вячэрае… Айда, хлопцы, класціся яшчэ рана, а там і чаю пап’ём.

У госці да Андрэя збіраецца цэлая хеўра моладзі. Андрэй смачна вячэрае і частуе хлопцаў чаем. Хутка да кампаніі іх далучаецца стрэлачнік, зойдзе на аганёк пуцявы абходчык Антон, які ходзіць заўсёды падвязаны хустачкай. Бразнуўшы молатам і падсумкам з кастылямі і памацаўшы шчаку, ён лезе на прыступкі і, скрывіўшы твар, кажа «дзень добры».

— Каму як, а ў цябе, нябось, нядобры. Баляць?

— Баляць, каб на іх нарад. — І Антон зноў мацае шчаку, нібы хоча лішні раз упэўніць усіх у прычынах свае хваробы.

— То дай хіба я пагляджу, а мо вылечу, — і стрэлачнік цягнецца рукой да хворай шчакі.

— Ну-ну, адвяжыся, гультай. Табе што, стаіш, як дуда, на стрэлцы, да цябе і ніякая трасца не прыстане… Вось пахадзіў бы, як я…

— Ну і рабацяга знайшоўся! Толькі і ведае — кастыль ды гайкі, дый молат для фасону насіць, гады ў рады стукне дзе, а яшчэ на́ табе, гультай…

— Годзе там, не падзялілі чаго, ці што? — наводзіць парадак Андрэй.

— А чаго ж ён — гультай… Бач, як разбухла шчака, наспаў у будцы сваёй… Дык гультай.

— Вядома, гультай. Вунь стрэлкі нячышчаныя, а ён бадзяецца недзе.

— А ты што мне: начальнік станцыі, ці што? Дзе тваё месца? Гэта так лінію даглядаюць?

— А так стрэлкі пільнуюць?

— Штопка ты непуцёвая.

— Дуда ты маляваная…

— Пацук ты лінейны! З кім раўняешся. Я стрэлачнік, а ты? Хто ты, я цябе пытаю? Ключ ты гаечны… Я стрэлачнік, у мяне спецыяльнасць: на стрэлку, дык на стрэлку, на счэпку — айда на счэпку. Захачу ў… захачу… адным словам, куды ні захачу — калі ласка, Астап Гаўрылавіч, наша вам пашана… А ты чаго варт, хіба рэйкі пільнаваць, толькі ад каго?

— Ну, ну, годзе… бач, разышоўся, спецыяльшчык які, — умешваюцца рамонтныя, гатовыя заўсёды гарой пастаяць за свайго брата — лінейнага чалавека.

Астап Гаўрылавіч чмыхае носам і, пакрыўджаны, злазіць з паравоза. І чутна, як ён ідзе да стрэлак, мармычучы сабе пад нос:

— Як жа, вадзі тут з імі кампанію, ці ж яны разумеюць што…

На хвіліну на паравозе апаноўвае ўсіх прыкрае маўчанне, і, каб разагнаць яго, усе круцяць цыгаркі. Андрэй корпаецца ў топцы, дастае вугаль, кідае яго з далоні на далонь, здзьмухвае попел, і ўсе прыкурваюць.

— Бач, гарачы, — устаўляе нехта слова.

І не пазнаць, ці гэта аб стрэлачніку, ці аб вугалі.

Прыкурваюць і маўчаць, ды паглядаюць, як мітусяцца на пpaржаўленых паравозных сценках мяккія водбліскі ад цыгарак. А за паравозам ціхая ноч, дзесьці там, каля штабеля шпал, стракоча цвыркун, над лініяй водар ад палыну і мазуту. І пахне яшчэ перагарам вугалю і газавым курывам. А там, дзе мігціць сваім вокам чарнакрылы ўначы семафор, блішчаць пад месяцам рэйкі-істужкі. На іх любіць глядзець Андрэй, і заўсёды, калі пазірае, на сэрца кладзецца лёгкі невыразны смутак. На момант, на мінуту сэрца нібы памкнецца ўперад, нібы хоча дагнаць, выперадзіць гэтыя светлыя рэйкі, гэтыя нязмерныя

дарогі чалавечыя. Але толькі на момант. Сэрца не скочыць, яно старое, яно пракурана агнём і мазутам, яно праржаўлена, як праржаўлены стары паравоз. Таму на сэрцы толькі ціхі сум — аб дарогах пройдзеных, аб пуцях пераезджаных. І схіляецца галава, і коцяцца думкі-словы ў начную цемрадзь, дзе пахне палыном і мазутам, дзе пах вугалю і дыму.

— Так вось заўсёды мы… За дробязь, за глупства — у сварку. А ты б падумаў вось часам. Ты, скажам, стрэлачнік, на стрэлцы стаіш, пільнуеш рэйкі свае… Ты рамонтны — табе рэйкі і шпалы… Ты лінейны: і твой клопат — кастылі ды гайкі і зноў жа рэйкі… Я машыніст — па рэйках хаджу, з іх не зварочваю. І выходзіць — усе мы паны аднолькавыя, усе мы па рэйках ходзім, жывём на іх… без іх не можам, і памерці нам каля рэйкі давядзецца, а мо і на рэйках… Што я — няпраўду кажу? Не, браткі… Навошта ж гэтыя сваркі…

Дзесьці далёка-далёка, ледзь чутна прагудзеў паравоз.

— Мусіць, Каўтун едзе на сваім шчукінскім. Яго паравоза голас за дваццаць вёрст чуваць, не мая «кукушка»… А што Каўтун — даездзіцца і да майго: стары ўжо, ды на сэрцы гарачы, не шкадуе паравозаў, толькі ведае: паддай пары, паддай. А так і да бяды можна хутка. А чаму не шкадуе? За сына помсту мае, за сына злуе на машыну. А з сынам яго, бач, такая гісторыя выйшла. Даўно ўжо, яшчэ да таго, як качагарыў у мяне Іван — счэпшчык наш, — вадзіў я паравозы з Каўтуновым сынам, Петрусём звалі. Качагар быў адменны. Малады, здаровы, рукі што тыя качэргі жалезныя, пару наганяў умомант. Дый не толькі пару — усю машыну яму даручыць было можна, таму меў хлапец здольнасць на ўсё і дасціпнасць. І выйшаў бы з яго машыніст на славу. Ды лёс, браткі, — ад яго не ўцячэш. І на рэйках наш лёс, усю дарогу так і бяжыць за табою па рэйках, адстаць баіцца.

Увосень справа была. Вялі мы ноччу цягнік з Петрусём. Даўгі цягнік быў і гружаны. Памятаю, жартаваў з Петрусём я, кпіў над ім — ці хутка на вяселле пакліча і чаму так марудзіць. А прызнацца, добрая дзяўчына была ў яго — слесара Рыгора дачка. Не дзяўчына — любасць адна. Асаблівa ж каса па калені, а вочы, як агні на далёкай лініі, клічуць цябе, вабяць — пад'едзь бліжэй, падыдзі, падзівіся. А калі думаў я пра іх, пра Петруся, значыцца, і пра яго каханку, дык ведаеце — ног не чуў пад сабой, і так лёгка было весці паравоз тады, падганяць яго, пускаць уперагонку з ветрам спадарожным.

Дык вось, ехалі мы. Ішлі з адхілу. Паравоз пусцілі ваўсю, таму пад'ём уперадзе ды закругленне — трэба разагнаць машыну як след. Пятрусь падкідаў вуголле ў топку, каб паравоз не астыў

часам. Я стаяў ля акенца, углядаючыся ў цемрадзь ночы, якая ляцела насустрач нам, глытаючы паравозныя іскры, кідаючы на святло ліхтароў матылёў начных і казюлек.

Пятрусь падкідаў вуголле і ціха ўголас напяваў нейкую песню. Якая — не памятаю, дый справа не ў словах, а ў песні. А ад песні заўсёды сум на сэрцы і жаль, мо аб тым, што жонка далёка, мо аб тым, што маладосць праляцела калісьці без пуцёвак і станцый. А Пятрусь малады, маладая і каханка. Чаму ж не пазайздросціць чужому шчасцю, асабліва калі гэтае шчасце на парог ляціць.

Але шчасце шчасцем, а закруглення ў пуці не мінеш. І ўспомніў я, што пясочніцы ў мяне не спраўны, а закругленне вялікае, а пад'ём круты. Трэба праверыць. Выйшаў я з будкі ўперад на пляцоўку. Цёмна там, хоць вока выкалі. А вецер напірае на грудзі, надзімае кашулю, бы ветразь той, нібы хоча ўзняць цябе, перакінуць цераз дрыжачыя парэнчыны. І толькі ступіў я крок, а мо і два, як раптам нібы падхапіў мяне хто пад рукі і кінуў уперад. Колькі ляцеў я — не памятаю. А калі ачухаўся і расплюшчыў вочы, убачыў я, што ляжу на броўцы. Паспрабаваў узняцца, але так кальнула ў назе, што ледзь не страціў прытомнасць. Нага была пераломлена. Ледзь-ледзь злаўчыўшыся, зірнуў я назад — аж уваччу пацямнела: ляжыць паравоз мой, прыкленчыўшы на пярэднія калёсы, тэндэр убок схіліўся і сплюшчыўся ў блін, а за тэндэрам груда вагонаў, адзін над адным, адзін ледзь ліпіць, стаўшы старчма над самым тэндэрам. А іншыя — у трэскі, адны рабрыны тырчаць пагнутыя.

«З чаго б гэта сталася?» — падумаў я.

Няйначай рэйка лопнула, але дзе разбярэшся тут, калі ўсё змешана ў кашу: і рэйкі, і шпалы.

Узялі мяне пасля ў бальніцу, быў ужо непрытомны. І толькі на другі дзень успомніў я аб Петрусю: дзе ён і што з ім. Наведвалі таварышы, у якіх распытваў, але кажуць: не бачылі і не чулі. І толькі на трэці дзень знайшлі майго качагара ў топцы. Адны косці засталіся, дый тыя парассыпаліся, калі выцягнулі яго з прадчаснай магілы. Як падкідваў ён вуголле, так і шугануў у топку, калі паравоз зарыў зямлю носам.

Андрэй маўчыць, схіліўшы галаву, зацягваецца акуркам, які ледзь не прысмылеў да губы, сплёўвае яго і затоптвае нагой.

— А вы вось кажаце… Такі лёс, каму як… Ці думаў, ці гадаў Пятрусь пра гэта. І што б са мной было, калі б не пясочніцы гэтыя самыя. І трэба ж было час выбраць.

— А многа вы, мусіць, дзядзька Андрэй, і людзей парэзалі на сваім вяку? — пытае малады рамонтны, як відаць, з навічкоў.

— Дурных машына парэзала, а не я…

Андрэй, як і кожны машыніст, не любіць гаварыць аб сваіх ахвярах, не прынята, дый нашто: сябе ганьбаваць, сказаць аб сваім недаглядзе. Не, пра гэта Андрэй расказваць не будзе.

— Папытайцеся ў паравозаў, яны лепей ведаюць. А мне што… зачым жа гэта людзей рэзаць. Я вось вылечыў некаторых… дык гэта іншая справа.

— Як гэта, вылечыў?

— А вось і вылечыў… І не чым іншым, як паравозам. Рамонтніка Саўку ведаеце? Кульгавага. Ну, дык вось… Быў ён калісьці кульгавы крыху, садануў, мусіць, молатам па калену, а мо кастылём. Ну і кульгаў. Не тое каб занадта, а ўсё ж кульгавы, так і празвалі ўжо: Саўка Кульгавы. Добра. Еду я раз з пасажырскім, пад'язджаю да стрэлак. Усё як след, і стрэлачнік, бачу, на месцы, лінія вольная, нават дзяжурнага ўбачыў здалёк, выйшаў і ён жазло прымаць. Потым зірк гэта я бліжэй — і што ж вы сабе думаеце: перад самымі буферамі чалавек мільгануўся, цераз крыжавіну скочыў. У мяне ж у думках маланкай: «Царства яму нябеснае… дай Божа хоць без пакут…» А сам за рэгулятар, качагар за тормаз. Сталі, з паравоза злезлі. Глядзім, ляжыць наш чалавек цалюсенькі, белы толькі, як дыска тая, і не варушыцца. Стукнула яго крыху білам, ды ў самую тую нагу кульгавую. Стукнула і адкінула. Ён сабе і ляжыць. Ну, мы хуценька яго пад кран, ды вадой, а там на паравоз, ды на станцыю, ды ў пакой прыймовы… Здалі і паехалі сабе. А праз месяц сустракаю яго, гэтага Саўку, значыцца, на змене шпал. Ехаў я прыцішаным ходам, і гляджу, кланяецца мне чалавек ды ўсміхаецца яшчэ.

— Здароў, — кажа, — дзядзька Андрэй, вялікае табе дзякуй за нагу маю пакалечаную, цяпер, бач, як з кузні, не крывіцца, не кульгае.

Мяне аж жах узяў. Але гляджу і сапраўды: ходзіць чалавек, і нішто, нібы яму і паравоз не брат. А вы кажаце — рэжам… На ўсё свой лёс.

— А кінь ты ўжо са сваім лёсам, даўся ён табе ў знакі. Раскажы вось лепей, як бандытаў вазіў ты.

— Ну што ж, вазіў. Чаму і не правезці часам…

Андрэй гаворыць, а рукой мімаволі мацае за левую кішэню замазучанай кашулі. Там у яго ў святочныя дні вісіць заўсёды ордэн Чырвонага Сцяга. У буднія дні ордэн у скрынцы, бо нязручна з ім, яшчэ ў мазут упляміш, ды ці мала што каля работы. Але ўспомні толькі яму пра бандытаў, як рука па прывычцы падымаецца да левай кішэні. І сам ён увесь падцягваецца, выпроствае плечы і цярэбіць рукой выцвіўшыя рудыя вусы.

— Так, вазіў. Усяго было, браткі, на нашым вяку. Што цяпер… Паравоз ідзе як па маслу, у вагонах праваднікі завяліся; глядзяць, каб і блыха без білета не праехала. Вы вось, скажам, рамонтнікі, ведаеце хваробу кожнай шпалы. Чуць захварэе — даёш новую, тое ж самае і кастыль, і рэйка табе, і замок, і гайка, скажам, кожная ў вас не застарыцца. Дый самі вы… Што вам… Скажаце хіба — кепска, працаваць нельга… Ого! Вы паспрабавалі б вось папрацаваць у дзевятнаццатым, у дваццатым, даведаліся б, пачым фунт гаек… Але што казаць! Ты ж, Гаўрыла, ведаеш, ты ж і тады служыў. Так. Дык ехаў я раз з пасажырскім (гэта год шэсць таму назад, а то і сем). Былі мы ўжо на перагоне перад Ясным Лесам. Дровы былі тады, і паскудныя ж — хоць ты сам заместа іх у топку лажыся. Сяк-так гаравалі, але з пары паравоз не спушчалі ніколі. Маладыя каторыя, дык тыя мучыліся з дрывамі гэтымі самымі. Я ж не маладзён.

І толькі гэта мы пераязджаем Крывулінскі мост, як бачу я — уперадзе агеньчык мітусіцца. І каб які-небудзь там, дык не, самы што ні ёсць чырвоны. Я за гудок — бачу, не сплю, — а сам сабе здагадкі раблю: чаго гэта самае, з якой прычыны? Прыцішыў ход, пад’язджаем. А ноч цёмная, людзей — хоць бы чалавека ўбачыў, толькі мітусіцца агеньчык, то ўніз, то ўгару. Бачу — справа сур’ёзная; націснулі на тармазы, пад’ехалі, сталі. І толькі гэта я галаву з акенца высунуў — тут мне дула пад нос, а на прыступках ужо чалавекі са два, і ў поўнай гэта, значыцца, амуніцыі. Ну, на амуніцыю яно мала было падобна, але ж стрэльбы там, бомбы розныя і ўсякія іншыя там прычындалы, усё як след. Праўда, не было мне там часу прыглядацца асабліва, бо іншым клопатам галава была забіта.

Заб’юць, думаю, да душы ж, не памілуюць.

А па вагонах, чую, крык, калатня. Застаўся з намі на паравозе адзін вартавы толькі, усе з цягнікам распраўляюцца, па вагонах шныраюць. А паравоз у мяне, як конь стаенны, дрыжыць пад параю, чмыхае носам… Дый у мяне сэрца ўсхадзілася — не стрымаць. І жаль тут узяў. Зірнуў я гэта скоса на вартавога, ат, сапляк нейкі, ды яшчэ з ліхтаром чырвоным. І злосць мяне разабрала. І не то каб на сапляка гэтага, галоўнае за тое, што погань такая ліхтар чырвоны трымае ды яшчэ табой камандуе, ні за што ні пра што машыну ў дарозе ў прастой уганяе. А вартавы гэты самы, узяўшыся за поручні і нахіліўшыся з паравоза, глядзіць усцяж вагонаў: нецярпячка чалавеку… І не ведаю, як тут выйшла, таўхануў я нагой, ды проста паміж лапатак гэтаму самаму вартавому. Заенчыў толькі, паляцеўшы потырч з пры-

ступак. А я нагой у хрыбет, а рукой на рэгулятар, ды без усякага гэта, значыцца, сігналу як таргану ўперад, ды поўны ход, ды як паехалі, ды як паляцелі — нічагусенькі не чуваць, што там па вагонах дзеецца… Бачу ўжо, і семафор уперадзе зялёным вокам мігае: «Калі ласка, чакаем». Семафор адкрыты, а я на поўным разгоне адкрыў гудок, закаціў трывогу на ўсе застаўкі. Пасля расказвалі на станцыі, перапалохаліся там усе — начальства, варта: чаго там шалее — семафор адкрыты, а ён у трывогу кінуўся.

Пакуль яшчэ пад'ехаў, пазбягаліся ўсе. Пад'язджаю, трублю і крычу ўжо на станцыі: «Браткі, бандытаў хутчэй хапайце!» І што вы думалі — усіх пабралі, як міленькіх. Адзін толькі саскочыў, дый той, небарака, аб сотнік чарапянку зламаў. Бач, калі тарганув гэта я паравозам, ашаламуціліся яны ўсе. Некаторыя лататы хацелі даць, ды пасажыры скемілі, у чым справа, ды за каўнер, ды за зброю.

І пацехі ж было пасля, бо я обера лаяў, чаму за білеты не ўзяў з безбілетнікаў гэтых самых… А ён мяне крыў:

— Не меў, — кажа, — ты аніякага поўнага права без майго свістка шалёны ход пачынаць…

— А навошта ж згубіў ты, — кажу, — свісток гэты, пад лаўку хаваючыся…

Смяхоцце, браткі, было… Ну, а пасля праз некалькі месяцаў мне і ордэн гэты чырвоны.

І Андрэй зноў мацае сябе за кішэню і, не знайшоўшы там патрэбнага, вінавата апускае руку.

— Не варта насіць цяпер, навошта…

На станцыю, запыхаўшыся, прыходзіць таварны цягнік. Хутка моцны, шчукінскі паравоз параўняўся з нашай «кукушкай». З паравознай будкі высунулася нечая постаць. Яе заўважыў Андрэй.

— Здароў, Каўтун!

— А, Андрэй, вось не пазнаў, браце, цемень, бачыш. Ну, як «кукуеш»?

— Кукую, нічога, браток, не папішаш…

— Кукуй, кукуй. А да жонкі калі?

— У панядзелак з'езджу. Калі ўбачыш часам, скажы, хутка прыеду.

— Дзе ж ёй сумаваць там. Нябось, маладога знайшла, ці ж ты ёй пара…

— Ну, ты ўжо сказаў. Табе б толькі зубы скаліць. Хадзі вось шклянку чаю перахваці…

Калі таварны заскрыгатаў коламі, забуксаваў магутным паравозам і кранууўся ўперад, Андрэй змоўк. Нават выгляд яго зрабіўся шэрым, бескаляровым.

— Расказаў бы ты нам яшчэ пра бронецягнік, дзядзька!

— Не, браткі, годзе. Другім разам ужо. А цяпер спаць. Бо і ў мяне ўжо косці ныюць і пазяха-а-ецца ж, здаецца, праглынуў бы і «кукушку» сваю, да таго ж спаць ахвота. Дый вам час. Нябось, заўтра а шостай гадзіне на лінію. Ну, дык і трэба вылежацца крыху, а то і штопка з рук вываліцца, калі гэта не выспацца.

— Што ты, дзядзька, каб у нас ды вывалілася.

— А яно і сапраўды: ці мне ж раўняцца з вамі. Калі б то мне вашы гады, здаецца б, плячом паравоз з дэпо выштурхнуў. Стары я, браткі, недалугай раблюся. Што год, то горш. Але не шкада, сваё адгуляў, сваё адмазоліў…

* * *

Сям’я Андрэя жыве на другой станцыі. Дый не сям’я, а так — адна толькі жонка. Кожны тыдзень Андрэй ездзіць да яе на пабыўку. І заўсёды ён садзіцца да якога-небудзь знаёмага машыніста на пасажырскі паравоз. Іначай не можа.

— Душа не прымае. Ці можна ж мне ехаць у вагоне: занудзішся там, змарнееш.

І, калі цягнік адыходзіць ад станцыі, Андрэй заўсёды просам просіць машыніста:

— Родненькі, галубок мой, дай жа я правяду крыху.

Яму не адмаўляюць.

Дрыжачай рукой націскае Андрэй на бліскучы рэгулятар, напружваецца сам, як магутны паравоз, і, радасны, прыслухоўваецца, як хліпае гарачая пара ў шырокіх паравозных трубах, як ляскочуць усё шыбчэй і шыбчэй гарэзлівыя высокія колы паравоза, як пыхкае пара з-пад бліскучых, гарачых поршняў цыліндра.

І, перагнуўшыся ў акенца, шырокімі грудзямі ўдыхае Андрэй пах палыну і мазуту, мерна ківаецца на сядзенні і ў такт усяму дрыжачаму паравознаму целу прыгаварвае часам:

— І ляцім жа, браткі! Э-эх ляцім!.. Даганяй — не дагоніш…

*1928*

# КВАТАРМАЙСТАР БАДАЙ

— Цывілізацыя… — і рудыя, паскусаныя вусы хмура павіслі ўніз, яміны шчок, пакрытыя зямлістым загарам, запалі яшчэ глыбей. І толькі нос — бярыся от рукой, не зломіш — нахабам лез наперад, тыцкаўся ва ўсе бакі, соваўся ў кожны куток паходнай двухколкі.

— Нос у цябе, браце, не нос, а замок ад гарматы.

— А з якога канца зараджаць будзеш? — агрызнуўся нос.

Засмяяўся. Быў ён сапраўды — гэты высокі і сухі, як жардзіна, кватармайстар Бадай — падобны на доўгую зенітную гармату.

— Стрэліш тут з гэтых харчоў… Каб то дабро, а то ўсякую поскудзь французскую даюць ім жэрці. Французы, браткі, яны не дуракі, усякае барахло палякам падсунуць… Цы-ві-лі-за-цы-я… ліха б на іх…

Злосны быў кватармайстар Бадай на французскую «цывілізацыю». І нездарма. Па-першае, абрэзаў сабе палец аб каробку кансерваў. Былі яны ўчарашнімі трафеямі, захапілі ў Баранавічах цэлыя склады. Польскай арміі кансервы, і прысланы яны былі з далёкай Францыі. І, дарэчы, нікудышныя кансервы, гужавыя, бычыныя — нажом не ўкалупіць, — сухія і нясмачныя, у нязвыклых чатырохкутных банках з чужой пісанінай. Да таго ж яшчэ палец аб іх абрэзаў…

Гэта раз. А па-другое, паспытаў Бадай і французскай кулі з самай сапраўднай французскай вінтоўкі. А былі тыя вінтоўкі французскія ў польскіх салдатаў, У якіх былі яшчэ і французскія гарматы, і чаравікі французскія, і французскія мінамёты, самалёты французскія і кулямёты. Афіцэры і тыя трапляліся французскія. Трапляліся, праўда, і ангельскія.

І хоць куля тая французская была і прыгожага колеру — як сунічка тая ў дзень ясны, — хапіла яна хвацка за бадаеўскае плячо, так цмокнула сакавіта, што пралежаў Бадай не адзін дзень і не два за шырокай Бярозай. А адлежаўся, у полк падаўся. А тут яму і сказалі:

— Ідзі, голуб, кватармайстрам будзеш. Не табе з рукой адной ротай камандаваць. Ідзі, папраўляйся, глядзі і рука адыдзе.

Ну што ж, кватармайстрам, няхай кватармайстрам, на тое ж яна дысцыпліна.

Але добра сказаць — кватармайстрам… Абоз… Другі разрад… Палкавыя капцёры… Душы цэйхгаузныя… Хіба ў штыкі з імі на банкі кансервавыя.

І злосны Бадай. Заўсёды злосны.

Ляжыць пад двухколкай вось, калупае ў зубах — толькі ж што кацялок адсунуў — ды ўзіраецца ў далёкае блакітнае неба, што раскінулася празрыстасцю ліпеньскай над шашой, над полем, над пыльнымі кустамі, пад якімі схаваўся абоз ад назойлівых воч самалётаў. Плывуць па небе пярэстыя хмаркі, белыя, курчавыя. Падплываюць пад сонца і нікнуць, таюць, распадаюцца на беласнежныя кудзеркі. А пад імі, у блакітнай бездані, гуд чмяліны гудзе. Паспрабуй разбярыся тут вокам простым, ці свае то ці чужыя? Але клопат вялікі, хоць бы і чужыя — на такой вышыні не страшныя, не куслівыя. Не аб іх думаць зараз, не аб іх трывожыцца. Вунь куюць па кавадлах глухіх, па кавадлах тых багатырскіх. І гукі тыя як гром, як навальніца тая, што з-за лесу ідзе, насоўваецца чорнай сцяной. Глухія гукі і працяглыя: ударыць раз і адрыгаецца раз, і сухім трапятаннем працінаецца пыльная пеляна зямлі, і, здаецца, небавая сінь от расколецца на кавалкі і рушыцца ўніз ашкалёпкамі вострымі, крышталёвымі. Працінаецца трапятаннем зямля і ўздыхне, і ўздых той цяжкі і сумны, з кароткім уздрыгам: у-у-у-х… гух…

— Ну і б’юць! От сыпяць!

— Каму толькі насыпяць?

І ніхто не адказвае. Не варта языкамі часаць, калі выюць гарматы, калі захліпаюцца ў шалёным рогаце кулямёты ды калі вой гэты і рогат усё бліжэй і бліжэй. Твары чырвонаармейцаў спакойныя, урачыстыя. І кожнаму справа ёсць. Мо адпачыў бы хто, ды няёмка неяк. Няёмка, калі захліпаюцца кулямёты. І хто сядзёлку чыніць, хто воза майструе, хто аглядае падковы ў каня — ці не збіліся на шашы на каменнай. А ў ружэйна-кулямётным чысцяць здабыткі ўчарашнія — кулямёты французскія.

— От саданула, брат, увесь шчыт як на рэшата. Нябось узараў кулямётчык носам зямлю, праглынуўшы шрапнелю…

— Узараў… Не адзін з гэтым кулямётам узараў, усе нумары засталіся на месцы…

Ляжыць Бадай, і цяжкая злосць ападае, нібы шматкамі тымі спаўзае, бруднымі, закарэлымі…

…Захліпаюцца кулямёты…

— А ну, прыгатуйся, ды каб коням быць напагатове.

А ў самога ў думках: «І чорт іх ведае з штаба таго, калі то надумаюцца загад аддаць, яшчэ патрапіш у госці да белых, пападзешся голенькі…»

І ўжо ходзіць Бадай, правярае двухколкі, што з хлебам, з махоркаю, з цукровымі мяшкамі пад прапыленымі брызентамі.

Што з патронамі, вінтоўкамі, кулямётамі. Выстаўляе за ўзгоркі, за нізіны балотныя вартавыя дазоры: усё можа быць, усё можа стацца, хоць уперадзе і нашы. Ці мала што… Захліпнуліся кулямёты за лесам. Захліпнуліся і замоўклі раптам, нібы па ўгавору няпісанаму. І цішыня, старожкая і ўрачыстая, павісла над полем, над шашой, над параснікам, над балотам. Толькі тахкаюць, бумкаюць сіратлівыя стрэлы вінтовак, то заціхаючы, то зноў рассыпаючыся частым гарохам па вялікаму, ніколі не бачанаму бубну.

— Цяпер, брат, вуха востра! Трымай на прыцэле!

І вочы туды, на далёкі ўскрай лесу, дзе над сіняй імглою ўзвіваліся клубочкі белага дыму і з сіняй імглы даляталі прыглушаныя ўздыхі гармат. І раптам увесь нацягнуўся, падаўся ўперад, упіўся позіркам у дарогу. Застыглі ў чаканні чырвонаармейцы.

— Што б то магло быць?

Па дарозе ад лесу ўзняўся пыльны клубок і хутка каціўся па дарозе. І чым бліжэй, тым усё больш і больш вырастаў ён, ахінаючы за сабою дарогу пыльным доўгім хвастом.

— Ану, каторыя, падрыхтаваць кулямёты.

Сказаў ды раптам сам рассмяяўся. Падзівіліся хлопцы, прыгледзеліся, ды і самі ў рогат. Ужо браліся каторыя за жываты, пазіраючы на дарогу.

— Вось табе і кулямёты… Гэта ж капцёр смаліць… Малады капцёр… Бач ты, гнедага паганяе, пусціў ва ўвесь дух… То ж яздок знайшоўся…

Але рогат знік знячэўку, растануў, і нацягнутая маўчанка апанавала абозам. Дужа ўжо не па-людску паганяў капцёр. Паганяў і крычаў нешта, і словы яго прыглушалі калёсы, што тарахцелі па жорсткай дарозе. Вось і блізка ўжо. Вось успенены, засопшыся, перакідвае ногі гняды. На калёсах, у воблаках пылу, паказаўся расхрыстаны капцёр. І не голас, а звярыны ўскрык, уз’юшаны, бязмежны:

— Па-а-лякі!..

Маланкай пранізала людзей. Страпянулі коні вушамі, затупалі непакойна нагамі.

— Абходзяць… Абхватам…

— Ты што? Ты што гэта думаеш, гад? Застрэлю паганца! І як жа ўсё хутка.

Бадаеў наган халодным дулам тыцнуў у запылены лоб капцёра. І адразу адняўся язык пад халодным і прагным дулам. Расхрыстаны, збялелы, увесь у шэрым, у мяккім пыле, стаяў абмярцвелы капцёр. Толькі цяжка ўздымаліся грудзі, ды абвіслыя

рукі хадзілі ходырам, не ведаючы, за што ўчапіцца пальцамі, на што абаперціся. Адхінуліся, падаліся паводдаль чырвонаармейцы, пазіраючы скоса.

— Ну што, языка адкусіў? Эх ты, цыкорыя зялёная… Да гавары толкам, як і што? — шэптам загадваў Бадай. І шэпт быў жорсткім, калючым, як дрот.

Капцёр абмяк, асеў, збялелы твар пачаў заплываць чырвонымі плямамі, згаслыя вочы заіскрыліся.

— Да я… дык вось як… даруйце, таварыш начальнік… Напалохаўся дужа… Цэлы эскадрон уланаў праскочыў… Ледзь каня не загнаў… Б'юць нашых… сіла вялікая… Уся велікапольская дывізія, а нашых жа ўсяго адзін полк. Напіраюць, крый божа… Абыходзяць з фланга… Батальённага, Карнача, забілі…

— Бачыў?

— Сваімі вачамі бачыў.

— Трымаюцца?

— Ды яшчэ на месцы… Абыходзяць вось толькі, а нашы і не ведаюць… Абыходзяць па лесу… А калі падмога — невядома…

— Ну, ладна, не-вя-до-ма… Паспрабуй хоць раз яшчэ паніку наганяць — не збярэш мазгоў.

— Даруйце, напалохаўся…

— Эх ты, нястрэленае… Ідзі-ка вунь ды садзіся, паедзем назад, пакажаш, дзе і што.

І сам да кулямёта.

— Ану, бярыце лепшыя паркі коней ды пяць кулямётаў.

А начальніку ружэйна-кулямётнага:

— Пільнуйцеся, каб усё парадкам. Ды коні каб пад запрэжкай. Асабліва за ляском назірайце, каб які раз'езд не наскочыў. Ну, а мы…

І чалавек трыццаць на чале з Бадаем узняліся, як віхор, — заскрыпелі тачанкі, толькі бачыў ты іх.

Здаецца, не беглі коні, а сама дарога шалёна ляцела насустрач, ляцелі кусты, слупы, абамшэлыя камні шэрыя, ды ўслед пасціляліся кіпучыя клубкі прыдарожнага пылу — ружовага, пуховага. Не беглі коні, а, распасцёршы пахкія грывы, выгіналі вужакамі спіны, мільгала срэбная луска падкоў ды плылі хвасты: гнедыя, вараныя, агнявыя.

— Эх вы, ластаўкі! Паддай… паддай… Націскай, навarочвай…

І нацягнутай струной гудзела дарога, і сіняя імгла лесу скідала сінь сваю, і чым бліжэй — растайвала, і ўжо ляцелі насустрач зялёныя дрэвы — бярозы, яліны ды магутныя грабы.

— Ну?

— А вось хутка ўжо, за другой павароткай, — і на твары маладога капцёра расцвіталі чырвоныя макі. І ў маках тых была тая дзівосная радасць, калі не адзін чалавек, калі згінуў страх, калі хочацца ляцець стралой: вострай, гнуткай, пякучай, каб з сэрца сыпаліся чырвоныя іскры, гаручыя, агнявыя, і захліпаліся грудзі ў хвалях невыразнага, цудоўнага — як смерць, нараджэнне — чакання.

Скасавурыў вока Бадай, левым вусам павёў, абкусаным. Шлакатнула сэрца цяплынь, змякчэла яно, адышло. Пад вусамі ў маршчаках, на зямлістых ямінах шчок мільганула ўсмешка і схавалася дзесьці пад насупленай шчэццю брывей, цяжкіх, ускудлачаных.

— Эх ты, нястрэлены… Не кроў у вас — ртуць грымучая. У выбух просіцца — паднясі агню, разляцішся на кавалачкі… Пш-ш-шырк і няма… Маладое, зялёнае… о-та…

А за лесам стракочуць кулямёты, захліпаюцца спрытныя «максімкі», заглушаюць іх кольты голасам басавітым: гох-гох-гох-гох… І ўжо на вачах пераліваюцца шэра-зялёнай лавай бляклыя мундзіры легіёнаў. Ідуць, бягуць, усё правей і правей, каб паспець абхапіць, сціснуць полк чырвоных у смяртэльнае кола.

Сцялася сэрца ў камок, пругкі, халодны. І раздалася звонкай спружынай — зашумела ўвушшу, ухаччу заіскрыла.

— Ану, правей… Бей з фланга… Ды глядзі, на ўзгоркі не ўскаквай, коней беражы…

Распрасталіся коні па зялёных лагчынках, імчаць тачанкі, абганяюць палякаў. І колькі хвілін — забумкала, затарахцела. І як лісце пад ветрам — пахіліла рады, захістала. Колькі стрэлаў адтуль наўздагад, палахлівых. Сіратліва дзынкнулі кулі, хвастанулі кой-дзе па галінках — трапыхнулася лісцейка, матылямі ўпала зялёнымі. Дзынкнулі кулі і змоўклі. А палякі адлівам назад. Ужо не ідуць, не паўзуць перабежкамі, а бягуць, імчаць. Бягуць не азіраюцца, і лятуць вінтоўкі, адлятаюць французскія патранташы — сухія, брызентавыя, кішэні тыя на кнопках, патронныя. І збянтэжаныя кулямётчыкі польскія пакідаюць сіратлівыя кулямёты, нязручна з імі ўцякаць ад смерці.

А тачанкі ўслед, па лагчынах, узгорках. І за кожным узгоркам віхрыць кулямёт, захліпаецца, аж пырскае парай гаручай.

І раптам:

— Стой! Суніміце агонь!

З-за пералеску, што лявей, бліснулі на сонцы клінкі.

— Эге, гэта ж наш эскадрон… Ну, цяпер будзе работа…

— Айда, хлопцы! Прыводзь да парадку кулямёты, няхай адпачнуць… Без нас цяпер…

Блiскалі ў паветры клінкі. Імчаліся, засопшыся, коні. Цяжка беглі людзі, прыгнуўшыся да зямлі, уцягнуўшы як мага глыбей свае галовы ў плечы. Беглі, абы ўперад, абы не глядзелі б вочы, як бліскае сонца на срэбным метале. Беглі, спатыкаліся аб гэты сонечны бляск, ніцма падалі ў зялёныя абыймы зямлі, прыпадалі да яе палаючымі, прагнымі вуснамі. І ўжо шмат якія, што не ўпалі яшчэ ніцма, згрудзіліся ў кучы, прасцёршы да блакітнай бездані трапяткія, забруджаныя пылам і зямлёй, просячыя рукі.

Бралі ў палон, абкружалі, падлічвалі, выстройвалі ў шэра-зялёныя шэрагі.

Плылі пад сонцам пярэхмуркі, растайвалі беласнежнымі кудзеркамі. Расцвіталі макі на твары маладым на капцёраўскім. І ўжо сурова ўсміхаўся бадаеўскі вус. Усміхаўся Бадай і вылічваў, колькі-то будзе кулямётаў трафейных, ці хопіць-то падвод у абозе.

* * *

Пад вечар другога дня чыталі загад у абозе, загад па дывізіі. Было ў загадзе і пра Бадая, пра «выключную ініцыятыву», пра тое, як кватармайстар Бадай «прымусіў адступіць абходныя калоны белапалякаў», нанёсшы ім значныя страты. І шмат яшчэ аб ім, аб Бадаі.

— Ага… з нашым Бадаем не прападзеш… Мы з ім учора такой цыкорыі палякам задалі, што толькі трымайся.

— Хто гэта мы? — пыталі і пасмейваліся хлопцы.

— Вядома, мы… — адказваў малодшы капцёр, і шчокі яго ўбіраліся ў чырвань, гарэлі вушы, лоб, і кожны позірк чужых вачэй муляў спіну і грудзі, холадам прыліпаў пад зялёную гімнасцёрку.

— Ты-ы… ваяка знайшоўся… А ці не ўчора ж ты, блыха капцёрская, шыны пагубляў па дарозе, пяткі мажучы ад палякаў? Цы-ы-коршчык які!..

— Ну, будзе вам… Чаго чэпіцеся, — і хмура павіслі бадаеўскія вусы. — Былі шыны — чорт іх бяры з шынамі, абы галава засталася на плячах. Ну, здрэйфіў хлопец, заслужыў быў нагана. Ды паправіўся… Стрэленым стаў, кулі панюхаў. А стрэлены — панікі ён, брат, не любіць. То-та! Без панікі абыходзіцца… Чаму ж лезці сляпіцаю ў вочы?

Хлопцы разыходзіліся па абозу, ахутанаму ружовым прадвячэрнім дымам агнёў: варылі вячэру, бразгалі кацялкамі, стукалі

лыжкамі, смачна саплі над закуранымі і гарачымі, як вар, кубкамі гарбаты. Сям-там парылі бялізну над цяплом, каб спакайней быў сон нанач. Ды прарэзліва ржалі застоеныя за дзень коні.

— Ну, ты чаго засумаваў, стр-э-э-ле-ны мой. Ідзі, ідзі, ля цяпла завіхайся, каб кішкі маршу не ігралі… не адступай, брат, паўсюды… Асабліва ж… калі не загадана…

***1932***

## СІНІЯ ГАЛІФЭ

Лесам ішоў чалавек.

Не ішоў, а бег, торапка перастаўляючы ногі ў цяжкіх, з падкоўкамі, чаравіках, у старых палінялых абмотках. Абмоткі часта раскручваліся, ападалі, і тады, палахліва азірнуўшыся па баках, чалавек спыняўся на міг, прылаўчаўся да пеньчука, каб ямчэй паставіць нагу, у соты раз падкручваў непаслухмяныя абмоткі, ставіў цвёрда нагу, на спробу — ці раскруцяцца больш. І калі падкручваў — чырванеў пахілены твар, дзесьці садніла нацёртая мяшком спіна, вялікая слабасць, стома разлівалася па ўсяму целу — от бы сесці пад куст пад алешкавы, прыкархнуць на хваёвым вецці, на елкавых лапах пахучых, на траве лесавой, на прагалінах.

Дзе ж ты ляжаш на прагалінах тых?

Чалавек падкручваў абмоткі, сапеў, злосна лаяўся, вызвяраўся:

— Загінеш праз вас, праз халерную закруць…

І ішоў, пасклізаючыся на сухой ігліцы, глянцуючы цяжкія чаравікі — старыя, парэпаныя — аб верасы, аб траву, аб сухую папараць лесавую. Каб ямчэй было, не пасклізацца каб — наступаў на старыя грыбы, на крохкія мухаморы, хрупасцелі яны і пахлі. І пах той галаў кружыў, адурманьваў.

А дзесьці там, далёка, адзаду, з-за пройдзеных лесавых чашчоб, гудзела глуха зямля, цяжка вухала і пракатвалася грознымі пагалоскамі, сатрасаючы застойлівую, зляжалую цішыню лесу. Нібы рвалася на кавалкі яна — цішыня гэтая, — і асыпалася сухой ігліцай хвой. Церушылася яна з вышыні, шамацела, пасклізаўся на ёй спуджаны чаравік. Чалавек уцінаў галаў у плечы, спалоханай рукой хапаўся за мулкі мяшок. Важкі ён, агнём смыляць пад ім навярэджаныя плечы, нацёртая да мазалёў спіна, і думкі такія ж: неадчэпныя, мазалявыя.

— Божа ж мой, Божа… Каб жа як мага хутчэй з бяды выбавіцца…

І радасць, як злодзей уночы — цішком, цішком, — сэрца пратне, разгарыцца вуголлем гарачым. Аж потам укрыецца лоб. Ды рука, напалоханая грознымі ўздыхамі зямлі, на мяшок, на важкі, на мулкі.

— Тут ён, тут… Аж да скуры ўліп, прыпацела пад ім спіна, мазалямі ўскіпела…

Разбягаюцца думкі, збягаюцца. Усё аб ім, аб мяшку, туга завязаным, перавязаным. Што на ўласным гарбу, успацелым.

У тым мяшку былі галіфэ.

Сінія-сінія, не раўнуючы неба вясной ці пад цветам палі льняныя.

Шырачэ-з-зныя галіфэ.

З кантам чырвоным.

На галіфэ тых сініх чырвоны кант — салдацкі гонар, дзявочая зайздрасць гаручая.

Ну і галіфэ.

Ай да канцікі…

Сінія ды чырвоныя…

* * *

Вечарам, калі паліліся першыя зоры і туман спавіваў лясавыя дарогі, прыляцела на ўзмыленых конях палкавая разведка. Цяжка саплі коні, пар клубіўся над імі, на брудны пыл дарогі ападалі беласнежныя клубы пены, высока ўздымаліся худыя рэбры, востра напінаючы кашлатую конскую скуру. Прытаміліся коні, здарожыліся. Пазяхаючы, выскалялі белыя конскія зубы і ціха ржалі, адчуўшы спачын, блізкую жменю аўса, бярэмкі пахучага сена.

Твары разведчыкаў былі панурыя і маўклівыя. І калі выйшаў насустрач камандзір пяхотнага палка, адрапартавалі сумна:

— Бяда, таварыш камандзір… Уланскія эскадроны прарваліся праз мост, у абход пайшлі… Каб не даць часам маху… І яшчэ, таварыш камандзір, прывезлі мы начальніка свайго, начальніка разведкі, баявога таварыша Ермальчука… Вось конь яго ідзе асірочаны, без начальніка ідзе конь вараны. Напароўся начальнік на шаблю на ўланскую… Захапілі з сабой, не пакінулі, не пусціць каб у здзек мёртвае цела чырвонае, не пусціць у надругу.

Камандзір палка суха вылаяўся, сукіных сыноў памянуў, што гарачку поруць, праз гарачку тую на ражон пруць. Вылаяўся ды загадаў. І загад той быў, як наганны стрэл:

— Айда на спачын. Да раніцы…

А сам пайшоў да палка, падняў некалькі рот, і пайшлі яны, ашчаціненыя штыкамі, пайшлі рознымі дарогамі лесавымі ды ледзь прыкметнымі балотнымі тропкамі. Каб не было абходу, каб адрэзаць уланам шляхі — і назад і ўпярод, шаблі ўланскія каб прытупіць.

А таварыша Ермальчука палажылі на абозныя калёсы, сцягам баявым накрылі, і чатыры клінкі апошняй ганаровай варты цьмяна паблісквалі ў сівым тумане, у бляклых водблісках палкавых агнёў. Спалі ля тых агнёў пяхотныя байцы, палкавая разведка адпачывала. Адпачывалі зморaныя коні, стрыглі ляніва вушамі ды ціха ржалі над пахучым аўсом, у парусіну насыпаным, у вёдры брызентавыя.

Прыходзіў да Ермальчука камандзір палка, у твар яго паглядзеў, уздыхнуў разы два, словы вымавіў:

— Адпускную ты ўзяў дужа рана, мой дружа. Зачым спяшацца…

Уздыхнуў яшчэ раз і вылаяўся, каб сум адагнаць, каб душы не вярэдзіць. Сурова напіналіся тады вострыя клінкі, іх цьмяныя водбліскі былі нерухомы. І такія ж былі нерухомыя твары ў часавых, што стаялі за ганаровую варту. Ім зразумела была камандзірская лаянка, у якой быў сум па загубленым байцу, па таварышу баявым, з якім пратоптана было колькі дарог, колькі сцяжынак ад далёкіх берагоў светлай Бярозы…

Вылаяўся камандзір, пасуровеў. І пайшоў правяраць палкавую варту, каб, праверыўшы, адысці на спачын, да раніцы, да скупога сонечнага ўсходу, лесавога, панурага.

І ў тую ноч, як прывезлі таварыша Ермальчука, калі кожны куст, кожная хвоя набрынялі трывогай, ахінулася звярыным жахам сэрца ездавога палкавога абозу Івана Гнёта. Пра ўланаў учуў, пра вострыя клінкі памысліў — вось яны гэтыя клінкі разрубаюць на ім перашытую гімнасцёрку, рубаюць цела, рэжуць сэрца Іванава. І на тым клінку сыходзіць крывямі Іван, жытку сваю па лязу пускае па востраму, душу ад крывей адрывае. За чые б то, сказаць, інтарэсы? За каровы хіба бацькавы ды за коні, за шырокія бацькавы гумны, за лугі яго, за прасторныя палі. Колькі коней у бацькі ды колькі кароў… Шырокая жытка ды цёплая, як вымя кароўе малачавае. А дзявок тых адных… Божа, Божа, колькі дзявок на прывольную жытку зарацца ды Івану вачамі спагадаюць: азірніся на мяне, мілы мой, кучаравы мой… на дзявочы мой стан зірні, гнуткі стан, трапяткі…

Дык навошта ж тут шаблі ўланскія?

Жытку на іх каб спускаць?

За чые б то, сказаць, інтарэсы крывямі сыходзіць?

І калі апаўночы пабляклі палкавыя агні, сон ахутаў прывал ды заблытаўся месяц у кудзелістых хмарах — прыўзняўся пад шынялём Іван, азірнуўся старожка: дыміліся галавешкі ў кастрах, лёгкі пар пасцілаўся над прывалам, ды роўны храп калыхаў начное паветра — над вазамі, над грудамі сонных цел, над козламі росных вінтовак. Цьмяна паблісквалі штыкі, і цьмяны бляск іх аддаваўся болем у сэрцы, цісную на яго балючай вастрынёю і жахам.

Звярыным жахам.

Прыўзняўся Іван, нацягнуў рукавы шыняля, доўга поркаўся ля паходнага мяшка. Успомніў нешта, падышоў да воза, на якім ездзіў ён ездавым. На возе тым уся гаспадарка палкавой кравецкай майстэрні — машын пара ды барахло: штаны, гімнасцёркі, колькі тых шынялёў — на перашыўку ўсё. Ды сукна кавалкі з тры. Перакінуў штаны, гімнасцёркі, шынялі і напароўся на іх, на сінія галіфэ. Па чырвонаму канту пазнаў. Успомніў — дні за тры перад сваёй смерцю прынёс гэтыя галіфэ Ермальчук — баявы начальнік разведкі. Каб перашыць, каб кант пусціць, каб не сорамна было яму, камандзіру баявых разведчыкаў, перад ворагамі — багатыя ўборы ў паноў, багатыя штаны ва ўланаў. І каб сораму не мець і перад імі, перад дзяўчатамі сінявокімі, незнаёмымі… Акуратным каб быць, спраўным каб быць…

— Цяпер яны табе без патрэбы… А калі б і жыў — вялікі то мне аб табе клопат…

Сунуў галіфэ ў мяшок, сёе-тое згроб з бялізны, пару шынялёў схапіў падпашкі, на вінтоўку сваю зірнуў: браць ці не браць?

— Эт… лішні цяжар…

І пасунуў, прыгнуўшыся, праз кусты, праз ламачча, уцяўшы галаў у плечы, напяўшы балюча слых: вось крыкнуць «стой», свісне куля гарачая. Аж садніла шыя, да таго прыліпала да яе галава, уцінался. Быў маўклівы лес, і гэтая маўклівасць была пагрозлівая: вот-вот выйдуць з-за дрэва, штык прыставяць табе да грудзей, і назад, і ні з месца, і пагоняць цябе, дэзерціра начнога, у полк, у абоз, на расправу. За ўцёкі, за зладзейскія справы. Тады будзе нямала… Мокрая цяпер зямля, сцюдзёная… Дамавіны ж табе не змайструюць…

— Бр-р-р… — сцяліся плечы дрыготкай, захаладала дзесьці на сэрцы.

То дожджык імжыў. Восеньскі, прыкры, зольны. Прытаіўшы духі, забраўся пад елку Іван, выбраў месца сушэйшае, каб адпачыць, думкі сабраць. Ляжаў, прыслухоўваўся. Скатваліся

з яловых лап набраклыя кроплі дажджу, шамацелі аб лісце на доле. Захінаўся ў шынель, уткнуў у каўнер зябкі нос і прыдрамаў. Спаў старожка, уздрыгваў, калі далятаі з-за лесу прыглушаныя ўздыхі зямлі, бумкалі дзесьці за балотам сіротныя стрэлы вінтовак.

— Але ж далёка… Не страшна цяпер…

Насоўвалася раніца, шэрая, восеньская. Уздыхі зямлі рабіліся часцей і часцей, аж ціхім-ціхім, ледзь чутным гудам поўнілася старая яліна. І здавалася соннаму воку, нібы пры кожным уздыху зямлі ўзнімае яліна напалоханыя свае старыя лапы — калючыя, мокрыя, зольныя. Сатрасаецца яліна, жменямі атрасае дажджавыя кроплі, аж зямля пачарнела ўнізе. Холадна. Зябка. Глыбей галаву ў каўнер. Каб ямчэй, каб цяплей. Ды вочы прыжмурыць.

Як у нары кратовай тады: цёпла, зацішна…

* * *

Прачнуўся Іван, калі сонца ўсплыло на паўдуба. Дождж даўно сціх. Агледзеўшыся, асцярожна — каб не трапіла за каўнер макрэдзь — вылез з-пад елкі. Сабраў сушняку — ветак хваёвых, яловых шышак, невялічкае цяпельца расклаў, каб сагрэць адубелыя пальцы, здранцвелыя ногі, каб спіну каля агню разамнуць, падсушыць гаспадарку салдацкую.

Ля самага цяпельца мяшок паставіў.

Падкідаў у агонь смалістыя вецці, адмахваўся ад дыму ды іскраў, пазіраў на мяшок. Ён стаяў тугі, перавязаны, раменьчыкам вінтовачным перахвачаны. Ад сваёй вінтоўкі. Дужа зграбны раменьчык. Жалезінкі хіба вот не да ладу, не да справы гаспадарскай прыладжаны. Але ж добры раменьчык. Добрая выйшла б аброць, калі б гэтых раменьчыкаў ды штук з чатыры. Дзе ж ты іх возьмеш…

А мяшок стаяў, прыграваўся. І той бок, што ля цяпельца, сухім рабіўся, бялейшым. Хвацкі мяшочак, з калянай палаткі пашыты. Аж тры палаткі тых у мяшку; то ж рубахі выйдуць, а калі што, дык і фрэнч. Прасушыць хіба?

Развязаў Іван мяшок, распакоўваць стаў. Сухарныя мяшочкі выняў — аж дзесяць штук. Невялікая карысць з тых мяшочкаў, але ж спатрэбяцца, на хусцінкі там, на лапікі. У гаспадарцы дык яно ўсё да ладу. Вось бялізна — гэта ўжо справа важнецкая, вялікі здабытак…

Раскладваў усё, каб прасушыць, на цяпельцы ды на сонцы праветрыць. І калі дабраўся да іх, да сініх галіфэ, аж за галаву

схапіўся, ля цяпельца прыўскочыў: да чаго ж важнецкія былі тыя штаны, днём ды на сонцы.

— Вот, скажуць, ваяка быў, вот, скажуць, выйшаў на камандзіра… У такіх галіфэ ды па вуліцы — дзеўкі пяткі адаб'юць, услед бегшы… А перад хлопцамі іншымі, перад імі, задрыпанымі… Што і казаць… Гэткая, можна сказаць, уцеха…

І асцярожна, каб не запляміць, уздзеў галіфэ на бярозавы пеньчык, сухога галля на яго паклаўшы, каб не ўпэцкаць іх, сініх, кіслым сокам бярозавым, старым, што пабраўся ліпучай цвіллю, грыбком крохкім пянёвым. Няхай прасохнуць…

Густая сінь галіфэ пералівалася пад сонцам светлымі і цёмнымі складкамі ды сыходзіла па краях чырвоным жарам. То зіхацелі пад сонцам канты — як ценькія вецці-вугольчыкі ў цяпельцы. Аж баяўся дакрануцца да іх, да гаручых. Да жаркіх тых кантаў, чырвоных.

І вочы прыплюшчыў — ай да канцікі, ай да чырвоныя! І здалёк відаць тыя канты. І здалёк мітусяцца сінія — галіфончыкі, галіфошы…

Прыплюшчыў вочы Іван.

А калі расплюшчыў — прысеў. Плечы прыгнуў, ссутуліўся.

— Грэешся, землячок? А якога палка баец і куды пуць-дарогу трымаеш?

Адкажы ты пра тую дарогу…

Невясёлая гутарка была пра яе. Запыталі і пра галіфэ.

Пацямнелі яны, пастарэлі няйначай, калі дрыжачай рукой запіхваў іх у мяшок, пра сухарныя мяшочкі аж забыўся.

— Кладзі, кладзі, зямляк, казённае дабро не губляй…

Цяжкі быў мяшок. У колькі раз цяжэйшым зрабіўся. Ад чаго б то, сказаць? Ад дарогі хіба? Гэтакая ж дарога выйшла…

* * *

Быў полк на дняўным прывале, калі прывялі Івана Гнёта. Ніхто не звярнуў на яго асаблівай увагі, былі заняты ўсе ў клопатах, у турботах: гатавалі чай, чысцілі вінтоўкі, аглядалі на сонца дзіравыя чаравікі — а ці доўга яшчэ вытрымаюць. Аглядалі і сумавалі — вышкаляюцца, гады, капылы здаюць чаравікі.

На ўскрайку дарогі, пад разгалістай белай бярозай быў суд. І прысуд быў кароткі. Як сухі трэск шрапнелі:

— Расстрэл…

А галіфэ прысудзілі Аўдзею — баявому разведчыку. Быў ён спец на ўланаў вялікі, а штаны немудрашчыя меў, самыя што ні

ёсць хударлявыя штонікі — адна відзімасць. І матэрыял нішто, плісавыя, відаць, няйначай з спадніцы якой пераліцаваны былі, з бабушкінай спадніцы.

— Буржуйскай старушкі… — падміргвалі байцы. — Дзівіся, зад у цябе ўвесь гафтаваны.

І сапраўды, дзе павінны быць у байца добрыя леі, красаваліся цвяты гафтаваныя — жоўтыя ды зялёныя. Віселі тыя цвяты ашмоццем, было некалі выскубці іх, і хоць з сядла ты не злазь з той прыкрасці, з-за ўцехі старушкінай.

— Буржуйскай старушкі.

Ды і штаны ўсе пашыліся ў лапікі, варухніся ў сядле — і пырхне відзімасць уся і… канфуз…

Аднак куражыўся:

— Мне гэтая с-с-іняя галіфа не з рукі. Б-б-бліскучая… Ураз паляку на мушку — б-б-ах!

Для прыліку куражыўся. І калі падміргнулі адзін другому байцы:

— Ну што ж… Аддамо другому…

Тады не на жарт узлаваў Аўдзей:

— Што ж вы, ірады, у бога вас, у Хрыста. Байца хочаце абясштоніць… Я з баявым таварышам Ермальчуком на Урале хадзіў, я чэхаславакаў па кумпалу біў з камандзірам нашым… Каму ж, як не мне, камандзіраву памяць…

І ехалі далей байцы, любаваліся кантам чырвоным, баявою адзежынай.

Успаміналі таварыша Ермальчука. Слаўны быў камандзір… І смерць прыняў людскую, баявую.

Уздыхалі, неўзаметкі каб. Не гожа байцу аддавацца звадыяцкаму суму. Смялей глядзі. Каб вочы агнём гарэлі. Ды песні шырокія, заліўныя. Растае ад тых песень сум, як пад сонцам раса высыхае.

— Гэй, зацягвай!..

Конскія капыты паблісквалі срэбрам — то ляцела насустрач бязмежная і бясконцая дарога.

Баявая дарога.

*1933*

# АБ ЧАЛАВЕЧЫМ СЭРЦЫ

Ноччу забілі паручніка, вядомага графа Бжызецкага.

Цела яго дазволілі пахаваць у фамільным склепе ўласнага маёнтка графа. Суровая і маўклівая хадзіла па старых пакоях графіня. З ёй баяліся сустрэцца зрокамі, абыходзілі яе, не перашкаджалі ёй выказваць сваё гора, свае пачуцці. Тут была своеасаблівая павага да гаспадыні дома, да жанчыны, страціўшай блізкага чалавека. Графіня старалася быць стрыманай, вонкава спакойнай, яна знаходзілася ў тым стане душэўнай раўнавагі, дзе сказваліся векавыя традыцыі і навыкі вонкавых паводзін чалавека старой, аджываючай культуры. Прыслухоўваючыся да грознай кананады над Віслай, яна магла гадзінамі гаварыць аб самых звычайных дробязях — аб судаку па-польску на заўтрашні дзень, аб перасоленым супе, аб добрым надвор'і, аб некаторых слабасцях цяперашняга папы і вялікім умельстве мясцовага арганіста. Яна асцярожна спрабавала гаварыць і аб вайне, падкрэслівала своеасаблівую аб'ектыўнасць да гэтых падзей.

— Ну што ж, вайна — заўсёды вайна. Вайна — нязбежная кара на людзей, на народ, вайна — няшчасце, але і ў няшчасці ёсць доля карысці — вайна вучыць народ, праз вайну разумнеюць людзі, праз вайну ідзе вялікае яднанне чалавечых душ, чалавечага сэрца. Вось пра польскі народ… Хто разумее яго?.. Хто ведае аб вялікім яднанні яго сыноў, ад славутых людзей да апошняга хлопа?.. Адны думкі ў іх, адна воля, адно сэрца…

Камісар палка, спяшаючыся, аплятаў судака, рассеяна слухаў і думаў аб нечым сваім, вельмі далёкім ад графіні, ад маёнтка, ад яднання душ. Каб захаваць адзнакі звычайнай пачцівасці, ён кідаў рэплікі:

— Так, так, гаспадыня…

Часам яны былі неўпапад, і тады, схамянуўшыся, камісар рэзка абрываў графіню…

— Які ж дурань так можа гаварыць?

— Гэта я гавару… — мякка, але настойліва падкрэслівала графіня.

Камісар чырванеў, разгублена кідаў:

— Ах, выбачайце… Але ж гэта няправільна, вы зусім не ведаеце свайго народа… Дарэчы, у мяне тэрміновыя справы, павінен пайсці…

— А салодкае, пане начальнік?

— Няма часу, выбачайце.

Камісар кідаў полудзень, ішоў у штаб і там адводзіў душу:

— Вось кара на маю галаву! Хутка перастану абедаць, да чаго ўсё гэта апрыкрала. І чорт падштурхнуў стаць тут са штабам… Салодкае, салодкае… Яна ўтапіла б цябе ў гэтым салодкім… Ходзіць, тапырыцца, як мяшок з іголкамі, а яшчэ пнецца — салодкае… салодкае… Да ты мне проста скажы, у вочы скажы: «Ненавіджу вас, чырвоныя д’яблы… вялікаю чалавечай нянавісцю ненавіджу…» І я б сказаў: «Так, графіня, вораг ты наш да апошняга твайго ўздыху…» Чаго ж тут фіглі-міглі круціць — салодкае, салодкае…

…І вось ізноў яна стаяла перад камісарскім сталом. Камісар ёрзаў на крэсле, нервова перабіраў розныя паперы на стале, злосна адкідаў некаторыя, пакутная міна не сыходзіла з яго твару. Ён з тайнай надзеяй пазіраў на дзверы.

«Хоць бы ардынарац які, хоць бы якая жывая душа чалавечая вызваліла б ад гэтай напасці… Хоць бы па тэлефоне хто паклікаў…» — безнадзейна думаў камісар і адчуваў, як разбольваецца, ные зуб. То ж заўсёды, калі якая-небудзь непрыемнасць. І ліха яго ведае, чаму не можа вось ён пераносіць прысутнасці гэтага чалавека, гэтай жанчыны. Ён, слесар бранскіх заводаў, які не баяўся ні Бога, ні чарцей, ні паноў, ні панскае кулі, сядзіць вось збянтэжаны. Перад кім? Канечне, каб не быў камісарам, мо пагаварыў бы трохі інакш. Але ж начальнік, трэба ўсё ж фасон трымаць — і мы, маўляў, не лыкам шытыя, і мы можам разгаворы разгаварваць і на ўсякія словы адказ трымаць, і не толькі адказ, але і за вялікія справы адказнасць мець і вас запытаць… Так…

— Дык слухаю вас… — і рукой левай махнуў, не то запрашаючы сесці, не то проста так, ад усёй гэтай безнадзейнай бузы.

— Так… слухаю…

Яна паглядзела на крэсла, перавяла позірк на запыленае распяцце на сцяне: «Ах, Божа ж мой, ізноў гэтая бязуля Тэрэза не працерла ног Хрысту, уся ў павуцінні галава пана Бога». І, нібы ў тон мімабеглым думкам, выціснуліся скупыя словы:

— Ах, Божа, Божа…

— Та-ак… я слухаю вас… Я слухаю вас, гаспадыня…

— Ах, вы слухаеце… Як гэта добра… Вы… усё ж культурны чалавек.

— …Чаму «ўсё ж»… і ці не можна часам без прадмоў… і без кампліментаў… — хацелася пярэчыць камісару, але, да болю заціснуўшы зуб, ён прамаўчаў, і толькі ножкі крэсла пад ім скрыпнулі нецярпліва, камісар ямчэй павярнуўся да акна.

— Так, вы ветлівы чалавек, і, як відаць, вы паважаеце закон і, я хацела б сказаць, вялікую чалавечую справядлівасць, якой

кіруецца свет, з якой людзі жывуць і з якой адыходзяць людзі да міласэрнага пана Бога…

«…Бог то тут ні пры чым… а справядлівасць — гэта яшчэ як паглядзець, з якога боку да яе падыходзіць…» — падумалася камісару.

— …І вось свенты пан Езус наканаваў мне вялікі і цяжкі іспыт. Вы, напэўна, ведалі майго мужа?

— Чуў, чуў…

— Учора вы ўзялі яго ў палон… Я не буду спрачацца з вамі… І мне няма чым папракаць вас… У вайны свае законы, старыя, адвечныя законы… Учора вы ўзялі яго, а пазаўчора, выбачайце мяне, пане начальнік, вы б, скажам, маглі патрапіць у палон да яго…

— Гм… гэта як сказаць…

— Гэта я да слова… Вайна — яна ёсць вайна… Але зачым жа, Божа мой, такая бязлітасная расправа, такая нахабная смерць… Не смерць у бойцы, не смерць са зброяй у руках, а такое непатрэбнае і гідкае забойства… Забойства абяззброенага, бездапаможнага чалавека… Вы падумайце, пане начальнік, чалавека…

— Так… так… — кідаў безуважліва камісар.

— Мне сказалі, што яго забілі ноччу… Забілі, як апошняга злачынца, як, даруйце мне, няшчаснага бандыта. Дзе ж, пытаю вас, звычайная чалавечая справядлівасць, дзе боскія і чалавечыя законы? Вы ж, пан начальнік… Я прашу вас быць справядлівым… Я прашу вас сурова пакараць злачынцаў… Я прымушана буду скардзіцца вашаму вышэйшаму начальству, калі вы не задаволіце мае просьбы… Вы ж самі разумееце, што гэта забойства не робіць гонару, выбачайце, арміі…

— Так, гэта забойства… Забойства, нічым не абгрунтаванае…

— О, як я рада, я вас прашу… Я малю вас аб суровай кары…

— Так… Мы сурова пакараем злачынцаў… Я разбяруся, хто правы і вінаваты… У нашай арміі няма забойцаў, вы гэта павінны памятаць, гаспадыня. А злачынца, калі ён ёсць, мы пакараем… Мы дамо самую жорсткую кару, ад якой здрыганецца зямля… Мы таксама за справядлівасць, за самую вышэйшую, за самую святую, калі гаварыць вашым словам… Я кончыў, гаспадыня. Бывайце…

Яна ўстала, маўклівым уклонам аддзякавала камісару, старанна змахнула насоўкай пыл і павуцінне з прасветлага Пана Бога і пайшла, несучы з сабою ўрачысты шэлест шоўку і няўлоўныя пахі парфумы.

У дзвярах прыпынілася на хвіліну, спытала:

— Вы, можа, пане начальнік, пакаштуеце нашых слівак? Найлепшыя сліўкі, зараз Тэрэза прынясе з ледніка…

— Не, не… барані божа! Зуб, зуб, гаспадыня!

Пайшла.

Тады камісар падняўся рэзка з крэсла, выпрастаўся, разняў зацёкшыя ногі і, высунуўшыся ў акно, глыбока ўдыхнуў свежае паветра, набрыняўшае ўсімі пахамі спелага лета. Уздыхнуў і чыхнуў на ўсю моц сваіх лёгкіх, напалохаўшы статак вераб'ёў, дружна ўзляцеўшых з кустоў парэчак.

— На здароўе, таварыш камісар!

— А каго тут ліха носіць? А-а… слаўныя ардынарцы… Вас заўсёды няма, калі трэба, ходзіце неўпапад…

— А мы, таварыш камісар, учарашняга чырвонаармейца хавалі!

— А-а… Ну, ладна… Пакліч-ка да мяне камендата, ды жыва, на адной назе каб…

— Слухаюся, таварыш камісар…

* * *

Прыхіліўшыся да дзвярэй, стаяў на варце чырвонаармеец і абыякава пазіраў і на злачынца, стаяўшага недалёка перад ім, і на муху, якая ўселася на штык і вот ходзіць сабе, поўзае, поскудзь…

— Ану, халера… — І ён так злосна падзьмуў на муху, што аж закалыхаліся фіранкі на акне. І тады нібы палягчэла вінтоўка, спрытней прыліпла да далоні рукі. І здзіўлена запытаў камісар:

— Ты чаго?

— А нічога, таварыш камісар…

Чырвонаармеец быў яўна не ў настроі. Стаяў такі прыгожы і светлы дзень. У празрыстым кавалачку неба, што заглядаў у акно, беглі светлыя белыя воблачкі, кружыліся белагрудыя ластаўкі, і ішоў ад акна хмялявы пчаліны гуд — густы такі, цёплы, бадзёры. Ды дзесьці блізка ўрачыста бухалі цяжкія гарматы, і тады вясёлым хрустальным звонам адгукаліся аконныя шыбы і аднекуль здалёк прылятаі прыглушаныя адгалоскі: гу-г-гу-гу-у-у… Чырвонаармеец бачыў, як насцярожваўся твар камісара, як на хвіліну спыняліся яго задуменныя вочы і спыняліся на нечым нябачным і нерухомым. І чырвонаармеец ведаў, аб чым думае цяпер камісар, бо і сам лічыў пра сябе:

— Раз, два, тры… дзесяць… Ну і смаляць, вот дзе сягоння прыпарка… А ты швэндайся тут з гэтымі арыштаванымі…

І чырвонаармеец робіцца пахмурным. Але гутарка, якая адбываецца паміж камісарам і арыштаваным, пачынае цікавіць

яго. Бач ты, справы якія! І ён прыслухоўваецца да скупых слоў, якімі абменьваюцца людзі перад ім.

Вось ён сядзіць, гэты забойца. Чырвонаармейцу не відаць яго твару, але па таму, як б'ецца сіняя жылка на скронях гэтага чалавека, як дрыжаць пальцы, пакладзеныя на калена, відаць, што чалавек моцна хвалюецца, усё намагаецца аб нечым давесці, аб дужа важным для яго, дужа патрэбным.

— Дык як жа так? — дапытвае сурова камісар, не спускаючы воч з чалавека, з яго ссутуленай постаці, з светлага пуху валос, пакрыўшага няголены твар. — Хто вам дазволіў? Як гэта вы зрабілі?

— А так, начальнік… — скупа адказвае чалавек і, раптам ажывіўшыся, падсоўваецца бліжэй да стала і пачынае гаварыць хутка-хутка, стараючыся як мага хутчэй выгаварыць усё, давесці аб самым важным, аб самым галоўным.

Чырвонаармеец слухае гэты голас, пачынае спачуваць яму, і калючая непрыязь да гэтага чалавека пачынае нікнуць, раставаць. Ён пачынае цікавіцца лёсам гэтага чалавека, жыць яго перажываннямі, яго пачуццямі.

— Я ўсё, усё раскажу, начальнік… Я хачу вам многае расказаць… І аб тым, як учора вы жорстка пакрыўдзілі… так… Пакрыўдзілі мяне… Вы не зразумелі мяне ўчора, вы падумалі Бог ведае што… Але ж, бачыце, я зусім не той чалавек, не такі чалавек, якім вы мяне ўяўлялі…

Чалавек таропка гаворыць і дрыготкімі пальцамі рукі папраўляе з'ехаўшую абмотку.

І чырвонаармеец, прыглядаючыся да гэтых пальцаў, да ўпартай абмоткі, якая не паддаецца пальцам, прыглядаючыся да чужога, варожага мундзіра, успамінае ўчарашні дзень. Дзень як дзень, якіх багата на фронце. Але адным здарэннем ён усхваляваў надоўга чырвонаармейцаў і шмат каго з жыхароў польскіх вёсак. І ён успамінае да апошняй драбніцы ўчарашнія падзеі.

* * *

Некалькі дзён полк стаяў на адпачынку ў рэзерве. Раніцой камісар узяў некалькі чалавек з коннай разведкі і паехаў у суседні гарадок, дзе стаяў штаб брыгады. Паехаў з людзьмі, бо вядома было, што па тылах лютуе адстаўшы ў лесе ці знарок астаўшыйся эскадрон польскіх уланаў. Была надзвычайная пагода, адна з тых ласкавых раніц, якімі дорыць нас канец жніўня, калі лета, стомленае сваім пышным цветам, багатымі ўборамі, пачынае

ціха-ціха сумаваць, мо аб блізкай восені, мо аб першым, праўда, яшчэ рэдкім і непрыкметным, лісту, завялым, пабляклым. Тады бываюць гэтыя раніцы, спакойныя, задумныя, з празрыстым халадком, з яснымі, прыгожымі далямі, з урачыстай цішынёй, якую парушаць хіба толькі праляцеўшы бусел ці неўгамонны верабей на дарозе.

І вось там, дзе кучаравіўся за маёнткам малады бярэзнік, знайшлі яго. Ён ляжаў каля дарогі, шырока раскінуўшы ногі і падкурчыўшы пад сябе руку. Другая была на спіне, неяк недарэчна выгнутая, з задужа белымі ашклянелымі пальцамі. Ляжаў ён ніцма, уткнуўшыся тварам у жмук саломы. Шынель на плячы быў рассечаны, і адтуль выпіраў абрубак косці, чарнеўшы мухамі і запёклай крывёй. Ніхто не здзівіўся знаходцы, ці мала сустракаліся штодня з забітымі. І камісар загадаў паглядзець чалавека, паглядзець дакументы, з якога палка баец, каб сказаць, перадаць аб гэтым. Некалькі чалавек саскочылі з коней, узяліся за чалавека, перавярнулі яго.

— Эх ты, небарака, надумаўся на адзіноце смерць прымаць, не па-таварыску гэта, чалавеча… — пажартаваў адзін з хлопцаў. Але ніхто не адказаў на жарт, усе маўчалі. І здавалася, што гэта маўчанне нарастала, набракала нейкай пагрознай цішынёй, якая бывае перад вялікімі навальніцамі, вырастала ў грозную сілу, перад якой расступаецца, нікне ўсё звычайнае, шэрае, непрыкметнае.

А чалавек ляжаў цяпер, уперыўшы прыжмураныя вочы ў трапяткую сіняву неба. Быў ён нерухомы, маўклівы. Адна нага была перасечана ў калене і так і ляжала надломаная. Рубец запёкшайся крыві прайшоўся па валасах ад ілба і да самага вуха. Хлопцы паправілі далонь рукі, яна вісела, бездапаможная і непатрэбная цяпер, на брудным шматку скуры. Тапырыўся рассечаны ад самага пляча шынель. Хлопцы рассунулі полы шыняля, каб дастаць з гімнасцёркі дакументы, і ціха падаліся назад. Зіяючая рана была на грудзях, яна ішла ад самага пляча, і праз чорныя, запёклыя берагі раны відаць было яно, звычайнае чалавечае сэрца. Чалавек быў нерухомы, а яно білася ціха, павольна. Хлопцы адвялі вочы і, прыкрыўшы шынялём рану, адышліся ўбок. Моўчкі злез з каня камісар, ціха агледзеў чалавека. І тады парвалася цішыня. Камісар вылаяўся. Ён памянуў і Бога, і барабан, і шмат чаго горшага за барабан… Было тут і пра сусветную сволач, і пра польскую гідру, і пра гада, а не чалавека… якога трэба да ногця… І самы старэйшы разведчык, стары франтавік Апанас, які быў гонарам палка і героем, раптам

збялеў увесь і закрычаў непрытомным голасам, асядаючы на прыдарожную траву:

— Даць яго, ірада, мне… Я скуру спушчу з яго, хто не ўмеў дарубіць чалавека…

Голас пракаціўся глухімі падгалоскамі па лесе і знік, праглынуты кучаравай зелянінай бяроз. Апанас сядзеў на траве і неяк хістаўся з боку на бок, падпёршы далоняй шчаку, па якой скочвалася нязвыклая для разведчыка сляза.

— Гэта ж ардынарац з брыгады, я яго памятаю… — глуха вымавіў ён, урэшце супакоіўшыся і канфузліва абціраючы шчаку.

— Ну, ну, раскіс ты, стары… Справа, бачыш, не ў тым, што нехта не ўмеў, а не хацеў, — вось у чым яна, справа… — коратка кінуў камісар і загадаў пашукаць вады — трэба ж прамачыць чалавеку засмаглыя вусны.

— А цяпер бярыце асцярожна ў шынель ды айда назад, не пакідаць жа тут паміраць аднаго…

І калі бралі на разгорнуты шынель, чалавек упершыню застагнаў і паварушыў галавою. Спыніліся, улілі некалькі кропель вады ў засмяглыя вусны раненага, і той прыадкрыў вочы і глядзеў нерухома — на людзей, на кучаравую зелень бяроз, на лёгкія белыя хмурынкі, што беглі ў празрыстым блакіце, засцілі на якую хвіліну чыстае, яснае сонца. Тады па твары праходзілі таропкія цені, і ён рабіўся бледным, выцягнутым, з узлахмачаным надломам брывей, з завостраным носам. І чалавек сказаў тады сваё першае слова:

— Холадна…

І замоўк.

І хаця ярка свяціла сонца, і цёпла гулі пчолы, і зялёнаю цеплынёю веяла ад бяроз, і весела іскрыўся залацісты пыл пад капытамі нецярплівых коней — усе адчулі гэты халадок і мімаволі сцялі плечы. Стары разведчык ненатуральна суровым голасам, у якім прабіваліся, аднак, іскаркі цеплыні і жалю, глуха запытаў раненага:

— Хто ж гэта цябе так?

І ўсе маўчалі, чакаючы адказу.

Ранены з натугай адкрыў рот і ціха-ціха — чуваць было, як шалясцяць пад лёгкім ветрыкам лісты бярозы, — прамовіў:

— Уланы…

Усе расправілі плечы, селі на коней і павезлі раненага назад да штаба. Усю дарогу маўчалі, хаваючы позіркі воч у насупленыя бровы, думаючы аб нечым цяжкім, прыгнятаючым. Аб гэтых думках гаварылі словы аднаго з разведчыкаў, які кінуў, ні да каго не зварочваючыся:

— У-у… гады!.. звяры!..

Ля самага паваротку ў маёнтак сустрэліся лоб у лоб з вялікай групай людзей. Вялі пад канвоем палонных, відаць толькі што ўзятых. У самым канцы калоны ішоў афіцэр. Ён цяжка соп, не прывыкшы хадзіць пехатою, крыху пакульгваў на адну нагу. Цьмяна паблісквала сонца на пазументах пагон і лампасаў. Пазументы былі ў пыле, прапыленыя былі боты, і на адным з іх ціха дзвенькала шпора. Другая была адарвана і, матляючыся на адным раменьчыку, чырыла па дарозе, уздымаючы ружовыя клубкі пылу.

І гэтая шпора неяк змяніла настрой разведчыкаў. Усміхнуліся, павесялелі:

— Шпору прывяжы, кавалерыя! Іш ты, пузан, запацеў на шпацыру!

І нехта, угледзеўшыся, крыкнуў:

— Братва! Гэта ж уланы…

Як ветрам змяло разведчыкаў з коней, і не паспеў схамянуцца камісар, як пабеглі разведчыкі, як завіхрыліся галасы і слупы пылу ўзняліся ля калоны палонных.

— Бі іх, крышы на капусту!..

— За здзек! За надругу над жывой душой. У расход ірадаў бога не нашага…

І нехта стараўся перакрычаць.

— Пастой, пастой! Паказаць ім работу іхнюю, супастатам… Няхай нацешацца, наглядзяцца…

Ад нечаканасці замяшаліся канваіры.

А ранены ляжаў ужо на зямлі. Наўкруга стаялі палонныя, цяжка дыхалі, палахліва азіраючыся па баках, і ўцягвалі галовы ў дрыготкія плечы, адчуваючы халадок на спінах.

— Шапкі далоў, гады!.. Іш ты, залачоныя…

І нехта цягнуў афіцэра, падштурхоўваў яго бліжэй да сярэдзіны, да раненага. Паручнік мякка, бязвольна падаваўся наперад, быў бледны, насмерць напалоханы. Неспакойна бегалі яго шчэлкі-вочы, шукаючы спагады. І гэтай спагады не было. Вочы настромліваліся на калючыя позіркі, і ў гэтых позірках ён бачыў, адчуваў наканаваны свой лёс, свой апошні дзень. Збялелыя вусны шапталі:

— О Свенты Пан Бог, о Свентая Матка…

— Свентая… растуды тваю ў бога… Ён, сабака, памінае яшчэ Бога… Ён… ён… — І раптам, збялеўшы, адскочыўшы на крок назад, хапіўся за шаблю стары Апанас-разведчык. Яна ўзвілася з шыпучым свістам угару, і не паспелі людзі ўгледзець яе со-

нечны блік, як выпала яна з рук, з ціхім звонам упала на пясок, выбітая рукаяткай нагана падбегшым камісарам. Стала ціха. І тады пачуліся прыглушаныя, амаль не шэптам, словы камісара:

— Звар'яцеў! Палонных біць, стары дурань?..

Апанас стаяў разгублены, абмякчэлы. Урэшце вымавіў:

— Вінават, таварыш камісар… Калі ж такія справы…

— Справы? Ты ў баю крышы іх… А вы?.. — звярнуўся камісар да канваіраў. — Службы не ведаеце хіба?

Канваіры стаялі, патупіўшы вочы ў зямлю.

Бледныя, напалоханыя твары палонных пачалі набірацца чырванню, цеплынёй. Нехта першым загаварыў з іх, горача, усхвалявана:

— Пане начальнік… Пане таварыш…

— Што?

І раптам загаварылі ўсе разам, загулі, зашумелі:

— Пане начальнік, зачым крыўдзіце вашага салдата? Ён харошы чалавек, ён правільна хацеў зрабіць…

І, тычучы рукамі, паказваючы на збянтэжанага паручніка, ужо крычалі некаторыя, стараючыся перакрычаць адзін другога:

— Ён вялікі звер… Ён гад… Забіць яго — мала…

І ўжо мітусіліся кулакі, у вялікім запале крычалі палонныя, злавесна гарэлі вочы, і нехта памкнуўся з іх, няведама для чаго, выхапіць штык у канваіра.

— Ну, ну! — грозна крыкнуў тут камісар, і ўсе сцішыліся.

— А цяпер, канваіры, забярыце людзей і вядзіце нанач у камендацкую… А вы — па конях!..

Праз колькі хвілін прыехалі ў маёнтак. Раненага чырвонаармейца не давялося давезці жывым, памёр па дарозе. Сумавалі хлопцы, не ведалі нават адраса нябожчыка, каб паслаць скупы ліст яго сям'і.

* * *

А чалавек у варожым мундзіры расказваў.

Уважліва слухаў яго камісар.

— Я ўчора выхапіў быў вінтоўку… Вы маглі падумаць, вы падумалі Бог ведае што… Я тады ўжо наважыўся… Умяшаліся вы, перашкодзілі… Ён жорстка здзекаваўся над людзьмі, будучы памешчыкам… Як ведаеце, ён тутэйшы памешчык, гэта ж яго маёнтак… Ён страшна ненавідзеў нас, простых людзей, хлопаў… Аб гэтым вы можаце запытаць тутэйшых людзей, яго парабкаў. Вось сёння ніхто з іх не быў на пахаванні свайго

гаспадара, так ненавідзелі яго… Я таксама з гэтых жа яго парабкаў… Дык вот… І зусім лютым, бесчалавечным быў ён на вайне. Смерць чырвонаармейца — работа нашага эскадрона. Ці, хутчэй, работа паручніка. Ён рубіў так, каб чалавек яшчэ колькі часу потым пакутаваў… Дык вот… Мы доўга спрачаліся ўчора. Ноччу. Ён пагражаў нам лютай расправай за нашы ўчарашнія паводзіны, ён гнусна лаяў нас, нібыта мы прадаліся бальшавікам, прадалі веру і айчыну, здрадзілі вялікай Польшчы… Так, бальшавікам. Я трохі ведаю бальшавікоў… Польскіх… Ведаў і расійскіх… Калісьці быў бежанцам, быў у Расіі, у васямнаццатым годзе вярнуўся ў Польшчу… Так… Мы не сцярпелі… Я першы. Мы разлічыліся… За ўсё — за дзікае забойства, за здзек, за радзіму… Я забіў… Вось і ўсё…

Чалавек уздыхнуў, уздыхнуў і камісар. І голасам, у якім не было ўжо строгага абвінавачвання, а быў папрок, камісар запытаў:

— І вы лічыце, што правільна зрабілі, забіўшы паручніка, свайго афіцэра, разам з вамі трапіўшага ў бяду, у палон?

— Мне цяжка што-небудзь сказаць вам. Адно, што магу сказаць: ад зробленага не ўцячэш, яно — факт…

— І вы не падумалі аб тым, што вам прыйдзецца ўсё ж панесці суровую адказнасць… Адказнасць перад намі, перад нашым судом? Якое ж вы, уласна кажучы, мелі права… на… на забойства?..

Дапытваемы маўчаў.

Быў задуменны і разгублены твар у яго. Чалавек нібы збіраўся з думкамі, лавіў іх, даводзіў да парадку. І ўрэшце загаварыў:

— Права? Я ўжо казаў вам аб многіх прычынах… Я не сказаў вам яшчэ аб адным, мо аб самым галоўным… Мне было загадана паручнікам дагнаць учарашняга чырвонаармейца, калі мы спаткаліся з ім у лесе. Мне было загадана затрымаць яго жывым. І я выканаў заданне… Некалькі крокаў аддзяляла нас адзін ад другога. Чалавек быў узброены, чалавек не здаваўся, ён адстрэльваўся на кані… Мне было зручней, я даганяў яго. І я ўжо выхапіў шаблю, каб, прышпорыўшы каня, скончыць урэшце гэту вар'яцкую пагоню… Мяне спыніў паручнік. Ён абагнаў мяне і падстрэліў каня ў чырвонаармейца. Чалавек упаў на зямлю. Хвіліны з дзве быў ля яго паручнік. Мы не былі там, паручнік не любіў, каб мы перашкаджалі яму «па-прыяцельску гутарыць», як казаў ён. Мы не бачылі ў твар таго чалавека. Праз якую гадзіну-дзве мы трапілі ўсе ў палон. І вось, калі вашы разведчыкі прывялі нас да знявечанага чырвонаармейца, я пазнаў

яго… У апошні раз мы бачыліся і развіталіся ў васямнаццатым годзе, калі я выехаў з Расіі. Чырвонаармеец, якога вы сёння пахавалі…

Расказчык раптам змоўк, дрыготкія пальцы схапіліся за гузікі мундзіра, адшпільвалі іх і зноў зашпільвалі. Ён памыкаўся нешта сказаць і не мог, і па тым, як захадзілі цені на твары, як звузіліся вочы, самкнуліся некалькі раз — хутка-хутка, відаць было, што чалавек хвалюецца. Але ён сабраўся з сіламі, выпрастаўся на крэсле і загаварыў, стараючыся надаць свайму голасу спакойную ўпэўненасць, цвёрдасць. Гэта не зусім яму ўдавалася, голас ламаўся, ападаў, словы былі няроўнымі, шурпатымі, яны неяк не пасавалі свайму зместу і сэнсу. Яны былі прыглушаныя, неўвароткія.

— Так… Дык вот… Я ўсё гаварыў і гаварыў… Вы паслухайце… Пане начальнік… таварыш… Гэта… Гэта… быў мой брат…

Камісар ціха кіўнуў галавой, нібы пацвярджаючы гэтыя словы.

І раптам страпянуўся камісар. Ён не здзівіўся апошнім словам. Не ў кроўным сваяцтве ён бачыў спружыны ўсёй гэтай, як называў ён, бузы, усёй гэтай гісторыі са смерцю паручніка. Было нейкае другое сваяцтва, якое заўважыў ён у гаручым бляску воч некаторых з уланаў, якія абзывалі апошнім гадам пана паручніка, якія гатовы былі прыкончыць яго ў прысутнасці камісара. І гэта сваяцтва было куды вышэй звычайнага, кроўнага.

— Ідзіце… Ладна… разбяромся як-небудзь…

Чырвонаармеец-канваір весела стукнуў вінтоўкай.

— Ану, пойдзем… Ды ты, чалавеча, плеч не гні, ступай весялей… Яно, браце, усё прыйдзе ў меру…

І пра якую меру думаў чырвонаармеец — ён і сам не сказаў бы выразна аб гэтым. Але ён моцна адчуваў нейкую вялікую сувязь з гэтым ссутуленым чалавекам у варожым мундзіры. І таму гаварыў весела і не баяўся гаварыць з арыштаваным у прысутнасці камісара, начальніка.

Адчуванне той жа нябачнай сувязі было і ў камісара і напоўніла яго ціхай радасцю, спакоем і раўнавагай.

З гэтай раўнавагі не вывела і гаспадыня, якая прыйшла даведацца аб выніку сваёй просьбы. Ён успомніў яе словы аб яднанні душ, аб народным сэрцы. Ён знарок сурова і проста сказаў ёй, што муж яе, паручнік польскай арміі, забіты польскім салдатам. І зусім не здзівіўся яе жахам, яе сумненням.

— Я не магу гэтаму верыць, пан начальнік… Вы жартуеце… То не можа быць… Вы… вы проста выгароджваеце сваіх салдатаў, вы хочаце зрабіць іх невінаватымі…

І гэта не вывела з раўнавагі камісара і не здзівіла яго.

І ён расказаў яшчэ гаспадыні аб смерці чырвонаармейца, аб нечуваных, лютых здзеках над ім, аб чалавеку, учыніўшым гэтыя здзекі… Аб чалавеку, вартым самай чорнай, сабачай смерці…

Тады яна ўзнялася з крэсла і стаяла ганарыстая, гнеўная, з грэбліва прыжмуранымі вачамі.

— Гм… Я… дзіўлюся, пан начальнік, хто даў вам гэтую высокую годнасць… Дзе ж ваша хвалёная справядлівасць, на якую я так спадзявалася… Быць такім вялікім начальнікам… і не разумець простай рэчы — не разумець розніцы паміж лёсам афіцэра арміі і… звычайнага салдата… Вайна ёсць вайна, і што значыць тут жыццё якога-небудзь, выбачайце мяне… цёмнага хлопа…

Нібы цяжкі снарад узарваўся ў пакоі.

Як падхоплены выбухам, падскочыў камісар з крэсла і, адхіліўшы яго ўбок, стаяў перад ёй, сударгава сціскаючы кабуру з рэвальверам.

— Вы!.. Вы!.. — задыхаўся ён, глытаючы словы. — Вон!.. Зараз жа вон, пакуль не позна!..

Як ветрам выдула яе з пакоя. Не паспела нават дзверы прычыніць. Камісар аблягчона ўздыхнуў і, аддыхаўшыся, пачаў хадзіць шырокім размераным крокам, які гулка аддаваўся ў пустых пакоях. У суседнім пакоі прыціхлі ардынарцы і весела падміргвалі адзін другому:

— Ну і разышоўся ж цяпер камісар! Не на жарты!..

— У бога… і ў барабан… Яны ведалі свайго камісара.

А ён хадзіў па пакоі і ўсё думаў. Думаў аб вайне, аб старым, аджываючым веку, аб суровай барацьбе людзей і аб звычайным чалавечым сэрцы.

*1935*

## СУСТРЭЧЫ

Калі апускаецца над ракою глухая палеская ноч, тады памалу заціхае горад Пінск, маўклівымі робяцца вуліцы і завулкі, і рэдкія крокі прахожых рэхам аддаюцца ў каменных сценах. Людзі ідуць на станцыю.

У залах для чакання поўна народу. Сярод яго вы заўважыце купкі людзей, непадобных на іншых. Яны не паходзяць на мітуслівых пасажыраў з іх вечнымі білетнымі клопатамі. Яны

не паходзяць на бежанцаў, якія безудзельна сядзяць на сваіх убогіх лахманах, спакойна чакаюць заўтрашняга дня. Гэтыя купкі людзей стаяць абасоблена. Яны стаяць маўкліва або вядуць між сабою ціхія гутаркі, упаўголаса. Сярод іх вы кожнага дня сустрэнеце скромна апранутую старую. На ёй цёплая хустка, зліnялае, але чысценькае і акуратнае паліто, парыжэлыя чаравікі. Прыхінуўшыся бокам да сцяны і абапіраючыся рукой на стары парасон, яна стаіць і, здаецца, не бачыць ні гэтае вакзальнае мітусні, не чуе людскога гоману. Ні адна жылка, здаецца, не страпянецца на яе сухім, маршчакаватым твары, не заўважыце бляску ў выцвілых і запалых вачах. Па-старэчаму жмурачыся, яна прыглядаецца да вялікага станцыйнага гадзінніка, і калі хвілінамі стрэлка, сутаргава страпянуўшыся, пераскочыць далей, тады спалохана здрыгануцца і разыдуцца, нібы ў здзіўленні, сівыя нахмураныя бровы, зашавеляцца тонкія сцятыя вусны, і калі вы стаіце паблізу, вы ўчуеце пару-другую скупых слоў:

— Хутка ўжо.

З ёй вітаюцца, як са старой знаёмай. Ёй прапануюць свабоднае месца на лаве альбо на крэсле. Яна скупа ківае ў адказ галавой, бязгучна гаворыць:

— То дзякую… Я пастаю, вы ж маладзейшыя.

І ёй не замінаюць, не дакучаюць лішнімі чалавечымі словамі, чалавечымі роспытамі.

Апоўначы прыходзіць цягнік з далёкага захаду, аж з самага Брэста. За колькі хвілін да прыходу цягніка старая, а разам з ёй і тыя людзі, што бываюць тут штоночы, выходзяць на перон. Яны становяцца ля самых дзвярэй і ўзіраюцца ў далёкую цемрадзь, туды, дзе цьмяна паблісквае зялёнае вока семафора. Хутка там, у цемравай далечыні, узнікае ледзь відная зарыва, потым вылятаюць аднекуль тры светлыя кропкі; яны вылятаюць адразу і растуць разам з грукатам, з гулам. І чым бліжэй і мацней гэты грукат, тым мацней прыціскае да сэрца руку старая, і нешта падобнае не то на ўсмешку, не то на бледны румянец з'яўляецца на яе сухім твары. А сэрца сціскаецца так балюча пад рукой, нібы хоча яно выскачыць з гэтым няўмольным гудком паравоза. А цягнік ужо стаіць, ахутаны парай, заклапочаныя людзі ідуць і ідуць да дзвярэй, спяшаюцца да станцыі, да роднага горада, да родных хат. Пільна ўглядаюцца ў іх тыя, што стаяць ля ўвахода, часам запытваюць усхвалявана імя чалавека, яго прозвішча і адыходзяць расчаравана — колькі бывае людзей, падобных адзін на другога. Старая ўзіраецца ў прыехаўшых людзей, узіраецца да болю ўваччу. І калі, холадна грымнуўшы буферамі, адыходзіць

цягнік і глухая палеская ноч бярэ ў абыймы свае вакзал, старая ідзе дамоў. Яна ідзе вобмацкам, асцярожна, амаль нічога не бачачы. Гэтулькі людзей перабачыла яна сёння і здзіўляецца, што не памятае ніводнага твару, — адзін туман стаіць перад вачамі, і ў ім мітусяцца няясныя постаці людзей. Яе звычайна праводзяць дахаты. Праводзяць тыя, што разам з ёй ходзяць апоўначы на вакзал сустракаць далёкія брэсцкія цягнікі.

* * *

Захар Крымянец прачнуўся ў той дзень, як звычайна, а пятай гадзіне раніцы. Як звычайна, ён аправіў свой тапчан, крыху паправіў падушку, якая даўно ўжо распаўзлася і з якой церушылася старая, спарахнелая салома, што парабілася на мякіну. Ён асцярожна змёў у адну кучку саламяную пацяруху на пачарнелых дошках ложка, акуратна сабраў яе разам з рэдкімі ўцалелымі саломінкамі і засунуў назад у адну з шматлікіх прарэх падушкі.

Не раскідацца ж казённым дабром! Ізноў жа спаць на чымнебудзь ды трэба ж.

Прарабіўшы гэтую заўсёдную сваю ранішнюю аперацыю, Захар Крымянец запеў упаўголаса песню. Цяжка было разабраць словы гэтай песні, якую пеў Захар па сваёй шматгадовай прывычцы. Ён пеў яе для таго, каб падаць ім голас, ім, што за дзвярамі, што вартуюць яго. Сказаць ім, што жывы ён, Захар Крымянец, што ён, Захар Крымянец, не думае, не сабіраецца паміраць, што на іхнюю злосць ён будзе жыць і жыць. Іржа згрызе жалеза, струхлеюць каменныя сцены, косці ворагаў яго спапялеюць у зямлі, а ён будзе жыць, на зло ім, на страх. Песня заўсёды была кароткай, дужа кароткай. Толькі запяе ён, а ўжо стукаюць у жалезныя дзверы, крычаць у адчыненае ачко:

— Змоўч, сабачча кроў! Яшчэ адно слова — і прыстрэлім вар'ята!

Захар Крымянец не быў вар'ятам. Ён ведаў, што могуць яго і прыстрэліць, і ніводная душа чалавечая не будзе ведаць аб тым, што здарылася ў гэтым панурым адзіночным каземаце. І ён змаўкаў і быў задаволены ўжо тым, што голас яго ўчулі, што яго жыццём цікавяцца. Тады ён пачынаў моўчкі хадзіць з кутка ў куток сваёй цеснай камеры. Прысесці баяўся. Бо калі прысядзеш, тады сабіраюцца неяк думкі ў адну чорную кропку, і ты сам нібы ляціш туды, у нейкую чорную бездань. Аж цяжка дыхаць тады… А так ходзіш узад і ўперад і лічыш крокі, прыглядаешся да змрочных сцен, да пакатае столі. На сценах

шмат розных надпісаў. Некаторыя выпісаны алоўкам; відаць жа, шанцавала катораму прынесці аловак з сабою! Некаторыя выскаблены цвіком, а гэтыя вунь зусім надрапаны костачкай, выпадкова злоўленай у худым турэмным супе — вельмі ўжо літары вострыя такія, калючыя. Багата надпісаў. Да апошняй літары вывучыў іх Захар. І каб час зрабіць карацейшым, ён штодня вывучаў які-небудзь адзін надпіс. Вывучаў і думаў. Думаў пра гэтыя багатыя чалавечыя жыцці, пра іхнія радасці і гора, пра іхнюю розную долю, розны лёс. Хадзіў і думаў, захапляючыся бязмежнымі прасторамі і бязмежнаю радасцю чалавечага жыцця. Хадзіў і думаў:

«Дзе ж вы, людзі, пераступаўшыя праз гэты парог? Дзе ты, чалавеча, чыя рука вывела гэтыя трапяткія словы: “Памру, але не здамся ненавіснікам чалавечага роду!”?»

Хадзіў і думаў.

Гэта ўсё, што засталося яму ад жыцця. Тры крокі наперад, тры крокі назад. Так прахадзіў ён ужо сямнаццаць год. А колькі ж яшчэ яму быць тут, яму, вечнаму турэмніку?

І вот сёння выбілася ўсё з прызвычаенай каляіны. Ён спяваў сваю песню. Заспяваў і прыслухаўся да дзвярэй. І стала страшна Захару Крымянцу. Маўчалі, не адказвалі дзверы. Не стукалі жалезам па іх, не крычалі за дзвярамі лютыя людзі.

— Эй, вы там! — крыкнуў ён з вялікім здзіўленнем. Гучнае рэха вярнула яму словы. За дзвярамі ж было пуста і глуха.

Тады ён паставіў кульгавую табурэтку на турэмны стол, узабраўся на яе і падцягнуўся на руках да жалезных крат вузкага акенца, што было пад самаю столлю. У павуцінні, у пыле была турэмная шыба, цяжка было што-небудзь разгледзець праз яе. Але праз самы ніжні край шыбы, з каторага заўсёды здзьмухваў пыл сваім дыханнем Захар Крымянец, праз гэты край можна было бачыць частку турэмнага двара, вялікую каменную сцяну насупроць, на ёй вежы турэмнай варты. І тое, што ўбачыў там Захар Крымянец, здзівіла яго і напоўніла сэрца трывогай. Ён не ўбачыў на двары ніводнага турэмнага вартаўніка. Іх не відно было і ў вежы на сцяне. Па двары праляцелі наўскач некалькі параконных фурманак, гружаных усякім дабром. На іх сядзела некалькі чалавек, і ён пазнаў у іх сваё турэмнае начальства. Куды ж паехала яно, ды на такіх звычайных фурманках? Чаму пуста і глуха за яго дзвярамі?

Ён злез дадолу і, узрушаны, усхваляваны, ніяк не мог прыйсці ў сябе, сабраць да парадку думкі і бязмэтна глядзеў, як церушыліся светлыя пылінкі ў бледным промені сонца, якія неяк пра-

браўся праз турэмную шыбу. Трапяткім зайчыкам мігацеў гэты прамень на каменнай падлозе і то святлеў, набіраючыся залатой цеплыні, то рабіўся раптам празрыста-шэрым, халодным. Відаць, восеньскія хмаркі засцілі тады сонца. Лёгкі цень прамільгнуў і страпянуўся на гэтым сонечным бліку. Захар падняў вочы ўгару. На жалезных кратах акна сядзеў стары яго знаёмы, звычайны верабей, і чысціў аб жалезіну птушыную сваю дзюбу. Раптам ён, нібы ўстрывожаны чым, трапыхнуў крыллямі і адразу ж знік. І загулі, і задрыжэлі ўсе сцены, нешта вялізнае і грымучае праляцела над дахам, і праз якую хвіліну даляцелі прыглушаныя выбухі. Яшчэ і яшчэ… Ізноў задрыжэлі сцены, загула столь і каменная падлога. Дззз — жаласна зазвінела аконнае шкло і раптам сыпанулася звонкім друзам, і нешта страшэннае, аглушальнае гахнула за акном, страсянуўшы сцены і столь, аж пасыпаўся тынк адтуль, са шчылін павіслі струменьчыкі пылу і сухой вапны. Балюча зрабілася ў вушах. Запахла дымам.

І Захар адчуў, як закалацілася ўся турма. Жалезны грукат ішоў па ёй, у разбітае акно даляталі ўзрушаныя галасы людзей. Гэтыя галасы з’явіліся раптам і за яго дзвярамі. Ён чуў, як бразгочуць жалезам, як крычаць людзі: «Ну, хутчэй жа!» І вот загрымелі, заскрыпелі ржавыя дзверы, і цэлы натоўп людзей уварваўся ў яго камеру, падхапіў яго пад рукі. Нібы здранцвелы быў Захар ад самога таго выбуху. Прыжмурыўшы вочы, ён прыслухоўваўся да новага, незразумелага яму, гоману людзей. І калі падхапілі яго пад рукі, ён зірнуў на людзей шырока адкрытымі вачамі. То былі ўсе турэмнікі, усе гэтыя людзі ў шэрых арыштанцкіх халатах.

— Дык выходзь жа, таварыш Захар! Ці не кантузілі цябе часам тут?

— Як вы трапілі сюды? — урэшце запытаўся Захар.

— Вот дзівак, ён яшчэ нічога не ведае… Ды мы выбілі ў агульных казематах дзверы, цяпер вот выпускаем усіх таварышаў з адзіночак… Вайна! Паны паўцякалі яшчэ раніцой… Дык хутчэй жа, а то шчэ, чаго добрага, загінеш тут ад бомбы…

Захар Крымянец стаяў нерухомы, нібы не ведаючы, што ж яму рабіць. Ён кінуўся быў да ложка, каб страсці пыл са свае турэмнае коўдры і падушкі. Потым спыніўся, нешта засмяяўся сам сабе і крыкнуў ужо да людзей:

— Што ж я раблю? То вы кажаце, што павыбівалі ўсе дзверы? То няўжо мы можам пайсці адсюль? То няўжо мы выйдзем адсюль?

І людзі, якія з пацямнеўшымі тварамі глядзелі на яго і пераглядаліся між сабою, сочачы за яго паводзінамі, раптам прасвятлелі неяк і кінуліся абнімаць яго, цалавалі яго ў шэрыя,

зямлістыя шчокі, паросшыя сівой барадой, пацiскалі яго худыя і такія лёгкія і бяссільныя рукі.

— Мы ж на свабоду выходзім, таварыш Захар! Дык хутчэй жа, няма часу бавіцца тут…

І калі выйшлі з дзвярэй на шырокі турэмны двор, прыжмурыў вочы Захар — так балюча свяціла сонца. Ён стаяў ап'янелы цёплым восеньскім ветрам і пахіліўся быў, вот-вот упадзе. Яго падтрымалі за рукі.

— Дайце, на хвіліну прысяду… Я не магу так… Дайце аддыхаюся крыху…

Чорныя клубы дыму паўзлі над зямлёй, торапка прабягалі іх цені па шырокім брукаваным двары. Зрэдку між каменняў прабіваліся зялёныя сцяблінкі траў. Захар глядзеў на іх, і яму здавалася, што ён чуе, як шумяць густыя дубровы, як трапечацца на ветры ліпучы бярозавы ліст, як хвалюецца пад ласкавым ветрам жытняе поле і з краю ў край коцяцца па ім празрыста-зялёныя хвалі…

— Спяшаймася, таварыш Захар!

— Ну то пойдзем…

Яны выбраліся праз вялізную прабоіну ў сцяне. Асцярожна пераступалі праз пабітую цэглу, у цагляны пыл урабілі шэрыя халаты, рукі. Спяшаючыся, азіраючыся назад, выходзілі яны з маленькага і пустыннага гарадка, што ля самай нямецкай граніцы. За імі гналася вайна. З імі адступала войска. І людзі баяліся гэтага войска, туляліся па сцежках лясных, па глухіх дарогах, каб не трапляць залішне на вочы вайсковаму начальству.

* * *

Здаецца, цэлы год ішлі, да таго цяжкай і стамляючай была дарога. Старыя турэмныя чаравікі крывянілі ногі. Халодныя дажджы прабіралі да самых касцей, даваўся ў знакі голад. Трэба было спяшацца, вайна не адставала ні на крок, часам адстаючы на якога паўдня. Па слядах вайны ішлі крывавыя зарывы, сірочыя коміны спаленых вёсак, і ўсюды — на дарогах, на сцежках — тысячы і тысячы людзей ішлі на ўсход, каб адысці падалей ад крывавае здані смерці, якая штодня напамінала аб сабе грымотным рэхам жалеза, завываннем самалётных матораў, кулямётнай песняй у небе і на зямлі. Часамператваралася ўсё ў шалёны віхор. Здаецца, прыходзіў канец цярплівасці зямлі, і яна ўзлятала аж пад самае неба, гэтая звычайная зямля. І ў свежыя раны зямлі, у гэтыя пясчаныя яміны ад бомб і снарадаў,

кідаліся людзі ў шэрых халатах, каб перачакаць смерць, каб схавацца ад куль. У ямах быў сухі пясок, ён супакойваў боль натруджаных ног, прыемна перасыпаўся праз пальцы рук, ласкава песціў змучаныя твары людзей. Людзі скоса паглядалі на неспакойнае, звар’яцелае неба і абменьваліся скупымі думкамі. А што там дома? А як сям’я? А ці жывы там, ці здаровы? Можа, вайна навучыць сяго-таго розуму. Пра айчыну не гаварылі. Яе наогул не было ў гэтых людзей. Было толькі слова айчына, ды і гэта слова было назаўсёды пахавана ў польскіх турмах. І калі пад самай Варшавай падбег да іх афіцэр і загадаў зараз жа неадкладна браць лапаты і капаць акопы, яму адказалі проста:

— Нам акопы не патрэбны…

Афіцэра гэта страшна ўразіла. Ён аж збялеў быў і хапіўся за кабуру рэвальвера, але, убачыўшы іхнія вочы, схамянуўся і пабег да купкі салдат-сапёраў і нешта крычаў перад імі, размахваючы пальчаткай, умазанай у гліну. Салдаты стараліся не глядзець яму ў вочы. Яны паглядалі скоса на шашу, па якой адна за адной шалёна праносіліся конныя гарматы. Артылерыя пакідала фронт. Афіцэр заўважыў іх позіркі, ён сам паглядзеў на шашу, нерашуча пайшоў да тэлефаніста.

І колькі ні выклікаў ён начальства, яму ніхто не адказваў. Тады, уцягнуўшы галаву ў плечы і азірнуўшыся, як воўк, а ці бачаць то салдаты, ён падаўся ў прыдарожны параснік. Там былі добрыя сцежкі да прадмесцяў горада, фабрычныя коміны якога ледзь-ледзь віднеліся праз частае дажджавое сіта.

А ззаду ўжо нарастала і шырылася гарматная кананада.

* * *

На вуліцах Варшавы да іх далучылася група жанчын і дзяўчат. Іх таксама вызваліла вайна. Яны ішлі са славутай фардонскай турмы. Як дзеці, радаваліся яны свабодзе, магчымасці вольна хадзіць і самае важнае — хуткаму звароту на радзіму. Ва ўсю групу турэмнікаў яны адразу неяк унеслі сваю жаночую дамавітасць. Цяжка было знайсці вады, але яны ўхітрыліся памыць усім бялізну, дасталі мяккія чаравікі і новыя анучы таварышу Захару, бегалі па бежанскіх камітэтах, стаялі па начах у бясконцых хлебных кулейках, каб дастаць сабе і дзецям рабочых сем’яў, дзе спыніліся яны на начлег, па кавалку чорнага хлеба. Яны клапатліва даглядалі «нашу Геню», як звалі яны маленькую худзенькую дзяўчыну, разам з імі пакінуўшую турму і прыйшоўшую ў гэты горад. Геня была хворай. Яна ўсё хуталася, каб

сагрэцца, мала гаварыла, і рэдка-рэдка з'яўлялася ўсмешка на яе схуднелым твары, жоўтым, васковым, на якім так недарэчна тлелі гарачыя плямы румянцу. Калі жанчыны весела гаварылі між сабою на вуліцы, на двары, то тут, у нізенькім змрочным пакойчыку, дзе часова прытулілі Геню, яны заўсёды гаварылі сур'ёзна і ціха. І гэтыя жанчыны, асабліва пажылыя, якія ніколі не забываліся на сваіх дзяцей і вечна гаварылі аб іх, аб іх гадах, здольнасцях, прывычках, капрызах, ніколі не ўспаміналі пра дзяцей у Геніным пакоі.

І калі, разбіўшыся на некалькі груп, яны пайшлі з Варшавы, некалькі жанчын сталі прасіць Захара Крымянца:

— Вы, таварыш Захар, багата пражылі на свеце і ведаеце, што такое ёсць чалавечы боль, чалавечае гора. Вы пажылы чалавек, вы любіце дзяцей; мы бачылі, як дзяліліся вы з імі апошнім кавалкам хлеба ў Варшаве… Дык ніколі не гаварыце пра дзяцей пры ёй, пры Гені… Скажыце вось і ўсім мужчынам… Ёй можа стаць хужэй, мы і так баімся за яе… У яе памерла дзіця ў турме, яна ніяк не можа забыцца на яго…

Словы жанчын балюча кранулі Захара Крымянца. Яму стала ўдвая шкада гэтай худзенькай, замкнёнай у сабе дзяўчыны, якая, ухутаўшыся ў старое паліто, набытае таварышкамі ў Варшаве, маўкліва ішла, часам спыняючыся, каб суняць як-небудзь неадчэпны, надрыўны кашаль. Яна страціла сваё дзіця. Захар Крымянец перажыў некалі гэты востры боль, расстаючыся назаўсёды, як вечны турэмнік, са сваімі дзецьмі. З таго часу прайшло сямнаццаць год. Востры боль прытупіўся, нібы сцёрся аб шматлікія каменныя сцены. Старыя раны, хоць паволі, але загойваюцца. Іх гоіць час. Але і сёння выразна стаяць уваччу перад таварышам Захарам дзве русыя галоўкі, і агрубелыя пальцы яго нібы адчуваюць цёплы шоўк іх валос. Зажмур вочы — і ўбачыш іх светлыя дзяціныя твары, іх ясныя і чыстыя, як неба, вочы. І салодкім болем аддаюцца ў сэрцы іх радасныя, цёплыя ўсмешкі, усмешкі яго дзяцей. Праўда, яны плакалі тады, калі расставаліся з ім. Яны не ведалі яшчэ, што такое турма, але маленькія сэрцы іх сціскаліся гаручым болем, яны адчувалі страшэнную бяду, што ўвайшла ў іх маленькае жыццё. Польская айчына загасіла іх усмешкі, маленькага сына яго, маленькай дачкі. Якая ж вялікая, якая агромністая радасць чакае яго, радасць сустрэчы!

Гэтая радасць расла з кожным крокам, з кожным пройдзеным кіламетрам. Яна поўніла да краёў яго сэрца, і ён дзяліўся ёю з таварышамі. Узбуджаны настрой быў ва ўсіх, ён прарываўся часам песняй, ціхай, бязгучнай, каб не трывожыць залішне

«нашу Геню». Каторы дзень яна не магла ўжо ісці пешкі, і ўся група дастала з вялікімі цяжкасцямі сялянскую фурманку. На ёй ехала Геня, клапатліва абкладзеная з усіх бакоў і захутаная сенам. І калі пачынаўся яе нястрымны кашаль, абрывалася ціхая песня, і ўсе кідаліся да воза, каб дапамагчы ёй, чым можна. Падціскалі сена, папраўлялі рукавы старога паліто. Спынялі на які час фурманку, і таварыш Захар даставаў з воза набыты ў бежанцаў чайнік. Грэлі ваду ля дарогі, паілі хворую. Таварыш Захар асцярожна выціраў ёй твар, ладзіў месца, каб было зручней ёй, па-бацькоўску захутваў у ватныя лахманы, гаварыў з ласкавым дакорам:

— Якое ж ты недалужнае дзіцянё, аднак! — і адыходзіў ад воза.

— Ну, паехалі! — кідаў ён ужо весялей, і ўся група рухалася далей.

За гэтыя дні пажвавеў таварыш Захар. Далёкая радзіма станавілася ўсё бліжэй. Змяніўся пад сонцам ды пад ветрам зямлісты колер твару, заняпалыя вочы не баяліся ўжо яркага сонца, прывыклі да яго, ацвярдзеў голас. Хоць нылі балюча скрываўленыя хадзьбою ногі, але ён ішоў заўсёды ўперадзе, каб паказаць ім, маладзейшым, што вот ён стары, ды не ведае стомы. Усе ішлі за ім, слухаліся яго парадаў. І ўсё было б добра, каб не гэтая няшчасная дзяўчына, якая ўсім дастаўляла столькі вялікага болю.

Позна вечарам пад'ехалі лесам да ракі. Вялізны мост над ёй быў увесь у агні. Ужо сыпаліся і сіпелі на вадзе вялізныя галавешкі. З трэскам прагіналіся і падалі дошкі, пакідаючы дымныя хвасты за сабою, губляючы ў іх залатыя іскры. Зарыва пажару калыхалася над ракою, над лесам, то ападаючы да самай вады, то запальваючы крывавай чырванню рэдкія хмурынкі ў небе.

— Значыць, панам капут, калі паляць масты… — сказалі неяк усе разам і замоўклі.

Ехаць было некуды. Трэба было дачакацца раніцы, каб пераправіцца праз раку. Тут жа, у лесе, размясціліся нанач, адпусціўшы сялянскую фурманку. Разлажылі вялікае цяпло, наладзілі з яловых лапак ды з сена добрую пасцель для Гені, ухуталі яе цяплей. Стомленыя за дзень людзі хутка паснулі. І толькі стары Захар сядзеў ля цяпла, падкідаў сухога ламачча ў агонь і глядзеў, як тлеюць, пераліваючыся растопленым золатам, тонкія вугольчыкі і пакрываюцца першым попелам, гаснуць. Панура шумелі над галавою старыя яліны, на рацэ дагаралі, як свечкі, палі моста, і іх багровыя водбліскі калыхаліся і расплываліся на вадзе. Рабілася халадней.

Папраўляючы агонь, Захар не ўбачыў, а хутчэй адчуў на сабе позірк дзяўчыны. Яна і сапраўды ўважліва сачыла за ім, за яго неўвароткімі рухамі ля агню, чакала, калі ён скончыць. І калі ён глянуў на яе, яна загаварыла. Захар Крымянец хацеў абарваць яе словы:

— Не трэба, не трэба, табе ж хужэй будзе, калі ты будзеш гаварыць… — спяшаючыся, праказаў ён і нават азірнуўся навакол, нібы просячы каго ў сведкі, што сапраўды ж ёй не трэба гаварыць.

— Вы не турбуйцеся, таварыш Захар! Вы ж слаўны чалавек, і вы ж мяне зразумееце… Вы ведаеце, што я пamру… Гэта ведаю і я, і ведаю, што скора… І я хачу вот сказаць вам, што мне дужа шкода, што я не ўбачу тое, за што я зараз вымушана буду памерці. Вы не ведаеце, якая гэта вялікая пакута — столькі цярпець і не ўбачыць тое, за што столькі прыйшлося перацярпець… А яно ж блізка гэта, таварыш Захар!

— Пра што гэта вы? — сказаў, каб што-небудзь сказаць, Захар.

— Вы ведаеце гэта… Я кажу пра рэвалюцыю… Ці так жа можна жыць далей?.. Вы ж бачыце, гараць пад імі масты…

Геня зайшлася глухім кашлем. У водблісках агню гарэлі яе вочы, чорныя ўночы плямы нібы трапяталі на яе шчоках, доўгія цені клаліся ад расніц на гэтым твары, нібы ажыўшым пры агні, пры яго чырвоных водблісках. Кашаль апаў, яна дыхала часта, няроўна.

— І вы скажыце мне, таварыш Захар, чаму мне так шкода яго?

— Каго? — нібы ў нейкім здранцвенні перапытаў стары чалавек.

— Майго маленькага хлопчыка. Ён памёр у турме… Мне не дазволілі яго пахаваць, быць на яго пахаванні. Хвалявалася ўся турма. Яны ж так любілі маё дзіця, і на шпацырах на турэмным двары яны ж так прасілі мяне, нашы жанчыны, каб патрымаць яго на руках, дакрануцца да яго ручак, да яго ножак… Яны пратэставалі супроць гэтай недарэчнай смерці… Яны атрымалі суровыя кары за свой пратэст, іх за гэта саджалі ў карцар, на голыя нары, на бясхлеб'е… За наш пратэст яны збілі і мяне, нібы я ўчыніла які бунт, нібы я вінавата была, што памерла, знікла наша адзіная радасць, апошняя ўцеха за жалезнымі кратамі… І я не ведаю, таварыш Захар, дзе закапалі маё дзіця гэтыя чорныя сабакі… Гэтыя чорныя сабакі… — прагаварыла яшчэ раз нібы ў задуменні, шэптам, жанчына. Яна хацела, відаць, аб нечым яшчэ гаварыць, але сказаныя словы, моцнае ўзбуджанне абяссілілі яе.

Яна ляжала нерухома, і толькі глухі клёкат у грудзях выдаваў яе парыўчатае няроўнае дыханне. Здавалася, яна захліпаецца паветрам, прагна ловячы яго шырока адкрытым ротам, гарачымі сухімі вуснамі.

— Я ж казаў, не трэба гаварыць, не трэба хвалявацца… Вот дабяромся да Буга, і ўсё будзе добра… — мітусіўся ля яе таварыш Захар і не ведаў, што ж яму рабіць цяпер у гэтым глухім і суровым лесе. Паміраў чалавек, і гэтая смерць была больш за звычайную чалавечую смерць. Памірала няспраўджанае жыццё. Яно магло многа даць, яно мела так многа гаручай нянавісці і бязмежнай любві да людзей, яно магло рухаць наперад не толькі сваё жыццё, але і ўсё жыццё, жыццё ўсіх…

— Можа, вады трэба, то я сагрэю зараз! — таптаўся на месцы таварыш Захар, апусціўшы ў бяссіллі рукі, палахліва гледзячы на яе, нібы быў ён у чым перад ёю вінаваты. Яна адмоўна кіўнула галавой.

Яна ляжала моўчкі і ўглядалася ўверх, у глыбокае восеньскае неба. У ім роіліся мірыяды зорак. Да іх цягнуліся рэдкія іскры з агню, але чорныя вяршыні хвой тушылі іх. Цёмная ноч стаяла над лесам. Захар Крымянец зірнуў на зоркі, падумаў пра мароз, які, няйначай, сабярэцца да раніцы. Ён хадзіў па лесе, сабіраў ламачча, прыцягнуў некалькі сухадрэвін. Падкладаў у агонь і думаў-драмаў, прыхінуўшыся да старой яліны. Вот і яго жыццё прайшло неяк не па-людску. Было шкода сябе. Нават не сябе, а гэтых змарнаваных сямнаццаці год, пражытых у панскіх турмах. Колькі-то адбылося за гэты час, а ён сядзеў недзе ў старане, не маючы нават магчымасці падаць свой голас. Быў ён тады маладым. Былі маладыя і гарачыя думкі… Яны не астылі і цяпер… Але ж яго жыццё ідзе ўжо к закату. Колькі год згарэла так марна! А што ж будзе цяпер?

Думаў Захар, драмаў.

А калі раптам прахапіўся і спалохана агледзеўся навокал — развіднела. На лапах ялін, на пажоўклым лісці долу ляжаў лёгкі іней. Зябка нылі плечы, азызлі калені, рукі. Людзі прачнуліся ўсе, стаялі ля Гені, маўклівыя, засяроджаныя. Яны стаялі з непакрытымі галовамі. Як падхоплены, ускочыў таварыш Крымянец, стаў поплеч з імі, зняў шапку. Ён заўважыў шэры, завостраны твар Гені. Быў ён зусім нерухомы.

Ніхто не падаваў каманды, песня неяк узнікла адразу. Яе запелі ціха, каб не ўчулі ворагі яе слоў, не пашкодзілі б яе жалобнай урачыстасці. Над суровымі ялінамі ўставала на тым беразе сонца. Натужна адрывалася яно ад вострых вершалін

дрэў, плаўна ўзнімалася ўгару. Закапала з дрэў, раставаў іней пад сонцам.

І раптам заўважыў Захар Крымянец, што яны стаяць акружаныя зусім незнаёмымі, зусім нябачанымі імі людзьмі. Ён зірнуў на раку. Плылі плыты па ёй і прыставалі да берага; і з іх сыходзілі такія ж самыя людзі ў шэрых шынялях, у касках з чырвонымі зоркамі.

«Няўжо-то праўда?» — мільганула маланкай думка. Шчэ пазаўчора чулі яны ад сялян, што ідуць з усходу гэтыя людзі. Але цяжка было паверыць адразу. Ён не сказаў нават аб гэтым Гені, каб не хваляваць яе. Бо калі няпраўда, якое пакутнае расчараванне чакала б іх усіх.

І калі скончылася песня — а людзі ў шынялях і жалезных касках слухалі яе напружана і сурова, — тады абняліся моўчкі ўсе, пацiснулі горача рукі, стараючыся не глядзець на нябожчыцу.

— Што ж гэта ў вас такое? — разгублена запытаўся малады камандзір, каб неяк парушыць цішыню, якая так не пасавала светламу дню, яснаму сонцу, якое старанна ўгравала астылую за ноч зямлю.

— Таварышку вот трэба пахаваць… — адказала адразу некалькі галасоў, і пажылыя турэмніцы кінуліся на грудзі суровым салдатам і запрычыталі па-звычайнаму, па-жаночаму:

— А любыя ж вы сыны нашы… А колькі год мы чакалі вас, як яснага дня. А ці надоўга вы да нас?.. А не пакідайце вы нас…

І суровыя твары — яны павінны быць суровымі ў байцоў — раптам неяк мякчэлі, абмякалі. Шэрыя рукавы шынялёў цягнуліся да твараў. Ну, відаць жа, там каску паправіць, працерці запарушанае вока. А камандзір, — ён жа адказваў за ўсіх, ён жа адказваў і за гэтых людзей у шэрых халатах, — усё пытаўся ва ўсіх, стараючыся надаць як мага больш цвёрдасці свайму голасу:

— Вы ж, відаць, галодныя зусім?

І голас ламаўся. І ён па-простаму ўжо звярнуўся да чырвоных байцоў:

— Давайце, браткі, кансервы!

Людзі ў шэрых халатах спрабавалі аднеквацца — яны ўсё ж ткі елі пазаўчора, нечага таварышам турбавацца, у таварышаў жа паход… Але байцы сілком совалі ў рукі кансервы, чорныя буханкі хлеба. Некалькі чайнікаў з’явіліся на агні і хутка весела заляпалі крышкамі, гасячы пад сабою шыпучы прысак і жар.

— Уцёк, уцёк! — весела крыкнуў, гледзячы на чайнік, малады турэмнік і, схамянуўшыся, сарамліва пазірнуў на ўсіх, а што-то яны думаюць пра яго ўчынак. І ўсе рабілі выгляд, што

не ўчулі яго слоў. Чырвонаармейцы ўсё частавалі і ўсё прасілі выбачэння, што не могуць яны накарміць іх сапраўдным абедам.

— Бачыце, кухні шчэ за ракой… Але там вас накормяць.

Гэта была трызна па нашай Гені.

З уцалелых дошак моста сапёры зладзілі ёй труну, абабілі труну ўнутры зялёнай палаткай. Зверху ўпрыгожылі чырвоным кумачом з-пад плакатаў. Пахавалі Геню на крутым беразе пад старымі ялінамі, дзе правяла яна апошнюю ноч на сваім шляху да радзімы. Пад берагам плёскалася рака, і гэты плёск быў вечны, як вечна і неўміруча людское жыццё.

Хутка людзі развіталіся, як родныя браты, і пайшлі кожны сваёй дарогай: байцы — на захад, людзі ў шэрых халатах — на ўсход.

* * *

З тае начы і тае раніцы прайшло многа часу. Яшчэ пад Брэстам Захар Крымянец скінуў ненавісны шэры халат, апрануўся ў людскае адзенне. Іх урачыста сустракалі, іх віталі з музыкай, як герояў, яны гаварылі палымнеючыя, як жар сэрца, прамовы і плакалі разам з людзьмі, іх слухаўшымі. І ўсюды: на сходах, на працы, у дарозе, і днём і ноччу ўспаміналася тая ноч у лесе і ядраная сонечная раніца, раніца апошніх провадаў маладой таварышкі Гені, і раніца незабыўнай сустрэчы.

І, едучы цяпер дахаты, крыху закалыханы вагонам, таварыш Захар успамінаў гэтую худзенькую дзяўчыну, так сумаваўшую па волі і па сваім заўчасна памершым дзіцяці. Яе шкада было, шкада было і маленькага жыцця, так недарэчна загінуўшага на няўмольным і халодным двары турмы. Чым жа яно было вінавата, гэта яе, дзіця?

— Табе не шкада, забойца, дзяцей маіх? — прыгадаліся раптам, усплылі ў памяці словы, сказаныя даўным-даўно, год сямнаццаць назад.

Гэта было на судзе. Тады стаяла перад ім, выкліканая туды як сведка, заплаканая жанчына. За падол яе змятай спадніцы трымалася трое дзяцей. Яны пазіралі на яго спалоханымі, але такімі чыстымі, чыстымі вачамі. І ён адкрыта, смела сустракаў гэтыя палахлівыя дзіцячыя позіркі. Ён адкрыта, смела глядзеў у гэтыя злыя і заплаканыя вочы жанчыны, ён нават цёпла, нібы па-таварыску, усміхнуўся ёй, калі яна, давячыся словамі і з вялікай цяжкасцю падбіраючы іх, не праказала, а прасіпела яму проста ў твар:

— Я праклінаю цябе… я ненавіджу цябе…

І ён ціха адказаў ёй:

— Твая нянавісць мне не страшна… Можа, і ты калі-небудзь дажывеш да сапраўднай нянавісці… Тады гэтымі вачамі, якімі глядзіш ты на мяне цяпер, ты паглядзіш на каго іншага, мо на іх…

Ён паказаў рукою на суд і сядзеўшых там людзей, якія нібы сцяліся ў сваіх мундзірах, нібы за каўняры гэтых мундзіраў капнула вада з халодных стрэх.

Ён паказаў рукой на зал. І гаманлівы натоўп людзей, прыходзіўшых сюды, каб задаволіць звярыную патрэбу сваю, пацешыць сонныя сэрцы чужою крывёю і чужым горам, — гэты натоўп грозна прыціх на якую хвіліну. Сярод іх не было спагадлівых вачэй. Сюды пускалі толькі тых, хто падзяляў думкі сядзеўшых за судовым сталом. І гэтая думка не была ўжо такой складанай і мудрай.

— Павесіць забойцу! — крычаў увесь гэты зал, тычучы ў яго сотнямі кулакоў, свідруючы яго сотнямі ўгневаных і такіх пустых у сваім гневе вачэй. І некаторыя грозна ўзнімалі ўгару руку — відаць, бачылі яны па-за столлю мудрае, справядлівае неба — другой тыцкалі ў гэтых трох дзяцей, сурова патрабавалі:

— Смерць асіраціўшаму няшчасных дзяцей!

Яго хутка вывелі з зала.

Праклінаўшая яго жанчына была жонка яго былога прыяцеля. Жанчына была цёмнай, як цёмна была Піна-рака па восеньскай ночы, калі Захар Крымянец забіў свайго былога прыяцеля і доўга мыў свае рукі пасля, каб змыць назаўсёды памяць аб былым прыяцелю, а цяпер забітым правакатару. У Захара Крымянца была цвёрдая рука на ворагаў. Гэта ведала партыя і даручыла яму гэтую справу. Ці шкадаваў ён гэтых трох дзяцей? Так, шкадаваў. І, шкадуючы іх, шануючы іх будучыню і будучыню ўсіх дзяцей, ён забіў іх бацьку-здрадніка. А колькі крыві льецца, якія пакуты нясе чалавек, каб чыстымі і незабруджанымі былі сцежкі ў дзіцячым садзе будучага. І мо нездарма страчаны сямнаццаць год, мо нездарма загінула худзенькая жанчына, мо нездарма пакутавалі людзі ў шэрых халатах… Сёння не пытае жандар тваё імя. Весела гудзе зямля пад табою. Вясёлая гутарка ў купэ:

— Эх ты, дзівак, чым жа ты ўзрадуеш сям’ю?

То пытае рухавы чырвонаармеец хударлявага пажылага салдата-паляка. Салдат едзе з нямецкага палону. З захапленнем расказвае ён аб блізкай сустрэчы з сям’ёй — у яго сын, бачыце, умее ўжо чытаць, у яго дачка, такая вот малюсенькая. Вот яна так смешна гаворыць — тата!..

— Дык чым жа ты ўзрадуеш дзяцей? — наступае на яго чырвонаармеец.

— Як-то разумець? То я сам для іх найвялікшая радасць!

— Гэта, канешне… Але ты купіў бы ім хаця цукерак!

— Так… цукерак… — нерашуча гаворыць салдат і доўга трэ далоняй шчаку, абросшую рэдкай шчацінай. Ён бярэ свой худы ранец. Ён пляскаты, як блін. Ад нечага рабіць салдат адшпільвае і зашпільвае раменьчыкі на ім. Да ранца прывязан пагнуты кацялок — салдацкая ўцеха.

Чырвонаармеец глядзіць чамусьці на гэты кацялок і раптам пачынае заклапочана корпацца ў сваім ранцы. Ён выцягвае адтуль невялічкі мяшочак. Страшэнна сур'ёзны, нахмураны, ён дастае адтуль цукар: чатыры кавалкі, восем… З хвіліну думае нешта, зірнуўшы ў столь вагона, і, к здзіўленню салдата, высыпае яму ў кацялок увесь цукар з мяшочка.

— Бяры! Я ж еду ў часць, у нас ёсць… А ты дзецям…

Салдат сурова пацiскае руку чырвонаармейцу і ціха гаворыць:

— Дзякую, таварыш! Вот і цукеркі!

Якое харошае слова — таварыш!

І Захар Крымянец спахмурнеў раптам. І ён жа дзівак! Ён жа таксама забыўся пра цукеркі сваім дзецям. Але адразу ж схамянуўся: «Сямнаццаць год прайшло з таго часу, яны ж ужо вялікія… якія ім там цукеркі!..» Падумаў і рассмяяўся на ўсё купэ. Са здзіўленнем азірнуліся на яго: маўчаў чалавек, маўчаў — і раптам у смех.

— Нічога, таварышы, гэта я так… Успомніў, бачыце, вясёлыя гісторыі… А вот і да свайго горада мы пад'язджаем.

Водбліскі стрэлачных ліхтароў усё цішэй і цішэй мільгалі на запацелых аконных шыбах.

* * *

Ля ўвахода ў станцыю стаялі, як заўсёды, людзі, што прыходзілі сустракаць брэсцкія цягнікі. Праўда, людзей гэтых стала менш. Багата народу папрыязджала ўжо дахаты. Прыехалі з турмаў, з франтоў, з палону. І тыя, што стаялі цяпер ля ўвахода, даўно ўжо страцілі ўсякую надзею на сустрэчу. Але недзе тлела яшчэ цёмнай іскрай гэта надзея, якая ніколі не дае спакою чалавечаму сэрцу.

Прыкрыўшы далонню вочы — перашкаджаў станцыйны ліхтар — старая ўглядалася ў твары праходзіўшых людзей.

Вось прайшоў салдат у доўгім шынялі, за ім рухавы чырвонаармеец. Ішоў стары чалавек з невялікім клункам. Чалавек задраў бараду ўгору, жмурачыся, глядзеў на станцыйны гадзіннік і нечаму ўсміхаўся. Церушыў першы сняжок. Цяжка было разгледзець стрэлкі гадзінніка. І чалавек, махнуўшы рукой, шпарчэй пайшоў да дзвярэй. Ужо нікога не было на пероне, пайшоў цягнік, сіратліва і холадна кружыліся сняжынкі ў святле станцыйнага ліхтара, а яна стаяла ў задуме, прыслухоўваючыся да самотных крокаў дзяжурнага па станцыі. Яна ведала ўжо яго, гэтага вясёлага хлопца ў чырвонай шапцы. Ён і цяпер, як штодня, падышоў да яе, запытаў:

— Ну як, грамадзянка? Ізноў няма?

— Няма! — бязгучна адказала яна, папраўляючы хустку, атрасаючы снег з рукавоў старэнькага паліто.

— А вы не сумуйце… Усе вернуцца на радзіму… Час такі… Ну, не стойце тут, ідзіце ў вакзал, там жа цяплей.

Старая пайшла дахаты.

* * *

І не заўважыў Захар Крымянец, як прайшоў увесь горад. Вот і Піна. Праз снежную пацяруху відаць былі партавыя агні, за імі свяціліся вокны рачных майстэрняў. Не так жа далёка, кварталы тры, чатыры, у самы раз зайсці, там жа багата знаёмых… Але не, позна ўжо. Трэба ж да сям'і, яны ж прачакаліся, няйначай…

Пайшоў назад, прыглядаючыся да знаёмых вуліц, успамінаючы іх назвы.

І так страпянулася сэрца, калі апынуўся перад знаёмай форткай. Як пакрывілася яна, матляюцца дошкі каторыя. Яна зарыпела па-старому, калі рука яго дакранулася да жалезнай клямкі. Вот і невялічкі дворык. Куст чаромхі, які ён пасадзіў. Як ён разросся, гэты куст! Астатняе ўсё па-старому: і круглы камень перад ганкам, і самы ганак з двума струхлелымі слупкамі ледзь-ледзь ліпяць.

— Няйначай прыйдзецца паправіць…

Стараючыся не стукаць, ён асцярожна ўзышоў на ганак, прыслухаўся, выціраючы з твару снежную макрэдзь.

— Відаць, спяць ужо… — адчуваў, як б'ецца пад пальцам рукі гарачая жылка на скроні. Ціха паляпаў у дзверы. Яшчэ і яшчэ. Прыслухаўся яшчэ раз, і толькі тады заўважыў замок на дзвярах. Адразу неяк пахаладнела. Разгублены, ён сышоў з ганка, абышоў усю хату, пастаяў з якую хвіліну перад ганкам, не

ведаючы, што ж рабіць яму. Не ісці ж паначы па суседзях, каб распытваць іх аб усім. За чаромхавым кустом, ведаў ён, была лаўка, якую калісьці зрабіў сам, каб гулялі яны тут, яго дзеці, маленькія таварышы яго дзяцей. Ён сядзеў у цяжкой задуме, нічога не чуючы і не бачачы перад сабою. Ён не заўважыў, як ціха рыпнула фортка, як прайшоў чалавек па двары і, не спяшаючыся, адамкнуў дзверы хаты і зачыніў іх за сабою.

Па вуліцы затарахцела фурманка па бруку. Гучна гаварылі на фурманцы людзі. Захар прахапіўся. Проста перад ім, праз дзіравую аканіцу, прабівалася святло. Захар кінуўся да дзвярэй, рэзка пастукаў у іх.

Вот рыпнулі за дзвярамі палавіцы, стрыманы голас запытаў за дзвярамі:

— Хто тут?

— Ці тут жыве Аксіння Крымянец? Мне, бачыце, трэба бачыць яе, абавязкова пабачыць па пільнай справе.

І здавалася Захару, што цэлая вечнасць праходзіць, пакуль учуе ён словы адказу.

— Яна жыве тут… Заходзьце, чалавеча… Ну, праходзьце ў хату… — у голасе ўжо не чулася ранейшай стрыманасці, жанчына хвалявалася.

У нізенькім пакоі гарэла на стале лямпа. У куточку стаяла швейная машына, выцвілыя фіранкі — «няўжо з таго часу?» — закрывалі дзверы ў невялічкую спаленьку. Ён стаяў ля парога і моўчкі ўглядаўся ў гэтую жанчыну, што стаяла ля стала, крыху засланіўшы ад яго лямпу. Яна ўважліва сачыла за ім.

— Ну, вот я і дома… А дзе ж Аксіння, скажыце?

І ён убачыў нібы крыллі, прыўзняліся раптам рукі ў жанчыны. Яны цягнуліся да яго, жанчына кранулася з месца, кінулася яму насустрач.

— Захар! — нема крыкнула яна, і, упаўшы на грудзі яму, яна плакала і смяялася, уткнуўшы твар у заснежанае сцюдзёнае паліто.

— Божа ж мой, каго я прычакала… То-то чую я, нібы голас знаёмы, але гляджу і нічога не бачу… Дай жа я хоць пагляджу на цябе…

Яны моцна пацалаваліся і, трымаючы адно другога за плечы, доўга ўзіраліся ў такія ж знаёмыя, у такія ж родныя вочы.

— Ай-яй-яй, як жа мы з табою, Захар…

— Памаладзелі, мая маладзіца, — пажартаваў Захар Крымянец, — але глядзі ты, вочы ў цябе тыя ж самыя, як тады…

І ён не бачыў, ён не хацеў бачыць ні гэтае незнаёмае сівізны валос, ні частых зморшчыкаў на худым, сухарлявым твары

жанчыны. То ж яго колішняя, далёкая Аксіння, да якой так многа-многа, аж цэлых сямнаццаць доўгіх і цяжкіх год.

— Ах, Божа мой, то распранайся ж, дарагі мой, ды ты ж з дарогі зусім, ты ж стаміўся, а я стаю, як не бачу… То я ж зараз згатую што-небудзь…

— Пастой, пастой, не трэба пакуль што… Вот сядзем лепш ды пагаворым… Ну, як жа дзеці? Янка, Вярунька? У спальні?

Ён хуценька ўзняўся са стула, наважыўшыся ісці ў спальню. Жанчына стаяла перад ім разгубленая, заплаканая і, відаць, напалоханая нечым. Дрыжалі рукі ў яе, сутаргава паторгваўся твар, яна не пускала ісці яго.

— Не трэба, Захар, не трэба… Пасля…

— Што з дзецьмі, скажы мне! — ціха запытаў ён і сачыў за яе вачамі.

Яна старалася вытрымаць яго позірк, старалася надаць спакой свайму пасуровеўшаму адразу твару, старалася глядзець яму проста ў вочы. Але здрыгануліся сівыя бровы, яна адвяла ад яго свой позірк, маўкліва глядзела на лямпу. Падкруціла агню ў ёй, каб стала святлей у хаце.

— Дык я зараз згатую табе што-небудзь… Ты ж зусім не еў у дарозе…

— Дзе Янка? Я прашу цябе, скажы мне, дзе сын?

— Ну што ж, мой родны Захар… Ах, які ты сівы, сівы, усе валасы пабраліся срэбрам… Давай сядзем лепш… Ну, што ж, пагаворым… Хіба ж гэта схаваеш, калі ты цяпер тут? Янкі няма. Янка памёр. Таму ўжо, можа, год з дванаццаць. Хварэў. Мы ледзь перажылі той год, такі цяжкі ён быў, такі галодны. Сяк-так перабіліся. Дапамагалі твае таварышы… А Янка памёр…

Яна гаварыла ўсё гэта ціхім і спакойным голасам. Захару здавалася, што гэты голас ужо занадта раўнадушны, так кіпела і сціскалася сэрца яго ад гэтых халодных слоў. І ён запытаў яе, нават не ведаючы, для чаго:

— Чаму ж ты не плачаш, маці?

Яна памаўчала з хвіліну і праказала спакойна:

— А чаго ж я буду плакаць? Я праплакала сваё, я даўно выплакала сваё гора, і мне няма ўжо чым плакаць, Захар… Дзе ж набярэшся слёз?

— А чаму ж вы не напісалі мне?

— Куды? У турму? Мы ж не хацелі, Захар, трывожыць цябе. Мы ж ведалі, Захар, што ў цябе і так хапае гора. Мы не хацелі атручваць табе апошняе тваё жыццё… Таму Вярунька і пісала табе паклоны ад Янкі… Мы плакалі абедзве з ёю і піса-

лі… А потым колькі год ужо ад цябе не чуваць было лістоў… І мы не ведалі, ці жывеш ты, ці, можа, няма цябе ўжо на свеце, можа, закатавалі цябе гэтыя гады, яны ж усё могуць… І мы даўно перасталі чакаць цябе, я не чакала цябе нават цяпер, калі столькі-то людзей вярнулася дахаты з польскіх турмаў… Я нават спужалася, калі ўчула твой голас.

Старая гаварыла і асцярожна зірнула на яго. А мо, крый божа, бачыў ён яе на вакзале, тады ён запытае. Але ён маўчаў. Маўчала і яна, і чуваць было, як патрэсквае кнот і ціха, ціха сіпіць жоўтае полымя лямпы.

— А Вера? — нібы прахапіўшыся, запытаў Захар.

— Вера? Яна жыве… Яна працуе… — нават галавой кіўнула старая, каб пераканаць яго ў праўдзівасці сваіх слоў.

— Дзе?

— Там… — нерашуча праказала старая.

— Дзе гэта там?

— Ну, у горадзе… Яна паехала на заработкі ў адзін горад…

— У які?

— Ды я ўжо забылася, як і завуць гэты горад. Ён яшчэ за Варшавай, далёка адгэтуль…

— Дык яна, кажаш, працуе там? На заводзе?

— Ну так, на заводзе… — спяшаючыся, праказала жанчына. Яна пачала хвалявацца, старая Аксіння. Ноткі трывогі чуліся ў яе голасе. Іх заўважыў і Захар.

— А лісты яна піша?

— Ну так… жыва і здарова…

І раптам скрывіліся вусны ў старой, яна ўхапілася рукамі за галаў, і глухі плач, які так стрымлівала яна, вырваўся ўрэшце на волю.

Захар ухапіў яе за рукі.

— Слухай, Аксіння! Чаму ты плачаш? Ты ж сама гаворыш, што яна жыва, здарова… Ну, чаму ж ты плачаш?.. Ты лжэш мне, Аксіння. Ты не хочаш трывожыць мяне… Ну, добра… Я дзякую табе, ты заўсёды была такім харошым чалавекам… Я дарую табе тваю ману, я ведаю, ты ж маці… Але скажы мне праўду… Усю праўду скажы мне, дзе Вярунька. Дзе Вярунька?

І ціха праказала Аксіння:

— Вярунька? Яна ў турме, Вярунька… Але ты не хвалюйся, Захар… Яна сапраўды жыва і здарова. Яна сапраўды піша лісты мне, пытаецца пра цябе ў іх… Яе забралі два гады таму назад, вот калі было Першае мая на нашай фабрыцы. Тады ж і схапілі гэтыя сабакі, у хаце яшчэ ўсё перарылі… Ды што я табе буду

маніць, ты вот сам паглядзі, ты ж ніколі яе не бачыў… Тут у мяне здымак яе ёсць, вот я зараз жа табе пакажу…

Яна ўсхапілася з крэсла, бегам кінулася да скрыні, дзе ў шуфлядцы, як памятаў Захар, былі шпулькі, іголкі, пачатая рукавічка, ножны, клубочкі вышывальных нітак, пара пажоўклых свечак з цьмянай пазалотай — ад колішняга вянчання, напарстак, старыя лісты і ўсякая другая дробязь. А старая ўжо ішла назад, урачыста несучы загорнуты ў газету здымак.

— Дык глядзі, Захар, гэта ж дачка наша! Ты ж яе ведаў зусім малюсенькай, малюсенькай… Ты лямпу бліжэй, вот так!

— Вот гэта добра, Аксіння, што хоць здымак пакажаш мне!

— Я ж берагла… Ён быў у скрыні на самым дне, яго і гады тыя не заўважылі, яны ж кожную паперыну з сабой забралі… Дык вот жа наша Вярунька…

Захар Крымянец прагна глянуў на здымак, неяк здрыгануўся разам, асеў на крэсле. Кардонка выпала з рук. Захар ухапіўся рукамі за край стала, сцяў так моцна пальцы, што пасунуўся абрус на стале, ледзь устояла лямпа на ім.

— Што з табой? — з трывогай запыталася Аксіння.

Яму не хапала паветра. У жалезны камяк сцялася сэрца, ён глядзеў на лямпу і ледзь-ледзь бачыў яе, уваччу было цёмна. Шырока адкрыўшы рот, ён часта дыхаў, стараючыся стрымаць, заспакоіць гэта дыханне. З вялікай цяжкасцю ён прагаварыў да Аксінні:

— Дай мне вады трохі… Бачыш, змучыўся парадкам за дарогу, дык трохі нездаровіцца…

Усю волю, усю сілу сваю напружыў ён, каб гаварыць ціха, разважна:

— То дай жа вады…

— А мне аж стала страшна за цябе, нібы прыпадак які… Як з сэрцам у цябе?

— А нічога, здаровае… Гэта проста мне вот з дарогі…

Ён узяў ужо сябе ў рукі. Спакойна падняў са стала здымак, уважліва разглядаў яго.

Са здымка глядзела на яго «наша Геня».

«Не можа быць… — маланкамі праносіліся думкі. — То ж Геня, слаўны і пакутны чалавек… Дачку ж звалі Вярунькай…»

Але ўспомніў, што яна ж была ў турме… Відаць жа, мела клічку сваю, сваё падпольнае імя, якім і маглі называць яе таварышы. Усё ж не верылася. А можа, і не яна на гэтым здымку. Так хацелася не верыць.

— Дык раскажы, як жа ўсё гэта здарылася ў нас?

— Ды проста ўсё… Прыйшлі і забралі… І мужа, і яе забралі. Кажуць, забілі яго недзе ў дарозе… Яны ж у камсамоле былі абодва, год як ажаніліся перад тым. Яна яшчэ дзіця чакала тады… Дык жа не паглядзелі… Забралі… На край свету павезлі… І я чакаю ўсё, чакаю… Кожнае начы хаджу на станцыю, а мо прыедзе яна… Я і сёння была там… Я ўсё чакаю… Яна ж павінна прыехаць. Цяпер жа людзі выходзяць з турмаў.

Старая плакала зноў, марудна пераціраючы стаканы і блытаючы іх, калі ставіла на стол. Жаласна дзвынкала шкло. Апошнія надзеі Захара таялі, ніклі, згасалі.

Ён сядзеў за сталом, маўклівы і спустошаны, і ціха перагаворваўся з ёю, са старой, аб розных дробязях, каб не даць гэткай прыкрай начной цішыні, якая ціснула на мозг, каб не даць ёй канчаткова расціснуць сябе.

— Ну, дык лажыся, Захар, ды няхай жа табе будзе добры сон з дарогі, адпачывай.

Ніяк не траплялі пальцы за гузікі пінжака, і ён сядзеў колькі хвілін, тупа ўзіраючыся ў пустое, халоднае акно. Такія ж пустыя былі вочы пад суровай навіссю сівых брывей.

І неяк адразу насцярожыўся. Устаў і падышоў да акна, адкрыў невялічкую фортачку ў шыбе. Стаяў і прагна прыслухоўваўся да магутных гукаў, абудзіўшых напятую цішыню начнога горада.

— Ты слухаеш, старая? — узрушана запытаў ён раптам Аксінню, спяшаючыся падышоў да яе, мякка ўзяў яе за руку.

— Ты толькі паслухай! Гэта ж гудзе наша фабрыка!

— Так, гэта гудок нашай фабрыкі… Дык чаго ты?

— Ах, якая ж ты дзівачка! Я ж першы раз, ты разумееш гэта, першы раз за сямнаццаць год чую гудок сваёй фабрыкі… Там жа працуюць, ты разумееш, працуюць… Там жа людзі робяць. Там жа мае таварышы, ты разумееш, таварышы…

Ён горача пацалаваў яе, моцна, да болю, патрос яе бяссільныя рукі, хапіўся за пінжак, за паліто, пачаў хуценька апранацца, не трапляючы па-старэчаму ў рукавы, блытаючы гузікі паліто.

Яна глядзела на яго ў немым здзіўленні. Урэшце запытала:

— Што з табой? Куды ты сабіраешся паначы?

— Я хачу заглянуць да таварышаў… Мне так хочацца пабачыць людзей…

— Божа ж мой, ён яшчэ не набачыўся людзей на сваім вяку!.. Ды позна ж ужо… Цябе не пусцяць і на фабрыку цяпер… У цябе ж няма яшчэ пропуска…

— А гэта ты правільна кажаш… — разгублена пракazaў ён і нерашуча спыніўся.

— А ўсё ж я прайдуся крыху… Хоць каля фабрыкі… Я зараз жа дахаты…

— Ну, што ж, ідзі… Быў ты заўсёды нейкім неўтрапёным і такім, відаць, застаўся і цяпер. Толькі не баўся.

Рэдкі прахожы мог бачыць у тую ноч, як хадзіў па вуліцах дзівацкі чалавек. Ён ішоў то марудна, то прыскорваў свой крок, спыняўся часам і ў трапяткім святле ліхтароў прагна ўглядаўся да надпісаў на сценах, на шыльдах. Прачытае, усміхнецца сабе ў каўнер, нібы сам з сабою загаворыць:

— Вот гэта добра!

Чалавек стаяў колькі хвілін супроць асветленых акон фабрыкі, прагна ловячы кожны гук, прыслухоўваючыся да раўнамернага грукату машын, да мяккага шыпення пары ў трубах.

Чалавека можна было заўважыць на беразе Піны. Ён стаяў, аблеплены снегам, і глядзеў, як у яркім агні ліхтароў рухаліся жалезныя краны, чуліся гучныя галасы людзей, ішла вялікая праца. Аднаўлялі разбураны мост.

— І гэта добра, — прагаварыў чалавек сам сабе. — Аднак жа чакае мяне старая…

Захар Крымянец ішоў, спяшаючыся, дахаты. Роіліся ў галаве тысячы думак, часам смешныя такія, недарэчныя. Вот бы марозцу крыху, каб снег скрыпеў пад нагой, як тады, у далёкім-далёкім дзяцінстве, — ідзеш, а мароз кусае за шчокі, снег гарыць драбнюткімі іскаркамі ды скрыпіць пад нагой. І рада дзіця снежным іскаркам, рада жыццю, якое ўстае перад ім, такое яркае, такое чыстае і такое ж некранутае…

«А ёй не скажу, аднак!.. — падумаў, беручыся за клямку дзвярэй. — Пра дачку ёй не скажу… Яна ж у мяне такая слабая, мая Аксіння… Не перанясе… І зачым жа адбіраць у чалавека надзею…»

Ён хуценька распрануўся ў хаце. І ўсё гаварыў да яе:

— Ну, мы шчэ пажывём з табою, маці!.. Вот разбудзі мяне толькі, не забудзься, каб паспець на фабрыку параней, да людзей…

Яна глянула на яго, дзівілася. Не то ласкавы папрок, не то маўклівая згода былі ў яе вачах.

«А можа, і правы ён, гэты непаседлівы чалавек. Правы з думкамі сваімі пра людзей».

Так думала яна.

*30.XII.1939*

## ВАСІЛЬКІ

Стаяў той асабліва прыгожы дзень, якія бываюць звычайна ў канцы жніўня месяца, калі даўно скончана жніво, звезена жыта ў гумны і над апусцелым полем дружна ўзлятаюць стайкі шпакоў — прадвеснікаў блізкае восені. Зямля здаецца лёгкай, бязважкай, яна ўся дыхае цішай, спакоем. Усё відаць як на далоні: і кожнае дрэва на шляху, і калодзежны жураў у дальняй вёсцы, і зубчасты край лесу, і бялявы дымок далёка-далёка, дзе праходзіць чыгунка. Нават бачыш, як трапечацца зжаўцелы ліст на бліжняй бярозе, як высока-высока ў небе ляціць няведама куды самотная павуцінка.

Над купчастай імшарынай пацешна ўзнімаецца бусел, паважна ляціць над полем, выцягнуўшы ўперад сваю задуменную дзюбу.

— Наш бусел! — ганарыста гаворыць Міколка.

— Хваліся! — смяюцца хлапчукі. — Што ні бусел, дык твой!

— А вот жа наш. Глядзіце! Хочаце аб заклад, на ўсе баравікі… — І Міколка ўзмахвае сваім кошыкам. Поўная ліпаўка баравікоў — жаўцявых, чырванаватых, цёмных, нібы вылітых з медзі — самыя што ні на ёсць грыбы баравыя. Зверху лісты папараці, каб не трапіў пыл у кошык, ды некалькі запазнелых васількоў, якія сарваў Міколка на ўзмежку поля. Васількі — для сястрычкі. Яна хацела пайсці разам з ім у лес, але маці не пусціла: трохі прыхворвае малая.

— Ну што ж, спужаліся, грыбоў шкада! — наступае Міколка на хлапчукоў, размахваючы перад імі ліпавым кошыкам.

Бусел ляціць проста на высокую грушу-дзічку, што стаіць на ўскраі сяла, высокая, разгалістая, з буславым гняздом на самай вяршыні. За грушай Міколкава хата.

— Ага! Я ж казаў вам… — задзірыста гаворыць Міколка і пераможна шмыгае кірпаўкай носа, якая аж залаціцца пад ранішнім зыркім сонцам. Прыжмурыўшы вока, Міколка ўглядаецца ў далёкую грушу, і лёгкая хмурынка прабягае па яго жывым твары.

— Ізноў нехта бусла пужае… Вот спаймаю каторага — дам!

Усе бачаць, як бусел наважыўся быў ужо сесці на гняздо, але раптам узляцеў угору і доўга лятаў, робячы ўсё большыя і большыя кругі, узнімаючыся вышэй і вышэй, пакуль не ператварыўся ў маленькую белую мецінку. І тая знікла, — відаць, паляцеў бусел на сіні лес, што за ракой.

Хлапчукі ўздыхнулі. Нехта задуменна сказаў:

— Вот бы самалёты такія пабудаваць, як буслы. Хочаш сесці на хвою, сеў на хвою, на дуба — на дуба, а то і на хату высокую можна сесці.

— Нашто табе такія самалёты?

— Немца каб біць зручней…

— То ж надумаўся… У нас, брат, яшчэ хітрэйшыя самалёты ёсць. Рр-а-аз — і няма сотні немцаў. Рр-а-а-з — і другой нямашака… Немцы — яны хітрушчыя, а мы яшчэ хітрэй… — рэзка абарваў Міколка хлапчука, марыўшага пра такія дзівосныя самалёты, якія махаюць крыламі і садзяцца, дзе хочуць, як буслы.

Усе задумаліся.

Немцы. Ніхто з хлапчукоў яшчэ не бачыў іх. Праўда, ужо колькі дзён, як ціхімі вечарамі глуха гудзе зямля, і гэты гул нарастае штодня. А ўчора былі частыя ўспышкі на захадзе. Старэйшыя, калі лезлі і чапляліся да іх з запытаннямі дзеці, проста адказвалі:

— Гэта ж паблісківаюць заранкі…

— А чаму грыміць?

— Чаму, чаму… Навальніца будзе. Кладзіцеся спаць…

Хлапчукі, аднак, добра ведаюць пра гэтыя заранкі. Самі ж яны, хлопцы, дапамагалі выганяць жывёлу, якую пагналі на ўсход, каб не дасталося часам дабро ворагу. Жывёлу пагнаў сам старшыня, Міколкаў бацька, ды яшчэ другія калгаснікі. Яны яшчэ не вярнуліся да хат. А перад гэтым прасачыў раз Міколка, як бацька яго разам з другімі дзядзькамі нешта ездзілі ў лес паначы і адтуль прыехалі з пустымі драбінамі. Вазьмі і запытайся тады Міколка:

— То вы гранаты і кулямёты вазілі ў лес хаваць, відаць, пад тыя старыя яліны… Ты ўсё прыглядаўся да іх, калі мы з табой былі ў лесе…

Бацька быў аж здрыгануўся неяк, пацямнеў тварам, але потым спакойна падышоў да Міколкі і, гледзячы яму проста ў вочы — сінія, хітрушчыя, — сурова прашаптаў некалькі слоў:

— Ты глядзі ў мяне, паганец… Калі дзе-небудзь і калі-небудзь ты ляпнеш якое слова, то я… я выцягну даўгі твой язык і павешу цябе на гэтай вось штуцы… — бацька выразна паказаў на крук. Гэта быў звычайны драўляны крук, убіты ў сцяну яшчэ нябожчыкам дзедам. Крук быў смалявы, жоўты, як воск, адпаліраваны, як костка. Харошы быў крук, моцны. Зірнуў на яго спадылба Міколка, моўчкі адышоў ад бацькі. Кепскія жарцікі з ім, з гэтым старым партызанам. А харошы ўсё ж бацька… Трошкі пабойваўся яго Міколка, а любіў яшчэ болей.

…Хлопчыкі падышлі ўжо блізка да агародаў, як учулі плач на ўскраі вёскі. Прыслухаліся — плач раздаваўся і ў другім месцы, і ў трэцім…

— Галосяць… — спуджана сказаў адзін, і хлапчукі разбегліся, раскідаліся, як спалоханыя вераб'і, па сваіх гародах і загуменнях, кожны да свайго двара.

Міколка бачыў ужо з-за плота старую грушу на сваім двары. Паасобныя лісткі трымцелі і свяціліся, як медзь. Уся груша пад сонцам была радаснай і святочнай, ля буславага гнязда не змаўкаў вясёлы птушыны шчэбет: у шчылінах буславага гнязда заўсёды знаходзіла прытулак дробнае птаства.

Загледзеўся на грушу Міколка, спрытна пераскочыў праз плот. Некалькі баравікоў упала з кошыка. Ён падняў іх, старанна абцёр ад пылу, палажыў назад. Сінія васількі асцярожна схаваў за пазуху, то-та ж будзе радасці малой, калі іх выняць знянацку. Намагаючыся надаць свайму твару самы сур'ёзны выраз сталага працавітага чалавека, — хаця і крывіла вусны гэтая здрадніцкая дзіцячая ўсмешка, — Міколка ступіў крок, другі, і раптам затрымцеў, як ліст, збялеў увесь.

Ля ганка, непадалёку ад грушы, ляжала маці на сырой зямлі. Адна рука была падкручана, другой яна прыхіліла і моцна прыціскала да сябе, нібы абараняючы ад каго, Міколкаву сястрычку. Твару сястрычкі не відаць. У мацеры ж такія дзіўныя вочы, нібы глядзяць і не бачаць яго, яе Міколку.

Ліпавы кошык ціха ўдарыўся аб зямлю, бязгучна рассыпаліся грыбы — колькі радасці было ў гэтых баравіках у лесе. Дзе ж падзелася, дзе памеркла гэтая радасць? І здаецца Міколку, нібы лес гудзіць, страшна, страшна. Нібы хістаюцца злосна дрэвы, нібы самая груша пахілілася раптам, хоча ўпасці на яго, прыціснуць да халоднага пяску. Страпянуўся Міколка, удыхнуў паветра глыбей і, упаўшы на калені, прынік да маці.

— Мам… а мам… ну чаго ж ты маўчыш?

Дакрануўся да матчынай рукі, яна была халоднай, як лёд, цяжкай.

Заплакаць бы Міколку, на ўвесь свет заплакаць. Ды чуе ён галасы ў хаце, чужыя словы. Хіба можна слёзы свае чужым людзям паказваць? Гулка бразнулі дзверы. З хаты выйшлі людзі. Яны груба адштурхнулі Міколку ад ганка. Яны нешта неслі: ці то матчыны коўдры, ці то новае бацькава паліто. Яны некуды спяшаліся, гэтыя людзі ў нязвыклым адзенні, у нязвыклым для Міколкі абутку. Нібы на конскіх капытах, паблісквалі цвікі на падэшвах іх ботаў.

«Немцы…» — мільганула страшная думка.

І ён не глядзеў на іх, не хацеў глядзець, пакуль не зніклі іх цяжкія крокі. Ён убачыў кроў. У крыві была рука сястрычкі. Міколку стала вельмі горача, падкошваліся ногі. Але ён устаў, выцер успацелы лоб, стараючыся зразумець, што ж адбылося з ім, што адбылося з маці, з яго маленькай сястрычкай. Узрушана шалахцела дзедаўская груша-дзічка, самотныя пчолы лыталі, кружыліся вакол спелых груш-гнілушак. Трывожна шчабятала дробнае птаства, і толькі сонца спакойна ўгравала саламяную страху, чырвоныя вяргіні пад акном. А на сэрцы было пуста і чорна, нібы ўзяў хто маленькае Міколкава сэрца і выціснуў з яго ўсю гарачую кроў. Ды каменем навісла над ім неадчэпная думка: нешта ж трэба зрабіць.

Нешта ж трэба зрабіць…

Ён перайшоў вуліцу, зайшоў на двор дзеда Нупрэя. То ж стары чалавек, яму год дзевяноста, ён дапаможа, параіць. Стары сядзеў на прызбе. Заўважыўшы Міколку, ён кінуўся завіхацца ля новага грабільна. Пачаў стругаць яго нажом і ўсё гэта рабіў з такім сярдзітым выглядам, што аж варушыліся, тапоршчыліся густыя сівыя бровы. Міколку стала нязручна. Ён маўчаў.

— Ну, чаго ты? — не гледзячы на яго, запытаўся дзед.

— Мамцы худа… відаць, нежывая… Яна і сястрычка…

— А ты не пужайся… Мамку тваю немцы забілі… афіцэры. Ды не ў цябе аднаго…

— Што ж рабіць нам, дзеду?

Дзед Нупрэй так усхадзіўся з нажом, што нечакана аж перарэзаў грабільна і, плюнуўшы злосна, кінуў яго за плот, узрушаны чымсьці, прысеў на прызбу.

— Вот што, братачка…

А гаварыў ён «братачка» толькі сталым ды паважным людзям, а не якому-небудзь падшывальцу Міколку.

— Садзіся вот… Ну, што мы з табой — адно старое, другое малое… ці мы што зробім? Пачакай вот — прыйдзе бацька твой. Мы дамо тады рады… ім… Ды ты пастой! Не хадзі туды… у хату. Начуй у мяне.

Але Міколка пайшоў. Стары праводзіў яго доўгім позіркам, сказаў сам сабе:

— Ну што ж… Упартае хлапчанё, у бацьку пайшоў. Няхай ідзе, хоць выплачацца малое…

І Міколка плакаў. Зашыўшыся ў каноплі, ён праляжаў усю ноч, пакуль не выплакаў усіх слёз. Не на людзях жа слёзы пускаць Міколку, яму ж трынаццаць год, ён жа мужчына. А раніцай

бачылі людзі, што ён хадзіў чагосьці ў лес. Потым доўга распытваў старых, па якой дарозе і куды пайшлі немцы.

Потым доўга корпаўся ў хаце, сабіраючыся ў дарогу. Цяжка было знайсці патрэбныя рэчы. Разбітыя талеркі, парваныя партрэты, адзенне, яго кніжкі, сшыткі, — усё гэта ляжала параскіданым злой рукой на падлозе. Ён узяў сваю старую школьную торбачку, якую пашыла яму маці, калі быў ён яшчэ ў першым класе. Напакаваў яе, усунуў туды і стары абгрызены пенал, любімы сшытак. Пастаяў з хвіліну пад роднай грушай, клапатліва прыкрыў старэнькай, але чыстай скацеркай твары мацеры, сястрычкі і пайшоў, не азіраючыся, агароднай сцяжынкай.

* * *

Яго бачылі потым у мястэчку, праз якое праходзіў бальшак.

Ён стаяў, прыхіліўшыся да тэлефоннага слупа, усё ўглядаўся на дарогу. Нехта паспрабаваў пакпіць над ім: «Ці не ў школу ты, хлопча, сабраўся, дзе ж віданы цяпер тыя школы».

Міколка нічым не азваўся на гэты голас.

Прад ім праходзілі ўзброеныя людзі — купкамі, калонамі, у адзіночку. Узнімаючы слуп пылу, імчаліся грузавікі, грукацелі гарматы на каменным бруку. І ўсё — чужыя людзі, чужыя машыны, чужыя гарматы. Ён часам ажыўляўся на секунду, адрываўся ад слупа, але зноў гарэў запылены твар, бяссільна апускаліся рукі. І вось ён прыйшоў, гэты доўгачаканы час. Цяпер не можа быць ніякага сумнення: гэта яны, гэта тыя, што замучылі яго маці, яго сястрычку, адабралі ад яго светлае сонца.

Уперадзе коннікаў ціха пасоўваўся вялізны аўтобус. Яшчэ не выцвіў лак на ім, не пасцерліся незразумелыя жоўтыя літары і знакі. Праз адкрытыя вокны бачыў ён чорныя мундзіры, чорныя шапкі з чырвонымі кантамі. І на шапках і на мундзірах людскія чарапы, скрыжаваныя косці. Нехта з гэтых людзей гучна гаварыў, нехта смяяўся. П’яную песню цягнулі ехаўшыя ззаду коннікі, і песня была шэрай, як пыл, цяжкай, як камень на сэрцы.

Міколка падцягнуўся ўвесь, сцяўся ў пругкі камяк і ў імгненне вока апынуўся ля самых вокан машыны.

— Наце ж вам… за маці, за сястрычку маю!

Ён проста перакінуў у акно нейкі скрутак, загорнуты ў газету. Асляпляючы слуп агню і жалеза адкінуў яго далёка на прыдарожны пыл. Выскаліўшы пеністыя храпы, уздыбіліся коні. Пазляталі шапкі з коннікаў, сёй-той бразнуўся вобзем. Чуліся разгубленыя каманды. З перакошанымі ад страху тварамі беглі

салдаты з насілкамі, з лапатамі. Рэшткі машыны дагаралі на дарозе, дыміліся, тлелі на каменнях чорныя мундзіры. Да Міколкі падскочыў спешаны коннік, сівы нямецкі вахмістр. Ён выстраліў некалькі разоў у Міколку і потым, нібы спужаўшыся чагосьці, хутка схаваў у кабуру задымлены рэвальвер і, ссутуліўшыся, унікаючы зірнуць у Міколкавы вочы, падаўся прэч, да тых, што расчышчалі дарогу, сям-там пасыпаючы яе жоўтым пяском.

Міколка не чуў гэтых стрэлаў, яму было ўжо ўсё роўна. Нерухомым позіркам ён углядаўся ў блакітнае неба, нібы прыслухоўваўся да былых сваіх думак: аб нянавісці, аб помсце. Застыглы твар стаў калючым, суровым, нібы пражыў Міколка доўгія дзясяткі год, усё перажыў, усё пабачыў на свеце. І толькі на вуснах засталіся — ні агонь, ні жалеза не змаглі іх сцерці — сляды ўсмешкі, слаўнай, дзіцячай.

Побач ляжала яго торбачка з раструшчаным пад салдацкім ботам пеналам. Ды выпалі з-за пазухі і ляжалі ў пыле запазнелыя восеньскія валількі.

Сінімі васількамі адцвіталі і вочы хлопчыка.

*1942*

## ІРЫНА

Ледзь прыкметна пакачваўся паравоз, аднастайна пастуквалі рэйкі, гудзела ў топцы. Надаедліва шыпела пара, вырываючыся танюткім струменьчыкам, — там раслі, пузырыліся кіпучыя каплі вады і, марудна скатваючыся, цяжка зрываліся з начышчанай медзі краніка.

Гарачым цяплом палыхала ад топкі. Зліпаліся вочы, хіліла да сну. Ірына павярнулася да дзверкі паравознай будкі. Намокшы брызент цяжка хлопаў па сталёвых поручнях. З халодным ветрам урываліся частыя каплі дажджу, адганялі сон, бадзёрылі.

Няскладны машыніст у пацёртай нямецкай форменцы быў заняты не зусім звычайнай для яго працы справай. На падлакотніку акна стаяў невялічкі кошык, паўнюткі яйкамі. Асцярожна перабіраючы іх, атрахваючы мякінную пацяруху, машыніст браў яйка і ўважліва ўглядваўся ў яго на святло маленькай электрычнай лямпачкі і, страшэнна заклапочаны, пракалупваў ножычкам малюсенькую дзірку ў шкарлупцы. Загадзя выцягнуўшы трубачкай губы, ён урачыста падносіў яйка да рота і, задраўшы галаву так, што відаць быў напяты, зморшчаны кадык,

паволі, з яўнай асалодай, высмоктваў яйка. Марудна аблізваў пракураныя вусы і, адставіўшы руку з пустой шкарлупінай, гаварыў паважна, расцягваючы кожнае слова:

— Ах, добра! Ах, як добра! — і, улагоджаны, пацепваў па плячы Ірыну, мнагазначна падміргваў ёй бялёсым вадзяністым вокам. І ўся постаць яго, самадавольная, з абвіслым брушком, з наліпшымі да вусоў шкарлупкамі, і нос у жаўтках — усё гэта было так смешна і так не пасавала яго ўрачыстым жэстам, што Ірына не вытрымала, усміхнулася.

Усміхнулася ўпершыню за гэтыя некалькі месяцаў.

Машыніст па-свойму зразумеў усмешку, як пэўную даніну сваёй асобе, падцягнуўся, расправіў вусы, штосьці сярдзіта мармытнуў качагару. Стомлены хлопец цяжка ўзняўся з сядзення, з сэрцам узяўся за доўгую жалезную лапату і, адчыніўшы топку, стаў падкідваць вугаль.

Усмешка лунала яшчэ на шчоках Ірыны, змагаючыся з водбліскамі зыркага полымя, але вочы яе былі жорсткімі і халоднымі. Толькі рукі дрыжалі. І, каб не выдаць свайго хвалявання, Ірына дастала з вузялка скарынку хлеба, грызла яе, прагна ўслухоўваючыся ў перастук калёс, уважліва ўглядаючыся ў шчыліну пад брызентам.

Вецер расхінаў брызент, злосна пахлопваў ім. Тады добра было відаць Ірыне, як праляталі побач знаёмыя мясціны. Вось прамільгнулі тры сасонкі, стары дуб з вуллямі, замільгалі бярозкі. Хутка будзе пераезд, потым закругленне, а там…

«Час ужо».

Думка апаліла, як порах. Колькі ні рыхтавалася ўнутрана Ірына да гэтай хвіліны, ёй здалося ўсё ж такім нечаканым і нават страшным усё гэта. Халоднай ільдзінкай кальнула ў сэрцы: ці ўдасца, ці не пашкодзіць хто-небудзь… Завывала ў топцы полымя, жоўтыя, чырвоныя звіваліся вогненныя языкі. Струменіліся, снавалі празрыстыя залацістыя ніці. Яны прымалі самыя нечаканыя абрысы, дзівосныя адценні: ад расплаўленага золата да спелай жаўціні аўсянага снапа.

«Валасы ў яго былі такія ж прыгожыя…» — мільганула ў думках. Неяк адразу пацяплела на сэрцы, з'явілася спакойная ўпэўненасць.

— Родны мой, маленькі мой… — бязгучна шапталі вусны, а рукі ўпэўнена звязвалі вузялок, пальцы адлічвалі апошнія секунды.

Блізіўся час.

…Як шчасліва, сонечна адцвілі гэтыя апошнія гады. Пяць год таму назад сышліся яны, пажаніліся. Нават і не заўважыла Ірына,

як адляцела бесклапотнае дзявоцтва, з песнямі, з пагулянкамі, познімі карагодамі, з лёгкімі і мінучымі дзявочымі крыўдамі, з вясновымі світаннямі, калі пахучы і празрысты бярозавы клейкі ліст, калі росы на золаку бываюць кусачымі, і ў кожным кусце столькі салаўіных песень, што заслухаешся іх і забудзеш — а колькі ж разоў цябе пацалуе…

Яны паставілі маленькі чысценькі домік пад старой ліпай. Пасадзілі некалькі яблынь, вішань. Пад вокнамі цэлы кветнік. Былі то Ірынчыны клопаты, каб весела было маленькаму Васільку. Ён так любіў кветкі і пчол, матылёў, вясёлых майскіх хрушчоў, залятаўшых у зялёны палісаднік. Па-ранейшаму пела песні Ірына, і яшчэ дружней гарэла праца ў яе руках, руках калгаснай ільнаводкі. Яна была ўсё той жа рэзвай клапатухай і магла паспрачацца з любой дзяўчынай у калгасе: і ў песні, і ў дасціпным жарце, і на любой працы. Таму вось па нядзелях заўсёды заліваўся гармонік у іх пад акном, шумела гаманлівая моладзь, гулка гудзела ўтаптаная зямля — хлопцы і дзяўчаты скакалі кадрылі, кружыліся ў лявонісе, у бясконцых крыжачках і польках…

Харошы быў гарманіст Ігнась — муж Ірынкі, майстар на працу і на весялосць.

Усё гэта скончылася, абарвалася, як радасны сон. Ігнась пайшоў разам з другімі на вайну. Развітаўся, узяў на рукі чатырохгадовага Васілька, расцалаваў яго і, углядаючыся ў сінія, як цвет ільняны, васільковыя вачаняты, сказаў, папрасіў:

— Захавай яго… Які ж ён асілак у нас… Во!.. Адзін вось толькі… Ну што ж…

Спяшаючыся, пацалаваў абаіх, пайшоў. Дзе ён цяпер?

Потым наляцелі шэрай хмарай гэтыя — ненавісныя, бязлітасныя, чужыя. Жыццё неяк памеркла адразу, стала шэрым, панурым. Адцвілі і пагнілі ў полі льны. Палягло на вытаптанай і размоклай зямлі пацямнеўшае жыта. Прарастала ў коласе ярына. Усё пайшло прахам і пылам. Людзі даўно забыліся пра песні, пра вясёлае слова. Уздыхалі, плакалі бабы, углядаючыся ў злавесныя водсветы начных пажараў. Панурыя, злыя хадзілі мужчыны, аб чымсьці перашэптваліся, спрачаліся, дамаўляліся.

Усё часцей наведваліся немцы, шукалі зброю, партызан, выганялі апошні хвост з хлява, выграбалі апошняе каліва зярна з клеці. Спалілі для страху некалькі хат, наладзілі дзікую расправу над двума старымі, якія адмовіліся сказаць што-небудзь толкам аб партызанах. Старых вывелі на калгасны двор і павесілі на дуплаватай паўзасохлай бярозе. Мужчыны амаль што ўсе пайшлі ў лес. У вёсцы стала ціха і панура, як у магіле.

І вось здарылася гэта страшнае.

З праходзіўшага па чыгунцы эшалона чыясьці п'яная, разбэшчаная рука кінула некалькі пустых бутэлек у групу дзяцей, якія гулялі на пясочку. Ірына была ў хаце, калі суседкі ўнеслі і моўчкі палажылі на ўслончык пасінелы дзіцячы трупік.

— Васілёк мой! — глуха ўскрыкнула Ірына, схапіла аберуч дзіця і — страшная, збялелая — прагна цалавала яго, перабірала зліпшыяся светлыя валосікі, змывала з цемені кроў і ўсё заглядвала ў закаціўшыяся дзіцячыя вочы.

— Вочанькі вы мае, ласкавыя… Нежывыя вы… нежывыя…

Яна прыціскала да сябе дзіця, хутала яго ў старую коўдрачку, сагра//вала сваім дыханнем, як бы збіраючыся зацяпліць жыццё ў гэтым маленькім і хрупасткім цельцы. Толькі позна ноччу жанчыны сілком адабралі ў яе дзіця, абмылі яго, прыбралі, палажылі на стол. Раніцой, спяшаючыся, пахавалі на могілках. Доўга сядзелі з Ірынай. Баяліся, каб не зрабіла яна чаго худога над сабой.

З таго часу згасла ўсмешка на твары Ірыны. Яна стала замкнёнай, маўклівай. Усё глядзела з акна на праходзіўшыя цягнікі, эшалоны, засяроджана думаючы аб нечым сваім, цяжкім, часам шаптала:

— Усё на нас вязуць, на нашых… Крыві нашай ніяк не нап'юцца.

А калі ў партызанскай групе сур'ёзна загаварылі аб узрывах чыгункі, яна проста сказала:

— Гэта зраблю я…

Ніхто не спрачаўся, не пярэчыў, ёй толькі сказалі, што гэта вельмі цяжкая справа. Што за яе трэба брацца з розумам, з разлікам. Іначай— гібель, дарэмная кроў сваіх людзей.

— Я ж сказала… Зраблю… — скупа адказала Ірына.

Згадзіліся.

Трэба было ўзарваць мост.

Гэта сапраўды была цяжкая справа. Мост узмоцнена ахоўваўся, да яго не падступішся. Трэба было шукаць другія сродкі. Дамовіліся аб узрыве на мосце праходзячага цягніка.

Да гэтага часу Ірына выконвала ў атрадзе даволі простую работу. Пад яе ведамам знаходзіўся невялічкі склад боепрыпасаў, паблізу дамка, у дупле старой, разгалістай ліпы. Яна добра ўжо ведала ўсе тайны дынаміту, асабліва сці мелінітавых шашак. Але яна толькі хавала іх. Цяпер яна сама павінна ўдыхнуць у гэтыя няхітрыя рэчы страшэнную, усёзнішчальную сілу разбурэння. Праўда, ёй сказалі, што яна толькі прынясе вузялок з падрыхта-

ваным зарадам на раз'езд, які побач з калгасам. Нямецкі эшалон будзе браць там дровы. Сярод дрывакладчыкаў свае людзі. Яна павінна толькі непрыкметна перадаць ім вузялок, звычайны вузялок са звычайным абедам у двух завязаных гаршчочках. А потым яна можа вярнуцца. Тыя людзі завершаць справу.

Яна пайшла. Сабрала вузялок. Узяла кошык яек — для адводу вачэй, на адчэпнае. Прыйшла пад вечар на раз'езд. Падышоў і гружаны цягнік: жалезныя платформы з гарматамі, танкамі, некалькі закрытых вагонаў, з дзясятак цыстэрнаў. Паравоз сапраўды браў дровы. Але абумоўленых людзей на месцы не было. Магло стацца, што яны сёння не працавалі, ці якая іншая прычына была, але іх не было. Ірына прайшлася некалькі разоў зводдаль каля эшалона, параўнялася яшчэ раз з паравозам і ўжо гатова была — сумная, гаротная ад няўдачы — пайсці ў вёску, як прывязаўся машыніст, які завіхаўся ля паравоза. Ён прыкмеціў яйкі ў кошыку.

— Ах, яйкі! Ах, добра! Ах, як добра! Прадаеш?

Ён гаварыў трохі, хаця і кепска, па-руску. Ірына разгубілася спачатку, збянтэжылася. Але нечакана для сябе загаварыла спакойна і незалежна:

— Не прадаю… Хочаш, падвязі да станцыі… Дзесяць кіламетраў. Увесь кошык тады будзе твой…

Немец глядзеў, аблізваючыся, на кошык, гаечным ключом пачасаў каленца, зірнуў уздоўж эшалона, нерашуча крыкнуў:

— Хм… Чорт… Садзіся!..

Ірына паехала на паравозе, радуючыся ў душы такой нечаканай удачы.

…Апошняе дрэва прамільгнула каля паравоза. Вось-вось будзе мост. Качагар збіраўся ўжо закрыць дзверку топкі, калі пасуровеўшая адразу Ірына імклівым рухам кінула ў топку вузялок. Спалоханы машыніст адхіліўся ад акна, жорстка схапіў яе руку.

— Зачым ты гэта?

Нешта хацела сказаць Ірына і не паспела. Усё ўзнялося ў вогненным смерчы, патанула ў грукаце, скрыготах, у завываючых маланках узрываў. У змрочным вячэрнім небе замігцелі крывавыя заранкі. Сталі жаркімі, багровымі восеньскія воблакі, якія, спяшаючыся, нізка пралятаі над зямлёй.

Убіраючы неба ў чырвань, зарыва палыхала ўсё шырэй і шырэй.

*1942*

## ДЗІЦЯЧЫ БАШМАЧОК

Сонечны прамень трапіў на твар дзіцяці, жарка ўспыхнуў у русай шапцы валос.

Гэта вывела жанчыну з задуменнасці. Прызвычаеным рухам яна зняла хустку з галавы, клапатліва развесіла яе на галінках, паправіла руку дзіцяці, асцярожна выняла з потнага дзіцячага кулачка каменьчык, прыліпшую да далонькі хвойную іглiцу. І, гледзячы на гэтую маленькую далоньку, усміхнулася чамусьці, уздыхнула, прыхілілася шчакой да дрэва. Шурпатая кара дрэва была цёплай, пахучай. Янтарна паблісквалі на чырванаватым ствале пацёкі смалы. Залацістымі іголкамі прашывалі паветра навакол яго імклівыя жоўтыя восы. Яны ціха звінелі, і іх звон зліваўся з сухім строкатам конікаў.

Была нясцерпная сухмень. Пахла гар’ю. Паўнеба на захадзе было пакрыта агромністай цёмнай хмарай. Жанчына не глядзела, яна баялася глядзець туды. Увушшу стаяў яшчэ злавесны рокат агню, завываючы візг металу, грукат падаючых сцен. Як перад вачмі — павіс, качаецца на правадах падгарэўшы слуп. Струнамі гудуць правады, прагнае полымя шалёна ўзвіваецца ўверх, ападае. І зноў то выцягваюцца, то абрываюцца яго жоўтыя языкі, паўзуць, пераскакваюць, асыпаюцца дымнымі іскрамі. Вось-вось упадзе слуп, абарве распаленыя да чырвані правады. Хутчэй бы прайсці, праскочыць гэтае страшнае месца. Навакол агонь, дым, удушаючы пах пажарышча. Бітае шкло звонка храбусціць пад нагамі.

…Жанчына прыслухалася да няроўнага, уздрыгваючага дыхання дзіцяці, бяспомачна прыпала да зямлі.

— Ды што ты надумалася, Нехама? — знарок сурова гаворыць ёй, тармосячы за плячо, яе суседка Вера. Суровасць ніяк не пасуе да гэтай маленькай і рухавай, як жывое срэбра, жанчыны, да залаціста-папяловага ззяння яе валос, з-пад якіх усміхаецца вам такі вясёлы, увесь у сонечных вяснушках твар.

— Баюся… Напалоханы ён… — вачмі паказвае на дзіцёнка маці.

— А ты не бойся… Усё гэта дробязь… Пройдзе… Добра вось — жывы мы, дзеці жывы… І мужчыны нашы… таксама будуць жывы…

Угаворваючы голас пастунова робіцца ціхім, упрошваючым. Непрыкметна дакрануўшыся да вільготных воч, Вера пачынае гаварыць, спяшаючыся, гучна:

— Глядзі, колькі ягад будзе ў гэтым годзе… Вунь цвітуць як…

— Так… ягады… — безудзельна шэпча жанчына, думаючы аб нечым сваім, заветным.

— Ды ты паглядзі!

— Пакінь…

Яны змаўкаюць. Яны разумеюць адна другую з паўслова, гэтыя дзве маленькія суседкі, як іх празвалі, дзве швейніцы з адной фабрыкі. Яны і на фабрыку прыйшлі з аднаго і таго ж мястэчка, жылі ў горадзе ў адным доме, амаль што разам абзавяліся маленькімі сем'ямі. У Нехамы сын сямі год, Барыс, у Веры двое меншых дзяцей.

Жанчыны суцяшаюць адна другую ў дарозе. Па чарзе. Часам не вытрымаюць, горка ўсплачуцца абедзве, уткнуўшы галовы ў зялёную прахалоду папараці. Сударгава ўскалыхнецца папараць. Пацямнее тварам сівая Анісся — дворнічыха. Яна тут жа, з імі.

— А яшчэ маладыя. Што ж нам рабіць?

Сорамна перад Аніссяй. Сорамна перад другімі жанчынамі. Іх многа тут, разам з дзецьмі.

Маленькія суседкі ўсміхаюцца, яны стараюцца ўсміхнуцца.

— Ды хіба мы… Мы проста… так…

— Ведаю я вас… Ну, ладна… Самы раз дзяцей будзіць, час у дарогу…

І ўсе просяць:

— Яшчэ б хвілінак з пяток… Няхай паспяць…

Салодкі сон дзіцячы пасля пылу, духмені. І дарослых хіляць да сну пахі чабору, багуну. Халодны брусьнічнік сунімае боль пацёртай нагі, мякка нікне галава да пушыстага моху ўгрэтай сонцам купіны. Гарачае паветра струменіцца навакол чырванаватага ствала, які ўзняўся высока-высока ў нерухомую сіняву неба. Ледзь-ледзь трапечуцца блакітныя павуцінкі, птушыная пярынка, прыстаўшая да смалы. Залацістымі іголкамі прашываюць паветра жоўтыя імклівыя восы.

Унізе цвітуць, адцвітаюць суніцы.

* * *

Усё адбылося хутка, як сон.

Яны з'явіліся непрыкметна, нечакана выскачыўшы з-за павароту лясной дарогі. Заўважыўшы людзей, схапіліся за аўтаматы, але, убачыўшы, што перад імі толькі жанчыны, дзеці, яны, не глушачы матораў, спыніліся ля дарогі, некаторыя сышлі з матацыклаў. Потныя, запыленыя, пайшлі між людзей, бесцырымонна заглядваючы ў пабялеўшыя твары жанчын, наступаючы на ногі

дзецям. Адзін ударыў наском бота ў маленькі клунак. Пярэстая хустка ўзляцела ўгору. З яе выпаў кавалак хлеба, бутэлька малака мякка ўпала на мох. Яе падхапіў цыбаты салдат і, захлёбваючыся ад смеху, у два-тры глыткі асушыў яе, лоўка запусціўшы пустой бутэлькай у хвою. Астатнія кінуліся латашыць клункі, кошыкі, незайздросныя торбачкі. Прагна накідваліся на малако, перахоплівалі адзін у другога здабычу, гучна пацяшаліся над няўдакамі. Залатушны яфрэйтар, пазней другіх пакінуўшы матацыкл, пачынаў злаваць. Адну за другой разбіў ён некалькі бутэлек з вадой. У апошнім кошыку ізноў вада. Коратка вылаяўшыся, ён прыўзняўся ад кошыка і, часта мігаючы выцвілымі рудымі расніцамі, цяжка агледзеўся навакол. Надрыўна плакалі дзеці. Мацеры прыкрывалі іх рукамі, ціха шапталі:

— Не трэба… Не трэба плакаць…

Залатушная шыя яфрэйтара набіралася чырвані. Нехта з салдат не да ладу рассмяяўся. Сурова агрызнуўся на яго яфрэйтар і тут жа сарваўся на крык, на істэрычны воклік:

— Да д’ябла, да чорта ўсё… Хто гаспадар тут?

Залатушны твар залівалі плямы чырвані, тапоршчылася пад носам пракураная шчапоцька вусоў, абсіveраны рот пырскаўся слінаю. Яфрэйтар бегаў, крычаў, загадваў, каб зараз жа адышліся ўбок яўрэі.

Ціхі ўздых пранёсся над палянай і знік, праглынуты мхамі.

Сёй-той нерашуча ўстаў. Прыўзнялася на калені Нехама. Яе схапіла за рукі Вера, настойліва пацягнула ўніз.

— Не хадзі, табе гавару, не хадзі… — шаптала яна сухімі, бяскроўнымі вуснамі.

Нехама апусцілася на зямлю. Прыкрыўшы твар далонямі рук, яна сядзела ў цяжкім задуменні. Абхапіўшы яе калені, усё ўпрошваў маленькі сын:

— Ты не пужайся, мама… Гэта не страшна…

«Гэта не страшна», — так суцяшала яго маці ў гэтыя два дні, неаднойчы прыкрываючы яго сваім целам, калі чорныя цені самалётных крылляў праносіліся над імі і пыльная, белесаватая шаша раптам рабілася чорнай ад фантанаў гразі, ад тарфяных камякоў, веерам асыпаўшых дарогу.

— Гэта не страшна… — і хлопчык плакаў, стараючыся зазірнуць у твар мацеры, у яе вочы. Але дзіўная рэч — маці адсоўвалася ад яго, мякка, але настойліва адхіляла яго ад сябе.

— Беражы яго, Вера…

Цёця Вера пацягнула яго да сябе, да сваіх малых, засланіла ад мацеры. Яна чамусьці кусала — гэта цёця Вера — да крыві

сваe пальцы, сударгава сціснула яго локаць і, прыкрываючы яму рот рукой, усё гаварыла, гаварыла:

— Ты не бойся… маўчы… маўчы…

Раздалося некалькі прыглушаных ускрыкаў:

— Забойцы вы, звяры!.. — голас абарваўся, замоўк.

Плакалі жанчыны навакол, ды гучна смяяліся нечаму салдаты. Яны білі па хвоях знятымі курткамі, выбівалі пыл. Шэрыя паласы лажыліся на чырванаватыя ствалы. Нехта з салдат мыў рукі ў ручаі і, ажыўлена размахваючы імі, аб нечым расказваючы, часта абарочваўся назад, да шэрых куртак. Шэрыя курткі рагаталі.

Рогат нечакана спыніўся. Праз паляну бег хлопчык. Пранозлівы дзіцячы крык успугнуў птушак на вяршаліне хвоі, яны ўзняліся, успырхнулі над палянай.

— Мама… мамачка… я не хачу… ты мая мама…

Услед за ім бегла жанчына, стараючыся злавіць яго за руку.

— Назад… назад… ах, божа ж мой…

І можа, убачыла што, ці здалося што цёці Веры… Голас яе надарваўся, стаў рэзкім, калючым:

— Вы… вы… не рабіце гэтага… Гэта дзеці… Гэта сын мой…

Скупа грымнулі стрэлы — адзін, другі. Хлопчык як бы спатыкнуўся і, узіраючыся здзіўленымі вачмі ў бязмежную сіняву неба, нібы прынік на хвіліну на выцвілыя пад сонцам верасы. Схапіўшыся за грудзі, жанчына апусцілася на калені і штосьці хацела сказаць, але нахілілася і цяжка ўпала ля вялікага каменя, абросшага знізу зелянявым слізкім мохам. За каменем журчаў ручай.

Трэск матацыклаў разарваў хвілінную цішыню на паляне. Па дарозе пад’ехала другая група матацыклістаў. Раздалася кароткая каманда. Салдаты хутка ўсаджваліся на машыны і, падняўшы клубы густога, цяжкага пылу, паехалі далей па змрочнай лясной дарозе. Залатушны яфрэйтар сабраўся апошнім. Ён спыніўся каля хлопчыка. І, цяжка нахіліўшыся, не гледзячы на твар дзіцяці, стаў расшнуроўваць дзіцячы башмачок. Рабіў ён гэта дбала, па-гаспадарску. Зняў адзін, спяшаючыся, узяўся за другі. Туга сцягнуты шнурок не паддаваўся агрубелым пальцам. Салдат усеўся на зямлю, каб зручней расправіцца з непадаткім шнурком. Доўга корпаўся ў кішэні, дастаючы складны ножык. Разняў яго і раптам здрыгануўся і падаўся быў усім целам ад дзіцяці. Дзіцячая рука сударгава паднялася і жорстка кранулася рудай шчаціністай шчакі салдата. Яфрэйтар мармытнуў нешта ў нос з перапугу, але, зірнуўшы спадылба на хлопчыка, зразумеў

усё і супакоіўся. Чорт бы ўзяў гэты пракляты шнурок, колькі навалэндаешся з ім! Але толькі ён узяўся за шнурок, як гучны ўдар па касцы ледзь не ашаломіў яго. Камень упаў радам з ім. Па-зладзейску, трасучыся, азірнуўся яфрэйтар. Рудая шчаціна пакрылася мокрай іспарынай. Хутка-хутка замігалі выцвілыя расніцы. Ён прыкрыў быў рукамі твар, потым спахапіўся, кінуўся да аўтамата.

Старая, сівая жанчына ішла на яго, сударгава сціскаючы ў кашчавых руках цяжкія каменні. Кожная складка сухога, старэчага твару поўнілася суровай рашучасцю. Дзіўным бляскам свяціліся заняпаўшыя вочы, страшныя, немігаючыя вочы старой. За ёй пасоўваліся змрочныя, злавесныя постаці жанчын. Ён бачыў каменні, нейкія разгаліны з дрэва, якісьці кавалак жалеза — ці то абломак абруча, ці то сплюснутая шына ад кінутага каляса.

«Адкуль яны маглі ўзяць жалеза?» — мільганула такая глупая і непатрэбная ў гэтую хвіліну думка.

Ён падаўся на крок назад і, адчуваючы, як халадзее і ліпне да шыі стаўшы раптам цесным каўнер, хутка выстраліў у іх ва ўпор. Аўтамат упаў на зямлю — востры камень балюча выцяў руку, другі абадраў твар. Яны ішлі, злавесна пасоўваліся на яго, прыскорваючы свае крокі. Ссутуліўшыся, ён кінуўся быў да машыны. Услед пасыпалася каменне. Матацыкл быў глухі — выгнутая каменем нага не магла даць рады матору. Машына стала раптам чужой, непатрэбнай. Салдат перабег дарогу, скочыў праз канаву і, спатыкаючыся, накульгваючы, бег уздоўж ручая ў глыб лесу. Ён скінуў каску, пояс, хапаючыся, распахнуў і скінуў запыленую куртку. Жанчыны абганялі яго злева, абыходзілі справа. Бегчы станавілася цяжэй. Ногі правальваліся скрозь мох, гразлі ў ліпкай, цягучай твані балота. Занімала дыхаць, каплі поту траплялі ў вочы, засцілі ўсё.

І тады ён зразумеў, адчуў: нікуды не ўцячы яму больш ад іх. Ніколі не ўцячы яму ад гэтай сівой старой, ад яе вачэй, страшных і няўмольных, напоеных гневам і нянавісцю. Уцягнуўшы голаў у плечы, задыхаючыся, ён упаў на мяккую, падатную зямлю. Панура прашурхацелі пачарнелыя ля самай зямлі асокі, трывожна ўспырхнула напалоханая сарока, ды зямля, усхадзіўшаяся хадуном, уздыхнула буркатліва, працягла.

Больш ён нічога не чуў і не бачыў.

А на паляне плакалі дзеці. Некаторыя, большыя, палахліва пазіралі на белы камень ля ручая. Там, на шэрым пяску ля вады, нерухома ляжалі чужыя мамы.

На прытаптанай траве самотна чарнеў дзіцячы башмачок. Вялікі руды муравей цяжка ўзбіраўся на яго са сваёй нош-

кай — сухой верасінкай. А калі ўзабраўся, патаптаўся нерашуча на месцы і — чамусьці зжахнуўшыся — спяшаючыся паклаў сваю ношку, імкліва кінуўся ўніз па гэтай нязвыклай для сябе сцяжынцы.

Чырвоныя ствалы соснаў высока-высока ўзнесліся ў глыбокую і нерухомую сіняву неба. Залацістымі іголкамі прашывалі паветра жоўтыя імклівыя восы. Унізе пахла чабаром, багуном, ледзь улоўнымі пахамі зялёных верасоў.

А ўнізе навакол цвілі, адцвіталі суніцы.

*1942*

## САЛЮТ

З нізенькага падвальнага акенца кацельні штодня бачыў ён, як збіралася раніцой у інстытут гэтая непаседлівая, гаманлівая моладзь. Ішлі хлопцы; беглі, каб не спазніцца, мітуслівыя дзяўчаты. У адну і тую ж хвіліну прыходзілі выкладчыкі, прафесары. І калі заўважваў ён знаёмую стракатую хустачку, жоўты паўкажушок з вышытымі ўзорамі, ён, нібы незнарок, з’яўляўся ў шырокім вестыбюлі, з’яўляўся ў тую самую хвіліну, калі адчыняліся ўваходныя дзверы і, пазіраючы з трывогай на насценны гадзіннік, дзяўчына стрымана ўсміхалася.

— От добра, што не спазнілася…

— Дзень добры, Рэня! — звычайна вітаў ён яе.

— А… Алёшка! Дзень добры, дзень добры…

І яна знікала на лесвіцы, як лёгкае воблачка, як вясновы вятрыска, такая блізкая і такая далёкая. Нават ледзяныя ўзоры на вокнах расцвіталі, здавалася, і іскрыліся сінімі аганькамі, як позірк вачэй яе, сініх, глыбокіх. І ўсё навакол рабілася радасным і святочным, як стракатая хустачка яе з чырвонымі макамі і васількамі, з залатымі каласамі на блакітным полі. Яны не лінялі, не выцвіталі — залатыя каласы і макі. Можа, таму, што было яму васямнаццаць гадоў. Можа, таму, што яна была яшчэ маладзей.

Ён любіў гэтую гордую дзяўчыну. Так у думках называў ён Рэню, сам сабе здзіўляючыся, чаму іменна так называў ён яе. Рэня мала чым адрознівалася ад усіх іншых дзяўчат-першакурсніц. Такая ж вясёлая, такая ж рухавая, поўная маладога кіпучага жыцця, як і другія, яна была неадрыўнай часткай вялікага і працавітага калектыву, якім быў педагагічны інстытут. Яны сустракаліся на камсамольскіх сходах. Яна — студэнтка,

ён — апальшчык інстытута. Калі камсамольцы даведаліся, што Алёшка рыхтуецца паступіць у інстытут камунальнай гаспадаркі, яны вельмі чула аднесліся да гэтай справы, наладзілі цэлае шэфства над яго самастойнай вучобай, даручылі і Рэні дапамагаць яму па матэматыцы. Ніхто лепш за яе не разбіраўся ў каварных нетрах алгебры і іншых прамудрасцях дакладных навук. Ён акуратна наведваўся вечарамі ў інстытуцкі клуб, і тут, два разы на тыдзень, Рэня займалася з ім. Спачатку вучоба не клеілася. Рэня не магла яшчэ як след увайсці ў ролю педагога. Алёшка адчуваў сябе не зусім зручна ў ролі вучня. Яму куды зручней было падысці да Рэні ў якасці мопраўскага актывіста і запытацца пра ўзносы, нават падакараць крыху, а калі трэба, дык і напомніць пра камсамольскую дысцыпліну, бо гэтыя ветрагоны-дзяўчаты вельмі часта забываюцца на свае абавязкі.

Але вучоба наладжвалася. Праўда, часам Алёшка залішне прыглядаўся да ружовых мочак яе вушэй, да каштанавых завіткоў валос на шыі, да гэтай смешнай радзімкі за вухам. Тады дакладныя навукі парушалі сваю суровую стройнасць і ніяк не месціліся ў яго галаве — ён адказваў неўпапад, ціха мямліў відавочную недарэчнасць і, заблытаўшыся, замаўкаў.

Нахмурыўшы лоб і прыжмурыўшы левае вока, яна насмешліва перадражнівала яго:

— Ізноў — стоп машына, прыехалі… Які ж ты някемлівы, мой хлопец!

Ці гэта была насмешка, ці гэта быў жарт — цяжка было разабрацца Алёшку. Адно, што адчуваў ён, гэта — як гараць яго вушы, як густая чырвань залівае ўвесь твар, падбіраецца да жорсткіх бялесых віхроў, і тыя тапырацца бездапаможна ад сораму перад ёй, перад гэтай дзяўчынай. А яна казала ўжо цішэй і лагодней:

— Ну, добра… На сягоння хопіць… Яшчэ раз паўторыш да наступнага разу…

І ўжо зусім ціха:

— А яшчэ думае быць інжынерам!..

Гэта было горш, чым нож у сэрца. Ён усё ж такі хацеў быць інжынерам. І ў яго хапала настойлівасці ламаць усе перашкоды, рабіць усе гэтыя тайны дакладных навук сваім сталым і навечным здабыткам. Ён унікаў залішне заглядвацца на каварную радзімку — яшчэ заўважыць дзяўчына і засмяе. Адно, ад чаго не мог адмовіцца ён, гэта кожнае раніцы ўбачыць яе і прывітаць з добрым днём. Праўда, з яго дакладнага, як ход гадзінніка, штодзённага з’яўлення ў вестыбюлі крыху пасмейваліся дзяўчаты і хлопцы, часам пыталіся ў Рэні:

— Ну, як жа твой рыцар?

Яна весела ўсміхалася і, задорна ўзмахнуўшы каштанавымі валасамі, гаварыла паўсур'ёзна, паўжартаўліва:

— Рыцар як рыцар… А вам што? Зайздросна?

Мянушку рыцара яму далі ў першамайскае свята.

Перад выхадам на дэманстрацыю група дзяўчат і хлопцаў гуляла ў валейбол. Ловячы мяч, Алёшка з разгону ледзь не збіў з ног Рэню, наступіў ёй на туфлю. Зморшчыўшыся ад болю і надарыўшы яго калючым злым позіркам, яна працадзіла праз зубы:

— Божа ж мой, які ты… няўклюда…

Белая брызентавая туфля была змята, запэцкана. Ідзі цяпер на дэманстрацыю! Алёшка зусім разгубіўся. Але гэтая разгубленасць неяк дапамагла яму. У імгненне вока ён зняў Рэніну туфлю — ад нечаканасці аж пачырванела дзяўчына, — віхрам памчаўся да кацельні. Праз якую хвіліну ён вярнуўся, урачыста паднёс дзяўчыне пацярпеўшую туфлю, цяпер ужо свежую, чыстую, беласнежную.

— Вот гэта рыцар! Відаць, увесь зубны парашок патраціў?

Алёшка так зірнуў на сказаўшага, што той палічыў за лепшае прымоўкнуць. А «рыцар» усё ж застаўся за хлопцам.

Быў месяц чэрвень. Закончыліся гадавыя залікі ў інстытуце, студэнты спраўлялі развітальную вечарынку — з п'есай, з танцамі. Позна ўночы разыходзіліся з клуба, абуджаючы сонную цішыню гарадскіх вуліц. Ужо займалася ранішняя зара. Мяккія ружовыя цені калыхаліся між шэрых камяніц, раставалі ў зялёным змроку садоў і палісаднікаў. Святлелі дахі дамоў, празрыстазялёнымі рабіліся вяршыні бяроз у блізкім парку.

Алёшка праводзіў Рэню дахаты. Ён нёс самавар. Гэты неад'емны атрыбут старога сямейнага дабрабыту патрэбен быў па ходу п'есы, і яго прынесла Рэня з хаты, ад цёткі, дзе яна была на кватэры. Пракляты атрыбут займаў абедзве рукі, ён замінаў хадзьбе, і, самае галоўнае, ён замінаў думаць, замінаў гаварыць. А гаварыць хацелася многа-многа. Алёшка павінен быў сказаць аб нечым важным, сур'ёзным, аб чым гавораць, звычайна, адзін раз у жыцці. Яна прыглядалася да яго няскладнай фігуры, да цэпкіх рук з самаварам, да пацешных веек — густых, бялесых, — і ў куточках яе губ блукала, хавалася ледзь прыкметная ўсмешка. Разбярыся тут, чаму ўсміхаецца дзяўчына ў такія хвіліны. Яна ўсміхалася і слухала. Алёшка гаварыў нешта аб сонцы.

Яна бачыла толькі, як бліснула яркай пазалотай вяршыня бліжняга клёна і вострыя лісці непакойна загойдаліся ў мяккім шолаху — падзьмуў лёгкі ветрык, развеяў зялёную дрымотнасць раскідзістых ліп і клёнаў.

Алёшка гаварыў яшчэ нешта аб захаванні энергіі — ён вельмі любіў гэтую тэму. Ад энергіі ён перайшоў да вугалю, самага звычайнага каменнага вугалю. Ён пералічваў розныя маркі, розныя асаблівасці, якой марцы аддае ён перавагу, якой любіць апальваць сваю кацельню. Яны стаялі ўжо ля брамкі дома, дзе кватаравала Рэня. Алёшка спяшаўся дагаварыць:

— Я люблю…

— Ну, любіш… Антрацыт любіш… Ты ж сказаў… — не то сур'ёзна, не то смяшліва перабіла яго дзяўчына.

Алёшка замяўся на хвіліну, потым, паглядзеўшы проста ў яе вочы і разам пачырванеўшы і апусціўшы вейкі, ён прашаптаў з папрокам:

— Цябе… Цябе я люблю…

Ярка ўспыхнулі вочы дзяўчыны, нібы суровая сінь расплылася ў пяшчотнай цеплыні, і ў гэтай цёплай сіні раптам замільгалі смяшлівыя іскры.

І яна засмяялася звонка-звонка, аж пасвятлелі сцены дамоў і цёмныя шыбы акон бліснулі ранішнім золатам сонца.

— Божа ж мой, які ты дзівачны хлапец! — ціха сказала яна.

Яшчэ трапяталіся смехам вейкі, як яна ўздыхнула і раптам парыўчата абняла яго, страсным пацалункам апаліла анямеўшыя губы яго, выхапіла з рук самавар і хутка знікла за форткай. Ён чуў яе частыя таропкія крокі па садовай сцежцы. Вот і на ганку яна, бярэцца за ручку дзвярэй. І раней чым адчыніць непадатлівыя дзверы, яна абярнулася да яго, ледзь чутна прагаварыла:

— Бывай, Лёша… Да новай сустрэчы! Да новай сустрэчы…

Алёшка стаяў ашаломлены, шчаслівы. Усміхнуўся, заўважыўшы свае рукі. Як трымалі яны самавар, так і засталіся сагнутымі, нібы акамянелі на колькі хвілін. Ён пайшоў, і яму здавалася, што ўсё ідзе і ўсміхаецца яму насустрач: і ранішняе сонца, і ветлівыя клёны, і аканіцы акон, і птушыныя галасы ў жасмінавых зараслях палісаднікаў і садоў. Ён зайшоў у парк. Бераг ракі крута ўзнімаўся над вадой. Далёка-далёка на тым беразе клубіліся, раставалі пад сонцам шызыя туманы. Ледзь улоўны пах лугавых красак і траў далятаў адтуль з зарэчных прастораў. Вада пад берагам злёгку курылася празрыстай парай. Пацешны буксір, зашыўшыся па самы нос у ваду, напінаўся з усіх сваіх сіл і весела цягнуў аграмадзіны барж; імклівая хваля бегла ад яго, захлёствала бераг, прагна аблізвала прыбярэжную гальку, пясок. Ажурныя масты сінелі над вадой. Праз чоткую вязь рашотчатых ферм курыўся блакітны дымок — некуды бег, спяшаючыся, паравоз. Па другім мосце грукацелі падводы, беглі грузавікі, віднеліся стракатыя фігуры людзей. «Сёння базарны

дзень», — успомніў Алёшка. Горад навакол абуджаўся. Заліваліся фабрычныя гудкі. Густа ішоў народ па вуліцах. Штодзённы шум горада ўваходзіў у свае берагі, гудзеў неўміручым прыбоем. І над усім — над горадам, над ракой, над бязмежнымі прасторамі зямлі — гарэла, пералівалася зыркае ранішняе сонца.

Алёшка аж уздыхнуў ад паўнаты жыцця, вялікай, бяскрайняй. Хораша пад сонцам, калі ты можаш усё. Можаш быць апальшчыкам і вугальшчыкам. Можаш будаваць гэтыя дамы і масты, сонечныя фабрыкі і заводы. Можаш нават стаць інжынерам… І станеш. Як гэта добра: будаваць і быць гаспадаром усяму.

Хораша пад сонцам, калі любяць цябе… І ты любіш…

Задорна пераклікаліся гудкі паравозаў на вакзале, на таварнай станцыі. Здавалася, гэтыя рознагалосыя і звонкія гудкі клічуць яго:

— Да новай сустрэчы!.. Да хуткай сустрэчы!..

* * *

Яны сустрэліся, аднак, не скора.

Прайшло ўсяго некалькі дзён пасля іх развітання, як страшны грукат вайны не ў пару абудзіў горад. Квартал за кварталам узляталі ў паветра, рушыліся, ператвараліся ў мёртвыя руіны. Тое, што засталося, пажор прагны агонь. Двое сутак падрад наляталі чорныя, ненасытныя птахі. Двое сутак падрад бушавалі вогненныя віхры, у дым і прах развяваючы ўсё, што так любоўна і старанна будаваў чалавек.

Прытрымліваючы сэрца, — яно білася, як б’е перабітым крылом упаўшы на зямлю птах, — Алёшка бачыў, як паміраў яго сонечны горад, як у глухой тузе стаялі пачарнелыя, апаленыя сады і пакалечаныя клёны схілілі да самай зямлі паламаныя, абгарэлыя кроны. А на зямлі — на вуліцах і плошчах, сярод руін і апаленых садоў — ляжалі знявечаныя людзі: мёртвыя і паміраўшыя. Сярод іх былі дзеці. І гэта было самае страшнае. Яны былі зусім не да месца — гэткія маленькія, такія недарэчныя ў сваёй жудаснай нерухомасці — на гэтым гульбішчы смерці. Так жа многа было сонца над імі. А яны адвярнуліся ад яго, прыніклі тварыкамі да пылу і праху зямлі, да шэрага попелу пажарышчаў.

Нібы распаленае жалеза падносілі да жывога сэрца, такім гаручым і незгасаючым болем заходзілася яно.

Некалькі дзён ішоў бязлітасны бой на подступах да паміраўшага горада. Алёшка біўся з ворагам у знішчальным атрадзе.

Трэба было адступаць. І калі атрад адыходзіў за раку па хісткіх бярвенчатых мастках, Алёшку раптам адвялі ўбок і ціха сказалі, што ён павінен застацца ў горадзе. Так трэба. Гэтага патрабуе адна важная справа. А па ўсім відаць, ён зможа зрабіць, што яму даручаць. І, зірнуўшы на адыходзіўшых таварышаў, — яны былі ўжо на тым беразе, — ён змрочна ўздыхнуў, маўкліва згадзіўся. Толькі пачаў быў пярэчыць, калі ў яго ўзялі вінтоўку, — як жа яму жыць цяпер без зброі? Да яго падышоў пажылы рабочы, увесь у сівай шчаціне, з густымі насупленымі брывамі. Ён мякка паклаў яму на плечы шырокія далоні сваіх рук. І неяк адразу пацяплела на сэрцы ў Алёшкі — абсівераная скура рук гэтага чалавека была ў крапінках вугальнага пылу.

— Вось што, хлопчык ты мой, вінтоўка табе пакуль што без усякай патрэбы, з ёй і забіць цябе могуць… А ёсць у нас яшчэ адна зброя, і яна часам бывае мацнейшая, чымся куля. А гэтай зброі хопіць у нашых сэрцах…

Алёшка ведаў, пра якую зброю гаварыў гэты стары чалавек.

— Як жа вас зваць? — нерашуча запытаўся ён.

— А заві хаця б… ну… дзядзя Пётр… — і цёплая ўсмешка прабілася праз густую шчаціну няголеных шчок, хітра юркнула пад пажаўцелыя пракураныя вусы.

Ужо цямнела, як увайшлі яны ў горад. Дзядзя Пётр падаўся на вугальны двор у дэпо. Алёшка пайшоў на сваю ўцалелую ад разгрому ўскраіну горада, зашыўся ў кацельню інстытута.

Назаўтра прыйшлі немцы. Яны прыйшлі і прайшлі. Ім нечага было рабіць, нечага было рабаваць у пустым і спаленым горадзе. Потым заснавалася камендатура. На ўскраіне пасяліліся салдаты. Камендант са сваім штабам размясціўся ў інстытуце. Спачатку былі ўзяліся ўсур'ёз за Алёшку — хто ды адкуль… Але ж такі недарэчны быў выгляд у гэтага хлопца з бялесымі віхрамі, з няскладнымі рукамі, з вечна не сыходзіўшай з твару блукаючай усмешкай — да ладу і не да ладу, — што яго пакінулі ў спакоі, гэтага прыдуркаватага хлапчыну, як парашылі аб ім немцы. А тут яшчэ наступілі халады, і яму загадалі апальваць кацельню. У дапамогу далі пару салдат. Тыя лічылі за лепшае адлежвацца на нарах у яго цесным пакойчыку, гуляць у карты, а хлапец завіхаўся з жалезнай лапатай, падкідваў у палаючую топку вугаль, шураваў каласнікі і ўсё ўсміхаўся. Нават назіраючы з нізенькага акенца, як праводзяць па плошчы натоўпы арыштаваных (іх штодня прыводзілі ў камендатуру і выводзілі адтуль у турму, пад якую прыстасавалі адзін уцалелы будынак паблізу інстытута) — хлопец усміхаўся пры немцах. І адчуваў,

як гэты смех жалезнай маскай уядаўся ў яго твар, душыў яго нясцерпнаю мукай. Гэтаму смеху вучыў яго дзядзя Пётр, да якога ездзіў зрэдку з салдатамі Алёшка па вугаль для кацельні. Салдаты пакідалі звычайна грузавік, ішлі да пуцей, каб пагаварыць, паскаліць зубы з землякамі з праходзіўшых эшалонаў. Алёшка з дзядзькам Пятром пагружалі вугаль. Дзядзя Пётр шаптаў яму гарачыя словы:

— Як ні цяжка, усміхайся, мой хлопец… Смеху куля баіцца… Ды яны і не любяць панурых…

Але ж гэта было так цяжка. Дні цягнуліся адзін за адным, нудныя, шэрыя, пакутныя. Кожны дзень быў суровым іспытам. Ён бегаў на пабягушках. Хадзіў па шкляроў, па водаправодчыкаў — трэба было падправіць адно, падрамантаваць другое. Людзі ўнікалі глядзець яму ў вочы. І калі ён выходзіў ад водаправодчыкаў ці ад другіх рабочых, ён адчуваў на сваёй спіне злобныя, пранізваючыя позіркі адчужаных воч. Ён ведаў: прыйдзі ён ноччу, і гэтыя позіркі могуць ператварыцца ў гарачую свінцовую кулю. Недарма чуў ён і днём, як нечы голас глуха крыкнуў яму з-за плота:

— За колькі марак прадаўся, сабака?

Яго мала ведалі ў горадзе, і гэта было лепш. А калі даводзілася зрэдку сустрэць блізкага знаёмага, той кідаўся насустрач, горача распытваючы, ну як жа ён жыве, ці працуе, ці ёсць у яго хлеба скарынка, і, раптам даведаўшыся, што ён адтуль, з інстытута, чалавек адразу развітваўся з ім і, бліснуўшы льдзінкамі пахаладзелых воч, спяшаўся знікнуць за вугал, за дрэва, за спіны чужых людзей. Яго баяліся, як пракажонага.

Ён разумеў гэта і ўнікаў залішне, без неадкладнай патрэбы, з’яўляцца ў разбураным горадзе, каб не палохаць людзей сваім выглядам. Хіба раскажаш ім, хіба ім скажаш пра ўсё?

Яго паклікалі аднойчы да каменданта. Вартавыя даўно прызвычаіліся да яго няскладнай фігуры, як прывыкаюць да хатняй рэчы, як прывыкае салдат да свайго кацялка, да сваёй абгрызенай лыжкі. Спакойны, ураўнаважаны, з застыглай прыдуркаватай усмешкай на няскладным твары, ён ішоў да каменданта і думаў, па якой гэта патрэбе яго паклікалі да начальства. Звычайна камендант перадаваў яму распараджэнні праз салдат — паправіць шкло, паклікаць палацёра, знайсці каваля, каб зрабіць краты на вокны ў каменданцкім пакоі, — камендант баяўся заставацца на ноч пры звычайных вокнах.

Алёшка ціха ўвайшоў у кабінет каменданта. Тут панаваў паўзмрок. Густыя шторы на вокнах не прапускалі лішняга

святла. І толькі шырокі стол з пісьмовымі прыладамі, цьмяна паблісківаўшымі цацкамі і грудай папер, быў ярка асветлены сонцам. За ім вырысоўвалася лысіна каменданта. Той, нахіліўшыся, нешта корпаўся ў паперах.

— Што загадаеце зрабіць, пан камендант? — ціха прагаварыў Алёшка.

Лысіна адарвалася ад папер. Алавяныя вочы каменданта пагардліва прайшліся па Алёшкавай постаці, рука стомлена кіўнула ў бок ад стала.

— Вось паглядзі, мне б хацелася даведацца, хто яна, можа, знаеш…

Камендант абыходзіўся без перакладчыка, ён мог гаварыць па-руску. Ён зноў ушыўся ў свае паперы, да таго нецікавым яму быў гэты хлопец, якога і выклікаў ён проста так, на ўсякі выпадак.

Алёшка паглядзеў у бок завешанага шторай акна. І раптам ногі яго зрабіліся нібы чыгуннымі, нібы прыраслі да слізкага паркету пакоя. А сэрца страпянулася так балюча, што ён інстынктыўна прыціснуў да бока локаць левай рукі, каб затрымаць, не даць выскачыць з цеснай клеткі неўгамоннаму чалавечаму сэрцу, якое не можа вось раптам змоўкнуць, акамянець, калі захоча таго чалавек. На крэсле пад шторай ён заўважыў жоўты паўкажушок з вышытымі ўзорамі. Асвойтаныя з паўзмрокам вочы заўважылі каштанавыя валасы. Твару не відаць было. Схіліўшы ўніз галаву, дзяўчына сілілася паправіць падбародкам разарваную на грудзях блузку — рукі былі закручаны назад і звязаны. Урэшце яна глянула спадылба, здрыганулася і спалохана падалася назад, да чорнай шторы. Яе сінія, такія ж блізкія і такія далёкія цяпер, вочы прашылі яго лютай нянавісцю. Нешта шапталі губы яе, здалося яму, нібы чуе ён гэтыя словы, словы аб здрадніках, аб юдах. З правага куточка запёкшыхся губ сцякаў на падбародак танюткі струменьчык крыві і злавесна паблісківаў у паўзмроку.

Усё гэта цягнулася якую-небудзь адну, другую секунду, здаўшыхся цэлаю вечнасцю. Сабраўшы ўсю сваю волю, напружыўшы нечалавечыя сілы — аж цёмныя кругі прайшлі прад вачамі, — Алёшка нацягнуў на твар прызвычаеную ўсмешку, глядзеў абыякава, слепа.

Камендант, адарваўшыся ад папер, коратка запытаў яго:

— Ну што? Ведаеш?

Алёшка зірнуў безуважліва на яе, абыякава адказаў:

— Не, я не сустракаў гэтай дзяўчыны… Не ведаю…

— Яна ж, кажуць, вучылася ў інстытуце… Ты ж быў апальшчыкам?

— Іх багата вучылася, пан камендант… Я ведаў вельмі нямногіх…

— Яшчэ б… — мармытнуў нешта камендант, іранічна зірнуўшы на постаць Алёшкі. — Ну, ідзі…

З вялікай цяжкасцю адрываючы ногі ад паркету, Алёшка выйшаў з пакоя. Ён сумеў улавіць яшчэ яе позірк. У ім была ранейшая цеплыня, як было гэта даўным-даўно… «Ах, як даўно гэта было!.. Усяго тры месяцы таму назад», — вынырнула аднекуль пярэчлівая думка. Але гэта ўсё роўна.

Калі ён спусціўся ў кацельню, то знясілены лёг на ложак і доўга ляжаў, без руху, без думак. Усё было перадумана даўно. Усё пуста даўно. Уперадзе не было, здаецца, ніводнай прасветлінкі, нібы праклятая доўгая ноч накінула на яго халодныя шэрыя крыллі і душыць яго, душыць, знясільваючы мозг, амярцвяючы сэрца. Аднекуль здалёк прабліснулі сінія іскрынкі вачэй… «Яе выпусцяць сягоння, абавязкова выпусцяць, яны нічога не зробяць ёй дрэннага, яны не пасмеюць, яны не маюць права». Гэтая думка абпальвала яго, варочала да жыцця. Але тут жа ўспаміналіся дзіцячыя тварыкі, што адвярнуліся ад сонца… Чым вінаваты былі тыя дзеці?

Машынальна ён устаў, машынальна ўзяўся за жалезную лапату, падкінуў вугалю ў топку, машынальна лёг спаць. А калі прачнуўся і па даўняй прывычцы зірнуў у маленькае акенца на плошчу, ён хапіўся рукамі за сваю галаву, балюча вытнуўся лбом аб халодны цэмент падаконніка і, падаўшыся назад, стаяў здранцвелы, разбіты і нешта шаптаў адразу высахшымі і збялелымі вуснамі. Кружылася галава, гарэўшая палячым незгасаючым болем. Памутнелыя вочы ледзь пазнавалі знаёмыя сцены кацельні, шэрую столь у зялёных плямах-падцёках, з пыльным павуціннем па кутках.

— Трэба зняць… — мільганула і знікла, нібы прыйшоўшая аднекуль збоку, непакойная думка. Доўга стаяў ён так, баючыся зірнуць хоць раз у гэтае праклятае цяпер акенца. Не чуючы ног пад сабой, прайшоў у сваю канурку, пацягнуўся да прамасленай кепкі, што вісела на цвічку над невялікім люстэркам. Нечакана ўбачыўшы свой твар у люстэрку, ён не пазнаў сябе. З халоднага шкла пазіралі сухія, заняпалыя вочы, увесь у маршчынах быў лоб; яго пшанічныя валасы з бялесымі віхрамі пасівелі. Гэта не здзівіла і не расчаравала яго. Усё роўна. Накінуўшы кепку, ён паціху выбраўся з кацельні і праз двор выйшаў на вуліцу. Калі

дзядзя Пётр убачыў яго на вугальным двары, ён крыху здзівіўся і разам з тым занепакоіўся.

— Ты чаго?

Алёшка схапіў яго за рукі, балюча пацiснуў вугальныя далоні і раптам, прыхіліўшыся да пляча старога, бездапаможна загаварыў, нібы ўпрошваў аб чым, нібы ў чым апраўдваўся:

— Я не магу, дзядзя Пётр… Вы разумееце, я не магу.

І хутка, хутка:

— Вы забіце, вы застрэльце мяне, што хочаце, тое і рабіце… але я…

— Ну, што з табой? — чулліва перапытаў дзядзя Пётр.

— Там… — Алёшка жорстка правёў далонню па сваёй шчацэ, — там… павесілі…

— Знаю… маўчы, не гавары аб гэтым… — перабіў яго пажылы чалавек, мякка паклаўшы яму на плечы свае далоні.

Алёшка ўсё гаварыў, але ў голасе яго былі ўжо другія ноткі:

— Я пушчу іх з дымам і прахам… Я сам загіну, але я…

— Ты гэтага не зробіш, мой хлопчык. Пакуль што гэта не мае ніякага сэнсу. Пацярпі яшчэ, мой дарагі… Пацярпі… ужо набліжаецца час, тады зробіш… Ну, ідзі, а то яшчэ хопяцца цябе…

І ён пайшоў.

Урэшце падаспеў і гэты доўгачаканы час. Набліжалася гадавіна Вялікай Кастрычніцкай рэвалюцыі. Калі Алёшка прыехаў за вугалем да дзядзі Пятра, той проста сказаў яму:

— Ну, Алёша, заўтра дзейнічай… Ноччу… Глядзі толькі, каб сам застаўся цэлым…

Хутка азірнуўшыся па баках, ён пацалаваў яго ў абедзве шчакі, сунуў у рукі маленькую газетку:

— Бывай… Дома пачытаеш, табе будзе відней… Чытай і не бойся, гэта іхняя газетка…

Нібы лёгкія крыллі выраслі за плячмі ў Алёшкі. Нібы зноў вярнуліся мінулыя радасці, мінулыя думы. Ён уважліва прачытаў газетку. Яна была не новай для яго: тая ж старая лаянка, старая брахня. Немцы сабіраліся браць Маскву. Нават дзень прызначылі — шостага лістапада, пярэдадне рэвалюцыі. Тут жа і аб’ява, што ў пана каменданта заўтра будзе баль для паноў афіцэраў з прычыны перамогі над савецкай сталіцай.

Сурова насупіліся Алёшкавы бровы:

— Масквы ім захацелася… Што ж, мы пакажам ім і Маскву…

Калі ён прачнуўся на другі дзень, ён ніяк не мог стрымаць сваёй нецярплівасці. Дзень цягнуўся марудна, доўга. Ледзь прычакаўся ён ранняга вячэрняга змроку. Апрабаваў раму ні-

зенькага акенца. Струхлелая рама паддавалася, яе лёгка можна было выняць. Украдкам агледзеў канцы абарваных шнуроў. Гэта былі звычайныя электрычныя шнуры. Тут многа было лямпак, іх пазнімалі, шнуры засталіся. Алёшка добра ведаў, якія яму патрэбны.

Прынікнуўшы лбом да халоднага шкла акенца, ён уважліва ўглядаўся ў цёмную плошчу. З'язджаліся машыны. Святло аўтамабільных фар вырывала з цемені ночы чорныя сілуэты на пеpакладзіне. Алёшка прыжмурваў на секунду вочы. Прыслухоўваўся да чоткіх крокаў на тратуары, да скрыпу парадных дзвярэй. Праз якія паўгадзіны дзверы перасталі рыпець, патухлі фары на плошчы.

Алёшка падкідваў вугаль у топку і — узвінчаны, прыўзняты — прагна прыслухоўваўся да кожнага стуку, да кожнага шолаху. Хутка пачуліся прыглушаныя гукі музыкі. Алёшка праверыў дзверы. Ля ўвахода на чорную лесвіцу стаялі вартавыя. Задраўшы галовы ўверх, яны захапляліся бравурнымі маршамі. Алёшка паволі падышоў да крана, старанна вымыў рукі, твар, акуратна павесіў ручнік на сценку. Хуценька пераапрануўся ў нерабочы гарнітур. Уважлівым позіркам агледзеў усе такія родныя і знаёмыя да апошняй дробязі куточкі кацельні. Дамавіта шыпела пара, патрэскваў вугаль у топцы, у падвале стаяла застоеная глухая цішыня ночы. Ён глыбока ўздыхнуў і абрэзаў ножнамі канцы трох шнуроў. Задрыжалі рукі, і сэрца ўсхадзілася хутка-хутка, калі цьмяны агеньчык запалкі аблізаў па чарзе кожны з шнуроў. Бадзёра замільгалі ружовыя, ледзь бачныя аганькі, запырскалі іскаркі.

Уцягнуўшы галаву ў плечы, Алёшка падышоў да акенца, бязгучна выняў раму, прыслухаўся. Крокі вартавога паволі аддаляліся, зніклі. У адну секунду Алёшка быў на волі і бег, запыхаўшыся, уздоўж сцяны агароджы, паўз тратуар, каб мяккай зямлёй прыглушыць цяжкія ўдары ног. Вот і разбураныя вуліцы, руіны пагарэлых дамоў. Ён азірнуўся назад, і яму здалося, што зямля і неба раскалоліся раптам, і нічога болей не будзе, нічога не застанецца на свеце. Прытуліўшыся да каменнага паўразбуранага пад'езда, ён перачакаў, пакуль падалі на каменны брук цяжкія цагліны, жалезныя бэлькі, аграмадныя каменні. Вялікае зарыва ўзнялося над плошчай, над вуліцай. У яго трапяткім святле, нібы недарэчныя здані, хісталіся руіны дамоў, апаленыя коміны пячэй, пачарнелыя, мёртвыя дрэвы. Ён азірнуўся яшчэ раз назад, і яму здалося, нібы раскалыхваліся мерцвякі на белых уночы слупах і іх багровыя твары злавесна ўсміхаліся новаму пажарышчу.

Прыйшоўшы на вугальны двор, ён упаў на кучу каменнага вугалю і, знясілены ўсім бачаным, усім перажытым, глуха заплакаў. Ён плакаў, як маленькае бездапаможнае дзіця, не саромячыся сваіх слёз, сваіх стогнаў. Да пляча яго дакранулася рука дзядзі Пятра.

— Устань, мой хлопчык!

І ён устаў і, абняўшы гэтага чалавека, усё гаварыў і гаварыў:

— Чаму я не задушыў яго раней сваімі рукамі?.. Я мог забіць яго, гэтага вырадка… Тады не было б гэтых страшных слупоў… Вы не ведаеце, дзядзя Пётр, як я… любіў яе… — і прыглушаныя рыданні зноў страсянулі яго плечы, яго галава бездапаможна забілася на грудзях старога. — Як я любіў…

— Каго, мой хлопчык?

— Яе… Рэню…

Злёгку.ўздрыгануліся плечы старога. Ён мякка вызваліў сваю руку, паволі правёў ёй па сваім суровым твары, мякка прылашчыў падатлівую хлапецкую галаву і, гледзячы некуды ўдаль, сказаў глуха, усхвалявана:

— Гэта добра, надзвычай добра, сынок мой, — так назваў ён яго ўпершыню, — што ты любіў яе… Яна варта таго… Але я… можа я любіў яшчэ болей… Яна ж дачка мая… адзінае дзіця маё…

Хлопец прагна лавіў кожнае слова старога чалавека, і яму здавалася, нібы апускаецца на яго нейкая ціхая, нязведаная, нязнаная яшчэ радасць, радасць блізкасці да людзей, радасць кроўнага сваяцтва. І разам з тым яму балюча было, сорамна перад ім, перад мужнасцю гэтага чалавека за сваю хвілінную слабасць, за слёзы, якія недастойны мужнасці чалавека.

— Даруйце мне, дзядзя Пётр… мае слёзы…

Нецярпліва прыслухоўваючыся і занепакоена ўглядаючыся ў пасвятлеўшую цемень ночы, чалавек стрымана адказаў яму:

— Слёз сваіх не саромейся, яны ідуць ад сэрца…

Адзін за другім раздаліся глухія ўдары выбухаў. Яшчэ і яшчэ. У розных канцах горада ўспыхнулі новыя зарывы. Зусім блізка, на таварнай станцыі, узвіўся шалёны феерверк і не спыняўся ні на секунду, раскідваючы на ўсе бакі грымучыя маланкі, цэлыя каскады полымя. Рваўся эшалон са снарадамі. Стагнала і дрыжала зямля.

— Што гэта? — запытаўся недаўменна Алёшка.

— Гэта? Ты ж распачаў яго сёння. Гэта салют Рэвалюцыі, мой сынок, салют Кастрычніку… Жывы мы, і горад наш жывы, ён не памёр…

Ён гаварыў, і святлела ноч над горадам, устрывожаныя птушкі ўзвіваліся ў паветра, высока кружыліся ў небе. Багровыя ад зарыва крылы здаваліся казачнымі чырвонымі макамі, раптам расцвіўшымі над руінамі.

— Пойдзем, сынок!

І яны зніклі, праглынутыя старожкаю цішынёю глухіх гарадскіх завулкаў.

Горад жыў, не здаваўся.

***1942***

## ПАЦАЛУНАК

Было падобна на адлігу. Не рыпеў снег пад нагамі, нізка слаўся над агародамі шэры дым з каміноў, чапляўся, блытаўся на пачарнелых галінках вішань і яблынь. Дым быў горкі, кіслы. Заклапочана наморшчыўшы лоб, маленькая Вулька падумала:

«Вот ізноў бабкі асінавыя жэрдкі паляць… Як пайшлі таткі ў лес, то і дроў добрых нямашака. А жэрдкі з плота паліць нядобра, вясной жа ў ім дзіркі будуць… Ды і цяпла ад асіны мала… Абы вот толькі смылела б крыху ў печы… Так кажа бабка… Кепска ўсё ж без таткі…»

На кусце парэчкі весела заціўкала сінічка, і пры кожным ціўканні яна порстка круцілася ва ўсе бакі, пераскаквала з месца на месца, яе сіняя грудка мільгала там і тут. Адразу ж узгарэліся Вульчыны вачаняты, яна асцярожна паставіла чыгунок на снег і, крадучыся, паволі пераступаючы крок за крокам, ціха пасувалася да куста, пацешна растапырыўшы кароткія рукі. Яе губы шапталі:

— Сінічка мая!.. Птушанятка!.. Дай жа я цябе спаймаю…

Але дзе ты бачыў! Вяртлявая сінічка пырх — і няма яе… Толькі сіняя пярынка прыліпла да сучка, малюпасенькая, як пушынка. Вулька палажыла яе на далоньку, падзьмула, і тая ўзляцела, як сняжынка, і знікла. Снег падаў густымі пухнатымі хлоп’ямі. Трапіць на шчаку і адразу растае, расплываецца казытлівым халадком. Вулька ўспомніла пра бабку — вот яшчэ зазлуе — і хутка ўзялася за чыгунок. Цяжка яго несці ў адной руцэ. Балюча ўразаецца ў пальцы анучка, у якую завязаны чыгунок. Трэба ўвесь час пераменьваць руку. Вот і пералаз праз плот. На слупах такія прыгожыя пухнатыя шапкі з снегу, як жа не змахнуць іх рукою. Махнеш — і шапка разлятаецца дробным

пухам, сціснеш у кулачку гэты пух, і ён ператворыцца ў смешную галачку, сляды пальцаў на ёй. Сунеш у рот — кусачы, кусачы снег, аж заходзяцца зубы. І пальцы робяцца чырвонымі, як гусіныя лапкі. Але над чыгунком яны адходзяць, ад цяпла… Толькі пералезла яна праз плот і пачала знімаць чыгунок з пералаза, як над самай галавой пачула знаёмы голас:

— Дзетухна мая, што гэта нясеш ты такое?

Ледзь не выпаў чыгунок з рук, і Вулька зашаптала сабе пад нос, хутка-хутка:

— Бабка казала… Бабка казала…

А што казала бабка, адразу і не прыпомніш, калі стаіць перад табой гэты дзядзя Касмыль. Сусед жа ён, але яго чамусьці дужа недалюблівала бабка і не раз казала, што ў гэтага чалавека на сэрцы касмылі растуць. Якія там касмылі, добра і не ведала Вулька, але відаць, што страшныя. Тут жа і ўспомніла Вулька:

— Бабка казала, каб я попел вынесла з хаты…

— Дык чаго ж ты далёка так нясеш яго?

— Бабка казала, каб вугальчыкі не параскідала я, каб не трапілі куды ў салому, ды не нарабіла б я пажару, не да-а-ай то Божа… — і, зрабіўшы страшныя вочы, Вулька смела зірнула на дзядзю. Ах, як яна баіцца пажараў з бабкай! Бабка заўсёды і гаворыць пра пажар: «Не да-а-ай Божа!» Вулька яшчэ раз зірнула на твар дзядзі Касмыля і, заўважыўшы, што той не злуецца, абярнула чыгунок і, абпальваючы далонькі, дзьмухаючы на іх, высыпала з яго вугаль і попел.

— Я, дзядзечка, кожны вугальчык нагой затапчу, толькі вы не злуйцеся… — І яна старанна прытоптвала вугалі нагамі і прыслухоўвалася, як шыпелі яны, як танюсенькія струменьчыкі пары вырываліся з-пад ног і знікалі.

— Ты ж глядзі, дзетухна,валенцаў не папалі!

— А яны ў мяне скурай падшыты, — хваліцца Вулька, смела падымаючы і паказваючы пятку валёнка.

— Хітрая ты, Вулька, дзяўчына, — кідае дзядзя Касмыль і, усміхнуўшыся, ідзе сваёй дарогай, выбітай у снезе сцяжынкай па агародзе. Вот і падаўся на свой двор, да свае хаты.

Вулька пастаяла з хвіліну, сумна паглядзела, як згаслі ўсе вугалі, завязала ў анучку цёплы яшчэ чыгунок і, спяшаючыся, пабегла дахаты, усё думаючы аб тым, што ж скажа яна цяпер бабулі. Вот жа неўгамонніца бабка. Тры дні ўзапар выносіць попел з хаты. Дзе гэта відана, каб так часта попел выносіць, толькі хату студзіць. А сёння бабку пагналі немцы ў абоз — вазіць салому. Толькі і паспела яна насыпаць у чыгунок вугалля і неўзаметку шапнуць Вульцы:

— Ты будзь разумніцай і, калі я паеду, занясі чыгунок… у гумно… На ток пастаў, ды падалей ад сцен, каб не здарылася пажару, не да-а-ай то Божа! А сама хуценька бяжы назад, пільнуй хату…

— Нашто вугалле насіць у гумно? — звонка перапытала Вулька.

Бабка аж рукамі замахала на яе:

— Ціха, ціха ты!.. Потым я табе ўсё скажу, разумніца… А цяпер рабі так, як я загадала… Ды калі сустрэнецца табе хто, як будзеш несці, дык ты проста высып попел у снег…

…Вось яна і зрабіла ўсё, як загадала бабка, гэтая хітрая бабка-неўгамонніца…

* * *

Аксіння прыехала позна вечарам. Прама з парога яна падышла да печы і ціхенька пабудзіла ўнучку:

— Вулька, Вулька, устань, вячэраць будзем…

Вулька прыўзнялася на печы і хуценька расказала аб усім: як несла яна чыгунок, як сустрэўся ёй Касмыль, як таптала яна вугельчыкі ў снег.

— Яшчэ сініцу бачыла я… сіняя… сіняя… — соладка пазяхнула Вулька.

— Сініцу… — задуменна паўтарыла Аксіння і, адчуўшы, як пахаладзела раптам сэрца, рашуча зацягнула ражкі хусцінкі, спяшаючыся, затупала да дзвярэй.

— Куды ты, бабка? Мне ж боязна вечарам адной у хаце…

— А ты… кладзіся з галавой пад дзяружку… Я… назбіраю дроў… печ запалім… Я хуценька…

І двор, і агароды, і маўклівыя цёмныя дрэвы — усё патанула ў густым вячэрнім змроку. Падаў рэдкі снег. На небе вылупліваліся першыя зоры. Бралася на мароз. Дзесьці забрахаў сабака і раптам, узвізгнуўшы, змоўк. Навакол стаяла шэрая, сляпая цішыня. Толькі з боку школы — там стаялі немцы — ціхусенька скуголіла скрыпка і ныў глуха гармонік. Гукі былі нуднымі, цягучымі, як ціхі зубны боль. Ды з лесу, што за гарэлым балотам, падвывалі ваўкі. І на якую секунду здалося Аксінні, нібы бачыць яна, як на змрочнай паляне стаяць шэрыя ваўкі і, настырчыўшы хібы, узіраюцца ў цёмнае неба. У іх галодных вачах мігцяць, пераліваюцца сумныя водбліскі далёкіх зор. Далёкіх і недасяжных. Таму, можа, і песня такая сумная ў іх, у ваўкоў…

— Ах, як цяжка на сэрцы, і нібы заслона якая ўпала на вочы, нічога не відаць.

Аксіння вобмацкам знайшла дзверы гумна, асцярожна адчыніла іх, падышла, нахілілася да дзвярэй ёўні, прыслухалася.

— Сынок мой! — ціха пазвала яна. — Сыночак!

Прыгнуўшыся, яна залезла ў ёўню і, стаўшы на калені, аблазіла кожны куток, абмацала рукой цагляную печку, сухія жэрдкі асецяў, з якіх сыпалася пад рукой саламяная пацяруха. Пахла жытнім коласам і мышамі. Спяшаючыся, яна абышла кожны куток гумна, абмацала гурт аўсянай саломы, што ляжаў ля сцяны. З-пад саломы выняла і несла асцярожна, дзвюма рукамі, маленькае ружжо. Яна яшчэ раз агледзела яго пры змрочным святле, якое ішло ад снегу. Гэта было яго ружжо. Палажыла ізноў на старое месца, куды хавала яна яго і раней. Стаўшы пасярэдзіне гумна, яшчэ раз прагна ўслухалася ў начную цемень, сілячыся ўлавіць, учуць след жывога чалавечага дыхання.

— Адгукніся ж, сынок мой!

Але навакол было ціха, так ціха, што чуваць было, як цярушыліся сняжынкі на саламянай страсе гумна.

Аксінні здавалася, што яна заблудзілася, такой доўгай была яе хадзьба дахаты. Але навакол былі ўсё тыя ж, яшчэ саджаныя ёю ўдваіх з нябожчыкам мужыком яблыні і вішні, той жа плот, тая ж бярвенчатая загарадзь двара. У галаве роіліся абрыўкі думак, і іх цяжка было прывесці да парадку. Навошта даручыла яна тую справу неразумнаму дзіцяці?.. А як жа было зрабіць іначай?.. Каб замёрз?.. Канечне, можна было папрасіць каго-небудзь з дарослых… Але ці даверыш жа чужым людзям такую справу?

Калі на дварэ яе хапілі за рукі, яна не здзівілася і не спалохалася. Ну што ж? Толькі запытала:

— Што вы хочаце ад мяне, добрыя людзі?

Ёй нічога не сказалі і, вывеўшы з двара, павялі па вуліцы. Цьмяна паблісквалі шырокія штыкі вінтовак.

«Відаць, да каменданта, а можа, да старасты…»

Яна ўявіла сабе старасту, яго рэдзенькую, касмылькoм, бараду і вечную ўхмылку на нездаровым, зеленаватым твары. Заўсёды, як усміхнецца ён ды гляне на цябе, дык нібы дзесяць цаглін адразу павісне на душы. Такая ўжо ўсмешка ў яго, Сідара Лупянка, ці як звалі яго за вочы, — Касмыля…

Але салдаты прамінулі суседаву хату.

«Значыць, да каменданта…»

Яе падводзілі да школы.

* * *

За шалёўчатай перагародкай іграў губны гармонік, і грубыя салдацкія галасы ўпаўголаса выводзілі нейкую песню. Два вартавых пераміналіся з нагі на нагу і ненатуральна выцягваліся ў струнку, калі камендант — не малады, але і не стары яшчэ афіцэр у лейтэнанцкім мундзіры — пазіраў на іх ці ўпамінаў, гаворачы па тэлефоне, чын пана палкоўніка. Камендант быў чымсьці ўсхваляваны, часта станавіўся навыцяжку з тэлефоннай трубкай ля вуха і нават памкнуўся быў свабоднай рукой аддаць чэсць, але спахапіўся ў час і ўсё паўтараў раз за разам:

— Слухаю, пан палкоўнік! Ёсць, пан палкоўнік!

Урэшце ён палажыў трубку і стаў хадзіць з кутка ў куток, узбуджаны, узрушаны, час ад часу паціраючы задаволена рукі. Стаўшы супроць Васіля і нецярпліва абкусваючы кончыкі сігары, скоса зірнуў на яго.

Гарачыя, як вугалі, глядзелі на каменданта немігаючыя запяпалыя вочы чалавека. Навісь русых брывей сыходзілася над пераноссем, тапырылася ў складках нахмуранага лба. Насуплены позірк даводзіў да шалу каменданта.

Але, перасільваючы сябе, афіцэр загаварыў ціха, спакойна:

— Шкада, канечне, што не мне прыйдзецца дапытваць цябе. Ты б у мяне загаварыў!.. Ты б у мяне стаў шаўковым!.. Але добра… Адно, што павінен памятаць: палкоўнік — чалавек сур’ёзны. Гутарка з табой будзе кароткая… Што можна табе параіць: сказаць толькі праўду… спакойна… не хвалюючыся… без лішніх фокусаў… Ніякай жа небяспекі табе тады не будзе… Памятай толькі: мы ўсё ведаем. Цябе завуць Васілём… Камсамолец… Можа, не ты ўзарваў мост, скажаш? Узарваў… Так, так… Вось і шнур… Можа, скажаш, не твой? І брат ёсць у цябе старэйшы… Андрэй… Скажаш, дзе ён цяпер?.. Ён жа камандзірам у вас там. І, канечне, маці ёсць… Аксіння… Вот бачыш… А ты думаеш, мы нічога не ведаем… Гуляць у маўчанку зусім бескарысна… тым больш перад панам палкоўнікам…

Ён многа яшчэ гаварыў. Але словы яго праходзілі неяк міма свядомасці Васіля, выклікаючы толькі нейкія цьмяныя думкі, абрыўкі ўспамінаў, няясныя вобразы пражытага, перадуманага. Так, ён узарваў мост… Яго шнур… Пракляты шнур, які прыйшлося замяніць другім, карацейшым. Таму і не паспеў ён адысціся далей… Аскабалкам жалеза яму перабіла плячо, моцна ўдарыла ў грудзі. Колькі часу ён праляжаў там, на мокрым снезе? Ён толькі памятае, як, зірнуўшы ў цёмнае начное неба,

ён заўважыў водбліскі халоднага трапяткога святла. Ля чыгункі пускалі ракеты, шукалі кагосьці… Снег падаў густымі, частымі камякамі. Перасільваючы востры боль, ён устаў і пайшоў цераз узлессе, праз маладыя дубняковыя парасніѓі. Хутка яго праглынуў густы, высокі бор. Толькі пад самую раніцу дабраўся ён, дапоўз да ўскраіны роднай вёскі. Яму не трэба было ісці туды, але ён замярзаў. Зусім абледзянела плячо, ён не мог зняць аўтамата з пляча. Вось і гумно… Змрочная, халодная ёўня… Ахапак саломы. Забыццё… Напалоханыя вочы маці… І радасць, і страх на яе такім жа родным, такім жа блізкім твары… «Сыночак мой, сыночак, ці табе ж, маладому, так рана шукаць лютае смерці!..»

Ах, як баліць плячо!.. Пякучы боль прастроміў усё цела. Падхапіўшы пад рукі, вартавыя паставілі яго на ногі. У пакоі стала шумна. Некалькі афіцэраў распраналі шынялі. За сталом ужо сядзеў палкоўнік, і заклапочаны камендант пачціва дакладваў яму аб справах. Чашка гарачай кавы дымілася перад палкоўнікам. Не гледзячы на каменданта, ён выслухоўваў яго рапарт, зрэдку перабіваючы рэзкімі запытаннямі. Тады торгаўся сінякаваты шрам на твары палкоўніка, і яго правае века заходзілася ў драбнюткім ціку. Палкоўнік пагладжваў вока доўгімі пальцамі, і чорны персцень на пальцы цьмяна паблісваў пры свеце газоўкі.

Васіль бачыў гэты пярсцёнак і ўспомніў, як яшчэ ўвосень гэты чалавек у зарэчным сяле тапіў людзей на балоце. Сярод іх былі дзеці… Гэта быў сам камандзір кавалерыйскага эсэсаўскага палка, ці, як празвалі яго партызаны, — «чорны палкоўнік».

Яго думкі спыніла рэзкая каманда. Вартавыя адышліся назад, да сценкі. Пачаўся допыт. Хто? Адкуль? Чаму ўзарваў мост? Дзе штаб? Ах, якія яны ўсе аднолькавыя… Вось вазьмі і палажы перад імі штаб… Брата пашлі на шыбеніцу… Уласнымі рукамі задушы матулю… Радзіму-маці затапчы ў балота, стань на грудзі ёй забруджаным ботам…

Васіль маўчаў, не абзываўся ніводным словам. Чорны пярсцёнак мігцеў перад вачыма і мяняў свой колер, рабіўся шэрым. Палкоўнік ужо крычаў, дзіка, шалёна:

— На калені, бандыт!

Афіцэр выхапіў у часавога вінтоўку, жалезным прыкладам ударыў наводмаш па каленках звязанага чалавека. Глухі стогн прарэзаў хвілінную цішыню, і кісці рук вартавога затрымцелі дробна-дробна. Звязаны чалавек упаў на падлогу, замоўк. У пакой увялі Аксінню. Яна кінулася была да распасцёртай постаці на падлозе, але яе груба адцягнулі назад, да дзвярэй. Прыхіліўшыся да сцяны, яна стаяла і зняможана ківала галавой.

Салдаты выплюхнулі вядро вады на знявечаную постаць чалавека. І калі той паварушыўся, яны выйшлі па камандзе за дзверы. Палкоўнік чакаў. Васіль заўважыў Аксінню. Яго мокры твар сагрэла ледзь прыкметная ўсмешка.

— Ідзі дахаты, матуля, табе не трэба бачыць іх. Не трэба быць тут…

Прыкмеціўшы вартавых, якія стаялі ля маці, ён вінавата сказаў:

— Даруй мне, родная, што праз мяне…

— А-а… загаварыў, па-а-н партызан… — ажывіўся палкоўнік. — Ну што ж, так бы даўно… Можа, што і скажаш талковае…

— Скажу… — суха прашаптаў Васіль, і, прыўзняўшы галаву, — гэта каштавала яму балючых намаганняў, — ён глядзеў на палкоўніка нейкім дзіўным, пасвятлелым позіркам. Скатваліся каплі вады з мокрых валасоў, траплялі на шчокі, на засмяглыя губы. Твар чалавека рабіўся падцягнутым, жорсткім. — Я скажу вам… Гора вам будзе… Смерць вам будзе… Чорная, паганая смерць… І я шкадую толькі, што не мне прыйдзецца біць вас, не мне… Але вам не выйсці жывымі з маёй зямлі, і гніць вы будзеце, як прыдарожныя чэрві, бо наша зямля не захоча прымаць вас, сабак…

Палкоўнік паволі ўзнімаўся на сваім крэсле і, ухапіўшыся рукамі за край стала, цягнуўся да твару Васіля. Косткі пальцаў палкоўніцкіх напяліся і пабялелі, у завілінках сіняга шрама праступіла жывая чырвань, яго голас зрываўся, хрыпеў:

— З кім… га-а-ворыш… ты-ы?

— З сабакам… Але вы горш ад сабак… Вы забіваеце маленькіх дзяцей, вы храбры супраць бяззбройных… Вы… Ну, ну, не храбрыся… Я ж не магу цяпер адказаць табе куляй на кулю, але…

І, сабраўшы апошнія сілы, плюнуў Васіль проста ў вочы палкоўніку. Суха хлопнулі частыя стрэлы. Увесь парабелум разрадзіў пан палкоўнік. Пасля павярнуўся да Аксінні і глянуў на яе налітымі крывёю вачыма. Зірнуўшы яшчэ раз на пусты рэвальвер, рэзка кінуў:

— Павесіць!

Салдаты вынеслі цела Васіля, вывелі Аксінню, спяшаючыся, спаласквалі вадой і замывалі падлогу, ухіляючыся ад палкоўніцкіх ботаў. Палкоўнік хадзіў, узрушаны, з кута ў куток, проста па лужынах. Стаялі навыцяжку афіцэры. Камендант адчуваў сябе вінаватым. Недзе ў глыбіні душы варушылася далёкая думка, што, відаць, абміне яго жалезны крыж, які спадзяваўся ён атры-

маць за ўсю гэтую справу. Цяжка дагадзіць такому начальніку, як пан палкоўнік.

Але палкоўнік гаварыў ужо мякчэй:

— Вось што, пан камендант… Мы павінны іх так застрашыць, так напужаць, каб у іх заўсёды валасы стаялі дыбам… Такая нечуваная нахабнасць!

— Іменна, іменна, пан палкоўнік… — падтакваў супакоены камендант.

* * *

Аксінню пакаралі раніцой. Яе павесілі на старым дубе, што высіўся супроць школы. Перад гэтым сагналі ўвесь народ з вёскі. Доўга ўсё пыталіся аб нечым немцы ў Аксінні. Яна стаяла, старая, сухенькая, на століку, прынесеным немцамі са школы. На доўгім століку выразна віднелася чарнільная пляма, вельмі падобная на след дзіцячай далонькі. Аксінні моцна, моцна захацелася ўбачыць гэтую цёплую дзіцячую лапку, што пакінула свой след. То ж было, відаць, яшчэ да вайны, у тую зіму. Тады і ў школе звінелі дзіцячыя галасы, і пад гэтым дубам дзіцячыя лапкі лавілі мячык вясной…

Ціхі вецер развяваў непакрытыя валасы Аксінні, дробныя сняжынкі трапяталіся на яе брывах, а яна ўсё кланялася, кланялася народу і ледзь чутна гаварыла:

— Вы не бойцеся, добрыя людцы… Вы не бойцеся, што яны мяне вешаюць… Яны ж баяцца мяне… Яны ж вас баяцца…

З натоўпу людзей чуліся ціхія ўсхліпы, і чыйсьці голас груба прарэзаў паветра:

— Душагубы!.. Прыйдзе і на вас пагібель…

Па рэзкай камандзе ўзлаванага палкоўніка салдаты пачалі разганяць народ, які толькі што яны зганялі. Стараста, робячы напалоханы выгляд, угаворваў жанчын:

— Бабанькі мае, адыдзіцеся… Ці вам жа глядзець на гэта…

Народ разыходзіўся.

Тады яшчэ раз запыталі Аксінню, каб сказала яна, хто ж яшчэ з сяла, акрамя яе, ведае аб партызанах, аб іх зямлянках.

Аксіння нібы задумалася на хвіліну, нібы ўспамінала аб чым. Усё пражытае прайшло ў адзін міг перад вачыма, выразна, ясна, як гэтая вось снежная раніца, як след дзіцячай лапкі на школьным стале. Некалі былі такія лапкі і ў Андрэя, і ў… Васіля. Замучылі Васіля… Яна глянула яшчэ на вуліцу, на народ, спыніла свой позірк на старасце, на Касмылі, які стараўся

трымацца непрыкметна ўбаку. Яго рэдзенькая, касмылькам, бародка матлялася з боку ў бок, і рыжыя валасінкі выбіваліся з барады, трымцелі на ветры. Спакойна і ціха праказала Аксіння:

— Вы вот у мяне ўсё пытаецеся, а я нічога вам не скажу… Каб і ведала, усё роўна не сказала б… Вот ён… Ён усё ведае… Усё ведае, да нітачкі… Ё-о-н знае…

З усяго пляча ўдарыў палкоўнік цяжкім гарапнікам па галаве Касмыля. Той аж паваліўся і, поўзаючы на каленях, залямантаваў на ўсю вуліцу:

— А паночак жа мой, а за што ж гэта вы мяне… Пан камендант, скажыце ж вы яму…

Камендант шапнуў нешта на вуха палкоўніку і падняў на ногі старасту. Тут жа сказаў яму:

— Гэта нічога… Маленькае непаразуменне…

Палкоўнік не зірнуў нават на разгублены, збянтэжаны твар Касмыля, моўчкі кіўнуў рукой, каб канчалі ўсю гэтую справу, якая паказалася яму цяпер шэрай, зусім нецікавай. Не такіх вынікаў чакаў ён ад гэтай шыбеніцы, ад гэтага пакарання. Куды прыемней, калі поўзае чалавек перад табой, распасцёршыся ў пылу і праху, жаласна скуголіць аб такой малюсенькай рэчы, як звычайнае чалавечае жыццё. Ты адчуваеш сябе тады Богам, ты вышэй Бога, у тваіх руках жыццё і смерць падобных табе. А тут… Дзіўныя, недарэчныя людзі. Адзін ідзе на смерць напралом, сам падганяе сваю бязлітасную кулю… Фанатыкі… Другі… вот жа… памірае, нібы радуецца чаму… памірае і не глядзіць на цябе, не гаворыць з табой, не хоча заўважыць цябе, нібы ты пылінка, нібы ты поўная нікчэмнасць, не вартая нават праклёну… усё гэта незразумела, гэта нават… страшна…

Загадаўшы салдатам, каб падпалілі партызанскую хату, палкоўнік моўчкі ўсеўся на каня і, нават не развітаўшыся як след з камендантам, падаўся са сваім эскадронам з сяла. Пануры, маўклівы, ехаў ён уперадзе эскадрона і, выехаўшы з сяла, пусціў каня ў шалёны галоп, каб неяк развеяць недарэчныя думкі, скінуць з сябе прыкрае здранцвенне. Дзесьці цяжка плёскалася на дне сэрца глухая, чорная злосць. І ён адчуваў, што няма ёй ніякага выхаду, няма задаволенасці.

Ля пажару завіхаўся Касмыль. Ён вельмі баяўся, каб агонь не перакінуўся на яго сялібу, выгнаў цэлую чараду жанчын, і тыя мітусіліся на вуліцы, на двары, расцягвалі плот, ламалі паветку, каб не даць агню вялікай волі. Калі снапы іскраў пасыпаліся з асядаўшай страхі, з сенцаў выкаціўся маленькі гарэўшы клубочак. Жанчыны, што былі бліжэй, з жахам падхапілі яго на рукі,

прытушылі снегам, хусткамі. Захутаўшы ў кажух, адна жанчына панесла яго далей ад пажару і ўсё прыгаварвала ціхенька:

— Божа ж мой, Божа… Чаму ж ты, Вулька, не адгукнулася, мы ж цябе клікалі і праз акно, і праз сенцы…

— Я дужа баялася… Бабка як пайшла, дык і не прыходзіла… Я ўсю ноч адна праплакала… Ды прыходзілі немцы, дык я схавалася на вышках… А тут, цётачка, пажар… Я дужа баялася дзядзькі Касмыля, можа, гэта ад вугальчыкаў пажар… Але ж бабка не паліла ўчора печы… А мне вельмі балюча… Мне вельмі балюча… Мне ўсё баліць!..

Жанчына спяшалася як мага, каб хутчэй данесці да хаты маленькае, абгарэўшае, ціха стогнучае дзіця.

* * *

Касмыля разы са два выклікалі да каменданта. Былі то ўсё розныя дробныя справы: сена, салома, расчыстка дарог ад снегу… Пра партызан камендант не гаварыў, але Касмыль адчуваў, што імі заняты ўсе думкі каменданта.

— Глядзі, каб яе не знімалі… Гэта не лішняе для навукі…

Касмыль не перапытваў, ён ведаў, аб чым гаворыць камендант. Аднак ён быў і крыху незадаволены камендантам. Колькі той нарабіў яму розных абяцанак… А сённяшні гарапнік? Нават свайму начальніку не расказаў камендант як след аб ім, аб старасту… Гэта крыху псавала настрой, але выгляд патухшага пажарышча, ля якога праходзіў Касмыль, неяк адразу адагнаў ад яго ўсе гэтыя дробязі, гэтыя, па-а-думаеш, непаразуменні. Ён нават спыніўся на хвіліну ля бялеўшай на пажарышчы печы. Узіраючыся на яе закопчаны і такі суровы паначы комін, на які кідаў вецер цэлыя прыгаршчы сухога жорсткага снегу, Касмыль адчуў, як пацяплела ў яго на сэрцы. Пабялеўшы і аплыўшы ад гарачыні чыгунок пацешна выглядаў з цёмнага чалесніка печы, такой недарэчнай цяпер, страціўшай цяплынь чалавечага ачага, усю ўтульнасць скромнага сялянскага жытла.

Ён уздыхнуў і выціснуў на твары нешта падобнае на ўсмешку.

— Дык вось як, Андрэй Іванавіч… Выходзіць, не ты мяне падсадзіў, а я цябе падсадзіў… Можа, і да самога цябе дабяруся, каб аддзячыць табе за ўсю тваю старую ласку… Вы яшчэ не ведалі мяне, Сідара Лупянка…

Ён пайшоў, не спяшаючыся, дахаты, успамінаючы сякія-такія даўно забытыя справы. Прыгадаў, як дваццаць год назад

падсадзіў яго Андрэй Іванавіч, тады яшчэ жаўтароты камсамол, падсадзіў на цэлых два гады турмы. А за што б, запытацца? Якая яму была справа, падшывальцу Андрэю, што ён, Лупянок, вазіў кантрабанду… Ну і вазіў… Не яго ж скурай рызыкаваў ён, Лупянок, а сваёй жа, уласнай. І дамок харошы паставіў… І ўсё на дробязях… Ну сахарын, ну соль, спірт і… яшчэ там усякія глупствы. Ды ён жа, Лупянок, і галоўным не быў… Дык навошта ж тады чалавека на два гады ў камеру браць?.. А дзесяць год таму назад… Сур'ёзна тады падсадзіў Андрэй Іванавіч, аж на цэлых восем год падсадзіў. Што казаць, не зусім чыста зрабіў тады ён, Лупянок. Пад п'яную руку ўсё ішло, як угаворваў яго багаты сват падпаліць калгасны кароўнік. Падпаліць падпаліў, а шапку сваю з п'яных воч ля кароўніка і пакінуў. Былога свата-кулака расстралялі, а яго, Лупянка, на восем год у турму. І жонка яго кінула, нават развітацца не прыйшла. Так і перадала праз людзей, што не хоча болей жыць з п'яніцам, з наймітам захрыбетніцкім… А чым жа ён быў вінаваты? Што хацеў прыдбаць сям'і харошы дамок ды дурную капейку ўхапіць з аднаго маху, з налёту. Што і казаць, выйшла жытка ў яго, у Лупянка, немудрашчая. І калі прыйшоў з турмы, не дужа ўядаўся ў працу, усё прыглядаўся, да якога месца сябе прыляпіць, каб зацішней было і вальготней. Да зямлі асабліва не цягнуўся, бо на грудзі быў слабы, як казаў ён, і рукі на грабільне дрыжалі. Пабыў вартаўніком, дапамагаў на малочнай ферме. Потым за рахункавода паставілі, бо вельмі ж разбіраўся ў лічбах, меў схільнасць да іх. Так і рыпеў пацíху пяром. Калі выпіваў часам лішнюю чарку, тады лез цалавацца да ўсіх і, слінячы кудзелістую барадзёнку, нібы ўгаворваў людзей:

— Вот вы мяне ўсе за разбойніка лічылі… А я такі ж мілы чалавек, ну проста ж вот разлюбезны…

Ад яго адмахваліся, як ад назойлівай мухі.

Касмыль зайшоў у хату. Зялёны паўзмрок панаваў у ёй. Касмыль даўно пачаў баяцца цемені ночы, і, завесіўшы дзяружкамі вокны, ён запальваў запыленую лампадку, і яна гарэла ўсю ноч, цьмяна паблісквaючы праз мутнае зяленіва шкла ледзь прыкметнай іскаркай.

Касмыль лёг на ляжанку. Яе цеплыня была асабліва прыемнай у гэты час, калі густа завываў вецер у коміне і завіруха шархацела па сценах, білася ў вокны, аж калыхаліся старыя дзяружкі.

Касмыль успомніў пра сад Аксіннін. Дрэў пятнаццаць у ім адных толькі яблынь і груш, не лічачы вішняку… Камендант

абяцаў… Можна будзе прадаць сядзібу з садком, гумно… Лішняя капейчына не завадзіць у кішэні…

У акно моцна пастукалі.

Касмыль прыўзняўся на локаць, прыслухаўся. Стук паўтарыўся, быў ён рэзкім, настойлівым. Касмыль хуценька падбег у кут, патушыў лампаду і, адхінуўшы ражок дзяружкі, пачаў асцярожна ўглядацца. Ён убачыў постаць нямецкага салдата. Паблізу стаяла яшчэ некалькі чалавек. І калі стук паўтарыўся, ён ціхенька азваўся:

— Ну я… Чаго там стук узнімаеце?

— Пан камендант патрабуе вас да сябе…

— То зараз…

І, лаючы ў думках неўгамонную натуру каменданта, ён нацягнуў валёнкі, ускінуў кажух і, спяшаючыся, выйшаў на двор, а адтуль, не ўступаючы ў асаблівыя гутаркі з салдатамі, — дзьмуў сіберны вецер, — разам з імі пайшоў да школы.

* * *

Усю ноч не змаўкала шалёная завіруха. Глуха шумелі, стагналі касматыя яліны, звонка парыпвалі маразявыя сосны, і дзесьці ў вяршынях дубоў перакатвалася, гудзела: гу-гу-гу-у… Цэлыя гурбішчы снегу — сухога, калючага, як іголкі, — кідаў вецер на яловыя лапы, на рыпучыя дзверы зямлянкі. Вецер урываўся ў бляшаны комін печкі, выдзьмухваў з яе попел, гаручыя іскры. Печка захліпалася, пачынала дымець. Тады з зямлянкі выходзіў чалавек, корпаўся ля коміна, папраўляў яго, застаўляў яловымі лапамі, абледзянелымі плашкамі дроў, — каб перашкодзіць ветру выдзьмухваць цяпло з лясной хаткі. Чалавек варочаўся ў зямлянку, цяжка прысаджваўся ля нар, што займалі палавіну прасторы. Быў ён высокі, і яму нязручна было сядзець на нізкім сасновым цюльпаку. Ён сутуліўся, зябка паціскаў плячмі. Яго густыя валасы серабрыліся на мігаючым святле газоўкі, ледзь асвятляўшай куточак нар, адкуль зрэдку чуліся слабыя, ледзь чутныя стогны. Маленькі чалавечак, загорнуты ў прасцірадлы, захутаны ў кажух, ляжаў там, ляжаў нерухомы, бездапаможны. Чалавек браў маленькую ручку, прыслухоўваўся да пульсу, прагным вухам лавіў ледзь чутнае, парыўчатае дыханне.

— Дачушка мая!.. — сарвалася з вуснаў сівога чалавека.

Ён беражліва ўзяў яе на рукі, устаў і, прыціскаючы да сябе ўвесь гэты скрутак, пачаў хадзіць, асцярожна перастаўляючы ногі, уздоўж нар — пяць крокаў туды, пяць крокаў назад. Глухаватым, асіплым голасам ён запеў калыханку:

Люлі-люлі, люлі-люлі…
Усе курачкі паснулі…

Але песня не выходзіла. Ці ён забыўся на яе словы, ці нейкія думкі адцягвалі ад песні. Ён чуў гарачы шэпт. Цяжка было дабрацца да сэнсу паасобных слоў. Маленькі чалавек трызніў. Нешта гаварыў аб неўгамонніцы бабцы, якая пячэ для Вулькі аладкі, паліць печку, ездзіць у нямецкі абоз… Не… не… Яна не вінавата — бабка — у пажары… Гэта яе вугальчыкі, Вульчыны… І прыгожая сінічка… Ах, якая страшная, стра-а-шная сініца… Не да-а-й то Божа…

Слабенькі голас затухаў. Халадзелі маленькія пальчыкі. Чалавек палажыў сагрэты ім скрутак на нары, нецярпліва, прагна прыпаў калючай шчацінай вусоў да маленькага твару. Вульчыны губы былі халоднымі.

Чалавек праз сілу ўзняўся на ногі. Зірнуў яшчэ раз на маленькі тварык з апаленымі расніцамі, з чырвонымі плямінамі ад агню на шчоках, на лбе. І ціха-ціха, толькі і магла ўчуць яго словы заснуўшая навечна дзяўчынка, не то сказаў, не то запытаўся ў яе:

— Хто ж нам, мая маленькая сінічка, перашкодзіў жыць… Хто хоча нам смерці?

Новай палаткай прыкрыў яе ўсю, прыкрыў твар, адышоўся да дзвярэй.

— Хто ж хоча нам смерці?! — гнеўна крыкнуў ён, даўшы ўрэшце волю свайму голасу.

Страшны, аглушальны праклён страсянуў усю зямлянку, на якую хвіліну заглушыў шалёную завіруху.

Гарачым ілбом прынік чалавек да халоднага бервяна сцяны, замоўк, збіраючыся з думкамі.

Дзесьці ў вяршынях дубоў перакатвалася, гудзела шалёнае: гу… гу… гу-у-у… Але ў посвісце завірухі ўчуў ён чалавечыя крокі ля зямлянкі. Адышоўся ад сцяны, паправіў гімнасцёрку, правёў рукою па твары.

З клубамі марознай пары ў зямлянку не ўвайшоў, а ўкаціўся рухавы хлапчушка гадоў пятнаццаці-шаснаццаці. Яго запарушаная снегам постаць, ружовыя шчокі, гарэзлівыя вочы пыхалі такім здароўем, такой жыццярадаснасцю, што ён, спатыкнуўшыся аб парожак зямлянкі, аж засаромеўся крыху сваёй залішняй рухавасці.

— Дзядзечка… Андрэй Іванавіч… Выбачайце… Таварыш камандзір, зарэчанскі атрад прыслаў мяне далажыць вам, што ўрэшце-такі мы злавілі гэтага «чорнага палкоўніка»…

— Ну-у! — мімаволі вырвалася ў Андрэя Іванавіча, і сапраўды ўсцешанага такой навіной.

— А дзе ён дзенецца! Згуляў пад нашу дудку! Там і палажылі… У воўчым лажку ля мосціка… І адной кавалерыі чалавек пяцьдзясят: эсэс у эсэса, як на падбор…

— Ну, а як жа яна? — запытаўся ён ужо ціха, заўважыўшы на нарах накрыты палаткай кажушок. — Палягчэла ёй? Спіць? — нават на цыпачкі стаў хлопец, каб не нарабіць залішняга грукату сваімі ботамі.

Чалавек нешта адказаў незразумелае, нешта махнуў рукой.

— А мы вот толькі коней запрагаем па доктара, з мястэчка думаем прывезці, з-пад самага носа ў немцаў!

Андрэй Іванавіч коратка загадаў:

— Не трэба…

Хлопец паглядзеў на яго, не разумеючы загаду.

— Не трэба, мой дружа… Яна памерла…

Часта-часта замігалі вочы хлапчыны, нібы лёгкі цень прабег па яго твары. Ён зняў шапку і ўсё цёр скронь, гледзячы ўніз, на асыпаную ігліцай падлогу.

Андрэй Іванавіч маўкліва падкладаў у печку пахучыя смалякі.

Да самай раніцы прыходзілі і выходзілі людзі з зямлянкі. Наведвалі чалавека, каб дапамагчы яму перайсці праз вялікае чалавечае гора.

* * *

А на сяле былі свае навіны.

Жанчыны пайшлі раніцой у школу здаваць малако, якое насілі яны туды штодня. У старажоўцы, дзе прымалася малако, нікога не было. Пуста было і ў школе. Праз два разбітыя акны і адкрытыя насцеж дзверы гуляў вецер. Цэлыя сумёты снегу намяло на падлогу. Немцаў не было, хаця і стаялі іх нары з пасцелямі. На сценах віселі іх ранцы, уся салдацкая гаспадарка была на месцы. Але салдатаў не было. Пайшлі запытацца ў старасты. Старасту таксама не знайшлі. Яго хата пуставала. І толькі тут заўважылі стары дуб, які звычайна абыходзілі, стараючыся не праходзіць каля яго. На высокім, абпаленым калісьці маланкай суку раскачваліся на вяроўцы два чалавекі. Жанчыны боязна падышлі бліжэй і пазналі ў вісеўшых старасту і каменданта. Яны віселі на адной пятлі, абняўшыся, твар у твар, нібы застыглі ў доўгім прыяцельскім пацалунку. Абсыпаючы шорсткім снегам,

вецер раскачваў іх з боку на бок, і яны калыхаліся пад посвіст завірухі на гэтых нябачаных страшэнных качэлях.

— Дацалавалася, касматая душа!..

Нехта ўспомніў пра сабаку.

Нехта сказаў пра юду.

Нехта проста сплюнуў.

А завіруха гудзела, намятала гурбы, прыкрывала снегам чорныя галавешкі пажарышча.

Людзі моўчкі разышліся па хатах, падалей ад таго месца, дзе глуха парыпваў пад шалёным ветрам апалены маланкаю дубовы сук.

*1942*

## НЕДАПЕТЫЯ ПЕСНІ

Хутка імчалі над лесам ускудлачаныя хмаркі.

Дзесьці высока-высока, за самымі хмарамі, курлыкалі жураўы. І кожнаму хацелася ўбачыць іх, і ўсе ўглядваліся ў глыбокую цемрадзь неба, сілячыся разгадаць, распазнаць у цьмяным мігценні зораў, у разрывах хмар сілуэты прываблівых і загадкавых птушак. Але яны былі ўжо далёка. Ледзь-ледзь далятала жураўліная песня і, праглынутая ноччу, вятрамі, непрыкметна злівалася з шолахамі лісту, з шархаценнем травы, з няўмоўчным гоманам бору. І толькі на сэрцы доўга аддавалася яна невыразным болем, горыччу нявыказанай патраты.

— Та-а-к… паляцелі… — прашаптаў нехта побач.

Ніхто не адказваў яму. Кожны заняты быў сваімі думкамі.

Узышоў над лесам месяц. Выразна выступілі зубчастыя верхавіны елак, у срэбным ззянні ўсталі задумлівыя хвоі, глыбокія цені ахуталі лясную паляну. Людзі прыніклі да зямлі, не варушыліся, прагна прыслухоўваліся да гукаў восеньскай ночы: дзесьці хрупаснуў сучок, мякка ўпала паблізу хваёвая шышка, за лесам гучна заржала жарабя, — ізноў усё ціха і глуха. Толькі верхавіны соснаў гудзелі ледзь чутна ды шалясцелі няўмоўчныя трапяткія асіны, перашэптваючыся аб нечым сваім з пакрыўджанымі непагаддзю бярозамі. Пахла перакіслымі брусніцамі, прэлай саломай, прыхвачаным першым замаразкам грыбам. Ды яшчэ даляталі ледзь улоўныя пахі каменнавугальнага гару і сатлелай шпалы, якая доўга праляжала ў зямлі.

Дзесьці блізка праходзіла чыгунка.

Калі свежы вецер ускудлаціў верхавіны дрэваў, кінуўшы на зямлю поўныя бярэмы шаматлівага лісту, пачуліся далёкія, так доўгачаканыя гукі.

— Ідзе, — урачыста прашаптаў побач са мной чалавек і да болю пацiснуў мне руку. Гэта быў камандзір засады.

І ніхто не дадаў больш ні слова, ні гуку. Усе напружана ўслухоўваліся ў шумлівае дыханне ночы, у непакойныя парывы ветру. Сумнення не было, ішоў цягнік. Да яго было яшчэ кіламетраў пяць або шэсць. Гукі то заміралі — цягнік праходзіў лагчынай, то паступова ўзмацняліся — цягнік набліжаўся, узбіраўся на горку. Ляжаўшыя пад дрэвамі даўно вызначылі па гуку: таварны, два паравозы, цяжкагружаны…

— Цяпер памчыць пад горку, толькі трымайся… Ці ўправіліся хаця нашы там? — І ў голасе маладога камандзіра чулася трывога за сваіх, за падрыўнікоў, якія павінны б пайсці ўжо ад лініі чыгункі і не перашкаджаць, у выпадку чаго, ім, засадзе. Шум цягніка набліжаўся, нарастаў, ён пераходзіў у грукат. І ўсе мы бачылі ўжо снапы іскраў, вылятаўшых з абодвух паравозаў, празрысты свет пад імі, там, дзе знаходзіліся распаленыя топкі, і чорныя сілуэты вагонаў, якія мільгалі адзін за другім. Адзін за другім… Адзін за другім…

І раптам усё знікла, прапала: і трапяткое святло месяца, і серабрыстае ззянне задумлівых хвой. І нават вецер, здавалася, прыціх, замоўк. Усё асвяцілася жорсткім багровым святлом, і мы ўбачылі, як пярэдні паравоз узняўся і павіс у вогненным смерчы — шалёна круціліся на месцы калёсы. Усё гэта цягнулася якуюсьці долю секунды і — рассыпалася, распалася ў аглушальным грукаце і ў тысячах грымотных раскатаў, ускалыхнуўшых, здавалася, само неба і зямлю. Шалёныя віхры прамчаліся над лесам, цяжка загудзелі хвоі і елкі, спужана затрымцелі трапяткія асіны, бярозы. Калі заціх апошні водгалас грымотнага раскату, чутно было, як надрыўна шыпела пара, нешта трашчала, скрыпела, ламалася. У некалькіх месцах займаліся палахлівыя языкі полымя, і ў іх водбліску відаць была беспарадкавая груда бітых вагонаў, пакарэжаных платформ, некалькі ўцалелых вагонаў, сярод якіх была пара класных. Адтуль выскаквалі перапужаныя людзі, нешта крычалі, нехта лаяўся, нехта ашалела галасіў, даносіліся прыглушаныя стогны.

— Пасаліць іх, нячыстае племя! Паддай ім солі, Усціныч! — крыкнуў праз плячо камандзір засады, і адразу ж загаварыў кулямёт, захліпаючыся то кароткімі, то доўгімі чэргамі. Я зірнуў на кулямётчыка. Ён ляжаў суровы, падцягнуты і здаваўся

адным целам з кулямётам, да таго ён прыліп да яго, зблізіўся з ім. Дрыжалі ад кулямётнай ліхаманкі наглуха сцятыя кулакі, і жоўтае полымя стрэлаў спалохам водбліскаў прабягала па выцягнутым твары, асвятляла абвіслыя вусы. Вочы чалавека былі шырока адкрытыя і гарэлі якімсьці дзіўным бляскам. Ці то застыглая жорсткасць, ці то прагнасць, ці то захапленне бойкай адсвечвалася ў іх позірку. На заняпалых шчоках струменілася ўсмешка. Яна затухала часам, і тады варушыліся губы ды прыжмурваліся вочы на вар'яцеўшае полымя, якое ахапіла чыгунку. Чалавек не то спяваў, не то гаварыў сам з сабой. І ў перапынках паміж кулямётнымі чэргамі мне сапраўды пачуліся нібы чутыя недзе раней словы. Я прыслухаўся. Сумнення не было: чалавек спяваў, ціха, напаўголаса, пра сябе. Словы знікалі ў кулямётным стракатанні, яны выразна вырываліся, выплывалі знаёмай мелодыяй. Гэта была дзіцячая песенька, простая, наіўная. Поўная задушэўнай цеплыні, яна выклікала ў памяці дзіцячыя тварыкі, цыратовыя нагруднікі, маленькія ручнічкі з вышытымі эмблемамі — значкамі: вавёрка, кляновы ліст, серп і молат і вясёлы птах верабей. Колькі раз мы чулі гэтую песню ў дзіцячых садах і дамах, у малодшых класах школ. У песні спявалася аб Варашылаве, аб Чырвонай Арміі. І калі раздаваліся яе словы, так натуральным здавалася б убачыць расчырванелыя дзіцячыя тварыкі, блакітныя і цёмныя вачаняты, імклівы мяч, няўклюду мішку з працёртым носам…

І гэта песня была так не да месца, так не вязалася яна з крывавым зарывам пажарышча, з захліпаючымся кулямётам, што, калі ўсё скончылася, — дзесьці непадалёку ўжо ўзвіваліся сігнальныя ракеты нямецкіх патрулёў і раздавалася каманда адыходзіць назад, — я таргануў за рукаў кулямётчыка:

— Паслухайце, таварыш!

Не астыўшы яшчэ ад бойкі, ён не пачуў майго запытання, а камандзір групы ціха сказаў мне на вуха:

— Не трэба… Не чапайце яго…

Ён зразумеў, аб чым хацеў я запытацца ў кулямётчыка.

Бралася на відно. Група прабіралася цугам па глухой лесавой сцяжынцы. Стомленыя людзі перакідваліся скупымі словамі, хтосьці пераканана ўгаворваў:

— Дзівак ты. Зразумей, колькі танкаў адных папалілі, а гармат колькі спляжылі… Чым жа блага?

— Мала… Мала… — незадаволена кінуў пажылы чалавек, вызваляючы з карнявішча засеўшае калясо кулямёта. Яго твар быў звычайным, простым. Будзёнашнімі былі яго русыя, з пад-

палінкай, вусы. І ва ўсім абліччы, і ў руху, у яго хадзе нічога не засталося ад таго кулямётчыка, які так незвычайна падпяваў ноччу свайму кулямёту. Твар яго асунуўся, стаў шэрым, стомленыя вочы падслепавата жмурыліся на бледную палоску блізкага світанку.

Мы ішлі пазадзе з камандзірам засады, і ён расказаў мне простую гісторыю кулямётчыка.

* * *

…Яму было год пяць, а мо трохі меней. Ён стаяў і даверліва працягваў ручаняты. Сінія вочы іскрыліся просьбай, разгублена хмурыліся бровы, вычакальна складваліся губы, і ўся яго маленькая пацешная постаць цягнулася наперад, да гэтага капрызнага мяча, які можа так слаўна скакаць па траве, а потым раптам сарвацца куды-небудзь убок і каціцца, каціцца, каціцца…

— Аддай, дзядзя, мяч!

Маленькі тварык хмурыўся, сердаваў. Ён абарочваўся назад — а можа, прыйдзе хто-небудзь на дапамогу? Але гэтым дзецям не да яго. Яны толькі што ігралі ў жмуркі, ігралі ў партызан, і цяпер, усхваляваныя, з расчырванелымі тварамі, яны ўселіся на грудзе камення і, стараючыся перакрычаць адзін другога, спяваюць песню. Іх амаль што і не відаць адсюль з-за густой крапівы і маліннiку, якія аплялі ўвесь школьны пустыр. І маленькая таварышка яго — яна ж такая баязлівіца! — таксама пабегла да дзяцей, спявае з імі песню. Песня вясёлая-вясёлая. І такая ж гучная! Аж спужаліся вераб’і і ўспырхнулі чырыкаючай стайкай, закружыліся над старым клёнам і ўсе разам дружна кінуліся ўніз і селі на каменнях, на цаглінах, на абломках сцен. Тут была школа. Калі бомба забіла цёцю Веру, тады не стала і школы. Школа таксама ўпала. Цёця Вера хораша спявала, хораша спявалі дзеці. Цяпер няма цёці Веры.

Тварык крывіцца, моршчыцца, вось-вось заплача.

— Гэта мой мяч, аддай, дзядзя!

Афіцэр глядзіць незразумела на гэтую круглую рэч, якая штурханула яго, адскочыла, потым падкацілася пад ногі. Афіцэр п’яны, ледзь трымаецца на нагах. На ўсякі выпадак яго суправаджае патрульны салдат, ён жа перакладчык.

— Што гэта? — мармыча, пытаецца афіцэр у салдата.

— Мяч, пане лейтэнант… Дзіцячы мяч…

Афіцэр падымае мяч і, узіраючыся мутным вокам у чырвоныя палосы, нешта сіліцца ўспомніць. Позірк яго нерашуча спыня-

ецца на дзіцячым тварыку. Мяч, дзіцячыя русыя косы, — і на твары афіцэра гатова з’явіцца нешта падобнае на ўсмешку, ён нават усміхнуўся, нерашуча, вяла, усё ўспамінаючы аб чымсьці, цяжка, пакутліва. Няйначай гэтая песня перашкаджае ўспомніць аб чымсьці. Гэтая песня… Ён прыслухоўваецца да яе, насцярожваецца. Наставіўшы вуха, ён углядаецца ўздоўж вуліцы, позірк яго праясняецца, твар робіцца жорсткім, падцягнутым. На маленькай плошчы гарадка салдаты ўкопваюць слупы, трамбуюць зямлю навакол. Усё гэта так зразумела і так проста.

— Аб чым спяваюць? — коратка кідае ён салдату.

— Аб Чырвонай Арміі, пане лейтэнант… Але гэта дзіцячая…

— Агонь, паскуднік! — забыўшыся на ўсё на свеце, крычыць афіцэр і ў парыве шалёнай ярасці выхватвае з рук гэтага маруды салдата яго аўтамат.

Мяч на зямлі. Спатыкаючыся, бяжыць да дзяцей хлапчанё, спужаўшыся дзікага голасу чалавека.

Чарга аўтамата коратка абрываецца.

— Ах, Божа мой, ніколі не дадуць спачыну!.. — п’яна, стомлена мармыча афіцэр і ідзе сваёй дарогай. Салдат нацягвае каску аж па самыя вушы і, унікаючы зірнуць па баках, ідзе за афіцэрам, старанна і пужліва прыстасоўваючы свой крок да няпэўнага поступу пана лейтэнанта.

Шумлівай стайкай узняліся і паляцелі з пустыра вераб’і. Пара падбітых ліосткоў паволі падае з клёна, доўга кружыцца над зямлёй. Крыкі, перапужаныя дзіцячыя галасы, чыйсьці стрыманы плач, чыесьці трывожныя пытанні, шэптам:

— Што такое? Як гэта здарылася? Назусім? Пяцёра забітых? А паранена?

З уцалелай ад усёй школы старажоўкі торапка выходзіць чалавек, і, задыхаючыся, ён бяжыць на пустыр, абпальвае рукі аб крапіву і збівае аб цагліны босыя ногі.

— За што? За што? — падае ён на калені. Вось і яго двое. Старэйшы. А вось і меншы. Ляжыць, раскінуўшы ручаняты. У русай шапцы валос заблыталася божая кароўка, усё спрабуе ўзляцець, тапырачы чырвоныя створкі надкрылляў. Чалавек заўважае мяч, бязмэтна ідзе да яго, паднімае.

— Вось і мяч твой, сынок мой… Ну, як жа мы з табой цяпер будзем?.. Вось і пагуляць цяпер з мячом некаму…

Замаўкае. Нехта ўсхліпвае побач, нехта душыць прыглушаныя слёзы. А чалавек сядзіць скамянелы, і ў пагаслых вачах яго цьмяна і халодна пераліваецца трапяткі багранец сонечнага закату.

Потым прыходзіць салдат і тармосіць яго за плячо, настойліва загадвае ісці да камендатуры. Ён ідзе, механічна перастаўляючы нягнуткія ногі. Ён будзе гаварыць, ён скажа багата аб чым, аб страшным. І ён гаворыць там. Але навальваюцца на яго, крычаць на яго.

— Вы, па-а-не настаўнік, забыліся, дзе жывяце? Вы распусцілі дзяцей… Вы…

Так, ён забываецца. Не, ён усё ж памятае аб дзецях. Якая ж распуста?

— Там і мае дзеці… — абараняючыся, слаба гаворыць ён.

— Тым хужэй для вас… Вы кепскі настаўнік і нічога не варты бацька!

Як многа крычаць на яго. І потым ужо спакойна кажуць аб нейкіх падпісках, аб штодзённай рэгістрацыі, аб нявыездзе…

— Так… так… так… — упадаючы ў забыццё, гаворыць ён і тут жа схамянуўся, успомніўшы, аб чым жа гавораць яму.

Дзяцей пахавалі ноччу. Доўга стаяў чалавек з рыдлёўкай, усё нешта думаў, абдумваў. Пры бледным святле месячыка ўбачыў ён часавога, які праходзіў паволі ўздоўж па вуліцы. Рыдлёўка была вельмі цяжкая. Відаць, наліпла зямля, сырая, непрасохлая гліна. І калі цень часавога ўпаў блізка да дрэва, пад якім стаяў чалавек, жалеза рыдлёўкі важка апусцілася вышэй плеч салдата. Постаць часавога падламілася, упала. Ціха стукнулася вобземлю вінтоўка. Прыглушаныя ўдары былі частымі, несутрымнымі. Але вось хрумснула, зламалася драўляная ручка. Жалеза рыдлёўкі чыркануло аб камень і, цьмяна бліснуўшы, адляцела ўбок.

Увабраўшы голаў у плечы і зябка пацінаючыся ад начнога холаду, чалавек пайшоў, хістаючыся, пустыром на балацянішча, парослае алешкавым параснікам.

Стомленага, ледзь жывога Усцінча падабралі ў лесе партызаны.

* * *

Вечарам мы бачылі Усцінча на ўскрайку лесу ля невялічкай партызанскай кузні. Разам са старым кавалём ён майстраваў спецыяльны станок для нямецкага кулямёта, знятага з падбітага танка. У ход былі пушчаны невялічкія колы не то з камбайна, не то з другой якойсьці машыны. Усё пабудаванае атрымлівалася даволі салідным і ўнушальным.

— Ну, як арудзія, Усцініч? — паўжартаўліва, паўсур’ёзна звярнуўся да кулямётчыка камандзір атрада, такі ж пажылы чалавек, як і ён.

— Арудзія як арудзія… — у тон яму адказаў Усцiныч. — Бу-у-дзе пець…

З-пад русых брывей бліснулі жывыя сінія вочы, і ў іх позірку і ва ўсім абліччы гэтага чалавека, некалькі нязграбным і мешкаватым з-за прасторнага ватніка, было столькі ўпэўненасці, столькі глыбокай унутранай сілы, што хацелася сказаць разам з ім:

— Так, будзе пець…

Мне прыгадалася ноч, мне прыгадалася ўсё, што гаварылася аб другіх справах бясстрашнага кулямётчыка, і я зразумеў увесь тайны сэнс тых двух слоў, кінутых ім ноччу, у лесе, у засадзе: «Мала!.. Мала!..» Ён гаварыў аб тых, якія так бязлітасна абарвалі жыццё яго дзяцей, абарвалі іх дзіцячыя песні.

Гэтыя песні былі яшчэ не даспяваны.

*1942*

## ВЯСЕЛЛЕ

Імклівая, захапляючая ляцела насустрач дарога.

Развяваліся на ветры пушыстыя грывы, хвасты. Конскія капыты віхорылі дарожны пыл, цьмяна паблісківаючы срэбрам падкоў, і дружна чаканілі ціхі крок, трапляючы на гнуткія дошкі старых масткоў і грэбляў. І як толькі знікаў з-пад ног гулкі насціл масткоў, струной нацягваліся лейцы, пускаліся коні наўскач, хіліліся насустрач бярозы, запыленыя вербы, спалохана ўзляталі з прыдарожных сосная мітуслівыя сарокі і таропка кідаліся ў бок лесу. Толькі чорны груган, узмахнуўшы для прыліку крыллем, паважна сядзеў на абамшэлым камені блізу дарогі і, паволі паварочваючы галаў, касіў вокам на праязджаўшых.

Там гуло ўсё, грымела. Заліваліся гармоні. Адчайна павіскваі скрыпкі, рассыпаліся з вясёлым пераразвонам срэбныя бомы. У конскіх грывах развяваліся рознакаляровыя стужкі, парусам надзімаліся вышытыя сарочкі, стракацелі квяцістыя ручнікі ў сватоў і дружак.

Высока-высока ўзлятала песня пад разухабісты бубен.

Не плач, не плач, Марыська,
Слёз не лей,
На сватоў зірні весялей!
У тваіх жа сватоў багатыя хаты:
Небам крытыя, яловыя латы…

Пярэдняй тройкай заўзята кіраваў дзед Архіп. Жмурачыся на сонцы, ён зрэдку паглядваў на нявесту, якая сядзела ў яго за спіной. Нявеста была як нявеста: у беласнежным вэлюме, з вянком, з букецікам белых красак на грудзях. Нявеста была ў меру сур'ёзная, у меру сумная, сядзела проста, моцна трымаючыся за драбіны на крутых паваротах, і часта падміргвала дзеду густа падведзенымі вейкамі. Дзед ярасна пакрэктваў і, пакасіўшы вокам на непамерна пышныя грудзі нявесты, сурова сплёўваў набок.

— Эх ты, ліха камарынае, не саблюлі прапорцыі… З такою грудзёю толькі боб малаціць, а не… Ну, ну… Пабязуль у мяне… — накідваўся дзед на прысцяжную, якая не праяўляла асаблівай стараннасці і ўсё намагалася паслабіць пастронкі, перахітрыць сварлівага дзеда.

— Я цябе, жуліка, навучу, я цябе, нячысты дух… — І, прыўстаўшы на передку, дзед ярасна сцебануў нячыстага духа, пагражальна закруціў над галавой канцамі лейцаў:

— Ну, ну, ну… Ля-я-ці, залатыя!

Калёсы рвануліся, шалёна падхапілі коні, і ўвесь вясёлы картэж ляцеў у грукаце, у пыле, з песняй, з гармоняй, з вясёлым гікам і свістам. Хвалістым абрусам пасцілалася прасторнае поле, пасярэбранае павуціннем.

Насустрач махаў ужо з адчаем вінтоўкай нямецкі патруль і разгублена ціснуўся ўбок, не дабраўшы да ладу, што яму рабіць у гэтым непрадбачаным ніводнай інструкцыяй выпадку.

Ужо ўязджалі ў ваколіцу сяла. Выскаквалі з двароў дзеці, стрымгалоў кідаліся да калёс, крычалі на ўсе галасы:

— Вяселле едзе! Вяселле едзе!

Выбягалі ўслед бабы, дзяўчаты. Выходзілі з варот нямецкія салдаты і, праводзячы позіркам вясёлы картэж, здагадліва падміргвалі адзін другому:

— Рус жэніцца…

Пачуўшы музыку, выйшлі на вуліцу і некалькі афіцэраў з штаба, лагодна пасмейваліся, жмурачы вочы з-пад успацелых акуляраў на ўвесь гэты стракаты гам і вэрхал, які так нечакана ўварваўся на ціхую, змрочную вуліцу. Пярэдняя тройка крута развярнулася на ўсім скаку і стала, як укопаная, ля царквы, супроць самага штаба. Аж уздыбіліся коні, спыненыя моцнай рукой старога Архіпа. І, прыўзняўшыся на передку, гаркнуў дзед на ўсё горла:

— Музыку, марш вясельны!

Але дзіўная справа: нібы зусім не пад каманду заціх гармонік, змоўклі бубны, толькі пераліваліся яшчэ бомы на некалькіх

тройках, якія чамусьці кінуліся на бакавую вулічку, на агароды, і тут жа наступіўшую цішыню прарэзаў густы, басавіты перастук кулямёта. Ён біў з пярэдняй тройкі, проста з-пад сядзення нявесты. У той жа момант паветра раздзерлі гулкія, цяжкія ўзрывы — некалькі трапна кінутых гранат разнеслі, развярнулі дах і сцены штабнога дома. Ужо ўвязаліся ў справу аўтаматы, вінтоўкі. На вуліцы пачалася неразбярыха. Беглі бабы, дзяўчаты — далей ад страшнага вяселля. Дзіцяняты, як вераб'і, кінуліся гарохам па дварах, падваротнях. Кідаючы вінтоўкі, вызваляючыся на бягу ад мундзіраў, беглі па агародах нямецкія салдаты, і твары іх парабіліся зямліста-шэрымі. У алавяных вачах мітусіўся жах перад гэтымі стракатымі стужкамі і бубнамі, перад усімі гэтымі людзьмі ў такіх мірных уборах, святочных і светлых. Але бегчы было некуды. Проста наперарэз ім імчаліся па агародах страшныя тройкі, і грывы коней развяваліся — грозныя і няўмольныя, як смерць.

Кулямёты ўжо змоўклі. Толькі часцілі яшчэ аўтаматы ды зрэдку білі вінтоўкі. Па агародах, над бліжнім полем, па якім спрабавалі паасобныя нямецкія салдаты прабіцца да лесу, чулася цягучае, стогнучае:

— Ай… ай… ай…

Ля штаба ўцалелы з групы афіцэраў падпалкоўнік кінуўся быў бегчы ўздоўж вуліцы. Заўважыўшы яго, нявеста праявіла незвычайную вёрткасць і спрыт. У імгненне вока сiганула яна з калёс і, забыўшыся на ўсё далікацтва сваёй асобы і яшчэ больш далікатную сваю ролю, як мага вышэй задраўшы шлюбную сукенку — з-пад яе відаць былі ладныя галіфэ і даволі ёмістыя боты, — каршуком кінулася ўслед афіцэру. Хвіліна, другая — і нявеста ўчапілася ў афіцэра. Што тут было — дзед Архіп нават вочы прыжмурыў ад страху за нявесціны ўборы. Шлюбны вэлюм ляцеў шматкамі, збіўся набок вянок, нявесціны грудзі раптам нечакана адарваліся і глуха шлёпнуліся на дарогу. Дзед нават крактануў ад крыўды.

— Госпадзі, Божа, уся краса гіне задарма! Гаварыў жа чорту прывязваць мацней… — і, перадаўшы лейцы трапіўшаму пад рукі хлапцу, патупаў на дапамогу нявесце. Але тая ўжо вяла насустрач яму падпалкоўніка, моцна закруціўшы назад яго рукі. Дзед зірнуў на яе з дакорам, клапатліва падабраў на дарозе нявесціны грудзі — сухарныя мяшочкі з сенам — і толькі потым ужо старанна скруціў падпалкоўніцкія рукі, завязаў іх за спіной. Яшчэ ў часе сутычкі з падпалкоўнікам здарыўся нейкі грэх.

— Эх ты! Усю амуніцыю скалечыў… — і сурова загадаў адвесці палоннага на заднюю тройку, каб музыку не псаваць, як дадаў ён.

Бойка даўно скончылася. Сартавалі па тройках палонных, грузілі захопленыя трафеі, зброю, скрыні з дакументамі. Нявеста паспела поўнасцю распрануцца, здаць дзеду шлюбную сукенку, рэшткі вэлюму. Дзед паглядзеў разгублена на нікчэмныя рэшткі вясельнага ўбору — сукенка была разлуплена аж да самага пупа, не хапала аднаго рукава — і, рашуча адхіліўшы ўсё гэта рукой, з дакорам сказаў нявесце:

— Так што, Даніла, ты ўжо сам лепш аддавай маёй бабе яе спадчыну… Не я апранаў, не я рваў… Паспрабуй пагавары ты цяпер з ёю, гэта табе не з немцамі жаніхацца… — і, сумна ўздыхнуўшы, узяўся за лейцы.

— Па ко-о-нях! — падаў каманду Даніла, камандзір партызанскі.

Лёгкім трухам панесліся коні назад па дарозе. На некалькіх тройках зацягнулі вясельную:

Паедзем, сваточкі, дадому, дадо-о-му:
Паелі конікі салому, са-а-лому…

Вяселле, не спяшаючыся, варочалася дадому, у лес.

*1942*

## ДЗЕД АЎСЕЙ І ПАЛАШКА

Калі з-пад старой елкі раздаваўся пранозлівы голас:

— А ліханька! А гора ты маё хадзячае! Не лезь ты, Хрыстом цябе прашу, да печы: не з тваёй жа галавой аладкі пячы! — тады партызаны хітра падміргвалі адзін другому, усміхаючыся:

— Зноў дзед Аўсей пайшоў у наступленне.

Дзед Аўсей быў, як кожны дзед: стары, крыху недачуваў, крыху недабачваў. Але, нягледзячы на свае амаль што семдзесят год, быў яшчэ рухавы, жвавы і гаваркі на ўсю акругу. Апошняя якасць і дапамагла яму, як ён казаў, прышвартавацца да атрада. Падыходзячай вакансіі для яго не было, але дзед быў майстрам на ўгаворы:

— Ты, таварыш камандзір, не сумнявайся… Ты не глядзі, што я па гадах нібыта ўжо ў адстаўцы… Я, брат, матрос з ваеннага

карабля… У японскую кампанію, бывала, стаю ля гарматы… Тут табе снарады, тут табе тарпеды, тут табе вада хлешча, тут табе…

— Ну добра, добра… — І дзеду далі пасаду, паслалі да цёткі Палашкі дапамагаць ёй на кухні. І адразу ж усчаліся там баталіі. Дзед быў не супроць таго, каб устанавіць свой парадак у зямлянцы з кухняй. То яму не падабалася, як Палашка смажыць цыбулю. То яму здавалася, што яна не так запраўляе кулеш. То ён з ярасцю змагаўся за чысціню, змайстраваў спецыяльныя пастаўцы для лыжак, каб яны не валяліся абы-дзе, а былі б пры месцы і заўсёды сухімі.

— Кожная снасць павінна быць на месцы, як на караблі. Аднойчы, яшчэ ў японскую кампанію, калі быў я матросам на ваенным…

— Ты, матрос, вазьмі-тка лепш цэбар ды вынесі памыі…

Горшай абразы не магло быць для дзеда Аўсея, і тут пачыналася гарачая дыскусія:

— Што ты разумееш у ваеннай справе?

— Мне і разумець не трэба… Ты вось бяры лепш цэбар…

— Не, я цябе пытаю, што ты разумееш у караблі? Я, брат, не адну падзяку атрымаў за сваю баявую службу… Я Георгія меў за свае баявыя раны… Яшчэ цяпер рубцы відаць на жываце, даўжынёй па два пальцы… — і дзед скідаў пояс, каб паказаць гэтай неймавернай Палашцы свае раны. Але тая сарамліва адварочвалася і замахвалася конаўкай:

— Вот ашпару варам, дык будзеш ведаць, як перад чужымі бабамі загольвацца…

— Цьфу ты, нацыя бабская… — нездаволена чмыхаў дзед. — Ты да яе як чалавек, а ў яе сваё ў галаве… Ты мне не начальнік. Я, можна сказаць, на роўных правах з табой, а можа быць, і вышэй… над табой… Што ў цябе? Гаршкі ды палонікі… А пад маім распараджэннем ваенны конь ходзіць…

— Які там конь! — пырскала смехам Палашка. — То ж кабыла нямецкая, ды яшчэ кульгавая…

— Няхай сабе і кабыла, але жывотная воінская…

— Воінская! — не сціхала Палашка. — Знайшоўся мне воінскі начальнік над воінскай кабылай…

Гэта было новай абразай, і дзед кідаўся ў апошнюю атаку:

— Змоўкні ты… Зацірка няшчасная… Вось хто ты! — і ўрачыста пакідаў зямлянку, адвязваў ад хвойкі сваю воінскую жывотную — звычайнага трафейнага каняку, на якім вазіў ён ваду для кухні, — і вёў яе на папас.

У зямлянцы доўга не магла супакоіцца Палашка, якая лічыла страшэннай знявагай над сабой слова «зацірка», хаця гэтую

няхітрую зацірку яна варыла для атрада амаль штодня. Яна марудна поркалася ля гаршкоў, потым рашуча ішла да свайго невялічкага куфра, даставала святочную хустку і, падвязаўшы яе, ішла ў штабную зямлянку. Ішла пахмурная, грозная. Дзед, які сачыў за ёю з-за кустоў, заўважыўшы суровую постаць Палашкі, злосна сплёўваў пад куст:

— Вот жа лютая нацыя… Ізноў плявузгаць на мяне пайшла… — І, спяшаючыся, паганяў свайго каняку глыбей у лес. А ў зямлянцы, добра разумеючы прычыну з'яўлення Палашкі, мякка пытаўся камандзір:

— Ізноў?

— Ізноў, таварыш начальнік… Жыцця мне з ім нямашака… Альбо я, альбо дзед…

— Навошта ж так, цётка Палашка? Ён жа такі, здаецца, ціхі дзядок!

— Уга… знайшлі ціхоню… Гэта не дзед, а яхіда чыстая… Няма на яго ніякага ўгамону, ва ўсякую маю справу свой нос уткне… Учора, што вы думаеце, надумаўся аладкі пячы: колькі мукі перапсаваў, сала перапаліў… А потым як узлуецца, дык яшчэ мяне аблаяў. Ён мяне за-а-цір-кай абазваў…

— Эге ж! Гэта ўжо сур'ёзная справа! Але, відаць, цётка Палашка, вы яго таксама чым-небудзь данялі? Відаць, вы яго воінскага віду не прызнаяце… Ён жа, як-ніяк, былы матрос, ваяка…

— Яму толькі на печы прусоў ганяць… Вая-а-ка!

— Ну, ладна… Ідзіце, цётка Палашка, ды рыхтуйце полудзень… А мы ўжо як-небудзь знойдзем управу на дзеда…

Але знайсці ўправу на дзеда Аўсея было даволі цяжкавата. Той стараўся не трапляцца на вочы камандзіру, а калі нарэшце сутыкнуўся з ім нос у нос і пачуў ад яго пра Палашчыны крыўды, дык адразу пайшоў на дыбкі:

— Альбо я, альбо Палашка… Не быў бы я дзед Аўсей, каб зносіць знявагі праз гэтую нацыю…

Непрыязь расла і набывала грозныя памеры: ужо дзед Аўсей падпусціў быў вожыка ў Палашчын куфар са святочнай хусткай, а Палашка аднаго разу цішком ад дзеда загнала яго кабылу так далёка на балота, што дзед з ног збіўся, шукаючы сваю жывотную і праклінаючы яе збродлівы характар. Так і прыйшоў у кухню з пустымі рукамі.

— Знайшоў? — хітра запыталася Палашка.

— Дзе ты знойдзеш… — разгублена мармытаў дзед Аўсей. — Гэта не кабыла, а чысты Гітлер. Толькі і глядзіць, каб куды ў шкоду ўбіцца…

— Ці не пасецца твой Гітлер тым часам ля трох дубкоў…

— А ты скуль ведаеш? — узлаваўся дзед.

— Ды хлапчукі казалі…

— Хлапчукі… — перадражніў яе дзед, здагадаўшыся аб яе каварных штуках. — У-у… — і пабег хуценька па каня, бо час быў ехаць па ваду для кухні.

Невядома, якія грозныя памеры набылі б усе гэтыя канфлікты паміж дзедам Аўсеем і цёткай Палашкай, якая не прызнавала за дзедам воінскага віду, каб не здарыліся некаторыя падзеі, якія не толькі прымірылі іх, але і зрабілі нават шчырымі сябрамі. Справа адбылася аднаго летняга дня пад вечар. Толькі Аўсей запрог у пажарную бочку свайго Гітлера, каб ехаць па ваду на невялічкае азярцо за лесам, як з кухні выйшла Палашка і катэгарычна заявіла дзеду:

— То і я з табой…

— Дужа ты мне патрэбна… — чмыхнуў нездаволена дзед.

— Трэба ручнікі папаласкаць… Адной жа боязна крыху…

— То-та! — важна кінуў дзед. І, урачыста ўзабраўшыся на бочку, яшчэ больш важна занокаў на Гітлера.

— Но-но… варушыся, Ерманія!

Азярцо было кіламетры за чатыры ад лагера. Яно падыходзіла да самай дарогі, па якой часам праязджалі нямецкія абозы, і дзед з перасцярогі заўсёды браў з сабой аўтамат, асцярожна трымаючы яго, каб ён, крый Божа, не пекануў раней часу. Дзень быў спякотны. Гітлер ляніва памахваў хвастом, і ледзь не прыдрамнуў на сваёй бочцы дзед Аўсей. Так, без асаблівых прыгодаў і даехалі да возера. І толькі вытыркнуліся з кустоў да берага, як цётка Палашка рванулася да дзеда і, напалоханая чымсьці, пачала церабіць яго за рукаў.

— Дзед, дзед! Хіба ж ты не бачыш! Куды ты едзеш?

Зірнуў дзед, напнуў лейцы, каб скамандаваць Гітлеру задні ход ды падацца з бочкай у кусты, пачаў ціхенька тпрукаць, але дзе ты згаворышся з гэтай жывотнай, якая не разумее хрысціянскай каманды, — Гітлер проста пёр да берага. Дзед маланкай сігануў з бочкі, прашаптаўшы Палашцы:

— Ратуйся ў кусты, пакуль не позна, іначай прапалі мы, прапала і кабыла…

Хвіліна, другая — і страціў бы дзед канчаткова свой воінскі від, бо, што граху таіць, думаў ён і сам спачатку сігануць наўцёкі, але, апынуўшыся за алешкавым кустом, агледзеўся, акінуў вокам возера, берагі, шырокую палявую дарогу. На дарозе было пуста. Толькі на самым канцы, дзе дарога паварочвала ў лес, відаць было некалькі фурманак, але і яны зніклі за прыдарожнымі

кустамі. Гэтыя фурманкі, відаць, былі самыя апошнія з нядаўна прайшоўшага абозу. Дзед зірнуў на бераг, на ім таксама было пуста. Гітлер тым часам залез у возера з бочкай і спакойна піў ваду, лянiва адмахваючыся ад сляпнёў. А на самай сярэдзіне азярца, дзе было глыбей, пялёскалася ў вадзе трое немцаў. Заўважыўшы Гітлера з бочкай, яны яўна ўстрывожыліся, нешта загаварылі між сабой, і адзін з іх пацыбаў да берага. Дзед зірнуў у той бок, куды спяшаўся немец, і адразу здагадаўся: немец ішоў да адзежы. Яна ляжала непадалёчку ад дзеда, тры афіцэрскія мундзіры віселі проста на кусце. Тут жа ляжалі пісталеты, адзін аўтамат. Секунда, другая — і дзед, як сам ён потым казаў, адразу ж вызначыў дыспазіцыю і стаў на баявы курс. Выйшаўшы з-за куста на бераг і пагрозна наставіўшы аўтамат, ён так грымнуў «Рукі ўгору!», што нават Гітлер, учуўшы дзедаў голас, жаласна заржаў і спалохана застрыг вушамі.

— Вылазь, нячыстая сіла! — а сам бліжэй, бліжэй да адзежы, да пісталетаў. Яшчэ азірнуўся назад, крыкнуў у кусты:

— Калі ты яшчэ тут, Палашка, то бяжы кустамі па беразе, сачы, каб не ўцяклі яны, крый Божа, на той бераг…

— Яны ж голыя, як жа мне…

— А ты не глядзі на есцяство, ты знай пужай… Няхай думаюць, што нас тут цэлая дывізія…

З аўтаматам жарты кепскія, і немцы адзін за адным, не сказаць, каб дужа ахвотна, павылазілі на бераг і пад дулам аўтамата выконвалі ўсе загады, якія на мігі падаваў ім дзед Аўсей.

Праз якое паўгадзіны партызаны ўбачылі незвычайную працэсію. Уперадзе, прыкрываючы сёе-тое рукамі, паволі пасоўваліся трое голых немцаў. На пэўнай адлегласці ад іх грозна выступаў дзед Аўсей, не спускаючы ні на секунду аўтамата. За ім цётка Палашка вяла Гітлера, трымаючы ў руках лейцы і цэлае бярэма з афіцэрскіх штаноў і мундзіраў. Цераз плячо ў яе важка целяпаўся нямецкі аўтамат. Цётка ішла маўклівая, сур'ёзная, унікаючы глядзець наперад, каб не бачыць «есцяства». Пустая бочка — вады набраць не паспелі — гучна тарахцела за Гітлерам.

Заўважыўшы камандзіра, дзед спрытна падышоў да яго і адрапартаваў:

— Так што вярнуліся з баявой аперацыі… У палон узялі трох афіцэраў. Страт не мелі… — І дзед Аўсей так урачыста ўзяў пад казырок і стукнуў ботамі, што рагатаўшыя вакол партызаны ўсе адразу падцягнуліся і сталі «смірна».

Дзед здаў палонных, і хутка людзі ўбачылі, як за сталом у зямлянцы важна сядзеў дзед Аўсей, а насупраць яго сядзела

цётка Палашка. Яна клапатліва частавала дзеда заціркай, усё падліваючы ў яго міску:

— Сілкуйцеся, сілкуйцеся, Аўсей Іванавіч, я яшчэ вам падлію…

— Завельмі ўдзячны вам, Пелагея Сямёнаўна, гатовы вечна есці з вашых далікатных рук гэтую цудоўную… — тут дзед яўна запнуўся, ледзь не сказаўшы «заціркy», але хутка знайшоўся, — гэтую цудоўную вашу страву…

І, уздыхнуўшы, дадаў:

— Вы сапраўды дастойная жанчына, Пелагея Сямёнаўна! Храбрасці ў вас хоць адбаўляй…

— Ну што вы кажаце!.. — разгублена праказала Палашка. — Вось вы, Аўсей Іванавіч, вы ж проста чысты ваяка…

— Усё можа быць… — разгубіўся і дзед крыху. — А няхай не лезуць у наша возера…

Да ўсеагульнага задаволення ў кухні ўсталяваўся мір і парадак.

А дзед Аўсей з таго дня, калі гаварыў аб якіх падзеях, то заўжды дакладна вызначаў іх час:

— Гэта было за два дні да таго, ці тыдзень пасля таго, як мы з Пелагеяй Сямёнаўнай выязджалі на баявую аперацыю…

І важна пакручваў сівы пракураны вус.

*13.III.1943*

## НАСУСТРАЧ ЖЫЦЦЮ

— Як ведаеш, сястра, справа ж твая… Не мне з ім жыць, а табе… Каб не давялося табе часам гора залішне хапіць… З п’яніцам жывучы… А між іншым, як хочаш, у такіх справах я не парадчык…

Гэтыя словы, сказаныя братам гады з паўтара таму назад, чамусьці ўсплылі цяпер у памяці Аніссі, трывожылі. У той час яна звычайна адмоўчвалася на такія парады, адказвала жартамі. Сэрцу ж не загадаеш. Так і выйшла замуж за Сяргея Круцяля, які быў кааператыўшчыкам у суседнім сяле. Вясёлы гаварун, жартаўнік, ён быў першым майстрам на скокі і ўмеў спець, пабрынчаць на гітары. У вясёлую хвіліну любіў пагаварыць аб культуры:

— Што і казаць… Так! Я вось толькі сямігодку скончыў, а ў культуры разбіраюся не горш за тых, каторыя, можа быць, тэх-

нікумы папраходзілі ці, скажам, там розныя інстытуты… Гэта… так! Усё ад культуры, брат! Вось, напрыклад, гармонь… Для каго, можа быць, гэта і культура, а для мяне адно невуцтва наша, цемната, даруй ты, Божа… Хіба можна на гармоні благародную музыку, ды яшчэ каторая благародныя словы мае, сыграць? Я культурны струмант паважаю… Гэта… так!

І калі на ціхіх вуліцах сяла чулася гучнае брынчэнне гітары і глухаватыя рулады пра «младую грачанку», пасмейваліся ў вусы старыя калгаснікі:

— Ізноў загуляла «культура» на ўвесь тыдзень… Да крамы цяпер не даступішся…

Трывожыліся не на жарты члены рэвізійнай камісіі, спяшаліся да кааператыва, правяралі замкі, накладвалі пячаці. Пагаварвалі людзі, што, калі не хапала якіх-небудзь тавараў у краме, іх можна было па вялікай цане дастаць у старога Круцяля, бацькі Сяргея, у процілегласць свайму сыну чалавека панурага і замкнёнага, які дажываў свой век аднаасобнікам.

Сяргея Круцяля, ці — як называлі яго яшчэ — Культуру і Такала (з-за залішняй схільнасці да слова «так»), усё збіраліся замяніць кім-небудзь іншым у краме. Але столькі было розных спраў, ды і сам Сяргей заўсёды неяк спрытна зводзіў канцы з канцамі, што яго пакінулі ў спакоі, і ён прагандляваў да самай вайны. З вайной пайшло ўсё іначай. Брат Аніссі, старшыня калгаса, пайшоў у партызаны. Пайшлі ў лясы многія мужчыны. Стары Круцель раптам зрабіўся начальнікам — немцы прызначылі яго старастам на сяле. Ён неяк адразу стаў паважным, суровым і, калі аддаваў якія-небудзь загады, заўсёды дадаваў:

— Мы, стала быць, праверым…

Яго пабойваліся, не ўступалі ў асаблівыя супярэчкі. Пабойвалася яго і Анісся. Нават Сяргей, які раней часам пасмейваўся з свайго аднаасобнага таткі, цяпер лісліва загаварыў з ім:

— Вот, татачка, вы цяпер, можна сказаць, улада, а мне што ж, на поўную адстаўку падавацца загадаеце?

Бацька панура выслухоўваў яго, безуважліва кідаў:

— Драбязлівы ты чалавек, і душа твая драбязлівая… Раней шчасця свайго не ўмеў трымаць, вунь якое багацце было ў руках… Цяпер вось разумныя людзі высока пайшлі ўгару. Івана суседскага сын з табой жа разам канчаў сямігодку, а цяпер у начальніках паліцыі ходзіць, на ўсю акругу вядомая асоба… А ты… што ты? Гнілы корак ад пустой бутэлькі… У паліцыю хацяж б ішоў…

Сяргей уздыхаў і з апаскай пазіраў на Аніссю. Стары Круцель разумеў сына, гаварыў пагардліва, з дакорам:

— Яна табе не ўказ. Няхай падзякуе яшчэ, што замужам за табой, інакш паказалі б ёй немцы, дзе ракі зімуюць…

А жыццё ішло сваім парадкам.. Сяргей пробаваў брацца за розныя справы, і ўсё няўдала. Пачаў быў гандляваць самагонам, але п'яныя яфрэйтары да паўсмерці збілі яго за смярдзючае пойла, і ён доўга скардзіўся свайму новаму заўзятаму прыяцелю, дваюраднаму брату Юрку, які ліха ведае скуль з'явіўся і служыў у валасной паліцыі:

— Культуру трэба разумець, братка… Канечне, да іх на самагоне не пад'едзеш, калі існуюць там каньякі і ўсякія іншыя благародныя напіткі… Вось за культуру, братачка, і пакутую…

Юрка пасяліўся ў іх на кватэры, і вольныя зімнія вечары прыяцелі праводзілі за пляшкай самагонкі. Набраўшыся перагару, Сяргей пачынаў выпінацца перад Аніссяй:

— Вось захачу і пайду ў паліцыю! Што ты мне? Начальнік, стараста? Ты ж толькі свінарка, ды і то былая… Падумаеш, медаль мела… Што мне цяпер твой медаль? Вазьму вось і пайду!

— Ідзі хоць да чорта ў балота!.. — адмахвалася ад яго Анісся, як ад назойлівай мухі.

— А вось і пайду… Хата мая… І гітара мая… Эх, ды «маладую грачанку я страсна любіў»…

— Дай я цябе, Культура, пацалую…

П'яныя цалаваліся. Брынчала надрыўна гітара. Прыяцелі шапталіся, дзяліліся нейкімі сваімі сакрэтамі. Выхваляўся Юрка, расказваючы розныя несусвеціцы.

— Ды ты слухай, Культура! — церабіў ён за рукаў дрымотнага прыяцеля.

— Праз культуру, братка, пакутую… — сонна мармытаў Сяргей і хроп, нахіліўшыся над сталом, залітым самагонам. Клубы тытунёвага дыму віліся над ім. У ім ледзь мігцела чадзіўшая капцілка, не ў сілах змагацца з абступіўшымі яе трапяткімі ценямі, праглынуўшымі куткі і сцены хаты. Дзесьці настойліва, нястомна скраблася мыш. Храплі за сталом людзі, і былі яны такімі далёкімі для Аніссі, што яна глядзела на іх і не бачыла іх. Толькі адна неадступная думка не давала супакою.

— Пайсці… Пайсці куды вочы глядзяць… Толькі не бачыць іх, толькі не чуць, не быць разам з імі…

Як хораша было нядаўна. Някепска жылося ў вёсцы. У кожнага было сваё месца, свая работа. І ў яе была работа. І хоць невялічкая гэта работа — быць свінаркай у калгасе, але і з гэтага невялічкага месца свайго ў жыцці яна далёка бачыла ва ўсе канцы свету. Яна бачыла, бачылі і яе. Неяк ішло жыццё шырока і

нібы па-святочнаму: кожны дзень што-небудзь новае, радаснае. А наперадзе цэлае жыццё… Муж? Ну што ж… Відаць, выйшла памылка… Любіла яго? Любіла… За песні, за вясёлы характар… Ды і не разбярэшся часам, за што палюбіш чалавека… Вось хіба толькі гарэлка… Але і п’яны ён пабойваўся, паважаў яе… Не апошні ж ён быў чалавек у вёсцы… Спадзявалася, а мо паправіцца… Усё магло стацца, не такіх папраўлялі. І такіх, як Юрка, не лічылі прапашчымі людзьмі, і гэтых, траплялася, выводзілі на дарогу. А Юрка паскуднік быў адпеты, цёмная душа. Не раз спрабаваў турму, а перад вайной саслалі яго надоўга, за забойства. Нябось, збег як-небудзь, ходзіць цяпер героем… Таварышам вось цяпер у Сяргея… Сысці куды, сысці на край свету… Але калі наважылася яна сказаць аб гэтым брату, які наведаў яе неяк ноччу, той адраіў:

— Ісці табе нікуды не трэба… Будзь тут, прыглядайся, прыслухоўвайся… Ніхто не кране цябе тут… А сваё вока патрэбна ўсюды, разумееш…

Яна паплакала паціху, засталася. Ды нялёгка гэта… Усе людзі ў вёсцы староняцца яе. Сустрэнеш часам суседку ля калодзежа, а тая стараецца хутчэй пайсці, ды нібы і не заўважае цябе. Адварочваюцца твары ў сустрэчных. Як жа, старастава нявестка. Хіба ж ім аб усім раскажаш?

Ледзь мігае капцілка. Не відаць ні стала, ні людзей за ім. За цёмнымі праваламі акон ціха і глуха, як у магіле. Анісся патушыла капцілку. Цёмныя правалы акон адразу пасвятлелі, і ў іх запаліліся яркія зоры. Блакітнавокія, бледна-зялёныя, яны ўрачыста паблісквалі ў вышыні, і тысячы рознакаляровых іскарак пераліваліся на заснежаным пустынным полі, над скутай марозам зямлёй.

Мароз браўся мацней, гулка біў у сцены. І гэта было адзінае, што парушала глухую цішыню студзеньскай ночы.

* * *

Мёрзлыя камякі зямлі глуха падалі на сасновыя векі дамавін. Галасілі бабы, але ў іх галашэнні не было, здавалася, сілы, не было жывой цеплыні чалавечага голасу. Яны не абуджвалі ні спачуцця, ні жалю, ні ўдзелу ў вялікім чалавечым горы. Толькі адна з іх — маладзейшая, з трыма дзецьмі, якія прагна ўчапіліся за крысо кажушка і спалохана азіраліся навакол, — працягвала ў знямозе рукі да магілы, парывалася да яе і ўсё гаварыла, гаварыла:

— На каго ж ты пакінуў нас? А каму ж гараваць наша гора? А ці я ж пасылала цябе на дурную дарогу? Ці не табе ж гаварыла я, ці не табе ж загадвала? Навошта ж дзетак сваіх пускаеш сіратамі?

Падышоў староста, грубавата ўзяў за руку.

— Ты, дурань-баба, кінула б малоць несусвеціцу… Сам пан афіцэр стаіць з табой поплеч, а язык твой, даруй божа, горш за памяло тое… Што гаворыш, дурань-баба?

Жанчына глядзела на яго неразумеючымі вачыма. Потым выпрасталася, сударгава схапіла дзяцей, сурова штурхнула іх у бок старасты:

— На вось, вазьмі іх, кармі, душагуб… Праз цябе гінем, ты яго звёў, ты яго супроць людзей павёў, мёртвая твая душа… Цябе б, праклятага, палажыць цяпер у яму…

Яна наступала на яго, грозная, ярасная. Староста пнуўся назад, абараняючы рукамі сваю бараду. І калі жанчына, загаласіўшы зноў, пакінула яго, ён падышоў да нямецкага афіцэра, які прысутнічаў на пахаванні забітых паліцэйскіх, і пачаў нешта тлумачыць яму, разгублены, вінаваты. Афіцэр яўна нудзіўся і нецярпліва чакаў канца пахавання. Грымнула некалькі гучных залпаў. Гэта нямецкі атрад салютаваў сваім салдатам, якіх хавалі тут жа, непадалёчку, на шырокай плошчы ля царквы. Тым часам закапалі і паліцэйскіх. Людзі панура разыходзіліся па хатах. Гаварылі, што нямецкіх салдат забіта ля сотні чалавек ды паліцэйскіх з дзясятак. Шэптам перадавалі і другія навіны. Нібы ў калгасным свірне сядзіць некалькі палонных партызан. Адкуль яны — яшчэ добра невядома, але пагаварвалі, што ёсць некалькі і сваіх, з вёскі. Перадавалі, што нямецкі атрад пацярпеў няўдачу, камандзір цяпер месца не знаходзіць ад злосці, і невядома, чым усё гэта скончыцца.

— Чым? — паўзапытаннем, паўадказам адзываліся некаторыя і выразна пазіралі на высокія слупы супроць дома былога сельсавета. Фашысты, спяшаючыся, ставілі шыбеніцы.

Людзі разыходзіліся з пахавання панурыя, маўклівыя.

Вычакальна прытаілася вёска.

* * *

Ужо змерклася, калі гучныя крыкі на вуліцы прымусілі ачнуцца Анісcю. Накінуўшы хустку на галаў, яна выбегла з хаты. У канцы вёскі чуўся плач, жаночыя крыкі, ды высока над старымі ліпамі ўзвіхрыліся клубы чорнага дыму.

«Пажар!» — мільганула страшная думка, і Аніссяя кінулася бегчы па вуліцы, туды, адкуль даносіліся крыкі, дзе ў злавесных

дымных віхрах прабіваліся першыя языкі яшчэ бледнага, жаўтаватага полымя. Насустрач беглі жанчыны, цягнулі за рукі дзяцей.

— Ратуйцеся, людзі, гітлераўцы паляць вёску!

Мімаволі падкасіліся ногі, і Анісся прыхілілася да заснежанага плота, каб аддыхацца, сабрацца з думкамі. Усё ніяк не магло супакоіцца сэрца, білася часта-часта, глухім болем аддаючыся ў грудзях. Анісся бачыла ўжо, як мітусіліся нямецкія салдаты, пераходзячы ад хаты к хаце. Падпальвалі. Салдаты набліжаліся.

— Не дам! — глуха крыкнула яна і замаруджана, не чуючы ног пад сабой, пайшла назад да свае хаты. За сталом сядзеў Сяргей са сваім прыяцелем. Яны гулялі ў карты і не павярнулі галоў нават, калі, бразнуўшы дзвярыма, яна села на лаве супроць акна.

— Немцы вёску паляць, чаго ж вы седзіцё? — сказала яна і сама здзівілася свайму голасу — да таго чужым і далёкім паказаўся ён ёй.

Сяргей павярнуўся ля стала, зірнуў на яе, і ў яго пустых бясколерных вачах прамільгнула нешта падобнае на спалох. Углядаючыся ў карты, працадзіў скрозь зубы яго прыяцель:

— Паляць, ну і няхай паляць! Нас гэта не тычыцца… — і нікчэмная патуга на ўсмешку прайшлася па яго рудой, нягаленай шчацэ.

Анісся прыслухоўвалася да нарастаўшых на вуліцы галасоў, да болю ў вачах углядвалася ў прамёрзлае шкло акна, і калі заўважыла на двары постаць нямецкага салдата, яна крыкнула не сваім голасам:

— Не дам! Не дам паліць! — і, схапіўшы ляжаўшую на лаве сякеру, кінулася ў сені. Яе дагналі, адабралі сякеру, упіхнулі ў хату.

— Сядзі, шалёная… Праз цябе яшчэ на шыбеніцу патрапіш… Нікому твая хата непатрэбна, гэта тваіх партызан нагароджваюць…

У хату зайшоў нямецкі салдат. Ён аб чымсьці мірна гутарыў з прыяцелямі, потым дастаў з прасторнай кішэні пляшку гарэлкі, і яны хапатліва распілі яе, заспяшаліся з хаты, зніклі на вуліцы.

Анісся сядзела спустошаная, пастарэўшая. Шырока раскрытыя вочы яе нерухома глядзелі ў замёрзлыя шыбы акон. Ледзяныя ўзоры, здавалася, былі наліты крывёю — яны то святлелі, пераліваючыся расплаўленым золатам, то наліваліся густым барвенцам. За вокнамі палыхала зарыва. Яно часам знікала, прападала, тады ледзяныя ўзоры рабіліся цёмнымі, нежывымі.

Праз гадзіну, можа, праз другую, прыйшлі Сяргей і Юрка. Глуха стукнулі ў кутку пастаўленыя вінтоўкі. Запалілася кап-

цілка, і замёрзлыя шкліны акон сталі будзёнашнімі, мірнымі. Людзі распрануліся, гаманліва паселі за стол, вячэралі, пілі самагонку. Прыкра моршчыліся пасля кожнай чаркі, ажыўлена аб нечым гаварылі.

У кутку паблісквалі прыклады дзвюх вінтовак.

«Значыць, і ён пайшоў…» — падумала яна пра Сяргея і, стараючыся гаварыць спакойна, безуважліва спытала абодвух:

— Дзе былі?

Юрка хутка зірнуў на яе, прыжмурыў вока.

— А табе які клопат?

Анісся ўстала, падышла да Сяргея, стала тармасіць яго за плячо.

— Вінтоўку адкуль прынёс? На службу пайшоў?

Уцягнуўшы голаў у плечы, маўчаў Сяргей. Юрка, рэзка адхіліўшы Аніссіну руку, пагардліва кінуў Сяргею:

— Эх ты, Культура! Не можаш з жонкай абысціся як след… Правучыў бы раз, пакінула б совацца не ў свае справы…

— І правучу! Вось як дам! — грузна ўзняўся на лаве Сяргей, але, накалоўшыся на позірк Аніссі, адразу ж сеў, прыціх, тупа ўнурыўшыся вокам у мутнае шкло бутэлькі. Юрка скручваў цыгарку, насмешліва папракаў прыяцеля:

— І сапраўды, душа ў цябе драбязлівая: то людзей смерцю палохаеш, то бабу ўціхамірыць не можаш…

І, як бы ляпнуўшы што залішняе, сплюнуў, ссыпаў у капшук тытунь з раскручанай цыгаркі, наліў у шклянку самагоннай гары.

— Ну ты, кісель, вып’ем за новую службіцу тваю, за новае шчасце! Шчасце — яно, брат, цёмнае, паўзучае… Слізкае яно — шчасце, трымай яго, не пускай…

П’яныя словы цадзіліся праз тытунёвы дым, праз чад капцілкі. Людзі захмялелі даўно, задрамалі. Роўны храп ціха калыхаў сонную цішыню хаты. Анісся сядзела ля акна ў цяжкім задуменні. Адно слова не сыходзіла з думак, прасследавала яе, і яна шаптала яго гарачымі сухімі вуснамі. Шаптала і мімаволі глядзела на іх, што п’яна храплі ў куце за сталом.

— Юды…

Цьмяна мігала капцілка, і Анісся, прыўстаўшы, пасунулася да стала.

— Патушыць бы, навошта газу дарма паліць…

На рагу стала ляжаў нечы капшук, ружовы, з нейкімі вышытымі кветкамі. Калі зірнула на яго, то ўся кроў, здаецца, адразу хлынула ў твар, пацямнела ўваччу, і яна ледзь-ледзь утрымалася на нагах. Потым узяла капшук, дрыготкімі пальцамі расправіла

выцерты шоўк. Яшчэ не выцвілі, не выліняалі вышытыя белыя рамонкі, зялёныя лісты, чырвоныя купаўкі. Здавалася, патыхнула здалёк мядовым пахам лугоў, мяккімі вечарамі, калі ў цвецені ліпы, калі нябачна дыхаюць пад цёплымі росамі жытнія палі, калі ідзеш па мяжы і соладка, да болю, замірае сэрца. Ідзеш і прыслухоўваешся да кожнага шолаху, да кожнага гуку: а калі ж прыйдзе ён?.. Загледзішся ў вочы яго, і тысячы зораў калышуцца ў іх: усё неба ў вачах, увесь свет у вачах, усё жыццё ў іх бяздоннай і прываблівай сіняве.

— Божа, Божа, калі ж гэта было? Калі былі краскі такія радасныя, пахучыя?

Гады за тры таму назад яна вышыла сваімі рукамі гэты капшук, сарамяжліва надарыла ім Васіля. Як любіла яна яго!.. Потым разышліся неяк іхнія дарогі… Ён выязджаў на курсы, стаў трактарыстам. У яго ўжо двое дзяцей, такіх жа сінявокіх і рухавых, як сам. Яны сустракаліся добрымі прыяцелямі. Можа быць, яна сама была вінавата, што выйшла замуж за другога, каторы так настойліва і неадступна, як цень, хадзіў па яе слядах, ішоў насустрач любому яе капрызу, любіў яе. Пасварыўшыся з-за дробязей з братам, яна назло яму і пайшла за Сяргея.

— Што хачу, тое і раблю… Дзе ж цяпер Васіль?

Казалі, што ён з братам у адным атрадзе. Траплялася, іх бачылі разам. Яна даведалася аб гэтым выпадкова. Людзі сцераніліся яе: старастава нявестка!

Пры чым жа капшук тут? Як апынуўся ён у іх, у праклятых, што спяць за сталом? Анісся зірнула на вінтоўкі ў кутку. Прыгадалася сёе-тое з п’яных слоў Юркі, іх гутарка з немцам, адлучка вечарам з хаты. Здагадкі, адна страшнейшая за другую, неадчэпна праследавалі яе. У хаце было душна, і яна выйшла на вуліцу перадыхнуць свежым паветрам, развеяць душыўшыя яе думкі, здагадкі. На вуліцы было пуста. Багата якія хаты дагаралі. Уцалелыя стаялі недарэчныя і незразумелыя ў сваёй адзіноце. Чаму ўцалелі? Шчасце? Не дай Божа нікому такога шчасця… Дом сельсавета датляваў папялішчам. На светлай ад зарыва плошчы стаялі слупы з перакладзінамі. Пад імі віселі людзі. Ціха ападалі, кружыліся рэдкія сняжынкі.

Анісся зірнула на плошчу, і сэрца зайшлося халодным, калючым болем. Адразу ўсё стала ясным і зразумелым. Яна, не спяшаючыся, зайшла ў хату, надзела кажух, акуратна завязала цёплую хустку. Яе не пакідала адна думка — аб красках, якім ніколі не цвісці болей, калі будуць жыць гэтыя ненавісныя…

— Юды! — прашаптала яшчэ раз, намацала сякеру пад лавай, прылажылася да яе гарачай шчакой — ад жалеза ішоў прыемны,

супакойваючы халадок. Патушыла капцілку — у хаце было і так відна ад затухаўшага зарыва. І калі было скончана ўсё, заспяшалася. У сэрцы не было ні жаласці, ні болю. Так забіла яна адным летам гадзіну, перапаўзаўшую дарогу. Як і цяпер, памятаецца, была толькі гідлівасць, жаданне адысці хутчэй ад таго месца. Хутка схапіла запалкі са стала, вынесла з кутка вінтоўкі на двор. Вярнулася ў сені, дрыготкімі пальцамі запаліла запалку, паднесла яе да груды кулявой саломы. Палахлівае полымя пабегла, пераскакваючы, злізваючы паасобныя саломінкі. Язычкі полымя пакідалі за сабой кучаравыя дымныя сляды. Секунда, другая, і дружнае полымя ўзвіхрылася пад самы дах, асвятліўшы леташняе павуцінне, завісшыя ў ім запыленыя каласы.

Узяўшы на рукі, як носяць дровы, абедзве вінтоўкі, Анісся выйшла на двор і праз сад, агародамі пайшла на бліжняе поле. Доўга ішла наўпрост, услухоўваючыся ў ціхі шорах пазёмкі, у рып уласных крокаў, парушаўшых урачыстую цішыню ночы. Вось і лес. Снегавыя шапкі елак і хвой ледзь прыкметна пераліваліся недарэчным ружовым святлом.

«Ад зарыва»… — падумала Анісся і азірнулася.

Багровае полымя высока шугала ў неба там, дзе стаяла яе хата. Зрэдку ўзнімаліся снапы залацістых іскраў, весела рассыпаліся, паволі ападаючы на прыціхлую, маўклівую зямлю. Анісся лёгка ўздыхнула і адчула, як зваліўся з плеч нязвычны цяжар, як сэрца стала біцца радасна, усхвалявана, як усёй істотай авалодала трапяткое адчуванне жыцця, ніколі не ўміраючага, бязмежнага, заклікаючага.

І яна пайшла насустрач гэтаму жыццю.

*1943*

## КАВАЛАК ХЛЕБА

Груша расцвіла ноччу.

Яшчэ ўчора стаяла яна голая, счарнелая, з вузлаватымі сукамі, з вымерзлымі сям-там галінкамі, на якіх парэпалася, узлахмацілася кара, і з самай ранняй вясны гаманлівыя гракі працавіта расцягвалі мачалістыя валокны на свае грачыныя гнёзды. Некаторыя галінкі былі пазламаны, нібы пасечаны, — сляды мінулых баёў пад гэтым сялом.

Цяпер яе не пазнаць было, старую грушу.

Як нявеста ў падвянечнай фаце, яна стаяла ў белай кіпені кветак, радасная, святочная, у хмелевым гудзенні пчол, ярка

паблісквbooking залацістымі шклінкамі крыл у пахучай квецені вясновага ўбору. Усё навокал змянілася, упрыгожылася. Неяк утульным і ўпарадкаваным зрабіўся стары двор, з паламаным парканам, з ускудлачанай вятрамі страхою паветкі, з скасабочаным хлеўчуком, дзе мясціліся гаспадары хаты. Нават чорныя папялішчы, што былі далей, паспелі ўкрыцца бледным зяленівам маладой крапівы і не так ужо кідаліся ў вочы. І над усім гэтым было столькі глыбокага празрыстага блакіту, столькі свету і сонечнага ззяння, што обер-лейтэнант Отто Штрайх, выйшаўшы з нізкіх дзвярэй хаты, у якой ён кватараваў, аж прыжмурыў вочы. Калі асвойтаўся крыху са святлом і працёр свае акуляры, ён, зірнуўшы яшчэ раз на пышную грушу, усклікнуў упаўголаса:

— О-о!

Тут было і здзіўленне, і захапленне, і крыху зайздрасці да гэтай кіпучай і нічым не спынімай сілы жыцця, якая не любіць смерці, не любіць разбурэння і так старанна загойвае, хавае ўсе сляды гвалтоўнага, прыкрага ўтаржэння ў яе магутны і неўміручы поступ. Жыццё не любіць тлену. Вось суровыя рады бярозавых крыжоў на самай ускраіне сяла ўжо страцілі свой беласнежны колер, патускнелі, амаль што захаваліся ў густых зялёных травах. Пройдзе яшчэ які час — і сатлеюць крыжы.

Гэта крышачку сумна — крыжы…

Пад імі магілы германскіх салдат.

Гэта ўжо зусім сумна — магілы…

Але светлы дзень, і ён — Отто Штрайх — стаіць жывы і бадзёры на парозе чужой хаты, варожай хаты. Тыя, што жылі ў ёй, месяцца цяпер у гэтым брудным хлеўчуку, і праз шырокія шчыліны паміж бярвенняў сцяны бачыць Отто Штрайх некалькі пар дзіцячых воч, якія цікуюць за ім і ўраз знікаюць, калі сыходзіць ён з парога хаты. Але якая яму справа да гэтых дзяцей…

— Апарат! — гучна крыкнуў ён назад, у цёмны правал дзвярэй.

Падцягнуты дзяншчык выскачыў з сянец хаты і спрытна паднёс пану афіцэру фотаапарат. Гэта быў звычайны «контакс», неразлучны спадарожнік Отто Штрайха, былога прыказчыка аднаго з фотамагазінаў Берліна. Отто Штрайх заўзяты фотааматар. Але ўсё, што здымаў ён да вайны — чэзлыя ліпы ля магазіна, аднастайныя сямейныя групы, няхітрыя нацюрморты з піўных бутэлек і талеркі сасісак, — усё гэта проста бляднее перад тым, што зазняў ён у часе вайны. Будзе што паказаць дома пульхнай і пужлівай Анхен, старым знаёмым, усім саслужбоўцам, тым, зразумела, якія па гадах не мелі магчымасці пабыць на вайне.

Хто быў там, тых нічым не здзівіш — ні руінамі гарадоў, ні палыхаючымі ў агні сёламі, ні перадсмяротнымі сударгамі людзей на шыбеніцах. «Так, мы знішчалі…» — скажа Отто Штрайх за добрым куфлем піва сярод былых дружбакоў і знаёмых. «Праз трупы і кроў пранеслі мы сцяг вялікай Германіі», — скажа ён, Отто Штрайх, былы прыказчык магазіна, а цяпер афіцэр, афіцэр арміі заваёўцаў, арміі пераможцаў…

«Та-а-к… Мы…» — праносяцца цьмяныя думкі, і яны прыемна кружаць голаў, як гэты вясновы дзень, як гэтая святочная раніца — сёння ж нядзеля, — як той бясспрэчны факт, што сёння споўнілася яму, Отто Штрайху, роўна пяцьдзясят два гады…

Ён здымае грушу рознымі планамі. Здымае асобную галінку, усю ўсыпаную белымі пялёсткамі. Гэта спецыяльна для паштоўкі любімай палавіне. Ён напіша ёй пару цёплых слоў, белыя пялёсткі няхай нагадваюць ёй колішнюю вясну… Колькі тых вёснаў прайшло… Колькі год праляцела, колькі раз гаварылі яны з любай Анхен аб уласнай дачы за горадам. Ды вось так і не выйшла, мары засталіся марамі. Добра б цяпер, каб Анхен была тут, разам з ім пад гэтым чаруючым дрэвам. Анхен так любіла кветкі, вясну, так любіла мары пра дачу…

— Стол сюды, буду снедаць пад дрэвам!

Дзяншчык вынес стол, паставіў яго пад грушай. Збегаў у хляўчук да гаспадыні, прынёс адтуль чысты абрус, гладышык малака. Отто Штрайх выпіў проста з гладыша — як гэта прыемна піць раніцою малако нашча. У гладышыку яшчэ заставалася трохі, але гладышык патрэбен быў для букета. Цэлы ахапак душыстых галінак назрываў Отто Штрайх з пахучага дрэва. Ён выліў рэшткі малака на зямлю, уставіў у гладышык кветкі і толькі тады пачаў па-сапраўднаму снедаць. Дзяншчык раз-пораз бегаў у хату, паставіў свежую бутэльку каньяку, прынёс добры кавалак свініны і ўсякай другой ежы — у кансервавых бляшанках, у папяровых пакеціках, у шкляных пасудзінках. Отто Штрайх глядзеў на стракатыя этыкеткі, і яму прыгадалася добрая старая нямецкая геаграфія, якую ён вывучаў калісьці ў школе. Праўда, тады геаграфія была ў яго ўяўленні вельмі абстрактнай. Цяпер яна стала зусім рэальнай, проста адчувальнай, і яго стол, стол са снеданнем Отто Штрайха, быў не чым іншым, як жывой ілюстрацыяй новай геаграфіі новай Еўропы…

Отто Штрайх выпіў яшчэ келіх за новую Еўропу і перад тым загадаў дзеншчыку зазняць яго з чаркай у адной руцэ, з пляшкай французскага каньяку ў другой. Ён еў марудна, доўга, дробнымі глыткамі пасмоктваў каньяк і пасалавелымі вачыма пазіраў

на двор, на касабокі хлевушок, дзе раздаваліся прыглушаныя галасы дзяцей. Часам разбіраў ён знаёмае слова «хлеб» і ясна ўяўляў сабе, як гаспадыня хаты раздае сваім дзіцянятам — гэтым неахайным, мурзатым і шматлікім стварэнням — па кавалачку хлеба, часам супакойваючы таго, другога добрым шлёпанцам. Калі сказаць па-шчырасці, ён крыху ўдзячны гэтай жанчыне, сухой, хударлявай, з непрыемна абвіслымі грудзьмі. Удзячны за тое, што яна не пускае нашчадкаў сваіх на двор, калі ён, пан афіцэр, уласнай персонай сваёй вассядае за сталом пад дрэвам. Не пускае, каб не псаваць яму, пану афіцэру, добрага настрою.

Отто Штрайх абводзіць соннымі вачыма вясковую вуліцу. На ёй пуста. Толькі ў самым канцы заўважае ён высокую белую постаць чалавека. І калі той падышоў бліжэй, Отто Штрайх убачыў, што гэта стары чалавек, з сівой барадой, у белай палатнянай кашулі, у белых портках, у лапцях. Стары паволі падыходзіў пад вокны, аб нечым прасіў. Ад старога не адступала ні на крок звычайная дварняжка, з ускудлачанай поўсцю, поўнай, відаць, яшчэ мінулагодніх рэп'яў. Стары прасіў, выцягнуўшы руку, а дварняжка стаяла перад ім, косячы то адным, то другім вокам на сівую бараду дзеда, весела круціла хвастом, калі ў працягнутую руку старога трапляла цыбуліна, ці кавалак хлеба, ці печаная бульбіна.

Стары зацікавіў Отто Штрайха. Гэта ж сапраўдны патрыярх беларускіх лясоў і балот, чыстакроўны туземец. Не грэх і здымак зрабіць з яго, аддаць потым знаёмым карэспандэнтам. Тыя заўсёды надакучвалі яму са сваімі просьбамі даць што-небудзь яркае, каларытнае… Але будзе ён турбаваць сябе з-за якіх-небудзь там карэспандэнтаў!

Стары ціха пастукаў у фортку двара.

— Падайце, Хрыста радзі…

Голас быў ціхі, спакойны, да ўсяго абыякавы.

Рыпнулі вароты хлеўчука. Гаспадар хаты, пажылы селянін, выйшаў адтуль, падаў старому кавалачак хлеба. Той абыякава палажыў яго ў зрэбную торбу, збіраючыся ісці далей. Лёгкі вятрыска ўскалыхнуў ніжнія галінкі грушы, некалькі пялёсткаў закружыліся над сталом, адзін, другі ўпалі ў чарку з каньяком. Мяккім араматам патыхнула з расцвіўшага дрэва.

— Гэй, ты, пастой! — настойліва паклікаў Отто Штрайх сівога чалавека.

На голас афіцэра выскачыў з сянец дзяншчык, але начальнік махнуў яму рукой, і той падаўся назад у хату. Сівы чалавек недаверліва зірнуў на афіцэра і, зразумеўшы, што клічуць яго,

спакойна пераступіў праз парожак форткі і, пачціва пакланіўшыся афіцэру, стаяў, перамінаючыся з нагі на нагу, абапіраючыся абедзвюма рукамі на тонкі арэшкавы кій. Доўгая барада прыкрывала заняпалыя грудзі, шырокія рукавы кашулі і белыя калашыны портак здаваліся пустымі, нібы нацягнутымі на доўгія кіі — да таго кашчавыя і худыя былі рукі і ногі старога. З-пад сівых брывей нахмурана пазіралі глыбока запалыя вочы, бачыўшыя, відаць, многія дзясяткі вёснаў і зім, даўно аддаўшыя гэтым вёснам сваю глыбокую сінь.

Афіцэр з цікавасцю пазіраў на старога і кроіў з буханкі лусту белага хлеба. З секунду падумаў і, рашуча намазаўшы маслам кавалак хлеба, урачыста кінуў яго да ног старога.

— Бяры! — загадаў ён і самазадаволена выпрастаўся за сталом, залажыўшы рукі ў кішэні.

Стары беражна падняў з зямлі кавалак хлеба, асцярожна здзьмухнуў з яго пылінкі, пясок, зняў прыстаўшыя саломінкі і тут жа сур'ёзна, як рабіў ён усё на свеце, аддаў хлеб сабаку.

Густой чырванню ўспыхнуў твар афіцэра. Ён аж прыўзняўся і, грукнуўшы кулаком па стале, гнеўна крыкнуў стараму:

— Ты, стары чорт… Табе хлеб даю, што ты робіш?

Стары зірнуў на афіцэра з-пад насупленых брывей і стрымана прамовіў:

— Выбачайце, пан афіцэр, калі я, магчыма, не так зразумеў вас… Але, бачыце, я павінен вам сказаць, што ў нашым краі і па ўсёй нашай расейскай зямлі так даюць хлеб звычайна толькі сабакам.

І, пачціва пакланіўшыся афіцэру, стары павярнуўся да форткі. Яго белая суровая постаць паволі праплыла за рэдкімі штыкецінамі паркана.

Отто Штрайх сядзеў маўклівы, надзьмуты. Чырвоныя плямы яшчэ трымаліся на яго абсіверaным твары. Дзяншчык нерашуча таптаўся ля стала, прыбіраючы посуд. Недзе ўскрыкнуў і загарланіў адзінокі певень. У вачах афіцэра мільганулі злосныя іскаркі.

— Што яшчэ за навіны такія? — рэзка запытаўся ён у дзеншчыка.

— Выбачайце! — выцягнуўся ў струнку дзяншчык. — Гэта старастаў певень спявае. Стараста на пасылку яго рыхтуе вашай паважанай супрузе…

— На пасылку… На пасылку… — перадражніў Отто Штрайх дзеншчыка. — Ніколі не навучыць цябе, дурня, гаварыць як след з начальствам. Пояс, дурань, пояс! Ану, варушыся, карова!

Пачыналася доўгая, нудная муштроўка салдата.

Настрой Отто Штрайха канчаткова быў сапсуты.

А на лужку, ля рэчкі, адпачываў стары. Ён доўга размінаў вялымі дзёснамі сухую скарынку хлеба. Напіўся з бяроставай конаўкі, што ляжала схаванай у алешнікавым кусце. Палажыўшы на пярэднія лапы лахматую галаву, ляжала ў цяньку дварняжка і цікавала вачыма за спакойнымі рухамі дзеда. А калі той загаварыў, весела пачала біць хвастом па зямлі, па траве.

— Ты вось, сабачая душа, наелася нямецкага хлеба і не лыса… А мне непрыемнасці… А таго і не разумееш ты вось, што і мяне, ды і ўсіх нас, хочуць яны, праклятыя, у сабачую тваю долю ўпрэгчы. Ну, ды гэта мы яшчэ, тым часам, пабачым! Але ж час нам ісці, відаць, там і чаканкі ўсе даўно хлопцы паелі, нас з табой чакаючы…

Перайшоўшы зыбкую кладку праз рэчку, дзед пайшоў непрыкметнай сцежкай проста туды, дзе з празрыстай дымкі праступаў малады бярозавы параснік, а за ім цягнуўся бясконцай сінявой далёкі і загадкавы бор.

*1943*

## АСТАП

Вясна выдалася дружнай і цёплай.

І хоць снег трымаўся яшчэ на палях, хоць па начах можна было лёгка ісці па хрупасткому падмарожанаму насту, сонца прыгравала з кожным днём усё мацней і мацней, адмакрэлі і пацямнелі лагчыны, першыя праталіны зачарнеліся на палях, прыбярэжныя лазнякі страцілі сваю зімовую празрыстасць і, здаецца, адразу пагусцелі, набраклі пяшчотнымі пералівамі фарбаў: шызых, ліловых.

Надзвычайна ўрачыстымі здаваліся дрэвы ў густым бары, паскідаўшыя снегавыя шапкі і зімовую панурасць. Кожнае дрэва стаяла ў круглай лунцы-праталіне, нібы дыхала дрэва і подыхам сваім прадыхала снег аж да самай зямлі, да леташняй пабурэлай травы і ігліцы. Сям-там па нізкіх мясцінах чуліся днём ледзь улоўныя пералівы нябачных яшчэ ручаінак. Днём разлівалася вада па балоце, за ноч падмярзала, і ранішняе сонца з такой страсцю ўглядалася ў гэтыя лядовыя люстры, што яны пачыналі падтайваць, дыміцца лёгкай празрыстай парай, якая паступова пераходзіла ў цёплы, густы туман. Востра пахла тады гаркавай лазой і талым снегам.

У адну з такіх вясновых раніц партызаны-разведчыкі прабіраліся балотам праз лес. Узмакрэлыя коні асцярожна пераступалі кутымі капытамі па адталым лёдзе, стрыглі вушамі, прыслухоўваючыся да шорхату леташніх чаратоў, шолаху вербалозаў, да журчання вады, якая часам фантанам вырывалася з-пад капыта. Пярэдні конь раптам захроп, нерашуча затупаў на месцы, яўна намагаючыся падацца назад. Коннік занукаў на яго, але, не дабіўшыся ніякага выніку, лёгка саскочыў на лёд.

— Айда, хлопцы, відаць, нешта ёсць там, праверце…

Група спешылася, і некалькі чалавек падаліся наперад, асцярожна прабіраючыся па крохкаму льду-верхаводцы. У густым лазняку яны заўважылі шэрую постаць чалавека. Ён ляжаў паміж абталых карчоў, ухапіўшыся рукой за жорсткую грыўку купіны. Крысо парыжэлага, у падпалінах, шыняля і ногі ў стоптаных скуратах напалову ўмерзлі ў снег, у лёд, у якім мігцеліся пад сонцам не то кроплі крыві, не то ўмёрзлыя журавіны.

Пад шынялём была старая палапленая ватоўка. Шэрыя злямчаныя камякі ваты павыбіваліся з-пад лапікаў, а на самых грудзях тырчала драўляная рукаяць нажа, відаць, паляўнічага, мяркуючы па разьбе на ёй. Твар чалавека ўглядаўся ў неба, але не бачыў яго, бо ў ямінах заняпалых вачэй плавалі адталыя лядышкі. Поплеч пад купінай ляжала ўмёрзлая шапка-вушанка, такая ж старая, падраная, як і ўсё адзенне гэтага чалавека…

Людзі знялі шапкі, моўчкі згрудзіліся навакол. Яны не ўпершыню бачылі трупы, жахлівыя сляды звярыных злачынстваў, але ж гэтая смерць была крыху незвычайнай па сваёй сірочай самоце: у яе ж і сведкаў не было, і толькі бачылі яе гэтыя шэрыя купіны, ніцыя лазнякі ды панурае зімовае неба. Чалавек загінуў, відаць, яшчэ зімой і за гэты час паспеў так умерзці ў лёд.

— Лютую смерць прыняў чалавек… — уздыхнуў адзін.

— І хто б то мог быць? Наш брат, партызан? Няшчасны ўцякач з палону? Бядняга-заложнік?

— Хто б там ён і ні быў, але трэба даць прытулак яму… Па ўсяму ж відаць — наш чалавек…

Людзі завінуліся навакол, шукаючы жардзіны ці якой хварасціны са сцяжарні, каб змайстраваць насілкі і вынесці нябожчыка ў больш зручнае месца на пахаванне. І тут заўважылі яны другога мерцвяка. Ля нізкарослай хвойкі на ўзгорку ляжаў стары, сівая рэдкая барада яго змерзлася ў лядыш і як бы зраслася з вузлаватым каранём хвоі. Старога не прыкмецілі адразу, бо апранены ён быў у белы кажушок, а навакол было яшчэ багата нерасталага снегу. Кажушок быў увесь пасечаны кулямі, сям-там успораты

штыкамі ці нажамі. На месцы скроні зіяла чорная праломіна ці то ад удару вінтоўкай, ці так ад чаго.

І тут адзін з партызан, які пільна ўглядаўся ў пачарнелы твар нябожчыка, з жахам ускрыкнуў:

— Божа ж мой, гэта дзядзька Астап, мой родны дзядзька, ляснік з Беразянкі…

І тут успомнілі ўсе дзеда Астапа, прыгадалі чуткі аб ім, як пайшоў ён у лес з людзьмі ў пачатку самае зімы, калі браліся маразы… Пайшоў і знік з таго часу. І людзі тыя былі нявedaмыя… І людзей тых з таго часу не бачылі.

У другія гады адразу б знайшлі чалавека. Але не тыя гады цяпер. Багата гіне людзей. Багата знікае без весткі, без чуткі. Жыў чалавек — і нямашака, і ніякага знаку аб ім, ніякага следу… Страшныя гады пайшлі па зямлі…

* * *

У той дзень людзі толькі што пазбіраліся раніцой з лясоў, дзе яны хаваліся ад нямецкіх карнікаў. Некаторыя не знайшлі сваіх хат. На іх месцы датлявалі цёплыя яшчэ папялішчы. Не знайшоў сваёй хаты і дзед Астап. Не знайшоў і нявесткі і двух маленькіх унукаў. Людзі сказалі яму, што яны згарэлі ў хаце, што іх загубілі немцы.

Ад усяго двара засталася старая абгарэлая груша. Снег паспеў запарушыць яе галлё, і яна здалася дзеду колішняй вясновай грушай, у пахучай квецені, у пчолім гудзе, які нагадвае чымсьці чалавечую радасць… Але гэта здалося яму, здалося на якую секунду. Дужы і моцны яшчэ чалавек, ён неяк адразу аслаб і, прытуліўшыся да абгарэлага дрэва, прыплюшчыў вочы, бяссільна нахіліў галаву. Прад яго зрокам узнікалі прыгожымі зданямі светлавалосыя галовы, дзіцячыя ўсмешкі, сінія вочы. Яны так лагодна ўглядаліся на яго. Унукі ўзбіраліся на калені, церабілі яго за бараду, лашчыліся, прасілі:

— Раскажы, дзеду, страшную казку!

— Не, не буду расказваць вам страшную казку… — і ён чамусьці ўздыхаў. Але, адразу спахапіўшыся, тут жа радаваў іх: — Я раскажу вам лепш вясёлую…

І ён расказваў пра хітрага вожыка, мудрага дзятла. Расказваў пра залатога чмяля і яго дзівосныя палацы ў лахматай купіне. І голас дзедаў гуў, як чмяліны гуд, засыпалі ўнукі і праз сон пыталіся:

— А скажы нам, дзеду, дзе татка цяпер?..

— Далёка татка, не відно яго за вайной… Вы вось засынайце, і хто хутчэй засне, той татку сасніць…

Ён пераносіў іх, сонных, на ложак, сам распранаў, і нявестка заўсёды саступала яму ў гэтай справе. Як жа, яго гадунцы, як ласкава называў ён унукаў.

…Паснулі ўнукі. Не ўбачыць ім ужо ні таткі, ні дзеда, ні зялёнай грушы… А тыя, хто зрабіў гэты дзікі глум, пайшлі жывыя, ходзяць жывыя… І дзеці іх… таксама жывыя…

Думка скаланула яго, працвярозіла. Ён бачыў папялішча. Марозны вецер раздзьмухваў попел: сям-там слаба тлелі маленькія вугальчыкі. Сыпаў жорсткі снег, сіпелі пад ім галавешкі, абвалакваліся танюткімі струменямі пары. Дзед Астап страпянуўся. Моцны мароз даваў сябе адчуваць, зусім скалелі ногі. Ледзь разгінаючы іх, сутулячыся, ён пайшоў удоўж вуліцы, бязмэтна заходзіў у хаты, моўчкі сядзеў, моўчкі выходзіў. Яго не суцяшалі. Было так багата гора ў людзей і такое вялікае гора ў яго, што лепш было даць чалавеку выхадзіць яго, выдыхаць яго на самоце, развеяць яго па дарогах і сцежках. І ён хадзіў і ўсё думаў адну сваю думу: як знайсці меру святой чалавечай помсце.

…Апоўдні да вёскі падышла група людзей. Было нават дзіўна, як дабраліся яны ў гэтую замець. У некаторых былі забінтаваныя галовы — ці то параненыя, ці то вушы абмарожаныя былі ў людзей. Адзенне на ўсіх было наўздзіў абшарпанае, заношанае, лахман на лахмане. Некаторыя накульгвалі. Твары былі худыя, пасцягнутыя. Яны хадзілі пад вокнамі, стукалі ў шыбы, і пярэдні, што быў з падвязанай рукой, жаласна дапытваўся:

— Братцы, адгукніцеся, калі ў хаце жывая душа…

У некаторых з іх былі вінтоўкі, аўтаматы. З-за вёскі падыходзілі яшчэ групы такіх жа кульгавых, абшарпаных.

Сёй-той выйшаў з хаты. Пачала збірацца грамада людзей. Чалавек з перавязанай рукой усё пытаўся:

— Братцы, а ў вас немцаў часам нямашака?

Яму ніхто не адказаў. Негаваркія былі людзі ў гэты дзень. Маўклівымі позіркамі паказалі на халадзеючыя папялішчы, нехта скупа дадаў:

— Былі… Сляпы і той убачыць іх след…

— Ах, Божа ж наш, Божа… — жаласна заенчыў чалавек з перавязанай рукой. — Не дай жа Гасподзь трапіць у іхнія лапы… А мы вось, — і ён паказаў здаровай рукой на сваю групу і панізіў голас, — толькі што ўцяклі з Пярэжырскага лагера… Варту перабілі і ўцяклі…

Твары ў вяскоўцаў пасвятлелі. Усе ведалі пра Пярэжырскі лагер, ведалі пра яго страшную славу. Чалавечая цяплынь з'явілася на тварах у жанчын, растапіла халадок на вуснах.

— Дык чаго ж вы стаіцё на марозе? Заходзьце ў хаты ды абагрэйцеся… Ды, можа ж… ды што я кажу, даруйце мне… ды трэба ж і пад'есці вам, дужа вас кармілі гэтыя… каб яны па зямлі не хадзілі…

І некалькі галасоў змяшалася разам:

— Сапраўды ж заходзьце…

— Падзелімся ж тым часам…

— Чым багаты, тым і рады…

— Гэткая маразіна, а яны калеюць на вуліцы…

Але чалавек з перавязанай рукой прыціснуў руку да сэрца, увесь узгарэўся, расплыўся ўдзячнай усмешкай:

— Не, не, не… Братцы, родныя… Любыя вы мае… Каб маглі, век бы з вамі жыць… Не можам, даражэнькія, ні на хвіліну спыніцца… Насцігнуць нас праклятыя — гора нам будзе, ды і вас яны не памілуюць… Спяшаемся мы да партызан, вось дзе наша дарога… А як на тое ліха, не ведаем мы гэтай дарогі, заблудзілі вось, збіліся. Здарожыліся зусім… Вось і наважыліся ў вас запытацца: свае ўсё ж людзі, дапамогуць, выведуць…

Людзі з хат насупіліся адразу. Ды некалькі чалавек у адзін голас:

— Не… не ведаем мы партызан… І дарогі да іх не ведаем…

І некаторыя з іх сталі адыходзіць ад грамады, ціха разыходзіцца па хатах.

Тады чалавек з перавязанай рукой кінуў вобземлю шапку-вушанку і, прыкрыўшы далонню твар, затрымцеў, як у ліхаманцы, і не гаварыў, а выкрыкваў наўзрыд:

— Душагубы вы, а не людзі… Даруйце мне, родныя мае, за маё крыўднае слова… Нібы ім вунь, няшчасным, паміраць цяпер… Ад праклятых уцяклі, а праз сваіх загінем… Загінем, да душы загінем…

І ён калаціўся, як асінавы ліст, і сіні рубец на яго галаве цьмяна адсвечваў на марозным паветры. Чалавек плакаў, хаваючы слёзы свае ад людскіх воч.

Сярод жанчын пачуліся ўсхліпы. Некаторыя ўсхвалявана падштурхвалі адна другую локцямі. Сёй-той з мужчын нязручна кракануў і адвярнуўся. Дзед Астап глядзеў на ўсіх безуважлівым позіркам, скрануўся з месца і, нібы думаючы аб нечым сваім, абыякава прагаварыў:

— Не прападаць жа ўрэшце людзям… Я правяду… Ведаю.

Наставіўшы каўнер кажушка, ён пайшоў уперадзе групы людзей. Да іх далучылася яшчэ багата чалавек, якія чакалі за вёскай. Вяскоўцы разыходзіліся па хатах. Адны абураліся дзедам: ліха ж ведае, што то за людзі, калі ніводнага знаёмага… Другія маўкліва далучаліся да ўчынку Астапа: добра гэта, калі чалавека з бяды выбавіць…

А падарожныя людзі ўсё аддаляліся і аддаляліся ад вёскі і хутка зусім зніклі за снежнай пеляной завеі.

* * *

Доўгія сумёты ляглі ўпоперак дарогі, і людзі стараліся патрапіць след у след, каб лішне не ісці цалінай. Суха шархацела маразявае голле прыдарожных бяроз, парыпвалі хвоі. Вецер шалёна налятаў на дрэвы, нібы намагаючыся паваліць іх з разгону, шкуматаў іх вяршыні, дзіка завываў у голлі і кідаў у падарожных цэлыя гурбы снегу.

— Ну і надвор’е! — вымавіў чалавек з перавязанай рукой, папраўляючы каўнер шыняля. — Няйначай дзе чэрці вяселле спраўляюць…

Ён аказаўся гаманкім і вясёлым чалавекам. Нягледзячы на непагоду і недалужную руку сваю, ён сыпаў пытаннямі, усё дапытваўся, ці хутка канец дарозе, як там у партызан…

— Ды неяк жа прыйдзем, а там пабачыце самі… — неахвотна адказваў дзед Астап, часцей за ўсё адрабляючыся няхітрымі адказамі: не, не ведаю… самі пабачыце…

А чалавек усё сыпаў пытаннямі: а колькі там партызан, ды як яны там, разам ці па групах, ды ці добра яны ваююць, а ці ёсць у іх хаця добрая зброя?..

— Добрая зброя? — абярнуўся Астап і скоса пазірнуў на чалавека. — Не лічыў я, але ж на немцаў хопіць… А ці добра ваююць, то ты запытайся, чалавеча, у немцаў, яны ж гэта ведаюць… А калі не яны, дык іхнія спіны… Але ж і язык у цябе, даруй мне, як тая мянташка… Ды што мянташка! Не раўнуючы, як памяло ў старой бабы, аж пыл курыць з-пад яго…

Чалавек з перавязанай рукой кісла ўсміхнуўся.

— Ды я ж на радасцях, родны, з сваім жа чалавекам як не пагаварыць…

— Язык прастудзіш — вось і ўся твая радасць будзе…

І дзед Астап замоўк. Замоўк і чалавек з перавязанай рукой. Яны ішлі лесам. І хоць тут было зацішней, але снегу навалiла ў пояс, і быў ён жорсткі, сыпучы. Людзі ледзь выцягвалі ногі,

правальваючыся па пояс. Прайшлі, відаць, кіламетраў з дзесяць, пятнаццаць. Некаторыя аж узапрэлі, параспускалі шынялі, другія нават скінулі іх, неслі ў руках. І дзіўная рэч: ніхто з гэтых людзей больш не накульгваў, пазнікалі бінты, якіх дужа багата было панаверчана на некаторых. Пад дзіравымі, абшарпанымі шынялямі аказаліся дабротныя кажушкі ці звычайныя мундзіры. Гэтыя мундзіры былі чамусьці нямецкімі.

Дзед Астап скоса прыглядаўся да бліжэйшых з іх. Скрозь завыванне завірухі да яго даносіліся паасобныя словы, і ён не разумеў іх: людзі гаварылі па-нямецку. Раней яны не ўсе мелі зброю, цяпер кожны чамусьці ішоў з вінтоўкай ці з аўтаматам. Прыкмеціў ён нават некалькі кулямётаў, якія неслі пазадзе.

Хоць гэта востра занепакоіла яго, але ён меў усё той жа спакойны выгляд і ішоў не спяшаючыся, лёгка перастаўляючы бярозавы кіёк-папірашку. Яшчэ на сярэдзіне дарогі адчуў ён няладнае. Ён ішоў, і мянялася дарога, а ён і не ведаў нават добра, колькі прыйдзецца яшчэ прайсці з імі, калі прыйдзе канец гэтаму падарожжу. Падкошваліся ногі ад стомы, сударгавы кашаль забіваў яму грудзі, усё часцей чапіўся з адным і тым жа запытаннем чалавек з перавязанай рукой:

— Ды ці хутка мы дапаўзём, урэшце, чорт бы браў гэтую праклятую дарогу?..

— А ты не спяшайся… Ту-у-ды… заўсёды дапнём… — І дзед Астап цяжка прадзіраўся праз сумёты, праз густыя лесавыя зараслі.

Неўзабаве яны выбавіліся на шырокае балота. Дробныя хвойкі, куп’ё, лазнякі ды чараты, чараты, як акінуць вокам. Насоўвалася ноч.Ісці стала вальней. Завея павыдзьмула снег да самага лёду, да прамёрзлай зямлі. Але сіберны вецер валіў з ног, пранізваў да касцей сваім лютым подыхам. Людзі прыпынілі чалавека з перавязанай рукой і дзеда Астапа, аб нечым пыталіся ў таго чалавека, пыталіся па-свойму, па-нямецку. Адзін, відаць, з нейкага начальства, строга дапытваўся ў чалавека і нешта паказваў на Астапа. Тыя, што згрудзіліся, цёрлі вушы, пабялелыя шчокі, спрытна падскаквалі, каб сагрэцца як на гэтай сібернай выдзьме. Дзед Астап зорыў вокам за імі з-пад заснежаных брывей, і ледзь прыкметная ўсмешка схавалася за марозным інеем вусоў. Чалавек з перавязанай рукой звярнуўся да яго:

— Яны пытаюцца…

— Хто — яны?

— Ну, нашы… пытаюцца, ці не заблудзіўся ты?..

— Скажы: не…

— Яны яшчэ пытаюцца, ці няма дзе месца заначаваць…

— Няма…

— І ці доўга ісці?

Астап задумаўся на хвіліну, адказаў:

— Скажы: нядоўга… Яшчэ з паўгадзіны, не болей…

Чалавек з перавязанай рукой глядзеў на яго халодным, пранозлівым позіркам. На яго пабялелым твары перакатваліся жалвакі, і ўвесь ён стаў нейкім вострым:

— Ты-ы… не брэшаш мне часам, чорт стары?

— Што ты, душа ласкавая… Навошта ж мне брахаць… Калі не верадь, няхай самі ідуць… Вялікі то мне інтарэс гібець тут з вамі… Так і скажы гэтым самым… вашым…

— Ты мне дурнем не прыкідвайся… Глядзі ў мяне!.. — ужо зусім сурова выціснуў з сябе чалавек і грозна замахаў кулакамі перад самым дзедавым носам. Куды падзелася і перавязка, адляцела і перавязь, на якой вісела недалужная рука. — Скуру здзяру, калі што, вось гэтымі самымі рукамі… Глядзі…

— Што ж мне глядзець? Не люстра ты, бачу… Але ж хутка і рана твая загаілася, чалавеча…

Той маўчаў. Ішлі далей. Пачынала цямнець. Зусім прыстаў дзед Астап, падгіналіся каленкі ад доўгай дарогі. Ён звярнуўся да чалавека з загоенай рукой:

— Слухай ты, ласкавая душа! Спытацца ў цябе вось хачу.

— Ну…

— Ты ж наскі чалавек, вядома? Гаворыш вось па-расейску. Нашых крывей чалавек?

— А табе што?

— Ды мне нічога… А проста я спытаць цябе хачу: чаму гэта ты схуднеў так? Ці гэта ад харчу? Відаць, заслабы ён у цябе… твой харч… Ці мала плацяць гэтыя… вашы?..

— Ты што вярзеш? — цягнуўся да Астапавай барады чалавек і троссся, як у ліхаманцы, бледны, утрапёны.

— А ты не трапыхайся… Не твая барада — не твой клопат… Я хачу з табой спакойна пагаварыць. Мне ж цікава… Колькі чалавек крыві выпівае, а ўсё худнее… З чаго б тое? Дык скажы ты мне, ласкавы чалавек, пачым плацяць табе ад душы? Ад старэчай, дзіцячай? Ці за ўсіх бярэш разам?..

Чалавек цягнуўся да горла старога, але Астап, які дужаў мядзведзяў у маладыя гады, лёгка адпіхнуў яго, прытрымліваючы за руку, і ўсё папракаў:

— Вось не хочаш ты гаварыць са мной, адказваць… Жыцця ты майго хочаш, крыві маёй прагнеш, блыха сабачая! Заслаб

ты для гэтага, заслаб. З натугі лопнеш, а мяне табе не ўзяць… Падохнеш ты сабакам, і яны падохнуць, падохнуць, голуб, не дзе дзенуцца… Ты падушыў з імі ўнукаў маіх… дзетак маіх… Але ж сыны мае б'юць вас, пляменнікі б'юць, народ вас б'е… Душу маю абмануў ты, залез у яе са словам жаласлівым… Ну, ну, ну… не крычы-ы… ты ў мяне… не выслізайся вужакай… Нікуды не ўцячэш, і яны табе ўжо не дапамогуць… А я ж не дапушчу цябе да смерці чалавечай… Госпадзі, благаславі!

Паляўнічы нож, які заўсёды насіў з сабой стары ляснік, спрытна слізгануўся ў руках Астапа, і «ласкавая душа» завалілася, храпучы, на купіны, дзе дзьмула, завывала шалёная пазёмка.

Дзед Астап ступіў колькі крокаў да невялічкай хвойкі, якая цямнелася наперадзе ў сірочай самоце, і тут яго акружылі, наваліліся, як зграя галодных ваўкоў. Ён памёр ціха, маўкліва, прыняўшы смерць, як урачыста споўнены доўг свой перад людзьмі.

Завея дзьмула ўсю ноч, увесь дзень і пазамяла да вясны ўсе сляды на балоце. І доўга яшчэ вясной ды і летам знаходзілі партызаны трупы людзей у парваных шынялях, у лахманах, пад якімі былі дабротныя мундзіры, а на іх часам і афіцэрскія пагоны. Гэтых людзей ніхто не біў, не рэзаў, не страляў. Яны перамерзлі самі ў тую завейную ноч, калі разбрыліся па балоце, па лесе, шукаючы выйсця з марознай магілы…

* * *

Калі вывозілі цела дзеда Астапа, хлопцы хацелі прывезці і труп чалавека з нажом, але адзін з іх пазнаў у гэтым чалавеку начальніка акруговай паліцыі… Яшчэ раней былі чуткі, што гэты душагуб і кат знік бясследна, але ніхто не мог дакладна сказаць, пры якіх абставінах і дзе адбылася такая падзея.

Па нажы партызаны пазналі, хто дапамог ім пазбавіцца ад гэтага вылюдка.

Рэшткі душагуба пакінулі на балоце.

* * *

Стаяў пагожы вясновы дзень, калі хавалі дзеда Астапа. Сонца ўгравала вяршыні стромкіх соснаў, прыгравала ўзгоркі, палянкі, і чорныя прапаліны ля зямлянак партызанскага лагера курыліся парай. Труна нябожчыка стаяла на высокім памосце, упрыгожаным яловымі лапкамі. Дзед ляжаў маўклівы, суровы, углядаўся тварам у празрыстую вышыню, дзе, здавалася, вось-вось запяюць першыя жаўранкі, светлыя госці вясны.

Навокал стаялі, паздымаўшы шапкі, людзі. Усхліпвалі жанчыны. Затуманіліся, зажурыліся дзяўчаты з дзеразовымі вянкамі на руках. Пахмурна і ўрачыста выглядалі хвацкія хлопцы з пачэснага каравула.

Развітацца з дзедам прыехаў камандзір атрада. Каржакаваты, прысадзісты — гнуліся ступенькі пад ім, калі падымаўся ён на памост, — камандзір падышоў да дзедавай труны, сумна паківаў галавой:

— Рана, Астап, ты выбраўся ў дальнюю дарогу… Рана… Ды нічога ўжо не зробіш… Слаўна ты жыў… Слаўна памёр за людзей нашых…

Адгрымеў развітальны салют з вінтовак.

Дзеда пахавалі на ўзбярэжжы пад вялікай разгалістай хвояй.

Адсюль відаць шырокі разліў ракі, бязмежныя лугі і палі на тым беразе. Неабсяжныя бары сцерагуць вечны спакой чалавека. А калі вышэй узнімаецца сонца на небе, расцвітаюць навакол лесавыя краскі, і першая з іх — дзівосны сон баравы. Калі адцвітае яна — пяшчотна-сіняя сцюдзёная краска, — тады жыццё адкрывае ўсе вокны, усе дзверы ў лясах, зелянеюць лугі, выкідваецца клейкі ліст на бярозе, першыя травінкі, былінкі прашываюцца праз леташні ліст, і ў зялёнай цвецені вясны пачынае запяваць сваю спрадвечную песню дзівосная птаха зязюля.

*1943*

## ЦАНА КРЫВІ

Гэтая дарога нават падабалася маленькаму Томі.

Ён ніколі не рабіў такіх доўгіх падарожжаў. Звычайна ўсе яго паездкі абмяжоўваліся школай. Раніцай прывозілі яго туды на новым «кадзілаку», у якім усё блішчала, не было, здавалася, ніводнай пылінкі, а ў хрустальныя шкельцы прыбораў можна было глядзецца, як у люстра, і нават заўважыць у іх сваю радзімку на шчацэ. Там і дарога раўнюткая, як паркет. Яна так адглянцавалася аўтамабільнымі шынамі, што калі глядзіш на яе, седзячы на пярэднім сядзенні, дык здаецца, гэта і дарога не дарога, а роўная, як струнка, рака, што паблісквае пад сонцам. І машына коціць па ёй мякка, бясшумна, не скаланецца, не кінецца ўбок, не зарыпіць. Так у школу, так і з школы дахаты. А ў школе сустракае цябе мадам Плюф — вучні завуць яе жоравам, — абніме за плечы, пацалуе ў лоб, запытае:

— Ну, як тvae ўрокі, Томі?

Пацалуе і павядзе за руку да скамейкі.

— Ну, садзіся на сваё месца, Томі, і будзь, дзіця маё, уважлівы, сёння мы будзем знаёміцца з чарговай літарай.

Старэйшыя вучні называюць яе яшчэ мадам Ну.

Як гэта ўсё сумна: і машына, як люстра, і шаша, як паркет, і мадам Ну са сваёй да таго накрухмаленай сукенкай, што складкі яе, здаецца, патрэскваюць, калі мадам паважна праходзіць па калідоры школы, невялікай прыватнай школы, дзе такі добры догляд за дзецьмі.

Усё гэта крыху нудна і аднастайна.

А падарожжа такое цікавае. Дарога ўвесь час мяняецца. Прамільгне кавалак шашы, і там зноў пыльныя грунтоўкі, а то і зусім машына пятляе па нейкіх ледзь прыкметных дарожках, дзе так багата калдобін, глыбокіх пяскоў, каменне. Нават пераязджалі ўброд невялікую рачулку, і Томі ледзь не замачыў ногі, калі машына саслізнула ў нейкую ямку, адкуль ледзь-ледзь выбралася. А чаго варта сама машына! Старая, абшарпаная, ідзе і грыміць, павізгвае ўсімі сваімі жалезінкамі, а стары матор пускае столькі дыму, што ззаду ўзнімаецца аж цэлае воблака. І калі машына прыцішае ход, воблака наганяе яе, і тады вельмі цяжка дыхаць і нічога не відаць наперадзе. Але вось машына выбіраецца на роўную дарогу, і вецер адганяе воблачка дыму і пылу далёка ўбок, і тады ўсё добра. Дзе толькі не праехалі яны! Пабылі і ў невялічкіх гарадках, прамінулі багата розных ферм, дарога трапляла ў лес, вілася паўз бераг вялікага возера, потым пайшлі зусім пустынныя месцы, дзе раслі рэдкія дрэвы і было багата камянёў.

Томі прыглядаўся і да дзядзькі, які вёў машыну. Яго голыя па локаць рукі былі валасатыя, з рудымі плямінамі. І яшчэ адну асаблівасць заўважыў Томі: адно вока ў дзядзькі было зацягнена белай плямай — і проста цуд, як ён з адным вокам вёў машыну па такой няроўнай дарозе. Гэты дзядзька зрэдку касавурыў на яго сваё бяльмастае вока і чагосьці падміргваў цётцы, якая сядзела побач з Томі на заднім сядзенні. Тая ўсміхалася, нечага пасмейвалася і адразу рабілася сур'ёзная, калі да яе зварочваўся Томі. А ён усё пытаўся:

— Ці хутка мы прыедзем, цётка?

— Хутка, хутка, сынок!

— Чаму сынок? Вы ж не мая мама. Гэта яна мяне так называе.

— Гэта няважна. Я ж твая цётка, і твая маці паслала цябе да мяне ў госці.

— І доўга я ў вас буду, цётка?

— А гэта ўжо, як захочаш. Хочаш даўжэй пабыць, пабудзеш. А можа, табе не спадабаецца ў мяне, тады паедзеш назад раней.

— Я яшчэ не ведаю, ці спадабаецца мне, ці не. Вось толькі ўрокі, цётка. Я ж прапушчу колькі дзён, а тады трэба будзе наганяць, а гэта цяжка, каб адразу брацца за ўсе ўрокі.

— Хіба табе так падабаюцца ўрокі, што ты не зможаш забыцца на іх?

Хлапчук на хвіліну задумаўся. Яго вучылі гаварыць заўсёды праўду. Але скажаш праўду, дык дарослым часам гэта не падабаецца. Вось ён сказаў раз аднаму паважнаму дзядзьку:

— Вас мая мама дужа не любіць, бо вы вялікі шэльма!

Той дзядзька зрабіў тады вялікія вочы, увесь усчырванеўся і аб нечым гнеўна гаварыў з мамай. Аб чым ён гаварыў, Томі не чуў, бо маці прагнала яго з пакоя.

А калі той дзядзька пайшоў з дому, маці была вельмі расстроеная і, нюхаючы нейкі пузырок з лекамі, горка папракала яго:

— Хіба ж можна так гаварыць, сынок, пра чужых людзей?

— Вы ж самі казалі гэта, мама.

— Мала што я казала. Тое, што гавораць дарослыя, не заўсёды трэба паўтараць дзецям.

Канечне, ён абяцаў больш не гаварыць так, нават пра таго дзядзьку — вялікага шэльму. Але паспрабуй разбярыся тут, што можна гаварыць дарослым цёткам і дзядзькам і што няможна. Ва ўсякім разе, гэтая цётка не дрэнная, яна, відаць, любіць яго, бо ўсю дарогу пестуе яго і частуе добрымі цукеркамі, якраз тымі, якія яму падабаюцца. Няйначай, ёй можна гаварыць і праўду. І ён адказвае:

— Я, цётка, не ўсе ўрокі люблю. Адны добрыя, цікавыя, а некаторыя вельмі нудныя. Канечне, без урокаў дык неяк весялей… А вы, цётка, любілі ўрокі?

— Урокі?

Пытанне гэтае, відаць, для цёткі крыху нечаканае, а хутчэй за ўсё зусім нязвычнае.

— Урокі бываюць толькі ў дзяцей. А дарослым трэба працаваць.

— А вы дзе працуеце, цётка?

Няйначай гэта пытанне цяжкавата для цёткі. Зірнуўшы чамусьці на дзядзьку за рулём, яна, уздыхнуўшы, адказвае:

— Я працую на зямлі. Разумееш, абрабляю зямлю, сею пшаніцу, кукурузу, вырошчваю бульбу, буракі… Ну вось сам пабачыш на маёй ферме. Я фермерша, разумееш?

— Так, я разумею. Нам на дачу прывозяць з фермы свежае малако і сліўкі. Я раз быў на той ферме, бачыў там кароў, коней. Я дужа баяўся іх, у кароў жа такія страшныя рогі, яшчэ могуць закалоць…

— Іх нечага баяцца, каровы ціхія, спакойныя жывёлы, яны нікога не кранаюць.

— І ў вас ёсць каровы, цётка?

— Ёсць і каровы.

— А што яны ядуць?

— Усё ядуць. Асабліва любяць траву.

— Вось гэтую самую, што расце паўсюды?

— Гэтую самую.

— А як яны даюць малако?

— Ну, потым сам пабачыш…

— А чаму, цётка, у вас такая старая машына? Гэта ж стары «додж».

— У нас кепскія дарогі, як бачыш. Шкада ганяць па іх добрую машыну, яе разаб'еш адразу…

— А новай у вас няма машыны?

— Купім і новую, калі паправяцца нашы дарогі… — І цётка нешта паглядзела на дзядзьку. Той чуў яе адказ і чамусьці ўсміхнуўся ў свае рудыя калючыя вусы.

Цётка яшчэ запыталася:

— Ты вось скажы мне, Томі, ці любіш ты свайго татку?

— Ого! Яшчэ як!

— А ён цябе любіць?

— Ён вельмі мяне любіць. Заўсёды, як прыходзіць з работы, дык бярэ мяне на рукі і падкідае аж пад самую столь. Гэта, цётка, так страшна-страшна і разам з тым так добра, што хочацца яшчэ і яшчэ. А па нядзелях мы ездзім на прагулку на раку, у нас такая вялікая-вялікая маторная лодка, і татка дае мне патрымацца за руль. Матор гудзіць, лодка імчыць, а за ёй аж кіпіць вада, уся ў пене. А я трымаюся за руль, і лодка ідзе, куды я хачу. А потым мы ставім лодку на якар і ловім рыбу: татка спінінгам, а я вудачкамі — ён для мяне купіў спецыяльна. Дык я злавіў быў такую рыбку, такую рыбку, што вы, цётка, такой ніколі не бачылі! Такая прыгожая-прыгожая, ну ўся як срэбра і золата!

— А мама ловіць рыбу?

— Не… Яна ў нас хворая… Калі мы ездзім на лодцы, яна звычайна сядзіць і чытае якую-небудзь кніжку. А мы ловім…

— Дык кажаш, як срэбра і золата твая рыбка?

— Як чыстае срэбра… Ну і зіхаціць, як золата.

— А ў вас багата срэбра і золата?

— У нас? Не. Мама не любіць золата. Калі татка купіў ёй яшчэ адзін бранзалет, дык яна была пакрыўджана. Гэта, кажа, лішнія, непатрэбныя траты. Так і сказала — непатрэбныя.

— Ну добра! Вось мы, здаецца, і адпачнём тут крыху, а то ад гэтай язды задужа стаміліся.

У невялічкім лесе яны звярнулі з дарогі і спыніліся ля рачулкі. Расклалі цяпельца і на ім разагравалі кансервы. Цётка падсмажвала лустачкі хлеба. Гэта было так цікава і весела. Томі сам збіраў сухія хлабысцінкі, падкладваў іх у агонь. Потым елі падагрэтыя кансервы. Бяльмасты дзядзька дастаў пляшку, выпіў сам і наліў паўшклянкі цётцы. Ён хацеў наліць і Томі, але цётка катэгарычна забараніла, і дзядзька не настойваў, толькі сказаў:

— Нічога з ім не зрабілася б… Цікава, ведаеш, паглядзець, як малыя ўпіваюцца, тады яны вельмі пацешныя…

— Не забывай, аднак, што адказваеш за дзіця… Іначай дарэмныя будуць усе нашы клопаты.

— Ты, Роза, не разяўляйся задужа, гэты хлапчук разумее больш, чым мы думаем… — сказаў дзядзька, дапіў рэшткі пітва і на якую хвіліну-другую аб нечым задумаўся.

Якія ў іх былі клопаты, Томі, вядома, не мог зразумець, але адчуваў, што гэты дзядзька не дужа прыязна ставіцца да яго. Цётка, відаць, лепшая, бо пасля гэтага незвычайнага абеду яна пачаставала яго цукеркамі. Абед сапраўды быў незвычайны. Такія стравы, як тут ля цяпельца, Томі еў упершыню. Пасля абеду ён бегаў па пясчаным беразе, пужаў маленькіх рыбак, якія хадзілі цэлымі стайкамі. Ён кідаў ім крошкі хлеба, і яны навальваліся на іх і ўсчыналі такі гармідар, што вада нібы ўскіпала, і яе чыстая, як люстра, паверхня пакрывалася частым-частым рабаціннем.

А дзядзька з цёткай ляжалі на траве, курылі. Потым дзядзька абняў цётку, і яны пачалі барацца пад кустом. Томі не сцярпеў і сказаў ім:

— Гэта непрыстойна — абнімацца пры дзецях!

Дзядзька аж падскочыў быў, як уджалены.

— Фу ты, д’ябал! Адкуль табе, падшывальцу, ведаць, што прыстойна і што непрыстойна?

— Так гаварыла мама. Калі татка абняў яе пры нас і хацеў пацалаваць, яна сказала яму, што рабіць так пры дзецях непрыстойна.

Дзядзька зірнуў на яго скоса, і белая пляма на воку зрабілася, здаецца, яшчэ бялей на сонцы. Томі спытаў у яго:

— А дзе вы папсавалі сваё вока, дзядзька?

Той нахмурыўся і злосна кінуў:

— Пшоў прэч, дурань! — і пачаў закурваць.

Томі аж пачырванеў ад крыўды. Ніхто і ніколі так не гаварыў з ім. Урэшце, ён нічога крыўднага не сказаў гэтаму дзядзьку, чаго ж так крычаць на яго? І ён як мага цішэй сказаў яму:

— Я не ведаю, чаму вы такі злы, дзядзька.

— Пшоў, пшоў… — ужо больш лагодным голасам адказаў ён.

— Гэта нікуды не варта, Морыс, так размаўляць з дзіцём! — умяшалася тут цётка Роза.

— Ну-ну, знайшлася мне дарадчыца!

— Так, дарадчыца…

— Хіба загадаеш яшчэ мне цалавацца з ім.

— Можаш абысціся і без гэтага, але набярыся хаця цярплівасці, для нашай жа агульнай справы…

— Яшчэ загадаеш мне за няньку стаць?

— Кінь гаварыць глупства…

Яны аб нечым яшчэ злосна перашэптваліся. Не так ужо цікава было Томі слухаць, як чамусьці сварацца дарослыя людзі. Для яго знайшліся больш важныя справы. Ля самай рачулкі ў кусце ён знайшоў птушынае гняздо. У ім сядзела некалькі маленькіх птушанят. Пухнаценькія, з кволымі жоўтымі дзюбачкамі, яны пацешна варушыліся і аб нечым жаласна пішчалі. Хутка ён заўважыў і дзве невялічкія птушкі з прыгожым, зіхатлівым пер’ем. Яны ляталі вакол куста і так трывожна папісквалі, што Томі здагадаўся: гэта татка і маці птушанят, і яны непакояцца аб іх лёсе. Ён хацеў патрымаць птушанят на руцэ — яны ж такія забаўныя, — але пашкадаваў: няхай не крычаць так жаласна. І адышоў падалей. Адтуль і цікавіўся, зводдаль, вясёлымі птушынымі справамі.

Хутка яго паклікала цётка Роза. Яны паехалі далей. Пад самы вечар спыніліся на нейкай ферме. Яна была пакінута яе гаспадарамі, і, відаць, даўно, бо вокны невялікага доміка ў садзе і дзверы розных гаспадарчых будынкаў былі пазабіваны дошкамі, якія ад часу зрабіліся шэрыя. Нідзе навокал не відаць было другіх ферм. Дварышча фермы пазарасло дзікай травой і маладымі дрэўцамі. А за фермай, як вокам кінуць, цягнуліся лясістыя ўзгоркі, якія падступалі да самых гор, снегавыя вяршыні якіх узнімалі воблакі, над самым гарызонтам. З подыхам ветрыку адтуль патыхала свежай прахалодай, якая адчувалася нават на сонечным угрэве пад самымі сценамі доміка.

Сад быў запушчаны, дзікі. На ўскрайку яго працякаў ручай з празрыстай і халоднай як лёд вадой. У маленькай затоцы, відаць, штучна зробленай, плавалі стракатыя рыбкі, і немалыя.

— Гэта ж фарэлі, мы з таткам лавілі такіх! — з захапленнем паказаў на іх Томі і асцярожна зірнуў на дзядзьку, трымаючыся бліжэй да цёткі Розы.

— Правільна, містэр, фарэлі… Добрая будзе вячэра… — даволі лагодна адказаў дзядзька Морыс і пайшоў некуды па сваіх справах.

Прызнацца, гэтая мясціна нават спадабалася Томі. Асабліва ручай. Ён быў такі гаманкі, што яго звонкае цурчанне, відаць, не змаўкала ні днём, ні ноччу. Акрамя яго голасу і не чуваць было нічога: па зарослай камяністай дарозе, відаць, ніколі не праходзілі машыны, рэдка з’яўляліся людзі, і калі не было ветру, дык цішыня вакол стаяла такая, што аж трошкі рабілася страшнавата.

— Дзе ж вашы каровы і коні? — спытаў Томі ў цёткі Розы.

— Гэта не мая ферма, а дзядзькі Морыса. Ён толькі нядаўна купіў яе і будзе прыводзіць да парадку. Тут мы прабудзем колькі дзён, пакуль не падрамантуем машыну. А потым паедзем і да мяне. Аднак і тут, як бачыш, вельмі цікава. Вунь, глядзі, колькі трусоў!

Сапраўды, Томі ўбачыў тут цэлую стайку трусоў, якія выбраліся, відаць, з-пад дома і разбрыліся, разбегліся па ўсім садзе, цярэбячы траву і пацешна матляючы сваімі доўгімі вушамі.

Ужо на змярканні дзядзька Морыс, нечым заклапочаны, хадзіў з ружжом у лес. Як заўважыў Томі, ён прыйшоў толькі пад самую раніцу і прынёс трох залацістых фазанаў. Забітых. Цётка Роза смажыла іх. Яна рыхтавала яшчэ рагу з труса, якога на вачах Томі падстрэліў дзядзька. Сняданак быў выдатны. Фазаны аказаліся такія смачныя, што Томі з’еў аж дзве ножкі. Ад труса адмовіўся, бо яму шкада было гэтага бяскрыўднага стварэння, якое так бязлітасна ўзялі і забілі. Канечне, шкада і фазанаў, але ж іх забілі недзе ў лесе, не пры ім. Зноў жа, гэта з птушак, якіх неаднойчы еў Томі. Хаця, скажам, яму і шкада часам было індычак, але ж яны бываюць такія смачныя, што на ўсё іншае забываешся. Вось і свята бывае такое, калі ўся іхняя сям’я і ўсе іх знаёмыя ядуць толькі індычак. Гэта ў дзень Удзячнасці. Так што гэтых птушак не так ужо і шкада. Яны ж, відаць, і жывуць для таго, каб іх елі людзі…

Дзень за днём Томі асвойваў закінутую ферму. Ён аблазіў усе куткі, забраўся нават на гарышча. Там былі і сякія-такія

цікавыя для яго знаходкі: сапсутыя цацкі, крыху парваныя кніжкі, старыя часопісы з малюнкамі. Малюнкі заўсёды цікава паглядзець. Хадзіў ён і на прагулянкі з цёткай Розай, асабліва тады, калі дзядзька Морыс некуды адлучаўся на колькі дзён. А праз тыдзень прыязджаў верхам на кані яшчэ адзін незнаёмы дзядзька. Ён доўга раіўся аб нечым з дзядзькам Морысам. І пасля добрага абеду, калі абодва дзядзькі здорава напіліся, цётка Роза, чамусьці сумная крыху, сказала Томі ў часе прагулкі па садзе:

— Як мне не хацелася б, мой слаўны хлопчык, зараз расставацца з табой. Я ж так да цябе прывыкла, мой ты глупёныш…

— А чаму нам расставацца? Мы ж едзем да вас у госці?

— Так, мой хлопчык… — І яна аж уздыхнула. — Але не заўсёды выходзіць, як мы хочам.

— Я не разумею вас, цётка. Вы ж хочаце, каб я ехаў да вас у госці. Чаму ж нам і не ехаць?

— Бачыш, мой хлопчык, мы атрымалі тэлеграму ад твайго таткі, каб ты прыехаў дахаты… Баяцца, што ты прапусціш з-за гасцявання багата ўрокаў, а нагнаць прапушчанае табе будзе не пад сілу.

— Ого! Я ўсё магу. Захачу, дык наганю хоць бы сабе і сто ўрокаў!

— Гэта табе толькі здаецца так, мой слаўны, мой любы! — яна нават прыгарнула яго да сябе, пачала горача цалаваць у шчокі, у лоб, у вясёлую кірпацінку носа, у пацешны віхор, які ніяк не мог прымірыцца з грабянцом і дзёрзка ўзнімаўся ўверх, як крыло ластаўкі.

Томі не вельмі любіў сантыменты. Ён памятаў і словы маці, што не трэба дазваляць чужым людзям цалаваць цябе, бо гэта нядобра, ці, як кажа яна, негігіенічна. Але што ты зробіш з гэтай цёткай, калі яна так любіць цябе? Ну, няхай крыху і пацалуе, толькі крыху. І, паволі вызваляючыся з яе абдымкаў і заўважыўшы слёзы на яе шчаках, ён спытаўся:

— Вы, цётка, любіце дзяцей?

— Люблю, мой слаўны…

— А вы пазнаёміце мяне са сваімі дзецьмі?

Яна адказала не адразу. Потым, як здалося Томі, трохі нерашучым голасам сказала:

— У мяне няма дзяцей, мой глупёныш, і не будзе ніколі…

— Як жа так, цётка Роза? Дзядзька Морыс ваш муж, а вы жонка, а ў мужоў і жонак заўсёды бываюць дзеці. Вось да нас ходзяць знаёмыя, каторыя мужы і жонкі, дык у іх таксама ёсць дзеці.

Цётка Роза чамусьці зноў не знайшлася, што адказаць адразу. Падумала крыху, праказала зусім шэптам:

— Ах, які ты яшчэ маленькі і дурненькі, нічога яшчэ не ведаеш на свеце. Вось пажывеш, падрасцеш, і ўсё тады будзеш ведаць.

— Я цяпер таксама багата ведаю. Мая настаўніца гаварыла, што хаця я і маленькі, але ведаю куды болей, чым некаторыя старэйшыя вучні.

— Часам, мой хлопчык, бывае ў жыцці і так, што лепш ведаць меней, чым болей…

— Не, не, цётка! Мой татка заўсёды гаворыць, што чалавеку патрэбны вялікія веды, такія вялікія, што адразу і не скажаш! — аж развёў рукамі хлапчук.

У цёткі Розы былі, відаць, іншыя думкі аб гэтых ведах, але яна нічога не сказала, а толькі сумна паківала галавой.

* * *

Сям’я паважанага прафесара Леснера ўжо каторы дзень была ў цяжкім горы. Ён маўкліва перажываў гэта гора, намагаючыся нічым не выказаць яго на сваіх лекцыях ва ўніверсітэце, у сваіх штодзённых сустрэчах з саслужыўцамі, са студэнтамі, з блізкімі і знаёмымі. Але куды падзелася былая ўзнёсласць яго лекцый, яго ранейшы гумар, нявымушаная ўсхваляванасць яго прамоў, што так падабаліся маладым слухачам аўдыторыі, якая ніколі не пуставала, як гэта часам здаралася ў другіх прафесароў. Усе — і студэнты і калегі — шчыра спачувалі яму. Намагаліся, наколькі гэта магчыма, аблегчыць той цяжкі ўдар, які нечакана напаткаў яго сям’ю. Усе ведалі, як любіў ён свайго маленькага сына, першынца, як захапляўся ім, як у вольную гадзіну мог бясконца гаварыць аб яго звычках, яго здольнасцях, яго будучыні, зразумела, у гутарках са сваімі самымі блізкімі. І гэта не было звычайнай пахвальбой, тым звычайным захапленнем сваімі дзецьмі, што ўласцівы большасці бацькоў, схільных бачыць у сваіх нашчадках ні больш ні менш, як вундэркіндаў. Хлапчук сапраўды быў арыгінальны і здольны, таму і кожнае слова бацькоў аб ім было самым шчырым.

Яшчэ цяжэй пераносіла гора жонка прафесара, як і кожная маці, бо жаночыя сэрцы ўспрымаюць куды цяжэй любое няшчасце з іх дзецьмі. Яна і так не магла пахваліцца сваім здароўем, бо гады тры адчувала сябе хваравітай пасля нараджэння другога дзіцяці — сястрычкі Томі, маленькай Мэймі. Пасля ж

гэтага няшчасця яна перанесла такое нервовае ўзрушэнне, што адразу злегла ў ложак, а дні праз два яе вымушаны былі завезці ў бальніцу.

А пачалося ўсё гэта ў суботу. У прызначаны час, а другой гадзіне дня, па Томі, як і звычайна кожнага дня, паслалі ў школу машыну. Неўзабаве машына вярнулася назад. На ёй прыехала разгубленая і ўстрывожаная дырэктрыса. Наколькі можна было зразумець яе бязладны ад хвалявання расказ, Томі быў адвезены дахаты яшчэ раніцай нейкай жанчынай, якая спецыяльна з'явілася ў школу і ад імя маці Томі папрасіла адпусціць хлопчыка, нібы маці вельмі хацела яго пабачыць ці то па прычыне сваёй хваробы, ці то яна збіралася паехаць куды на нейкі час. Якая то была жанчына, на якой яна машыне прыехала і ў якім кірунку паехала з хлапчуком, аб усім гэтым дырэктрыса не ведала, бо, як казала, не прыдала ўсяму асаблівага значэння, паколькі бывалі ўжо выпадкі, што па хлопчыка прыязджалі, па тых ці іншых сямейных прычынах, раней сканчэння заняткаў у школе.

Яе бязладны расказ не мог супакоіць сям'ю. Усе зразумелі, што хлопчык стаўся ахвярай самых небяспечных злачынцаў, якія выкралі яго.

Знаёмыя, блізкія раілі не хвалявацца асабліва, бо калі хлопчык і трапіў да злачынцаў, асаблівай небяспекі яму не будзе, бо такія выпадкі здараюцца ўжо не раз і заўсёды канчаюцца параўнальна шчасліва, калі не лічыць пэўных матэрыяльных затрат. Але што значаць тыя затраты ў параўнанні з жыццём любімага дзіцяці?

Прайшло некалькі пакутлівых дзён. І вось урэшце пад вечар у доміку прафесара праблiснуў першы прамень надзеі. Прафесар атрымаў пісьмо. Трэба было бачыць, з якім хваляваннем распячатваў яго гаспадар дома. Першае, што незвычайна ўразіла яго і ўзрадавала, была вестачка аб тым, што сын яго жывы і здаровы, што паважанаму прафесару не варта асабліва непакоіцца, усё абыдзецца да лепшага пры добрай узаемнай згодзе бакоў. Прафесар быў так узрадаваны, што нават не дачытаў канца пісьма, каб адразу падзяліцца сваёй радасцю з блізкімі і знаёмымі і ў першую чаргу наведаць хворую жонку ў бальніцы. І толькі позна вечарам, перажыўшы хвіліны бурнай радасці, ён урэшце дачытаў пісьмо да канца. І хаця мала было суцяшальнага ў другой частцы пісьма, але радасць за сына была такая вялікая, што ўсё іншае, астатняе, аб чым пісалася ў пісьме, здавалася неістотным і другарадным. І толькі раніцай другога дня, калі перачытаў ён запар некалькі разоў гэта пісьмо, яго радасць як бы

паблякла крыху, саступіла месца смутку, трывозе. Ён зразумеў, што жыццю яго сына пагражае вялікая небяспека. І хаця лёс сына нібыта і аддаваўся, паводле пісьма, у яго ўласныя, прафесара, рукі, аднак вырашыць усю гэтую справу да лепшага было надзвычай цяжка. Невядомыя людзі пісалі яму:

«Шаноўны прафесар!

Мы просім прабачэння за пэўныя непрыемнасці, якія прынеслі вам. Але мы зварочваемся да вас як дзелавыя людзі да дзелавога чалавека, якім некалі займацца такімі дробязямі, як узаемны абмен кампліментамі. Пачнём адразу са справы. Ваш сын Томі знаходзіцца ў нас у добрым стане, у добрым здароўі. Яму нішто благое не пагражае і пагражаць не будзе, калі мы з вамі дойдзем да добрай узаемнай згоды. Мы добра ведаем, што вы хочаце бачыць свайго сына як мага хутчэй. Гэта можна зрабіць. Як паважаючыя сябе джэнтльмены, верныя заўсёды свайму слову, мы дамовімся з вамі: праз дзесяць дзён вы ці ваш упаўнаважаны дастаўляеце ў месца, указанае ў дадатку да гэтага пісьма, дзвесце тысяч долараў. Падкрэсліваем, як джэнтльмены, мы не будзем таргавацца з-за дробязей. І так — дзвесце тысяч. Пасля двух дзён з часу атрымання грошай ваш сын будзе дастаўлены ў гарадок, таксама ўказаны ў дадатку, і дакладна ў вызначаны час будзе знаходзіцца ў гарадскім парку непадалёк ад паштовай канторы.

Паколькі вы, шаноўны прафесар, яшчэ не маеце вопыту ў гэтых справах, дык настойліва вам рэкамендуем: Божа вас барані зрабіць хаця б адзін крок у бок паліцыі. Адзін неасцярожны ваш крок — і вы навечна пазбавіце сябе ад шчасця зноў убачыць свайго любімага Томі жывым і здаровым. Спадзяёмся, што вы, як любячы бацька і разумны чалавек, прыслухаецеся да нашай прыязнай парады.

З шчырай да вас павагай».

І распісаліся. Два нечытэльныя подпісы.

Прафесар некалькі разоў перачытаў гэта пісьмо, машынальна пералічыў дні, якія засталіся да вызначанага тэрміну. Заставалася сем дзён. Нешта ж трэба рабіць, каб ратаваць сына. Аднак што ж рабіць? Дзвесце тысяч, і ні долара менш! Дзе іх узяць? Хто іх дасць?

Гэта лічба — дзвесце тысяч — так ашаламіла чалавека, што ён гадзіны дзве прасядзеў нерухома ў крэсле, ніяк не могучы давесці да ладу ўзрушаныя думкі, не знаходзячы выхаду з таго тупіка, куды кінула яго няшчасце. Да апошніх дзён усё было так добра, калі не лічыць зацяглую хваробу жонкі, гэтай ціхай

і любячай жанчыны, якая так клапацілася аб ім, аб яго здароўі, аб дабрабыце маленькіх дзяцей, за шчасце якіх яна, здавалася, гатова была ў любую хвіліну аддаць жыццё, калі б гэта спатрэбілася. Многім ён абавязаны ёй, яе клопатам, яе парадам. Яна забяспечыла яму такія добрыя ўмовы, якія спрыялі яго спакойным заняткам, яго рабоце, яго поспехам у навуцы. Ён паважаны і заслужаны прафесар, яго цэняць і шануюць у кіраўніцтве ўніверсітэта, на яго з надзеяй пазіраюць у навуковых колах, у яго ёсць свае ўласныя навуковыя працы, ён аўтар некалькіх кніг па генетыцы. Але ён не капіталіст, у яго няма асаблівых фінансаў, ён ніколі не задумваўся над тым, каб збіраць грошы для грошай, набываць каштоўныя паперы, мець блізкія дачыненні да біржы. Ён жа ведае некалькі прафесароў, якія цікавяцца не столькі навінамі навукі, колькі становішчам з акцыямі тых ці іншых кампаній. Сярод іх былі і ўдачнікі, якія сталі багатымі людзьмі. Яшчэ больш было няўдачнікаў. Але якая карысць для навукі, для грамадства ад усіх гэтых «вучоных» удачнікаў і няўдачнікаў?

Але пры чым жа тут ён? Пры чым тут дзвесце тысяч? І галоўнае, дзе шукаць выхад? Выхад быў толькі адзін: у гэтых праклятых доларах… Дзвесце тысяч… Толькі дзвесце тысяч, і ты зноў убачыш свайго слаўнага Томі, зноў абдымеш яго, прылашчыш, адчуеш, як роўна б’ецца яго маленькае сэрцайка, адчуеш цяплынь яго шорсткіх і такіх слаўных віхроў, а ў іскрыстай сіні яго вачэй убачыш і глыбокае неба, і бясконцы свет, увесь свет. Божа мой, Божа, што ж рабіць, што ж рабіць?

Раніцай ён наведаў жонку ў бальніцы. Ёй было значна лепш. Як жа, яна яшчэ ўчора даведалася ад яго самога, што яе маленькі Томі жывы, здаровы. А што трэба болей чалавеку, як шчасце яго дзяцей? Ён убачыў, што ёй можна гаварыць аб усім, нават аб гэтых праклятых тысячах. І сам здзівіўся, калі яна спакойна адказала яму:

— Трэба прыспяшыць усю справу. Яшчэ раз бачу, які непрактычны ты чалавек. Другі дзень праходзіць, а ты нічога не зрабіў. Адразу ж бярыся за справу.

— А дзвесце тысяч! Дзе я вазьму такія грошы?

— Дзівак! А мае пяцьдзясят тысяч?

— Гэта ж тваё прыданае, твае грошы. Я не маю права распараджацца імі. Ды і твой бацька-нябожчык сказаў, што гэтыя грошы толькі для дзяцей, толькі для дзяцей…

— Вось бачыш, для дзяцей… А чый жа сын Томі, чыё дзіця?

— Ну, добра… Але ж гэта толькі пяцьдзясят. А трэба дзвесце.

— Наш дом каштуе не менш сотні тысяч, аб гэтым казаў мне некалі дзядзька, які пакінуў мне яго ў спадчыну.

— Зноў жа гэта твой дом, а не мой…

— Пакінь… Трэба, урэшце, быць разумным чалавекам не толькі ў шчасці, але і ў няшчасці. Цяпер гэты дом каштуе яшчэ даражэй, як некалі… А рэшту сабяром: ты здаў кнігу, папрасі ганарар, прадай машыну, раяль, прадавай усё, без чаго можна жыць. Урэшце, пазыч у таварышаў… Знойдуцца ж і сярод іх людзі, якія не пакінуць чалавека ў бядзе… Усё зрабі, каб мы зноў сустрэлі нашага хлопчыка, нашага Томі…

І тут не вытрымала яна, расплакалася. Але хутка спахапілася:

— Ну, ідзі, не стой, тут са мной не здарыцца нічога благога. Не марудзь толькі.

І ён пайшоў. Добра, калі ў цябе і ў няшчасці знаходзіцца добры дарадчык!

Некалькі дзён былі запоўнены бурнай дзейнасцю. Аб няшчасці чалавека ўжо ведалі ўсе бліжэйшыя таварышы, саслужыўцы, сёй-той з рэктарата. Усе дапамагалі яму, чым маглі. Аб справе даведаліся нават у паліцыі. Адтуль з’явіўся капітан і, далікатна паспачуваўшы, прапанаваў свае паслугі.

— О, толькі без гэтага. Толькі без гэтага… Шчырае дзякуй вам за ўвагу, але Богам прашу вас: не чапайце гэтую справу! Богам прашу! — ледзь не ў адчаі ўсклікнуў прафесар.

Прадстаўніку парадку засталося толькі сказаць:

— О, я разумею вас, паважаны прафесар! І ў гэтым выпадку вы робіце зусім правільна: гэтыя людзі пазбаўлены якой бы там ні было маралі, і… яны бываюць бязлітасныя. Дай вам Божа ўдачы і шчасця!

І ён выйшаў, палічыўшы, што сумленна выканаў свой высокі абавязак.

Праз некалькі дзён у прафесара не стала ні дома, ні машыны, ні раяля, ні многіх самых патрэбных рэчаў, як пішучая машынка, тэлевізар, цудоўнейшы мікраскоп, які некалі падарылі яму ў дзень нараджэння. Адзін з прыяцеляў прапанаваў яму часова змясціцца з сям’ёй у сваім доме. І прафесар хутка перавёз туды невялікую маёмасць, якая складалася галоўным чынам з кніг. А на яго былой сялібе ўжо распараджаліся агенты па куплі і продажы гатовых дамоў і зямельных участкаў. Прайшлі якраз дні вызначанага тэрміну, з надзейным чалавекам былі адасланы грошы, дастаўлена нават распіска ў іх атрыманні, і з часу на час чалавек чакаў звароту свайго маленькага сына. Але гэтае чаканне чамусьці зацягнулася.

* * *

У той вечар на пакінутай ферме адбылася вясёлая гулянка. Людзі віншавалі адзін аднаго з вялікай удачай. Іх было трое: Морыс, яго нязменная памочніца і кампаньёнка Роза і трэці, пра якога Томі, каб не спаў, мог бы сказаць, што гэта той дзядзька, які некалькі разоў прыязджаў верхі на ферму і аб нечым раіўся з сярдзітым дзядзькам Морысам, з якім Томі так і не ўдавалася наладзіць прыязных адносін. Дзядзька заўсёды хадзіў пануры і чамусьці злосны. Гэта ж трэба так: цётка Роза і не ведае, як лепш дагадзіць Томі, песціць яго, лашчыць, а гэты дзядзька, відаць, муж цёткі Розы, заўсёды пакрыквае на яго, а то і злосна адганяе прэч. Ну і муж у цёткі Розы! Томі нават збіраўся аднаго разу запытацца ў цёткі Розы аб прычынах такіх паводзін дзядзькі, але ўспомніў, як маці казала аднаго разу татку:

— У чужыя сямейныя справы не варта ўмешвацца: не абярэшся потым непрыемнасцей…

Дзядзька Морыс — муж, цётка Роза — жонка, і хаця ў іх і няма дзяцей, але ж гэта, відаць, сям’я, дык чаго ж яму ўмешвацца ў іх сямейныя справы?

Цяпер, калі Томі, удосталь набегаўшыся за дзень на ферме, ганяючыся за трусамі і кормячы фарэлей у ручаіне, соладка спаў у далёкім кутку фермы, часовыя жыхары дома спраўлялі баль. Баль не баль, а вясёлую пагулянку. Выпівалі на кухні. І хаця ў кампаніі было ўсяго тры чалавекі — два мужчыны і адна жанчына — весялосці было хоць адбаўляй, не сумавалі. Магчыма, прычынай таму быў звычайны чамаданчык, даволі сціплага памеру, туга напакаваны асігнацыямі. Іх акуратна пералічылі. Усё аказалася ў парадку, роўна дзвесце тысяч, як і было ўмоўлена. Чамаданчык быў дастаўлены тым чалавекам, які неаднойчы прыязджаў верхі на ферму. Ён і сядзеў цяпер тут.

Разваліўшыся ў крэсле, Морыс ленавата спытаўся ў яго:

— Не ўмольвалі часам збавіць?

— Якія там мольбы? Ды і не было часу ў мяне на якія-небудзь там гутаркі. Пералічыў грошы і — айда, ахвота мне залішне галавой рызыкаваць…

— Ну-ну, знайшоў мне рызыку — грошы даставіць ці дзіця назад адвезці… Такую рызыку дай Божа кожнаму… Любы дурань узяўся б за такую паслугу.

— Няхай дурні і падстаўляюць свае галовы, а я рабіць дарма не збіраюся…

— Ты да чаго гэта хіліш, прыяцель?

— А да таго, аб чым я ўжо раз гаварыў. Я павінен атрымаць трэцюю частку чамадана.

— І ты даўно дадумаўся да гэтага сваімі бычынымі мазгамі?

— Гэта не так ужо важна. Я атрымоўваю трэцюю частку, і… мы квіты…

— Ты забываешся, ішакова падкова, з кім маеш справу. Я — галава кампаніі і плачу вам, табе і ёй, столькі, колькі я захачу. Зразумеў?

— Ты можаш ёй і зусім не плаціць, гэта ваша абаюдная справа. А мне выкладвай трэцюю частку.

— Калі ты наогул будзеш размаўляць са мной такім тонам, барановая галава, то не атрымаеш ніводнага нікеля. Можа, захочаш каму паскардзіцца? Калі ласка!

— Мне скаргі не патрэбны. Калі б я хацеў, я мог бы прыхапіць з сабой і ўвесь гэты чамадан. І дурань я, сапраўды, што гэтага не зрабіў…

— Я з-пад зямлі дастаў бы цябе тады, няшчасны, каб заплаціць табе поўнасцю на ўсе сто працэнтаў. Клянуся ў гэтым банкам майго бацькі!

— Чужымі банкамі ты гатовы і паклясціся…

— Не чужым, а бацькавым, стары ішак!

— Табе засталося толькі аблізвацца на яго…

Слова за слова — сварка разгарэлася, як лясны пажар. Праціўнікі ўжо сашчапіліся загрудкі, ужо адзін, хапаючыся за пісталет, паляцеў потырч праз крэсла. І тут умяшалася Роза, якая, нібы прыглушаная парай-другой стопак віскі, спачатку безуважна прыслухоўвалася да спрэчкі мужчын. Можа, ад віскі, можа, ад вялікай удачы моцна кружылася галава, і рэзкія выкрыкі мужчын балюча краналі яе слых. Аб чым яны спрачаліся, яе дужа не цікавіла. Яна думала аб нечым сваім, таму і сядзела некаторы час маўклівая, абыякавая да ўсяго, што рабілася за сталом.

Але калі затрашчала крэсла і мужчыны ўзяліся за пісталеты, яна адразу падхапілася, стала між імі.

— Цішэй вы, чаго ўсхадзіліся? Мала вам усё? Эх ты, банкір, і ты, аблезлая конская грыва! Ану за стол!

Яна штурхнула аднаго, дапамагла ўзняцца з падлогі другому, сунула ім па стопцы джыну, наліла сабе.

— Вось вып’ем лепш, пеўні-задзіры! — і з такім імпэтам кульнула стопку ў рот, што мужчыны машынальна асушылі свае стопкі. І, ужо выпіўшы, яна крыкнула:— Гэта за нашы няўдачы!

— Што ты вярзеш, старая распусніца! — адразу наяршыўся Морыс.

— Праўду кажу, толькі праўду… За няўдачы! Хіба не суцэльная няўдача наша жыццё? Хіба не цябе прагналі з сям'і, п'яніцу, валацугу? А ён? А я, а маё жыццё? Божа мой, Божа!

— Ты мяне не чапай! — агрызнуўся Морыс.

— Ладна ўжо, банкір… вып'ем за мір! — І, асушыўшы адным махам чарговую стопку, яна схапіла са сцяны абшарпаную гітару, з якой не разлучалася ніколі. — Слаўны мой, любімы мой, — зацягнула яна сіпаватым, прапітым голасам, — не лаві ты мне каня залатога. Ты вярні, забрытай…

— Што табе забрытаць? — рагатаў Морыс, падміргваючы свайму суседу па сталу.

— Гады маладыя… Гады маладыя…

Ёй пачалі падпяваць. Спявалі каўбойскія песні, сумныя і вясёлыя. Пілі. Зноў спявалі. Злёгку бразчэлі патрэсканыя шыбы акон, звонку пазабіваных дошкамі, ды спуджана хісталася з боку ў бок, дрыжала павуцінне на прапыленай «лятучай мышы», сіратліва мігацеўшай ледзь прыкметным агеньчыкам.

І раптам Роза змоўкла, расплакалася.

— Эй ты, чаго нюні распусціла? — гаркнуў Морыс, гулліва ўзяўшы яе пад локаць.

— Адчапіся… Мне шкада разлучацца з хлопчыкам, — праз слёзы вымавіла яна, і яе вострыя плечы захадзілі ў стрыманым плачы.

— Годзе ўжо, разраўлася, як старая каровішча. Хлопчыка, бачыш, шкада ёй. Табе другія хлопчыкі патрэбны!

— Кінь. Апрыкрала слухаць. Толькі і ведаеш гаварыць брыдоты… Нічога ты не разумееш. Я так прывыкла да яго за гэтыя дні, што сапраўды шкада развітвацца з ім. Ён так нагадвае, так нагадвае…

— Катаргу табе нагадвае, няйначай, жаласніца гэтакая!

— Пра катаргу ты не кажы… Вось зноў ён вернецца да сям'і, да сваіх родных і блізкіх, а што застанецца ў нас: у цябе, у мяне? Божа мой, як жа сумна, як пуста на свеце…

— Будзе сапраўды кепска, калі ён вернецца назад. І табе не будзе сумна, на катарзе не засумуеш!

— Нешта не разумею я, пра што ты гаворыш… — яна выцерла ўспацелы лоб, мокрыя ад п'яных слёз вочы. — Як гэта не вернецца? Мы ж атрымалі грошы, дзіця павінна як хутчэй вярнуцца дахаты…

— Відаць, у цябе зусім размяклі мазгі ад джыну. Ды зразумей ты сваёй пустой галавой, што яму нельга вярнуцца. Гэта не двухгадовае, не трохгадовае дзіця, якое нічога не памятае і

праз дзень усё забудзе. У яго лепшая памяць, як у нас усіх тут разам. Ён цётку Розу пазнае за мілю, ён раскажа пра дзядзьку Морыса лепш, чым самы спрытны сышчык, ён гэтага прыяцеля, — падміргнуў ён у бок суседа, — так распіша, што яго схопяць у першым жа гарадку. Ён багата ведае і разумее, твой ненаглядны хлопчык. А таму ён і не павінен вярнуцца, каб мілая цётка Роза зноў не ашчаслівіла катаргу сваёй уласнай персонай. А ты, ты… раскісла, расплылася, як…

— Пастой, пастой… як гэта не вярнуцца?

— А так: быў Томі — і не стане Томі. І ніякага, любая мая, следу, і мы з табой вольныя людзі, гуляй — ды толькі…

— Пастой, пастой! Ты што гэта, дзіця каб забіць? Так я разумею твае паганыя словы?

— Ах, Божа мой! Далося ёй гэта дзіця… Дзіця, дзіця… Падумаеш… Адным паршыўцам стане меней на свеце…

— Дык табе мала яшчэ? Ты ў забойцы падаешся, ты дзіцячай крыві захацеў, валацуга? Дык я ж цябе сама заб’ю, душагуба, і мне людзі дзякуй скажуць!

Цяжкая бутэлька з-пад джыну прасвірчэла ў паветры. Морыс ухіліўся ўбок, і яна бразнулася аб сцяну, са звонам разляцеўшыся на кавалкі.

А жанчына ўстала з-за стала і, расставіўшы рукі са сцятымі кулакамі, ішла на яго, лютая, раз’юшаная. Ён стаў адсоўвацца назад, выхапіўшы з-пад сябе крэсла і баронячыся ім.

— Ты што, звар’яцела, няйначай? Сядзь, сядзь, кажу, супакойся! Хіба нельга пажартаваць? Нельга ж так разумець кожнае слова…

Яна прасунулася яшчэ крокі са два, апусціла рукі і села, ледзь пераводзячы дых, на падстаўлены прыяцелем Морыса стул. Вочы яе блукалі па пакоі, перасохлыя вусны шапталі:

— Я табе пажартую… Ты мяне жартамі не пужай…

Потым падалася бліжэй да стала, асушыла адну стопку, другую і, хістаючыся, падалася з кухні.

— Ну і добра, — правёў яе позіркам Морыс, — няхай ідзе, праспіцца, праветрыць мазгі…

— Аднак я і не ведаў, што яна такая гарачая… — ціха прамовіў прыяцель.

— Ну, гарачая… Находзіць на яе часам, тады трэба ведаць, як абыходзіцца з ёй. А самае лепшае — не чапаць яе ў той час. Істэрычка…

Прыяцелі памаўчалі з хвіліну і зноў узяліся за перапыненую гутарку, за поўныя бутэлькі. Бяседа зацягнулася за поўнач.

* * *

Роза ляжала ў ложку ў пакоіку, дзе спаў Томі. Ляжала з адкрытымі вачыма, усё не магла заснуць. У галаве страшэнна шумела. Часам яна забывала, дзе яна і што з ёй. Потым вярталася свядомасць, і думкі яе снавалі вакол апошняй сваркі з Морысам. Такі ж нягоднік! Мала таго, што ён яе абдурвае, заўсёды абдзяляе, недадае належнай ёй па праву часткі, дык вось яшчэ што надумаў! Па праву… А па якому такому праву? Цьмянае гэта, сумнае права…

Думкі снуюць, карагодзяць. І не разбярэш, ці гэта сон, ці трызненне. Што толькі не прыходзіць на ўспамін з блізкага і з далёкага. Ды і далёкае часам вось становіцца надзвычай блізкім, паўстае перад табой у такім ясным святле, з такімі драбніцамі, нібы гэта сённяшні дзень, сённяшняе перажытае. Вось яна маленькая-маленькая дзяўчынка, захутаная ў нейкія лахманы. А побач брацікі, сёстры, сястрычкі. Іх багата, аж дзесяць чалавек. Сядзяць, прыхінуўшыся адно да аднаго, каб было зацішней, цяплей. Папырхвае стары «фордзік». Плюскоча, плюхае вада пад калёсамі на гразкай восеньскай ці вясенняй дарозе. Дзіравы прамоклы брызент надзімаецца ад зябкага ветру і цяжка б’е па бартах, па кабіне, у якой сядзяць бацька, маці з самым меншым на руках. Побач пазвязваныя вузлы, пазелянелы самавар, каструлі, пара змятых вёдзер, кульгавы стол, некалькі табурэтак, нейкая дзежка. Усё гэта так напакавана, што недзе павярнуцца, выпрастаць ногі і рукі. А «фордзік» ідзе бясконцай дарогай насустрач ускудлачаным хмурынкам, якія нізка-нізка сцелюцца над самай зямлёй, чапляюцца за вяршыні дрэў, што аж пачарнелі ад вільгаці, ад стыні.

У хаце, звычайнай хаце, яны бадай што ніколі і не жылі. Запомніліся толькі баракі, хлявы, стайні, дзе даводзілася мець часовы прытулак. А то больш усё на старым «фордзе», пад вечна мокрым брызентам, які даўно страціў калянасць і парабіўся на дзіры. А дзе і цэлы, дык такое рэдзіва, што праз яго відаць ноччу месік і зоры. І так доўгія гады. Усё дарогі, дарогі, ад самай Канады да Мексікі, ад Мексікі да Канады. Калі часам і мяняліся маршруты, дык ушыркі, праз усю краіну, ад аднаго акіяна да другога. Бацька быў рабочы, працаваў па найму на фермах, на сезонных работах, штогод вандраваў з сям’ёй па ўсёй краіне.

Калі ёй пайшоў шаснаццаты год, бацьку пашанцавала ўладзіць яе на сталую працу на адну багатую ферму. Яна пражыла там аж цэлы год. Ёй удалося нават навучыцца крыху

чытаць і пісаць — дапамаглі другія рабочыя, ды бацька яшчэ неяк раней вучыў яе па азбуцы, але ў яго ўсё не хапала часу, каб даць ёй большую навуку. Можа, яна пражыла б там болей, каб не здарылася гэта… У гаспадара фермы былі сыны. Адзін з іх вучыўся ў горадзе і на лета прыязджаў на канікулы. Прыгожы быў хлопец. Яна крыху баялася яго, але ён вельмі падабаўся ёй. Праўда, усе пасмейваліся з яе, жартавалі, называлі яе часам нявестай. Ну якая яна нявеста гэтаму багатаму і такому адукаванаму чалавеку! Казалі, што ён вучыцца на адваката. Ён шукаў любога повада, каб як сустрэцца з ёй. Яна кахала яго, хаця нікому і не гаварыла аб гэтым, нават баялася слова сказаць чужым людзям аб сваім пачуцці. А ён… Чаго-чаго не гаварыў ён, чаго толькі не абяцаў… Ён зноў паехаў у горад на зіму і чамусьці не прыехаў вясной, можа, яму было сорамна перад бацькамі. Хто ж яго ведае… Людзі казалі, што ён сапраўды стаў адвакатам.

А з яе смяяліся, жартавалі, а то і проста здзекаваліся. Людзям падабаецца пасмяяцца з чужой бяды, з чужога няшчасця. Але ж якое тое няшчасце, калі ў яе нарадзіўся сынок, якога яна так любіла і назвала Томам у памяць нябожчыка дзеда. Няшчасце ж было зусім не ў гэтым. А было яно ў тым, што яе прагналі з працы. На колькі месяцаў яе прытуліла сям'я аднаго беднага фермера, але ў хуткім часе ён сам вымушаны быў падацца з сям'ёй у горад, шукаючы заработкаў, бо ферму ў яго ўзялі за даўгі. Ну і хапіла ж яна гора з малым дзіцем на руках. І цёмнай восеньскай ноччу, баючыся, каб не загінуў Томі на яе руках галоднай смерцю, яна падкінула яго на ганак аднаго прытулку для бяздомных дзяцей. Паплакала пад дажджом, покуль у цемры ночы не дачулася, што яе сына ўзялі з ганка і занеслі ў дом. З таго часу яна і не ведала пра яго, не бачыла ніколі і не чула. А як падобны ён быў на гэтага слаўнага хлапчука Томі. Ну, проста здаецца, што гэта яе колішні сынок. Але ж усё было так даўно, так даўно, няйначай, як год дваццаць, а мо і болей таму назад…

Пасля таго яна пазнала добрага смаку ў жыцці. Усяго было. Служыла ў харчэўнях, у танных рэстаранах, у гасцініцах, у дробных майстэрнях. Здаралася, страціўшы больш-менш сталую працу, апускацца проста да вуліцы. Аднаго разу чуллівая дама ўладзіла яе на працу ў бальніцу. Адтуль трапіла нянькай у радзільны дом. І вось тут яна ўпершыню сустрэлася з гэтым Морысам.

Яна заўсёды адчувала пачуццё вялікай крыўды за ўсё сваё былое жыццё, хацелася нават помсціць людзям за свае няўдачы. Ну, вядома, помсціць ім, шчаслівым, багатым. Ведаючы яе

настрой, Морыс падказаў ёй, як зручней помсціць. Так помсціць, каб і самой не заставацца ў крыўдзе. З Морысам, пры яе актыўнай дапамозе, яны ўкралі трох дзяцей з радзільнага дома. Багата зарабілі на выкупах. На чацвёртым засыпаліся. Ёй далі тады меншую кару, чым Морысу. Але хапіла і з яе. Гады катаргі шмат чаму яе навучылі, яна яшчэ больш узненавідзела людзей, асабліва тых, якія ўсё вучылі яе пакорлівасці, цярплівасці, сціпласці, а самі бралі ад жыцця ўсё, што ім хацелася, і не лічыліся ні з якімі законамі, божымі і чалавечымі. Дзяцей яна любіла. Ніводнае дзіця з тых, якія траплялі ў яе рукі, не загінула. Пасля катаргі яна кінула небяспечную справу, не грэбавала любой працай. Калі і трапляла часам у турму, дык за самыя дробныя справы — за крадзеж, за ашуканства, за тое, што яе западозрылі ў прастытуцыі… Чалавеку ж неяк жыць трэба, нават тады, калі не даюць яму працы…

І вось зноў з’явіўся Морыс. Ён не любіў, як ён казаў, размяньвацца на дробязі. Ён і падбіў яе на гэтую справу, на апошнюю, як казаў ён, бо ў выпадку ўдачы абяцаў ёй набыць пральню на поўным ходу, каб яна спакойна дажывала свой век, маючы ў руках выгоднае прадпрыемства з добрым капіталам. А чаму пральню? Калі была на катарзе, дык ёй даводзілася доўга працаваць прачкай. Цяпер удача. Можна, урэшце, і кінуць небяспечныя практыкаванні і вечнае бадзянне з горада ў горад. Дык нашто ж такія недарэчныя жарты гэтага Морыса-валацугі? Некалі ж быў смелы, адчайны… А цяпер, няйначай, зрабіўся баязліўцам. Для чаго ж такія дурныя гутаркі, ці, як назваў іх потым Морыс, — жарты? Добрыя жарты! Не, ты паспрабуй толькі пакрыўдзіць хлапчука, не то што…

Роза спала, прачыналася, зноў трапляла ў абдымкі сну. І не разбярэш, дзе сон, дзе звычайныя думкі, успаміны. Усё змяшалася ў мітуслівы карагод бачанага, перажытага, думанага-перадуманага. Неразвеяны хмель, які сціскаў галаву нібы жалезнымі абцугамі, надаваў гэтым снам, трызненню пэўную хваравітасць. Цвярозыя думкі перамешваліся з абрыўкамі ўспамінаў, сапраўднае, перажытае чаргавалася з нейкімі зданямі, страшэннымі пачварамі. Сон быў цяжкі, трывожны, і, прахапіўшыся ад жахлівых прывідаў, яна засынала зноў з цьмянай думкай: «Божа мой, не варта ж так многа піць…»

* * *

Раніца выдалася сонечная, яркая. Запусцелы сад гарэў пад сонцам усімі фарбамі. Кляны стаялі ўсе ў золаце, барвовыя, і лёгкі вятрыска ледзь-ледзь варушыў лістамі. А навакол, як кінуць вокам, узгоркі, лясы, далёкія схілы гор былі ахінуты ружовым туманам, і толькі паасобныя дрэвы ды вяршыні некаторых узгоркаў узвышаліся з туману, як караблі на моры. Нясцерпна паблісквалі на сонцы снегавыя вяршыні гор, якія высока-высока ўзняліся, аж пад самы блакіт неба, на якім ні воблачка, ні хмурынкі.

Томі ўжо ўдосталь набегаўся на дварышчы фермы, знайшоў стары чаравік і цяпер запускаў яго ў затоку ручаіны, прыстроіўшы з кукурузнага сцябла цэлую мачту. Але карабель хутка затануў, і Томі заняўся фарэлямі, цікуючы за іх вясёлай мітуснёй.

— Трэба пакарміць іх! — І Томі пабег на кухню, каб захапіць там якую скарынку хлеба ці што іншае з ежы для сваіх падапечных.

Ля кухні ён сустрэў дзядзьку Морыса і яго таварыша. Яны некуды збіраліся, бо ў руках у аднаго з іх была рыдлёўка. Томі пажадаў ім добрай раніцы.

— Здароў, здароў, прыяцель! — адказаў дзядзька Морыс. І нават спытаўся: — А ты трусоў ганяў сягоння?

— Я іх загнаў аж за сад!

— А стракатых трусоў ты бачыў?

— Стракатых? Такіх тут зусім не відаць!

— А мы вось бачылі. Цікавыя звярушкі. Хочаш пабачыць?

— Хачу, дзядзька.

— Ну, тады пойдзем. Яны толькі што пабеглі вунь туды, у самы гушчар.

І яны ўсе ўтрох пайшлі ў дальні куток саду, дзе ў брыльянцістых росах зіхацелі пад сонцам густыя параснікі здзічэлай чарэшні.

* * *

Роза заспалася і прачнулася тады, калі на дварэ ўжо было зусім светла. Гэта відаць было па шырокай паласе святла, якое пранікала праз шчыліну аканіцы. У светлай паласе іскрыліся залацінкі пылінак, якія то пагойдваліся ўверх і ўніз, то завісалі ў паветры і цьмяна паблісквалі, нібы струменячы нябачную цеплыню, якая надавала ўтульнасць гэтаму паўзмроку ў пакоі.

Жанчына прыслухоўвалася да сябе, да цішыні, якая панавала ў доме, да ціхага шолаху кляновых лістоў пад самым акном.

«Як добра тут, як спакойна… — лена падумала яна. — Але ж трэба ўставаць, так жа зусім разлянуешся, ды і сонца, відаць, даўно паднялося…»

Калі яна ступіла ўжо босымі нагамі на падлогу, недзе поблізу раздаўся стрэл і гучным рэхам аддаўся некалькі разоў за акном. Прафесіянальнае пачуццё страху і перасцярогі прымусіла яе хутка ўзняцца.

«Можа, паліцыя!»

Сустракацца з ёй так хутка не ўваходзіла ў планы жанчыны.

Сяк-так накінуўшы адзенне, яна абегла ўвесь дом, ціха паклікала некалькі разоў Томі, мужчын. Але ў доме нікога не было. Яна выбегла на двор, прыжмурылася ад яркага святла, якое балюча ўдарыла ёй у вочы. Асцярожна азірнулася па баках, прыхаваўшыся за дрэвам, — таксама нікога. Прабралася між кустоў за агароджу фермы — і там пуста, нічога падазронага.

«Відаць, прыхаваліся ў садзе, там жа можна так зашыцца ў гушчарнік, што цэлы полк паліцыі ніколі не выкрые цябе і любы сышчык застанецца з носам».

Прадзіраючыся праз кусты, яна падалася да саду. Спынялася, прыслухоўвалася, ці не пачуецца дзе людскі голас ці які падазроны шолах, які выдаў бы ёй наяўнасць ворагаў.

Але ўсё было ціха і спакойна, толькі серабрысты голас ручаіны, які не змаўкаў ні на хвіліну, быў сягоння яшчэ званчэйшы, чым заўсёды, — няйначай выпалі ў гарах дажджы, прыбавілі вады ў ручай. Уважліва ўслухоўваючыся ў наваколле, яна ўрэшце адрозніла і другія гукі, якія не мелі ніякага дачынення да ручаіны. Непадалёк чыркануў каменьчык, няйначай як аб жалеза, і тут жа пачуўся характэрны шоргат лапаты. Пры чым жа тут паліцыя? Дзіва што, калі апячэшся на малацэ, дык станеш дзьмуць на ваду. Гэта ж няйначай яе пястун Томі капаецца там з пяском у чарэшніку. І яна паклікала, ужо не тоячыся:

— Томі, што ты там парабляеш?

Але ніхто не адказаў ёй, знік і шоргат лапаты. Навакол было ціха-ціха. Яна асцярожна пасунулася ў гушчар, рассунула галлё, імкліва падалася наперад. Тое, што ўбачыла яна, так ашаламіла яе, што яна стаяла якую хвіліну моўчкі, як здранцвелая. На дне невялічкай ямы ляжаў Томі, нязручна распасцёршы рукі на жоўтым пяску. Ён ляжаў ніцма і быў паўзасыпаны пяском, толькі чарнела крысо яго курткі ды гарэлі пад сонцам пасмачкі валасоў. І на іх кроў…

— Людзі, ратуйце, ратуйце! — нема закрычала жанчына і шалёна кінулася да іх, да гэтых пачвар, з якіх адзін спакойна сядзеў на свежым пясчаным узгорку і курыў цыгарэту, а другі стаяў з лапатай.

— О ты, д'ябальшчына! — прыўзняўся той, што сядзеў. Гэта быў Морыс. — Недаставала тут яшчэ яе. Прэч адсюль! — злосна крыкнуў ён насустрач і, бачачы, што яна не спыняецца, прагаварыў ужо больш лагодна: — Ну, што табе трэба? Супакойся ты, ідзі адсюль ды рыхтуй снеданне, дурніца ты гэтакая…

— Людзі, вазьміце іх, забойц, душагубаў! Людзі! Людзі! — дзіка крычала яна, і гучныя пагалосы каціліся па наваколлі, будзячы ранішнія прасторы, парушаючы затоеную цішыню пакінутай фермы.

Пісталетны стрэл абарваў яе голас, рэхам пракаціўся — і раз і другі — па ўзгорыстым наваколлі. І адразу глухая цішыня лягла над бязмежным полем і задумёнымі восеньскімі ўзгоркамі, такімі блізкімі ў ранішнім паветры гарамі.

Толькі шоргала паспешліва лапата, засыпаючы пяском маленькага хлапчука і яе, у сэрцы якой не заглохлі да канца мары аб маленькім чалавечым шчасці. Закапаную ямку старанна зраўнавалі, улажылі дзёрнам. Пастаялі, пакурылі і, не спяшаючыся асабліва, рушылі ў бок доміка з забітымі дошкамі вокнамі.

Уночы, калі густыя змрокі шчыльна ахінулі наваколле, з двара пакінутай фермы асцярожна выбралася машына. Без святла, без асаблівага грукату яна пaціху падалася па малаезджанай камяністай дарозе.

Над пакінутай фермай глуха пераклікаліся совы, ды нястомны ручай усё вёў і ніяк не мог закончыць сваю вечную песню.

* * *

Сям'я прафесара Леснера дзень за днём чакала свайго маленькага сына. І чым больш праходзіла гэтых дзён, тым няўмольней перад ёй паўставала тая жахлівая думка, якую кожны з сям'і старанна ўтойваў ад другога, думка аб тым, што так прызвычаеная і так саграваючая іх дзіцячая ўсмешка Томі згасла для іх назаўсёды. З гэтым цяжка было прымірыцца, але суровая рэчаіснасць падказвала ім, што гэта так.

* * *

Бяльмастаму і яго прыяцелю яўна не пашанцавала. Іх затрымалі за п’яны дэбош у адным невялічкім гарадку, дзе яны наважыліся крыху адпачыць і як след павесяліцца пасля перажытых трывог і хваляванняў. Знойдзеныя пры затрыманні грошы адразу навялі паліцыю на след злачынства, і абодва прыяцелі апынуліся за кратамі.

Лейтэнанта паліцыі, які затрымаў іх спачатку як звычайных парушальнікаў прыстойнасці і грамадскага парадку, распісалі ва ўсіх газетах як нацыянальнага героя. Яго партрэт амаль што цэлы тыдзень не сыходзіў са старонак газет. Як жа, ён першы выкрыў, хаця і выпадкова, такіх небяспечных злачынцаў.

Потым з’явіліся скупыя паведамленні, што з грошай, атрыманых злачынцамі ад пацярпеўшых бацькоў, знойдзена толькі палавіна. Газеты на ўсе лады рашалі загадку: куды падзелася рэшта — сто тысяч долараў, тым больш, што злачынцы заявілі, што з атрыманых імі грошай яны не паспелі патраціць нават якіх-небудзь няшчасных дзвюх тысяч… Следчыя ўлады задалі пытанне аб гэтых ста тысячах і лейтэнанту паліцыі, на што ён рэзонна адказаў, што з такімі пытаннямі варта зварочвацца не да яго, а да злачынцаў, бо не ён, а яны распараджаліся да арышту гэтымі грашыма. Яшчэ ён заявіў, што падобныя пытанні проста абражаюць яго, бо, як вядома ім, следчым уладам, пасля затрымкі злачынцаў усе знойдзеныя ў іх грошы былі перададзены паліцыі — аж цэлых сто тысяч долараў. На гэта ж ёсць пэўныя акты і належныя пратаколы. Чаго ж, урэшце, хочуць ад яго?

Загадка заставалася загадкай.

Потым у газетах з’явілася кароткае паведамленне, што важная і адказная дзяржаўная камісія загадала лейтэнанту асабіста з’явіцца ў камісію, каб даць тлумачэнні па некаторых грашовых справах. А яшчэ праз колькі дзён чытачы газет даведаліся з рэпарцёрскай заметкі, што лейтэнант, не палічыўшы патрэбным залішне турбаваць сваёй асобай якія б там ні было камісіі, бясследна знік разам са сваёй сям’ёй і ўсімі набыткамі. Разам з ім бясследна знікла з паліцыі і машына, якую ён у свой час забраў у злачынцаў.

Праз колькі месяцаў бяльмастаму давялося непасрэдна пазнаёміцца з электрычным стулам, а яго прыяцеля на доўгія гады прытуліла катарга. Сям’і прафесара вярнулі палавіну патрачаных ёю грошай. Так, па крайняй меры, паведамлялі газеты. Не забыліся яны і на другіх удзельнікаў гэтай гісторыі. Паводле

газетных чутак, энергічны лейтэнант адкрыў за мяжой невялікі атэль з рэстаранам, і па ўсяму відаць было, што ён не скардзіцца на свой лёс і не вельмі сумуе па ранейшай прафесіі і па сваіх слаўных начальніках і саслужыўцах.

Так закончылася ўся гэта гісторыя, і на яе хутка забыліся, як на звычайную гісторыю ў краіне.

*1960*

## ПАДАРУНАК МАТЦЫ

Да Каляд заставалася месяцы са два. Як і ў кожнай амерыканскай сям'і, рыхтаваліся да свята і ў сям'і Элаізы Ройшад. Свята Каляд, ці, як называюць яго ў Амерыцы, Кісмас, — гэта час, калі ўсе пасылаюць адзін аднаму пісьмы з найлепшымі пажаданнямі і падносяць узаемныя падарункі. Падарункі, вядома, могуць быць розныя. Гэта ўжо ў залежнасці ад матэрыяльных магчымасцей таго, хто дарыць. Улічваюцца, зразумела, і патрэбнасці, і тыя ці іншыя густы асобы, якой падносіцца падарунак.

Элаіза Ройшад марыла падарыць свайму жанатаму сыну добры світар і, зразумела, нязменную ў такіх выпадках святочную пляшку віскі. Нявестцы яна думала купіць модную брошку, а дзвюм малым унучкам — па сукенцы і каробцы цукерак. На большае маці не магла разлічваць, бо яна служыла ў адным з універсальных магазінаў і зарабляла не так ужо багата.

Сын Сузан таксама думаў пра падарунак маці. Але пра свае планы ён не гаварыў нікому і нават не дзяліўся імі са сваёй жонкай, калі тая спрабавала закінуць слова-другое пра недалёкі Кісмас. Ва ўсякім разе яна не забывалася сказаць яму, каб ён дужа не раскашэльваўся на такія справы, бо маці як-ніяк і сама зарабляе, ды к таму ж зарабляе крыху больш, чымся сам ён, які займаў невялічкую тэхнічную пасаду на кансерваваым заводзе. Сузан надзімаўся ў такіх выпадках і даволі няветліва адказваў:

— Гэта не твая справа. Ты думай лепш пра падарунак сваёй маці…

— Я ўжо думала, але нічога не магу добрага прыдумаць, бо што я трапнага куплю за тыя капейкі, якія даеш ты мне на гэтую справу?

— Хопіць. Мы не ракфелеры, каб раскідацца грашыма на розныя глупствы. Гэта раз. А па-другое, не твой клопат пра маю маці. Што падару ёй — мая справа.

— А ўсё ж…

— Вось і «ўсё ж». А падарунак я зраблю добры. Гэта будзе вялікі сюрпрыз. На тое яна і мая маці, каб я як след шанаваў яе… Кажу, гэта будзе выдатны сюрпрыз…

Жонка нездаволена чмыхнула носам.

— Вунь дзеці чаравікі пазнасілі, трэба купляць новыя. Вугалю засталося лапаты на тры, а хутка халады…

— Вугалю маці купіць. Яна — гаспадыня кватэры…

— Вядома, гаспадыня… Толькі я каторы год хаджу, як апошняя наймічка… Божа мой, Божа, пашанцавала мне выйсці замуж у такую сям'ю… Не дай Бог нікому…

— Ну-ну…

— Што «ну-ну»? Ты нідзе не затрымліваўся на працы больш года, адусюль праганялі…

— Ніхто мяне не праганяў, я сам звальняюся, бо шукаю лепшага месца…

— Ён шукае лепшага месца! З рудніка прагналі за п'янства, а добрая была пасада электраманцёра…

— Што ты разумееш? Я і цяпер электраманцёр… А ты хацела б, каб мяне заваліла зямлёй у рудніку? Хіба не памятаеш, як пахавалі разам трыццаць шахцёраў пасля выбуху ў рудніку?

— Не гавары мне пра гэта, бо і ты быў вінаваты ў іх смерці.

— Хіба я забіваў іх?

— Кажуць, была няспраўная праводка, бо ты з-за п'янства недагледзеў яе…

— Кажуць, кажуць… Ці мала чаго кажуць, а ты толькі слухай…

— Але ж прагналі, за п'янства прагналі… І з гаража прагналі, і з лодачнай майстэрні прагналі… Скажы дзякуй маці, што ўладзіла цябе на гэты завод, тут бы хаця трымаўся…

— Пры чым тут маці? Я маю прафесію, з ёй мяне прымаюць у любым месцы.

— Колькі праліла слёз твая маці! Яна выплакала табе гэтую пасаду, ёй абрыдлі вечныя клопаты аб табе, лайдак ты няшчасны…

— Хопіць, разышлася! — і так стукнуў кулаком па стале, што прачнуліся дзеці і адразу ўсчалі такі плач, што ён тут жа, моцна бразнуўшы дзвярмі, падаўся ў другі пакой.

«Вось і схадзілі ў кіно, — падумала жонка, выціраючы няпрошаныя слёзы. — Два дні дамаўляліся, каб схадзіць сям'ёй, як усе добрыя людзі. Дык сходзіш з ім, хіба толькі ў магілу…»

Яна пачала супакойваць дзяцей, потым павяла іх на вуліцу пагуляць ды разам з тым падзяліцца з суседкамі сваімі крыўдамі.

А Сузан сядзеў у пакоі, як заўсёды, пануры, задуманы. Сапраўды, не вязе яму ў жыцці. Нябожчык бацька ў яго гады быў куды шчаслівейшы. Ён меў нават свой уласны домік і нядрэнны рахунак у ашчаднай касе. Праўда, маці казала, быў ён вельмі настойлівы і працавіты, ніколі не змарнаваў ніводнага дня. Можа, яно і праўда. Але што ты возьмеш з тае працы? Ну, вядома, будзеш сыты і адзеты… А што з таго? Не такая ўжо прыемная штука — гэтая праца… І так дзень пры дні, дзень пры дні. Вунь некаторыя яго таварышы нідзе не працуюць, а жывуць няблага, ва ўсякім разе лепш, чым усе рабочыя і нават тэхнікі. Праўда, у аднаго багаты бацька, у другога амаль што мільянерша цётка, трэці атрымаў добрую спадчыну і ні аб чым не шманае, акрамя хіба салонаў і рэстаранаў, чацвёрты, пяты… Ёсць хлопцы, што абыходзяцца і без бацькоў. І не працуюць, не націраюць мазалёў, а гуляюць часам так, што ўся акруга грыміць… Усяго хапае ім: і віскі, і французскага каньяку, і прыгожых дзяўчат. Праўда, ім даводзіцца часта мець справу з паліцыяй, некаторыя пабывалі і ў турме… Канечне, гэта не вельмі прыемна… Затое жывуць!

А ён не жыве, а марнее. Трэба было яшчэ ажаніцца! Гэта ўжо матчын клопат — спадзявалася, што ён пасталее, набярэцца розуму, як яна кажа. Розуму… Хіба ён жыве без розуму? Але ж, відаць, гэта праўда. Які ўжо тут розум, калі трэба лічыцца з кожным цэнтам, калі гэтая неадчэпная жонка толькі і ведае, што патрабуе: дай ёй на хлеб, дай на мяса, дай на адзенне… Ён жа не ракфелер які-небудзь! Урэшце, і ў яго душа жывая, мае і свае патрэбы: ёй трэба і віскі, ёй трэба і цыгарэты, ды ці мала чаго ёй трэба. Шчэ добра, што гэткая маці… Яна не патрабуе за кватэру, а што б было, калі б давялося яму наймаць кватэру? Страх нават падумаць. Аднак чэрствы чалавек гэтая маці. Ёй добра — яна зарабляе больш, чым ён, і гэта на адну душу. Канечне, яна сім-тым дапамагае — і на кватэру, і на вугаль, часам і дзецям сёе-тое справіць. А ўсё ж… магла б і больш раскашэліцца. Як-ніяк атрымала яна пасля бацькі і страхавыя, і невялікую спадчыну. Ёсць і ў самой сякія-такія зберажэнні. Неяк собіла яму паглядзець у яе ашчадную кніжку — аж галава закружылася. Яму б тыя грошы, ён даў бы ім рады. Віскі ёй не трэба, цыгарэты не трэба, адно што на царкву сваю часам патраціцца, дык невялікія то патраты.

Сапраўды, якія патрэбы ў старых? Ні ім модныя ўборы, ні ім забавы… Адно — пад'есці, адпачыць пасля працы і, калі вольная хвіліна, адвесці душу з суседкамі, такімі ж старымі, як і сама, перамыць костачкі ўсім блізкім і знаёмым. Канечне,

у першую чаргу ў такіх абгаворах дастаецца яму, Сузану. Ён і лайдак, і няўдака, і збэшчаны чалавек, і невядома ў каго пайшоў, у каго ўрадзіўся. Адным словам, адбіўся ад рук, выхоўваўся без бацькі, а дзе жанчына ўправіцца з падрастаючымі дзецьмі, каб па-людску накіраваць іх на пуць-дарогу…

Можа, маці і мае рацыю па-свойму. І дзесьці ў глыбіні душы прамільгне на які міг нешта падобнае на спачуванне. Колькі яна перажыла, калі аднойчы ён цяжка хварэў. Усе ночы праседжвала над ім… Ну, а потым, потым… Канечне, хапіла ёй праз яго штукі і дурыкі ў дзяцінстве, а пазней праз яго розныя глупствы і такія справы, калі маці даводзілася важдацца з паліцыяй, упрошваць яе, ліць слёзы. А як жа інначай? На тое яна і маці, каб адказваць за яго. Хто ж павінен клапаціцца аб ім, аб яго дабрабыце, аб яго будучыні, як не яна? Відаць, яна забылася на сваё мінулае. Была ж і сама некалі маладая, павінна разумець яго. Ён жа хоча жыць лепей, весялей, каб пазбавіцца той штодзённай нудоты: завод, хатнія непаладкі, вечныя думкі аб тым, як дацягнуць да палучкі, апрыкралыя спрэчкі з жонкай з-за якой-небудзь пяцёркі долараў, прапітых з таварышамі. Што значыць прапітых? Ну, проста пасядзеў з прыяцелямі, была такая прыемная бяседа… Не піць жа яму заўсёды на чужыя грошы. І так ужо часам насміхаюцца з яго, і ўжо неаднойчы пагардліва назвалі нікчэмнікам, здольным хіба аблізваць чужыя талеркі. А ці ў яго няма гонару? Ці ён не павінен абараніць свой гонар? А маці не разумее гэтага. І калі ён напрамілы Бог прасіў яе аднойчы даць яму трыццаць долараў, каб аддаць картачны доўг прыяцелям, яна проста паслала падалей і яго, і прыяцеляў. Ёй гэта лёгка сказаць, а яму трэба запазычваць вочы ў сабакі, каб сустракацца пасля з таварышамі.

І дзесьці ў тайніках душы асядае, як муць, чорная думка аб тым, што няма нічога вечнага на зямлі, што і маці не міне таго, што наканавана кожнаму чалавеку на зямлі. Вядома, яе зберажэнні нідзе не падзенуцца, яны ж застануцца і па закону пяройдуць да яго. Праўда, ёсць яшчэ замужняя сястра, старэйшая за яго. Яна жыве ў Канадзе. Па закону ён павінен будзе падзяліць тыя здабыткі з ёй, закон ёсць закон. Сузан бярэ кавалачак паперы і скрупулёзна выпісвае лічбу за лічбай. Вось гэта давядзецца аддаць як спадчынны падатак… Дарэмныя патраты, і каб маці ўлічвала ўсё, яна змагла б цяпер аддаць яму яго грошы, якія ён і расходаваў бы, як і належыць паважаючаму сябе чалавеку. Але добра. Закон ёсць закон. І пасля падатку і перадачы сястры яе часткі (ён, зразумела, утрымае з яе выдаткі, звязаныя з пахаваннем маці, і само пахаванне можна зрабіць як мага сціплым — мы

ж не якія-небудзь ракфелеры) яму застанецца ладны кавалак. Ну, папомняць тады ўсе, хто насміхаўся з яго, абражаў яго. Ён пакажа ім, як трэба паважаць сяброўства, як трэба па-сапраўднаму абыходзіцца з людзьмі, як трэба весяліцца… Канечне, давядзецца сёе-тое патраціць і на сям'ю, нідзе ўжо не дзенешся. Але хопіць і на іх…

Ад узнёслых мар прыемна кружыцца галава, як ад шклянкі добрага віскі. Не так ужо і кепска жыць на свеце, як гэта здавалася яму ў часе нуднай дыскусіі з жонкай.

— Мы яшчэ пакажам усім! — уголас гаворыць ён, мнучы ў попельніцы недакурак цыгарэты.

— Што ты пакажаш і каму? — чуе ён голас. Ён незадаволена азіраецца назад, на дзверы. Хто гэта выбівае яго з прываблівага свету мар і спадзяванняў?

У дзвярах стаіць маці. У яе посны выраз твару, у бляклых вачах нямое запытанне.

— Гэта я так… — нехаця адказвае ён і, спахапіўшыся, дадае: — Вось кніжачку адну чытаю… — і ляным жэстам паказвае на дэтэктыўную аповесць, разгорнутую перад ім.

— Дык нешта ж уголас? Зноў, відаць, пасварыўся з жонкай. Нядобра гэта, сынок, нядобра. Яна цярплівая жанчына, трэба толькі здзіўляцца, як яна яшчэ трымаецца ў нас. Я б на яе месцы даўно разышлася з табой, такім слаўным мужам…

— Кіньце, маці, абрыдла слухаць!..

— Табе слухаць, а мне абрыдла глядзець на цябе і на твае паводзіны.

— А вы і не глядзіце, будзе вам спакайней.

— Добра, кінем. Адно, што я хацела б сказаць, каб вы жылі ў ладзе і спакоі. Хаця б тыя дні, на якія я адлучуся з хаты.

— Куды вы думаеце адлучацца? — механічна перапытаў Сузан, рады ўжо таму, што тэма гутаркі некалькі мяняецца.

— З'езджу да Бецi дзён на дзесяць. Я не бачыла яе даўно. Гэта ж ужо дзесяць год мінула, як яна з мужам прыязджала да нас. Тады тваёй пляменніцы, маленькай Караліне, было ўсяго шэсць год. Памятаеш, як яна заліла соўсам твой святочны касцюм?

— Гм… Чаму ж не памятаць! Тады мне здорава ўляцела ад бацькі. Ён жа не ведаў, што прычынай усяму тая свавольніца, капрызуля, і ўсыпаў мне добрую порцыю гарачых…

— Знайшоў што ўспамінаць… А цяпер, як бачыш, той свавольніцы праз два тыдні будзе шаснаццаць год. Бецi з мужам запрашаюць мяне на гэтую сямейную ўрачыстасць.

— Як жа ты паедзеш, а служба?

— Фірма згадзілася даць мне цяпер мой гадавы адпачынак.

— Ну што ж, едзь, маці. Мяне, нябось, не запрашаюць у госці?

— Паспееш яшчэ з’ездзіць… Мне-то, старой, не так ужо лёгка выбраць час для паездкі, ды і не люблю я доўгія дарогі…

— Цяпер жа не так ужо дрэнна ў цягніках, за якія суткі-паўтара будзеш і на месцы.

— А я думаю самалётам. І хутчэй, і пару дзён зэканомлю.

— Ты ж не ахвотніца лятаць на самалётах. Памятаеш, як у мінулым годзе праклінала адну сваю службовую паездку?

— Гэта не так ужо і страшна. Перасадкі з поезда на поезд — вельмі нудная справа, ды і часу траціцца зашмат.

Яны даволі мірна пагаварылі аб некаторых справах, успомнілі мінулае, калі жыў быў бацька і маці вяла толькі хатнюю гаспадарку. Успомнілі, што бацька ўсыпаў гарачых сыну не толькі за сапсуты касцюм, але і за дрэнныя поспехі Сузана ў школе, з-за якіх бацьку даводзілася не раз і не два весці не зусім прыемныя размовы з настаўнікамі. І як бяжыць час: прыязджала маленькая Караліна, усяго год чатырнаццаць было Сузану, а цяпер у яго ўжо дзеці, двое дачок… Усё было б так добра, каб не гэтыя сямейныя згрызоты. А з-за чаго? З-за якога-небудзь няшчаснага долара… Ну гуляе, ну выпівае часам… Падумаеш, якія страхі! Не мільёны ж прапівае ён…

Маці павалі рыхтавалася да сваёй паездкі. Купляла сякія-такія падарункі дачцэ, яе мужу і самы лепшы — унучцы Караліне. Усе гэтыя дні Сузан хадзіў вясёлы і ўзрушаны. Ён праявіў нават пэўную энергію і заклапочанасць. Схадзіў на аэрадром, прынёс дахаты акуратна выпісанае распісанне самалётных рэйсаў да горада, у якім жыла сястра ў Канадзе. Гадзінамі праседжваў вечарамі з маці, выбіраючы сумесна з ёй найбольш зручны для яе маршрут. Дастаў нават карту гэтых маршрутаў. І за пяць дзён да адлёту купіў маці білет. Купіў нават за ўласныя грошы, чым вельмі расчуліў маці, і яна, упершыню за колькі год, пацалавала яго і нават сказала:

— Вось бачыш, ты ж можаш, калі захочаш, быць такім харошым чалавекам… і… добрым сынам…

— Ну што вы, маці… Я заўсёды такі… Калі што і бывае, дык гэта ж выпадковыя з’явы, ці варта звяртаць на іх увагу!

— Вядома, сынок… Магчыма, я часам і памылялася, калі думала аб табе толькі блага…

Яна нават змахнула слязу, першую за апошнія гады слязу радаснага замілавання сваім адзіным сынам…

Сузан хацеў быў сказаць, што ён збіраўся купіць ёй у аўтамаце на аэрадроме спецыяльныя страхавыя полісы. Каштуюць яны вельмі танна, усяго які-небудзь долар ці паўтара, а выплачваюць па іх… здорава выплачваюць… Справа тут пахне тысячамі, калі купіць некалькі полісаў. Але тысячы толькі ў выпадку… Ну, ці будзеш жа гаварыць роднай маці, у якім выпадку выплачваюць тыя тысячы. І ён палічыў, што гаварыць ёй аб такіх справах было б ужо зусім нетактоўна… Ён жа сын, а не хто іншы. І ён прамаўчаў пра гэтыя полісы, якія каштуюць так танна, так танна…

Апошнія дні перад ад'ездам маці ён хадзіў маўклівы і пануры. Вечарамі корпаўся са старым будзільнікам, які застаўся яму ў спадчыну ад бацькі. Разбіраў, збіраў яго.Важдаўся з рознымі батарэйкамі. Неяк маці заўважыла яму:

— Займаешся, сынок, дзіцячымі гульнямі. Ты ж электраманцёр, каб хацеў, мог бы мець і некаторую прыватную практыку ў вольны ад службы час.

Ён адказаў ёй спакойна:

— Хачу адрамантаваць бацькаў будзільнік, а то вось часам пазнюся на працу.

— Дык аддаў бы ў майстэрню.

— Не бяруць. Кажуць, стары завельмі механізм, у іх няма патрэбных частак.

Маці махнула рукой. Ці варта залішне сварыцца з сынам перад ад'ездам?

Некаторымі вечарамі сын хадзіў на ўзмор'е і цэлыя гадзіны праводзіў у трысняговых зарасніках, якія цягнуліся на доўгія кіламетры па абодва берагі балоцістай рачулкі. Што ён рабіў там, ніхто не бачыў і не ведаў. Але з кожным вечарам сын рабіўся больш жвавы, весялейшы. Ён спрабаваў нават жартаваць, заводзіў гульні з маленькімі дочкамі, і ў кватэры ўзнімаўся такі вясёлы гармідар, што жонка толькі здзіўлялася, адкуль гэта ўсё бярэцца, адкуль такія перамены ў яго характары? Яна нават сказала аднойчы:

— Нешта я не разумею цябе.

І ён адказаў ёй не то сур'ёзна, не то паўжартам:

— А чаго тут разумець? Мы яшчэ пажывём з табой, вось пабачыш!

— Што я пабачу! І так ужо з мяне насміхаюцца ўсе суседкі.

— Шчэ насмяешся і з іх!

— Ці не надумаліся часам павысіць табе зарплату?

— А хіба гэта немагчыма? Не век жа мне хадзіць у электраманцёрах…

Урэшце падышоў і час ад’езду маці, і яна пачала ўкладваць чамадан.

— Кінь, маці, я дапамагу табе сам зручней запакаваць усе рэчы. Адпачні перад дарогай. Садзіся вось, калі хочаш, і гавары, куды якую рэч класці, што глыбей, што бліжэй.

— Ну добра, сынок, я збегаю яшчэ ў магазін, развітаюся са сваімі калегамі.

У вызначаны час яны выехалі на старэнькім «фордзе» — таксама спадчына бацькі — на аэрадром. Сын занёс чамадан у багажнае аддзяленне, купіў яшчэ маці бутэльку яе любімай мінеральнай вады. Улучыў хвілінку і ў касавым аддзяленні набыў на дзесяць долараў страхавых полісаў. Калі расплачваўся, рукі дрыжалі так, што дзяўчына-касірка шчыра параіла яму не хвалявацца.

— Хто ў першы раз ляціць, той заўсёды хвалюецца, а гэта ўсё так проста, так звычайна… — і надарыла яго такой мілай усмешкай, што другім разам Сузан абавязкова затрымаўся б на якую хвіліну, каб перакінуцца лішнім словам з такой слаўнай дзяўчынай. А тут ён толькі зірнуў на яе неўразумелым вокам, потым спахапіўся і, паспешліва засоўваючы ў кішэню полісы, хуценька падаўся прэч.

Каб суняць крыху хваляванне, ён забег яшчэ ў буфет і залпам выпіў стопку віскі. Крыху супакоіўся, перасталі дрыжаць рукі, толькі ў нагах адчувалася млявасць. Яго штурхалі мітуслівыя пасажыры, ён сам натыкаўся нібы сослепу на сустрэчных людзей, яго некалькі разоў нават груба аблаялі. Некаторыя ж пасажыры, заўважыўшы яго блукаючы позірк, саступалі дарогу, абыходзілі. Маці таксама ўбачыла штосьці няладнае ў ім, трывожна запыталася:

— Ці здаровы ты, сынок?

— О, зусім здаровы, зусім здаровы… — паспешліва адказаў Сузан, пазбягаючы зірнуць у вочы маці.

Цень трывогі сышла з яе твару, і яна, ужо сурова, асуджаюча, сказала яму:

— А ты ўжо напіўся, як бачу я!

Яна хацела яшчэ нешта сказаць, але тут абвясцілі пасадку на самалёт. Яны правялі яе да выхадных дзвярэй, далей якіх іх, як суправаджаючых, не пусцілі. Бачылі, як паднялася яна па трапу, як бег, задыхаўшыся, спазнелы пасажыр, які, мяркуючы па яго расчырванелым твары, крыху заседзеўся ў буфеце ці рэстаране. І вось урэшце самалёт пайшоў на старт, месца якога не відаць было ад дзвярэй, дзе стаялі яны, Сузан з жонкай.

— Паехалі дахаты! Там ужо, відаць, суседка злуе на нас за тое, што так доўга не ідзём.

— Нічога, панаглядае за дзецьмі, ты ж большыя паслугі робіш ёй часам.

І, думаючы аб нечым сваім, ён прапанаваў ёй:

— Ведаеш што, Элі…

Яна насцеражылася. Ён упершыню за колькі год іх жыцця назваў яе так, як некалі называў у першыя дні пасля шлюбу.

— Што ты хочаш сказаць мне, Сузі? — мякка перапытала яна.

— Давай зойдзем з табой у рэстаран. Мы ж разам былі там так даўно, што я нават забыўся калі.

— А дзеці, яны ж чакаюць… — нерашуча прамовіла Элінора.

— Божа мой, могуць жа яны якую гадзіну пабыць і без нас. А суседка не пакрыўдзіцца, пасядзіць з імі лішні час…

Элінора дапытліва зірнула на мужа. «О, каб ён быў заўсёды такі добры, ласкавы, як сёння». Падумала якую хвілінку, пагадзілася.

— Ну што ж, сходзім, Сузі, калі ты гэтага хочаш. Толькі ж рэстаран каштуе грошай!

— Кінь, Элі, гаварыць пра грошы. Не мы для іх, а яны для нас… Урэшце маю я права пачаставаць хоць сёння маю слаўную Элі?..

Жонку кранулі гэтыя словы. Гэта ж ён гаварыў так даўным-даўно, можа, гадоў пяць назад, калі позним вечарам у гарадскім парку прызнаваўся ёй у каханні.

І яны пайшлі.

Ён доўга, з выглядам добрага знаўца, выбіраў меню. Раіўся з ёй, якое віно ёй больш даспадобы, каліфарнійскае ці замежнае, французскае. А можа, яна хоча што-небудзь больш моцнае?

— Я ніколі не піла французскае… — ціха прызналася яна.

— Ну добра, французскае дык французскае…

За сталом Элінора пераканалася, што муж яе сапраўдны гурман. Усё, што ён заказваў, доўга раючыся з афіцыянтам, было наўздзіў смачнае, і яна зразумела, чаму Сузан вельмі часта ўставаў з-за хатняга стала хмурны, незадаволены. Тое, што рыхтавалі яна і яго маці, не было такім смачным. Вядома, справа тут у грашах… Успомніўшы пра грошы, яна не магла не напомніць яму:

— Сузі, ты, аднак, транжырыш грошы! Можа, не трэба…

Ён падаў ёй непрыкметна знак рукой: нязручна ж гаварыць аб такіх рэчах, калі ён раіцца з афіцыянтам, той жа можа падумаць аб іх ліха ведае што…

І яна змоўкла. Кіслы настрой — каму прыемны праводзіны, развітанні? — хутка прайшоў, з кожнай чаркай рабілася весялей. Усё, што было такім шэрым, звычайным, нудным, неяк адыходзіла прэч. Жыццё здавалася цудоўным, прыгожым, нават Элі не хацелася ўжо хутка пакідаць гэты ўтульны рэстаран.

Калі Сузан запрасіў яе прайсціся які круг у танцы, яна спачатку запярэчыла, але тут жа згадзілася:

— Ну добра… Раз ты хочаш, я згодна.

Яны прайшліся некалькі кругоў. Як гэта прыемна — кінуцца, задыхаўшыся ад танца, у зручнае крэсла і паволі пацягваць кактэйль. Спецыяльны дамскі кактэйль, як кажа Сузі! О, ён вялікі спец на ўсе гэтыя віны, кактэйлі! Канечне, яно было б лепш, каб ён не дужа разбіраўся ў гэтых справах. Але раз ужо гуляць, дык гуляць… Можна, урэшце, хоць раз за некалькі год дазволіць сабе такое…

Зноў танцавалі, адпачывалі, слухалі музыку, час ад часу перабіваемую паведамленнямі аб адлёце і прылёце рэйсавых самалётаў.

У Эліноры кружылася галава, яна нешта весела гаварыла, не змаўкаючы і смеючыся з Сузана, які завельмі марудна выбіраў марожанае, і ў гэты час яны пачулі паведамленне, якое на кожнага з іх зрабіла featured рознае ўражанне.

«Самалёт семдзесят пяты, які спазніўся з вылетам на гадзіну з прычыны дрэннага надвор’я на трасе ў гарах, зараз пайшоў у паветра».

— А мы і не ведалі, што маці яшчэ тут. Мы гуляем з табой, а яна сумавала там, у самалёце. Каб ведалі, то і яна пасядзела б з намі, — выпаліла адным махам Элінора, якая была ўжо ў самым добрым настроі і для якой увесь свет цяпер уяўляўся ў самым ружовым святле.

А Сузан чамусьці сядзеў, нібы прыбіты да крэсла. Ён многа выпіў, але ап’яненне адразу прайшло, ён тупа глядзеў у акно рэстарана, але нічога не бачыў. Перашкаджалі назойлівыя думкі. Ён толькі сказаў амаль што шэптам:

— Божа мой, Божа, гэта ж дзве гадзіны…

Элінора перапытала:

— Пра што ты гаворыш, Сузі?

Сузан зрабіў такі рух, нібы папярхнуўся, сутаргава схапіў недапітую чарку, асушыў яе. І толькі тады адказаў:

— Я ж гавару, куды гэта варта, калі самалёт спазняецца аж на цэлую гадзіну. Гэта называецца — парадкі…

— А што тут асаблівага, Сузі? Ну, прыляціць маці на гадзіну пазней, і толькі… Падумаеш, такая ўжо бяда, калі твая сястра

лішнюю гадзіну прабудзе на аэрадроме, чакаючы маці. Вось мы прасядзелі ўжо тут цэлую гадзіну і не заўважылі, як прайшоў час.

— Не верашчы! — кінуў Сузан, і ў галасе яго пачуліся зласлівыя ноткі. — Гэта ж так непрыстойна, на нас глядзяць людзі.

Элінора разгублена азірнулася па баках.

— Чаго ты крычыш на мяне? Ніхто не глядзіць на нас.

Сузан наважыўся быў агрызнуцца, але махнуў рукой і, наліўшы адну, другую чарку, залпам асушыў іх. Элінора пакрыўдзілася:

— Вось ты заўсёды так: на хвілінку станеш добры, а потым зноў за старое… Не напіўся яшчэ?

— Няхай, выпі і ты… — прымірэнча прамовіў ён і наліў ёй і сабе па чарцы, чокнуўся з ёй. — А цяпер паехалі! Чаго мы будзем сядзець тут…

Дома ён зноў зрабіўся пануры, маўклівы. Другім разам пасля такой выпіўкі ён заваліўся б спаць, а цяпер сноўдаўся па кватэры, не ведаючы, чым жа яму заняцца, да чаго прыкласці рукі. Не раз і не два падыходзіў да радыёпрыёмніка, уключаў яго і тут жа раздражнёна выключаў. Шум і грукат джаза, рэкламныя абвесткі так абрыдлі, што хоць ты ўцякай ад іх на край свету. Толькі затрымаўся быў каля прыёмніка на колькі хвілін, калі будаўнічая кампанія рэкламавала продаж гатовых дамоў разам з зямельнымі ўчасткамі ў працяглую растэрміноўку.

«Што ж, гэта нядрэнна… — падумаў ён. — Толькі які купляць — з трох пакояў ці з пяці? Ва ўласным доміку можна будзе пры выпадку заснаваць і сваю электратэхнічную майстэрню… Але пры чым тут дом, да д’ябла майстэрня! Хопіць яму і без майстэрні, каб пажыць па-людску, пажыць на славу… Да д’ябла ўсё, да д’ябла ўсе нудныя клопаты!..»

Знерваваны, спакутаваны, ён выйшаў на ганак, каб падыхаць свежым паветрам. Змяркалася. Па вуліцы праходзілі рэдкія прахожыя. Яны чамусьці сумна пазіралі на домік, у якім ён жыў. Некаторыя са знаёмых віталіся і паспешліва ішлі сваёй дарогай. Ля газетнага кіёска на недалёкім перакрыжаванні вуліц ён заўважыў некаторае ажыўленне. Чуўся нават гучны голас газетчыка, які выкрыкваў навіны дня, але што ён выкрыкваў, разабраць было цяжка. Тады Сузан сышоў з ганка і машынальна павярнуў у бок кіёска. Ён быў ужо недалёка ад яго, калі ясна разабраў словы газетчыка:

— Жахлівая катастрофа ў паветры! Сорак тры ахвяры, сярод іх нашы знаёмыя!

Ногі ў Сузана адразу нібы наліліся свінцом, а сэрца затахкала хутка-хутка, нібы збіралася выскачыць з грудзей. Ён нават

спыніўся на хвілінку, каб перадыхнуць, сабрацца з думкамі. Але неадольная сіла ўжо цягнула яго далей — трэба ж урэшце дазнацца, трэба дазнацца…

Ля кіёска тоўпіліся людзі, усхвалявана перачытвалі кароткае паведамленне, якое вылучалася на першай старонцы вялізным шрыфтам. Заўважыўшы яго, людзі папярэдліва расступіліся. Знаёмы кіяскёр абарваў на паўслове свае выкрыкі, разгублена зірнуў на Сузана, потым узяў яго за руку, моцна пацiснуў:

— Мы так спачуваем, так спачуваем вам у горы! Хто б мог ведаць, што такое можа здарыцца. Гэта ж так жахліва…

— Што здарылася? — перапытаў Сузан, адчуваючы, як перасыхае ў яго ў горле.

— Божа мой, няўжо вы яшчэ не ведаеце? Калі ласка, вось вячэрняя газета.

Рукі ў Сузана трэсліся, калі браў ён газету. Зірнуў на аб'яву. Нібы налітыя крывёй, вылучаліся тлустыя радкі. Чытаў пятае праз дзясятае: «…усе пасажыры самалёта загінулі, у іх ліку і пяцёра дзяцей, малодшаму з якіх не было яшчэ года… загінуў і экіпаж самалёта і сцюардэса… Ёсць падставы лічыць, што самалёт загінуў ад нейкага выбуху… рэшткі самалёта падалі аж на працягу цэлага кіламетра… Усяго загінула сорак тры чалавекі… Самалёт…»

«Які самалёт? — мільганула нецярплівая думка. — Аб чым гэта я? Тут жа ясна сказана: самалёт семдзесят пяты… Загінуў праз гадзіну пасля вылету… Так, так, дзве гадзіны, дзве гадзіны…»

Думкі нібы білі важкім молатам па мозгу. Цяжка было спыніцца на чым-небудзь. Сэрца білася часта, ніяк не магло супакоіцца. І не разабраць, ці то ад радасці яно, ці ад гора не можа супакоіцца. Ён яшчэ глуха перапытаў, не зварочваючыся ні да каго:

— Хто гэта сказаў, што самалёт загінуў?

— Божа мой, гэта надрукавана ў газеце. Хіба не бачыце самі? — азваўся адзін голас.

— У якой газеце? — механічна перапытаў Сузан.

Людзі, што стаялі бліжэй і чулі яго голас, няўцямна пацiналі плячмі. Ён павярнуўся, не развітаўшыся і не заплаціўшы за газету, павольна пацягнуўся дахаты.

Некаторыя сумна заківалі галовамі, пагаварылі, разышліся. Нікому не ў радасць чужое гора.

Калі ён зайшоў у хату, там было поўна людзей. Суседзі, знаёмыя прыйшлі выказаць сваё спачуванне, суцешыць у горы.

Плакалі жанчыны, дзеці. Элінора скрозь слёзы пачала выгаворваць яму:

— І дзе ты ходзіш? І дзе ты ходзіш? Вось заўсёды так!

І яна гаварыла, гаварыла… Ён і жорсткі чалавек, і няўдзячны сын, колькі турбот мела праз яго маці, праз яго, валацугу. І калі толькі возьмецца чалавек за розум…

Ён нічога не адказваў, толькі моцна сцятыя сківіцы гаварылі аб тым, як цяжка яму маўчаць, як цяжка выслухоўваць усе гэтыя абразлівыя выкрыкі. Канечне, у іншы час ён не змаўчаў бы, ён адказаў бы ёй так, што яна месяцамі раскайвалася б, чаму зачапіла яго. А цяпер? Лепш прамаўчаць, няхай супакоіцца, ды і менш будзе крыку, калі не пярэчыць…

На другі дзень газеты прынеслі больш падрабязныя весткі аб гібелі самалёта. Са старонак газет глядзелі здымкі людзей, што трапілі ў катастрофу. Вясёлыя твары, шчаслівыя ўсмешкі дзяцей. І сярод гэтых здымкаў было фота маці. Выраз твару сур’ёзны, задуменны. Яна глядзела са старонкі газеты і нібы пыталася ў яго, у Сузана:

— Ну як, сынок, ці шкадуеш ты хаця мяне?

Сузан паглядзеў на здымак і, прыкрыўшы яго рукой, перачытаў тэкст рэпартажу. Нічога асаблівага ў параўнанні з учарашнім паведамленнем не было. Праўда, было ўказана месца катастрофы. Яна адбылася непадалёк ад невялічкага гарадка, на раўніне ў бязлюднай мясцовасці. Не здымаючы рукі, каб не глядзець больш на маці, ён згарнуў газету і засунуў яе падалей на этажэрку з старымі часопісамі і кнігамі.

Прайшоў тыдзень, другі. Сузан хадзіў на працу. Дома быў негаваркі, агрызаўся нават на дзяцей, калі тыя спрабавалі лашчыцца да яго. Яны заходзіліся плачам, і тады Элінора папракала яго:

— Ну чаго ты такі? Чаго ты дзяцей крыўдзіш? Яшчэ называецца бацька… Ну я разумею, гора… Але што ж тут паробіш, ці ж мы хацелі такога няшчасця?

— Хацелі, не хацелі… Хопіць. Кінь. Адчапіся…

Яна пацінала плячмі, пакідала яго ў спакоі.

Прайшоў яшчэ адзін тыдзень. Багата перадумаў за гэты час Сузан. Уважліва перачытваў святочныя выпускі газет, у якіх звычайна змяшчаліся і спецыяльныя раздзелы па дамаводству, рэкламы на продаж гатовых дамоў з зямельнымі ўчасткамі. Усё прыглядаўся, на чым спыніцца, што лепшае выбраць. І ўрэшце яму вельмі спадабаўся ўтульны катэдж на беразе невялічкай рачулкі з крутымі ляснымі берагамі. Цэлымі вечарамі ён сядзеў,

падлічваючы патрэбныя выдаткі. Сродкі ў яго будуць, на ўчастак хопіць. Без яго ўдзелу ўзнікла справа аб укладзе маці ў ашчаднай касе. Туды запрашалі і яго. Справа ўжо амаль што вырашана ў законным парадку. Спадчыну падзеляць між ім і сястрой. Трэба ўрэшце разумна выкарыстаць гэтыя сродкі, пакінуўшы, вядома, і на іншыя свае асабістыя патрэбы — не век жа яму раўняцца на жабракоў. Але колькі яшчэ трэба грошай, каб абставіць свой дом прыстойна, як і належыць паважаючаму сябе чалавеку. Давядзецца збыць старэнькі недалужны «фордзік» і купіць новую машыну. За стары багата не атрымаеш, але ўсё ж грошы… Божа мой, колькі б іх ні было, а ўсё мала, мала. Некалі ён лічыў бы сябе шчаслівым, каб у яго рукі трапіла хаця б чацвёртая частка матчыных грошай, а цяпер мала і палавіны. І ён успомніў пра купленыя ім страхавыя полісы. Іх цэлых дзесяць, гэта ж некалькі тысяч долараў. Ён тут жа дастаў іх з бумажніка, уважліва прачытаў, падпісаў прозвішча маці.

Назаўтра вылучыў вольную хвіліну на працы і аднёс іх у кантору страхавой кампаніі. Там сустрэлі яго надзвычай ветліва, выказалі нават глыбокае спачуванне. Полісы ўзялі і, выдаўшы распіску, сказалі, што выклічуць самі праз колькі часу, бо патрэбны яшчэ некаторыя фармальнасці.

А праз некалькі дзён Сузана арыштавалі на працы. І калі прывялі яго ў паліцэйскі ўчастак, ён так разгубіўся, што спачатку расплакаўся, потым стаў жаласна выкрыкваць:

— Божа мой, што вы хочаце ад мяне? Я ж ні ў чым не вінаваты…

— Калі не вінаваты, дык чаго ж вам баяцца?

— Гэта не я, гэта не я…

— Аб чым вы хочаце сказаць?

— Не я забіў сваю маці і іх усіх… Не я…

— Гэта, аднак, цікава… Але мы хочам запытаць вас вось аб чым: чаму вы падрабілі подпіс маці на полісах?

«Ах Божа мой, гэта толькі полісы, толькі полісы, а я думаў…» — мільганула думка, і за яе ўхапіўся Сузан.

— Я не падрабляў подпісы маці, я проста распісаўся за яе, бо яна спяшалася на пасадку і папрасіла падпісаць іх… Гэта можа пацвердзіць і мая жонка… — і тут жа пашкадаваў, што сказаў пра гэта, бо ён жа ні слова не гаварыў жонцы пра полісы.

— Добра, мы гэта праверым…

Сузана пакінулі ў паліцыі.

Гэта яго асабліва не ўразіла. Не ўпершыню яму даводзілася знаёміцца з паліцэйскімі парадкамі. Падумаеш, подпісы… Ён

жа сам адразу прызнаўся, што падпісаў іх па просьбе маці. Якая гэта падробка? А калі нават і падробка, дык гэта ж не якое-небудзь там вялікае злачынства… Вядома, пакараюць, але ён не дужа ўжо баіцца пакарання, бо ўсё ж яго чакае лепшае ў жыцці. І лепшае поўнасцю адплоціць яму за ўсе яго мінулыя крыўды, прыніжэнні, нястачы. Канечне, не варта было звязвацца з гэтымі дурацкімі полісамі, як-ніяк, непрыемна. Але ўсё такая дробязь, аб якой не варта і думаць. Ну патрымаюць, ну могуць і пасадзіць на які месяц-другі, але ж затое потым ён возьме сваё, ён яшчэ пакажа ўсім, хто ён такі, у яго ж будуць тысячы і тысячы долараў… Вось толькі дарэмна ён выпаліў з гарачкі, што ён нікога не забіваў. Гэты дурань — паліцэйскі — можа яшчэ падумаць Бог ведае што, і собіла ж яму распусціць язык… Аднак глупства гэта. Кожны на яго месцы сказаў бы тое ж самае, калі б яго арыштоўвалі ў такі час, калі здарылася такое… Такое… Сузан не хацеў назваць сваім імем гэтае «такое».

Ён сядзеў і суцяшаў сябе, і будучыня малявалася яму ва ўсёй сваёй прыгажосці. І новы дом, які аблюбаваў ён, і, магчыма, будучая майстэрня, дзе ён будзе гаспадаром, дзе будуць працаваць на яго некалькі рабочых, а яму застанецца толькі падлічваць прыбыткі. Спачатку майстэрня, а потым можна будзе ўзяцца і за што-небудзь большае…

Находзілі і сумненні, падазрэнні. Чорт паднёс яго з гэтымі полісамі. Пачнуць з іх, яшчэ, чаго добрага, дакапаюцца і да таго… Так жа падвяло спазненне з адлётам самалёта. Усё ж было разлічана на дзве гадзіны. Усё адбылося б тады над высачэзнымі гарамі. Якраз аніякага б тады следу… А цяпер вось пісакі з газет намякаюць на нейкі выбух… Здарылася ж усё на раўніне, дзе любая драбяза з таго, што было з самалётам і яго пасажырамі, застаецца на зямлі, кідаецца ў любое вока. Д'ябал бы іх пабраў з усімі гэтымі парушэннямі графікаў руху. Але ліха на яго… Не такая лёгкая справа дакапацца да нейкай там прычыны… Не варта думаць аб усім гэтым ды псаваць сабе настрой. Усё пройдзе, усё мінецца, застанецца толькі законная спадчына, і яго пальцы адчуюць дотык хрупасткіх долараў, за якія можна купіць усё, чаго толькі ні пажадаеш…

Спакуслівыя мары змяняліся пакутлівымі сумненнямі. Раніца прынесла яму жорсткае расчараванне. Яго павялі зноў на допыт. Ён ужо прыкідваў, як лепш адказваць на ўсе пытанні аб полісах. Але пра полісы на гэты раз і не пыталіся. Перад ім палажылі на стале нейкую рэч, крыху падобную на патрон.

Коратка запыталі:

— Вам знаёма гэтая рэч?

Сузан сцяўся ўвесь і, адчуваючы, як дрыжаць яго рукі і неяк раптам перасохла ў горле, ледзь вымавіў два словы:

— Не ведаю… — І дадаў пасля хвіліннай паўзы: — У першы раз бачу.

— Вы ўпэўнены ў гэтым?

— Так… Та-а-к…

— Гэтая рэч знойдзена ў вашым гаражы, нашто ж залішне адпірацца?

— Я крыху слабы на вочы, недабачу… Пакажыце бліжэй, — гаварыў, адцягваючы час, каб жа прыдумаць і сказаць нешта такое, што пераканала б іх, што ён тут ні пры чым, што гэта нейкае прыкрае непаразуменне, нейкае д’ябальскае насланнё…

— Ну, глядзіце бліжэй!

Яму падсунулі патрон пад самы нос. Ён доўга разглядаў яго, нават паспрабаваў кіпцем налёт зялёнага вокісу медзі, узважыў патрон у руцэ.

— Так, я цяпер магу вам сказаць, што гэта такое. Гэта дынамітны патрон. Яго ўжываюць у рудніках, падрываючы пароду.

— Усё правільна. Але чаму апынуўся ён у вашым гаражы?

— Я некалі працаваў на рудніку. Гэта рэч выпадкова засталася ў мяне ў кішэні, ну… і аказалася ў гаражы.

— Навошта ж яна была вам патрэбна?

Сузан доўга думаў. Урэшце загаварыў хутка-хутка:

— Бачыце, адзін знаёмы фермер скардзіўся мне, што ў яго на ўчастку вялікія камяні… Я збіраўся дапамагчы яму, узарваць іх…

— І ўзарвалі?

— Не, што вы! Ён жа застаўся, патрон, цэлы…

— І больш вы не мелі патронаў?

— Вядома…

— А з гэтай рэччу вы знаёмы? — І следчы вынуў з шуфлядкі стала рэшткі другога пакарабачанага патрона, а з ім яшчэ некалькі пазелянелых медных аскепкаў.

— Гэта рэшткі ад узарваных патронаў…

— Вашых патронаў?

— Што вы ад мяне хочаце, Божа, мой Божа! — залямантаваў Сузан. — Мяне пыталіся пра полісы, а пры чым тут гэтыя патроны? Пры чым я, нашто гэта? — І Сузан зайшоўся ў істэрычным плачы.

Яму далі вады, супакоілі. І калі найшла на яго поўная абыякавасць да ўсяго, аб чым у яго пыталіся, ён стаў пакорна, як

авечка, адказваць на пытанні. І аб дынамітных патронах, і аб гэтым праклятым будзільніку. Праўда, ён спрабаваў, хаця даволі вяла, супраціўляцца спачатку, але, выслухаўшы, што жонка яго сапраўды расказала аб нейкіх яго практыкаваннях з тым гадзіннікам, адказаў, што такі будзільнік сапраўды быў, але ён недзе выкінуты, і ён добра не ведае, дзе, урэшце, ён. Ды і ці варты ён увагі, гэта ж быў сапсуты, такі стары, стары механізм… І яму паказалі тады кавалачак пакарабачанага цыферблата і сказалі, што жонка яго апазнала гэты кавалачак як рэшту цыферблата былога будзільніка.

— Можа, гэта і так… Але ж я кажу, што забыўся, куды выкінуў тое ламачча…

І яму напомнілі, што рэшткі будзільніка, які быў часткай самаробнай бомбы, былі там жа, дзе і рэшткі дынамітных патронаў, дзе і рэшткі ад загінуўшага самалёта.

Сузану засталося адно: маўчаць. Ён сядзеў ссутулены і паціраў лоб, нібы сілячыся ўспомніць, як жа гэта ўсё адбылося. Думкі мітусіліся, усё ніяк не маглі прыйсці да ладу. І толькі адна думка была ясная, акрэсленая: не бачыць яму, як воч сваіх, запаветных долараў. І ці толькі долараў?

Быў суд. Сузану далі належную кару за яго шчыры падарунак маці. Увесь час — і калі быў суд, і калі сядзеў ён у турме — ён быў пануры, абыякавы, маўклівы. Ён не захацеў нават пабачыцца перад апошнім часам сваім з сям'ёй, з былымі прыяцелямі. І тады, калі прапанавалі яму гэтую сустрэчу, ён катэгарычна адмовіўся:

— Мне нічога не трэба, нічога не трэба… Не, не… нічога…

І толькі калі падвялі яго да дзвярэй газавай камеры, ён стаў сутаргава ўпірацца нагамі і нема закрычаў на ўсю турму:

— Нашто? Я не хачу! Не трэба! Я нічога не зрабіў вам благога… Я хацеў толькі долараў, толькі долараў…

Гэты крык паволі заміраў за жалезнымі дзвярамі камеры.

*11.VIII.1960*



# МІКОЛКА-ПАРАВОЗ

## ХАТА НА КАЛЁСАХ

Вы не бачылі Міколкавай хаты?

Яна вунь у самым тупіку, дзе канчаюцца станцыённыя лініі, дзе безліч стрэлак, дзе стаяць недалёка прыгожыя семафоры, дзе ў бязмежныя прасторы працягнуліся, пабеглі бліскучыя рэйкі.

Па рэйках тых бягуць цягнікі. Бягуць і днём, і ноччу. І шэраю раніцай. Калі яшчэ сонца не ўзыходзіць. Калі яшчэ Міколка спіць. Калі спяць усе звычайныя людзі, якія ноччу не ў машыністах, не ў кандуктарах, не ў рабочых дэпо, не ў абходчыках пуцявых. А цягнікі бягуць. Зімой і летам, увосень і ўвесну. І чым халадней, тым гучней гудуць паравозы, углядаючыся сваімі пукатымі бліскучымі вачыма ў далёкія агеньчыкі семафораў. Агеньчыкі белыя, зялёныя, чырвоныя. І кожны паравоз крычыць па-свойму. Адзін так гудзіць, што шыбы трасуцца ў вокнах. У другога хрыпаты голас, нібы прастудзіўся паравоз, бегаючы ў зольных туманах і завеях. А трэці — якая-небудзь кукушка — не гудзіць, а проста пасвіствае галаском такім тонкім, пранізлівым. І па голасу пазнае Міколка кожны паравоз, ці то таварны, ці то пасажырскі. І часам ноччу, пачуўшы голас далёкага паравоза, Міколка будзіць матку:

— Уставай, мама, самавар стаў, бацька едзе з пасажырскім. Яго паравоз гудзіць.

— Сам ты паравоз! — дражніць матка Міколку. — Вось спаць не даеш толькі, пасажырскі яшчэ далёка…

Але матка ўставала, ставіла самавар, раздзьмухваючы яго старой халяўкай ад ботаў. Міколка прыслухоўваўся, як прабягаў з шумам і грукатам, пастукваючы на стрэлках, цягнік, як зацішаў ён хаду, а потым і зусім станавіўся на станцыі. Тут зменьваліся паравозы, зменьваліся і машыністы. І заўсёды акуратна, праз якія-небудзь хвілін дзесяць, дахаты з'яўляецца Міколкаў бацька.

— А ты прачнуўся ўжо, кур'ерскі? — гаварыў ён да Міколкі і заўсёды намерваўся ўхапіць яго за нос сваёй чорнай прамазучанай рукой. Міколка хаваўся пад коўдру і, паказваючы адтуль толькі кончык носа, пачынаў чохкаць, як сапраўдны паравоз:

— Чшы… чшы… чшы… чшы-чшы-чшы…

І важна гаварыў потым да бацькі:

— Ага! Не можаш мяне ўзяць… Забуксаваў!

«Забуксаваў» — гэта значыць, што бацька далей не пасунецца ні на крок, ніяк не ўхапіць яму цяпер за Міколкаў нос. Не будзе ж ён бруднымі рукамі за коўдру брацца, павінен ён памыцца як след. І калі бацька займецца з умывальнікам, Міколка таропка злазіць з ложка і бяжыць да бацькавай дарожнай скрынкі. Ён спрабуе яе на вагу, а ці ёсць што ў ёй, ці варта ля яе турбавацца.

— Прывёз, татка, што-небудзь? — грозна пытае ён бацьку.

— А што будзе, калі не прывёз? — перапытвае бацька, смяецца.

— Што ж будзе? Нічога не будзе… — гатоў пакрыўдзіцца Міколка.

А бацька адчыняе скрынку, дастае шчарбаты чайнік, загорнутую ў паперыну шклянку, кавалкі «зайцавага хлеба» — так заве ён дарожныя недаедкі. Дужа ж смачныя гэтыя недаедкі. Не сказаць, каб вялікія ласункі былі з чэрствага хлеба, але еў яго Міколка з вялікай ахвотай, толькі пугаўка-нос пабліскваў ад вялікага задавальнення. Есць, і здаецца яму, нібы ён таксама памочнік машыніста, як бацька… Хлеб пахне трохі вугалем, і аддае крыху ад яго і мазутным пахам. Адным словам, не звычайны хлеб, а хлеб, які праехаў на паравозе сотні вёрстаў, падсушыўся, паабіваўся ў скрынцы, прапах. І не дзіва, што як змеле Міколка гарбушку, дык адразу і пайшоў:

— Чшы-чшы-чшы… Чшы-чшы-чшы…

Памчаў паравоз.

Аж падлога дрыжыць ад Міколкавага бегу. Бяда толькі, што не разбяжышся як след: і цесна, і маці ўшчувае:

— Кінь ты дурыкамі займацца — узняўся ні свет ні зара. Яшчэ брата разбудзіш…

Акрамя «зайцавага хлеба» ў бацькавай скрынцы бывае шмат якіх цікавых рэчаў. Не бывае ніводнага разу, каб бацька вярнуўся з пуці з пустой скрынкай. Заўсёды ў скрынцы знаходзяцца новыя цацкі. То незвычайную медную гайку прывязе бацька, то фарфоравы ізалятар, то трубку якую бліскучую, а то проста каменьчыкаў розных, каляровых. Часам прывязе звычайны кавалак каменнага вугалю, падае Міколку:

— Вось табе новая цацка!

Міколка гатоў і ў крыўду ўкінуцца: знайшоў бацька цацку! Ды іх, гэтакіх цацак, вунь цэлыя горы каля дэпо!

— А ты прыгледзься вось лепш, тады не будзеш і носа задзіраць…

І сапраўды, цікавы камень. На адным баку малюнак, нібы выразаў нехта цэлую ветку, і сцяблінкі тут, і дробнае лісцейка разышлося веерам.

— Хто маляваў? — пытае Міколка.

— Ніхто… Сама маці-прырода…

— А ты не абманьвай… Яшчэ памочнікам называецца, жарты строіць… — ушчувае Міколка бацьку.

Тады расказвае бацька розныя цікавыя гісторыі пра гэты самы камень. Нібы быў ён тысячы год назад не каменем, а самым звычайным дрэвам, высокім, прыгожым, з гаманлівым лісцем зялёным. І вось найшла навальніца, паваліліся дрэвы, усю зямлю ўслалі векавыя гіганты. Іх засыпала зямлёй, зацягнула балотнаю тванню. Ляжаць дрэвы пад зямлёй, ляжаць, не гніюць. Год ляжаць, дзясяткі ляжаць, ляжаць сотні і тысячы гадоў. Ляжаць, пакуль не скамянеюць. І лісцейка як адціснулася тысячы год назад, так і захавала свой малюнак у акамянелым дрэве. А часам трапляецца адбітак-адпячатак тагачасных казюрак, жывёлінак. Вось якая гісторыя гэтага малюнка…

Слухае Міколка. Сапраўды ж цікава. Бацька яшчэ раскажа і пра нафту, якую таксама паляць на паравозе. Бацька раскажа і пра мазут, дзе і як яго здабываюць. Ён раскажа і пра паравоз, і пра чыгунныя рэйкі, і пра розныя сігналы. Багата чаго ведае ён. І нездарма заўсёды здзіўляецца Міколка і кажа ў роздуме:

— Разумны ты, бацька!

Праўда, з гэтым не зусім каб пагаджалася матка. Тая трымаецца трохі іншакшых думак пра бацьку і пра гэтыя свае думкі кажа часам уголас, ды ў які яшчэ голас. Хоць вушы тады затыкай:

— І калі ты ўжо сур'ёзным чалавекам станеш? Другія ж, глядзі, у старшыя машыністы ўжо выбіліся… Другія, глядзі, на ўласныя хаткі з садамі ўзбіліся… А ты век тут карпей ды гібей у гэтым дзіравым вагоне… Галава непуцёвая.

На гэта бацька звычайна нічога не адказваў, маўчаў. Альбо важна пытаўся: «Што скажаш яшчэ цікавага?» Альбо запяваў канарэечку:

Канарэй, канарэй-пташачка,
Канарэ-е-чка жалабна пяёць.

Ну што ты з яго возьмеш тады, з гэтай канарэечкі. Пабурчыць, пабурчыць маці ды сціхамірыцца.

А вагон сапраўды дзіравы. Вагон — хата Міколкава. Стары парахнявы вагон, з пашчапанымі коламі, са збітымі буферамі. З’ездзіўся вагон, пастарэў. Паставілі яго ў тупік пад жыллё. І колькі вунь гэтых вагонаў, цэлы пасёлак — жывуць у іх дэпоўцы: токары, слесары, машыністы з качагарамі. І цеснавата ў вагоне. Палову займае бацькаў ложак. Пасярэдзіне невялікая печка. На другой палове месціцца дзіцячы тапчан, тут жа спіць Міколкаў старэйшы брат, які ўжо сам зарабляе, ходзіць у змазчыках. Тут жа спіць дзед Астап. Тут жа невялічкі стол, за якім палуднуюць, вячэраюць, на якім маці бялізну качае. Цесна ўсё ж.

Адно што добра: выскачыш з вагона, і тут табе воля вольная. Бяжы куды хочаш: ці пад дэпо, ці на пуці, ці на недалёкае балота за лесам. Знадворку і вагон прыгожы. Яшчэ не сцерлася назусім чырвоная фарба. З левага боку ўгары намаляваны чорным па беламу двухгаловы арол з царскай каронай. Пад арлом надпіс: «40 человек, 8 лошадей».

— Дзе ж тыя коні? — пытае бацьку Міколка, калі старэйшы брат чытае часам уголас гэты надпіс.

— А мы з табой чым не коні? — пасмейваецца бацька.

— А чаму ў арла дзве галавы?

— Таму што адной не хапае, дзіравая… Таму, бачыш, і каронай накрытая.

Дужа там разбіраўся ў тых царскіх каронах Міколка!

Куды цікавей былі яму розныя цацкі: гайкі, каменьчыкі, шасцяронкі чыгунныя, розныя блішчастыя гузікі, якія знаходзіў часам на пуцях. Ды яшчэ безліч розных малюнкаў, аж паўсцяны вагона было аблеплена імі. Кожны дзень папаўняў Міколка сваю калекцыю, ці, як называў бацька, карцінную галерэю. Шукаць доўга новыя малюнкі не прыходзілася. Даволі прайсціся раз у дзень па чыгунцы — вярсты дзве туды ды назад — вось і поўныя кішэні здабытку. Багата чаго застаецца на пуцях ад пасажырскіх цягнікоў: тут і паперкі ад цукерак, папяросныя карабкі, часам цэлыя кніжкі, газетныя лісты, цікавыя малюнкі на розных бутэльках.

«Смачна ядуць, чэрці!» — думаў часам Міколка, збіраючы сваю калекцыю. Пад чарцямі ён разумеў усіх тых, што ехалі ў пасажырскіх цягніках, асабліва ў вагонах першага і другога класа. Гэтыя вагоны ён вызначаў па іх колеру. Звычайны вагон бура-зялёнага прапыленага колеру, а другі і першы клас — цёмна-сіняга, блакітнага, а часам жоўтага.

— Паны… — у дадатак да чарцей называў ён пасажыраў гэтых вагонаў. І сапраўды, ездзілі ў іх багата апранутыя людзі, прыгожыя ўборы былі на дзецях, якія паказваліся ў вокнах.

«Самі цукеркі жаруць, салодкую гарэлку п'юць, а мне толькі пустыя паперкі ды пустыя бутэлькі… Вось бы ўзяў бацька ды звярнуў цягнік пад адхон, няхай бы тады гэтыя паняняты пехатой прайшліся…» — так думаў часам Міколка, не на жарты сярдуючы на гэтых людзей, якія, відаць, не разумелі смаку ў «зайцавым хлебе» і жылі на ўсім гатовым. І дзеці іх у прыгожых шапках з залатымі літарамі. Знайшоў раз Міколка на пуцях такую шапку, дахаты прынёс, на галаву прымераў. Паглядзеў на шапку бацька ды кажа:

— Дурань ты, Міколка! Хіба ў гэтай шапцы нам ды пры мазутнай справе… Не да твару, браце, нам такая шапка. У такіх шапках, браце, ходзяць толькі буржуйскія дзеці.

— А хто такія буржуі?

— Буржуі? — задумаўся бацька. — Гэта, бачыш, такія людзі, якія нічога не робяць і смачна ядуць… Такія, браце, пузатыя людзі, на чужым карку жывуць… на маім вось, на тваім.

Памацаў Міколка свой карак, здзівіўся.

— Няхай жа паспрабуе сесці каторы, я яго гайкай па лбе.

— Дзіва што, гайкай… — пасмяяўся бацька.

Але думка пра буржуяў не пакідала Міколку. Часта ён чуў пра буржуяў у гутарках бацькі з другімі суседзямі, рабочымі. Буржуямі часам лаяўся і старэйшы Міколкаў брат — змазчык. І ў хуткім часе адбылася сустрэча Міколкі з буржуем. Можа, і не з сапраўдным буржуем, але ж вельмі да яго падобным. Зайшоў аднаго разу да іх нейкі начальнік дэпо. І такі ж тоўсты-тоўсты, а на пузе блішчастыя гузікі, залатыя, няйначай. Зайшоў ён у вагон, абышоў кожны куток, усё поркаў нешта сваім бліскучым кіёчкам, поркаў, носам вадзіў з боку ў бок ды моршчыўся, як той грыб-смарчок, што расце пад штабелямі старых шпал. На матку накінуўся:

— Псуяце вы мне тут памяшканне, зусім не даглядаеце за падлогай… Смецце каля вагона… Выганю ў дваццаць чатыры гадзіны.

І зусім узлаваўся, аж пляміны белыя заскакалі на тлустым твары, ды кіёчкам сваім як дзеўбане ў сценку, у самую галерэю карцінную Міколкаву.

— Гэта што? Сцены паскудзіць? Казённае памяшканне псаваць? Ці мала смецця ўсюды, дык яны яшчэ на сцены вешаць. Ану, венік сюды, паздзіраць усё, памыць, паскрэбці.

А сам палкай поркае, здзірае Міколкавы малюнкі. І калі дабраўся да прыгожай крышкі з папяроснага карабка — быў то малюнак дзяўчынкі на срэбнай паперы, — не сцярпеў тут Міколка, да начальніка кінуўся.

— Ты хто? Ты збіраў мае карцінкі, каб іх здзіраць?

Той зірнуў скоса на Міколку, паморшчыўся. А Міколка наступае:

— Буржуй ты!

Начальнік аж абамлеў, маці перапалохалася.

— Пузан ты! Ходзіць, як бочка ў штанах… Бач, раз’еўся на маім карку… Вон!

Начальнік, доўга не думаючы, даў ходу. Маці — за ім.

— Даруйце. Дзіцё зусім не разумее… Вярзе, не разабраўшы што.

А той не слухае, далей шпарыць. Толькі і кінуў:

— Хамы вы! Самі хамы і дзяцей робіце хамамі.

Дасталася добрая прачуханка Міколку ад маткі. Але бацька, прыехаўшы з работы і даведаўшыся аб «буржуі», толькі пасмейваўся.

— Так іх, Міколка, так. Калі дах вось прагніў, перакрыць трэба, дык іх нямашака… А да цацак дзіцячых чапіцца надумаўся… Крый іх, Міколка, і ў хвост, і ў грыву…

Так жыў і гадаваўся Міколка-паравоз. Ён і сам добра не ведаў, чаму празвалі яго паравозам. Магчыма, за тое, што вельмі ж упадабаў ён паравозы, асабліва ж пасажырскія. Стаіць такі прыгажун ля дэпо, калёсы высокія, чырвоныя, не раўнуючы, як ногі ў бусла балотнага. Альбо выязджае такі прыгажун з дэпо і так важна парай пыхкае: пых… пых… пых…

Ну як тут уцерпець Міколку, ды не падсесці ззаду на тэндэрную падножку, ды не праехацца да паваротнага круга. Праўда, счэпшчыкі лаюцца часам:

— Злазь, жаба, а то падмажаш калёсы!

Дзе ты там злезеш!

Цікава і ля паваротнага круга. Паравоз вялікі-вялікі, а на крузе стаіць, як дзіцё, не паварухнецца. І адзін рабочы, усяго толькі адзін, паварочвае гэты самы круг з паравозам. Канечне, Міколка не праміне, каб не дапамагчы тут рабочаму. І здаецца Міколку, што пад яго рукой паварочваецца шпарчэй круг — гэткая аграмадзіна — і на ёй паравоз вялікі, стаіць і пыхкае. Вось павернут круг, Міколка зноў на падножку, і паравоз зноў жывы. Загудзіць, заляскоча і так памчыцца, што толькі пыл курыць ззаду аж да самых стрэлак, адтуль паравоз ідзе назад, на

станцыю, пад пасажырскі поезд. На станцыі трэба пільнавацца, каб не трапіць на вока жандару. Той не любіць дзяцей. Толькі заўважыць і бяжыць услед, памахваючы шабляй-селядцом. З падножак зганяе.

Ведаў бацька пра Міколкавы практыкаванні на падножках, ушчуваў колькі разоў, але нічога не дапамагала.

— Ты памочнік машыніста? — пытаў Міколка ў такіх выпадках бацьку.

— Ну, а што?

— Вось табе і што. На паравозах ездзіш?

— Езджу. А што з таго?

— А нічога… Павінен і я ездзіць.

Што ты тут скажаш Міколку? Нічога. І, выязджаючы ў чарговую паездку на пуць, бацька толькі прасіў усіх знаёмых счэпшчыкаў і стрэлачнікаў на станцыі:

— Вы, браткі, пільнуйце хаця, каб не трапіў мой басурман на рэйкі!

— Дзе ты яго ўпільнуеш, блыху? На жывое будзе жывы, не дзе дзенецца.

— Ды яно ж так.

Так гадаваўся Міколка на рэйках.

## ПРЫГОДЫ МІКОЛКІ З ДЗЕДАМ АСТАПАМ

У Міколкавым раннім дзяцінстве было многа падзей, але ці дужа іх успомніш усе. А таму і раскажам толькі аб тых, якія больш памятны Міколку, на якія ён не забываецца да апошняга дня. Памятае ён пра вужа, пра гарачыя спрэчкі з дзедам, пра матчыных курэй і пра зялёнага ката. Ды яшчэ пра слаўную дзедаву стрэльбу і пра сваё досыць цікавае знаёмства з царом.

Раскажам цяпер пра вужа.

Вольнымі днямі, калі Міколкаў бацька адпачываў і не ездзіў на паравозе, Міколка з бацькам ішлі на рэчку, якая працякала недалёка ад станцыі. Тут лавіліся добрыя акунькі, траплялі шчупакі на шнур, часам пападаўся дробны сом. А больш за ўсё лавіліся плоткі. Цэлымі стайкамі хадзілі яны пад лазовымі кустамі, паблісваючы на сонцы срэбнай лускою. Толькі знай закідвай вудачку.

Акрамя рыбы ў рэчцы было багата ракаў. Яны масціліся ў старых карчах, а то глыбока пад берагам, у спецыяльных норах-пячурках. У цёплыя дні Міколка лазіў з бацькам у рэчку і мацаў

ракаў. Да чаго ж прыемны занятак. Сагнешся як мага болей, каб толькі ў вушы вада не трапіла, а руку глыбей пад бераг. Засунеш руку ў нару, а рак цап за пальцы кляшнёй. Ціскане часам так, што аж вочы на лоб палезуць. Але не бяда, падхопіш яго, калючага, ды на бераг. Скачы там, як хочаш, кусайся. За гадзіну якую, глядзі, цэлае вядро ракаў дасталі. Прынясуць іх у вагон, паставяць. Павылазяць яны, разбрыдуцца па ўсёй падлозе. У такія шчыліны забяруцца, што маці потым гадзінамі шукае іх, выпорвае венікам ды праклінае нашых рыбаловаў.

Дзед Астап быў старым мікалаеўскім салдатам, служыў вартаўніком у дэпо, меў два срэбныя медалі за турэцкую вайну. У святочныя дні дзед важна чысціў свае боты, потым яшчэ важней цёр мелам свае медалі і, павесіўшы іх на грудзі, урачыста ішоў на станцыю, каб людзям сябе паказаць, як казаў ён, і на людзей падзівіцца. Прыйшоўшы са станцыі, дзед звычайна хваліўся:

— Іду гэта я аж каля самага жандара, а ён перада мной у струнку так і выцягнуўся… Бача, значыць, герой ідзе. А то яшчэ генерал мне насустрач… старэнькі такі… Ну, я пад казырок яму, а ён, не разгледзеўшы добра, сляпы, як відаць, стаў ва фрунт ды на ўсю станцыю: «Здравія жалаем, ваша высокаправасхадзіцельства». Вось яно як! Відаць, падумаў, што я яшчэ вышэйшы генерал… Ды перад усімі людзьмі, перад усёй станцыяй. Вось што знача мікалаеўскі салдат! Вось што знача — медалі!

Тут дзед важна стукаў сябе па грудзях, каб забразджалі медалі, каб відаць было, які ён, дзед Астап, ёсць герой на свеце, якога нават жандары і генералы баяцца, пад казырок бяруць.

Бацька і маці звычайна спакойна выслухоўвалі дзеда — яго заўсёдашняя пахвальба была ім у прывычку. Але Міколка кідаўся ў спрэчкі, сумняваўся.

— Ты, дзед, вялікі манюка!

— Як то манюка? — аж садзіўся ад злосці дзед.

— А так! Маніш усё… Бачыў я, як ты шапку перад жандарам здымаў і аж крактаў, нізка кланяючыся. А яшчэ перад начальнікам дэпо ты зусім без шапкі ходзіш… Вунь, калі дождж быў, дык хадзіў ты перад ім без шапкі, аж з лысіны цякло.

Дзед не мог уседзець ад знявагі. Ён таропка хапаўся за папружку, знімаў яе. Трымаючы адной рукой штаны, каб не ўпалі без папружкі, ён грозна размахваў другой рукой і наступаў на Міколку:

— Я табе пакажу, як дзеда ў манюкі залічваць! Я табе пакажу, як бэсціць героя турэцкай вайны, старога мікалаеўскага ваяку,

які, можна сказаць, вось гэтай слаўнай рукой сотні ворагаў пабіў — батальёны турак палажыў.

— А ты ж казаў, дзеду, дывізіі, а не батальёны! — кідаў Міколка і спешна ўцякаў з вагона, хаваючыся за блізкай стрэлкай. Дзед туды не пабяжыць. Нязручна яму скакаць цераз рэйкі, ды і небяспечна для адзення, яшчэ згубіш без папружкі. Таму дзед станавіўся звычайна ў дзвярах вагона і, патрасаючы кулаком, заводзіў доўгую дыскусію з Міколкам. Міколка агрызаўся:

— Ты, дзед, камара не заб'еш, не толькі што турка!

— А за што медалі мне дадзены?

— Як за што? А за лягушак…

— За якіх гэта лягушак? — здзіўляўся дзед, заўсёды забываючы гэты жарт над ім.

— А за тых лягушак, якіх ты ганяў з-пад пушак…

Сказаўшы гэта, Міколка лічыў за лепшае адступіць яшчэ на адну пазіцыю, падалей ад вагона.

«Хоць дзед звычайна і не ганяецца ўслед, але ўсё можа быць, — думае Міколка, адыходзячы далей і ўжо шкадуючы дзеда. — Відаць, перабаршчыў я крыху… Угневаецца цяпер дзед не на жарт…»

І сапраўды, дзед набіраўся вялікага гневу. Гэта ж жартачкі, усумніцца ў яго былой храбрасці. І хітры дзед мяняў тактыку. Ён і віду не паказваў, што ўкрыўджаны. Ён завіхаўся ля чыгуннай печкі, шчапаў лучыну, адным словам, займаўся мірнымі гаспадарчымі справамі. Але тым часам не зводзіў вока з падшыванца Міколкі. І калі той з'яўляўся дзе паблізу, дзед, быццам бы нічога не было між імі, клікаў Міколку:

— Унучак!

— Што?

— А ці не вып'ем мы з табой чаю?

Міколка думае з хвіліну. Як-ніяк чай вялікая спакуса. А дзед ізноў:

— Абаранкі ў мяне ёсць… Свежыя… А пахнуць жа, пахнуць.

— Ну! — здзіўляецца ў сваю чаргу Міколка. — Няўжо з макам?

— З макам, унучак, з макам! Ну і абаранкі! Дык вып'ем, кажаш?

— А што ты думаеш, дзеду! Давай сабе вып'ем…

І Міколка пераступае парог вагона, ужо ў думках ласуючыся абаранкамі, ды яшчэ з макам. Гэта ўжо, калі на тое пайшло, смачней за «зайцаў хлеб», смачней за ўсякія прысмакі.

І тут пачынаюцца гэтыя абаранкі, ды яшчэ з якім макам.

— Хадзі, хадзі, каток мой, паласуйся!

І дзедавы рукі нечакана спрытна ловяць Міколку за віхор. Тут толькі схамянецца Міколка, даведаецца, што папаўся. Але позна. Кастлявыя дзедавы рукі моцныя, з іх віхор не вызваліш. А дзед круціць віхор ды прыгаворвае:

— Гэта табе за лягушкі! А гэта за пушкі! А гэта з макам! А не вычварай над дзедам! А не рабі над старым надругі! А не здзекуйся над старым мікалаеўскім артылерыстам!

Ужо Міколка крычыць на ўвесь вагон, ужо заступаецца за яго маці:

— Кінь ты, чалавеча, з дзіцяці здзекавацца!

Але гэта толькі падлівае масла ў агонь. Дзед наступае на абодвух:

— Я вам пакажу, як зневажаць старога героя! Я вам пакажу, як турак б'юць… Я вам пакажу, як пушкі зараджаюць… Распатрашу пад карцеч!

Так асвойваў Міколка артылерыйскую справу. І бачачы, што не паласа, пачынаў ісці на міравую:

— Даруй, дзеду, здаюся!

— А, здаешся, даўней бы так! Гавары, хто такі я ёсць?

— Герой турэцкай вайны…

— Ну?

— І імператарскіх ордэнаў…

— Ну?

— Смешна, дзеду!

— Што ты смешнага тут знайшоў, супастат?

— Ну, кавалер… ордэнаў кавалер. Вунь у стрэлачнікавай Зоські ёсць кавалер, дык той малады. А тут дзед — ды кавалер. Смешна!

— Усё табе смешна… — ужо мякка крыўдуе дзед і кідаецца ў сумныя развагі: — Малы ты, не разумееш нічога, які кавалер і да чаго. Як бачыш, з'яўляюся я ўласнікам двух ордэнаў, а гэта, значыцца, і ёсць па-імператарску кавалер… А медалі гэтыя дадзены мне за праяўленую ў баях выключную храбрасць.

— А хто кажа, што не? — угаворвае і Міколка. — Вядома, за храбрасць… Храбрэй цябе, дзеду, няма, мусіць, на ўсім свеце? — падлабуньваецца Міколка да дзеда.

А гэта дзеду, што лыжка мёду. Аж сядзе на зэдлік і важна сівую бараду разгладжвае. Трохі яна няроўная ў яго — адна палавіна густая, другая — рэдкая. І медалі выне са скрынкі, унуку пакажа:

— Бачыш, гэта цар Мікалай… А тут вось і напісана: «За храбрасць!»

— А чаму ў цара барада смешная, на шчацэ канчаецца?

— Гэта не барада, дурань, а бакі.

— А чаму бакі?

— «Чаму, чаму»… Таму… У мужыка барада, а ў пана бакі. Усе генералы і афіцэры такія бакі насілі. Некаторыя і салдаты, каторыя спрытнейшыя, таксама бакі насілі. Ну, а каторы не спрытны, таму з такімі бакамі нязручна: самае выгоднае месца, каб за яго афіцэру ўчапіцца, да апошняга валаска выскубалі… Вось і мая барада калісь пацярпела, аж напалавіну выскублі.

— За храбрасць хіба? — пытаў не да ладу Міколка.

— Ат, гавары з табой…

І дзед кідаўся ў доўгую гутарку аб тым, што такое ёсць храбрасць. І не звычайная, а храбрасць мікалаеўскага артылерыста, які войны прайшоў і турэцкія крэпасці браў. Міколка ўважліва слухаў, каб займець з гэтай храбрасці сякія-такія здабыткі і для сябе. Дзед любіць, калі яго хто доўга слухае. І за гэта заўсёды пачастуе чым-небудзь. Вось і цяпер, калі дзед скончыў свае расказы аб турэцкіх крэпасцях, ён зрабіўся зусім лагодным і запрапанаваў Міколку:

— Хадзем хаця на станцыю, абаранак куплю!

На гэта Міколка згодны. Яны ідуць на станцыю. Дзед доўга таргуецца з буфетчыцай, усё выбірае, каб абаранак быў большым і мякчэйшым, ды паболей маку на ім. Так мірыліся дзед з унукам, і Міколка не пярэчыў тады дзеду і прызнаваў яго храбрым, хоць сам употайкі крыху сумняваўся ў гэтым. А тут яшчэ здарыўся выпадак адзін, праз які страцілася ў Міколкі ўсякая вера ў дзедаву храбрасць. Аднае ночы ўсе прахапіліся са сну ад вялікага крыку.

Крычаў дзед:

— Ратуйце хутчэй!

Маці кінулася да лямпы, усё не магла ніяк патрапіць на яе, каб запаліць хутчэй. А дзед усё крычаў:

— Хутчэй, хутчэй! Ой, дапамажыце!

— Што з табой, дзеду? — кінуўся да яго Міколка.

— Ой, гіну! Звяруга нейкая ў бараду ўбілася, стрыжэ яе, як нажніцамі…

Міколка сцяміў тут, у чым справа, ды хуценька да дзеда, цап яго за бараду. Дзед яшчэ большы крык узняў:

— Уцякай, уцякай, звер і табе пальцы адгрызе!

Але Міколка ўжо трымаў звера ў руках, толькі ніяк не мог вызваліць яго з барады. Тут маці лямпу паднесла, і ўсе ўбачылі ў дзедавай барадзе звычайнага рака, які запоўз туды і заблы-

таўся ў валасах. Ледзь-ледзь супакоіўся дзед, пакуль Міколка выблытаў рака.

— Гэта ж трэба! Сплю я і чую: нешта ў барадзе шамаціць. Я цап рукой, а ён, гэты звер, як шчыкане за палец, а потым за горла, думаў — галаву адгрызе.

Тут маці ўжо на Міколку ўскінулася:

— Вечна ты з бацькам з гэтымі ракамі носішся. А каб прыбраць іх як след, дык гэтага нямашака… Вось мог праз гэтага рака дзеда ў магілу загнаць.

І смех тут быў, як кажуць, і грэх.

А дзед з таго часу не мог спакойна глядзець на ракаў, і калі толькі даведваўся, што днём лавілі ракаў, дык перад ноччу абвяшчаў забастоўку, не хацеў класціся спаць на падлозе. І мусіў тады Міколка мяняцца з дзедам месцамі, даваў яму прытулак на сваім тапчане, а сам ішоў на дзедава месца. Ішоў і папракаў дзеда:

— А яшчэ стары ваяка! Яшчэ з гармат страляў!

— Гарматы і ракі — розныя, браце, штукі… — уздыхаў, апраўдваючыся, дзед.

— А яшчэ храбры! Вось я і то за цябе храбрэй, не баюся ракаў!

— Ну што ж, на ракаў ты храбрэц… — згаджаўся дзед з Міколкам і доўга крактаў, прыладжваючыся на тапчане.

Выйшла з дзедам і другая штука, калі аднаго разу рыбу лавілі. Праўда, і Міколка з бацькам набраліся тады здаровага перапуду, але больш за ўсё дасталося дзеду. Неяк у вольны дзень пайшлі рыбу лавіць на раку. Хоць дзед і не меў асаблівай прыхільнасці да гэтага занятку, але паколькі ён быў вольны і хацелася яму крыху прайсціся, дык і далучыўся да рыбаловаў. Тыя ў вадзе плёскаюцца, а дзед на беразе сядзіць ды парады дае.

— Адтуль, адтуль заходзь — там самая рыба ходзіць! — радзіць дзед ды піпку смыголіць.

Спачатку Міколка з бацькам з таптухай цялёпкаліся, а потым узяліся рукамі плотак лавіць паміж карчоў. І намацаў тут бацька няйначай як ментуза. Вядома, мянтуз слізкі, цяжка яго рукамі ўзяць. Бацька Міколку на дапамогу клікнуў. Ловяць рукамі, між карчоў шаруюць.

— Ну і вялікі ж, няйначай хунтаў на шэсць! — кажа Міколка, стараючыся спрытней падчапіць неўваротную рыбіну.

Але як ты яе ні бяры, выслізгваецца, ды годзе. Выслізгваецца ад Міколкі, падаецца пад карчом да бацькі. Ад таго зноў назад.

— За зябры яго, за зябры, гада! — падае дзед параду.

— Ну, вядома, не за хвост… — адказвае бацька і яшчэ спрытней бярэцца за ментуза. Але нічога не выходзіць. А дзеда тут ужо і нясцерп бярэ, дужа ж тым ментузом зацікавіўся. Трэба-такі сказаць, што дзед падабаў рыбу, ды яшчэ такую, як смажаны мянтуз.

— Рыба, яна, браце, заўсёды рыбіна! Гэта табе не ракі, з якіх ні смаку, ні наедку, а адна толькі прыкрасць ды барадзе маёй непакой…

І вось аж усхадзіўся на беразе дзед, забегаў. І піпка ў яго даўно патухла, знае толькі — рукамі махае ды нашых рыбаловаў ушчувае:

— Яшчэ рыбаловы! Ім рыбу! Вам толькі прусоў ганяць!

— Сам злаві, — усердаваў тут не на жарты бацька.

— І злаўлю!

— А паспрабуй жа.

— І што ты думаеш? І паспрабую. Ён у мяне не вyслізнецца, як у вас, у няўмекаў…

І дзед самым рашучым чынам скінуў адзежу і, павесіўшы яе на плечы — баяўся пакідаць на беразе, каб не скралі пастушкі, — смела рушыў у ваду.

— Дзе ён тут? Падавайце яго мне, я з ім разам распраўлюся, з супастатам!

Аж Міколка падзівіўся з дзеда, з яго незвычайнай спрытнасці — дзед так захадзіўся каля карча, аж вада кіпела наўкола. І вось урэшце дзед урачыста крыкнуў:

— Ага! Папаўся-такі, не мінуў маіх рук! А вы — няўмекі!

Міколку з бацькам засталося толькі пераглянуцца між сабой. Ну і дзед, не чакалі такога спрыту! Магчыма, што дзеду з яго кастлявымі пальцамі было зручней упраўляцца з ментузом, таму хутчэй і падчапіў яго. Дзед цягнуў ментуза надзвычай марудна. Мо проста з-за асцярожнасці, каб не ўпусціць часам рыбіну, а мо знарок хацеў надалей расцягнуць такую ўрачыстую хвіліну.

Вось пад вадой паказалася ўжо нешта жывое. Міколка хацеў ужо крыкнуць, што няйначай гэты мянтуз будзе фунтаў з пятнаццаць, бо такі ж вялікі. Але тут падзеі прынялі зусім нечаканы зварот. Толькі гэта дзед, урачыста гледзячы на Міколку, вывалак свайго ментуза з вады, як глянулі на яго Міколкаў бацька ды і сам Міколка і, як бачыш, сiганулі на бераг. Толькі пырскі паляцелі па вадзе. Аж збялеў Міколка, засопся. Выскачыў на бераг, азірнуўся. Стаіць дзед і на іх глядзіць, дзівуецца, не разумеючы, чаго яны драпака далі. Тут як закрычыць Міколка не сваім голасам:

— Ратуйцеся, дзеду, пакуль не позна!

Зірнуў тады дзед на свайго ментуза — і ледзь не самлеў. Аж прысеў у вадзе, умачыўшы сарочку. А тады як кіне ментуза падалей у рэчку ды як дасць драпака на бераг, аж адзенне згубіў, спатыкнуўшыся аб корч. Паплыло яно ўрачыста па рацэ. Ледзь злавіў яго потым Міколка, ад'ехаўшы на чаўне ад берага.

І калі аддыхаліся потым усе ад перапуду, дзед пачаў грозны наступ на Міколку і на яго бацьку:

— І якое ліха панесла вас вужаку лавіць?

— А цябе якое?

Змоўчаў дзед на якую хвіліну. Гэтакі ж канфуз выйшаў — усё ішло так добра і гладка, і на табе, заместа ментуза гада злавілі. А яшчэ парады даваў, а яшчэ выхваляўся. Пасля гэтага здарэння дзед канчаткова рашыў ніколі болей у ваду не лазіць. І калі траплялася часамі Міколку з бацькам лавіць якую рыбіну ў рацэ, дзед асцерагаўся нават падыходзіць блізка да іх, калі яны выцягвалі на бераг таптуху альбо брэдзень. І толькі здалёк пытаў:

— Ну што, шчупак ці акунь?

— А ты падыдзі, сам паглядзі!

— Хопіць ужо, нагледзеўся…

Прызнацца, і Міколка з бацькам не адважваліся болей мацаць ментузоў і, да вялікай радасці дзеда, баяліся лазіць і па ракавых пячорах.

— Яшчэ, чаго добрага, і адтуль выцягнеш трасцу якую паласатую…

А дзед толькі гаварыў:

— Цяпер-то я магу спаць спакойна!

Пасля ўсіх гэтых прыгод з дзедавым ракам і ментузом кончыліся і ранейшыя дыскусіі дзеда з Міколкам, хто з іх храбрэйшы. Абодва прыйшлі да таго вываду, што храбрасці хапае ў іх абодвух… Нават сталі яны блізкімі дружбакамі і зімнімі вечарамі вялі доўгія размовы аб тым, як бы гэта агульнымі сіламі адпомсціць «буржую» за Міколкаву карцінную галерэю. І аб тым, што яны будуць вясной рабіць, калі жаўранкі запяюць, калі зазвіняць ручаіны і ўкрыюцца лясы зелянінай.

І парашылі ў адзін голас — будуць яны ў вольныя ад работы дні заўзятымі паляўнічымі, будуць качак біць і ўсякую другую жыўнасць. Тым больш што была ў дзеда слаўная стрэльба, якая вісела без усякай карысці пакуль што на сцяне. Стрэльба, праўда, была дужа старая, старэй самога дзеда, і парадкам заржавелая, страціўшая ўсякі колер і від. Але як-ніяк яна магла страляць, а гэта ўжо вялікая штука. Прызнацца, і цяпер яна вісела набітая, бо колькі ні намагаўся дзед, каб разрадзіць яе, яму ніяк гэта не

ўдавалася. І каб не нарабіць са сваёй стрэльбай якой шкоды, дзед абкруціў анучай куркі ды зверху ўмацаваў яшчэ наглуха дротам, каб такія падшывальцы, як Міколка, не нарабілі б часам бяды са стрэльбай.

Такая слаўная стрэльба была ў дзеда. І не дзіва, што Міколка, седзячы зімой у халодным вагоне, так нецярпліва чакаў вясны. І цёпла тады. І качкі тады лятаюць. І ўсякая жыўнасць у балоце варушыцца.

Вось слаўная пара настане!

## ГІСТОРЫЯ З ДЗЕДАВАЙ «АРУДЗІЯЙ»

Прыйшла ўрэшце вясна. Пачарнелі чыгуначныя пуці і курыліся парнасцю пад сонцам. А вечарамі храбусцелі льдзінкі ў лужынах і востра пахла зямлёй, мазутам і каменным вугалем. Гучна гудзелі паравозы, і ліхтары гарэлі ў іх па-новаму, па-веснавому. І самі паравозы рабіліся куды прыгажэйшымі. Не было тых іржавых лядовых сасулек, што віселі зімой пад дышламі, пад цыліндрамі, не было намёрзлага бруду, копаці. Паравозныя бакі льсніліся на сонцы і дрыжалі, гатовыя ўздыхнуць на ўсю моц сталёвых цыліндраў і панесціся ўдалячынь хутчэй ветру і птушкі.

А ў небе курлыкалі журавы і паблісквалі на сонцы, нібы нехта сарваў з тэлеграфнага слупа нізку фарфоравых ізалятараў і кінуў іх высока-высока ў блакітныя бездані неба.

Хораша вясной! І дыхаць лягчэй, і на нагах неяк цвярдзей становішся. І цяплей куды робіцца. І не трэба дзень пры дні сядзець у цесным вагоне і дыхаць цяжкім смуродам ад каменнага вугалю ў жалезнай пячурцы. І дзеду вальней. Выйдзе з вагона, усядзецца на штабель шпал, размінае пад сонцам старыя косці і турэцкую вайну ўспамінае. А калі дзед прымецца за турак, то звычайна каля яго і Міколка аціраецца.

— Ну дык што ж, дзед, час ужо нам з табою на паляванне рушыць!

— А што ты думаеш! Вось абсохне зямля, тады і пойдзем…

Прыйшоў і доўгачаканы дзень. Дзед урачыста зняў са сцяны стрэльбу, узброіўся абцугамі і доўга раскручваў дрот, не падпускаючы ні на крок Міколку.

— Яшчэ, чаго добрага, пекане, дык лепш адыдзіся!

Але стрэльба трымала сябе спакойна. Развязаўшы дрот і дастаўшы капшук з порахам і пістонамі, дзед з Міколкам ру-

шылі ў паход. Гукнулі з сабой і невялічкага сабачку Жэўжыка. Жэўжык быў рад такому выпадку і, наставіўшы хвост пісталетам, важнецка бег перад паляўнічымі, старанна абнюхваючы кожны слупок, кожны пянчук. Дзед не хваліў такіх паводзін і штохвіліны падганяў «ганчака»:

— Пайшоў, пайшоў! Зайцаў ганяй, шкнарадзь!

Але відаць было, што асаблівага спрыту ў паляўнічых справах Жэўжык не меў і толькі кідаўся ў розныя бакі, ганяючыся за першай папаўшайся птушкай. Хутка і зусім знік, сігаючы па балоце за нейкай птахай. Доўга хадзілі нашы паляўнічыя, ногі намачылі, але ніякай здабычы не траплялася. Ні заяц не набягаў, ні дробная птушка не пралятала паблізу. Толькі і заўважылі каршука, які лятаў кругамі над ляском, апускаючыся ніжэй і ніжэй. І ён хутка сеў на высокую алешыну ў балоце.

— Знаеш што, дзед? Давай каршука падстрэлім!

— А што ты думаеш? Пеканём!

Дзед зняў стрэльбу з пляча, доўга прыладжваў пістон, той усё саскокваў, пакуль дзед не прымацаваў яго кавалачкам хлеба. І ўжо дзед стрэльбу да пляча прыставіў і жмурыцца пачаў левым вокам, як Міколка, падштурхнуўшы яго пад локаць, дыскусію распачаў:

— Не павінен ты, дзед, першы страляць!

— Як гэта так?

— А так… Ты вунь колькі настраляўся за сваё жыццё: і з стрэльбы страляў, і з гармат смаліў… Сам жа казаў, колькі ты дывізій турэцкіх палажыў… Давай-ка стрэльбу сюды, я першы стрэлю…

Дзед падумаў з хвіліну, патыліцу пачухаў:

— Наконт турак ты гэта правільна… Ну што ж, страляй… Толькі глядзі, станавіся моцна, а то паваліцца можаш ад аддачы.

— Нічога, вытрымаю…

Міколка ўпёрся нагой у купіну, стрэльбу падняў. Цяжкая яна тым часам. Доўга цэліўся ў каршука, аж руля захадзіла ходырам, да таго рукі дрыжалі.

— А ты не хвалюйся! Вытрымку дай! — раіў дзед, стоячы збоку.

Прыжмурыў вока Міколка, на курок націснуў. І што адбылося тут, дык і сам дзед спачатку нічога не зразумеў, бо стрэльба бахнула, як батарэя гармат. Воблака шызага дыму паплыло па алешніку, мякка ахінаючы кусты і дрэвы. У двух кроках ад сябе нічога нельга было ўбачыць.

— Дзе ты, Міколка? — запытаўся, ачухаўшыся, дзед.

Ніхто не адказаў, і дзед яшчэ раз запытаўся. Ізноў маўчанне. Тады дзед спалохаўся не на жарты і пачаў на ўвесь голас клікаць унука. Урэшце, як з-пад зямлі, раздаўся ціхі, прыглушаны голас:

— Я тут, дзеду, а што з каршуком?

— А ліха з ім, з каршуком. Скажы лепей, што з табой?

Тут разышоўся дым, і дзед убачыў Міколку. Той ляжаў на зямлі, перакінуўшы праз купіну ногі, і цёр то плячо, то шчаку. На шчацэ была кроў. Дзед зусім перапалохаўся.

— Ці жыў ты хаця?

— Жыў! А ты, дзеду?

— Як бачыш, варушуся…

З дзедавай дапамогай Міколка ўстаў на ногі. І тут толькі яны заўважылі, што ад слаўнай дзедавай стрэльбы засталіся адны толькі ўспаміны. І каб сказаць прыемныя — дык не: адна толькі пашчапаная ложа ды перагнуты курок. Ні рулі, ні шомпала нідзе паблізу не аказалася, колькі ні шукаў іх збянтэжаны дзед, адразу застаўшыся без такой слаўнай «арудзіі», як часам называў ён сваю стрэльбу.

— Лоўка ж пеканух! — здзівіўся дзед. — Каб з кожнага стрэлу ды стрэльбу ў паветра, што б тады зайцы выраблялі: засмяялі б яны тут нас…

І як ні шкадаваў дзед стрэльбы, але, каб падтрымаць бадзёры дух у свайго таварыша, ён кінуўся ў рогат. Міколку, аднак, было не да смеху, бо ныла балюча плячо і вельмі садніла параненая шчака. Аднак, каб трымаць сябе дастойна перад дзедам і не паказаць віду, што яму дужа баліць, што ён вельмі напалохаўся, Міколка важна распытваў дзеда, з якой прычыны «арудзія» разляцелася на кавалкі.

— Відаць, што заржавела стрэльба… Ды і набой быў моцны, праз меру… бадай з паўхунта пораху заправіў я калісьці ў рулю. Яшчэ добра, што так пашанцавала нам… Магло б быць, унучак, трохі горай…

І яны абодва прыняліся ўважліва шукаць забітага каршука. Не магло быць, каб ад такога стрэлу ды застаўся каршук цэлы. Але ён, нібыта нічога і не было, сядзеў сабе на той алешыне, на якой сядзеў і да стрэлу.

— Справы! — пачухаў дзед патыліцу. — З такіх паляўнічых, як мы, і птушкі смяюцца.

А тут яшчэ некалькі пастушкоў падбегла і ўсё дапытваліся, дзе гэта такі вялікі выбух адбыўся, што аж зямля страсянулася і нешта ў паветры праляцела з вялікім грукатам і вурчаннем.

Паслухалі Міколка з дзедам гэтыя размовы і, панурыўшы плечы, паклыпалі моўчкі дахаты. І каб не Жэўжык, дык зусім

упалі б духам нашы слаўныя паляўнічыя. Аж адкуль ні вазьміся з’явіўся сабачка, які ўрачыста нёс у зубах нейкую птушку. Бегаючы па балоце, ён налаўчыўся недзе злавіць дзічыну і не паспеў яшчэ расправіцца з ёй, як напаткаў Міколку з дзедам.

— Ну вось, мы цяпер і не з пустымі рукамі дахаты вярочаемся, ёсць і здабытак!

І Міколка адабраў у Жэўжыка яго здабычу. Той адразу ж кінуўся зноў у балота. І не прайшло некалькі хвілін, як ён выбег з другой птушкай у зубах.

Так дапамог Жэўжык нашым паляўнічым паправіць крыху іх паляўнічыя справы. І да таго ўнадзіўся Жэўжык птушак лавіць, што Міколка і дзед кожнага вольнага дня ішлі з ім на луг да ракі альбо на балота і займаліся паляваннем. Ім і стрэльба цяпер непатрэбна была, малы сабачка быў вельмі спрытны на птушыную лоўлю. А слаўныя паляўнічыя прывучылі яго не псаваць здабычу, а цэлай прыносіць у рукі.

Але нядоўга цягнулася такое шчаслівае паляванне. І тут пасцігнула нашых паляўнічых чарговая няўдача. І, сказаць бы, праз каго? Праз матчыных курэй і пеўня. Задумала маці летам курыную гаспадарку развесці і купіла недзе тры курыцы і пеўня. Быў гэты певень крыху недалужны, кульгаў на адну нагу, але гэта не перашкаджала яму быць здольным певуном і кожнае начы гучна выводзіць сваё непераможнае «кука-рэ-ку!».

Уся курыная гаспадарка змяшчалася ў фанернай скрынцы пад вагонам, і маці дужа клапацілася аб тым, каб хто не спакусіўся на яе птушынае багацце. І вось аднаго разу, праз няшчасных гэтых паляўнічых, як казала маці, птушыная гаспадарка ўраз загінула. Неяк надумалася маці ў сонечны дзень выпусціць курэй са скрынкі, каб яны крыху пабегалі па пяску, паглядзелі белага свету. Выпусціла, пільнавала іх сярод пуцей, але потым на хвіліну адлучылася ў вагон. Як на бяду, тут трапіўся Жэўжык. Набраўшыся вялікага паляўнічага спрыту і, відаць, прыняўшы курэй за нейкіх балотных птушак, ён умомант задушыў трох курэй і, паклаўшы іх на парог вагона, кінуўся як дуж за пеўнем. Той даў лататы. Жэўжык — за ім.

Певень і скокам, а часамі і падскокам імчаў, як віхор, аж пад самае дэпо. Магчыма, і не давялося б Жэўжыку дагнаць курынага ўладыку, мо і ўцёк бы ён ад нашага паляўнічага, але тут, як на бяду, імчаў насустрач пасажырскі цягнік. Толькі пер’е ўзляцела ў паветра — усё, што засталося ад кульгавага певуна, трапіўшага пад паравоз. Убачыла маці такое няшчасце і за галаву схапілася. Ды, узяўшы ў рукі лапку пеўня — неяк засталася

цэлая пад вагонамі, — прыйшла з гэтай лапкай у вагон ды тыц ёю дзеду ў самую бараду, а потым, доўга не думаючы, ды гэтай самай лапкай Міколку па патыліцы.

— Праз вас певень загінуў!

Міколка з дзедам, не кідаючыся дужа ў спрэчкі, адразу ж падаліся вон з вагона, далей ад разгневанай маці.

— Уцякайма, пакуль не позна. А то можа быць горай!

Але больш за ўсіх дасталося лепшаму памочніку нашых паляўнічых, заядламу «ганчаку» Жэўжыку. Злавіла яго маці і адразу панесла да таварнага цягніка, што стаяў на станцыі. Там адчыніла дзверы ў адным з пустых вагонаў і, загнаўшы туды Жэўжыка, зачыніла дзверы. А праз якую хвіліну цягнік пайшоў. Так і паехаў без білета Жэўжык, найлепшы дружака нашых паляўнічых, да суседняй станцыі з таварным цягнікам. А мо і не да суседняй, мо куды і далей. Хіба прасочыш за таварным вагонам, куды ён ідзе, дзе ён спыніцца пад пагрузку.

З ад’ездам Жэўжыка спыніліся паляўнічыя справы Міколкі з дзедам, бо не з голымі ж рукамі на качку ісці. І доўга яшчэ памінала маці іх паляўнічыя ўдачы і сваю трагічна загінуўшую курыную гаспадарку. І толькі бацька пасмейваўся:

— А ўсё ж трапна выйшла. Каб не займаўся дзед з Міколкам паляваннем, то не давялося б нам курацінкі паспытаць!

Дзед і Міколка лічылі пры гэтым за лепшае памаўчаць, каб не вярэдзіць матчыны раны і залішне не выклікаць яе гневу.

## МІКОЛКАВЫ НЕПАРАЗУМЕННІ З БОГАМ

Дужа багата было непрыемнасцей у Міколкі з-за Бога. Ніяк не мог зразумець ён, што гэта за такая таемная асоба, якой баяцца людзі, якой баіцца маці. Нават дзед — на што ўжо храбры чалавек — і той, калі прыставаў да яго Міколка з роспытамі пра Бога, адмахваўся рукой і шэптам казаў:

— Адчапіся, унуча, з гэтым сваім Богам. Ці я вучоны чалавек, каб ведаць, што гэта такое за стварэнне… А калі маці цябе маліцца прымушае, дык ты і памаліся, язык жа ў цябе не адваліцца… А не захочаш маліцца, то, вядома, маці дасць табе пытлю.

А пытлю маці давала часта. Як толькі падымаўся Міколка з ложка, то маці тут як тут:

— Ану, станавіся «Ойча наш» чытаць! Кажы ўслед за мной: «Ойча наш, іжа ясі на небясах…»

Стаіць Міколка, на абраз глядзіць, у маці пытаецца:

— А што такое «ясі на небясах»?

Маці ад нечаканасці не ведае, што рабіць. Дужа яна ведае, што такое «ясі». Нерашуча адказвае:

— То ясі… Бачыш, мы ямо, скажам, хлеб, і Ойча наш — Бог таксама, мусіць, есць, бо далей і гаворыцца пра хлеб насушны…

А дзед моўчкі збоку слухае матчыны тлумачэнні, ды не сцерпіць і ў бараду сваю: хе-хе-хе.

Зірне на яго грозна маці, дзед адразу як шоўкавы, сядзіць, не варухнецца.

А маці далей дыктуе:

— Хлеб наш насушны даждзь нам днесь…

А Міколка зноў пытае:

— А чаму толькі насушны, а калі я, скажам, пірага хачу ці абаранка?

Не сцерпіць тут дзед, падказвае: «З макам», а сам хуценька падаецца за дзверы, убачыўшы, што маці грозна пазірае на качарэжку каля печы.

А Міколка зноў са сваімі роспытамі:

— А ці любіць Бог «зайцаў хлеб»?

Замест адказу матчыны пальцы даволі блізка знаёмяцца з Міколкавым вухам, і яно пачынае гарэць і чырванець, як той семафор за стрэлкамі. А маці прыгаворвае:

— Гэта табе за «зайцаў хлеб»! А гэта табе за непаслушэнства перад Богам. А гэта табе… бязбожнік ты гэтакі… Кажы цяпер «Багародзіцу»!

Маўчыць Міколка, насупіўшыся.

— Кажы: «Багародзіца Дзева, радуйся, благадатная…»

— Дужа яна ўзрадавалася б, твая благадатная, калі б яе так за вуха пацягалі… — мармыча Міколка пад нос.

— Што ты вярзеш там, неслуш! — гневаецца маці. — Ну, пачынай!

— Не буду…

— Кажы адразу!..

— Не буду… — упарта стаіць на сваім Міколка і скоса пазірае, як матка развязвае матузы ад фартуха, становячыся бліжэй да дзвярэй, каб адрэзаць Міколку ўсякі шлях да адступлення. Калі заўважае Міколка, што развязваецца апошні вузел і матузовая пагроза набывае яўную небяспеку, ён маланкай кідаецца пад тапчан, наганяючы страху на спаўшага там ката. Той стралой імчыць да дзвярэй, збіваючы з ног Міколкаву маці.

— Пастой жа, я цябе ўчастую, пазнаеш ты ў мяне Багародзіцу!

— А няхай яна згарыць, твая Багародзіца! — лямантуе пад тапчаном Міколка, забіраючыся ў самы куток за розныя скрынкі, клумкі з лахманамі.

— Пастой жа, паспытаеш ты ў мяне благадаці… — рашуча бярэцца маці за качаргу, і пачынаецца, як кажа дзед, баталіявайна. Праўда, выпараць Міколку з-пад тапчана — не такая-то лёгкая справа. Ды і дзед прыходзіць на дапамогу Міколку. Ён асцярожна падыходзіць да дзвярэй і пачынае ўшчуваць маці:

— Ты пасаромелася б людзей, кабета. На роднае дзіця з ражном перці… Ды Бога пабаялася б, ён жа ўсё бача… — і дзед урачыста падымае руку ўгару, нібы хоча паказаць ёй Бога на небе. Усё гэта ён робіць, каб адцягнуць матчыну ўвагу ад Міколкавых тапчаноў. Маці мімаволі глядзіць угару. Там ляціць звычайная варона. Пакуль маці прыглядаецца да яе, Міколка паспявае вылезці з-пад тапчаноў і праслізнуць у дзверы пад самымі матчынымі рукамі. Тая толькі паспявае войкнуць — лаві цяпер бязбожніка ў чыстым полі. Усё гэта хітрыкі дзеда, і маці добра разумее яго палітыку. Але што ты з гэтым дзедам зробіш, не ганяцца ж за ім з качаргой, за гэтым старым бязбожнікам.

А дзед ужо ідзе з Міколкам да дэпо і павучае ўнука:

— Ты, браце, заўсёды, калі туга табе давядзецца з Багародзіцай, дык імчы ў дэпо. У нас, браце, багі не ў пашане, ураз ім крыллі абскубуць.

І сапраўды, хоць і віселі ў дэпо сям-там абразы, але не бачыў Міколка, каб дужа маліліся перад імі, шапкі скідалі. Усё больш завіхаліся ля паравозаў, ля паравозных колаў, кляпалі паравозныя печы, расточвалі цыліндры. І такі грукат стаяў там, што любы Бог, як думаў Міколка, адразу павінен быў аглухнуць. А якая пашана ім, глухім? Вісяць вось на сценах, копаці набіраюцца. І не дзіва, што дэпоўцы не паважаюць багоў. Вось і Міколкаў бацька, калі надакучала маці яму сваімі жалобамі на сынава бязбожніцтва, звычайна агрызаўся:

— А кінь ты са сваім дурным Богам!

Дзівіўся тады Міколка: у маці Бог разумны, у бацькі ж ён выходзіць дурным. Каму ж верыць? Відаць, бацьку, бо той усё ведае, той свет аб'ехаў на паравозе. І ўсё большае непавагі набіраўся Міколка да багоў, хоць і цярпеў за гэта не раз вялікія непрыемнасці. І не толькі ад маткі, але асабліва ў школе, куды давялося яму ў хуткім часе патрапіць. Тут адразу ўткнуўся ён у дыскусію з папом, не ведаючы спачатку, што такія дыскусіі заўсёды канчаюцца для вучняў вельмі кепска. Поп, заўважыўшы новага вучня, адразу спытаў Міколку:

— Хто ты такі?
— Міколка… — крыху нерашуча адказаў ён.
— Дурань! — накінуўся чамусьці поп. — Перш за ўсё ты раб Божы…
— Ну, гэта ўжо хлусня, усё роўна, што ў дзеда пра туркаў, — набраўся смеласці Міколка. — А мы не рабы божыя, а рабочыя-дэпоўцы…
Чуў Міколка пра рабочых, а пра нейкіх рабоў яму чуць не даводзілася. Тут і ўсхадзіўся поп.
— Хто, хто? — перапытаў ён, набіраючыся злосці, і ўжо запусціў свае пальцы ў Міколкаў віхор.
— Паравознікі мы, во хто мы… — пераказаў яшчэ раз Міколка, горка плачучы, бо поп не на жарты ўзяўся за яго чуб.
А другі раз такая дыскусія закончылася яшчэ горш для Міколкі. Расказваў поп, як Бог займаўся будаўніцтвам, як будаваў і стварыў свет, неба, зямлю, расліны і жывёлу і як урэшце ён чалавека стварыў, Адама, а з яго рабрыны жонку гэтаму чалавеку, Еву. Слухаў, слухаў Міколка ды — у рогат. Так і пусціўся ў смехі, аж да скамейкі прысядае. Раз'ярыўся поп, наступае грозна на Міколку:
— Ты чаго, ірад, з Божага слова смяешся?
А Міколка не сціхае, рагоча, заліваецца. І як не смяяцца яму. Узгадаў ён пра Адама і Еву. Не пра тых, з якімі Бог займаўся, а пра самых звычайных. Пра стрэлачніка Адама і прыбіральшчыцу Еву, якая дэпо падмятала. Худзюшчыя абодва, толькі рэбры ды косці. А «буржуй» вунь тоўсты-тоўсты, ледзь у дзверы пралазіць, калі ходзіць па складзе. А поп ужо за вуха Міколкава ўзяўся:
— Кінь смяяцца, кажу!
— То як жа кінуць, калі смешна… Калі Адам і Ева ў нас такія хударлявыя, што Богу і клопату не было з імі, ці доўга іх стварыць… А вось як гэта Бог «буржуя» стварыў, няйначай тры дні пацеў.
— Якога «буржуя»? — вытарашчыў поп вочы.
— Ды нашага, што складам пры дэпо і нашымі вагонамі, дзе мы жывём, загадвае… Такі ж таўшчэзны. І злосны, гад, як прыйдзе, дык усё лаецца.
Поп учапіўся, як абцугамі, за вуха і пацёг Міколку ў кут на калені.
— Станавіся тут і не варушыся! — і як бразне Міколку аб падлогу, у таго аж іскры пасыпаліся з вачэй.
— А ты не біся, чорт кудлаты! — не сцярпеў тут Міколка ды як хопіць зубамі за папоўскую руку, той аж падскочыў на месцы.

І чаго-чаго не было тут пасля. Даўся ў знак Міколку гэты «буржуй». Пацярпеў і чуб, і вушы, і калені, хапіла яшчэ і па патыліцы. А ў дадатак да ўсяго загадалі бацьку паклікаць у школу. І доўга ўпрошваў бацька папа, каб не злаваў ён дужа на дзіця, якое нічога не разумее і вярзе часам тое, у чым само добра не разбіраецца. І калі ішлі са школы, бацька ўгаворваў Міколку:

— Ты ўсё ж дужа не задзірайся з папом… Вось выганяць са школы, дык будзе зусім дрэнна і будзеш зусім ты цёмным чалавекам. А што ён, поп гэты, гаворыць там, дык ты слухай і маўчы, ліха з ім.

— Калі ж гэты «буржуй» дужа смешны… Каб Бог ды стварыў яго.

І рашыў Міколка адпомсціць калі-небудзь «буржую» за ўсе непрыемнасці, панесеныя праз яго. А тут яшчэ і прычыны былі новыя. Ужо даўно працякаў дах, прагнілі некаторыя дошкі ў вагоне. І колькі ні прасіў бацька «буржуя», каб той загадаў дах пафарбаваць ды вагон падправіць, «буржуй» заўсёды аднекваўся ды лаяўся яшчэ:

— Набярэшся тут на вас на ўсіх фарбы, калі на паравозы ды на вагоны не хапае…

Адмаўляў.

А зрабіць ён быў павінен. І ведалі ўсе, што крадзе гэты загадчык усё са склада, прэ цэлыя бочкі — аліву, фарбу, скрынкі цвікоў, шкло, жалеза, — што ні трапіць пад руку. Збывае потым, прадае гандлярам. Затое і дом, які будаваў сабе за крадзеныя грошы, — палац цэлы. Дзе ж ты тут дапросішся ў яго?!

— Узяў бы я яго ды з пузам у бочку, у бочку з мазутам ці з фарбай… Ведаў бы тады ён.

А што ён ведаў, Міколка і сам добра не разумеў.

Але ў хуткім часе Міколка сапраўды адпомсціў «буржую». І хоць помста была і не дужа вялікай, але давялося ўсё ж «буржую» перажыць некалькі непрыемных хвілін. Было гэта тады, калі «буржуй» скончыў будаваць свой дом. Дом быў яшчэ не агароджаны, стаялі толькі некалькі сарайчыкаў з рознымі матэрыяламі, і, як падгледзеў Міколка з групай сваіх дружбакоў, былі там і бочкі з фарбай. З прычыны завяршэння будаўніцтва дома гаспадар наладзіў урачысты баль, склікаў шмат гасцей. Тут быў і начальнік дэпо, і некаторае дарожнае начальства, усе вялікія шышкі на чыгунцы. Госці веселіліся ў невялікім садку, выпівалі, закусвалі. Тут жа круціўся ля стала і вялікі пушысты кот, любімец «буржуя». Міколкава кампанія доўга завіхалася ля садка, пакуль ім не ўдалося заманіць ката да сябе і злавіць яго.

А злавіўшы, усе забраліся ў адзін сарай і наладзілі кату хрышчэнне ў бочцы з вадкай зялёнай фарбай, якой фарбуюць звычайна пасажырскія вагоны. Акунуўшы ката разы са два ў бочцы так, што з яго цякла з усіх бакоў фарба, Міколкава кампанія задала лататы і, схаваўшыся за садком, назірала, што будзе рабіць кот. Той адразу ж кінуўся да гасцей і, не доўга думаючы, скочыў на калені да свайго гаспадара і пачаў атрасацца ад мокрае фарбы. «Буржуй» не заўважыў спачатку нічога, усё гаварыў нешта з гасцямі. Але потым да Міколкавай кампаніі данёсся выбух рогату: то смяяліся госці з катовых учынкаў. Увесь летні касцюм гаспадара быў канчаткова сапсуты.

Тады Міколкава кампанія крыкнула на ўвесь голас: «Крадзеная, крадзеная!» і ў адзін міг кінулася наўцёкі. Што было далей з «буржуем», Міколка не ведаў. Але быў вельмі задаволены — хоць чым-небудзь ды адпомсціў ненавіснаму чалавеку.

— Будзе ведаць, як фарбы шкадаваць нашым людзям…

## ЦАРСКІЯ АРЛЫ

Акрамя непрыемнасцей праз Бога, меў іх Міколка і праз цара. Чуў ён пра яго і дома, і ў школе. У школе нават спецыяльнай малітве вучылі, дзе гаварылася аб тым, каб дапамог Бог яго імператарскай вялікасці, каб захаваў яго жыццё і даў перамогу над супастатамі.

«Вось гэта дык асоба, калі ўсе моляцца аб ёй», — думаў Міколка. Дома ён распытваў дзеда, хто такі цар.

— Ого! Цар — гэта, браце мой, цар, а не абы-што… — адказваў дзед. — Ён табе сядзе вячэру спраўляць, а навокал тысячу слуг… Не менш! Адзін каўбасу падае, другі — гарэлку, трэці — селядца, чацвёрты, браце мой, салоныя агуркі прэ.

— А пяты? — пытае Міколка.

— Пяты? Ну і пяты мае якую-небудзь справу, скажам, бліны падае, дранікі або капусту тушаную… — прыпамінаў дзед стравы, каб даць абавязак для кожнага слугі.

— А ці есць цар прэжаны гарох? — пытаўся Міколка пра свой найлепшы прысмак.

Дзед доўга чухаў патыліцу, не ведаючы, як адказаць. Але потым, каб падтрымаць свой аўтарытэт, рашуча казаў:

— А што ж ты думаеш! Магчыма, есць… Ён, браце, усё можа… Захоча гароху — з’есць гароху, захоча смятаны — яму падаюць смятану… Яшчэ толькі ў думках у яго пра смятану, а

тут ужо слуга перад ім з гладышом смятаны, хоць адбаўляй… Але, як мне здаецца, цару і без гароху добра жывецца… Гарох жа не панская яда.

Тады ўжо Міколка кідаўся ў спрэчкі з дзедам:

— Не можа быць, каб гароху не еў! Няма нічога на свеце смачнейшага, як гарох. А цар, відаць, не дурны.

— Вядома, не дурны… Ён, браце, і хітры, усё ведае, хто дзе жыве і што думае. Вось і пра нас з табой ён ведае. Сядзіць дзе-небудзь у Пецярбургу на троне, на карту зірне, бачыць — станцыя наша… І адразу ў думках у яго: «Ага! А ў мяне там стары герой турэцкай вайны Астап жыве з унукам Міколкам, а паказаць іх мне перад мае царскія вочы!» І што ты думаеш! Ён усё можа. Захоча пакараць, адразу і скажа: «Ану, падайце мне сюды Міколку, я яго жыццяя рашу за непаслушэнства!» І чык-чырык — няма галавы ў Міколкі… А захоча памілаваць, скажа: «А што табе, Міколка, даць — залатыя палацы ці цуда-камень самацвет?»

— Мне палацы залатыя непатрэбны… — уздыхае Міколка. — От бы далі нам, дзеду, невялічкую хату, каб табе на падлозе не спаць ды зімой нам усім не прастуджвацца…

— Бачыш, куды ты хапіў! Невялічкую хату — гэта, браце, для цара цяжэй, чым залатыя палацы… Не любіць цар такой драбязой займацца.

Міколка ўздыхаў, не згаджаўся з такімі парадкамі.

Так гаварылі часта паміж сабой дзед з унукам. Міколка і ў бацькі пытаўся пра цара і пра гарох прэжаны.

Бацька пасмейваўся, на дзеда міргаў:

— Ты яго, Міколка, слухай, ён табе казак нагаворыць, усё роўна як пра турэцкую вайну. Цар народ кулямі частуе, вось пра які гарох ён дбае…

Кулі і гарох — незразумела гэта крыху для Міколкі. Распытаў бы яшчэ пра цара ў бацькі, але той не асабліва паважае такія гутаркі.

— Адчапіся ты з царамі сваімі… Трутні яны, крывасмокі на нашым целе.

— Як буржуі?

— Ну, вось… Цар над усімі буржуямі буржуй, вось хто такі цар…

Не шкодзіла б яшчэ каго распытаць пра цара, але няма ў каго. Не ў папа ж таго ў школе. Можа выйсці горай Адама і Евы…

А неўзабаве давялося Міколку з царом пазнаёміцца, ды яшчэ як! Так пазнаў цара, што потым і другім не раіў.

Аднае раніцы панесліся па вагонах чуткі, што заўтра цар будзе па чыгунцы ехаць. І сапраўды, яшчэ ўвечары ў вагон да Міколкі ўваліліся салдаты і пара жандараў. І так па ўсіх вагонах пасёлка. Бацьку і дзеду далі спецыяльныя бляшкі, каб павесілі на грудзі замест прапускоў. Гэта каб кожны бачыў, што яны служаць на дарозе, і не затрымліваў на пуцях. І вельмі строга загадалі, каб не хадзілі, аднак, без патрэбы па пуцях і каб ні кроку не рабілі на станцыю. Ды загадалі яшчэ навокал вагона жоўтага пяску насыпаць. А маці цэлы экзамен учынілі, загадалі ёй вагон звонку адмыць і новымі хусткамі дзверы і вокны завесіць, каб не бачыў цар лахманоў гэтых тухлых, не псаваў бы настрою. І каб самі ля вокнаў не стаялі, іначай «страляць будзем».

— Ды глядзі, галадранца гэтага за дзверы не выпушчай, убача цар — у Сібір тады запяком! — гэта ўжо ў дачыненні да Міколкі.

«Відаць, пабойваецца мяне цар, калі зірнуць на мяне баіцца…» — падумаў Міколка, але змоўк, не сказаў нічога.

І як прачнуўся Міколка, так і пільнаваўся акна, а ці скора царскі цягнік пойдзе. Бачыў ён, як завіхаліся на пуцях рабочыя, якіх падганялі жандары. Рабочыя падчышчалі і падмяталі пуці, замыкалі стрэлкі і наглуха забівалі іх кастылямі. Гэта для таго, каб царскі цягнік не павярнуў на другую дарогу і каб ніхто не мог павярнуць стрэлку не туды, куды трэба. І ўвесь таварны і пасажырскі рух спыніўся. Таварныя цягнікі стаялі ў тупіках, а пасажырскі як стаў на трэцім пуці, так і не пайшоў далей. А ўсіх пасажыраў выгналі з вагонаў і пазаганялі на станцыю. Відаць, таксама, каб цар не ўбачыў…

Міколка назіраў за пераездам цераз чыгунку. Там таксама ішла работа. Салдаты і жандары не давалі нікому пераязджаць цераз чыгунку і заганялі ўсіх — і конных, і пешых — далей ад чыгункі ў лагчыну. Наогул, у гэты дзень было багата работы жандарам і салдатам. І колькі ж іх нагналі! Паабапал усёй дарогі было поўна іх, усё ганяліся за людзьмі, адганялі іх ад чыгункі.

Вось урэшце паказаўся і цягнік. Ён хутка прайшоў праз станцыю. Усе вокны былі завешаны фіранкамі. І як ні прыглядаўся Міколка, ён нічога не ўбачыў. І толькі ён сабраўся ўжо выйсці з вагона, калі прайшоў цягнік, як яго за руку схапіў салдат.

— Ты куды, падшывалец, назад!

Аказалася, што прайшоў толькі цягнік з царскімі генераламі і слугамі і хадзіць па пуцях яшчэ не дазвалялася. Праз якія паўгадзіны паказаўся і царскі цягнік. Вялі яго аж два паравозы, і на пярэднім быў вялікі двухгаловы арол. Усё роўна як той, што быў намаляваны на Міколкавым вагоне над надпісам: «40 человек,

8 лошадей». Але гэты арол быў надзвычай вялікі і бліскучы, аж загледзеўся на яго Міколка, на якую хвіліну і пра цара забыўся. Вагоны ў цягніку былі надзвычай прыгожыя, усё з шырокімі вокнамі, бліскучымі, як люстэркі. Цягнік ішоў вельмі марудна на стрэлках, нібы воз які з малаком ці з гаршкамі. Міколка пільна прыглядаўся да акон, каб угледзець цара ці хаця царанят. Але дзе ты ўбачыш на такой адлегласці. А цягнік усё ішоў ціха, паволі. І тады, не доўга думаючы, кінуўся Міколка маланкай да цягніка, каб спрытней разгледзець усё. Ён ужо набліжаўся да вагонаў, як за ім пабеглі аж два жандары і крычалі так, што не чутна было стуку вагонаў:

— Стой! Стой! Страляць будзем…

Міколка бачыў, як заварушыліся фіранкі на вокнах вагонаў і нечыя палахлівыя твары схаваліся за імі. І, каб не папасціся ў лапы жандараў, Міколка як дуж сігануў на падножку вагона і кінуўся далей, у тамбур.

«Пад'еду, — думаў, — за станцыю, а там і саскочу ля семафора…»

Толькі ён падумаў гэта, як яго і схапілі за рукі ў вагоне двое салдат-вартавых, што стаялі непрыкмечаныя ім каля выхаду. А нейкі сівы-сівы, увесь у золаце, у медалях, у зорках ды ў бліскучых эпалетах, наставіў на Міколку пісталет і, трасучыся і адступаючы назад, крычаў не сваім голасам:

— Стой! Стой! Рукі ўгару!

А дзе ты падымеш гэтыя рукі, калі іх сціснулі так, што косці занылі.

— Не варушыся, застралю! — не сунімаўся стары. — Звязаць злачынца, абшукаць, адабраць зброю!

Моцна скруцілі Міколку рукі назад, аж уеліся рамяні ў цела. Паваліл Міколку на падлогу, абшукваць пачалі. Але што ты там знойдзеш у Міколкавых кішэнях. Высыпалася з іх штук з дваццаць розных гузікаў, дзве невялічкія гайкі, пара цвікоў, кавалачак каляровага шкла, драбок цукру, што ўзяў у дзеда, ды кавалак «зайцавага хлеба».

Сівы генерал, а можа, міністр — не было асабліва часу Міколку даведацца дасканала пра ўсё, — трымаючы над Міколкам пісталет, другой рукой у пальчатцы асцярожна дакрануўся да гузікаў, да цвікоў. Ён нібы баяўся, што гэтыя гузікі ўзарвуцца адразу і разнясуць на мэтлахі ўвесь царскі цягнік.

— Што гэта? — грозна спытаў ён Міколку, паказваючы на гузікі.

— Гузікі… Вось гэта пара ад штаноў дзеда Астапа, а гэта…

— Маўчаць! — і так грозна крыкнуў сівы, што ў Міколкі і дух заняло. — А гэта што? — і сівы асцярожна дакрануўся пальцам да хлеба.

— «Зайцаў хлеб»… — ледзь прашаптаў ад страху Міколка, адчуваючы сябе ні жывым ні мёртвым пад грозным пісталетам.

— Панюхаць! — скамандаваў салдатам сівы.

Тыя добра панюхалі па чарзе, паклалі назад і грымнулі ў адказ, як па камандзе:

— Хлеб, ваша сіяцельства!

Сівы недаверліва паглядзеў на хлеб, дакрануўся да яго яшчэ раз пальцам і, наморшчыўшы нос, загадаў:

— Пакласці ўсё назад у кішэні злачынца. А яго прывесці ка мне на допыт…

І вось стаіць Міколка перад генералам, а можа перад міністрам, і ўспамінае дзеда. Эх! Хутчэй бы да яго, да бацькі, да маці. А цягнік ідзе. Толькі чуваць, як пастукваюць колы: цік-так-так, цік-так-так… Праз завешанае акно нічога не было відаць. Абапал Міколкі стаяць два салдаты, трымаюць яго за рукі. Генерал пытае сурова:

— Дык чаго ж ты скочыў у вагон?

— Убачыць хацеў… — выпаліў адразу Міколка. Ён ужо смеласці пачаў набірацца, узгадаўшы, як храбра лавіў ён рака ў дзедавай барадзе. Дый баяцца ён кінуў гэтага сівога, які, бачыш ты, не разумее, што такое гузікі і што такое «зайцаў хлеб». Дый баіцца, відаць, яго гэты сівы. Не стаў бы звязваць Міколку, пісталетам яму пагражаць.

— Каго ж ты ўбачыць хацеў?

— Цара! З царом хацеў пазнаёміцца…

— Ах жа ты рыштант! — аж пачырванеў тут ад злосці сівы і ад злосці той бараду сваю торгаў. — Ладна, я пакажу табе цара, добра пакажу, каб ніколі не забыўся ты на гэта знаёмства…

На суседняй станцыі, дзе спыніўся на хвіліну цягнік — паравоз дровы браў, — з’явілася ў вагон цэлая група жандараў і ўзяла з сабою Міколку. На станцыі яны доўга распытвалі яго: хто ён, адкуль, чый сын. Доўга званілі па тэлефоне на Міколкаву станцыю і ўрэшце запыталі:

— Дык хочаш цара ўбачыць?

— Не трэба цяпер мне вашага цара, мне б дзеда хутчэй ці бацьку…

— Не… Чаму ж… мы пакажам… Загадана паказаць табе як след.

І так паказалі цара Міколку, што ён і цяпер не любіць асабліва ўспамінаць аб гэтым. І плачу было тут, і слёз, і рову. Так спаласавалі хлопца папругамі, што месца жывога не пакінулі. А адзін усё банькай ад папругі стараўся.

Ледзь жывым вярнулі Міколку на родную яму станцыю, куды накіравалі яго таварным цягніком, даручыўшы галоўнаму кандуктару. А на роднай станцыі ён патрапіў яшчэ ў рукі свайго жандара. Той наверх усыпаў, прыгаворваючы:

— Гэта табе за замах на свяшчэнную асобу гасудара-імператара. Гэта за гузікі ад штаноў дзеда Астапа, якімі абразіў ты яго сіяцельства, вялікага князя… Гэта табе за вялікія непрыемнасці мне, што парушыў ты, супастат, наладжаны мною парадак на станцыі…

Хацеў Міколка ў зубы даць жандару, усё намацваў свае гайкі ў кішэні. Але не хапала сілы, так быў збіты. Ледзь жывога вярнулі яго ў вагон да дзеда, да маці, да бацькі. Ахнулі яны, жахнуліся. Раздзелі Міколку, цёплай вадой пабоі змачылі. Дзед прыгледзеўся, збялеў аж:

— Глядзіце-ка, па ўсяму целу нібы царскія арлы павыбівалі, няйначай хто казённай банькай стараўся…

А назаўтра дзед, узброіўшыся сукаватым кіем, пайшоў на станцыю і, напаткаўшы жандара, збіў яго на горкае яблыка. Патрушчыў і шаблю і пісталет паламаў. І хоць уся станцыя і ўсё дэпо падтрымалі голасна дзеда пры гэтай баталіі, аднак на другі дзень арыштавалі дзеда і пасадзілі ў турму. Праўда, праз месяц які выпусцілі дзеда, з прычыны яго старасці, на волю, але са службы ў дэпо прагналі як «небяспечнага злачынца». Дзед спрабаваў пахваліцца крыху, што таму выпусцілі яго з турмы, што ён герой, што ў яго два медалі за турэцкую вайну. Бацька слухаў гэтую пахвальбу ды папракаў дзеда:

— Кінуў бы ты, стары, свае турэцкія байкі. Герой! Не нам з табой пакуль што ў героях хадзіць, і медалі веку ў цябе ўварвалі… Аддаў бы лепш малому на цацкі, чымся вешаць гэтыя бразджолкі на грудзі…

Маўчаў дзед, не адказваў нічога. Але, відаць, згаджаўся з сынам. І, відаць, галоўная прычына гэтай згоды была ў царскіх арлах, што павыбівалі жандары на Міколкавым целе.

Так пазнаёміўся Міколка з царом.

Так пазнаў яго.

# ЦЯЖКІЯ ГАДЗІНЫ

Некаторым можа паказацца, што Міколку заўсёды жылося весела і бесклапотна: то ракаў ён ловіць, то з дзедам на паляванне ходзіць, то ласуецца «зайцавым хлебам», то ўрэшце з «імператарскім вялічаствам» знаёміцца, самога Мікалая Другога хоча за руку пацiснуць. Але гэта толькі так здаецца.

Мала было вясёлага ў Міколкавым жыцці. Усю зіму мерзлі ў халодным і цесным вагоне, марачы аб цёплых летніх днях. У дадатак да холаду даймаў і голад, асабліва калі пачалася вайна. А тут і бяда насцігла Міколкаву сям'ю. Неяк аднае ночы ўваліліся ў вагон цэлая група жандараў. Пабудзілі ўсіх. Шукалі нечага, нават дзеда паднялі з падлогі іператрэслі мяшок з саломай, на якім спаў дзед.

Дзед стаяў пануры, злосны, з жандарамі лаяўся:

— Што вы шукаеце тут, чаго не палажылі?

Адзін з іх, той самы, якога пабіў некалі дзед на станцыі, штурхануў яго ў грудзі:

— Адыдзі, стары пёс!

Дзед не мог сцярпець такой знявагі і адразу захадзіўся ля свае скрынкі, усё мармычучы сабе пад нос:

— Я табе пакажу, хто пёс… Я стары царскі служака, я царскія ўзнагароды маю… я…

— Кінь, стары, свае штукі… Ведаю, хочаш ты свае медалі паказаць ім… — спыніў дзеда бацька. — Непатрэбны ім твае царскія бляшанкі… у іх вунь у саміх поўныя грудзі бляшанак гэтых. Адна толькі розніца, што ты сваёй крывёй медалі набыў, а яны набываюць медалі нашай крывёй… Глядзі вось за ўнукам добра, дзед, гадуй яго.

Нічога не знайшлі жандары, але бацьку забралі, не спыталі Міколку. А за што? Ці бацька ўкраў што, ці забіў каго? Здаецца ж, нічога такога з бацькам не здарылася. А вось узялі і ў турму пасадзілі, як апошняга злодзея.

А на другі дзень раніцай з'явіўся той самы станцыённы жандар і, раскрыўшы дзверы, закамандаваў:

— Ану, выкідвайцеся з вагона, каб і паху вашага тут не было!

Маці спачатку нічога не зразумела, запытала толькі:

— Як гэта выкідвайцеся?

— А так! — сказаў абыякава жандар і, ухапіўшы вісеўшае на сцяне дзедава паліто, выкінуў яго з вагона.

— А як жа жыць? — спытала яшчэ раз маці, нічога не разумеючы з таго, што гаварыў жандар. Той нічога не адказваў,

а толькі выкідваў па чарзе невялікія набыткі Міколкавай сям'і. Дзед узяўся быў за адломленую ножку тапчана, каб кінуцца на жандара, але Міколка заўважыў, як адсцёгвае жандар кабуру рэвальвера, і кінуўся к дзеду, павіс у яго на руцэ, крычучы на ўвесь вагон:

— Не трэба, дзеду, не трэба… Гэты сабака і забіць можа цябе…

— Вон, шчанюк! — і жандар, схапіўшы Міколку за плечы, адштурхнуў яго за дзверы.

Маці сядзела ў вагоне, безуважная да ўсяго. Толькі слёзы каціліся адна за адной ды словы адны і тыя чуліся з яе вуснаў:

— Як жа нам далей жыць? Што ж гэта за бяда такая…

— А гэта ўжо не мая справа… Мне-то што! — пасмейваўся жандар і не кідаў сваёй работы.

Да вагона пазбіраліся людзі: жанчыны з вагоннага пасёлка, некаторыя рабочыя з дэпо. Спачатку гаварылі ціха паміж сабой, сумна ківалі галовамі, спачувалі Міколкавай сям'і. Потым пачалі гаварыць гучней і гучней, і хутка каля вагона чуліся ўжо крыкі, пагрозы, гучная лаянка, некаторыя спрабавалі ўгаворваць жандара:

— Што ты робіш, чалавеча, на зіму людзей выганяючы на холад? Сягоння іх, а заўтра нас выганяць будзеш?

— Адыдзі, а то ўраз і цябе арыштую… — агрызаўся жандар, накладаючы пячатку на дзверы пустога вагона.

— Знайшлі ў кім совесць шукаць! Ці была яна калі ў сабакі… — гаварылі адны. А другія ўжо грозна наступалі на жандара. Яны былі гатовы ўзяць яго, разарваць на кавалкі, умяшаць у брудную прамазучаную зямлю.

Тады падняўся дзед, які сядзеў увесь час на разбітым тапчане і сумна пазіраў на народ. Дзед рашуча ступіў уперад, загаварыў:

— Кіньце, людцы, гэтага сабаку… Не ў ім жа справа… Не выганіць ён мяне сягоння, дык заўтра іх дваццаць знойдзецца, усё роўна выкураць. А вы толькі непрыемнасці можаце набыць сабе. Ёсць вышэй за іх людзі, яны разумеюць чалавечую справядлівасць. Калі сына забралі гэтыя сабакі, дык гэта ж непаразуменне. Тыя, што вышэй, тыя ўсё разбяруць, тыя ўбачаць, хто правы і хто вінаваты… А вы разыходзьцеся, людцы, па хатах.

Дзед верыў яшчэ ў нейкую вышэйшую справядлівасць, верыў крыху ў цара.

— Не можа быць, каб ён дапускаў такія непарадкі, калі чалавека за нівошта садзяць у турму.

Прадаўшы сёе-тое з манаткаў і надзеўшы свае медалі, ездзіў ён да вышэйшага жандарскага начальства хадайнічаць аб сыне.

Але прыехаў вельмі пахмуры і расчараваны. Здзеў медалі свае, Міколку кінуў:

— На, унучак, хавай са сваімі гузікамі — бліскучыя цацкі будуць…

І, дастаўшы з кішэні паперу, чытаў яе Міколкавай мацеры. То быў прысуд над бацькам Міколкі. Па «загаду яго імператарскай вялікасці» быў засуджаны Міколкаў бацька на дзесяць год катаргі.

— «Яго імператарскай вялікасці»… — мармытаў паціху дзед. — Погань гэта, а не вялікасць… А я думаў…

Шмат аб чым перадумаў дзед. Жылі цяпер у невялічкім хлеўчуку, складзеным са старых шпал. Гэты хляўчук аддаў ім пад жыллё адзін стрэлачнік. Дзед хадзіў кудысьці на работу, ці то пілаваць, ці то складаць дровы. Маці хадзіла таксама на падзённую работу: то мыла чужую бялізну, то падлогі, то прыбірала двары ў багатых дамах. Часта пытаўся Міколка, за што ж пасадзілі бацьку. Але ніхто не мог адказаць яму дакладна і падрабязна. Ведаў толькі, што бацька яго палітычны злачынца, а ў чым гэтае злачынства, ніяк не мог ён толкам дабраць. Хіба ж злачынства ў тым, што ён кіраваў забастоўкай і хацеў, каб рабочым плацілі болей, каб ім лепш жылося? Якое ж у гэтым злачынства, хіба за гэта трэба людзей садзіць за краты?

Худое жыццё настала для Міколкі. Некаму было і «зайцавым хлебам» пачаставаць. Часта яшчэ, учуўшы знаёмы гудок паравоза, кідаўся спрасонку Міколка да маці:

— Стаў самавар, мама, бацька едзе!

Але ставіць самавар не было патрэбы, і маці ўгаворвала Міколку:

— Спі, сынок, спі… Бацькаў цягнік яшчэ далёка, далёка.

Дні цягнуліся за днямі, шэрыя, нудныя, халодныя. Толькі і было шчасця, калі прыходзілі некаторыя рабочыя, суцяшалі маці і дзеда:

— Не гаруйце, усё пройдзе, усё мінецца, будзе свята калі-небудзь і на нашай вуліцы… Не ўсё ж ім ды ім.

Суцяшалі гэтыя рабочыя, дапамогу аказвалі. То грашыма, то дроў прыстараюцца, то змайструюць печку чыгунную, каб не так даймаў холад. І тады рабіўся весялейшы дзед, жартаваў з Міколкам, падбадзёрваў яго:

— Не сумуй, унучак, дачакаемся і мы з табою лепшае долі…

Суцяшаў, суцяшаў дзед, але ад цяжкага жыцця захварэў, злёг. Неяк застудзіўся ён на рабоце, прастыў. Ледзь дахаты прыйшоў і злёг, з ложка не падымаўся.

І колькі ні даглядалі за ім маці і Міколка, аслаб зусім дзед, да сябе паклікаў:

— Відаць, трэба мне паміраць… Дык глядзі ж, Міколка, слухайся маці, расці. А ты гадуй хлопца, да працы прывучай… Не было ў нашым родзе людзей, якія б з чужога мазаля жывіліся, кожны здабываў хлеб сваім гарбом…

Заплакаў тут горка Міколка, баючыся расстацца з найлепшым таварышам сваім і з другам-прыяцелем.

Але не здаў пазіцыі дзед. Меў здаровую кроў ён. Сяк-так ад хваробы выкачаўся. Толькі надоўга выбыў са строю, і Міколкавы прыгоды надалей доўга абыходзіліся без удзелу дзеда Астапа.

А дні ішлі. І неўзабаве пасля дзедавай хваробы пачалі да Міколкавай сям'і даносіцца чуткі, адна другой дзіўней, адна другой цікавей. Чуткі ішлі па чыгунцы аж з самага Петраграда. Спачатку цьмяныя, невыразныя, нібы вялікі смутак пайшоў у народзе і рабочы люд супроць цара выступае. Хадзілі чуткі, што скора прыйдзе свабода і буржуям будзе канец. Буржуям і прыганятым іх. Чуткі рабіліся ўсё больш яснейшымі, і ўжо ў кожнай хаце гаварылі, што ў Петраградзе пачалася рэвалюцыя.

Неяк аднаго разу вечарам да Міколкавай сям'і зайшоў жандар. Быў ён чамусьці без шаблі і без свае чырвонае шапкі. І голас быў зусім не той. І выгляд зусім не начальніцкі. Зайшоў у хату і, пажадаўшы добрага дня, нечакана пачаў прасіць Міколкаву маці, каб яна забылася на ўсё старое, бо «ці мала чаго ў жыцці бывае, усякіх там непрыемнасцей…».

Узлавалася тут маці, выгнала яго:

— Ідзі, ідзі, сабачае мяса, не жвенькай тут мне, крывасмок…

Нічога не зразумела яна з жандаравай просьбы. Але назаўтра ўсё стала ясным. Калі прачнуўся Міколка, то пачуў у горадзе страляніну. На станцыі было надзвычай весела. Над будынкам вакзала калыхаўся аграмадны чырвоны сцяг. Усюды было поўна людзей, і ўсе былі радасныя, вясёлыя. Не відаць было ні жандара, які вечна тырчаў са сваёй чырвонай шапкай, пахавалася кудысьці начальства ды афіцэры, якіх раней багата было ў праходзіўшых праз станцыю эшалонах. І што зусім здзівіла Міколку — ён смела прайшоў у тую залу, куды раней ніколі не мог папасці нават разам з бацькам. Ніхто не затрымаў яго цяпер. У зале першага класа вісеў на сцяне аграмадны партрэт цара. Вось цяпер гэты партрэт рабочыя дэпо здзіралі са сцяны. Здзіралі з мясам. Ужо зляцелі на падлогу царскія ногі і мундзір, толькі галава пад каронай, учапіўшыся за цвікі, усё яшчэ вісела на сцяне. Вось гэтую галаву і сцягвалі багром рабочыя.

У залу ўбег начальнік станцыі. Ён зірнуў на сцяну, ахнуў і замахаў рукамі:

— Што вы робіце з партрэтам, вы ўсю сцяну папсавалі!

За начальнікам нехта пагнаўся жартам, а другія ўжо зусім без жартаў параілі начальніку вымятацца:

— А не, дык павесім на царскае месца…

Хутка царская галава з кавалкам рамы і прыстаўшым да яе тынкам з грукатам паляцела ўніз, узняўшы цэлыя клубы пылу, ад якога ўсе пачалі дружна чыхаць.

— Адзіная хаця карысць з цара — насы прачысцім… — пасмейваліся рабочыя, калі стары прыбіральшчык станцыі змятаў у кучу цара, тынк і ўсякую гразь, каб вынесці яе на сметнік.

— Вось, браце, як цароў скідаюць! — кінуў нехта, смеючыся, Міколку.

За станцыяй яшчэ чуліся стрэлы. То не здаваліся на некаторых вуліцах жандары і гарадавыя. Але стрэлы былі радзей і радзей. Міколка кінуўся ў горад. Па галоўнай вуліцы вялі групу арыштаваных. Тут было некалькі афіцэраў, жандары, кучка гарадавых. Усе яны скоса пазіралі на народ, і злосныя агеньчыкі паблісквалі ў іх пахмурых вачах.

— А… фараоны, папаліся, гады! Не век жа вам чужую кроў смактаць! — чуліся паасобныя выклікі людзей з тратуараў, з вуліцы.

«Нешта нашага жандара не відаць… Яшчэ ўцячэ куды, гад…» — падумаў Міколка пра жандара са станцыі. Вось бы каго злавіць, вось бы каму даць: за бацьку, за дзеда Астапа, за стары вагон, у якім радзіўся Міколка і з якога выкінуў яго ненавісны гэты чалавек.

І толькі гэта падумаў Міколка, як бачыць ён: стаіць гэты жандар на базары ў кучцы людзей, гаворыць нешта. Толькі аблічча зусім другое і вусы абстрыг, шынель змяніў на паліто, ніякай пры ім шапкі жандарскай, ні шаблі. Стаіць і з людзьмі гаворыць. Цэлая група сялян тут сабралася. Аб цару гавораць, аб свабодзе.

— Нам гэта куды вальгатней цяпер будзе, зямлі прыбавяць… — кажуць некаторыя сяляне.

— Як жа, чакайце зямлі, калі ніякага парадку цяпер не будзе, ніякага закону… — устаўляе сваё слова жандар.

Слова за слова і ўжо цэлую прамову шпарыць жандар. І выходзіць па-ягонаму, што цяпер настала самая дрэнная часіна, што «змушчаюць» народ розныя свавольцы, фабрычныя ды жыды. Як-ніяк перашкаджаў ім цар апошнія сокі з мужыка выціскаць. А цяпер хочуць гэтыя людзі свой парадак устанавіць.

Уздыхаюць сяляне, згаджаюцца, не згаджаюцца. Некаторыя спрачацца кінуліся.

— Што ні кажы, чалавеча, а перамена павінна быць вялікая… Вось каб ведаў ты, колькі нашага брата розныя ўраднікі, стражнікі ды жандары прыціскалі.

— Пра стражнікаў ды жандараў я не кажу… Вядома, гэта сабакі… Але пры чым тут цар, хіба ён ведаў, як народ жыве, усё ад яго скрывалі… — так гаворыць жандар і ў вус не дзьме, нібы ён самы найлепшы, самы працавіты чалавек на свеце.

І ўжо хацелася Міколку крыкнуць на ўвесь голас: «Лавіце яго, вось ён, жандар!» Але пабаяўся крыху. Яшчэ не паверацъ яму людзі, дык гэты гад, чаго добрага, і пабіць яго надумаецца. І тут заўважыў Міколка, як праз проразь паліто відаць жандарскія сінія штаны. І тады адразу з'явіўся ў Міколкі план, як спрытней узяць ворага.

Падышоў ён да яго, узяўся за полы паліто ды пытаецца:

— Дзядзенька, прадаеш паліто?

Людзі ў смех, а жандар у лаянку:

— Ідзі прэч, падшывалец! — і выказвае яўныя намеры адысціся.

А Міколка ўзяўся за палу, расхіліў яе ды ўжо крычыць на ўвесь базар:

— Вось яны, штаны жандарскія! Лавіце яго!

Заўважылі людзі жандарскую адзежыну, заварушыліся адразу, жандара схапілі.

— Бач ты, гад, а яшчэ добрым чалавекам прыкідваецца! Бач ты яго, царскі абаронца знайшоўся… І форму змяніў, каб не пазналі.

Так злавіў Міколка апошняга жандара са сваёй станцыі і ўрачыста прывёў яго пад канвоем людзей у дэпо. Усе віталі Міколку, віншавалі з перамогай над ворагам:

— Маладзец, хлопец, па бацьку пайшоў! Лаві іх, супастатаў, усюды, дзе толькі ўбачыш!

Так пачалася свабода, рэвалюцыя, і такі ўдзел браў у ёй наш Міколка. А праз колькі дзён у Міколкавай сям'і было вялікае шчасце. Нечакана прыехаў бацька. Ён быў страшэнна худы, зжаўцелы, увесь аброс барадой. Але колькі было радасці ў яго, весялосці. Ён усіх абдымаў, цалаваўся з усімі рабочымі, якія цэлымі гурмамі прыйшлі да яго з дэпо. Рабочыя падкідвалі бацьку ўгору, качалі на руках, звалі да сябе ў госці.

— Цяпер, браткі, не да гасцявання! — жартаваў бацька. — Не доўга і прагасцявацца… Буржуі перапалоханы насмерць, хочуць на свабоду ланцуг накінуць…

Бацька так і зашыўся адразу ў работу. Жыць пераехалі назад, у родны вагон. Прыходзіў зноў той «буржуй», з дэпо, які калісьці знішчыў Міколкаву карцінную галерэю. Ён загадаў пафарбаваць вагон, падправіць дах, змяніць некалькі дошак у падлозе. Ён бегаў навокал бацькі, як на калёсіках, і ўсё пытаў:

— Можа, гэта падправіць, можа, лепшую печачку паставіць?

Бацька моршчыўся нечага, не адказваў. Потым не сцярпеў, крыкнуў:

— Адчапіся ты, чаго прыліп як банны ліст... Нешта раней ты не ліп да нашага брата... Зрабі вось, каб было па-людску.

«Буржуй» хадзіў як на задніх лапках. Гаварыў лісліва:

— Вы ўжо старое не памінайце: што было, таго няма. А мяне вось рабочыя прыціскаюць. Хочуць пад суд аддаць... Нібы я іх прыцясняў калісьці, нібы за крадзеж дом паставіў і на іхнія капейчыны квапіўся. А вы цяпер вялікі чалавек, паважаны чалавек. Недарэмна рабочыя хочуць за камісара паставіць над участкам... Дык вы ўжо абараніце хаця.

— Вон! — не сцярпеў тут бацька. Ды Міколка паддаў жару:

— Ідзі, ідзі, погань буржуйская... Бач, хвост падцяў, калі на лапы наступілі.

«Буржуй» пакінуў вагон.

А жыццё зноў стала вельмі трывожнае. На свабоду спакушаліся тысячы ворагаў. Буржуі не хацелі даваць уладу рабочым, бальшавікам, сярод якіх быў Міколкаў бацька. Часцяком даводзілася яму хавацца, каб не папасціся ў лапы буржуяў, афіцар’я. Але Міколка бачыў, што бальшавікі над усімі маюць перавагу. Усё дэпо ішло за імі, усе рабочыя дбайна ахоўвалі сваіх бальшавікоў ад буржуазнага ўрада Керанскага. Усе ішлі насупроць гэтага ўрада, не выконвалі яго распараджэнняў, псавалі вагоны, паравозы, не давалі іх пад пагрузку войскаў на фронт.

І толькі ў Кастрычніку свабодна ўздыхнулі рабочыя. Улада перайшла канчаткова да іх.

— Цяпер, браце, наша свята! — сказаў бацька Міколку. — Цяпер паравозы нашы, дарогі нашы, дзяржава наша. І каб толькі не ворагі — жыць бы нам ды пажываць, на працу сваю любавацца.

Бацька быў цяпер камісарам цэлага ўчастка дарогі і часта аб’язджаў яго, бываў на розных станцыях. Па старой звычцы ён не ездзіў у вагоне, а падсаджваўся на паравоз якога-небудзь цягніка і так рабіў свае аб’езды, арганізуючы рабочую ўладу на станцыях, па дэпо, па чыгуначных лініях.

А ворагі не хацелі здавацца. Яны збіралі ўсе сілы, каб загубіць рабочую дзяржаву, каб зноў аднавіць стары лад у краіне. Насоўваліся цяжкія дні.

## МІКОЛКА ВЫЗВАЛЯЕ БАЛЬШАВІКОЎ

Ужо з тыдзень хадзілі чуткі, што набліжаецца нямецкае войска.

Рабочыя дэпо рыхтавалі лепшыя паравозы, каб не пакінуць іх немцам. Міколкаў бацька раіўся з другімі рабочымі, што рабіць: ці ваяваць з немцамі, ці пусціць іх без бою. Але паступілі і пэўныя ўказанні, каб не адкрыць бойкі, не рабіць кровапраліцця, бо што могуць зрабіць рабочыя з узброенымі да зубоў палкамі Вільгельма. Ды трэба было памятаць і аб Берасцейскім міры, расказаць аб ім рабочым і сялянам. Трэба было быць гатовым для падпольнай работы сярод нямецкіх салдат, каб зрабіць іх салдатамі-рэвалюцыянерамі.

Меркавалі, што немцы прыйдуць праз дні два, праз тры. Але яны з'явіліся ноччу зусім нечакана. Відаць, знайшоўся здраднік на суседняй станцыі і не папярэдзіў аб адпраўцы нямецкіх эшалонаў.

Прачнуўся Міколка ад стрэлаў. То ганяліся немцы за бацькам, які ў адной сарочцы выскачыў праз акно і адстрэльваўся ад салдат. Бацьку ўдалося ўцячы, ён паспеў дабегчы да вялікіх штабеляў дроў і схавацца там да вечара. І толькі раніцай наступнага дня, калі ішлі рабочыя ў дэпо, бацька непрыкметна зайшоў у вагон. Страшна ўзрадаваліся маці і Міколка. Яны чулі, што арыштавана і пасаджана ў пакгаўз цэлая група рабочых-бальшавікоў, і нічога не ведалі, ці жывы яны, ці пабіты, ці ёсць сярод іх Міколкаў бацька. Аж заскакаў ад вялікай радасці Міколка, але бацька абурыўся на яго:

— Цішэй ты, скакун! Яшчэ немцы пачуюць, ураз прыйдуць сюды… А цяпер бывайце… Даводзіцца, як бачыце, хавацца… Арыштоўвалі, відаць, па спіску, нейкі гад пастараўся для немцаў спісак скласці ўсіх тых, хто быў найбольш актыўны… Ну, не сумуйце ж, не вечна тут немцы будуць.

І толькі бацька нагу на парог паставіў, як падбегла ўсхваляваная маці, на акно паказала:

— Пачакай, вунь ідзе адзін з начальнікаў дэпоўскіх, каб не ўгледзеў яшчэ часам.

Да вагона набліжаўся той самы «буржуй», з якім былі ў Міколкі неаднаразовыя сутычкі і які загадваў жыллёвымі вагонамі дэпо. Ён ішоў проста да вагона. Міколкаў бацька зайшоў за полаг і схаваўся там. Неўзабаве зайшоў «буржуй», не вітаючыся, важна расселся на зэдліку, нахабна азіраючы ўсё навокал…

— Ну што ж, вітаю вас, вітаю! Накамісарстваваліся, значыць, здаволіліся…

Маўчала маці, маўчаў Міколка, не ведаючы, да чаго хіліць гэты чалавек.

А той сядзеў, азіраўся навокал, усё адцягваў надалей сваё рашэнне. І ўрэшце загаварыў:

— Сказ мой будзе кароткі… Не ўсё ж у камісарах хадзіць ды другімі камандаваць. Расправяцца вось цяпер немцы з вашым камісарам. Паслухайце цяпер і майго загаду — у дваццаць чатыры гадзіны аслабаніць гэтую кватэру, і каб духу вашага тут не было… Хоць да д'ябла! А не паслухаеце — штыкамі выпарам, бо, дзякаваць Богу, ёсць цяпер каму за парадкам сачыць… Дык жыва ж… — разышоўся ваўсю «буржуй», і аж тлустая яго шыя пачырванела і заскакаў тлусты падбародак з барадаўкамі, з рудай шчацінай. І раптам «буржуй» змоўк, абмяк, нібы костка яму ў горла папала ці нечакана паляруш стукнуў. Перад ім стаяў бацька, які выйшаў з-за полага. Бацька прыставіў «буржую» рэвальвер да лба і гаварыў ціха, але так, што чуў і Міколка:

— Дык вось хто немцам нас павыдаваў… Маліся ж Богу, што сядзіш ты ў мяне ў вагоне, не хачу вось шуму падымаць ды ім непрыемнасці рабіць.

Тут паказаў ён на Міколку і на маці.

— А цяпер глядзі: калі хоць пікнеш слова якое пра мяне ці супроць нас усіх, ці будзеш іх вось чапаць, дык памятай: жыццё кароткае, а мы яго яшчэ табе ўкароцім… А не верыш, дык вось панюхай!.. Гэта табе прысяга — не раскрываць нідзе свайго паганага рота ды вымятацца самому падабру-паздарову са станцыі…

«Буржуй» сядзеў і пікнуць не смеў. У яго не пападаў зуб на зуб — і ад страху, і ад здзіўлення. Не чакаў ён сустрэць тут Міколкавага бацьку, якога лічыў ён ужо нават загінуўшым ад немцаў.

Бацька сунуў яшчэ раз рэвальвер у лоб «буржую» і, развітаўшыся са сваімі, пайшоў як ні ў чым не бывала з вагона. Перапалоханы «буржуй» прасядзеў яшчэ з паўгадзіны і толькі тады рушыў з вагона. Пайшоў моўчкі, азіраючыся за сабой, як пабіты сабака.

А вечарам прыйшлі некалькі рабочых. Сярод іх Міколкаў брат Павел, які служыў змазчыкам. Маці пайшла кудысьці да суседзяў. Міколка забраўся спаць на свой тапчан. Драмаў і прыслухоўваўся, аб чым ціха гаварылі рабочыя. Яны, відаць, спрачаліся аб нечым, бо адны гаварылі, што можна ўцячы з пакгаўза, другія гаварылі, што цяжка. Тады Міколка зразумеў, што гутарка ідзе аб вызваленні тых рабочых, якія арыштаваны

немцамі і сядзяць зараз у станцыённым пакгаўзе. Добра ведаў Міколка гэты пакгаўз, колькі разоў забіраўся ў яго з хлапчукамі, сваімі таварышамі, калі грузілі ў пакгаўз семечкі, гарох альбо якія іншыя падобныя прысмакі.

— Туды вельмі цяжка забрацца, бо пакгаўз новы, ды часавых стаіць аж два — ад станцыі і ад горада, — чуў Міколка, як гаварыў адзін з рабочых. Пачуў і не сцярпеў. Саскочыўшы з тапчана, падбег да рабочых.

— Я магу залезці ў пакгаўз, нягледзячы і на часавых… — хутка выпаліў ён і пачырванеў нават, ці то ад нечаканае свае храбрасці, ці ад сарамлівасці.

Рабочыя аж ахнулі.

— Казаў жа я вам, каб гаварыць цішэй… А то вось аб усім і даведаўся гэты падшывалец.

Міколку страшна ўкрыўдзіла такое слова. Ён скоса зірнуў на гаварыўшага, працадзіў праз зубы:

— Каму падшывалец, а каму Міколка, бальшавікоў сын…

— Ну, то ідзі да немцаў і скажы ім, што бацька твой — бальшавік!

— Няма такіх дурных! — увязаўся ў гутарку Міколка. — Калі вам кажу, ведаю каму. А немцы пра бацьку і так ведаюць, што ён бальшавік, бо не сталі б лавіць яго, нехта ж падказаў… А пакгаўз я ведаю, як свой вагон, мы вунь колькі разоў туды лазілі галубоў ганяць…

— «Галубоў, галубоў!..» — перадражніў яго адзін з рабочых. — Тут, бачыш, не галубамі пахне, а куляй, а ты яшчэ дурань малы.

Хацеў тут Міколка абазваць гэтага рабочага таксама дурнем, але ўбачыў, што той абзывае яго так не злуючы, а проста жартам.

— Няхай сабе і малы, але мне куды спрытней у пакгаўз залезці, чым катораму з вас вялікаму…

На гэтым і разышліся, строга-настрага наказаўшы Міколку, каб ні слова, ні гуку ніхто не пачуў ад яго аб тым, пра што ён чуў.

— Ну, што вы, маленькія якія, ці што… — не на жарты ўсердаваў Міколка. — Ці буржуй я, ці меншавік, па-вашаму…

Чуў Міколка пра меншавікоў як пра вялікіх паскуднікаў, якія любому буржую гатовы заўсёды боты лізаць. Таму і памянуў пра іх.

— Ну, глядзі ж, — яшчэ раз сказалі яму на развітанне.

А раніцай, яшчэ сонца не ўзышло, было яшчэ цёмна, пабудзіў Павел Міколку, сказаў яму паціху:

— Ну, уставай, бальшавік! Пойдзем сваіх ратаваць. Глядзі ж не падкачай… Зловяць, скажы — па галубоў палез.

— Якія ж галубы па начах! — папракнуў Міколка брата за такое выключнае няведанне галубовай справы.

— Тады скажы, што па семечкі палез.

— За семечкамі яшчэ можна… — згадзіўся Міколка з такой прапановай.

Станцыя хавалася ў прадранішнім змроку. Сям-там мігацелі стрэлачныя ліхтары, пыхкалі парай паравозы ля дэпо, збіраючыся ў дарогу. Сям-там на пуцях стаялі адзіночныя таварныя вагоны, платформы з лесам ды з іншымі грузамі. Каб не быць заўважанымі нямецкімі часавымі, Міколка з рабочымі прабіраўся каля вагонаў, хаваючыся ў іх доўгім цені.

І тут ля вагонаў заўважылі і дзеда Астапа. Ён ішоў следам за ўсімі, не адстаючы ні на крок. На яго накінуліся ўсе:

— Куды табе, дзеду, ісці! Ідзі кладзіся спаць!

Аднак дзед аж узлаваўся:

— За каго вы мяне прымаеце? Каб я ды пакінуў унука свайго ў небяспецы?

І колькі ні спрачаліся з дзедам, нічога не выйшла. Дзед не адступіў і рашуча ішоў услед. Вось і пакгаўз. На ім паблісваюць цьмянымі аганькамі два-тры ліхтары, відаць шырокія дзверы. Ля іх стаіць, не зварухнецца, нямецкі часавы. Дзесьці далёка за пакгаўзам паблісваюць у небе агнявыя зарніцы — відаць, недзе немцы вёску паляць. На гэтыя зарніцы загадкава пазірае часавы. Водбліскі іх мігцяцца на шырокім бліскучым штыку, на цяжкай, чорнай уначы, касцы салдата.

Задумаўся часавы, абапёрся на вінтоўку, не зварухнецца.

А побач з пакгаўзам — вялікія штабелі дроў. Сюды і дабраліся Міколка, Павел і другія рабочыя. Адсюль добра відаць пакгаўз і часавы, добра сачыць за кожным яго крокам. Міколка бачыць, як у руках яго таварышаў з’яўляюцца рэвальверы. Людзі становяцца кожны на сваё месца, загадзя яму вызначанае. А самога Міколку ціха вядуць да пакгаўза бліжэй, пад самы апошні штабель дроў.

— Ну, цяпер дзейнічай сам! Ды глядзі ж, не патрап пад вінтоўку! — дае апошнія парады брат Павел.

Міколка ўзіраецца ў часавога, да яго якіх трыццаць ці сорак крокаў. Відаць толькі спіна салдата ды кончык штыка. Прыпаўшы да самай зямлі, ціха пасоўваецца Міколка да пакгаўза, хаваючыся за раскіданыя побач каменні. Міколка паўзе і думае: што будзе з ім, калі заўважыць салдат, і куды трапіць нямецкая

куля? Добра, каб у галаву — адразу і ўсё табе тут… А калі ў жывот?.. Гэта ж будзе балець!

Падумаў Міколка і аж уліп у зямлю, халодным потам абліўся, замёр на якую хвіліну-другую. Не з-за страху за свой жывот — які там у яго жывот! — а баяўся за справу. Зварухнуў нагой нейкую бляшанку па дарозе, і яна чыркнулася аб камень, забрынчала. Салдат павярнуў галаву, нават руку да вуха прыставіў, каб спрытней учуць. Але дзе ты ўчуеш, дзе ты ўбачыш. Ляжыць Міколка ні жывы ні мёртвы і толькі чуе, як моцна б'ецца ды вырываецца з грудзей яго маленькае сэрца.

«Эх! хаця б ды супакоілася, а то яшчэ ўчуе немец…» — думае Міколка ды праз шчыліну між каменнямі сочыць за часавым. Той ужо супакоіўся, нейкую песеньку пачаў ціха напяваць. Папоўз Міколка далей. Вось і ганак пакгаўза. Пад ганкам можна пралезці пад насціл, на які выгружаюць з вагонаў багаж, грузы. І праз якую хвіліну быў ужо Міколка пад ганкам і прабіраўся праз дзірку ў цаглінах пад самую падлогу пакгаўза. Ледзь не крыкнуў ён з перапуду, трапіўшы рукой у нешта слізкае і халоднае. Але ўспомніў, што і днём тут хаваюцца часам жабы, супакоіўся. Месца пад падлогай, кожную дошку самой падлогі Міколка ведаў як свае пяць пальцаў, бо не раз рабіў ён налёты сюды са сваімі таварышамі. Вось і гэтая дошка, якая падымаецца ўгору разам з цвіком.

Міколку здаецца, што праходзіць цэлая гадзіна, пакуль удаецца яму падняць адзін канец гэтай дошкі і прасунуць у дзірку галаву. Спачатку нічога не бачыць Міколка, і толькі прыгледзеўшыся, ён заўважае групу людзей, якія згрудзіліся ў кутку на ахапках гнілой саломы. Недалёка на сценцы мігае закапцелы чыгуначны ліхтар. Пад ім ляжыць чалавек і, як відаць, не спіць, бо часта варушыцца і ўздыхае. Прыгледзеўся да яго Міколка і пазнаў — гэта найлепшы бацькаў прыяцель, стары машыніст Арлоў. Разам з бацькам колькі пачысцілі яны на сходах эсэраў ды меншавікоў, тыя прымушаны былі заўсёды ледзь не ўцякаць ад рабочых пад гучны свіст, вострыя жарты і кепікі.

Ціха падпоўз Міколка да машыніста, асцярожна таргануў яго за рукаў. Міколка хуценька перадаў аб усім, сказаў, што ў дровах чакаюць яшчэ рабочыя, што трэба спяшацца, таго і глядзі, развіднее.

Доўга не збіраліся. Адзін за адным з вялікімі перасцярогамі лезлі пад падлогу, па аднаму выбіраліся з-пад ганка і адтуль Міколкавым спосабам паўзлі да дроў. Міколка сядзеў пад ганкам і скрозь ранішні змрок сачыў за Паўлавымі сігналамі. Апусціць

той руку за штабелем дроў — значыць, можна паўзці чалавеку. Падыме руку — значыць, нельга, няйначай часавы ходзіць па насцілу, над ганкам. Так і выпусціў усіх восем чалавек, арыштаваных немцамі.

А сам затое ледзь не папаўся. Толькі высунуў ён галаву з-пад ганка, як бачыць паднятую руку Паўла. Падаўся назад Міколка, як рак у пячору, сядзіць там сагнуўшыся, чакае і бачыць: над самым над ім сядзіць нямецкі часавы, ногі на прыступку ганка паставіў, вінтоўку да калена прыціснуў. Відаць, надакучыла яму стаяць, і, не бачачы поблізу начальства ў такі час, рашыў ён прысесці. Выбраў жа месца! Хоць ты бяры гэтага часавога за ногі і цягні пад ганак. Але дзе ты пацягнеш! Сядзіць Міколка хвіліну, сядзіць другую, трэцюю. А далей ужо і нясцерп бярэ — калі ж гэты часавы на другое месца падасца. А тут і кашлянуць хочацца, наглытаўшыся пад падлогай усякага пылу. Засунуў Міколка канец рукава ў рот, сядзіць ды чхнуць баіцца.

І, магчыма, доўга б прасядзеў так Міколка, каб не выручылі рабочыя. Павел загадаў двум рабочым перайсці на другі бок пакгаўза і там чым-небудзь адцягнуць увагу часавога, прымусіць яго перайсці на другі бок. Так і зрабілі. Рабочыя адышліся на добрую адлегласць і пачалі гучную гутарку, нібы ў сварку ўкінуліся адзін з адным. Услухаўся часавы, падняўся з месца, падаўся ў другі бок пакгаўза. Не то праверыць хацеў, што там робіцца, не то проста пабаяўся начальства, каб не заспела яго часам седзячым на пасту.

А Міколка толькі і чакаў гэтай хвіліны і, як маланка, сігануў пад дровы. Там ціха і моўчкі паціскалі яму руку, а стары машыніст Арлоў расцалаваў яго і, жартам пацягнуўшы за нос, ціха сказаў:

— І які ж ты яшчэ малы, мой хлопец! Але справы можаш рабіць вялікія… Ну, расці, ды немцам не пападайся. Яны, брат, такіх бальшавікоў, як ты, не паважаюць…

«Такіх бальшавікоў, як ты…» — ад такога гонару можна было падскочыць, прайсціся калясом на руках сярод дроў. «Бальшавікоў! Гэта не дзедавы турэцкія крэпасці, а куды важней…» — думаў і радаваўся Міколка. Але трэба было хутка і непрыкметна разыходзіцца ад дроў ды хавацца, каб не папасціся на нямецкае вока.

Так вызваліў Міколка арыштаваных прыяцеляў свайго бацькі, якому пашанцавала яшчэ раней пазбавіцца ад нямецкага арышту.

Яшчэ не выспаўся Міколка як след пасля начных прыгод, прачнуўся і падумаў: «А што ж будзе там, ля пакгаўза?» І тут ус-

помніў: «А дзе ж дзед?» Учора, як разыходзіліся ад пакгаўза, не заўважыў Міколка сярод людзей, куды дзеўся яго стары таварыш.

Міколка агледзеў вагон — няма дзеда. Выйшаў за дзверы — і там няма. Запытаў у маці. Тая адказала, што з самае ночы не бачыла дзеда і не ведае, дзе ён цяпер.

«Няйначай, там…» — мільганула думка, і Міколка хуценька падаўся з вагона, дабраўся да дэпо і, каб не быць заўважаным нямецкімі часавымі, разам з рабочымі перабраўся праз пуці пад штабелі дроў. Даволі высока забралася ўжо сонца і мякка прыгравала зямлю. Над пакгаўзам кружыліся галубы, усё вышэй і вышэй узнімаючыся над страхой, паблісваючы на сонцы беласнежнымі крыллямі.

«Відаць, нехта папужаў іх…» — падумаў Міколка.

І сапраўды, на пуцях каля пакгаўза варушыліся людзі. Манеўровы паравоз падганяў пад пакгаўз арыштанцкі вагон, які сурова пазіраў на Міколку сваімі грознымі вокнамі з тоўстымі жалезнымі кратамі. На падножках вагона стаялі нямецкія часавыя. Ля вагона і паравоза завіхаліся стрэлачнік і счэпшчыкі, машыніст курыў цыгарку і злосна пляваў праз сваё акенца. Заўважыўшы Міколку, ён сярдзіта замахаў на яго рукой з паравознай будкі і крыкнуў ціха:

— Уцякай, падшывалец, а то дадуць табе немцы пытлю, што ходзіш ты дзе не трэба…

«Відаць, падаюць вагон пад арыштаваных, што ў пакгаўзе…» — падумаў Міколка. Але ўспомніў ноч і пусціўся ў рогат. Цяпер будзе камедыя… Вось заскачуць немцы, калі даведаюцца!

Міколка хацеў яшчэ бліжэй падысці да паравоза, каб разам з машыністам пасмяяцца над дарэмнымі клопатамі немцаў. Машыніст жа свой, бацькаў знаёмы. Але той рашуча замахаў на Міколку рукой, нібы хацеў сказаць: «Знаю, усё знаю… Не лезь на ражон дарэмна…»

Зразумеў Міколка яго знак, падаўся далей ад вагона. Толькі зірнуў на пакгаўз. Той стаяў, як і раней. Той жа цяжкі замок вісеў на дзвярах. Тая ж самая пячатка нямецкая вісела на замку. І толькі часавы быў не той, што ноччу.

У гэты час паравоз, бразнуўшы буферамі, ціха падаўся ад вагона на стрэлкі. І тут успомніў Міколка пра дзеда: «Дзе ж ён падзеўся, аднак?»

І толькі падумаў, як учуў моцны храп са штабеляў дроў. Насцеражыўся адразу Міколка і паціху падаўся ў дровы. Храп быў такі моцны, што станцыённыя вераб'і, прыляцеўшыя на дровы, палахліва круцілі з боку ў бок сваімі дзюбамі. Яны скоса пазіралі

на зямлю і палахліва падымаліся цэлаю стайкаю далей ад небяспечнага месца, дзе чуюцца такія страшэнныя, незразумелыя для іх гукі. Нават часавы ля пакгаўза пазіраў часам на штабелі дроў, але, добра прыслухаўшыся, пачынаў так пазяхаць, што чутно было, як патрэскваюць яго сківіцы. Відаць, зайздрасць брала чалавека да такога важнецкага сну.

На храп і дабраўся Міколка да дзеда. Той, палажыўшы пад галаву бярозавы цюльпак, спаў як пшаніцу прадаўшы.

«З такім гучным носам можна лёгка і ў турму патрапіць...» — падумаў Міколка і пачаў асцярожна будзіць дзеда, торгаючы за руку.

Дзед нечакана раскрыў рот ды як грымне:

— Другая арудзія па бастыёну карцеччу, агонь!

Аж прысеў тут Міколка, ды пакгаўзныя галубы зноў узвіліся спалоханай стайкай, ды крыкнуў часавы па-нямецку:

— Эй! Хто там?

Аднак не ісці ж Міколку да часавога і растлумачваць яму, што ў дровах нічога страшнага няма, што дзед Астап проста сніць свае турэцкія баталіі, ад якіх цяпер нікому ні холадна ні горача. Міколка хуценька прыкрыў дзеду рот далоняй і лёгка тарганyў яго за бок. Адкрыў дзед вочы, схамянуўшыся, нешта гаварыць захацеў.

Але Міколка рашуча замахаў яму рукой пад самым носам і ціха шапнуў:

— Нішкні, дзед!

Часавы паслухаў, паслухаў — не чуваць нічога — і паклыпаў на другі канец пакгаўза.

— Ну, цяпер выбірайся, дзеду, з дроў і блізка сюды не падыходзь. Аднак і падкачаў ты, дзед, можна сказаць, на баявым пасту... — хацеў Міколка сказаць «заснуў», але не хацелася крыўдзіць дзеда.

— Што падкачаў, то падкачаў... — вінавата прамовіў дзед. — Гады бяруць сваё, унучак мой... Сядзеў я тут ноччу, сядзеў, пакуль ты пад пакгаўз лазіў, ды неяк і задрамаў... А тут і сняцца мне ўсякія туркі ды крэпасці. Усё наступаю ды наступаю. І вось-вось ужо ў атаку павінен быў кінуцца, а ты разбудзіў...

— А дарэмна ты, дзед, у атаку хадзіў!

— Як так дарэмна?

— А для чаго ты турэцкія дывізіі лажыў, людзей біў? За цара ваяваў? А ты ж вось уведаў пасля, што гэта за птушка твой цар?

— Дык вось у тым-та і справа, што пасля... А цар? Які ён мой?

— Ну, вось! — пераможна сказаў Міколка і, захапіўшыся, яшчэ колькі хвілін ушчуваў дзеда за яго турэцкія прыгоды. Дзед спачатку ўсё аднекваўся, апраўдваўся сваёй мінулай цемнатой, але потым у спрэчкі ўкінуўся:

— Добра табе так разв226жаць, калі ты ўсяго старога жыцця не бачыў, а пражыў бы з мае гады…

Слова за слова, спрэчкі набылі такі гарачы характар, што нашы субяседнікі і не заўважылі, як апынуліся пасярод нямецкіх салдат, якія акружылі іх і чакалі далейшай каманды рыжавусага і надзвычай злоснага на від нямецкага каменданта.

— Ну, вось і прыехалі… — сказаў з перапуду дзед і змоўк.

Маўчаў і Міколка, праклінаючы ў думках дзедавы арудзіі і турэцкія бастыёны, праз якія так нечакана трапілі ў нямецкія лапы. «Гэта ж трэба, надумаліся дзе спрачацца з дзедам!»

Па загаду каменданта іх прывялі да пакгаўза.

А справа ўся адбылася такім чынам. Нямецкі камендант, які прыйшоў з атрадам салдат, каб пераправіць арыштаваных з пакгаўза ў арыштанцкі вагон, учуяў гучныя спрэчкі Міколкі з дзедам. Наяўнасць лішніх людзей ля пакгаўза паказалася яму падазронай, ды і хто наогул мае права блізка хадзіць ля такога месца… Так натрапіў ён на Міколку з дзедам і, каб высветліць, што яны за людзі, затрымаў іх да пары да часу. Нельга сказаць, каб Міколка з дзедам адчувалі сябе зручна пад нямецкімі штыкамі, але далейшыя падзеі намнога ўзнагародзілі іх за якія паўгадзіны нечаканага палону.

Паставіўшы дзеда і Міколку каля пакгаўза, камендант важна рушыў да дзвярэй, сарваў пячатку на замку, адамкнуў замок і пацягнуў дзверы. Дзверы не паддаваліся.

Міколка сачыў за камендантам, за яго работай і хітра падміргваў дзеду. Але дзед Астап быў не ў гуморы і ў адказ на Міколкавы падміргванні так сурова зірнуў на яго і так рашуча ўзяўся парадкаваць пяцярнёй сваю бараду, што Міколка палічыў за лепшае «не падсыпаць дзеду солі на раны», як казала часам маці. Калі дзед бярэцца за бараду, гэта значыць, што ён узрушаны, узлаваны.

А камендант усё завіхаўся ля дзвярэй. Ён і пыхцеў і соп, аж каплі поту ўкрылі яго лысіну, а дзверы ўсё не паддаваліся. Ён ужо некалькі разоў грозна крычаў, мусіць, прапануючы арыштаваным адразу ж адчыніць дзверы і не заводзіць такой непрыемнай бузы.

«Як жа, адчыняць табе…» — пасмейваўся сам сабе Міколка, успамінаючы, як, уцякаючы ноччу з пакгаўза, вызваленыя ім

арыштаваныя асцярожна, каб не пачуў часавы, замкнулі дзверы знутры на вялікую жалезную засаўку.

Камендант грымнуў каманду, адышоў убок, і чалавек з дзясятак салдат наляглі на дзверы. Але яны — ні з месца, як моцна ні калацілі па іх дзясяткі чалавечых рук. Яшчэ спрытней наляглі салдаты на дзверы, увесь пакгаўз тросся ад моцнай калатнечы, але дзверы не паддаваліся. І толькі са страхі праліліся некалькі струменьчыкаў вады і трапілі за каўнер каменданту. Той падняў галаву ўгару, разгублена паглядзеў на неба, адкуль то дождж. Але ярка свяціла сонца, на небе не відно было ні воблачка, над пакгаўзам мірна ляталі белагрудыя ластаўкі, нідзе не было аніякага, хоць бы маленечкага, намёку на дождж.

Пакруціў галавой камендант, пацяў плячыма недаўменна, на салдат накінуўся з лаянкай. Тыя яшчэ дружней узяліся за працу, і цэлы струмень вады ізноў ёмка трапіў за каўнер каменданта. Аж ашалеў тут камендант, хапіўшыся рукой за спіну, дзе пад мундзірам пацяклі халодныя струменьчыкі вады. Тут і салдаты пазіралі на яго, як на цуд, глядзелі ўгару, але неба па-ранейшаму было чыстае і яснае, без воблачка, без хмурынкі.

А Міколка з дзедам закрывалі раты далонямі рук, каб не засмяяцца голасна, не прарвацца шалёным рогатам. Хто-хто, а яны-то ведалі, адкуль бярэцца нечаканы дождж.

— Узяць бервяно! — закамандаваў тут па-нямецку камендант. Прынеслі тэлеграфны слуп, які ляжаў на пакгаўзным двары. Узяліся дружна салдаты і давай дзяўбці слупам у дзверы. Такі стук паднялі, што народ пачаў збягацца, усім хацелася падзівіцца на незвычайную работу. І тут здарылася такое прадстаўленне, што дзед, расказваючы аб ім пасля, за бакі хапаўся ад вялікага смеху. Толькі гэты слуп разышоўся як след па дзвярах, як на страсе нечакана раздаўся страшэнны грукат. Ледзь не абамлеў ад страху камендант, але паспеў грымнуць каманду:

— Лажыся! Агонь!

І выхапіў рэвальвер з кабуры.

Ляснуў вобземлю слуп. Салдаты маланкай сiганулі ўбок і заляглі на зямлю, нацэліўшы вінтоўкі на дзверы. І ў гэты момант скацілася са страхі нешта круглае, чорнае, вялікае, абдаўшы каменданта цэлай рэчкай вады. Яшчэ секунда — і гэтае круглае, чорнае, прабіўшы дно аб камендантаву каску, уссела на каменданта. Той толькі і паспеў, што пеканўў разы са два з рэвальвера па гэтаму страшнаму ворагу. А потым стаяў як мыла з’еўшы, лыпаў вачыма. З вусоў ліліся струмені вады, і ўвесь ён быў такі прыгажун у гэту хвіліну, такі ваяўнічы з выгляду, што цяжка

было салдатам захаваць строгую дысцыпліну ў такі ўрачысты момант. Яны заліваліся дружным рогатам. Дзед і Міколка не прамінулі тут даць драпака.

Дзед бег так шпарка, што зачапіўся за кастыль і пакінуў на ім палавіну адарванай падэшвы. Ды ў дадатак згубіў красала, якім выкрэшваў заўсёды агонь для свае піпкі. Гэтае красала, як і ўсё ў дзеда, пачынаючы з яго медалёў і канчаючы піпкай, было, па яго словах, вельмі гістарычным. Таму зразумелы тыя вохі і ахі, якія апанавалі дзеда, калі ён недалічыўся красала. Яно заўсёды было прывязана танюткім раменьчыкам да пояса.

— Гэта ж не са звычайнага жалеза, а з турэцкай крывой шаблі была зроблена гэтая рэч. А шабля належала самаму заядламу турэцкаму салдату-янычару… — успамінаў пасля дзед пра сваю страту і вельмі ж сумаваў і жалкаваў.

— Яно і відаць! — падтакваў дзеду Міколка. — Калі ты пачынаеш красаць, дык нібы шабляй махаеш, і не падыходзь блізка.

І сапраўды, калі дзед выкрэсваў агонь для піпкі, дык махаў так заўзята рукой, што лепш было адысціся далей, каб не атрымаць па лбе. Ды і выгляд тады ў дзеда быў надзвычай суровы і грозны.

Так закончыліся ўцёкі для дзеда. Міколка ж кінуўся ў другі бок. Як маладзейшы і спрытнейшы, ён пабег паціху паміж вагонаў, перабег пуці і схаваўся за вадакачку. Апынуўшыся тут, ён не мог уцярпець, каб не паглядзець, а чым жа ўрэшце скончыцца ўся пакгаўзная справа. Па вітай чыгуначнай лесвіцы ён спрытна забраўся на вадакачку і, прымасціўшыся пад самай страхой, пільна сачыў за пакгаўзам.

Там варушыліся ля каменданта салдаты. Яны вызвалілі яго ад уссеўшай на яго бочкі, разабраўшы яе па клёпцы. То была самая звычайная бочка пажарная, якая стаяла на пакгаўзнай страсе, на самым вільчыку, з вадой. Калі пачалі салдаты грукаць у дзверы і трэсці сцены пакгаўза, бочка скранулася ад стуку з месца, пахілілася трохі. Вось адкуль былі тыя струменьчыкі вады, якія ліліся з гары за каўнер каменданту, хоць быў такі ціхі і ясны дзень. А калі салдаты ўзяліся за слуп і ўзяліся не на жарты за дзверы, бочка зусім пахіснулася і, пакаціўшыся з грукатам наніз, нагнала вялікага перапалоху на каменданта. Ад нечаканасці той падумаў, што тут цэлая дывізія варожая наступае.

Калі салдаты вызвалілі каменданта з яго вымушанага палону, яны зноў узяліся за перарваную справу.

Якія ні моцныя былі пакгаўзныя дзверы, але падаліся яны пад тэлеграфным слупам, бразнулі засаўкі, разляцеліся. Каб

падтрымаць свой крыху падмочаны аўтарытэт, камендант храбра кінуўся ў насцеж раскрытыя дзверы, высока трымаючы, аднак, перад сабою неразлучны рэвальвер.

— Ану, выходзь, бандыты, рукі ўгару! — грозна скамандаваў камендант па-нямецку. Але ў пакгаўзе было ціха, як у магіле. І толькі пары з дзве галубоў са свістам пранесліся міма падмочаных камендацкіх вусоў, прымусіўшы яго для перасцярогі разы са два стрэліць у пусты пакгаўз. Ды клубы пылу, узнятыя галубамі, паволі плылі з дзвярэй, і ад гэтага пылу папярхнуўся начальнік, зачыхаў. Зачыхаў і ўзлаваўся.

— …Смірна! — зароў начальнік і тут жа — «чых… чых… чых!». — На плячо-о-о!.. чых… чых… чых… Шагам… арш… чых-чых-чых…

Выстраіліся салдаты і, каб замаскіраваць свой вялікі рогат з начальніка і залішне яго не канфузіць, пачалі дружна чыхаць. Так і пайшла, што называецца, з носам чыхаючая каманда. І кожны ўяўляў сабе расправу, якую ўчыніць генерал над незадачлівым камендантам, не сумеўшым усцерагчы арыштаваных бальшавікоў.

А на станцыі была абвешчана ваенная трывога. Замітусіліся немцы, наладжваючы пошукі ўцекачоў. Але дзе ты іх зловіш! Сядзеў, сядзеў Міколка на вадакачцы і ўрэшце наважыўся падацца ў больш спакойнае месца, бліжэй да дзеда. Каб не папасціся пад гарачую руку немцам, Міколка з дзедам рашылі перасядзець у лесе ночы са тры, пакуль кінуць немцы пошукі ўцекачоў.

## СТРЭЛ НА ПАЛЯНЕ

То ж гэтыя маці!

Яны заўсёды плачуць. Бацька на катарзе быў — маці плакала. Бацька ад немцаў уцякаў — маці ў слёзы. Вось і цяпер, калі сабраўся дзед з Міколкам рушыць у паход, маці таксама пусцілася ў слёзы:

— І куды ж вы пойдзеце? Каб забілі дзе-небудзь, такі ж час неспакойны…

— Не заб'юць… — казаў важна дзед. — А калі тут сядзець, то можна да немцаў у лагер канцэнтрацыйны трапіць… А гэта горай, чым заб'юць…

І дзед паказваў маці нямецкую адозву да рабочых-чыгуначнікаў. У ёй нямецкі генерал пагражаў рабочым куляй і катаржнымі лагерамі, калі яны будуць выступаць супроць нямецкага

войска, няспраўна працаваць на чыгунцы. І асабліва калі будуць падтрымліваць бальшавікоў і думаць аб нейкай там свабодзе.

Маці не спрачалася доўга. Яна ўжо звыклася з такім неспакойным жыццём, гатовая кожную хвіліну да яшчэ горшага. Перад тым як пайсці ў лес, дзед схадзіў да Міколкавага брата Паўла, які хаваўся дзесьці ў горадзе, і вярнуўся адтуль са зброяй. Ужо ў лесе паказваў дзед Міколку сваю зброю. Гэта быў стары пісталет, які мог бы справядліва канкурыраваць з дзедавай славутай «арудзіяй», якая калісьці ўзарвалася ад Міколкавага стрэлу. Пісталет быў вялікі і цяжкі, але дзед любоўна пачысціў яго, прывязаў рэмень, пералічыў і перацёр патроны і схаваў зброю за пояс.

Так і пайшлі.

Ужо цямнела, як прыселі яны адпачыць у лесе, недалёчка ад чыгункі. Адзін за адным ішлі таварныя цягнікі. Часта з вагонаў чуваць быў роў жывёлы, рохканне свіней, гагатанне гусей.

— Куды гэта такую процьму жывёлы вязуць? — запытаў Міколка ў дзеда.

— Куды? У Нямеччыну, куды ж іначай…

— А дзе яны бяруць гэтую жывёлу?

— Як дзе? У сялян, па вёсках… Рабуюць немцы ўсё, што трапляе пад рукі, сялян жабракамі пускаюць, адбіраючы ўсё да ніткі.

— Ну, я б ім паказаў, як рабаваць!

— А што б ты зрабіў? — запытаў дзед.

— А пастраляў бы ўсіх! — І Міколка мнагазначна паглядзеў на дзедаву зброю.

— Вось у тым-то і бяда, што мала ў нас зброі, цяжка з ёй супроць нямецкай вінтоўкі ды кулямёта выступаць… Вось калі арганізуемся як след, тады ніякі вораг нам не страшны…

Ціха гутарылі Міколка з дзедам, адпачываючы на ўскрайку лесу. Але, заўважыўшы нямецкі патруль на чыгунцы, рашылі падацца глыбей у лес, каб выбраць дзе зручную мясціну для начлегу.

Несці пісталет, відаць, было ў вялікі труд дзеду, і ён часта спыняўся, папраўляючы сваё не досыць зручнае «аружжа». Тады Міколка прасіў дзеда даць яму паднесці пісталет, каб крыху ён, дзед, адпачыў. І Міколка ўрачыста нёс зброю, любоўна пагладжваючы вялікую чорную рулю, праўда, вельмі заржавелую і аблупленую. Міколка цэліўся з пісталета ў дрэвы, у прыдарожнае каменне і быў вельмі задаволены такім важнецкім «аружжам».

«Усё роўна як вінтоўка і страляе, мусіць, як з гарматы… Цяпер ніякія немцы нам не страшны… Вось бы паспрабаваць ды пекануць з яго!»

І Міколка прыстаў, як смала, да дзеда:

— Давай паспрабуем, ці спраўна страляе!

Не было асабліва ахвоты дзеду займацца стральбой, але дзе ты адчэпішся ад унука.

— Ну, добра, вось раскладзем агонь, тады і паспрабуем…

Месца для начлегу выбралі надзвычай добрае. Старыя яліны высока ўзнеслі свае лапы ў чорнае неба, на якім мігцелі рэдкія зоры. Пад ялінамі быў сухі ўзгорак, на якім густа разрасліся верасы, папараці і бліскучы брусьнічнік. Яловыя лапы так моцна перапляталіся, што праз іх цяжка было прабрацца. Пад імі было ціха, утульна. Сюды не дасягалі вятры, што глуха гулі ў верхавінах дрэў, і ніякі дождж не прабіўся б тут праз густыя яловыя нетры.

На ўзгорак нацягалі сухога лісця, моху і, падаслаўшы на зямлю яловых лапак, змайстравалі такія мяккія пасцелі, што дзед аж крактануў ад вялікага задавальнення.

— Гэта, браце, лепш, чымся твой тапчан у вагоне! Прастор, чыстата, мякка і пах які духавіты, ну, не раўнуючы, як буржуйская пасцель!

— А ты калі-небудзь спаў, дзеду, на буржуйскай пасцелі? — запытаў Міколка.

— Спаць не спаў, але думаю, што пасцелі ў буржуяў важныя, мяккія… Нязручна ж з іх тоўстым пузам ды на падлозе спаць, як нам з табой.

Назбіраўшы яшчэ сушняку, Міколка з дзедам расклалі невялікі агонь, і ён весела патрэскваў, асвятляючы бліжэйшыя дрэвы і згушчаючы цені за імі. З агнём стала куды весялей. Ён нібы разганяў і тыя гукі лесавыя, да якіх уважліва прыслухоўваўся Міколка і, не разумеючы іх, распытваў дзеда:

— А хто гэта там крычыць?

— А гэта заяц дзе-небудзь каля лесу…

— А хто гэта нібы рагоча так страшна?

— Гэта сава.

— Дык давай, дзеду, пеканём цяпер з пісталета. Весялей будзе, і воўк уцячэ, калі пачуе…

— Ваўкі, браце, не страшны! Цяпер страшней двухногія звяры… А страляць дарэмна не варта, шкада патронаў.

— А ўсё ж паспрабуем, паглядзім, як страляе.

Дзе ты тут адчэпішся ад Міколкі! Згадзіўся дзед. Міколка ўсё намагаўся, каб самому стрэліць. Але дзед, узгадаўшы колішняе паляванне, рашуча адмовіў і стаў сам рыхтавацца да стральбы. Зрабіўшы нажом метку на яліне, дзед важна стаў у баявую позу і падняў пісталет угору. Але калі пачаў цэліцца, дык адвярнуў так далёка галаву ад пісталета і так далёка адставіў руку са зброяй, што відаць было, як дзед яўна непакоіцца за вынікі стрэлу, баючыся, каб не паўтарылася старая гісторыя з «арудзіяй». І сапраўды, ён хутка крыкнуў унуку:

— Хавайся, Міколка, за яліны, а то чаго добрага…

Падаўся Міколка за тоўстае дрэва і, высунуўшы з-за кары сваю кірпаўку, назіраў за дзедавым практыкаваннем. А той стаяў усё з выцягнутай рукой і глядзеў зусім у другі бок ад мішэні, відаць, баючыся выбуху.

— Правей, дзеду, правей трымай, а то не ўцэліш! — дапамагаў Міколка сваімі парадамі.

Урэшце дзед адважыўся і, зажмурыўшы вочы, націснуў на курок. Міколку здалося, што ў яліну стукнуў пярун, бо ўся яна моцна здрыганулася, страсянуўшы з сябе цэлы дождж ігліцы і шышак. Аж шорах пайшоў па лесе — так церушыліся шышкі. Ды агеньчык ледзь не згас ад стрэлу.

Дзед і Міколка мнагазначна пераглянуліся:

— Вось гэта дык арудзія, вось гэта дык б’е.

— Важнецкі б’е, не раўнуючы, як батарэя… — задаволена адказаў дзед і пачаў масціцца нанач, схаваўшы пад бок сваю слаўную «батарэю».

Аднак спалі трывожна. Насіліся па лесе нейкія таемныя гукі, пагрозліва шумелі верхавіны ялін, і абамшэлыя ствалы гудзелі працягла і сумна. Зрэдку падалі каплі дажджу. З ціхім шолахам скочваліся яны з ялін і сіпелі, трапляючы ў прысак вогнішча. Дзесьці раздаваліся не то раскаты далёкага перуна, не то прыглушаныя стрэлы. А з поўначы палавіна неба зрабілася барвовай. Барвовасць то рабілася цьмянай, то набракала залацістай чырванню, нібы падміргвала неба налітым крывёю зрокам. Барвовыя спалохі неба наганялі жудасць і страх. Верхавіны дрэў нібы загараліся тады празрыстым полымем, і яшчэ гусцей быў змрок на зямлі.

А з ветрам, што кідаўся зверху, з высокіх вяршалін, даносіліся водгукі нейкіх слоў, крыку. Нібы нехта кідаў у чорныя прасцягі ночы прыглушаныя словы ці то просьбы, ці то адчаю, ці гарачага закліку да расправы, да помсты.

Міколка бачыў, як дзед уважліва прыслухоўваўся да нечага, прынікшы вухам аж да самай зямлі. Твар дзеда быў трывожны.

— Што слухаеш, дзеду?

— Нічога, унуча, гэта я так… — схамянуўся дзед, заўважыўшы, што за ім назірае Міколка. — Ты сабе спі спакойна…

Але адзін за адным даляцелі гукі стрэлаў, і тады Міколка рашуча запытаў дзеда:

— Ты не хавайся ад мяне, а скажы, што гэта робіцца ноччу?

— А што можа рабіцца цяпер? Няйначай немцы вёску паляць, рабуюць. Бачыш, зарава на паўнеба, значыць, хаты гараць.

З паўночы крыху паспакайнела, і Міколка з дзедам моцна заснулі пад яловым дахам. Але пад самую раніцу, калі пачало ўжо шарэць на ўсходзе неба, ізноў упаўзла трывога ў лес. Прыслухаўся Міколка да палахлівых гукаў, насцеражыўся. Няйначай хто плакаў у лесе, да таго ж выразна чуваць былі паасобныя словы:

— Божа ж мой, Божа…

І яшчэ чуваць былі нейкія словы, але былі яны зусім незразумелымі, і ніколі Міколка іх не чуў.

Заварушыўся Міколка.

— Уставайма, дзед. Вунь плачуць, ды блізка недзе… Дапамагчы трэба.

Прыслухаўся дзед.

— Так… плачуць… Ну што ж, пойдзем, унуча. Вазьмі толькі ў мяшок наша снеданне.

Міколка выкарпаў з цяпла дзесяць печаных бульбін, якія паклаў у прысак, калі лажыліся спаць. Укінуў бульбу ў торбу, якая вісела ў яго цераз плячо. Смачна пахла бульба, і ад торбы ішла прыемная цеплыня, прыграваючы Міколкаў бок. У самы раз была гэтая цеплыня, бо ў лесе стаяў густы халодны туман, у расе былі лесавыя травы, кусты і дрэвы. Аж пальцы на руках адубелі ў Міколкі ад золкай вільгаці раніцы. Прыкладзеш руку да торбы — і добра, як ля печы ўсё роўна.

Развіднела.

Галасы раздаваліся ўсё мацней і мацней, выразна чуўся плач. Вось і выйшлі на самы ўскраек лесу да невялічкай палянкі, акружанай непралазным хвойнікам, хмызнякамі. Трохі не дайшлі да самай палянкі, як спыніліся, схаваўшыся ў хваёвым гушчарніку. Стаялі і моўчкі глядзелі на палянку. І праз якую хвіліну да Міколкі нахіліўся дзед, прашаптаў гарачым шэптам:

— Ідзі, Міколка, назад адсюль… Не трэба глядзець на брудныя людскія справы.

Але, сцяўшы зубы, стаяў Міколка і, нічога не адказваючы дзеду, глядзеў на палянку. Пад высокай разгалістай хвояй стаяў чалавек. Быў ён сярэдняга росту, шырокі ў плячах, прысадзісты. Быў ён без шапкі, буйныя пасмы валасоў у беспарадку звіслі на бледны лоб. На чалавеку была звычайная сялянская світка, такія ж зрэбныя штаны. Ён быў босы і зябка перамінаўся з нагі на нагу. З-пад разарванага каўняра палатнянай сарочкі відаць быў матроскі цельнік у сінюю з белым палосамі.

«Марак, відаць», — падумаў Міколка, успомніўшы матросаў, якія цэлымі эшалонамі праходзілі праз станцыю ў часе рэвалюцыі.

Але што асабліва кідалася ў вочы, гэта быў позірк гэтага чалавека. Ён быў поўны вялікай нянавісці да людзей, што стаялі вакол яго з вінтоўкамі са штыкамі. То былі немцы. Трое вартавалі чалавека, двое таропка, хапаючыся, рылі лапатамі зямлю, капалі яму — магілу. Свежы пясок жаўцеў на палянцы, бразгалі каменьчыкі аб лапаты. Завіхаліся людзі. І відаць было, нібы чаго саромеюцца гэтыя людзі, унікаюць глядзець у вочы адзін другому і нібы чакаюць нецярпліва, як хутчэй скончыць гэтую нудную справу. Толькі адзін з іх, што быў без вінтоўкі і трымаў у руцэ рэвальвер, хадзіў абыякава па палянцы, грозна падганяў тых, што капалі зямлю, крычаў, лаяўся.

— Афіцэр… — ціха шапнуў Міколку дзед і замоўк.

З ямы вылезлі салдаты, кінулі ўбок лапаты, узялі вінтоўкі, што стаялі прыхіленыя да дрэва. Афіцэр падышоў да чалавека пад хвояй, выняў з кішэні нейкую паперу. Страшэнны плач раздаўся на паляне, і Міколка тут заўважыў, што з боку паляны пад зламанай бярозай стаяла жанчына з дзіцем на руках. Другое, большае, стаяла побач, трымаючыся адной рукой за матчын падол, другой расцірала слёзы на перапалоханым і запэцканым тварыку. Жанчына кінулася была да чалавека, што стаяў без шапкі, але грозна закрычаў афіцэр і, наставіўшы на яе рэвальвер, адагнаў назад.

Афіцэр, спяшаючыся, чытаў прысуд:

— «За пасягненне на маёмасць і жыццё мясцовага пана… за парушэнне закону аб уласнасці… за супраціўленне імператарскім нямецкім войскам… за падбухторванне сялян супроць падаткаў… батрак Сямён, былы матрос і член былога бальшавіцкага савета, па загаду яго імператарскага вялічаства імператара ўсяе Германіі Вільгельма II прысуджаны ваенным судом да расстрэлу…»

Двое салдат кінуліся да чалавека пад хвояй і сталі надзяваць яму мяшок на галаву. Але чалавек рашуча скінуў яго і, кінуўшы мяшок у твар афіцэру, крыкнуў:

— Прэч, нягоднікі!.. Не мне баяцца смерці, як вам, сабакам… Але памятайце, нават з магілы я падыму свой кулак, як грозную перасцярогу вам… І многа яшчэ жывых…

Далейшыя словы былі не чутны. Нешта грозна крычаў афіцэр. Бразнулі затворы вінтовак. Міколка сцяўся ў халодны камяк, нібы ўліп у зямлю. Яго слых абвастрыўся да таго, што ён чуў, як шархаціць пясок на магіле, як скочваюцца каменьчыкі на дно ямы. Ён чуў, здаецца, сваё ўласнае дыханне. Ён бачыў, як непакойна стаў варушыцца дзед, дастаючы нешта з-пад пояса. І гарачыя слязінкі павіслі на расніцах. Вось-вось расплачацца Міколка, выдасць сябе і дзеда ў гэтай лесавой схованцы.

Грымнуў стрэл. Празрысты дым пасцілаўся над палянай. У ім губляліся фігуры салдатаў. Бачыў Міколка: чалавек як стаяў, так і стаіць. Вось яшчэ цэляць салдаты, але бачыць Міколка, як няўпэўнена ходзяць іх рукі, як дрыжаць вінтоўкі, паднімаючыся то задужа высока, то нізка. Яшчэ грымнуў залп, а чалавек усё стаіць пад хвояй, і вочы яго гатовы, здаецца, спапяліць усё перад сабой, да таго гараць яны палаючым бляскам. І вось бачыць Міколка, як азвярэлы афіцэр кідаецца да салдат, выхоплівае ў аднаго вінтоўку і пачынае цэліцца ў чалавека пад хвояй.

І не заўважыў Міколка, як над самым яго вухам грымнуў незвычайны стрэл. Афіцэр упаў як падкошаны, нязграбна раскінуўшы рукі на жоўтым пяску. Выразна бачыў Міколка падэшвы яго ботаў з прыстаўшай да іх зямлёй. Ды яшчэ бачыў, як кінуліся ўбок напалоханыя салдаты ды блізка каля іх шпарка прабег той чалавек, што стаяў дагэтуль пад хвояй. Чалавек, якому хацелі завязаць вочы, каб ніколі-ніколі не бачыў ён ні зары, ні яснага сонечнага ўсходу, ні чыстых зор, ні ўсяго, што ёсць на прыгожай зямлі. Гэта быў адзін толькі момант, калі, здавалася, нібы прыкуты быў да месца Міколка, не мог скрануцца, паварушыцца.

— Пойдзем хутчэй адсюль, унучак! Не варта тут доўга заставацца…

Дзед быў узрушаны не менш, чым Міколка, і таропка хаваў сваю зброю за пояс.

І тут не вытрымаў Міколка. Ён кінуўся дзеду на шыю, церабіў яго сівую бараду, ласкава гладзіў шурпатыя шчокі ў маршчынках і, штораз цалуючы, гаварыў, гаварыў:

— Які ж ты, дзед, слаўны чалавек… Які ж харошы, дзядуля… Які ж ты, мой дзеду, храбры.

Але дзед тут паморшчыўся крыху.

— Пра храбрасць ты кінь… Не ў ёй справа, унуча. Кожны павінен дапамагчы свайму чалавеку, які з мазаля жыве і якога крыўдзяць.

Міколка з дзедам, спяшаючыся, пайшлі ад таго месца, дзе вызвалілі яны ад смерці чалавека, якога нават не ведалі, пра імя якога ніколі не чулі. Вызвалілі таму, што на чалавеку было зрэбнае палатно, у чалавека былі мазалі, чалавека хацелі забіць насільнікі, прыгнятальнікі.

## МІКОЛКА З ДЗЕДАМ ТРАПЛЯЮЦЬ У БЯДУ

Ужо вечарэла, калі Міколка з дзедам натрапілі на незвычайную стаянку ў лесе. Тут было некалькі дзясяткаў сялян з сем'ямі, з маёмасцю, з коньмі, з каровамі. Збоку ўсё было падобна на вялікі цыганскі табар. Стаялі калёсы з паднятымі ўгору аглоблямі. На аглоблях былі панадзяваны розныя дзяругі, коўдры. Пад гэтымі дзяругамі спалі на лахманах дзеці. Плакалі жанчыны то голасна, то ціха, наўзрыд. Плакалі па-featурознаму, але словы былі адны:

— А што ж то будзе далей? Хіба жывымі ў магілу класціся?

Ля калёс гарэлі агні. Сухое вецце хвой патрэсквала ў полымі і сыпала ўгору снапы іскраў. Нібы раіліся залатыя пчолы, падымаліся ўсё вышэй і вышэй, аж пад самыя верхавіны маўклівых сосен, ялін. Ад сядзеўшых ля агню сялян мітусіліся навокал палахлівыя цені, яны скакалі па дрэвах, па кустах і знікалі, праглынутыя чорнымі змрокамі ночы. Усюды было трывожна. Гэта відаць было і па плачу жанчын, і па гутарках сялян, па іх трывожных позірках навокал. Некалькі чалавек было з старымі паляўнічымі стрэльбамі. Яны вартавалі жывёлу — тут жа ў лесе пасвіліся коні, каровы, свінні.

Міколку з дзедам спынілі некалькі чалавек, акружылі, запыталі сурова:

— Што вы за людзі? Чаго паначы швэндаецеся па лесе?

— А вы хто? — перапытаў у сваю чаргу дзед.

— Мы сяляне, уцяклі ў лес ад немцаў…

— Ну дык і мы ўцяклі ў лес… А самі мы рабочыя, чыгуначнікі.

Слова за словам — пачалася гутарка. І тут убачыў Міколка, што аднолькава прыходзіцца ад немцаў і рабочым, і сялянам. І тым і другім прыходзіцца хавацца, ратаваць сваё жыццё, апош-

ні свой кавалак хлеба. Рабочага пад канвоем немцы вядуць на працу ў дэпо, на паравоз. За гэтую працу амаль нічога не даюць, прымушаюць галадаць. У селяніна немцы адбіраюць апошнюю карову, апошні хлеб, паляць яго хату, калі селянін не захоча добраахвотна аддаваць гэты хлеб. А паспрабуй ты выступі супроць гэтых парадкаў, цябе расстраляюць або закатуюць да смерці.

— Адным толькі панам настала цяпер вялікае жыццё… — гаварыў адзін з сялян. — Толькі немцы прыйшлі, з’явіўся і пан. І такую расправу ўчыніў нам, што мы і не снілі ніколі… Вось і сядзім цяпер у лесе, укрыўшыся небам. А Сёмку-матроса, які быў у батрацкім камітэце, выдаў пан немцам. Тыя прысудзілі Сёмку да смерці за тое, што ён нібыта падбухторваў сялян да паўстання. Сёмка быў ворагам паноў. За гэта, відаць, і судзілі. І хто ведае — жыў цяпер Сёмка ці не…

Да самае поўначы гаварылі каля агню. Тут жа і ўлегліся спаць. Хто пад калёсамі, хто пад хатнім скарбам, прывезеным сюды. Хто тут жа каля агню, падклаўшы пад галаву торбу ці шапку-кучомку. Тут жа спалі і Міколка з дзедам.

А перад самай раніцай узняліся ў лесе таропкія стрэлы. Папрачыналіся напалоханыя людзі, беглі куды папала, крычалі:

— Ратуйцеся, немцы ў лесе!..

Але хавацца было ўжо недзе. З усіх бакоў акружылі немцы паляну, дзе размясціліся ўцекачы-сяляне. І калі намагаўся хто праскочыць праз густыя зарасці хмызнякоў, насустрач яму высоўваўся шырокі нямецкі штык і чуўся грозны воклič:

— Стой! Назад!

Сяляне кідаліся назад, але ўсюды іх сустракала адна і тая ж грозная каманда, шэрыя каскі салдат і ашчаціненыя штыкі. І тады ўбачыў Міколка, як таропка хавалі сяляне ў кусты свае старыя стрэльбы, як дзед Астап, прыгнуўшыся да зямлі, хаваў у стары абамшэлы корч зброю, старанна абкруціўшы яе старой хусцінкай.

— Патроны, дзеду, хавай, патроны! — ціха крыкнуў Міколка. Але недачуў дзед, ды позна было. Каля дзеда стаяў ужо нямецкі салдат і штыком падганяў яго, каб ён хутчэй падняўся на ногі. Міколка кінуўся да салдата, лёг грудзьмі на вінтоўку, каб адвесці штык ад дзеда, але тут жа пакаціўся па зямлі. Яго ўдарыў прыкладам вінтоўкі другі нямецкі салдат. Міколка ледзь падняўся на ногі, бо, падаючы, ён моцна ўдарыўся аб ламачыну. У Міколкі кружылася галава, нейкая пеляна засцілала яму вочы, але ён выразна бачыў таго салдата, які так неміласэрна ўдарыў яго. І вялікае, непераможнае пачуццё помсты запаліла

Міколку. Ён падхапіў вялікі камень і кінуў яго ў салдата. Камень трапіў у каску. Азвярэлы салдат кінуўся са штыком на Міколку. І здавалася тады Міколку, што ніколі яму болей не ўбачыць ні гэтай паляны, ні лесу, ні дзеда, ні бацькі. Ля самых грудзей прамільгнуў перад ім шырокі штык, і Міколку здавалася нават, што ён бачыць на штыку цёплыя каплі расы ў барвовых і яркіх водбліскаў раніцы. Але то была не раса. Гэта Міколкава кроў пацякла па штыку. Хапіўшыся за яго абедзвюма рукамі, Міколка моцна, да пякучага болю, парэзаў пальцы і крыкнуў. Яго адцягнулі ад штыка падбегшыя жанчыны.

— Што вы з хлопчыкам робіце, рабаўнікі! — крыкнулі яны азвярэламу салдату.

Той памкнуўся быў жорстка расправіцца са сваёй ахвярай, але нейкі трэці салдат затрымаў яго за рукі, нешта гаварыў яму, няйначай, папракаючы за дзікі ўчынак.

Хутка ўсіх сялян павялі пад канвоем з лесу. Сярод сялян быў і Міколка з дзедам. Ззаду салдаты гналі сялянскіх кароў, ганяліся па лесе за коньмі, за свіннямі…

Развіднела. Узышло сонца. Было яно нейкае пахмурнае, мутнае, нібы шызая пеляна засцілала яго ранішні зрок. То былі шэрыя хмары, якія абляглі ўсё неба, праглынулі сонца, замуцілі небавую сінь. Неба было шэрае, халоднае, нібы ў познюю дажджлівую восень.

— Гэта ж дым, а не хмары, — праказалі сяляне.

І сапраўды, то дагарала вёска, да якой падвялі цяпер пад канвоем сялян. Вёска гарэла ўжо другі дзень, і некаму было тушыць пажару, дый баяліся тушыць. Вёску падпалілі немцы за супраціўленне сялян непамерна цяжкім падаткам і кантрыбуцыям. У гэтым падпале вінаваты быў і пан, які помсціў сялянам за рэвалюцыю і падгаворваў немцаў на бязлітасную расправу з беднатой вёскі. І вось стаялі пачарнелыя коміны, дыміліся галавешкі, струменьчыкі дыму віліся ад платоў, ад пажоўклых яблынь, бяроз. Зграі крумкачоў ляталі ў паветры, апускаліся сям-там на гарачых папялішчах і завіхаліся на трупах жывёлы, загінуўшай у дыме, у агні.

— Наша вёска… — ціха прамовіў адзін селянін да дзеда. — Вось яны ж і спалілі… — паказаў ён на сваіх канваіраў.

Над усімі навісла грозная цішыня. Толькі чуваць былі кароткія загады афіцэраў ды канваіраў. Твары салдат былі ва ўсіх грозныя, у некаторых раз’ятраныя. Гэтыя зусім былі не падобны на тых, якія займалі калісьці Міколкаву станцыю. Там былі палкі

запасных салдат, многія былі з барадамі, пажылыя людзі. Неяк нават лягчэй было гаварыць з імі, не так па-зверску абыходзіліся яны з народам. У гэтых жа і форма трохі інакшая: чорныя венгеркі, большасць салдат на конях, у многіх чорныя шапкі і на шапках страшныя чарапы з перакрыжаванымі касцямі.

— Відаць, гусары смерці з карных вільгельмаўскіх батальёнаў… Быць цяпер у бядзе нам… — ціха прагаварыў дзед Астап да Міколкі.

Канваіры спынілі народ недалёка ад спаленай вёскі. Паставілі пару кулямётаў, нацэліўшы іх на сялян. Асобна ад усіх пад узмоцненым канвоем трымалі двух маладых сялянскіх хлапцоў, якіх захапілі немцы са зброяй у лесе. Канваіры і афіцэры, акружыўшы сялян, нечага чакалі. І раптам заварушыліся, заўважыўшы на дарозе ад маёнтка белае воблачка пылу. Воблачка расло, шырылася. І хутка ўсе ўбачылі, што гэта шпарка едзе па дарозе запрэжаная ў чацвёрку коней карэта. Паабапал і ззаду карэты ехала чалавек з трыццаць coннікаў. Усё гэта былі тыя ж гусары смерці. Чацвёрка коней стала як укопаная перад кругам сялян. З карэты паволі сышоў добра апрануты чалавек з навіслымі сівымі вусамі, у паляўнічым касцюме, у жоўтых ботах. Чуваць было, як рыпелі гэтыя боты, становячыся на зямлю. То быў памешчык. Ён дапамог выйсці з карэты другому чалавеку ў вайсковай форме.

— Палкоўнік нямецкі… — шапнуў нехта збоку і замоўк пад суровым позіркам канваіра.

Памешчык з палкоўнікам падышлі да сялян. Спешыліся коннікі, пад’ехала яшчэ адна каламажка, і з яе таропка вылез поп, няўклюдна апраўляючы падраснік, з-пад якога відаць былі наваксаваныя папоўскія боты.

— А гэты сіваграк чаго тут? — гучна запытаў дзед Астап у стаяўшага побач з ім селяніна. Але той не паспеў адказаць, бо загаварыў памешчык. Ён стаяў перад народам, важна выставіўшы ўперад немалы свой жывот, ленавата пакручваючы вус, і нібы ўсміхаўся сялянам самай мірнай, лагоднай усмешкай:

— Ну вось, мужычкі, ізноў мы з вамі сустрэліся… А вы думалі, што мы рассталіся навекі… Ну што ж, мала з вас ласкі імператара Вільгельма? — І ён паказаў рукой на абгарэлыя коміны сялянскіх хат, на сумныя папялішчы. — Вы думалі, што вам пройдуць так, даруюцца грабяжы над маім маёнткам? Што вам даруецца бальшавіцкае свавольства? Не, не чакайце, мае мілыя, гэта вам не свабода… Гэта вам не бальшавікі… Гэта войска

вялікага імператара Германіі, якое стаіць за закон, за законную ўладу, за маю зямлю, за маё дабро.

Ён гаварыў і гаварыў, і словы яго перайшлі ўжо ў шалёны крык. Ён захліпаўся словамі, пырскаў пенай, пагражаў, лаяўся.

— За кожную маю карову я вазьму цяпер тры каровы, за кожнае зярно вы будзеце расплачвацца са мной сваёй крывёю і потам… Я згнаю ў турмах… Я расстраляю.

Яго спыніў чамусьці палкоўнік, запытаў нешта. Тады памешчык пачаў гаварыць больш спакойна:

— Палкоўнік ставіць перад вамі ўмову: калі хочаце яшчэ пабачыць свету, гаварыце, хто забіў нямецкага афіцэра і вызваліў Сёмку-бальшавіка.

Народ глуха маўчаў. Толькі відны былі сцятыя ў бяссіллі кулакі, суровыя твары былі ў цяжкай задуме. Ужо бегаў памешчык сярод людзей, ярасна трос кулакамі, грозна падступаў да некаторых.

— Гавары: дзе Сёмка? Хто яго вызваліў?

Але маўчаў народ. Толькі ўсхліпвалі жанчыны, выціраючы слёзы ражкамі хусцінак, ды плакалі дзеці.

Адышоўся памешчык, пачаў нешта раіцца з палкоўнікам. Той махнуў рукой аднаму з афіцэраў. Двух хлапцоў, якіх узялі з лесу са зброяй, падвялі да абгарэлай грушы, паставілі пад ёй. Да іх падышоў поп, нешта гаварыў ім, паказваючы на крыж. Але бачыў Міколка, як плюнулі хлопцы на крыж папу, на яго грудзі. Як пабіты сабака, адышоў поп убок. Загаласілі жанчыны, хапіўшыся за галовы. Глуха шапталі старыя:

— Калі ж кончацца гэтыя здзекі? Ці доўга цярпець яшчэ будзем?

Грымнулі стрэлы… Міколка не глядзеў туды. Ён бачыў толькі, як узняліся над папялішчам стаі чорных крумкачоў, як з абгарэлай грушы пасыпалася сухое лісце і ціха-ціха кружылася, ападаючы ўніз. Яму насустрач віліся шызыя клубы дыму ад стрэлаў.

Доўга яшчэ здзекаваліся з людзей, усё выпытвалі пра Сёмку, пра тых, хто падбухторваў не здаваць немцам хлеб і жывёлу, хто быў у батрацкім камітэце.

Але колькі ні настаўлялі на людзей кулямётаў, колькі ні спрабавалі страляць паверх галоў у народ, нічога не дапамагала. Людзі маўчалі. Тады памешчык з афіцэрамі падышлі бліжэй да людзей. Некаторых бралі і адводзілі ўбок. Вось і да дзеда з Міколкам падышоў памешчык, сурова паглядзеў:

— Ты хто, нешта цябе я не памятаю?

— Я таксама з табой незнаёмы… не даводзілася сустракацца… — працадзіў дзед скрозь зубы.

— А ты, чорт стары, адказвай, калі з табой гавораць… Жарты ў мяне кароткія… Хто і адкуль? — усё пытаў расчырванелы ад злосці пан.

— Чалавек я… Вось хто я.

Ашалелы пан трос дзеда Астапа за рукі. Кастлявыя былі гэтыя рукі, з шырокімі пляскатымі далонямі, з вечнымі мазалямі, з незмываемым нагарам ад дэпоўскага жалеза, са слядамі ад мазуту. Зірнуў на іх пан і затросся аж.

— Недарма ты аціраешся тут сярод мужыкоў… Відаць, з рабочага кодла, пракляты… — засіпеў ён і, заўважыўшы Міколку, запытаў яго грозна, паказваючы на дзеда: — Гавары, хто гэта такі?

— Гэта мой дзед… — адказаў напалоханы Міколка.

— Які дзед?

— А дзед… вось проста дзед, і ўсё тут.

— А ты адкуль узяўся? Хто ты, шчанё?

Хацелася Міколку сказаць, што не шчанё ён, а самы што ні на ёсць бальшавікоў сын, але, зірнуўшы на дзеда, схамянуўся. Прагаварыў ціха:

— А я дзедаў унук.

— А фамілія твая?

Зірнуўшы яшчэ раз на дзеда, прамовіў:

— Не ведаю…

Як уджалены, падскочыў пан.

— У склеп іх! — грымнуў ён на ўсё горла.

Міколку з дзедам адвялі ўбок да купкі людзей, акружаных цяпер моцным канвоем. Салдаты ганяліся за каровамі, за іншай жывёлай. Частку гналі ў маёнтак да памешчыка, рэштку бралі для нямецкага войска. Сяляне аставаліся на дымных папялішчах. Над папялішчамі кружыліся крумкачы. Дыміліся платы і дрэвы садоў. Пад апаленай грушай ляжалі два забітыя чалавекі.

Міколка з дзедам ішлі ў групе людзей. Іх падганялі салдаты. На салдатах былі чорныя венгеркі і чорныя шапкі. На шапках былі страшныя чарапы. На пражках паясоў паблісквалі пад сонцам выбітыя літары нямецкіх слоў: «З намі Бог!»

Кружыліся крумкачы над дымнымі папялішчамі.

Паблісквалі штыкі.

Людзей вялі ў склеп.

# У НЯМЕЦКІМ ПАЛОНЕ

Склеп быў нізкі, вільготны, з прапыленымі, бруднымі сценамі, з невялікімі акенцамі, узятымі ў жалезныя краты. У акенцы відаць былі ногі часавога. Другі часавы быў ля дзвярэй, ад якіх вяла ў склеп невялічкая лесвіца. Гэты часавы хадзіў узад і ўперад ля дзвярэй і раз-пораз гучна пакрыкваў, каб не размаўлялі між сабой, каб сядзелі ціха, маўкліва. Было тут каля трыццаці чалавек. Было некалькі батракоў, адзін каваль, а рэшта сяляне. Усе чакалі, чым жа скончацца ўрэшце гэтыя падзеі, ці будзе калі збаўленне ад пана, ад немца, ці хутка прыйдзецца паміраць. Спрабавалі спытаць аб тым часавога:

— Што-та будзе з намі?

Часавы трохі разумеў словы. Ён зразумеў запытанне. Усадзіўшы з размаху штык у зямлю, ён сказаў:

— Вось што будзе з вамі…

Такі быў адказ. Ад гэтага жэсту ў многіх забегалі мурашкі па целе і стала цяжка дыхаць. Каб пазбыцца невясёлых дум, стараліся заснуць, масціліся на цаглянай падлозе, на старых бочках, паскіданых у склепе. Мала гаварылі, бо ўсё ўжо было перагаворана паміж сабой і кожны знаў галоўную ўмову — не гаварыць немцам нічога, не выдаваць нікога. Толькі адзін з сялян, з прычасанай у клінок барадой, у чыстым, новым кажушку, усё божкаўся ды войкаў у кутку:

— Ах, Божа мой, Божа… ах, Божа мой, Божа…

Адзін з маладзейшых раздражнёна сказаў яму:

— Ды кінь ты Бога трывожыць… Пражыў век свой сабакам, памры хоць па-людску.

Чалавек змаўкаў на хвіліну, потым зноў пачынаў сваё:

— Ах, Божа мой, Божа…

А часам, забыўшыся і не зварочваючыся ні да каго, шаптаў сабе ўголас:

— Я ўсё раскажу… усё… усё… І хто што ў пана браў. І хто да бальшавікоў быў блізка. І хто бальшавіцкім духам жыве.

Тады акружылі яго ціха і, наставіўшы кулакі да носа, папярэдзілі грозна:

— Замоўч, божая гніда… Толькі рот паспрабуй раскрыць, не ўбачыш болей ты свету. І памятай, калі выдасі хоць аднаго чалавека, не жылец ты на гэтым свеце. Не гэтымі, дык другімі рукамі задушым, з агнём-полымем пусцім усе твае паганыя здабыткі.

Чалавек змаўкаў, бялеў і тросся ўвесь, як у ліхаманцы.

Гэта быў трапіўшы сюды па непаразуменню царкоўны стараста суседняга сяла. Ён баяўся за сваё жыццё, баяўся немцаў, каб не трапіць у немінучую бяду. Але яшчэ болей баяўся ён сваіх сялян. Ён добра ведаў, што яны не кідаюць сваіх слоў на вецер, што ўсіх іх не заб'юць, што заўсёды знойдуцца людзі, якія здолеюць жорстка расправіцца з ім. І ён трэсся, баяўся, як смоўж, уцінаў галаву ў плечы, маліўся Богу.

Вельмі ненавідзеў гэтага чалавека Міколка, гатоў быў сваімі рукамі задушыць яго, каб змоўк гэты паганы слізкі рот, які памінае ўсё Бога, Багародзіцу.

Як жа! Багародзіца! Благадатная!

У склепе прасядзелі да самага вечара. Увесь дзень сядзелі галодныя, толькі далі ім па кубку халоднай салдацкай кавы, горкай, нясмачнай. Дзед аж плюнуў.

— І гэта ежа, называецца…

Вечарам зайшоў афіцэр і пачаў выводзіць па аднаму, па два са склепа. Неўзабаве павялі і дзеда з Міколкам. Іх доўга вялі па розных калідорах, закутках, урэшце прывялі ў вялікі, прыгожа абстаўлены пакой. Тут было некалькі салдат, афіцэр. За сталом сядзелі памешчык і надзьмуты палкоўнік.

— Абшукаць! — быў кароткі загад.

Міколку і дзеда старанна абшукалі. З кішэняў вынялі з пару печаных бульбін, урачыста паклалі іх на паперы, на стол. З-за пазухі дзеда дасталі невялічкі пакунак, скручаны з розных анучак. Абодвух падвялі да палкоўніка. Паказалі палкоўніку знойдзеную пры вобыску бульбу. Той паглядзеў, пачаў смяяцца з памешчыкам.

— І гэта, называецца, людзі! Апора бальшавікоў… Варвары, дзікуны. Харчуюцца, як жывёла, як першабытныя людзі. І яны яшчэ, бачыце, хочуць свабоду. Ім хочацца, бачыце, улады… Яны хочуць быць уладарамі зямлі, уладарамі фабрык, заводаў, вялікай чалавечай культуры. Дык я ж пакажу ім культуру, сапраўдную нямецкую культуру, культуру імператарскай Германіі.

І, павярнуўшыся да афіцэра і павысіўшы голас, ён грымнуў:

— На два гады ў канцэнтрацыйныя лагеры, як удзельнікаў беспарадкаў…

— Дазвольце далажыць вам, гаспадзін палкоўнік, што гэтыя людзі, — тут афіцэр паказаў на Міколку і на дзеда, — аказалі нам у лесе супраціўленне.

— Тры гады турмы… — кінуў палкоўнік.

— Дазвольце далажыць вам, гаспадзін палкоўнік, што салдат яго імператарскага вялічаства…

— На катаргу! — усё больш свірэпым рабіўся палкоўнік.

Афіцэр, які ўсё дакладваў і раз-пораз хадзіў да століка, дзе была пакладзена Міколкава бульба і дзедаў скрутак, раптам спрытна падскочыў да палкоўніцкага стала і стаў як укопаны:

— Асмелюся далажыць, што ў гэтых людзей знойдзены яшчэ пры вобыску баявыя патроны…

Памешчык аж падскочыў на крэсле, ці то ад страху, ці то ад нечаканасці. Паволі падымаўся палкоўнік, і вочы яго нaліваліся крывёй, увесь ён надзьмуўся неяк, ашчацініўся, нібы ўспеніўся твар, набрыняў хваравітаю чырванню. Палкоўнік адразу страціў увесь свой важны выгляд, сваю вытрыманасць. Ён бегаў навокал стала, падбягаў да дзеда з Міколкам, трос кулакамі, адскокваў раптам назад, нібы не Міколка стаяў перад ім, а ўзброены да зубоў чалавек. Міколка разумеў, што трапілі яны з дзедам у бяду, ды яшчэ вялікую. А праз каго? Відаць, трохі і праз дзеда… Гэта ж трэба, зброю схаваў, а пра патроны забыўся. Але некалі было крыўдаваць, дый цяжка было крыўдаваць на дзеда. Як-ніяк, ён жа вельмі стары чалавек, дзе яму ўсё прыпомніць.

А палкоўнік усё бегаў.

Надакучыла гэта Міколку. Дый цяжка было стаяць увесь час на зморaных нагах. І, не чакаючы асаблівага запрашэння, Міколка важна ўсеўся ў крэсла ля стала, ды яшчэ дзеда запрасіў:

— Сядай, дзед, яны ж могуць і пастаяць, не вялікай жа працы людзі…

Дзед разгублена паглядзеў на ўнука, але потым рашуча сеў, махнуўшы рукой:

— Нам цяпер усё роўна! Абы адпачыць…

Аж аслупянелі тут усе. У памешчыка выпала папяроса з зубоў. Вырачанымі вачыма пазіраў на памешчыка палкоўнік. Стаялі афіцэры, выцягнуўшыся ў струнку, чакалі начальніцкага загаду. Замерлі салдаты ля дзвярэй. У пакоі была мёртвая цішыня. Чуваць было толькі, як гудзе каля лямпы муха, выбірае месца, дзе сесці. І села. Проста на начальніцкі нос села. Муха вывела палкоўніка з аслупянення. Ён махнуў раздражнёна рукой, падскочыў да дзеда, грымнуў на ўвесь пакой:

— Устаць перада мной, нягоднік!

Дзед адмахнуўся ад яго, як ад назойлівай мухі.

Аж зайшоўся тут ад крыку палкоўнік:

— Забіць! Павесіць! Расстраляць!..

Усе захадзілі і замітусіліся. Нібы трывога ўзнялася над старым панскім палацам. Ляпалі дзверы, брынчалі шпоры, чуліся загады, распараджэнні. Палкоўнік сядзеў на канапе і выціраў

спацелы лоб. Цяжка дыхаў памешчык, засопся аж, ці ад страху то, ці ад вялікай злосці. Да дзеда і Міколкі падскочылі салдаты, схапілі іх, звязалі рукі. Павялі з пакоя ўсё тымі ж доўгімі змрочнымі калідорамі. Павялі ў склеп.

Хутка апынуліся ў тым жа самым склепе, дзе сядзелі і раней.

Толькі цяпер тут было меней народу. Усяго чалавек дзесяць. Усе яны ўжо ведалі Міколку, сустрэлі яго ветлым словам:

— Не табе б, хлапчына, хадзіць сюды… Адсюль дарога толькі адна…

Яны не хацелі дагаворваць, не хацелі, каб залішне сумаваў Міколка, каб не думаў ён аб тым, аб чым не варта думаць у такія дзіцячыя гады. І мо таму, што сярод іх быў такі малы хлапчук, яны стараліся сябе трымаць весела. Пелі песні, расказвалі яму смешныя байкі. І калі даведаліся, што дзед Астап — стары мікалаеўскі салдат, прасілі яго расказаць пра турэцкую вайну. Але тут умяшаўся Міколка:

— Дужа старыя байкі ў дзеда, што іх расказваць… Лепш скажы мне вось, дзед, дзе цяпер мой бацька, колькі-то дзён, як няма яго. І дзе ён — невядома.

— І я не ведаю, унуча… Давай лепш класціся спаць, ды няхай прысняцца табе добрыя сны…

— Што сны… — махнуў рукой Міколка.

Як ні стараліся ўсе развесяліць Міколку, гэта не ўдавалася. Якая весялосць у такім месцы? Хутка ўсе палеглі спаць на падлозе. Але не спалася. Чуліся галасы наверсе. Зрэдку даляталі гукі музыкі. То іграў у пана палкавы нямецкі аркестр. Пан спраўляў перамогу над сялянамі, над бальшавікамі. Шчодра частаваў сваіх збаўцаў — нямецкіх афіцэраў. Адтуль даляталі гукі танцаў, чулася брынчанне шпор, вясёлыя галасы. У склепе было цёмна. Скрозь невялічкае акенца, скрозь краты відаць быў кавалачак цёмнага неба. На ім пераміргваліся махнатыя зоры. Крычала нейкая птушка ў садзе. Здалёк, з-за саду, даносіўся дзіцячы плач, і нечая маці ціха спявала: «Ба-а-ю, бай… а-а-а… ай…» Відаць, батрачка калыхала недзе свайго малога.

Прынік Міколка гарачым ілбом да жалеза крат і глядзеў, глядзеў. Нібы ўпершыню ён бачыў і гэтае неба, і такія ж махнатыя зоры, і ў ціхім шолаху лісця цёмныя купіны ліп. Нібы дрыжалі гэтыя дрэвы пад густым месячным святлом, і так выразна відаць былі зубчыкі лісця на цёмным небе, што хацелася дацягнуцца да іх рукой, дакрануцца да іх, прылашчыцца гарачай шчакой. Дакрануўся рукою да крат. Халодныя яны, моцныя.

Рыпнуў пясок за акенцам, мільганулі ногі часавога. Раздаўся злосны воклік і стук вінтоўкі:

— Назад!

Лязо штыка прасунулася ў акенца, пагрозліва бразнуўшы аб краты. Міколка адхінуўся ўбок і, трымаючыся за сцяну, ціха падаўся да дзеда. Прылёг ля яго. Дзед ляжаў у глыбокай задуме, маўчаў. Не вытрымаў тут Міколка, аж затрымцеў увесь, сцяўся ў камочак.

— Страшна мне, дзеду…

— А ты не бойся… Чаго баяцца, унуча! Усё будзе добра. Усё будзе слаўна. Прыйдзе час — не будзе ні паноў, ні царскага войска нямецкага. Будуць толькі рабочыя ды сяляне, ды такія вось, як ты, бальшавіковы сыны… і зямля будзе наша… і паравозы нашы… і яны будуць бегаць куды шпарчэй, бо яны будуць нашы. Сонца будзе свяціць куды гарачэй, і яно будзе нашым… і неба наша… Усё, усё наша!

— То добра, дзеду, але ж нас з табой не будзе. Вунь на ганку стаяць кулямёты, яны ж нарыхтаваны на нас.

— А ты плюнь на іх, на гэтыя кулямёты… дужа страшныя яны хіба?

Змаўкае Міколка. Але чуе дзед, як уздрыгваюць Міколкавы плечы. Плача Міколка і стараецца захаваць свой плач, сцяўшы зубы, уткнуўшыся тварам у дзедава плячо. Упору і самому дзеду заплакаць, але трымаецца ён, гладзіць унукавы плечы, на вуха яму шэпча:

— Ну чаго ты, дурненькі мой?.. А яшчэ казаў, што храбры, храбрэй дзеда.

Захліпаецца плачам Міколка, гаворыць скрозь слёзы:

— Не ад страху я, дзеду… Мне бацьку шкада. Мне паравозаў нашых шкада. Хто-та ездзіць цяпер на іх? Немцы ж гэтыя… Як жа ж… У іх жа царскія арлы. Ды з імі Бог яшчэ гэты. На кожным поясе напісана.

— А ты, унуча, яшчэ раз плюнь і на арлоў, і на Бога. І арлам галовы скруцім. А дасць бог, і Богу шыю звернем… Было то клопатаў, каб аб іх думаць… А дзеду ты вер! Кладзіся вось і спі… Усё, браце, будзе наша! Толькі выспацца цяпер нам трэба з табой. Ну, кладзіся!

Ціха ў склепе. Чуваць роўнае дыханне сонных людзей. Прашуршыць часам спужаная мыш у саломе.

А на дварэ парыпвае пясок пад цяжкімі ботамі часавога. Паблісквае штык пад месяцам, цьмяна льсніцца цёмная каска.

Застыглі на ганку палаца чорныя кулямёты, ды дрэмлюць салдаты ля іх.

Ціха шалясцяць на вятрыску пахучыя ліпы, скідаючы на жвір, на траву цяжкія кроплі расы.

Спіць Міколка.

Нібы спіць і не спіць. Ён едзе на вялікім-вялікім паравозе. Ля акенца бацька сядзіць. Снапы гарачых іскраў ляцяць з трубы і нізка пасцілаюцца над дрэвамі, над кустамі, над бязмежнымі прасцягамі палёў. Ляцяць рэйкі насустрач і нібы пасцілаюцца пад магутныя колы, нібы праглынаюцца паравозам… А ён усё шпарчэй і шпарчэй, ціха кружыцца галава ў Міколкі, развяваюцца валасы ад страшэннага ходу, ад імклівага ветру. Пара шыпіць, аж гудзе, і ляскочуць сталёвыя колы.

…Тах-тах-тах… тах-тах-тах…

Зірнуў Міколка ўперад, і валасы ў яго дыбам — проста на іх ляціць, набліжаецца семафор. Вялікі, чырвоны. Як кроў, гарыць яго зыркае вока. А паравоз усё шпарчэй і шпарчэй, аж заходзіцца сэрца, дыхаць цяжка. Збіраецца з сілай Міколка, намагаецца крыкнуць. Але цяжка перамагчы страшэнны бег паравоза, гэты грукат сталі, жалеза, гэтае гудзенне шалёных вятроў. Яшчэ секунда і, перамагаючы страх, крыкнуў Міколка:

— Бацька, стой! Стой, стой, семафор вунь чырвоны…

Крыкнуў і прахапіўся, вочы адкрыў. Разам з ім прачнуўся дзед, прачнуліся ўсе, што спалі з ім разам. Спачатку нічога не маглі ўцяміць. У склепе было відна, але святло было нейкае дзіўнае. Маленькае акенца ўзіралася ў іх распаленым чырвоным вокам…

— Пажар! — схамянуліся ўсе і кінуліся да акна.

## НЕЧАКАНАЕ ВЫЗВАЛЕННЕ

Кавалак неба, які відзён быў праз акенца, цяпер здаваўся жывым. Нібы трапятаў ён, калыхаючыся ў чырвоных пералівах. Чырвань то набракала крывёю, то рабілася цьмянай, то раптам успыхвала на ўсю шырыню залацістымі водбліскамі. Водбліскі цямнелі, гаслі, знікалі і зноў успыхвалі з новаю сілай, паланілі ўсё неба. І здавалася, плавіцца неба, робіцца вадкім, празрыстым. Вось-вось успыхне яно і ападзе на зямлю мільёнамі іскраў і ззяючага вугалля. Нібы аграмадная птушка ўзмахвала агнявым крылом, і яно білася, трапятала, параненае, цяжка прыпадала да зямлі, рассыпаючы па небе залатыя пер’і.

Глуха шумелі цяпер барвовыя кроны ліп. То ўзняўся вецер і грозна гудзеў у садзе, па сценах палаца, па даху. Чамусьці не відаць было часавога, не чутна яго цяжкага кроку.

— Пажар! — крыкнулі людзі. — Але дзе гэта гарыць? Няйначай, пачалося з панскіх гумнаў, адтуль ляцяць іскры.

І толькі сказалі гэта, як страшэнны выбух адкінуў іх ад акна. Бліснула асляпляючым полымем, і, уздрыгануўшы, глуха загудзелі сцены склепа. Пасыпаўся тынк са сцен, са столі. Чутна была бязладная тупатня ног наверсе, чыесьці крыкі, і зусім недалёчка раздалося некалькі адрывістых стрэлаў. Потым раптам нібы ўсё змоўкла на хвіліну, і злавесная цішыня павісла над домам, над садам.

Міколка зірнуў у акно. І першае, што ён убачыў, гэта нямецкую каску. Яна ляжала ля самага акенца, уткнуўшыся казырком у пясок. Ля ганка, на каменні ў нязручных позах раскінулася некалькі чалавек, ляжаў абернуты кулямёт, цьмяна паблісквала стужка з патронамі. Людзі ляжалі нерухома.

— Дык вось яно што! — ускрыкнулі разам усе людзі ў склепе. — Пажар-то відаць не просты, наш пажар, партызанскі…

Раптам раздаліся з грукатам дзверы на ганку, і цэлая група людзей з’явілася там. Яны выходзілі з панскага палаца. Уперадзе ішоў звязаны палкоўнік, разам з ім клыпалі некалькі афіцэраў, трымаючы рукі ўгору. Іх канваіравалі каля дваццаці чалавек з вінтоўкамі, з драбавікамі. У аднаго Міколка заўважыў звычайную сякеру. Палкоўніка і афіцэраў павялі кудысьці за вугал, у цёмную ліпавую алею.

Тут жа, ля ганка, стаяла група абяззброеных нямецкіх салдат. Яны стаялі без канвою, аб нечым гаварылі, спрачаліся. Чуваць былі асобныя словы, смех, паасобныя вясёлыя выкрыкі.

Дзесьці ў садзе грымнула некалькі стрэлаў.

Салдаты замоўклі на хвіліну, некаторыя махнулі рукой.

І тут толькі зразумелі людзі, якія сядзелі ў склепе, што яны вольныя цяпер, што наканаваная смерць прайшла міма іх, стараной. І, абняўшы радасна адзін аднаго, расцалаваўшы малога Міколку, яны пабеглі да акна і пачалі біць па яго жалезных кратах. На стук прыбеглі некалькі нямецкіх салдат. Яны зірнулі ў акенца і кінуліся кудысьці за дом. Хутка цэлая група людзей паказалася адтуль. Бразнулі засовы дзвярэй, і палоннікі склепа адзін за адным выйшлі на вольны прастор. Развіднела ўжо. Вось-вось пакажацца сонца над блізкім лесам. Але ясней сонца ўзнялося пад самае неба гучнае і радаснае «ўра».

І здавалася Міколку, што вылеціць яго сэрца з грудзей ад вялікай радасці. Ён кінуўся на шыю матросу, які, відаць, камандаваў усімі людзьмі.

— Ого! Які ж ты яшчэ маленькі, а так ужо немцаў укрыўдзіў, што яны табе смерць рыхтавалі… — усміхнуўся матрос і, падхапіўшы Міколку, падняў яго высока-высока, пад самыя шаты нерухомых ліп.

Нічога не адказаў Міколка, увесь захлынуты радасцю збавення, радасцю перамогі. І толькі ўгледзеўшыся ў матроса, ён крыкнуў дзеду:

— Дзед, а гэта ж той чалавек, што пад хвояй стаяў і якога ты ад расстрэлу выбавіў.

І што тут было, хіба апішаш! Дзед абняўся з матросам. Яны кінулі вобземлю шапкі і разы тры пацалаваліся, моцна абняўшыся. Аж войкнуў дзед, да таго моцна сціснуў яго ў абдымках Сёмка-матрос. І бачыў нават Міколка, як заплакаў дзед і — які ж ён хітры! — неўпрыкметку выцер слязу кончыкам барады. Не сцярпеў тут Міколка, папракнуў дзеда:

— А здаецца ж, не малы ты ўжо, дзед, і трэба ж так…

— То ж гэта не сляза, унуча, гэта радасць… — сканфузіўся дзед.

Ну, што ты зробіш тут з гэтым дзедам!

Сёмка-матрос запытаў іх, адкуль яны, што за людзі і якія прычыны прымусілі дзеда смела заступіцца за яго, Сёмкава, жыццё. І калі ўсе даведаліся, што дзед Астап — бацька памочніка машыніста Андрэя, а Міколка — сын Андрэеў, агульнай радасці не было канца-краю.

— Гэта ж мой найлепшы прыяцель, твой бацька! — гаварыў ён Міколку. — Твой жа бацька самы смелы бальшавік! Мы з ім, ды з другімі рабочымі, ды з нашымі вось партызанамі добра правучым паноў… будуць ведаць, як вёскі грабіць, бальшавікоў ды беднату выдаваць немцам на расправу… А прыйдзе час, возьмемся як след і за немцаў!

Панскі палац пачаў ужо гарэць з аднаго канца. Вострыя языкі полымя вырываліся з верхніх акон, узнімаліся чорныя клубы дыму.

— Важнецкі гарыць. Усё пайшло пылам-дымам… Мала было яму ўсё, гаду… Ад хцівасці на нашыя вёскі пайшоў, праз яго пагарэлі. Немцаў наслаў. Няхай жа гарыць, выгарае, каб і кораня панскага не засталося…

І тут хапіўся матрос:

— А гэтага самага тлустага д'ябла, самога пана мы яшчэ не злавілі.

— Схаваўся, гад, недзе…

— Выкурым, нідзе дзенецца!

І тут заўважыў Міколка, як з верхняй веранды скочыла на зямлю нешта белае, грузнае. Ён як дуж кінуўся ўслед. За ім пабег дзед. Белае, грузнае кінулася ў зараснікі бэзу, акацый. Вось яны наганяюць ужо, толькі лыткі ўцекача мільгаюць у роснай траве, а спыніцца каб, дык не. Гэта быў пан. Ён выскачыў у адной сарочцы і цяпер пабег, засопшыся, наважыўшыся праскочыць сад і даць лататы да лесу.

— Стой, пузан, а то выстралю! — крыкнуў на бягу дзед і размахваў карабінкай, якою надарыў яго Сёмка-матрос.

Пан сігануў праз шчыкет, але, учапіўшыся сарочкай за шчыкеціну, павіс на ёй, агаліўшы валасатыя ногі.

— Бач ты, сцёгны якія паразгадаваў, па тры пуды, няйначай…

Але раптам зрабіўся сур'ёзны і адступіў на крок. Узяўшы важна пад казырок, скамандаваў дзед:

— Злазьце з плота, ваша сіяцельства, нязручна так, няйначай!

Але дзе тут злезці пану. Павісла сіяцельства ўсур'ёз. Падбеглі сяляне і не зусім, каб сказаць, далікатна знялі яго з нязвыклага крэсла. Як крануўся зямлі пан, так і кінуўся ў ногі сялянам. Цалаваў зямлю, слюнявіў сялянскія лапці, маліўся, прасіўся, усімі багамі кляўся, што не ён вінаваты ў расстрэлах, а немцы.

— Хто табе веры дасць, ірад? Але што з ім рабіць, з сіяцельствам гэтым? Не варта кулю псаваць на жабу такую… — раіўся Сёмка-матрос і загадаў: — Пасадзіць яго ў сажалку, няхай прахалоджваецца пасля такой гарачкі… А то ў ванне яшчэ сёння, мусіць, не было яго сіяцельства.

І сядзеў пан у сажалцы, паварухнуцца баяўся.

А партызаны тым часам не драмалі. Выганялі жывёлу з панскіх хлявоў, выводзілі коней, выгружалі свірны. Прыгадзіліся панскія каламажкі, на іх зручна прымайстравалі адабраныя ў немцаў кулямёты, палажылі вінтоўкі. На адной з каламажак прымасціўся ля кулямёта Міколка. Дзед Астап усеўся на нямецкага стаенніка і быў цяпер падобны на сапраўднага ваяку-кавалерыста. Не хапала да поўнага баявога выгляду толькі шаблі. Але Сёмка-матрос дастаў аднекуль і шаблю і надарыў ёю дзеда. Міколку ж ён даў маленькі штык ад нямецкай карабінкі. Штык быў падобны на кінжал, і ім вельмі ганарыўся Міколка, павесіўшы яго збоку на папружку. Так зрабіўся Міколка кулямётчыкам, а дзед Астап — кавалерыстам. Праўда, у кавалерыі

дзеду Астапу хутка не спадабалася, і ён перайшоў неўзабаве ў пяхоту. Але аб гэтым пасля.

Калі дагараў ужо ніжні паверх панскага палаца, атрад Сёмкі-матроса рушыў з двара. Уперадзе ехаў Сёмка на добрым вараным кані, якога ўзялі ў пана. За ім ехалі некалькі хлопцаў, узброеных шаблямі, карабінамі і гранатамі. Услед рушылі тры каламажкі з кулямётамі.

Ужо развіднела.

Збляднела зарава пажару, толькі дым пасцілаўся яшчэ чорнай смугой над дарогай, над лесам. Атрад прыбавіў кроку. Коні рванулі ўперад і панеслі наўскач, пераганяючы адзін аднаго. Затарахцелі каламажкі, падскакваючы на выбоінах ды на карэннях лясной дарогі.

— Ану яшчэ, яшчэ паддай! — грымнуў Сёмка-матрос.

Як лёгкія птушкі, узняліся коні, распушыўшы хвасты і грывы. Толькі срэбрам мільгалі падковы капыт ды клубы пылу ўзнімаліся ўслед, плылі за атрадам ружовым воблакам.

— Паддай, паддай! — не змаўкаў камандзір.

І нібы беглі насустрач дрэвы, кусты. Нібы кідаў хто пад ногі коням лесавую дарогу. Шалёным віхрам несліся кулямётныя каламажкі, нібы плылі над дарогай, не адчуваючы ўжо ні пнёў, ні камення. Біў вецер насустрач, захлынаў дыханне, намагаўся шапкі сарваць. Але што той вецер!

— Гармонік давай! — крыкнуў нехта.

Захліпнуўся спачатку гармонік, прачышчаючы свае медныя галасы. І потым пайшоў, разышоўся, узляцеў гарачымі галасамі вышэй стромкіх хвоек, пракаціўся звонамі-паразвонамі, і дух захапіла, калі пайшлі ў ход пералівістыя пераборы. Ды бумкалі басы, як цяжкія стрэлы гармат: бум, бум, бум…

А з гармонікам песня ўзляцела. Усім атрадам яе падхапілі. І песня, і людзі, і агнявыя пад сонцам грывы коней — усё ляцела бурай-віхурай уперад ды ўперад.

І толькі іскры мільгалі з падковаў капытоў ды гудзелі дрэвы, захлёствалі твары вятры. Воблака пылу пасцілалася ўслед, узнімаючы віхурай апаўшае лісце, прыгінаючы да зямлі шумлівыя верасы і зялёную папараць.

А песня ляцела.

Не дагнаць яе, не перагнаць…

Рукой ворага яе не злавіць.

## ЗДАРЭННЕ З ДЗЕДАВЫМ СКАКУНОМ

Атрад спыніўся на стаянку ў густым непраходным лесе. Ніякаму немцу сюды не дабрацца. Паабапал глухія балоты, дзе толькі дзікая птушка праляціць ды лесавая звярушка з купіны на купіну пераскочыць. Партызаны выкапалі зямлянкі, паставілі шалашы ад дажджу.

На векавой сасне, якая ўзнімалася над усім лесам, ставілі наглядчыкаў па чарзе. На сасне было буслава гняздо, вельмі зручна было чалавеку хавацца пад ім. І вельмі часта забіраўся туды Міколка і, прыслухоўваючыся да буславага клёкату, назіраў за лесам, сачыў за дальнімі дарогамі, якія відаць былі адсюль як на далоні. Часам прыходзілі сяляне і скардзіліся, што іх толькі-толькі абрабавалі немцы. Кідаліся ўслед партызаны, наганялі немцаў, раззбройвалі, адбіралі назад сялянскае дабро.

А кожнае ночы частка партызан рабіла налёт на маёнткі, давала «перцу» панам. Дзед Астап ездзіў часам з другімі партызанамі на разведку. Ён ужо нядрэнна трымаўся на кані, добра налаўчыўся страляць, седзячы на кані, з карабіна. Але адно, што турбавала дзеда, гэта яго няўменне абыходзіцца з шабляй. І так і гэтак практыкаваўся ён, але нічога не выходзіла. І нават тонкі дубец не паддаваўся адразу дзедавай шаблі.

— Цяжка мне, старому мікалаеўскаму артылерысту, да шаблі прызвычаіцца… Ці то шабля худая, ці то рукі аслаблі… — скардзіўся ён часам на сваё няўмельства Міколку.

І гэта, на яго думку, падрывала яму крыху аўтарытэт як слаўнага кавалерыста-рубакі. Але дзед не здаваўся. Ён усё намагаўся прылаўчыцца да шаблі. Цэлымі гадзінамі сек лазовыя дубцы. Сек, праўда, у пешым страю. Нават дровы налаўчыўся шабляй сеч. Але калі толькі садзіўся на каня, усякі спрыт на шаблю праходзіў. А калі ўрэшце адважыўся дзед папрактыкавацца на кані, выйшаў адзін толькі канфуз. Разагнаў ён каня, выхапіў маладзецкі шаблю і ну ёю махаць, каб ямчэй сekануць па бярэзіне. Размахнуўся з усіх сіл, крактануў ды як секане, аж конь на дыбы ўзвіўся. Зірнуў тут дзед, а ў каня толькі адно вуха матляецца. І хоць з адным вухам конь, але такога вялікага спрыту ён набраўся, як сігане, як падскочыць ды, наставіўшы хвост пісталетам, як пусціцца ў шалёны галоп — у дзеда аж дух захапіла.

Імчыць дзед ні жывы ні мёртвы, толькі барада па ветру пасцілаецца. І ў пору яму крыкнуць «ратуйце», але ці старому артылерысту паратунку прасіць? Ухапіўся за грыву, трымаецца. Але тут як падскочыць конь, як падкіне ўгору заднія ногі, не

ўтрымаўся дзед і лёгкай птахай узвіўся ў паветра. Добра яшчэ, што гарцаваў ён пад вялікай бярозай. Так і ўчапіўся за сук, павіс на ім.Назіраючы за дзедавай джыгітоўкай, Міколка з жалем падумаў, што давядзецца яго бацьку быць сіратой, а яму, Міколку, застацца без слаўнага таварыша. Але, угледзеўшы дзеда на суку, узрадаваўся і, пад'ехаўшы з каламажкай, дапамог яму злезці на зямлю. Стары быў зусім разбіты, скардзіўся на паясніцу, але духам не падаў і ўрачыста тлумачыў Міколку:

— Хіба ж гэта конь? Гэта ваўкарэзіна, а не конь, не можа седака на сабе ўтрымаць… Вось у турэцкую вайну былі коні ў нас, дык коні.

Хаця Міколка быў трохі інакшых думак пра коней і пра седакоў, але тут не пярэчыў. Не хацеў крыўдзіць старога. Тым больш што ў таго і так хапала тут непрыемнасцей. Набегаўшыся ўволю, яго скакун з'явіўся назад, з'явіўся аднавухі, з абкарнаным хвастом. Усе, усміхаючыся, зірнулі на кавалерыста, сёй-той запытаўся:

— Што-та сталася з тваім стаеннікам?

Не міргнуўшы вокам, дзед адказаў:

— Ды, няйначай, дзе за сук засілілася жывотнае, ну… і адарвала слыхавы орган.

Дзед любіў пры зручным выпадку ўжыць навуковае слова.

Змаўчалі ўсе. Каму было ахвота крыўдзіць такога слаўнага рубаку? Толькі Сёмка-матрос, хітра падміргнуўшы, запытаў яго:

— Ці цэлы хаця сук той?

Гэта завельмі ахаладзіла дзеда да кавалерыйскай справы. А тут яшчэ падвярнуліся такія падзеі, што дзед хоць і атрымаў перамогу над немцамі, але канчаткова рашыў перайсці да пяхотнай справы. І не тое каб пешака хадзіць, скажам, але каб не кідацца болей з дзедавым слабым здароўем у кавалерыйскія атакі.

Неяк давялося дзеду паехаць раз у разведку. Паехалі ўтрох: Сёмка-матрос, Міколка і дзед. Чуткі былі, што ў бліжэйшых вёсках грабяць нямецкія коннікі. Паехалі праверыць, ці праўда то, каб у выпадку патрэбы наляцець з атрадам. І толькі выехалі на ўскраек лесу, бачаць — едуць чалавек з восем нямецкіх кавалерыстаў. І проста насустрач едуць. Міргнуў Сёмка Міколку і дзеду, каб зараз жа хаваліся ў лесе. Не ісці ж утрох супроць васьмі.

Але тут пачалі рабіцца несусветныя штукі з дзедам. Праўда, ва ўсім ён і душой не быў вінаваты, усё пачалося з каня. Ці той пачуў іржанне сваіх былых нямецкіх сяброў, ці якое другое ліха ўзбрыло яму ў галаву, але конь выказаў яўныя намеры кінуцца

ўперад, насустрач немцам. Дзед і так і сяк браўся за каня, усё намагаўся яго павярнуць убок да лесу. Але нічога не дапамагала. І праз якую хвіліну дзед горда імчаў на немцаў, не трацячы, аднак, у глыбіні душы надзеі, што, можа, як і ўдасца павярнуць шалёнага каня назад. Толькі і паспеў крыкнуць дзед: «Ратуй, Сёмка, старога артылерыста!» Ды, бачачы немінучую сустрэчу з немцамі, прышпорыў з адчаем каня наскамі ботаў, выхапіў шаблю ды як закрычыць «ура», аж Міколка не на жарты спужаўся.

Зірнуў Сёмка на Міколку — вось ашалеў дзед! — ды, выхапіўшы гранату з кішэні, памчаў на ўвесь дух услед за дзедам. Не кідаць жа старога рубаку ў небяспецы такой. Бачаць немцы, ляцяць на іх дзіўныя коннікі, «ура» крычаць, шаблямі махаюць. А тут і трэці памчаўся ад лесу. То Міколка пусціўся наўскач за дзедам, за Сёмкам. Павінен жа і ён дапамагчы дзеду з бяды выбавіцца. Імчыць Міколка ды раз-пораз з карабіна страляе. Замітусіліся немцы, спыніліся. А ўгледзеўшы Міколку, зусім спалохаліся. Ім паказалася, што прытаіліся ў лесе несусветныя сілы — выскакваюць адтуль адзін за адным партызаны. І, не разважаючы доўга, пусціліся немцы назад, коней прышпорылі.

Але не такі дзед, каб адстаць. І хоць гатовы ён і каня нямецкага праклясці, які кінуў яго ў такую страшэнную атаку, хоць гатовы ён і другое вуха яму адсеч за вялікае непаслушэнства, але дзе ты ўжо дзенешся, калі шаблю выхапіў. Ляціць віхурай дзед, насцігаючы немцаў, крычыць:

— Здавайцеся, пакуль не ўцяклі!

Бачаць немцы — не паласа, кінулі карабіны, рукі ўгору. Тут і Сёмка падскочыў, падскакаў Міколка, палонных пад канвой забралі.

Так неспадзявана рушыў дзед у кавалерыйскую атаку і, як бачым, атрымаў перамогу. Дзедаў аўтарытэт вырас яшчэ болей, і ніхто ўжо не пасмеў бы напомніць дзеду аб яго джыгітоўцы, аб няшчасным конскім вуху і абсечаным хвасце яго скакуна. Але ўсе гэтыя падзеі вельмі дорага каштавалі дзеду, дні са тры прахварэў ад тых здарэнняў і расказваў пасля:

— Думаў я, што не прыйдзецца мне болей Міколку пабачыць праз гэтага нямецкага скакуна, які папёр мяне на нямецкі атрад. Але калі ўбачыў, што няма мне ўжо аніякага выхаду болей і што насоўваецца мая смертухна, рашыў я тады на хітрыкі пайсці і так грымнуў на іх, што аж сам быў спужаўся… А тут і Сёмка! А тут і Міколка! Ну, думаю, цяпер падавай мне цэлую дывізію і самога генерала! Я ім пакажу, што знача дзед Астап і яго турэцкая шабля!

Сказаўшы пра шаблю, ды яшчэ пра турэцкую, дзед трохі пачырванеў і змоўк. Відаць, адчуваў сябе ніякавата. Ён сам убачыў, што трохі перабаршчыў. Пра шаблю ж ён наогул не любіў успамінаць пасля трагічных падзей з конскім вухам. З крыху прыкрага маўчання вывеў Міколка:

— А ты не зважай, дзед, калі там сёе-тое з шабляй у цябе было раней… Затое ж ты перамог! Усё ж такі здаліся немцы!

— Так, здаліся… — прамовіў дзед.

Але ўсё ж прымушаны ён быў адмовіцца ад кавалерыйскіх атак.

Як-ніяк, адчуваў сябе вельмі нязручна з шабляй. Ды і гарцаваць на кані не дазвалялі ўжо гады і здароўе!

— Арудзію б мне! Паказаў бы я вам, як ваяваць трэба! — гаварыў часам дзед і марыў аб гарматах, аб сваёй колішняй зброі.

І трэба сказаць, што гэтыя мары хутка спраўдзіліся і дзед Астап стаў заўзятым артылерыстам, багата дапамогшы партызанам у іх барацьбе з немцамі.

Аб гэтым пасля.

## ПАРТЫЗАНСКІ БРАНЯНОСЕЦ

За часы Міколкавага партызанства на яго роднай станцыі ў родным горадзе станавілася ўсё горш і горш. Дзясяткі рабочых былі пасаджаны ў турмы. Некаторых саслалі на катаргу, некаторых у канцэнтрацыйныя лагеры. Каля дэпо стаялі часавыя, і рабочым ледзь не пад канвоем прыходзілася станавіцца на работу. Пад канвоем вадзілі машыністаў на паравозы. За малейшае супраціўленне пагражалі расстрэлам. За работу амаль не плацілі, і сем’і рабочых жылі ў вялікім голадзе. І гэта ў той час, калі праз станцыю праходзілі дзясяткі і сотні эшалонаў з хлебам, з мясам, з жывёлай. Немцы рабавалі народ і ўсё, што рабавалі па гарадах і вёсках, адсылалі ў Германію.

Але як ні горка жылося рабочым, яны не думалі здавацца немцам. Яны рабілі ўсё, чым толькі можна было нашкодзіць нахабным заваёўцам, якія марылі задушыць Савецкую краіну. Рабочыя псавалі паравозы, вагоны, чыгуначны шлях, каб перашкодзіць немцам вывозіць нарабаванае дабро. Уцякалі машыністы з паравозаў, спынялі ў лясах цягнікі і раздавалі назад сялянам адабраную ў іх жывёлу. Арганізоўвалі рабочыя дружыны абароны. Дастаўвалі зброю.

Нават дзеці рабочых удзельнічалі ў гэтай барацьбе. І часта можна былоназіраць на станцыях, як Міколкавы таварышы, катаючыся на падножках вагонаў, сыпалі ў буксы вагонаў пясок, разлівалі ў кандуктараў і змазчыкаў мазут, каб не было чым змазваць калёсы.

Барацьбой рабочых кіравалі бальшавікі. Сярод іх быў і Міколкаў бацька — Андрэй. Ён даўно быў у падполлі, і часам самыя блізкія людзі не ведалі, дзе ён знаходзіцца.

Часам, калі асабліва зверскімі рабіліся немцы ў якім-небудзь горадзе ці на станцыі, рабочыя рабілі ім добрую ўзбучку, напамінаючы гэтым, што рабочая сіла не зломлена. Вось і цяпер атрымаў з горада ліст Сёмка-матрос. Прачытаўшы яго, раіўся з дзедам Астапам, з другімі партызанамі. Быў пры гэтай нарадзе і Міколка. Чуў ён, што трэба атраду зрабіць налёт на горад і даць добрага пытлю немцам. Думалі і гадалі, як лепш правесці налёт.

Да поўначы раіўся Міколка з дзедам, як лепш справу зрабіць. Аж надакучыў дзеду сваімі парадамі. Той і рукой махнуў:

— Адчапіся ты! Малы ты яшчэ, табе толькі варон біць з карабіна ды штыком тваім пячуркі з пяску рабіць…

І дзед паказаў на кінжал, якім так ганарыўся Міколка. Абурыўся тут Міколка, трохі нават узлаваўся на дзеда і з пагардай сказаў яму:

— Як відаць, ты, дзед, добра яшчэ мяне не ведаеш! Можа, я таксама ваяка… Ізноў жа: хто спаў каля пакгаўза, а хто лазіў у пакгаўз людзей вызваляць? Ага! Успомніў! А хто каню вуха шабляй адсек?

Аж паморшчыўся дзед, узгадаўшы пра гэтую прыгоду, і, каб спыніць непрыемныя для яго Міколкавы ўспаміны, адразу ж пайшоў на змірэнне:

— Ну, дык чаго ты ўжо так разышоўся? Хіба я кажу, што ты не храбры? Ну дык гавары, што ты надумаў.

— А вось і надумаў…

І тут расказаў Міколка аб сваім плане:

— Бачыш, дзеду, сіл яшчэ ў нас мала і зброі мала… Калі не пойдзем мы на хітрасць, нічога часам і не выйдзе!

Міколкаў план быў вельмі просты. Лазячы на хвою, на наглядальны пункт, Міколка часта бачыў, як праходзяць зрэдку па Дняпры параходы. Яны хадзілі пад нямецкім сцягам, хадзілі з узброенай камандай, з кулямётамі, а часам і з гарматамі.

— Абы толькі параход нам дастаць, а там пабачым… — закончыў Міколка свой план.

— А што ты думаеш! — захапіўся дзед планам. — Ты ж у мяне мудрэй за Напалеона!.. Ды што Напалеон! Ты ж проста, браце мой…

— Бальшавікоў сын, — падказаў дзеду Міколка.

— То-та ж!.. — згадзіўся дзед і пайшоў раіцца да Сёмкі-матроса.

А раніцай дзед Астап і Міколка выбраліся на разведку ў горад. Запрэглі звычайныя сялянскія калёсы, палажылі на воз паўмяшка мукі, яек з дзясятак. Дзед Астап нават пеўня недзе расстараўся. Усё гэта рабілі, каб ніхто не западозрыў іх у партызанстве і каб немцы прынялі іх за звычайных сялян, якія едуць на базар у горад. Так і паехалі. Амаль без асаблівых прыгод дабраліся яны да горада. Толькі ў адным месцы спынілі іх немцы, хацелі ў падводы забраць. Але выручылі ўзятыя яйкі. Аддаў дзед салдату цэлы дзясятак, пусцілі іх далей. Так і даехалі. Каб лішне не цягацца з мукой ды з розным другім харчам, рашылі аднесці іх на станцыю да маці.

— Нябось, даўно і хлеба добрага не бачыла яна…

Расплакалася маці ад нечаканай сустрэчы.

— А я-то думала, што і костачак тваіх не збяру. Толькі чуеш штодня: расстрэлы ды расстрэлы… Вось бацька твой таксама хаваецца недзе. Хіба ж гэта жыццё! Табе б у твае годы пагуляць толькі!

— Некалі, маці, гуляць! — заўважыў Міколка.

Яшчэ больш расплакалася маці.

— А ты слёзы кінь! Некалі, маці, плакаць! Давай лепш павячэраць старым бальшавікам! — важна сказаў Міколка і стаў наразаць хлеб на стол. — А ты, дзед, цягні сала з торбы.

Хутка і развіталіся. Маці дзеда прасіла, каб сачыў ён за ўнукам, да бяды не дапускаў.

— А ты не клапаціся, мы-то ўжо адзін за аднаго пастаім, у крыўду не пусцім.

Пайшлі на прыстань. Па дарозе дзед Астап заглянуў да Міколкавага брата, потым забег на тэлеграф, на станцыю, да знаёмага тэлеграфіста, з сваіх.

— Ты ўжо стукні па тэлеграфу на раз'езд, што мы выязджаем. З раз'езда нашым перададуць у атрад…

На прыстані сустрэліся. Абышлі горад, агледзелі, дзе і якая часць стаіць. Заўважылі на беразе Дняпра нямецкую батарэю. Недалёка ад прыстані стаяў штаб. За штабам стаяла гарадская турма. Ля яе важна прахаджваліся нямецкія часавыя. Агледзелі ўсё, запомнілі і пайшлі на параходную прыстань. Якраз і пара-

ход стаяў на Дняпры, і даволі вялікі. Дзед купіў білеты, селі на параход. Тут было багата пасажыраў, усё больш буржуяў, памешчыкаў, царскіх афіцэраў і генералаў, якія ўцякалі з савецкай Расеі. Адны ехалі ў гетманаўскую Украіну, другія трымалі шлях за граніцу. На параходзе была спецыяльная суправаджальная каманда з нямецкіх салдат і аднаго афіцэра. На носе і на карме стаяла па кулямёту. Недалёка ад капітанскага мосціка прыстроілася скарастрэльная гармата.

Зірнуў на яе дзед, уздыхнуў, на Міколку глянуў.

— Разумею, дзеду, зайздросціш? Гэта табе не турэцкая шабля!

Яны ўважліва аглядалі ўсё, прымячалі кожную драбніцу, пакуль не накінуўся на іх капітан парахода:

— Чаго вас носіць тут, д'яблы? Панам толькі вочы мазоліць… Айда ў трэці клас, галадранцы!

Зірнуў на яго Міколка, кулакі сцяў. Нешта хацеў сказаць, але міргнуў тут яму дзед, за руку ўзяў, уніз павёў. Шапнуў:

— Памятай, дзе знаходзішся!

Адно, што добра было ў трэцім класе цяпер, гэта прастора. Як відаць, звычайныя людзі мала карысталіся цяпер параходам. Усё больш паны ехалі са сваімі манаткамі, чамаданамі, сабачкамі. Ехалі афіцэры. Ехалі эсэры і ўсякая іншая погань. Усе яны ратавалі свае шкуры ад бальшавікоў, марылі аб жорсткай расправе над імі.

— Мы ім пакажам матушку Русь! Мы ім адпомсцім за бацюшку-цара! Мы павешаем іх на слупах тэлеграфных за святую царкву! — толькі і чуваць было навокал. І асабліва стараўся адзін генерал. Стары, сівы, недалужны, а такі ж заўзяты. Каб змог, дык, відаць, сваёй бы рукой перадушыў і бальшавікоў, і сыноў бальшавіковых. Аж пенай пырскаў:

— Вось гетман ім пытлю дасць… Вось немцы вуму-розуму навучаць… Вось французы, ангельцы… Хоць немцам усю Расею аддаць, толькі не ім, бальшавікам праклятым…

І аж сіпеў стары, шапялявіў. І «за бацюшку-цара» было ў яго «за бачушку-чара». І пра супастатаў-бальшавікоў: «Я іх, шупаштатаў, на кожным шлупку паражвешваю, я ж іх кішкі павыпушчаю…»

Нявесела было Міколку слухаць гэтыя размовы, і калі генерал на якую хвіліну астаўся з ім адзін, Міколка шапнуў дзеду, мацаючы пад поясам свой кінжал:

— Дай я яго, дзеду, трохі штыком памацаю ці хоць стукну па дурным чэрапе…

Але дзед рашуча забараніў:

— Не чапай яго! Ён і так акалее ад свае злосці… А мы з табой тут адны пакуль што. Вось пачакаем раніцы, а цяпер кладзіся і спі…

А раніца выдалася надзвычай добрая. Узышло яркае сонца, і пад яго праменнямі хутка раставалі і знікалі белыя пасмы туманаў. Паволі плыў параход. Дзед разбудзіў Міколку:

— Уставай! Ужо час на работу, пад'язджаем.

Абмацаўшы за поясам сваю зброю, дзед з Міколкам падаліся на гару, на верхнюю палубу. Было мала людзей на ёй. Яшчэ спалі. Толькі драмала ля кулямётаў некалькі салдат, хадзіў сонны афіцэр і курыў цыгарку, каб адагнаць рэшткі сну. Ды неўгамонны генерал сядзеў ужо на лаўцы, усё не супакойваўся і пагражаў «шупаштатам», памінаў «бачушку-чара».

Дзед з Міколкам скромна прыселі на скрутку канатаў. Дзед закурыў цыгарку і ленавата сплёўваў за борт, пільна прыглядаючыся да берагоў. І, нешта заўважыўшы, раптам ажывіўся, падняўся, Міколку крыкнуў: «Пара!» І адкуль толькі спрыт узяўся ў дзеда, кінуўся ён бегма да капітанскага мосціка і, стрэліўшы на бягу з рэвальвера, закрычаў капітану:

— Ану, круці да берага! Ды шпарчэй! А то галаву знясу!

Стрэл нарабіў перапалоху. За дзедам кінуўся афіцэр. Перапалохаліся салдаты. І ўжо гатоў быў афіцэр выстраліць у дзеда, як з правага берага раздаўся дружны залп. Потым яшчэ і яшчэ. Толькі пырскі ўзняліся ля бартоў — партызаны стралялі так, каб не параніць Міколку і дзеда. Стары генерал як стаяў, так і сеў на лаўку, і падняцца не мог, прыліп ад страху. Прыніклі салдаты да кулямётаў, але тут раздаліся залпы з левага берага. Салдаты кінулі зброю і пабеглі хавацца.

Прачнуўся народ на параходзе, пачалася несусветная сумятня. Істэрычна крычалі пані і паненкі, выскачылі паны на палубу. Некаторыя ад страху перад партызанамі кідаліся за борт у ваду. Толькі нямецкі афіцэр паспрабаваў яшчэ абараняцца, прыпаў да кулямёта. Але не паспеў ён зрабіць па беразе і дзясятка стрэлаў, як адцягнуў яго дзед ад кулямёта.

А параход, ткнуўшыся носам сюды і туды, паволі падплываў ужо да берага. Людзі на параходзе стаялі з паднятымі ўгору рукамі. З берага неслася моцнае «ўра». Адтуль віталі дзеда, віталі з перамогай слаўнага Міколку.

Праз якую хвіліну параход прыстаў да берага. Яго прывязалі канатамі, паклалі дошкі на бераг, пачалі высаджваць палонных. І чаго тут не рабілася толькі! І крыку было, і панскіх вобмаракаў,

і просьбаў, і паклонаў, і слёз. Яшчэ ўчора такія гордыя і грозныя, сёння кідаліся паны на калені перад Сёмкам-матросам, перад дзедам, перад Міколкам. Сёмка-матрос дзяліў палонных на дзве кучкі. У адну адсылаў жанчын, старых і маладых паненак, старых паноў і афіцэраў, камандаваў:

— Ану, мадамы ды старыя сіяцельствы, айда налева.

А маладзейшых адбіраў у меншую кучку. Тут былі заўзятыя ворагі бальшавікоў. Людзі, якія вербавалі сілы для гетмана. Людзі, якія ездзілі ў савецкую Расею па контррэвалюцыйных справах, якія прадавалі Расею сусветнай буржуазіі. Міколка ведаў, што чакае гэтых людзей, і нікольки не шкадаваў іх, калі партызаны павялі іх у лес, у лагчынку.

Яго больш зацікавіла гісторыя з генералам. Той ад страху страціў усякую прытомнасць, і як сеў на лаўку, так і прыліп да яе.

Зірнуў на генерала Сёмка-матрос, а ў генерала і каленкі затрэсліся. Аж плюнуў тут Сёмка-матрос:

— Ну і абломак імперыі, да чаго ж палахлівы!

Паглядзеў на генерала і Міколка. Успомніў пра «бачушку-чара» і пра «шупаштатаў». Хацеў нешта грознае сказаць, але махнуў рукой і, пераймаючы Сёмкавы манеры, таксама плюнуў паважна і адышоўся ўбок.

— Што ж з генералам рабіць будзем? — запыталі партызаны Сёмку.

— А паслаць яго да мадамаў!.. Няхай ідзе.

І тут звярнуўся Сёмка-матрос з вялікай прамовай да незвычайных сваіх палонных:

— Вы, каторыя мадамы, старыя сіяцельствы і ўсякія іншыя абломкі імперыі! Айда адсюль хутчэй, ды на вочы больш не трапляйцеся! Пападзецеся зноў — народ мы недалікатны: адзьё, мусью, на штык ды ў рэчку…

І нават Міколку падміргнуў: «Бачыш, як я па-французску з імі наярваю!»

А «мадамы», «сіяцельствы» і ўсе «іншыя абломкі» не палічылі патрэбным доўга ўпрошваць сябе і адразу ж далі заўзятага драпака, толькі лыткі мільгалі. Адкуль і спрыту набраўся стары генерал: так бег, што аж «мадамы» з сабачкамі ззаду засталіся. Бег і шаптаў:

— Пожа, Пожа, выратуй маю душу!

І даваў такога спрытнага драпака, што толькі пыл курэў пад «абломкам імперыі».

А «шупаштаты» аглядалі параход, прыводзілі яго да парадку. Сёмка-матрос, жартуючы, назваў параход браняносцам, і гэтая

назва так і засталася за ім. А паколькі Міколка быў галоўным завадатарам усёй параходнай справы, то судна называлі яшчэ Міколкавым браняносцам.

Так партызаны набылі сабе «браняносец».

## КАРАВУЛ! ПАЛКОЎНІКА ЎКРАЛІ!

Дні са два вакольныя памешчыкі адчувалі сябе спакойна. У гэтыя дні іх не турбавалі партызаны, занятыя выключнымі клопатамі. Яны рамантавалі параход. І не толькі рамантавалі, а рабілі яго сапраўдным баявым параходам. Завёўшы яго ў вузкую затоку ў лесе, адкуль параход нельга было ўгледзець з Дняпра, партызаны фарбавалі судна, грузілі яго дрывамі, ставілі кулямёты. Уздоўж бартоў клалі мяшкі з пяском. Гэтыя мяшкі — добрая абарона ад куль. Дзед Астап старанна завіхаўся ля параходнай гарматы, вывучаючы яе механізмы.

Але самая галоўная справа была з абмундзіраваннем. Міколкаў план патрабаваў, каб усе пераапрануліся немцамі. Іначай нельга было рабіць. І хоць дзеду Астапу і не дужа падабаліся гэтыя спектаклі, як назваў ён пераапрананне, але нічога не зробіш. Справа — яна заўсёды ёсць справа. І вось шукалі дзеду нямецкі мундзір па яго росту і густу. Апрануўся дзед як след, зірнуў у люстэрка і плюнуў. Быў вельмі незадаволены. Дзедавы валасы лезлі з-пад каскі, зусім недарэчы была барада. Ну, які ж салдат нямецкі ды з такой барадой, не раўнуючы, як у Льва Талстога? Спрабаваў яе дзед і за каўнер мундзіра запхнуць, каб схаваць гэтую бараду, але як зірнуў ізноў у люстэрка, яшчэ раз плюнуў.

Усе зарагаталі. Гэта яшчэ больш узлавала дзеда. А тут яшчэ нехта параіў:

— Узяў бы ты, дзеду, галавешку, абсмаліў бы бараду крыху, глядзі, маладзей бы за нас стаў!

Тут дзед зусім выйшаў з цярпення і моцна аблаяў дарадчыка:

— Хоць гадамі ты малады, а па розуму ўсё ж вя-я-лікі дурань! Барада справе не перашкода… Калі салдаты ходзяць без барады, дык затое носяць яе генералы… Жадаю быць генералам!

— Раз генералам, дык генералам…

Хто будзе пярэчыць дзеду. Так зрабіўся дзед Астап на якія два дні нямецкім генералам. Важна і строга хадзіў па параходзе, разгладжваючы сівую бараду і папраўляючы спаўзаўшую на лоб нямецкую каску. Каб сапраўды дзед паходзіў на генерала, яму нават два ордэны нямецкія начапілі на грудзі. Зірнуў на яго

Міколка, усміхнуўся. Успомніў дзедавы турэцкія медалі і хацеў нават падражніць яго: «Медалі веку ўрвалі…»

Але ўзгадаўшы, што ўсё гэта робіцца для справы, Міколка палічыў за лепшае не чапаць дзеда, не рабіць яму непрыемнасцей. Тым больш што дзед Астап, зрабіўшыся генералам, праводзіў час зусім не па-генеральску. Дзед ведаў машыны. Таму разам з Сёмкам-матросам яны завіхаліся ля машын, лазілі ў качагарку, рабілі агляд механізмаў свайго «браняносца».

А праз які дзень, пакінуўшы частку людзей у лесе, партызанскі атрад рушыў да горада на параходзе. Ніхто не мог разгадаць, што пад выглядам нямецкай каманды хаваюцца самыя заўзятыя партызаны. Параход ішоў пад нямецкім сцягам, на якім важна чарнеў кіпцюрысты вільгельмаўскі арол. Ва ўсіх былі нямецкія карабіны, стаялі нямецкія кулямёты, нямецкая гармата. Ля гарматы важна прахаджваўся дзед-генерал. На капітанскім мосціку быў за капітана малады афіцэр, у якім чытачам няцяжка распазнаць Сёмку-матроса. А ў памочніках яго быў зусім невялічкі хлопчык у шчыгульным нямецкім мундзірыку, які спецыяльна падагналі пад Міколкаў рост партызанскія краўцы. Калі капітан спускаўся ўніз, тады камандаваў яго памочнік. І раз-поразу быў чуваць яго звонкі голас:

— Круці налева! Гэй, направа!

Скажа Міколка слова, і цяжкі параход плаўна паварочвае нос і ідзе туды, куды яму загадана. Ды як яшчэ ідзе! Аж хвалі ўздымаюцца за кармой і расходзяцца доўгімі каснікамі, з шумам пляскаючы аб берагі, аб пясок, прыбярэжныя кусты і асокі. Аж гудзіць параход, налягаючы грудзьмі на глыбокія воды. А на параходзе песні. Каманда нямецкая, а песні звычайныя, нашы. Усё больш на «Дубінушку» налягалі. Праўда, калі праходзілі ля мястэчка, ля вёсак, тады песні сціхалі. Асцерагаліся партызаны да пары да часу выдаць свой баявы сакрэт.

Параход паспяшаў. Трэба было як мага хутчэй з’явіцца ў горад. Адтуль прыйшлі весткі, што ў лапы немцаў трапілі Міколкаў бацька і яшчэ некаторыя актыўныя бальшавікі. Нейкі здраднік выдаў іх немцам. Казалі, што быў нейкі эсэр, які працаваў тэхнікам у дэпо. Бальшавікоў чакала суровая расправа ў турме. Трэба было як мага хутчэй выбавіць іх з бяды. Таму і паспяшаў параход.

* * *

Нямецкі палкоўнік быў у гэты дзень задаволены. Ён толькі што прыйшоў з турмы, дзе быў на допыце бальшавікоў. І хоць іхнія паказанні не маглі даць яму нічога талковага, але ж ён быў задаволены: як-ніяк да яго папалі гэтыя няўлоўныя людзі, якія расстройвалі нямецкія тылы, разлагалі нямецкую армію, псавалі чыгуначны транспарт. Цяпер-то можна са спакойным сэрцам адрапартаваць камандзіру дывізіі, а то і самому камандуючаму арміяй, што зможа ён, палкоўнік, куды болей даць хлеба, мяса, сала, масла для адсылкі ў Германію.

Яшчэ бліжэй здавалася яму канчатковая перамога над бальшавіцкай Расеяй. Гэткая неабсяжная тэрыторыя, выдатная калонія для імператарскай Германіі! Аднае сыравіны хоць заваліся. Вось калі пойдуць поўным ходам заводы і фабрыкі яго бацькі, вядомага банкіра Германіі Шлёпкінбаха. А з гэтымі людзьмі цырымоніцца не трэба. Давядзецца расстраляць гэтых бунтароў, выступаючых супроць Германіі, супроць вялікага кайзера. Добра, што адаслаў ён найбольш падазроных у арыштанцкі вагон. Там больш надзейная варта. А яму, палкоўніку Шлёпкінбаху, няйначай цяпер як узнагарод чакаць, могуць і лішні крыж начапіць на грудзі за цвёрдую руку, за ўмелыя загады.

І палкоўнік аддаўся самым ружовым марам аб недалёкім будучым. І каб крыху адпачыць у такі слаўны сонечны дзень ад загадаў, ад допытаў, ад рапартаў, палкоўнік прысеў на лаўку на прыстані, закурыў. Насвістваючы нейкую песеньку, пазіраў на шырокі Днепр, на далёкія берагі, на беласнежныя воблакі, якія ціха плылі над вадой, на стаі белых галубоў, кружыўшых над будынкамі і складамі прыстані. Папыхкваючы дымком, да прыстані набліжаўся параход. Ля берага купаліся нямецкія салдаты. Групы афіцэраў гулялі з паненкамі ў гарадскім садзе, які цягнуўся ўздоўж дняпроўскага берага. Недалёчка маршыравалі артылерысты. Чарнелі стаяўшыя батарэі.

Палкоўнік бачыў, як прыстаў параход, як пачалі сыходзіць з яго нямецкія салдаты.

«Няйначай як папаўненне! А добра, у самы раз! Гэтых расейцаў трэба скруціць цяпер у барані рог… патрэбны лішнія сілы, і скруцім, бо…» — падумаў палкоўнік і ад вялікага задавальнення ўслых закончыў сваю думку словамі: «З намі Бог!» Гэта былі тыя словы, што носіць кожны салдат на сваім поясе, на блішчастай спражцы з кайзераўскай каронай.

І толькі гэта палкоўнік сказаў: «З намі Бог!», як пачуў ну проста над вухам: «А мы за вамі, ваша благароддзе!» Зірнуў

палкоўнік і ніяк зразумець не мог, што гэта робіцца з ім. Стаіць чалавек перад ім, і форма як форма, крыжы і медалі на месцы, і толькі барада ўжо зусім не па форме. І крывая, і нясе ад яе цыбуляй і, няйначай, капустай. Кажучы па сакрэту, дзед Астап сапраўды толькі-толькі папалуднаваў, даў рады і капусце, і нейкай яшчэ там страве з цыбуляй. Так што капуста тут зусім была, як бачым, да месца. Але хіба зразумець іх нямецкаму палкоўніку. Таму і глядзеў ён на дзеда Астапа, як баран на новыя вароты.

А дзед Астап не меў багата часу на жарты і, прыставіўшы свой пісталет да палкоўніцкага лба, ціха, але настойліва гаварыў:

— Так што просім, ваша благароддзе, да нас на параходзік! Вельмі прашу!

Дзе ты адмовішся на гэтыя просьбы! Бачылі тут людзі, як павялі нямецкія салдаты палкоўніка на параход. Таксама без лішняй мітусні і вэрхалу ўзялі групу афіцэраў. Прытрымалі і іхніх паненак, каб не рабілі лішняга вэрхалу ў горадзе. Узялі артылерыстаў. Хутка прыкацілі і пагрузілі на параход іхнюю батарэю, і дзед Астап з Міколкавай дапамогай спешна ставіў гарматы, наводзячы іх на нямецкі штаб. Захапілі і салдат, і афіцэраў, якія купаліся ў Дняпры. Гэтай аперацыяй займаўся непасрэдна сам Міколка, бо людзей было нястача, усе пабеглі да турмы вызваляць зняволеных. Немцаў, што купаліся, Міколка забраў у палон бадай што без усякага прымусу. Сабраў на беразе ўсю іхнюю адзежу і панёс урачыста на параход. Зірнулі купальшчыкі, узлаваліся не на жарты. Думалі, што злодзей, няйначай, адзежу прыбраў. Адзін за адным павылазілі з Дняпра, кінуліся Міколку наганяць. А той ужо на параходзе. Пабеглі купальшчыкі на параход. Ступіць каторы на палубу, а тут ужо Міколка ды другія партызаны ветліва іх з карабінамі сустракаюць:

— Заходзьце, заходзьце ды будзьце як дома! — і на пустую каюту паказваюць.

Поўную каюту панагналі гасцей.

Так без шуму, без адзінага выстралу захапілі вялікую колькасць палонных, батарэю, некалькі кулямётаў. І толькі ля турмы ўзнялася страляніна. Гэта выстраліў часавы і падняў трывогу. Пачалі збягацца ўзброеныя немцы, паказаўся даволі буйны кавалерыйскі атрад. Але яны спазніліся, апошні зняволены ўжо ступаў на параход.

Нямецкія кавалерысты кінуліся былі на параход, але, сустрэтыя моцным кулямётным агнём, павінны былі ў беспарадку адступіць. Завязалася ўпартая страляніна, але тут дзед Астап адразу як ударыў з Міколкам з усіх пяці арудзій, аж шыбы па-

ляцелі з акон бліжэйшых дамоў ды клубы дыму ўзвіліся навокал нямецкага штаба.

Але трэба было адступаць. У горадзе было багата нямецкіх часцей. Яны маглі і захапіць партызан. Партызан ратавалі іх смеласць, выключная нечаканасць іх з’яўлення. Ды і наогул налёт збіў немцаў з усякага панталыку, тым больш што партызаны захапілі бадай палавіну афіцэраў штаба.

Так правучылі партызаны немцаў. А яшчэ вызвалілі сваіх людзей з турмы, папоўнілі зброю, набылі гарматы і сярод белага дня ўкралі самога нямецкага палкоўніка.

Але радасць гэтай выключнай перамогі была няпоўнай. Сярод вызваленых з турмы арыштаваных не было Міколкавага бацькі і яшчэ трох бальшавікоў. Як гаварылі вызваленыя, іх толькі-толькі перавезлі з турмы на станцыю, каб у арыштанцкім вагоне адаслаць на суд у губернскі горад. Даручыўшы дзеду Астапу камандаванне над атрадам і над параходам, Сёмка-матрос, Міколка і яшчэ чалавек з сем партызан высадзіліся на бераг непадалёку ад горада і цёмнаю ноччу накіраваліся на станцыю. Яны думалі звязацца з чыгуначнымі рабочымі і прыняць усе меры к таму, каб вызваліць сваіх людзей.

Параход, патушыўшы агні, паплыў далей па Дняпру. Міколка з партызанамі пайшлі ў горад, на станцыю. Калі прыйшлі і пакуль усё разведалі ад рабочых, аказалася, што спазніліся. На станцыі стаяў ужо гатовы да адпраўкі цягнік. У канцы яго быў прычэплен арыштанцкі вагон. Навокал стаяў моцны канвой. На станцыі было багата немцаў. Напалоханыя падзеямі з параходам, яны прымалі выключныя меры аховы.

І тут надумаліся нашы партызаны на выключны ўчынак, каб не дапусціць сваіх таварышаў на лютую расправу немцам. Міколка падышоў да паравоза і, угледзеўшы на ім знаёмых людзей, паспеў абмяняцца з імі парай-другой слоў. Партызаны зайшлі за стрэлкі. Да іх пабег і Міколка.

І вось рушыў цягнік. Быў ён змешаны, так званы тавара-пасажырскі. Спераду былі пасажырскія вагоны, у канцы таварныя. Арыштанцкі вагон быў ззаду таварных. Калі на станцыі было светла ад ліхтароў, дык тут, за стрэлкай, пачыналася такая цемра, што хоць вока выкалі. Цягнік ціха ішоў цераз стрэлку. Міколка, як самы вопытны ў чыгуначных справах, кіраваў пасадкай атрада на цягнік. Яны садзіліся неўзаметку на падножкі таварных вагонаў. Цягнік прыбаўляў ходу. Партызаны размясціліся на дзвюх тармазных пляцоўках. Ніякі нямецкі часавы не дабярэцца сюды. Не лазіць жа немцам па дахах вагонаў! Затое партызаны

могуць лазіць. Хоць страшна, але ж трэба. І адзін за адным па бакавіне вагона яны ўзбіраюцца на дах, асцярожна пераступаюць з вагона на вагон, ціха пасоўваюцца ўсё бліжэй і бліжэй да арыштанцкага вагона.

Вось і зусім ужо блізка. Да арыштанцкага вагона застаўся адзін толькі таварны вагон. Далей ісці нельга. На пляцоўках вагона-турмы стаяць часавыя, не лезці ж на іх. Таго і глядзі патрапіш на кулю ці звалішся пад калёсы.

Партызаны асцярожна злазяць на тармазную пляцоўку таварнага вагона. Цягнік прыбаўляе ходу. Ён ідзе з гары. Моцна націскаюць адзін на адзін вагоны, абвісае кручча, якім сашчэплены паміж сабою вагоны. У самы раз іх цяпер раскруціць, расшчапіць! Бо як пойдзе цягнік на гару, на пад'ём, тады не расшчэпіш нацягненыя крукі. І прыступае Міколка да работы. Перагнуўшыся цераз борт пляцоўкі, партызаны трымаюць Міколку за ногі, за куцы пінжачок. Міколка, павісшы над крукамі, раскручвае сашчэпку. Вось можна ўжо і расшчапіць. Але не з Міколкавымі сіламі, ды яшчэ ў такім нязручным становішчы, падняць цяжкі крук. Але дзе не хапае сілы, там выручае спрыт, выручае здагадка. І, моцна ўчапіўшыся абедзвюма рукамі ў крук, камандуе Міколка:

— Цягніце мяне цяпер угору!

Падцягваюць Міколку ўгору, разам з ім падымаецца крук. Яшчэ секунда — і кідае яго Міколка. Бразнуўшыся, абвісае крук і важна гойдаецца з боку ў бок у такт колам вагонаў. Міколка з камандай гатовы закрычаць «ура», гатовы пусціцца ў несусветныя скокі ад вялікай радасці. Але не раскрычышся тут, не разгонішся на скокі на цеснай пляцоўцы. А пярэдні вагон усё больш і больш адыходзіць уперад. Адчэплены арыштанцкі вагон разам з таварным паволі зацішаюць ход. Партызаны саскокваюць з падножкі, хаваюцца пад адкос, чакаюць, што ж будзе далей, што будуць рабіць немцы.

Ціха скрыгануўшы коламі, сталі вагоны. Толькі і распазнаеш іх, гледзячы з-пад адкосу. Цёмныя абрысы вагонаў ясна выдзяляюцца на змрочным небе начы. Партызаны чакаюць. Але ў арыштанцкім вагоне ціха. Не чуваць адтуль ні гукаў, ні шолаху. Цёмна ў вагонных вокнах, не відаць ніводнага водбліску свечкі.

— Што за чамярыца? А дзе ж людзі, канвой? — думалі і здзіўляліся партызаны. Акружылі вагон. Яшчэ раз прыслухаліся — ціха ў вагоне. Пастукалі — ніхто не адказвае. Тады пачалі моцна біць у замкнутыя дзверы, але вагон маўчаў, не адзываўся ніводным гукам на стук.

— Буфер сюды! — закамандаваў Міколка.

Знялі з вагона буфер і, падняўшы яго, пачалі ім біць з усіх сіл у замкнутыя дзверы. Хвіліна-другая — і цяжкія, акутыя жалезам дзверы сарваліся з завесаў. Разбілі і другія дзверы і толькі тады ўскочылі ў вагон. І тое, што ўбачылі яны, было зусім нечаканым і незразумелым. На лаўках ляжалі пазвязваныя нямецкія салдаты. Тут жа ляжалі і звязаныя два нямецкія афіцэры з канвою.

Канвой хоць і звязаны, але ж быў у вагоне. Не было толькі арыштаваных. Як ні старанна аглядалі кожны куток вагона, ніводнага з арыштаваных не знайшлі. І куды падзеліся яны, ніхто не мог дакладна давесці. Былі цэлыя дзверы і вокны, былі цэлыя, акутыя дзе-нідзе жалезам, сцены. І толькі пасля даведаліся партызаны, што арыштаваным удалося шчасліва ўцячы з вагона праз спецыяльна прарэзаную дзірку ў падлозе вагона пад адной з лавак. Перад тым як уцячы на хаду з вагона, арыштаваныя зрабілі смелы напад на канвой, абяззброілі яго і, каб не было перашкоды для ўцёку, павязалі яго. А дзірка ў вагоне была знарок падрыхтавана загадзя рабочымі, калі вагон яшчэ стаяў у дэпо.

Хоць Міколка вельмі хацеў пабачыць свайго бацьку, для якога ён так стараўся, усё ж бацькава нечаканае знікненне не надало яму суму. Міколка быў надзвычай радасны і задаволены.

— Маладзец бацька! Не паддаўся, уцёк…

А тым часам ужо развіднела. Падышла група рабочых з бліжэйшай пуцявой казармы. З іх дапамогай абярнулі вагоны і скінулі іх пад адкос.

— Далоў нямецкую турму! — жартавалі рабочыя, падкладаючы шпалы і тэлеграфныя слупы пад арыштанцкі вагон, каб ямчэй спіхнуць яго ўніз.

Нямецкіх салдат пусцілі на волю.

А самі падаліся праз лясы да свайго атрада, да слаўнага свайго «браняносца».

* * *

Гісторыя з пакражай палкоўніка і смелым уцёкам бальшавікоў нарабіла вялікага шуму ў немцаў. Па вёсках пайшлі ўзмоцненыя карныя атрады. Яшчэ больш пасыпаліся розныя кары на рабочых. Барацьба прымала рашучы і жорсткі характар. Але рабочыя не здаваліся. Чым большыя былі кары, тым марудней ішлі цягнікі, тым больш было рознае шкоды для немцаў.

Шалелі нямецкія генералы. Прымалі і абвяшчалі самыя суровыя загады, рабілі захады, каб злавіць людзей, якія супра-

ціўляліся ім, перашкаджалі беспакарана грабіць гарады і вёскі, распаўсюджвалі пракламацыі сярод нямецкіх салдат. І хутка Сёмка-матрос і дзед Астап даведаліся, што іх галовы ацэнены ў сотні тысяч германскіх марак. Нават Міколкава галава была ў генеральскім цэнніку. Гэтыя цэны былі вызначаны ў спецыяльным генеральскім загадзе, расклеенным па гарадах і па вёсках.

Прачытаў гэты загад дзед Астап і, злажыўшы тры пальцы ў вядомую камбінацыю, урачыста сказаў:

— Вось усё тое, што атрымаюць ад нас і за нас!

Зірнуў на яго Сёмка-матрос, падміргнуў дзеду і загадаў спецыяльную пячатку выразаць. Дні са два стараўся Міколка, выразаў пячатку з ліпавай плашкі. Пячатка выйшла важнецкая, памерам у далонь, з ясным малюнкам, з вялікімі літарамі. На самай сярэдзіне ў кругу быў майстэрскі выразаны звычайны кукіш. А навокал яго віліся буйныя літары слоў: «Нямецкім генералам — з любоўю ад партызан». Гэта пячатка хутка з’явілася на ўсіх генеральскіх загадах. Гэтую пячатку лажылі на спецыяльныя распіскі, якія выдавалі партызаны нямецкім салдатам, калі адбіралі ў іх якое дабро ці зброю. Захопяць у палон атрад, адбяруць карабіны, коней, нарабленае дабро, Міколку загадваюць:

— Ану, пішы ім дакумент, распіску!

Пісаў Міколка:

«Мы, партызаны, даём распіску ў тым, што сорак карабінаў, пяць рэвальвераў, сорак коней, трыста пудоў хлеба, нарабленага ў сялян, прыняты намі ад нямецкай часці ў поўным парадку і спраўнасці, што і сведчым сваімі подпісамі і пячаткай. Выдана гэта для нямецкіх генералаў».

А напісаўшы, даставаў Міколка з торбы пячатку, браў кусок бяросты, запальваў яе і, пакапціўшы пячатку, важна прыкладаў ліпавы кукіш да «квітанцыі». З усіх канцоў да генералаў сыпаліся гэтыя кукішы.

Шалелі генералы і кідалі сілы, каб расправіцца з партызанамі. Падцягнуліся і нашы лясныя ваякі. З параходам цяжка было ўпраўляцца, не зацягнеш жа яго ў лес. А па Дняпру хадзілі ўзброеныя нямецкія судны, якія не сягоння, дык заўтра маглі засцігнуць параход у затоцы і захапіць яго. І як ні шкадавалі хлопцы свайго «браняносца», яны вымушаны былі расстацца з ім. У светлую месячную ноч, зняўшы з парахода ўсе кулямёты і гарматы, вывелі яго партызаны на сярэдзіну ракі і затапілі на самым глыбокім месцы, каб перашкодзіць нямецкаму параходнаму руху. А раніцой з вялікім задавальненнем назіралі, як на

гэтым месцы затапіўся нямецкі параход, наскочыўшы дном на партызанскага «браняносца».

Лагер свой партызаны прымушаны былі пераводзіць у другія месцы, каб збіваць з панталыку немцаў.

## ШЧАСЛІВЫЯ ХАЎТУРЫ

Атрад Сёмкі-матроса набліжаўся да горада, каб дапамагчы рабочым на выпадак якой сутычкі з немцамі. А такія сутычкі маглі быць. Атрад разбілі на тры часткі, каб лягчэй было прабрацца праз нямецкія войскі. У перадавым атрадзе былі Сёмка-матрос, Міколка, дзед Астап і сотня коннікаў партызан. З атрадам быў адзін кулямёт, рэштка кулямётаў была ў другіх атрадах. У кожнага партызана былі карабінка, рэвальвер, гранаты. Некаторыя спрытнейшыя мелі яшчэ шаблі.

Атрад спыніўся на начлег у адным вялікім сяле. Ужо з даўняга часу павялося, што партызаны рабілі па вёсках суд і расправу над тымі, хто крыўдзіў сялян, хто прыгнятаў бедных. І доўга разбіралі Сёмка-матрос, дзед Астап і Міколка розныя сялянскія скаргі і крыўды. Скардзіліся на мясцовага памешчыка, які такую волю пры немцах займеў, што адбірае ў сялян зямлю, не пускае іх у лес, з дапамогай немцаў жорстка распраўляецца з усімі тымі, хто быў раней у батрацкіх камітэтах і ў сельсаветах.

— Пусціць яму чырвонага пеўня! — скамандаваў Сёмка.

Група партызан адразу ж села на коней і, нягледзячы на цемень ночы, паехала «ў госці» да памешчыка. І праз якую гадзіну шырокае зарава калыхалася ўжо над лесам і над палямі. І кожны ведаў, што гэта пану навука, што гэта з агнём і дымам пусцілі партызаны панскія здабыткі.

Скардзіліся сяляне і на мясцовых кулакоў, на мельніка, на старасту, які задужа налягае на сялян з падаткамі для немцаў, прычым гэтыя падаткі ўскладае на плечы бяднейшых, адбірае ў іх апошняе дабро, апошнюю карову. Узяліся як след за старасту. Да позняй ночы дапытвалі яго і дзясяткі сведак. Каб добра правучыць кулака, пастанавілі: адабраць у яго палавіну маёмасці і раздаць бяднейшым, а лепшых коней узяць у атрад. Узвыў тут стараста, замахаў рукамі, захадзіў, забегаў.

— Хто даў вам такі закон распраўляцца з чужым дабром? Хто мае такое права?

Аж падскочыў тут Сёмка-матрос ды як лясне па стале рэвальверам:

— Маўчы, крывасмок! Вось як пастаўлю да сценкі, пазнаеш тады закон наш і права!

Сагнуўся кулак, згорбіўся. На ціхую авечку зрабіўся. Толькі барада шырокая трасецца ад страху. Прасіцца пачаў:

— Даруйце, таварышы! Па несвядомасці гэта я, па цемнаце нашай…

Ды бух у ногі з мольбамі, з просьбамі.

Зірнуў тут дзед Астап, і крыху жаль яго ўзяў. Не любіў ён, каб чалавек па зямлі поўзаў, задужа ўніжаў сябе. І сказаў Сёмку-матросу:

— Пусці ты яго лепш на волю… Ці варта на такога кулю псаваць?

Староста ледзь дзверы не выбіў ад радасці, што застаўся жывым. Так спяшаўся да свае хаты. Але вышэй за радасць была пякучая злосць. Шкадаваў дабра, шкадаваў сваіх коней. І, апынуўшыся на сваім двары, ён пагразіў некаму кулаком:

— Я пакажу вам, галадранцы, як устанаўляць над светам закон свой…

Пайшоўшы да хлява, доўга быў там, потым вывеў каня, якога пакінулі яму партызаны з яго маёмасці. Сеў верхам і агародамі, па загуменню, паехаў у цемень ночы, хаваючыся па кустах і сцежках, каб не перанялі часам партызаны.

Ехаў, успамінаў пра нямецкія аб’явы і загады, дзе абяцалася некалькі тысяч марак таму, хто пакажа месца стаянкі партызан ці даставіць жывым альбо мёртвым Сёмку-матроса ці дзеда Астапа. Успомніў і ўзрадаваўся, кінуў коней сваіх шкадаваць. Не такіх стаеннікаў можна будзе набыць за такія вялікія грошы… Колькі зямлі яшчэ можна будзе купіць, дамы паставіць, сады пасадзіць, вялікія крамы паадчыняць. І будзе тады ягонай кожная капейчына. А капейка за капейкай — рубель. А там сотні, а там тысячы.

Аж дух захапіла ў яго ад прыемных мар. Ехаў, спяшаючыся, ды ўсё шаптаў сабе ціхенька ўголас:

— Гэткія ж грошы, гэткія грошы…

І, успамінаючы тых, якія прыносілі скаргі на яго партызанам, не шаптаў, а сіпеў праз вялікую злосць:

— Нічога… Я правучу! Я скручу вас так, што юшка з вас крывавая пацячэ!

Ён то выпростваўся, выцягваўся, пагражаючы сціскаў кулакі, то рабіўся адразу абмяклым, расслабленым і гойдаўся тады на кані, як саламяны куль. Тады ападаў на яго душу страх. Нібы прылятаў ён з недасяжных вышынь і ціснуў яго, прыціскаў да чорнай зямлі.

Гэты страх ішоў адтуль, дзе калыхалася чырвонае зарава. Махнатыя зоры рабіліся бледнымі перад заравам. Некаторыя ніклі, гаслі. Водбліскі зарава хадзілі па каменнях. Аб камені спатыкаўся конь, таропка прабіраючыся па кустах, па глухіх ваўчыных сцежках.

Глухая ноч была напоена пахамі пажараў, крыві і чалавечае нянавісці.

Спяшаўся коннік.

* * *

А партызаны спалі.

Даўно адгулі гармонікі, разышліся дзяўчаты са скокаў з удалымі партызанамі. Дзед Астап з Міколкам спалі ў каламажцы, што была з кулямётам. У хаце не захацелі спаць. Там было душна. Ды і, акрамя таго, у хаце быў нябожчык. Там памёр нядаўна адзін стары селянін. Ён ляжаў цяпер на стале, васковая свечка гарэла ля яго. На лаве стаяла труна. Не сказаць, каб дужа далюбліваў дзед Астап нябожчыкаў.

Таму і сказаў самым рашучым чынам:

— Будзем спаць на дварэ, на каламажцы! Самае лепшае месца: ні прус цябе не джыгане, ні клоп не кусне, ні духаты, ні спякоты. Ты спіш, а табе зоры ўсміхаюцца ды падміргваюць. І зноў жа ноч, ці мала што можа здарыцца, а тут і кулямёт пад бокам…

Так і спалі, укрыўшыся дзедавым кажухом.

Ціха і спакойна мінулася ноч. Даўно ўжо пагаслі зоры, апала зарава і пачаў ружавець усход. Вось і першы сонечны прамень бліснуў, пазалаціў калодзежны журавель, перакінуўся на старую ліпу. Замычэлі каровы, забляялі авечкі. То выганялі сяляне жывёлу на пашу. І толькі паспелі выгнаць яе за сяло, як страшэнны крык пракаціўся па вуліцы. Ён узнік за сялом, адтуль беглі перапалоханыя пастушкі. Падхоплены дзясяткамі галасоў, крык шырыўся, рос, паланіў усе двары, усю вуліцу.

— Немцы! Ратуйцеся! — крычалі з усіх бакоў.

Як скрозь сон пачуў гэты крык Міколка, дзеда разбудзіў. Паднялі на ногі Сёмку-матроса, усіх партызан. Тыя кінуліся да коней.

Сёмка хутка ўзабраўся на высокую бярозу, за ім ускарабкаўся Міколка. Глянулі навокал. Па дарозе ад лесу ехаў конны нямецкі атрад. Было ў ім чалавек з сотню. Ужо хацеў скамандаваць Сёмка, каб выбіраліся партызаны ў другі бок сяла. Але заўважыў

тут, што і з другога боку падаецца да сяла яшчэ большы конны атрад. Хвіліна-другая — і ад нямецкіх атрадаў аддзяліліся групы коннікаў і памчалі галопам, акружаючы з усіх бакоў сяло.

— Акружаюць, гады, у пастку бяруць! Што ж то рабіць? — услых падумаў Сёмка-матрос.

— Прарвацца! У шаблі ўзяць! — закрычалі тут партызаны. Але Сёмка-матрос махнуў рукой, гарачых спыніў.

— Усіх не возьмеш!.. Вялікі атрад, трохі нам не па сіле. Нельга на ражон перці. Прыйдзецца, няйначай… — і хацеў Сёмка яшчэ нешта сказаць, але тут яму Міколка пару слоў шапнуў, на кулямёт паказаўшы. Дужа шкадаваў кулямёта Міколка, баяўся, каб немцам яго не пакінуць. І з'явіўся нейкі план у Міколкі, аб ім і сказаў ён матросу. Той аж смехам спачатку заліўся, але раптам зрабіўся сур'ёзны, каманду даў:

— Коней хавай па хлявах, сёдлы ў каноплі! Палавіна каманды хавайся па гародах, а палавіна за мной!

І, узяўшы чалавекі з чатыры, кінуўся з імі да хаты, дзе нябожчык быў.

Праз якую хвіліну выносілі пустую труну адтуль. Партызаны і раты паразяўлялі: што за праява? Некаторыя ў жарты кінуліся: «Малая труна, усіх не ўмясціць!»

Але так грозна закрычаў тут Сёмка-матрос, што ўсе захадзіліся, як па струне:

— Карабінкі хавай, з сабой бяры гранаты і рэвальверы! — І да дзеда Астапа: — Крыж бяры! Крыж хапай, дзед Астап, ля труны станавіся! А ты, Міколка, за пратэсію!

Пачухаў патыліцу дзед Астап, нічога не разумеючы. Але ўзяў крыж, што стаяў ля варот каля хаты з нябожчыкам. Раз каманда, дык каманда, трэба выпаўняць.

Міколка ўзяўся за пратэсію, з якой носяць нябожчыкаў на могілкі. А Сёмка ўжо клаў кулямёт у труну. Той не лез, знялі колы, у гарод іх закінулі. Уціснулі кулямёт, патронаў налажылі. Прыкрылі белым палатном, паднялі труну на плечы, аж чалавек з восем яе панеслі. Ды ўслед чалавек сорак. І тут толькі зразумелі партызаны справу з труной і як пусцяцца ў шалёны рогат:

— Вось гэта дык нябожчык!

Але грымнуў тут Сёмка-матрос:

— Смех далоў! Слёзы давай, слёзы, плачу паболей!

І загаласілі ўсе па камандзе, галасамі грубымі, басавітымі:

— Угу-гу-гу… Ого-го-го… Га-га-га…

З усіх хат выскоквалі на той плач старыя бабкі. Як зірнулі на труну, напалохаліся. Пачалі лбы хрысціць, ды галасіць, ды прыгаворваць:

— Упакой, Госпадзі, душу бязгрэшную!

Ім і сапраўды здавалася, што нябожчыка нясуць. Таму і слёзы пусцілі, самыя сапраўдныя.

А тут і немцы ўжо. Імчаць наўскач з канца вуліцы, толькі пыл курыць, коні ржуць, шаблі паблісківаюць.

І страшна Міколку і смешна. Нясе пратэсію царкоўную ды тонкім голасам падцягвае:

— Ве-е-ч-ная памяць! Ве-е-чны пакой!

І ўсе за ім:

— Ве-е-ч-ная памяць…

А тут зірнуў на дзеда і ледзь не самлеў. Ужо блізка немцы, а дзед нясе крыж і на сябе не глядзіць. Вісяць на поясе ў дзеда дзве бомбы, забыўся той па старой памяці на іх, не схаваў. І як запяе тут Міколка ды на новы лад:

— Ве-е-чная па-а-мяць… Дзеду, дзеду, бо-о-мбы хавай, што на поясе вісяць…

І ўсе падхапілі басам:

— Што на поясе вісяць… што на поясе вісяць…

Пачуў дзед, схамянуўся, хуценька бомбы схаваў за пазуху і, як ні лыс, Міколку падміргнуў. І да таго тут зрабілася весела Міколку, што ледзь у скокі не пусціўся з пратэсіяй. Нават «вечную памяць» на манер кадрылі запеў. Зірнуў на яго Сёмка сурова, шапнуў — загадаў:

— Цягні, цягні, ды каб жаласліва было…

А немцы ўжо блізка. Цяжка храплі ўзмыленыя коні, гулка білі ў зямлю цяжкімі капытамі. Прыцішыўся нямецкі атрад, калі параўняўся з хаўтурнай працэсіяй. Нават пад казырок узялі немцы труне з нябожчыкам. Не азіраліся партызаны, старанна выцягвалі «вечную памяць». Плакалі ды галасілі бабкі. Нямецкі атрад паволі праехаў каля «працэсіі» і, падагнаўшы коней, памчаў далей галопам па вуліцы. Аж у самы канец праляцелі. Адтуль назад, на сярэдзіну сяла. Немцы былі яўна расчараваны. Яны, відаць, рабілі налёт, хацелі некага злавіць. Але ніякіх партызан на сяле не знайшлі, і следу тут не відаць было ад партызанскага атрада.

Труна з нябожчыкам усё шпарчэй набліжалася да могілак, якія былі за сялом.

— Хутчэй, хутчэй! — камандаваў Сёмка-матрос.

Не паспявалі бабкі следам, бурчаць пачалі:

— Куды гоніце… Дайце душы нябожчыка гэтым светам усмак падыхаць…

Але тут як крыкне Сёмка, як закамандуе бабкам:

— Хавайцеся, бабкі, па баразёнках, нябожчык уваскрос!

Зірнулі тыя на труну, ды куды каторыя кінуліся ў жыта хавацца.

А немцы тым часам спешыліся і, прывязаўшы коней да платоў, кінуліся курэй ды парасят лавіць, шукаць па хатах «млека ды яйкі». Пачуўшы кудахтанне курэй, уехалі ў вуліцу і тыя атрады, якія акружалі сяло, заставы рабілі.

І пачаліся тут несусветная сумятня, гвалт, вэрхал, шалёная страляніна.

Не паспелі немцы і малака паспытаць, як загрымеў з могілак вызвалены з труны «нябожчык». Ваўсю грымеў кулямёт, наводзячы вялікі жах на немцаў сваім нечаканым з'яўленнем. Кінуліся немцы да коней, але партызаны, якія засталіся па гародах, такую страляніну паднялі, што было не да коней. Ды і кулямёт не змаўкаў. І пабеглі немцы хто куды, без коней, а некаторыя і карабіны пакідалі. Як зла́віў каторы курыцу, так і бег з ёй, гойсаючы цераз платы, цераз канавы, уцякаючы да лесу. І не да курэй было. Ляцелі вызваленыя птахі, ашалела кудахталі па гародах, кідалі немцы гладышы з малаком, давалі спрытнага драпака.

А ўслед ім імчалі ўжо конныя партызаны… На нямецкіх конях ляцелі. Хто з немцаў уцёк, а многіх у палон забралі, абяззброілі. Сабралі ў кучу, наладзілі допыт.

— Хто? — дапытваўся ў іх Сёмка-матрос. Ён пытаў пра чалавека, які навёў іх, паказаў ім партызанскую стаянку.

Добра не ведалі немцы імя чалавека, але паказалі на блізкі лясок, дзе, паводле іх слоў, хаваўся той чалавек, які прывёў іх і, баючыся паказацца з імі на сяле, застаўся там.

З дзясятак партызан паскакалі к паказанаму месцу. І праз якіх хвілін дваццаць прывялі адтуль чалавека. Гэта быў стараста.

— Ён… — паказалі на яго немцы.

Здрыгануўся той, пабялеў увесь, прыліп да зямлі, не зварухнуўся. Зрабілі вобыск. З-за пазухі выцягнулі вялікі пачак нямецкіх грошай. Памахаў Сёмка гэтым пачкам перад старастхавым носам, прагаварыў праз зубы:

— Мала, аднак жа, ты зарабіў на нашай крыві…

І, сцяўшы зубы, коратка загадаў:

— Станавіся пад бярозу.

Была малая размова са здраднікам-кулаком.

Немцаў адпусцілі на волю, выдаўшы ім вядомыя распіскі з партызанскай пячаткай.

Сёмка-матрос падміргнуў дзеду:

— Бачыш, пашкадаваў учора!

Дзед і сам абураўся:

— Каб я ведаў, што чалавек здольны на такую подлую справу, дык я сваімі рукамі задушыў бы яго.

— Ворага не шкадуй ніколі…

Хутка песні і вясёлая музыка паланілі атрад. Ходырам хадзіла сяло, успамінаючы незвычайныя хаўтуры і такога дзіўнага нябожчыка.

Сёмка Міколку хваліў:

— Вось каму дзякуйце за шчаслівыя хаўтуры! Не здагадаўся б ён, магчыма, і прапелі б нам немцы вечную памяць…

Смяяліся хлопцы, жартавалі. Успаміналі дзедавы бомбы. Ладзілі кулямёт, чысцілі карабіны, пахаваныя раней па гародах.

Атрад рушыў у дарогу.

## МІКОЛКАЎ БРАНЯПОЕЗД

З далёкай Нямеччыны прыходзілі цьмяныя чуткі аб надыходзячай там рэвалюцыі. Урэшце прыйшлі чуткі, што гэта рэвалюцыя адбылася. Але генералы, відаць, хавалі гэтыя чуткі ад салдат, жорстка каралі іх за малейшыя ўчынкі, расстрэльвалі за адно толькі слова аб волі, аб рэвалюцыі. І ўжо сцягваючы да савецкіх граніц свае сілы, яны не пакідалі старых намераў: як мага спустошыць краіну, зруйнаваць яе, абяссіліць.

Велізарныя запасы хлеба былі звалены на станцыі, чакалі вагонаў. Стаяла некалькі дзясяткаў цягнікоў з хлебам, з жывёлай, з розным іншым дабром, награбленым па гарадах і вёсках. Не хапала паравозаў. А тыя, якія былі, псаваліся рабочымі. Немцы шалелі, наладжвалі зверскія кары.

— Не даць вывозіць хлеб! — пастанавіў падпольны бальшавіцкі камітэт.

Ад рабочых была выбрана спецыяльная дэлегацыя з трох чалавек. У яе ўваходзіў і Міколкаў брат, змазчык Павел. Дэлегацыя наведала нямецкі штаб, перадала патрабаванні рабочых да нямецкай арміі: мірна пакінуць горад і ехаць у Нямеччыну… Рабочыя згодны даць вагоны пад эшалоны. Пад хлеб, пад награбленае дабро рабочыя вагонаў не дадуць. Пад гэтыя цягнікі ніводзін паравоз не выйдзе з дэпо.

Такія былі мірныя патрабаванні ад рабочых.

Сівы падцягнуты генерал моўчкі выслухаў гэтыя патрабаванні. Ён доўга маўчаў, калі дэлегацыя кончыла гаварыць. І цяжка

было даведацца па сухім, паголеным твары, аб чым думае гэты генерал, увешаны ордэнамі, звёздамі, living рознымі шнуркамі і шнурочкамі. І толькі праз хвіліну важна падняўся ён з крэсла, важна падышоў да дэлегацыі, стаў бокам да старэйшага з дэлегацыі, да старога машыніста Арлова. Працадзіў праз зубы:

— Як вядома вам, я генерал арміі яго вялічаства імператара Вільгельма… Я прадстаўнік самай культурнай, самай перадавой у свеце нацыі. Вам павінна быць вядома, што з дзікунамі мы не размаўляем… Для дзікуноў у нас штык, кулямёты, вінтоўкі. Можаце дзякаваць мне, што я не расстраляў вас за абразу нямецкай арміі такімі ганебнымі, такімі дзікімі, такімі нечуванымі яшчэ ў гісторыі патрабаваннямі… Можаце выбірацца вон!

Відаць было, як генерал ледзь-ледзь стрымліваў гнеў. Суха пабліскваліі яго шэрыя вочы, шчаціліліся сівыя бровы.

Дэлегацыя не пайшла. Загаварыў стары машыніст:

— Выгнаць вон — гэта справа няцяжкая. Але ж гэта не вырашае справы. А мы, пане генерал, прыйшлі да вас не ў жарты гуляць і не аб дзікунстве спрачацца, дзе яно і ў каго… Аб гэтым пагаворым пасля. Мы яшчэ раз пытаем вас: згодны вы прыняць нашы ўмовы ці не? Калі не згодны, тады наракайце самі на сябе…

Што адбылося тут — цяжка апісаць. Куды дзеўся вонкавы спакой генерала, яго славутая вытрыманасць?! Ён зверам кінуўся на старога машыніста і люта ўдарыў яго па твары. Стрымаўся стары машыніст. Але не сцярпеў Міколкаў брат, малады змазчык Павел. Як стаяў поплеч з генералам, так і ўссеў на яго і біў, біў, забыўшыся на ўсё на свеце. Падскочылі ад'ютанты, сілком адцягнулі яго ад генерала. Паўла выцягнулі на штабны двор і тут доўга катавалі яго, пакуль ён не страціў прытомнасць. Усю рабочую дэлегацыю адвялі ў турму. А Паўла загадалі судзіць ваенна-палявым судом за знявагу нямецкага генерала.

Суровая вестка аб лёсе рабочай дэлегацыі маланкава абляцела ўвесь горад, дэпо, станцыю. І праз якія дзесяць хвілін трывожна гудзелі гудкі над дэпо, над фабрыкамі, над паравозамі. Паравозы выпускалі пару, тушылі топкі. Разыходзіліся з дэпо рабочыя, заварушыліся рабочыя баявыя дружыны. І калі вечарам намагаліся немцы штыкамі загнаць машыніста на паравоз і пусцілі ў ход зброю, каб рушыць першы цягнік, з дэпо, з-за вадакачкі пачуліся дружныя стрэлы. То рабочыя абстрэльвалі немцаў, якія рыхтавалі цягнік. На станцыю падышоў моцны нямецкі атрад. Ён адцясніў крыху рабочых, паспрабаваў адправіць цягнік. Але перад самым носам паравоза ўзарваліся выхадныя

стрэлкі, паравоз зарыў носам зямлю, зашыпеў, абяссілены, загарадзіў чыгуначны шлях. Пачалася моцная перастрэлка. Немцы абстрэльвалі дэпо, кулямётным агнём прайшліся па рабочым пасёлку. Не здаваліся рабочыя, хоць і падаліся назад. Адступаючы, падпалілі нямецкія вайсковыя склады ля станцыі. Гарэлі і рваліся патроны, снарады, моцныя выбухі патрасалі паветра. Нават немцы прымушаны былі крыху адступіць ад станцыі, далей ад страшэнных выбухаў, пажару.

Раніцай падаспелі да рабочых партызанскія атрады Сёмкі-матроса. З гікам, са свістам імчалі наўскач смелыя коннікі, адрэзалі на ляту нямецкую батарэю і ўраз павярнулі гарматы на немцаў, на штаб. Немцы спешна адступалі ад станцыі, падаваліся ў горад, акопваліся на ўскраінах.

Пачаўся зацяглы бой. Ён ішоў то заціхаючы, то зноў узрастаючы, гарачымі перастукамі кулямётаў, залпамі карабінаў, гармат. Цяжка даводзілася партызанам. Прызвычаеным да боек у лясах, у засадах, ім нязручна было весці бой з пахаваўшыміся ў акопах немцамі, з буйнымі нямецкімі атрадамі, узброенымі бамбамётамі і гарматамі. Але і гэта не магло стрымаць іх, і групы коннікаў-партызан рабілі адчайныя налёты на нямецкія акопы і кулямёты. Не вытрымлівалі немцы, вельмі баяліся партызанскай шаблі, і то тут, то там рабілі яны перабежкі, адыходзячы далей ад штаба.

У смелым налёце на немцаў загінуў Сёмка-матрос. Пагарачыўся ён крыху. Захапіўшы нямецкі кулямёт, кінуўся ён за ўцякаўшым афіцэрам, высока ўзнёсшы вострае джала шаблі. І вось-вось ужо апусціцца гэтае джала на бліскучы лак імператарскай каскі. Аж прыціх Міколка, назіраючы за паядынкам. Перастаў з кулямёта страляць, каб не параніць сваіх. Уздыбіўся Сёмкаў конь, вось-вось пераскочыць цераз афіцэра… І глуха войкнуў Міколка. Бачыў ён: абярнуўся на бягу афіцэр, стрэліў з упору… Скочыў конь ашалелы. Нахіліўся Сёмка, апусціў галаву на пахучую конскую грыву, рукі апалі, і ўвесь ён стаў хіліцца набок, усё ніжэй і ніжэй… Бачыў Міколка, як узнесеная Сёмкава шабля ўпала на зямлю і ціха дзвынкнула, загайдалася, устроміўшыся вастрыём у жоўты пясок. На гэты ж пясок упаў Сёмка-матрос, камандзір партызанскіх атрадаў, слаўны ваяка і бальшавік…

Прайшоўся далонню па спацеламу твару Міколка і націснуў на спуск кулямёта. Здрыганулася, загула зямля перад ім. Грымеў кулямёт. То Міколка спраўляў памінкі па старэйшаму таварышу, па любімаму партызану, прыяцелю. Не стала афіцэра. Але не ўстаць з зямлі і Сёмку-матросу, і далёка-далёка адкацілася запыленая яго бесказырка, што бачыла свету багата, бачыла сіняе

мора, бачыла вольныя караблі, неразлучнай была з чалавекам, які жыццё любіў і ведаў цану чалавечай нянавісці і любві.

Так загінуў Сёмка-матрос.

Камандавацъ боем стаў дзед Астап. І дрэнна б прыйшлося немцам, ужо генерал гатовы быў ісці на перамаўленні з рабочымі, як адбыліся падзеі, адразу пагоршыўшыя для рабочых і партызан вынікі бою. Дзед Астап пачуў свісткі паравозаў. І, угледзеўшыся на захад, збялеў дзед, рукой безнадзейна махнуў.

— Дрэнна, браты! — сказаў ён. — Памыліліся мы крыху… Трэба было з захаду чыгунку ўзарваць… Немцам ідуць падмацаванні, вунь іхнія эшалоны.

Павярнулі гарматы на эшалоны. Але было позна. Немцы акружылі горад, абыходзілі станцыю. Трэба было адступаць. Немцы пачалі насядаць з бакоў, захапілі ўжо некалькі дзясяткаў чалавек у палон.

Тады падышоў да Міколкі дзед, загадаў:

— З кулямётамі мы самі ўправімся… Пакуль будуць патроны, немцам не здамося. А ты, пакуль не позна, бяжы за станцыю. Там у тупіку на паравозных могілках схаваны намі пасажырскі паравоз. Ён стаіць пад парай. Дык гані на ім да чырвоных… Вёрст пяцьдзясят да іх будзе, яны павінны наступаць сёння на суседнюю станцыю. Прасі дапамогі. Не дамо немцам награбленага дабра!

Як ветрам падхоплены, імчаў Міколка. Вось і тупікі. Вось і паравозныя могілкі. Стаяць на іх старыя, паржавелыя паравозы. Пасажырскія, таварныя, манеўровачныя, «кукушкі». А вось і жывы паравоз. Прытаіўся, схаваўся за паравозным ламаччам. Аж дрыжыць, так чакае дарогі прыгажун пасажырскі. Паравозная каманда ў парадку. У кожнага карабін.

Уздыхнуў паравоз парай і без гудкоў, без свісткоў выбраўся на галоўны пуць. Прастора перад ім, разгон бязмежны. Аж колы сакочуць, не ўгледзіш за дышлам, за размашыстым вобадам. Не ідзе, а ляціць паравоз, і толькі мільгаюць паабапал пераезды, слупы, паласатыя вёрсты. Нахіляюцца бярозы, і іх шэпт кучаравы зліваецца з гарачым дыханнем машыны.

А паравоз імчыць.

Толькі і чуваць: ча-ча-ча… ча-ча-ча…

Аж калышацца тэндар, гойдаецца з боку ў бок, ды ўзвіваюцца клубы пылу ззаду — нічога не відаць там у дыме, у пыле.

Вось і суседняя станцыя. Тут могуць быць яшчэ немцы.

«Каб жа не затрымалі!» — адна ва ўсіх думка.

Трывожна загудзеў паравоз і, не збаўляючы ходу, імчаў на закрыты семафор. Замітусіліся рабочыя там. Бачылі — здарылася нешта дужа важнае. Перакінулі стрэлкі на галоўны пуць, і паравоз маланкай прамільгнуў праз станцыю. Нямецкі патруль, выскачыўшы на перон, паслаў наўздагон некалькі стрэлаў. Але дзе ты вецер дагоніш!

Праз якое паўгадзіны былі на жаданай станцыі. Паравоз стаяў як укопаны ля браняпоезда. Бачыў Міколка, што гэта наш браняпоезд. Шырокі чырвоны сцяг калыхаўся над закутым у браню паравозам.

— Хутчэй да начальніка поезда! — кінуў Міколка падаспеўшым чырвонаармейцам. Вось ён і ў начальніка, у маладога камандзіра. Той слухае яго ўважліва.

— Адразу ж давайце нам дапамогу… Неадкладна, вось зараз жа…

— Добра! — заўважыў начальнік і загадаў падрыхтаваць да адпраўкі поезд ды, акрамя таго, быць напагатове запасному эшалону. — А цяпер можна спакойна расказаць мне аб усім. І колькі немцаў… І ці ёсць гарматы ў іх… Ці цэлая пуць.

Аб усім расказаў Міколка. І аб немцах, і аб рабочай дэлегацыі, і аб сваім партызанстве…

— Ну дык ты, выходзіць, не звычайны хлапчына, а слаўны герой!

Некалі было Міколку пра сваё геройства расказваць, ды і не любіў ён пахваляцца гэтымі справамі. Камандзіра прыспешваў.

— А ў нас ужо ўсё гатова! Садзіся вось да нас у вагон, паедзем… — сказаў яму камандзір.

— Не… Мне ўжо дазвольце на ваш паравоз… Я з машыністам паеду!

— Ну што ж, бяжы на паравоз, калі ахвота!

Пабег Міколка да паравоза, але дзе ты ўзбярэшся на яго, закутага ў браню. Пастукаў Міколка, загадаў:

— Адчыняйце! Загадана камандзірам ехаць з вамі!

Паволі адсунуліся сталёвыя дзверцы. Зірнуў Міколка, і слёзы ўмомант твар укрылі: не ад страху, не ад перапалоху, ад вялікае радасці былі Міколкавы слёзы. Перад Міколкам стаяў яго бацька. Ён быў за машыніста на браняпоездзе. Падскочыў Міколка, павіс у бацькі на шыі, прынік шчакой да калючай шчаціны яго барады.

Бацька націснуў адной рукой на паравозны рычаг, другой лашчыў сына, гладзіў яго, цалаваў валасы, шурпатую абветраную шчаку.

— Як жа гэта так, партызан мой малы? Як жа гэта так здарылася, што вас немцы ў крыўду бяруць! Ну, расказвай! — гаварыў бацька і пільным вокам углядаўся наперад, куды імчаў цяпер браняпоезд. Глуха гудзелі і перазвоньвалі металам гарматныя вежы, бранявыя бакі вагонаў ашчацініліся кулямётамі. Цяжка пастуквалі рэйкі пад паравозам. Паравоз бег, набіраючы імклівы разгон.

І калі сказаў Міколка, што зруйнавана немцамі дэпо, што білі немцы з кулямётаў па рабочым пасёлку, што забралі ў турму рабочую дэлегацыю і зверскі білі брата Паўла, — пасуравеў бацька, да болю сціснуў рычаг паравозны. Маўчаў з хвіліну. А браняпоезд імчаў. Неўзаметку ляцелі насустрач чыгуначныя вёрсты. Гудзелі гарматныя вежы, паварочваліся паволі, рыхталіся да сустрэчы.

— Ну што ж! Не падай духам, Міколка! — сказаў павесялеўшы бацька. — Хто-хто, а мы пераможам… Не можам іначай! Такі, сыне, закон у нас: не пераможам мы, сатруць нас з твару зямлі, змяшаюць з пылам, з крывёю… З нашай уласнай крывёю… Таму і павінны мы перамагчы!

Імчаў браняпоезд.

* * *

А рабочыя выбіваліся з апошніх сіл. Многа страт панеслі партызаны ў няроўным баі. Ужо выбілі са станцыі партызан і рабочых, ля самых штабеляў абараняліся яны ды займалі невялікую ўскраіну горада. Маўчалі партызанскія кулямёты. Шкадавалі апошніх патронаў. Каб выкурыць рабочых з ускраіны, немцы падпалілі некалькі дамоў, і вялікі пажар узняўся над горадам.

Рабочыя не здавалі апошніх сваіх пазіцый, ладзілі барыкады з дроў, забіраліся на дахі дамоў, каб зручней адбіваць налёты немцаў. Але відаць было, што перамогуць немцы, што гадзіну-другую пратрымаюцца яшчэ рабочыя і прымушаны будуць ці здавацца на нямецкую літасць, ці загінуць пад моцным кулямётным агнём. І быў ужо момант, калі дужа задумаўся дзед Астап над тым, як бы зручней вывесці людзей з небяспекі, жыццё адратаваць ім. Задумаўся на хвіліну і страпянуўся раптам. Гучнае і радаснае «ўра» страсянула паветра. Загрымелі замоўкшыя было партызанскія кулямёты, сціх на хвіліну нямецкі агонь.

Зірнуў дзед у бок ад станцыі і аж крыкнуў ад вялікае радасці. Вярстах у пяці-шасці ад станцыі імчаў браняпоезд. Ясна відаць

быў чырвоны сцяг над ім. Сцяг то разгараўся чырвоным полымем, то нік у клубах чорнага паравознага дыму.

— Трымайся, хлопцы, нашы імчаць!

Акрыялі радасцю рабочыя і партызаны.

Заварушыліся немцы. Павярнулі некалькі гармат на браняпоезд. Узвыла паветра пад гарачым свістам снарадаў. Крактануў у адказ браняпоезд, ды як крактануў — ураз сціхлі гарматы немцаў. Пара іхніх гармат была збіта цяжкім снарадам з браняпоезда. А браняпоезд яшчэ і яшчэ — цяжка вухкала па лясах, па-над горадам. Браняпоезд біў з цяжкіх гармат.

Немцы кінуліся да пуцей, каб рэйкі ўзарваць, акапацца ля чыгункі. Але рабочыя і партызаны не пускалі іх да рэек, метка знімалі кожнага, хто памыкаўся ўскочыць на пуць.

А браняпоезд ішоў.

Крыху адчыніў Міколкаў бацька сталёвае акенца, каб пуці праверыць, ці цэлыя, ці пашкоджаныя. Глянуў туды і неяк раптам асеў, асунуўся, стаў хіліцца да падлогі. Навіс на рычаг усім цяжарам свайго цела. Павярнуўся рычаг, паравоз абарваў свой бег і ўсё цішэй, цішэй, вось і зусім становіцца паравоз. Здзіўленыя твары чырвонаармейцаў паказаліся ў шчылінах-акенцах вагонаў.

Узрадаваныя немцы беглі насустрач і шалёна крычалі, размахваючы ручнымі гранатамі. Прыціхлі рабочыя і партызаны, не разумеючы, што сталася з браняпоездам.

І не памятае Міколка, як адбылося ўсё гэта. Асцярожна адхіліў ён бацькаву руку ад рэгулятара, націснуў на рычаг абедзвюма сваімі рукамі — ірвануў паравоз, зашыпеў весела парай, памчаў наперад. З браняпоезда ваўсю загаварылі кулямёты, грымнулі яшчэ разы са два цяжкія гарматы. А Міколка ўжо крычаў двум чырвонаармейцам, што былі разам з ім на паравозе:

— Машыніста кладзіце на падлогу ды перавязку хутчэй!

Бачыў, як прамазучаны бацькаў пінжак набухаў чырвонай плямай. Яна рабілася ўсё шырэй і шырэй. Чырвонаармейцы таропка знімалі пінжак, разразалі нажом кашулю, бінтавалі бацькавы грудзі.

І хоць страшна горача было на паравозе, але адчуваў Міколка, як халадзее яго маленькае сэрца, як халадзеюць яго пальцы на гарачым рычагу. Гэта вялікі жаль да бацькі агарнуў усю яго малую істоту, і ён нібы сабраўся ўвесь у маленькі камок і, напружыўшы ўсе свае сілы, трымаў у руках паравозны рычаг. І бачыў ён, зірнуўшы ў шчылінку паравознага акенца, як уцякалі немцы ва ўсе бакі, як беглі рабочыя, імчалі да браняпоезда партызаны.

Яны размахвалі карабінамі, падкідвалі шапкі, крычалі вясёлае «ўра», выкрыквалі словы:

— Няхай жыве наша слаўная Чырвоная Армія!

Вось і станцыя.

Спыніў паравоз Міколка. Кінуўся з шапкай пад паравозны кран, халоднай вады набраў, выплеснуў бацьку на грудзі, абняў яго.

І не вытрымаў тут, заплакаў гарачымі слязамі.

— Ці жыў ты, бацька? Устань жа, ну слова скажы!

Але маўчаў бацька. Глуха плакаў Міколка. Дзед Астап падышоў, паглядзеў, неяк пасуровеў адразу. Паслаў па доктара. Сабраліся рабочыя, партызаны, маўчалі ў вялікім суме. Хутка прыйшоў доктар. Агледзеў, рану прамыў. Зірнуў на Міколку, па плячы яго весела пахлопаў:

— Ну, Міколка, тваё шчасце! Будзе твой бацька жыць яшчэ доўгія гады… Хоць цяжкая рана, але праз месяц-другі мы загоім яе! Кроў у яго рабочая, здаровая…

І што тут пачалося толькі! У Міколкі ўраз вочы сталі сухімі. Усміхнуўся доктару.

— Глядзі ж, не падмані!

А тут падхапілі Міколку на рукі — і ну качаць. Вышэй паравоза падкінулі яго, аж дым паравозны перасігнуў ён і ўпаў вясёлы і радасны на рукі рабочых, партызан, чырвонаармейцаў. Усе віталі Міколку, слаўнага машыніста браняпоезда, слаўнага партызана, смелага сына бальшавіка.

А назаўтра Міколка разам з другімі рабочымі і партызанамі дыктаваў у нямецкім штабе сваю волю нямецкаму генералу. Той хадзіў маўклівы і пануры. Куды і гонар мінулы падзеўся. Пабілі яго рабочыя, а яшчэ болей пабіла рэвалюцыя ў Германіі. Весткі аб гэтай рэвалюцыі дайшлі нарэшце да нямецкіх салдат.

Генерал хадзіў па кабінеце і нехаця пазіраў у вокны. Ён бачыў, як гулялі па вуліцах яго салдаты. Салдаты старой імператарскай арміі. Салдаты-заваёўцы. Салдаты-пераможцы. Салдаты-рабы. Гэтыя салдаты гулялі сёння з рабочым народам. З чужым народам. Яны браталіся з гэтым народам. Яны называлі гэты народ сваімі лепшымі прыяцелямі ў свеце.

Для гэтых салдат не існуе больш ён, суровы і грозны генерал. Цяпер ён нішто. Дый ці можа ён быць цяпер чым-небудзь, калі даводзіцца выпрошваць у гэтых людзей вагоны для афіцэраў, каб ехаць у Германію? Рабочыя і партызаны жартуюць:

— Вы б, ваша правасхадзіцельства, можа б, пехатой як-небудзь. Салдат-то мы давязём…

Але ўмешваецца ў гутарку дзед Астап. Той не любіць лішніх жартаў.

— Даць ім вагоны, няхай хутчэй адсюль вымятаюцца…

А дзясяткі цягнікоў, сотні і тысячы вагонаў з хлебам, з жывёлай, з награбленым дабром стаяць на станцыі, загрузіўшы ўсе пуці і тупікі. Не бачыць іх болей генералу, як не ўбачыць яму свайго генеральскага носа.

Не выйшлі генеральскія планы!

І як праў быў Міколкаў бацька, калі казаў яму на паравозе:

— Мы не можам не перамагчы!

Перамаглі!

Не можа іначай рабіць Міколкава слаўнае племя.

*1937*

# ПРА СМЕЛАГА ВАЯКУ МІШКУ І ЯГО СЛАЎНЫХ ТАВАРЫШАЎ

## ПРА МІШКАВА ДЗЯЦІНСТВА І АБ ТЫМ, ЯК ЁН МАЛІНУ ЛЮБІЎ

Калі б хто запытаў Мішку:

— Што ты любіш больш за ўсё на свеце?

Ён адразу б сказаў, каб умеў гаварыць:

— Што люблю? Маліну люблю… Мёд люблю… Цецерукововыя яйкі люблю…

— А яшчэ што?

— І яшчэ маліну.

Дужа любіў Мішка маліну і праз гэтую маліну вялікія непрыемнасці меў, і ўсякія праз яе няшчасці з ім здараліся і пакуты. Але цярпеў, крыўды зносіў і знявагі.

Вось і сягоння напалі на яго няўдачы. Ішоў пануры, нізка схіліўшы галаву, хістаўся троху з боку на бок і час ад часу вурчаў паціху, пад нос. Тады спынялася матка на якую хвіліну і пагрозліва касіла вокам і выскаляла зубы. Мішка таксама спыняўся, кідаў вурчаць і, схіліўшы да самай зямлі галаву, хітра сачыў за маткай, а ці не дасць часам яшчэ па загрыўку. Сачыў і быў гатовы адразу ж кінуцца наўцёкі, падалей ад матчыных пачастункаў. Ну як жа тут не быць панурым і сумным?

А пачалося ўсё раніцой. Яшчэ не паднялося сонца, яшчэ клубіўся туман над палянамі, як заварушылася Мішкава матка, грузна ўзнялася на пярэднія лапы. Потым, зяхнуўшы, стала на ўсе чатыры, шумна атрэслася ад моху, ад сухога лісця і падалася наверх з цёмнай бярлогі. Бачыў Мішка, як стаяла яна на краі бярлогі і, выцягнуўшы галаву, удыхала трапяткой і гарачай наздрынай свежае паветра раніцы, потым павяла кругом галавой і замерла на якую хвіліну — прыслухалася. Аднекуль здалёк прыляталі глухія гукі балабонаў — відаць, пасвіліся на балоце

коні. Ціха пранесліся над палянай качкі, пралапацеў крыллямі цецярук — аж аблізнулася матка, уздыхнула. Тады Мішку зрабілася сумна. Мо таму, што ў бярлозе, пад вялікім яловым вываратнем, было цемнавата, мо таму, што без маткі рабілася холадна і няўтульна. І Мішка паціху заскуголіў. Матка вярнулася назад, узяла Мішку зубамі за карак і паставіла на ногі. І Мішка ведаў, што гэта значыць: «Уставай, лодар, лежабока, час ужо па снеданне ісці!» Ён паспрабаваў жартаваць, упірацца, забіраўся па карэннях аж пад самы верх бярлогі. Але, атрымаўшы некалькі лёгкіх кухталёў, пайшоў паслухмяна з бярлогі.

Наверсе было халаднавата, стаяла раса, і Мішка асцярожна пераступаў з нагі на нагу, зябка атрасаючы лапы ад сцюдзёных кропель вады, стараўся патрапіць у матчыны сляды, каб лішне не замачыцца. Але ўрэшце гэта яму надакучыла, і ён кінуўся з усіх чатырох ног, абагнаў матку і пабег што было сілы па кустах, па алешніку, спалохаўшы некалькі птушак, якія вылецелі з густой травы проста з-пад Мішкавага носа. Мішку хацелася сагрэцца, пабязуліць. Але ці разумее ж гэта матка. Яна, як заўсёды. Вось дагнала яго, злосная, узрушаная, і дала так па загрыўку, што ў Мішкі пазелянела ўваччу і ён уткнуўся носам у зямлю, балюча накалоўшыся на хваёвую шышку. І да таго ўзлаваў, аж сам сябе не помніў. Злаўчыўся, ды як хопіць неўзаметку зубамі за матчыну нагу, аж зараўла старая мядзведзіха. А сам наўцёкі, аж задыхаўся бегучы, засопся. Ды дзе ты ўцячэш. Чуе Мішка, зямля дрыжыць за ім — то бяжыць, даганяе матка. Аж у пот у халодны кінула. І вось дагнала. І такога чосу задала, што Мішка доўга не мог ачухацца. І ўрэшце, як ударыць матка нагой, аж пакаціўся з узгорка Мішка і ніяк устаяць не мог, учапіцца нагой за што-небудзь. Ляцеў, ляцеў, ды як шлёпнецца ў канаву. Ускочыў у гразь аж па самыя вушы, ні павярнуцца, ні паварушыцца, ні з канавы гэтае выбрацца. Тырчыць пыса з вады, палахліва бегаюць вочкі, ды ціха скуголіць Мішка ад страху ды ад болю. Паважна падышла старая маці, спынілася, над Мішкам нагнулася, лізнула языком у яго халодны нос — Мішка і вочкі заплюшчыў з перапуду: а што, калі дасць яшчэ за ўсе яго штукі. Але мядзведзіца асцярожна ўзяла яго за карак, падчапіла нагой і выцягнула з канавы. Ухапіўшы яго пярэднімі лапамі, высока падняла і патрэсла, каб асыпалася з Мішкі ліпучая гразь. Потым паставіла на ногі, — ідзі, моў, неслуш, ды не дурыся болей! І пайшоў Мішка мокры, брудны, цярпліва ішоў па матчыных слядах, не адступаючы ад яе ні на крок, ціха, разважна, панура. Вось чаму сумны быў наш

Мішка ды час ад часу паціху бурчаў, спрабуючы агрызацца на матчыны загады.

Яны ішлі доўга. Прайшлі паўз паляну, дзе было складзена бярвенне і дровы. Матка перавярнула некалькі калод, знайшла пад імі багата чарвякоў розных і, забыўшыся на Мішкава непаслушэнства, частавала яго і ласавала. У паленніцы дроў выпарала невялічкае гняздзечка. У ім было з паўдзясятка маленькіх сіняватых яечак. Яны былі надзвычайна смачныя, і Мішка аж задзіраў пысу ўгору і, звярнуўшы ў трубачку язык, высмоктваў іх і, забыўшыся, глытаў і шкарлупкі.

Пасля пайшлі праз балота, старанна абышлі месца, дзе чуваць былі конскія балабоны, з балабонамі чуваць былі і людскія галасы. І хоць Мішка ні разу чалавека не бачыў, але па тым, як ухілялася старая маці ад сустрэч з чалавекам, адчуваў, што гэта няйначай, як самы хітры вораг, магчыма, што нават горш чымся жаба альбо чмель, ці, скажам там, вожык. З гэтымі ўсімі паспеў пазнаёміцца Мішка, і знаёмства не дало яму асаблівай прыемнасці. Паспрабаваў раз жабу лізнуць языком — пляваўся колькі; ды дні са тры язык усё садніла, гарэніла. Добра даўся чмель у знакі, доўга ганяўся за ім Мішка. Прыгожы быў чмель, вясёлы такі, залацісты. Сам невялічкі, а голас дае — ку-у-ды там, гудзіць, аж трава калыхаецца. Ганяўся Мішка за чмелем і ўбачыў, як схаваўся той у невялічкую купіну. Тут і пачаў пароць яе Мішка, носам рыць. Рыў, рыў ды як зараве нечакана, аж матку перапалохаў, тая з бярлогі была выскачыла. Дні са два пух нос з таго часу, гарэў усё, Мішка і ў вадзе яго паласкаў, і аб матчыны бакі цёр, да сырой зямлі прыкладаў. Сяк-так адратаваў нос. І цяпер калі заўважыць чмяля, дык бокам, бокам ды за куст куды, падалей ад чортавай мухі. Вось вам і чмель!

Пра вожыка і казаць не прыходзіцца, гэта ўжо такі звер, страшней якога, мусіць, няма і на свеце. Дапякалі Мішку і пчолы. Хадзілі раз з маткай у глухі бор. Лазіла матка на хвою, залезла высока, высока, ледзь відно яе ад зямлі, з-за папараці, за якой прылёг Мішка. І вось як зараве раптам маці, як затрашчыць нешта ўгары, сухія галінкі ляцяць, цярушацца, ды гуд пайшоў па ўсёй паляне. Не злезла, а саскочыла маці, ды ходу, Мішка за ёй. Бяжыць, а пчолы за ім — і на галаву, і на хвост, і за пуза ўчапіліся. Лезуць сляпіцаю ў нос і ў вочы. Што ні рабіў Мішка — і аб кусты цёрся, па зямлі качаўся — нічога не дапамагала. Пакуль з маткай у ваду ўскочылі, у рэчку — тады толькі і ачухаліся, ад пчол адмахнуліся. І дні тры хадзіў сам не свой. Хварэў нават троху, у бярлозе адлежваўся. Вочы так паапухлі, што нічога не

бачыў. Губы апухлі, нос, ні да чаго не дакрануцца. Але ж якім потым мёдам частавала маці, — еў бы, здаецца, штодня ды смакаваў бы! Вось яны якія, тыя пчолы былі!

І хоць баяўся Мішка і жабы, і чмяля, і пчол, і вожыка, але бачыў, што матка на іх і вокам не кідае, зусім не баіцца. А чалавечы голас калі пачуе — баіцца. Відаць, чалавек страшней за чмяля, за жабу. Вось і цяпер матка асцярожна абнюхвае паветра і ідзе ў другі бок па глухіх балотных сцежках. «Відаць, у авёс», — думае Мішка. І сапраўды, яны хутка выйшлі на вялікую паляну ў лесе. На ёй раскінуўся малады авёс. Ён яшчэ не паспеў, быў зеленаваты, і толькі дзе-нідзе трапляліся жоўтыя, залацістыя лапікі спелага. Ад лёгкага ветрыку хадзілі па аўсу дрыготкія хвалі, і яны поўнілі паляну ціхім, супакойваючым шолахам. Нібы перашэптваліся калосікі — шу-у-у… шу-у-у… Любіў Мішка гэты шолах, гэтыя ціхія, ледзь чутныя галасы аўсяных каласоў. Ляжа ў баразёнку і прыслухаецца. Над ім глыбокае сіняе неба, высока-высока плывуць празрыстыя хмарынкі, пад імі плавае каршук, праляціць крумкач, пранясецца статак качак. У іх крыллі — свістулькі, толькі чутно: ф’ю… ф’ю… ф’ю… А авёс шуміць — шу-у-у… шу-у-у…

Слухае Мішка і дрэмле, зіму ўспамінае, калі шумелі дрэвы як гэты авёс. Праўда, шум той быў куды мацнейшы і грозны, хоць і чуў яго Мішка праз сон, праз сваю зімовую спячку. Не шумела, а гуло па верхавінах, па аснежаных лапах ёлак — угу-гу-у-у-у… у-у-у… І было тады страшна холадна. Памятае Мішка, як курылася пара над бярлогай і ад пары тае звісалі празрыстыя ледзяныя сасулькі — аб іх накалваў нос Мішка, калі намагаўся пад самую вясну выпаўзці з бярлогі.

Любіць Мішка слухаць аўсяныя шолахі. А яшчэ больш даспадобы яму аўсяныя калосікі. Салодкія яны, пахучыя, як матчына малако. І аскубае Мішка авёс, поўнымі жменямі заціскае ў рот, а калі прытаміўся хадзіць на задніх лапах, калі наеўся, тады прылёг і, прымяўшы лапай колькі сцяблінак, лянiва перабіраў іх губамі, смакаваў кожны колас.

На паляне яны былі не адны. Прыйшоў яшчэ адзін стары мядзведзь. Быў ён надзвычай пануры, сярдзіты. Без усякай прычыны накінуўся на Мішку і так скубануў яго зубамі, што той аж зайшоўся ад рову. Тады заступілася матка і так грозна пачала наступаць на мядзведзя, так моцна ўдарыла яго пярэдняй лапай, што стары мядзведзь бегма кінуўся ў лес, затрашчала толькі ламачча ды кусты арэшніку. Па рыжай падпаліне на баку

ў мядзведзя Мішка пазнаў у ім свайго бацьку і здзівіўся: вось дык бацька, добра выхоўвае ён сына, выскаляючы на яго зубы…

Без асаблівых прыгод пайшлі яны назад. Мядзведзіца ішла побач з Мішкам, старанна залізвала яму шыю, дзе былі сляды ад бацькавых зубоў, і ціха вурчала пад нос аб нечым сваім, мядзведжым. Калі пераходзілі праз ручай, мядзведзіца ўзяла Мішку ў пярэднія лапы і пачала купаць яго. Не асабліва паважаў Мішка гэтую аперацыю і ў другія разы з усіх сіл намагаўся наўцёкі, спрабаваў кусацца. Але цяпер, узгадаўшы матчыну абарону і клопаты, паслухмяна цялёпкаўся ў вадзе і падстаўляў пад матчыны лапы то адзін, то другі бок. Пасля купання весела бегаў па лесе, ганяўся за белымі матылямі, куляўся па зялёнай траве, каб хутчэй асушыцца.

Калі прыйшлі ў бярлогу, матка завалілася спаць. Бярлога была прасторнай і ўтульнай. Хапала цёплага моху, сухога ліста. Уверсе было багата пераплеценых карэнняў ад паваленага дрэва, так што столь была добрая, шчыльная, ніколі не прапускала дажджу. Бярлога была ў дзікім гушчарніку, ніхто не парушаў спакою, хаця і праходзіла недалёка лясная дарога, але была яна глухой і непраезджай. Колькі разоў выбіралася мядзведзіца з Мішкам на гэтую дарогу, каб пагрэцца на сонцы. І ніколі не сустракалі тут чалавека. Маці адпачывала, а Мішку не было ніякай ахвоты да сну. Ён у каторы ўжо раз абследаваў бярлогу, абнюхваў кожны каменьчык, кожны корань. Праўда, цікавага ў гэтым было мала. І калі ўсё гэта надакучыла Мішку, ён выбраўся з бярлогі на волю. Там было весялей. Добра было пакуляцца ў верасках, пабегаць сярод папараці, пастаяць перад муравейнікам і, запусціўшы ў яго лапу, разварушыўшы, хуценька адскочыць убок і пазіраць, як бегаюць неўгамонныя мурашы, цягаюць сцяблінкі, перацягваюць белыя яечкі. Багата чаго ёсць у лесе і паглядзець, і паслухаць. Вунь дзяцел дзяўбе старую алешыну. Усеўся, учапіўся лапамі за кару і стукае сабе, дзяўбе носам — тук-тук, тук-тук… Паспрабаваў раз Мішка стукнуць носам па дрэве, але ніякага туку-туку не выйшла. Адна толькі непрыемнасць была, садраў нос, і болей нічога…

А там вунь вавёрка пераскоквае з галінкі на галінку. Уселася ды чапурыцца, не зважае на Мішку. Той і сяк, і так — і зубамі лясне, і лапай зямлю дзярэ, і голас прабуе падаць, а вавёрка нічога, хоць бы зірнула раз, матляецца толькі хвост як мяцёлка. Узлаваў тады Мішка, да хвойкі кінуўся, стукнуў лапай па ёй. Вавёрка пераскочыла на другую хвойку, з той — на трэцюю. Мішка — за ёй. Спрабаваў на хвойку ўзабрацца. І вось-вось,

здаецца, зловіць вавёрку, але дзе ты яе возьмеш, калі яна скача як блыха. Раз такі скочыў з дрэва і сам Мішка. Думаў, што паляціць як матыль услед за вавёркай. І вось-вось, здаецца, зубамі за хвост учэпіцца, раскрыў ляпу шырэй, каб хваста не ўпусціць. Дык дзе ж ты бачыў! Секунда, дзве, і повен рот зямлі, ды нагу падбіў, так ляснуўся аб зямлю. Добра яшчэ, што дрэва было нізкае, маглі б Мішкавы палёты кончыцца куды горш. Дасталося тады Мішку парадкам і ад маткі, і прыйшлося яму назаўсёды кінуць свае лётніцкія практыкаванні. Няхай яны, тыя вавёркі, лятаюць ды матылюшкі якія, а яму, Мішку, хопіць і па зямлі хадзіць ды на хвойкі лазіць.

Бегаў, бегаў Мішка каля бярлогі і ўспомніў, што сёння ён яшчэ не каштаваў маліны. Гэта ж трэба, каб у маліннiку жывучы, ды маліны не паспытаць. Успомніў і пра матчыны загады — без яе нікуды не хадзіць. «Але ж гэта зусім блізка, недалёка ад дарогі, ці я заблуджуся? Ды матка спіць цяпер і не заўважыць нічога…» — падумаў Мішка і пайшоў пацїху ў маліннік, зусім не прадбачачы тых падзей, якія адбыліся з ім пасля ў гэты дзень. Але аб гэтых падзеях раскажам далей.

## ПРА ВЯСЁЛУЮ БАРАДУ І ПРА ЧОРНАГА ЖУКА

Пакуль Мішка будзе ласавацца малінай, нам прыйдзецца сказаць некалькі слоў пра Вясёлую Бараду, ці, інакш, Барадатага, ды пра чорнага Жука. Сказаць, каб яны жылі ў вялікай паміж сабою згодзе — будзе няпраўдай. Заўсёды Барадаты задаваў вялікага форсу перад Жукам, важнецкі прахаджваўся перад ім, ганарыста трос барадой або, набраўшыся надзвычайнага спрыту, нечакана кідаўся на яго, каб пацэліць на рогі. Жук выскаляў зубы, пагрозліва бурчаў, і, калі Барадаты не пакідаў сваіх ганарыстых выбрыкаў, Жук адыходзіў куды-небудзь пад куст, падалей ад назолы. Лежачы там у цяньку і лянiва адганяючы мух, Жук назіраў прыжмураным вокам за Барадатым, за яго фокусамі і вывертамі. А чаго, чаго не вырабляў Барадаты! Вось ён забіраецца аж на самую верхавіну паваленага дрэва, гоцае адтуль з усіх чатырох капыцікаў на дол, — не раўнуючы, як лёгкая вавёрка ці той матыль. Вось ён убачыў высачэзны пень. Абышоў яго, панюхаў, лізнуў. Потым адышоў назад і, павярнуўшыся, пераскочыў яго з разгону, аж захрупасцелі капыцікі па зямлі, уздымаючы пыл над палянай, над верасамі.

І гэта не ўсё.

Вось ідзе чырвонаармеец. Барадаты ўжо тут як тут. Рожкі наперад і не дае праходу ні направа, ні налева. З дарогі не сасступіць ды пагрозліва памахвае галавой.

Ну што ты з ім зробіш?

Чырвонаармеец дастае з кішэні махорку, сыпле на далоню, падстаўляе Барадатаму.

— На, адчапіся, ірад, некалі мне тут з табою разгаворы размгаварваць…

А таму толькі гэта і патрэбна. Злізаў махорку, засыпаў за губу і жуе, паражоўвае, соладка прыжмурыўшы вочы. Да чаго ж махорку любіць Барадаты, пра ўсякія фокусы тады забывае. Стаіць, не зварухнецца, толькі барада трасецца, ды з вялікага задавальнення раскрые часам рот ды на ўсю паляну:

— Бе-э-э-э!.. Бе-э-э!

Глядзіць тады на яго Жук, глядзіць, уздыхае. Дужа яму не даспадобы тытунёвыя практыкаванні Барадатага: ну які там смак з махоркі! Ад дыму тытунёвага ўцякаў як мага далей. Глядзіць, глядзіць ды ўслед за Барадатым на ўсю паляну, на ўвесь лес:

— Га-аў!.. гаў!.. гаў!.. Га-аў!.. гаў… гаў!..

Заліваецца брэхам ды хвастом па зямлі б’е — ад злосці на Барадатага, ад вялікай да яго знявагі.

Збягаюцца тады вясёлыя чырвонаармейцы. Рогат, жарты. З Барадатага ды з Жука смяюцца.

— Чаго толькі вы не падзялілі!

Можна падумаць, што Барадаты і Жук такія ўжо адвечныя ворагі і што яны так не паважаюць адзін аднаго. Гэта зноў-такі няпраўда. Калі пазнаёміцца з імі бліжэй, дык мы ўбачым, што яны самыя найлепшыя дружакі. І калі Барадаты фарсіў крыху перад Жукам, дык гэта толькі для выгляду, для адводу воч. Паспрабуйце-тка пакрыўдзіць каго-небудзь з іх, хоць бы Барадатага. Тады такога дыхту задасць вам Жук, што вы дзясятаму закажаце крыўдзіць яго друга. Не адстане і Барадаты ў спрытнай абароне свайго прыяцеля.

Але хто ж такія Жук ды Вясёлая Барада? Адкуль яны ўзяліся? Як апынуліся ўсе разам? І пры чым тут чырвонаармейцы?

Жук быў звычайным сабакам, звычайнай пароды. Ні асаблівымі здатнасцямі, ні асаблівымі талентамі ён не мог пахваліцца. Сабака, як і ўсе сабакі. Толькі вось бок хіба крыху падпалены, дык гэта ўжо ад паходнага жыцця, прыпаліў, ля цяпла грэючыся ў халодную восеньскую ноч. Не такі ўжо прыгажун Барадаты — шэрая ўзлахмачаная поўсць, вечна ў рэп’ях, у саломе. Левы рог напалавіну збіты — страціў дзесьці ў гарачых бойках. Куртаты

хвост — адна відзімасць. Але затое ж барада — сапраўдная краса і гонар Барадатага. І хоць абскублена яна была крыху, і няроўныя валасіны былі ў ёй, і рэп’яў хапала ў ёй, — усё ж была яна барадой, якой і належыць быць у паважаючага сябе казла. За гэту бараду і празвалі казла Барадатым… Ідзе ён, барадой трасе. Бяжыць — барада падскоквае. Пачне есці — барада матляецца. Прыго-о-о-жая барада!

І Жук і Барадаты былі да некаторай ступені вайсковымі асобамі. Жук быў у першым батальёне, Барадаты — у другім. І хадзілі штодня з палком у вялікіх паходах. Ці холад, ці спякота, ці снег, ці дождж — ідуць баявыя батальёны чырвонаармейцаў. І хоць цяжка ў дарозе — і ногі ныюць, і муляе плечы, — не сумуюць байцы, песні спяваюць, жарты ладзяць, гармонік заводзяць. А калі заціхае часам гармонік, тады выступаюць батальённыя веселуны — Жук ды Барадаты. І чаго толькі не робяць яны! Пераскоквае Барадаты цераз Жука. Жук намагаецца ўхапіць Барадатага за бараду. Але, напароўшыся на рог, спрытна ўцякае ў кусты, адкуль робіць спробу нечакана атакаваць свайго прыяцеля. Такі часам вэрхал узнімуць, такую тузаніну, што хоць ты вадой іх разлівай. Спектакль, дый годзе. А кончаць спектакль, ходзяць па шарэнгах, у вочы байцам пазіраюць. Ну, ясна, трэба скарыначку хлеба даць, цукрам пачаставаць. І давалі, і частавалі. Любілі чырвонаармейцы сваіх веселуноў і з батальёна іх не адпускалі. Да таго любілі, што нават ганарыліся імі і задзіралі носа перад трэцім батальёнам, які не меў нікога — ні казла, ні Жука.

Калі часам Барадаты па сваёй несвядомасці заходзіў пачаставацца ў трэці батальён, яго адразу ж знаходзілі і выводзілі адтуль. Чырвонаармейцы другога батальёна баяліся, каб трэці батальён не скраў часам іхняга веселуна, іхняга барадатага актора. Скрасці не скрасці, а падкупіць маглі — дужа ласы быў Барадаты на цукар і на махорку. Жук быў больш свядомым і свайму батальёну здрадзіць не мог — ніякія подкупы на яго не дзейнічалі. Нават агрызаўся часам на такія подкупы, і яго пакідалі ў спакоі. Ён быў таксама і больш храбрым, больш адважным, чым яго прыяцель. Ён не баяўся страляніны, бою. Разам з байцамі ішоў у атаку, хадзіў ноччу ў дазоры і старанна выконваў там дазорную службу: ніякі вораг не мог падкрасціся непрыкметна ўначы да нашых часцей. А Барадаты пры першым стрэле страчваў увесь свой ганарысты выгляд, з усіх ног кідаўся назад у абоз, за што і звалі яго часам дэзерцірам і саромілі перад усім батальёнам. Але якое ж у Барадатага сумленне? Стаіць,

нізка апусціўшы галаву, вокам не міргне. Страсяне барадой ды завядзе сваю жаласлівую песню:

— Бе-э-э-э…

Ну, што ты з ім зробіш!

Дык вось якія былі Жук ды Барадаты. І не дзіва, што чырвонаармейцы ганарыліся імі, частавалі іх, сваіх актораў, весялуноў, і задзіралі носа перад трэцім батальёнам. Але ў хуткім часе здарыліся тыя падзеі, пра якія мы абяцалі расказаць яшчэ ў канцы першага раздзела. Гэтыя падзеі паставілі на другі план і Жука і Вясёлую Бараду, а трэці батальён пачаў задзіраць носа і перад першым і перад другім батальёнам. Аб гэтым мы далей і раскажам.

## ЯК МІШКА ТРАПІЎ НА ВАЙСКОВУЮ СЛУЖБУ

Была ціхая летняя раніца. Сонца яшчэ не паспела забрацца высока і пераліvалася мільёнамі агеньчыкаў у роснай мураве, на палянах, паблісквала на вільготным лісці бяроз, рассыпалася залацістымі плямамі праз лапкі ялін, праз кучомістыя верхавіны хвой. І калі трапляла сонца на спелыя ягады маліны, яны гарэлі як камні-самацветы. І пах ад іх ішоў далёка-далёка, праз лес, праз балота, да самае лесавое дарогі. Ягады пахлі летам, сонцам, зялёнаю муравою палян, ды чым толькі яны не пахлі! Знай толькі адно: еш, не лянуйся! І Мішка стараўся. Спачатку абскубаў ягады лапай, еў, хапаўся, соп, набіваў повен рот малінай разам з лісцем, з маленькімі мурашкамі, з недаспелымі ягадамі. Калі ж наеўся, стаў больш пераборлівым: стаіць, прыглядаецца, самую спелую ягадзіну выглядае. Выгледзіць маліну, на якой сонца больш пераліваецца, і нацэліцца паважна языком, старанна зліжа ягадзіну і вочы прыжмурыць ад вялікага задавальнення.

Вялікі ласун быў Мішка! А ў гэты час па дарозе ішоў полк. Ішлі батальёны, адзін за адным. За батальёнамі ішоў абоз, паскрыпвалі колы, пастукваючы на карэннях хвой і ялін. Зрэдку ржалі коні. Чуў гэта ржанне Мішка, але заняты ягаднай справай і не падумаў, што б то магло значыць. Ці мала коней іржуць на балоце, яшчэ часам балабонамі пазваньваюць, калі бываюць там на начлезе. Дык вялікі то клопат гэтыя коні, дужа яны Мішку патрэбны!

А полк тым часам спыніўся на адпачынак каля дарогі. Чырвонаармейцы пачалі разыходзіцца па лесе: хто па ваду, хто па сушняк для цяпла, а хто ў грыбы ды па ягады падаўся. За імі

следам пацягнуліся Жук і Вясёлая Барада. Хоць іх і не цікавілі дужа ягады, але ж не маглі адстаць ад кампаніі. Такую прывычку займелі за сваё паходнае жыццё.

А Мішка тым часам думаў ужо, як бы гэта падацца назад да роднай бярлогі, але троху пабойваўся маткі: няйначай дасць цяпер па карку за самавольную адлучку. Ды і месца было дужа прыгожае. Прыгравала сонца. Маліннік пах. Пад нагамі пасціліліся пухнатыя махавіны, мяккія, цёплыя. Зялёнае лісце брусьнічніку ярка блішчэла на сонцы. Ну, як не пабегаць тут, не пабязуліць, не перакуліцца некалькі разоў цераз галаву ды, лёгшы на спіну, падняць угору свае куртатыя лапы і ўзірацца ў глыбокае сіняе неба, якое здавалася Мішку вялікім-вялікім возерам лесавым. Толькі дзіва — на возеры сонца плыве, углядаецца з вышыні. Аж вочы прыжмурыў Мішка, да таго хораша на свеце жыць, калі гэта матка ёсць, і маліннік ёсць, і маленькія птушкі малінаўкі табе песні спяваюць ды сама ягада ў лапу просіцца. Не жыццё Мішку — маліна!

І толькі гэта ён на лапах падняўся ды сухую іглiцу з хрыбта абтрос, як, зірнуўшы перад сабою, амаль не самлеў, аж захаладала ў пятах. Проста перад ім вытыркнуўся з-за куста ніколі не бачаны ім звер. Быў ён увесь белы, меў чатыры нагі, як і кожны звер, але былі ў яго яшчэ рогі. І самае страшнае — была ў звера дзіўная барада, яна матлялася з боку ў бок, наганяючы яшчэ болей страху на Мішкава сэрца. Ніколі і нідзе не бачыў Мішка такой барады: ні ў бацькі свайго, ні ў шэрых ваўкоў, што траплялiся часам на лесавых сцежках, ні ў другіх звяроў і звярушак, з якімі даводзілася сустракацца. Ні ў зайца, ні ў лісаў, ні ў тоўстых барсукоў, ні ў калючага вожыка.

«Відаць, у барадзе ўся сіла…» — сумна падумаў Мішка, мяркуючы, як бы ямчэй даць лататы, як бы спрытней уцячы пад матчыну абарону.

А звер усё ўглядаўся ў Мішку вялікімі шклянымі вачыма, нерашуча пераміналася з нагі на нагу. Паварушыўся Мішка, каб павярнуцца як назад, намеціць шляху да адступлення. І адразу бачыць: барадаты звер нібы таксама выказвае намеры да адступлення, на цэлы крок назад падаўся. Акрыяў тут Мішка, узрадаваўся.

— Ну, значыць, жыць буду, паем яшчэ маліны ў смак…

І так яму жыць захацелася, што нават храбрасці пачаў набірацца, смялець пачаў: на цэлы крок да белага звера пасунуўся. Усё думаў: «Вось бы за бараду яго цапнуць, сілу тую адчуць! Не можа быць, каб была гэтая барада мацней за мяне».

Нават словы маці ўспомніў, што няма ў лесе звера мацней і храбрэй, чым яны — мядзведзі. На хвілінку якую задумаўся: «А што, калі гэта — чалавек? А чалавек жа страшней за ўсё. Страшней за чмяля і вожыка…» Але зноў узгадаў словы маці аб чалавеку, які ходзіць толькі на дзвюх нагах, а дзве другія для прыліку носіць, матляюцца яны без усякай справы. «Выходзіць, што не чалавек…»

І ціха, асцярожна, ды на крок наперад. Ужо нацэліўся лапай, каб за самую бараду ўхапіць. І што тут толькі нарабілася? Не паспеў Мішка лапу падняць, як барадаты звер узвіўся маланкай угору. Ды як сігане праз куст, аж маліны, як пырскі, пасыпаліся, у лісце зацерушыліся. І толькі трэск пайшоў па ўсім малінніку ды голас такі смешны, недарэчны:

— Бе-э-э-э…

То барадаты звер ратаваў сваю скуру. Уцякаў з усіх ног, не на жарты напалохаўшы Мішку, які толкам і не ведаў, што ж яму далей рабіць пасля такой сустрэчы з незнаёмай барадой. І не паспеў ён ачухацца як след, як новая напасць прыйшла, куды страшнейшая і меўшая нечаканыя вынікі для ўсяго Мішкавага жыцця. Яшчэ не знік трэск галінак — то ўцякаў Барадаты, ратуючы сваю бараду, — як новы звер раптам напаў на Мішку, ухапіў яго зубамі за нагу. Новы звер быў падобны да вялікага ваўка, але розніўся ад яго сваёю масцю, была яна задужа чорная. То быў наш Жук, які прыбег, каб ратаваць Барадатага. Мішка налаўчыўся быў укусіць Жука за хвост. Жук адскочыў як апантаны, але з яшчэ большай злосцю накінуўся на Мішку, і яны, кусаючы адзін аднаго, пакаціліся па паляне, уздымаючы цэлыя горы пылу і пажоўклага лісця. І такі вэрхал паднялі, такую тузаніну, што іх адразу ж прыкмецілі. Дзясятак чырвонаармейцаў абкружылі іх, адцягнулі ад Мішкі раз’юшанага Жука. Мішка сядзеў на задніх лапах, жалобна скуголіў ды пярэднімі лапамі прыкрываў галаву, нібы абараняючыся ад шматлікіх ворагаў.

«Эх, не есці цяпер болей маліны!..» — думалася Мішку, коса пазіраўшаму з-пад лапы на абкружыўшых яго людзей. Але загінуць яму не давялося. Чырвонаармейцы надзелі яму нашыйнік і павялі ўрачыста да дарогі, дзе стаяў на прывале полк. Чырвонаармейцы былі з трэцяга батальёна. Яны былі надзвычай рады, што нарэшце і ў іх завялася такая цікавая звярушка, ды не абы-якая, а самы сапраўдны жывы мядзведзь. Праўда, іхні мядзведзь быў яшчэ не задужа вялікі, але затое ён быў усё ж больш цікавым, чым якія-небудзь там Жукі і Барадатыя з першага і другога батальёнаў. І сапраўды, увесь нават полк зацікавіўся

Мішкам, і столькі народу збеглася, каб паглядзець на яго, што Мішка толькі вачыма лыпаў ды думаў: «Ну і людзей! І ў кожнага, відаць, матка ёсць…»

Успомніў пра матку і жалобна заскуголіў.

— А ты не плач! — весялілі яго чырвонаармейцы, угаворвалі ды пагладжвалі па цёплай шэрай поўсці. Аж сэрца заходзілася ад страху ў Мішкі, калацілася як падбітая птаха. Спачатку думаў надаць сабе суровага выгляду, ашчацініў хіб, выскаліў зубы, але ўбачыў, што ніхто яго не хапае зубамі, не б’е лапай — і супакоіўся, стаў ласкава пазіраць на ўсіх.

— А ты даўно б так, дурань ты гэтакі! — сказаў адзін з чырвонаармейцаў. — Няма, браце, чаго табе злавацца…

І хутка кавалачак цукру прынёс, палажыў перад Мішкам. Усе згрудзіліся, дзівіліся: што ж будзе Мішка з цукрам рабіць? Мішка зірнуў на цукар, лапай варухнуў: нічога, не кусаецца. Тады асцярожна панюхаў — не, нічым асабліва страшным не пахне. Тады зусім асмеліўся і языком лізнуў. Спадабалася. Узяў лапай цукар і на язык паклаў. Да чаго ж добра! Аж вочы прыжмурыў. Доўга смактаў кавалачак, ласаваўся, прагна пазіраючы кругом, а ці не дадуць яму яшчэ кавалачак. І калі далі другі, да таго асмеліўся, што нават руку чырвонаармейцу лізнуў, ад вялікага пачуцця свайго, ад мядзведжай падзякі.

— Ну, цяпер мы з табою зусім прыяцелі! — жартавалі чырвонаармейцы і песцавалі Мішку, гладзілі яго, за вухам часалі. Мішка кінуў агрызацца, зубы скаліць, ды толькі соладка жмурыў вочы ад вялікай сваёй уцехі. Далі Мішку яшчэ хлеба, кансерваў рыбных. Капцёр падаіў карову ў абозе, малака прынёс кацялок. Наеўся Мішка, напіўся і ад вялікага задавальнення пачаў у пясочку куляцца, на задніх лапах хадзіць ды ўсякія фокусы вырабляць: цераз галаву куляцца, на пярэднія лапы станавіцца як гімнаст які спрытны.

— Ану, Мішка, яшчэ! Паддай форсу, паддай! — падбадзёрвалі чырвонаармейцы новага веселуна, хапаліся за бакі ад смеху, трэці батальён віталі з удачай.

— Гэткага артыста набылі!

Адным словам, увесь полк палюбіў Мішку за яго вясёлы нораў, за вялікі спрыт і ўсякае ўмельства ў немудрашчых справах мядзведжых. Толькі Жук пазіраў падазрона на Мішку, выказваў яўныя намеры ўхапіць яго знянацку за вуха ды злосна вурчаў, калі Мішка падыходзіў да яго бліжэй. Але чырвонаармейцы намагаліся іх памірыць, зрабіць сталымі дружбакамі. Ды Бара-

даты баяўся падыходзіць блізка да Мішкі, усё паглядаў здалёк ды жалобна галасіў:

— Бе-э-э-э…

Відаць, асцерагаўся за сваю бараду, якую паважаў праз меру, ганарыўся ёю. Пасмейваліся чырвонаармейцы з яго:

— Чаго галосіш, Барадаты? І рогі ёсць, і капыцікі ёсць, а глядзі ты, баіцца… Бліжэй падыходзь, заходзь у кампанію, махоркі дамо…

Але Барадаты не рашаўся, нягледзячы на вялікія махорачныя спакусы. Як-ніяк апасаўся за бараду. Возьме гэты Мішка ды раптам вырве, як жа тады жыць Барадатаму без свае красы? Каб казёл ды без барады! Ніколі не бачана гэта на свеце. А можа, і ад крыўды галасіў Барадаты. Гэта ж трэба, ніхто не звяртае на яго ўвагі. Заняліся гэтым паганцам. І шмат было патрэбна часу, каб пamірыць Мішку з Барадатым і Жукам, зрабіць іх шчырымі прыяцелямі, дружбакамі.

Так трапіў Мішка на вайсковую службу.

Калі скончыўся прывал, полк рушыў далей. Мішку зрабілі моцны нашыйнік і прывязалі да воза вяроўкаю. Мішка спачатку ўпіраўся, не хацеў ісці, валокся ўслед за возам. Ну якая ж ахвота на прывязі хадзіць, калі да гэтага часу Мішка хадзіў усюды па сваёй ахвоце, па свайму надуму. Тады пасадзілі Мішку на воз. Гэта здавалася Мішку за лепшае: ніякіх табе клопатаў і трудоў, сядзі ды кругом паглядвай на людзей, на коней, на высокія дрэвы паабапал дарогі. Ды ці мала чаго цікавага можна ўбачыць з воза, чаго раней ніколі не бачыў ён, жывучы ў глухой бярлозе. Ды з воза зусім вальготна назіраць і за Жукам, і за палахлівым Барадатым, махорачнікам гэтым, уся барада ў яго махоркай смярдзіць.

«Любата, а не жыццё!» — хацелася сказаць Мішку. І агледзеўшыся на возе, абнюхаўшы розныя рэчы на ім, Мішка выбраў зручнейшае месца, падмяў пад сябе салому, ямчэй прымасціўся на ёй.

«Ну, што ж: ехаць дык ехаць!»

Падумаў так і задрамаў.

Так выступіў Мішка ў неспадзяваны для сябе паход. Спаў, драмаў. Сніў сны свае лесавыя, мядзведжыя. Усё верзлася ў сне: несусветная ягада-маліна, вялікая-вялікая, у самы раз у дзве лапы ўзяць, на ўвесь рот упіцца сокам малінавым. Ды дзе ты яе возьмеш: ніяк лапай да яе не дастаць. Вось-вось, здаецца, ухопіш яе, нос пах адчувае, па самым носе стукаецца гэта ягада, ды падскоквае потым угору, высока-высока, пад срэбраны месяц, пад сінія зоры. Аж падскочыў Мішка за ёю, за малінай,

за ягадай. Падскочыў і прачнуўся. Была ноч. Ціха рыпалі колы ў возе, ды самы воз мякка калыхаўся па дарозе. Сама дарога нібы плыла ў туманах, у месячным святле. Наперадзе коні храплі, палахліва стрыглі вушамі, чуючы Мішкаў дух. Поплеч з возам ішоў маўклівы Жук, за ім Вясёлая Барада. А над дарогай, над лесам, над маўклівымі групамі людзей, над вазамі распасцерлася глыбокае неба, гэтае возера лесавое. У ім хадзіў срэбраногі месяц ды пераліваліся такія яркія і пухнатыя зоры. Было халаднавата. Агледзеўся Мішка, уздыхнуў, нос у цёплыя лапы схаваў і зноў задрамаў.

## ДЗІЎНЫ ХВОРЫ, ЦУКАР І КАЗЛОЎ ТЫТУНЬ

Дзень за днём прызвычаіўся Мішка да вайсковай справы. Праўда, справа гэтая не была дужа цяжкай, бо прывучалі яго паволі, дый спецыяльная для яго навука не была такой ужо хітрай. Трэба было дысцыплінаваць Мішку, прывучыць да парадку, каб ведаў сваё месца і нескладаныя абавязкі палкавога веселуна. З гэтымі абавязкамі ён спраўляўся досыць шчыра, заўзята, і таму любілі яго і паважалі з кожным днём усё больш і больш.

Былі за Мішкам і такія-сякія промахі праз яго выключную прагнасць да ласункаў. Едучы на капцёрскім возе, дзе былі складзены розныя батальённыя харчы, Мішка пранюхаў пра мяшок з цукрам. Употайкі, каб ніхто не бачыў, прадраў Мішка мяшок і на поўны рот пачаў паціхеньку ласавацца цукрам. Ваўсю стараўся і ўдзень і ўначы, сядзіць ды цукар цягае, хрумстае сабе, скасавурыўшы вочы на Барадатага, які не адставаў ад воза ні на крок, бо і яму перападалі часам з гэтага воза тыя ці другія пачастункі: скарынка хлеба, кашы лыжка ці што іншае там па яго густу. Хрумстае Мішка цукар аж сапе і ні пра якія харчы не дбае. Нічога другога ў рот не бярэ, акрамя хіба малака ды вадзіцы чыстай. Занепакоіліся чырвонаармейцы, бедаваць пачалі, пабеглі па доктара ветэрынарнага.

— Бяда, таварыш доктар, гора вялікае навалілася!

— Што здарылася?

— Мішка захварэў: ні сухой макавінкі ў рот не бярэ, поўная адсутнасць апетыту, харчам — нуль увагі…

Прыйшлі да Мішкі. Ён важна разлёгся на возе, падставіўшы хрыбет пад сонца, і ленавата паміргваў вокам, пазіраючы на людзей.

«Відаць, фокусаў чакаюць!» — падумаў Мішка і тут жа павярнуўся зручней, потым перакуліўся цераз галаву, а затым і зусім стаў на пярэднія лапы, падняўшы высока ўгору заднія ногі і балансуючы імі ў паветры.

— Мішка, не трэба! Не турбуйся, Мішутка, ты ж такі хворы, такі слабенькі… — кінуліся чырвонаармейцы ўгаворваць свайго артыста, каб кінуў ён свае практыкаванні. — Ты ж адпачываць павінен, вось і доктар да цябе прыйшоў!

Насілу адгаварылі Мішку ад фокусаў.

— Дзіўна, дзіўна, — гаварыў доктар, аглядаючы хворага. — Хварэе і такія выкрунтасы вырабляе! Дык не есць, кажаце?

— Ані ў зуб… Акрамя чыстай вады нічога ў рот не бярэ! Бачыце, схуднеў як, перапаў зусім…

— Гм… схуднеў… добра схуднеў, калі хрыбет на сонцы блішчыць, як маслам памазаны… Але ж паглядзім…

Доктар важна адзеў акуляры, трубку выняў.

— Ну, што ж, дазвольце агледзець! — ветліва звярнуўся ён да хворага, выслухваць пачаў.

Усе ўважліва назіралі за аглядам, нецярпліва чакалі вынікаў. Мішка ахвотна падстаўляў свае шэрыя бакі, задзіраў угору лапы і ўсё намагаўся пацалаваць доктара ад сваіх вялікіх пачуццяў. Яму здавалася, што яго пястуюць, што з ім весела жартуюць. А таму з вялікай ахвотай ён пераварочваўся з боку на бок, падстаўляў жывот, нахіляў галаву. Дужа любіў ён, калі хто за вухам пачэша. Урэшце прыладзіўся, добра нацэліўся і патрапіў-такі лізнуць языком у самы доктарскі нос.

— Дзіўна, дзіўна! — праказаў зноў доктар, выціраючы хустачкай нос. — Сэрца нармальнае, працуе як матор, і ніякіх шумаў і перабояў… Дык не есць, кажаце?

— Ні сухой скарыначкі… І вось трэці дзень галадуе…

— Гм… Рэдкі выпадак… Цікавы выпадак… Зноў жа тэмпература нармальная і выгляд бадзёры… Можна сказаць, што хворы ў поўнай спраўнасці…

— Якое там, доктар, у спраўнасці… Вы заўсёды вось так, мікстуры якой, відаць, шкадуеце… — пачалі не на жарты крыўдаваць чырвонаармейцы, нездаволеныя медыцынскім аглядам хворага.

— Ну, што вы, што вы! Не ў мікстуры тут справа… — заспрачаўся доктар. — Відаць, ваш хворы пакутуе з нейкіх асаблівых прычын… Магчыма, перамена прафесіі, некаторыя змены ў жыцці… А магчыма, і такая вось дальняя дарога на яго падзей-

нічала... Могуць быць усялякія прычыны, навукай дасканала яшчэ не ўстаноўленыя...

І доктар распачаў такія доўгія развагі пра розныя загадкавыя выпадкі ў медыцынскай практыцы, што твары ва ўсіх чырвонаармейцаў адразу выцягнуліся, зрабіліся сумнымі, і кожны з іх адразу падумаў: «Ну, Мішку няйначай капут, калі хвароба зайшла так глыбока».

І адразу ўсе накінуліся на доктара:

— Доктар, даражэнькі, выратуйце Мішку! Хіба мы без яго жыць можам?..

— Ну, што з вамі зробіш... — задумаўся доктар, падбіраючы найлепшыя спосабы лячэння Мішкавага занядужання. — Няма на свеце такой хваробы, супроць якой не знайшлося б належных лекаў... Ва ўсякім выпадку можна паспрабаваць... Ну, дайце яму хаця б рыцыны... Можна таксама клізму... Толькі не пазніцеся... І галоўнае — спакой, абсалютны спакой для хворага...

І толькі гэта Мішка пра спакой пачуў, як на яго нібы сверб напаў. Пачаў такія фокусы вырабляць, што з воза пыл сыпаўся. Жук, які бег побач з возам, пачаў так брахаць, што доктар аж вушы заткнуў. І чаго, чаго не вырабляў толькі Мішка: і на галаву станавіўся, і на задніх лапах скакаў. Куляўся па возе ўдоўж і ўпоперак, наганяючы жах на коней, якія ледзь-ледзь толькі звыкліся з Мішкам.

— Гм... Дзіўна... Дзіўна... — усё здзіўляўся доктар. — Дык, галоўнае, спакой і абсалютная цішыня для хворага... — гаварыў ён, пазіраючы непрыязным вокам на брахаўшага Жука.

Але Мішку, на яго шчасце, а можа і на бяду, так і не давялося пазнаёміцца ні з клізмаю, ні з рыцынаю. Толькі гэта ён збіраўся кінуць свае гапакі на возе, як падышоў капцёр, што быў у адлучцы дні са два. Падышоў той да воза, зірнуў збоку і за галаву хапіўся.

— Што ж ён нарабіў, гэты басяк лесавы? А дзе ж я цяпер вазьму, а адкуль жа я вазьму?.. Вон з воза, бандыт, вон, сімулянт, вон, драпежнік!

— Ціху, ціху ты, хвораму патрэбен спакой, трэці дзень галадуе...

— Хворы! Га-а-аладуе! Паўмяшка цукру змалоў... Гэта ж жартачкі, цэлы мех быў, а цяпер толькі на дне засталося... Злазь з воза, лодар і сімулянт!

А Мішка хоць бы хны! Як знарок, узяў яшчэ кавалачак цукру, за шчаку палажыў ды пачаў раскусваць ды пашчоўкваць, як тымі арэхамі.

І што было рогату тут ды жартаў! Смяяліся з Мішкавай хваробы, з яго галадоўкі. Спачувалі капцёру і тут жа празвалі яго разявам. Трохі нязручна было доктару. Той пастаяў, пастаяў, падумаў хвіліну і толькі змог вымавіць:

— Дзіўна… Дзіўна… мм… хвароба, так сказаць, набывае псіхалагічны характар… Сі-і-му-у-у-ляцыя… А гэта не ў маёй спецыяльнасці, паколькі сярод маіх пацыентаў гэтае занядужанне не пашырана…

— А як жа ўсё ж такі з лячэннем? — запытвалі праз смех чырвонаармейцы.

— Адмяніць прапісанае… Даць поўную свабоду жывёліне ды не ставіць паблізу мяшкоў з цукрам…

Увесь полк смяяўся з Мішкавай «сімуляцыі», з капцёра, з лекаў. Нават Жук кінуўся выкідваць свае нумары, бачачы ўсеагульны смех і весялосць. І толькі Барадаты па сваёй несвядомасці ніяк не мог зразумець падзей, усё падыходзіў асцярожна да воза і пачынаў сваю жаласлівую песню:

— Бе-э-э-э…

На яго кідаўся злосны капцёр, замахваўся пустым мяшком.

— Вон, пудзіла барадатае, і ты яшчэ лезеш, назола!

Яго сунімалі, супакойвалі:

— Што ты Бараду крыўдзіш, што ты да яе маеш?

Адным словам, у гэты дзень капцёр парваў усякія дыпламатычныя зносіны з Мішкам, Жукам ды Барадатым і зрабіўся іхнім перакананым ворагам. І хоць было тут багата смеху ды жартаў, аднак скончылася ўсё гэта для Мішкі даволі сумна і з вялікім канфузам. Колькі ні ўпіраўся ён, не выказваючы асаблівых намераў пакінуць абжытае месца на возе, усё ж давялося перасяліцца яму на новую кватэру, на другі воз. Троху ўзлаваў Мішка за ўсялякія непрыемнасці пры перасяленні, а адны непрыемнасці пацягнулі другія. Калі крыху ўсё ўціхамірылася, супакоілася, Мішка ўчыніў дэталёвы агляд сваёй новай кватэры, абнюхаў кожны мяшок, прамацаў кожную скрынку. Нічога выдатнага, тым больш цікавага для сябе, ён там не знайшоў. Вялікая, скажам, карысць для яго ў пачках махоркі, якую намацаў ён у адной са скрынак? Адно гаркацінне, дый годзе. І каб трохі спагнаць сваю злосць за няўдачу, Мішка надумаўся разгрузіць воз, каб ямчэй прымасціцца нанач. Гэтую разгрузку ён наважыўся распачаць з тытуню. Нядоўга думаючы, узяў пачак махоркі і — бац на дарогу. І вось тут здарыліся непрадбачаныя падзеі, якія аказалі значны ўплыў на шчырае сяброўства нашых артыстаў: Мішкі, Барадатага і Жука. Кінуў гэта Мішка пачак махоркі на

дарогу. І дзівіцца: адкуль узяўся Барадаты і — цап за махорку. Ідзе за возам, пачак жуе, толькі барада сівая трасецца. І чым больш Мішка глядзеў, тым больш здзіўляўся: у Барадатага ад пачкі толькі бандэроля засталася, і тую старанна аблізваў ласун.

«Ну, і смак! Відаць, па несвядомасці…» — падумаў Мішка пра Барадатага.

А той, адкуль і храбрасці набраўся, падышоў да самага воза ды проста Мішку ў твар:

— Бе-э-э…

«Вось дзівак! Можа ўявіць сабе, што мне гэтага дабра так ужо і шкода», — падумаў Мішка ды новую пачку бац на дарогу Барадатаму… І так кідаў да таго часу, пакуль не заўважыў, што з казлом робіцца нешта няладнае. Пачаў той барадой дарогу пыліць ды ў бакі, як п’яны, хістацца. Ходзіць як муха тручаная. І голас зусім аслаб, дрыжыць голас, захлібаецца: бе-э, бе-бе… бе…

Тут і Жук умяшаўся ў справу. Убачыў, што з таварышам нешта нялюдскае робіцца. Падскочыў да яго, у пысу нюхнуў, бараду лізнуў. Лізнуў і адскочыў, — чыхаць пачаў. Да таго ж тая барада тытунём смярдзела, не раўнуючы, як піпка палкавога заўхоза. А Барадаты тым часам зусім абязножыў, з голасу сышоў, усё намагаўся на зямлю пакласціся ды вочы на лоб выпінаў. Кінуўся Жук на дапамогу: і так і сяк казла варушыў, бокам падпіраў, за рогі падымаў — нічога не дапамагае. Хіліцца Барадаты на дарогу і — ніякага ратунку. Бачыць Жук, што бяда, і давай каравул крычаць, трывогу ўзнімаць. Такі брэх падняў, што ўсе людзі збегліся. Ведалі, што Жук па-дарэмнаму не брэша. А Мішка, седзячы на возе, прыглядаўся ўсё да падзей і здагадваўся, што адбываецца нешта нядобрае. А калі людзі прыбеглі, кінуў свае доследы над скрынкамі, зашыўся ў мяшкі, ляжыць сабе і не лыс.

Тым часам узяліся за Барадатага. Вадой акацілі, сывараткай напаілі, сяк-так адхаялі Бараду да раніцы, на ногі паставілі.

— Гэта ж жартачкі, так тытуню аб’есціся… Ледзь зусім не атруціўся… І хто б участаваў так?

Шукалі вінаваўцу, а Мішка пазіраў з воза і ў вус не дзьмуў. Але ці сумленне загаварыла, ці надакучылі Мішку ўсе гэтыя нецікавыя мяшкі, дзе не было ні драбочка цукру, кінуў ён свае аперацыі па выгрузцы.

Барадаты ж, нягледзячы на перажытыя хваляванні, пачаў адчуваць да Мішкі вялікую павагу і прыязнь: ніхто і ніколі так багата не частаваў яго махоркай. Недастача махоркі была, канешне, выяўлена, але ніхто не мог западозрыць у гэтым Мішку —

навошта яму такое гаркацінне? Ну, а Барадаты не меў прычыны выкрыць сакрэт, мо па несвядомасці, мо па таварystве. Падзея з тытунём была забыта, ды і сам Мішка пачаў рабіцца больш акуратным і дысцыплінаваным.

К таму ж, каб не было ў Мішкі залішніх спакусаў, перавялі яго на трэці воз, у ружэйна-кулямётны парк. Пры самым уважлівым аглядзе воза Мішка не знайшоў нічога, што магло б быць падобным на ласункі. Паспрабаваў быў на зуб патроны — ніякага смаку не адчуў, ды і зубам клапотна, паламаць яшчэ можна. Сунуў лапу ў ружэйнае масла — лізнуў і доўга чыхаў і моршчыўся, старанна выціраючы язык аб мяшкі, аб салому. На гэтым і закончыў ён свае доследы і прымірыўся з пайком, які акуратна выдаваўся яму штодня.

Галадаваць жа Мішку не даводзілася, хапала пайка. Ды акрамя пайка даставалася. Чым толькі ні частавалі палкавога ўлюбёнца: і хлебам, і кавалачкам цукру, і добрай косткай барановай, і квартай свежага малака. Усе любілі яго, усе клапаціліся аб ім — і камандзіры, і чырвонаармейцы.

Аставалася нявырашанай пакуль што справа з яго абмундзіраваннем, з Мішкавай амуніцыяй. Але аб гэтым далей.

## СПРАВЫ З ГЕНЕРАЛЬСКІМ МУНДЗІРАМ

На адным з прывалаў, калі адпачывалі і весяліліся чырвонаармейцы, Мішка выкідваў свае чарговыя нумары. Як артыст, ён набываў з кожным днём усё большую кваліфікацыю, і яго «спектаклі» рабіліся ўсё больш разнастайнымі і цікавымі. І калі ў першыя дні Мішка мог выконваць толькі самыя звычайныя фокусы — станавіцца на галаву, хадзіць на пярэдніх лапах, — дык цяпер мог паказаць, як аблізваецца Антанта, гледзячы на савецкую зямлю. Як фанабэрыцца польскі пан і точыць зубы на нас. Як паны мужыкоў бізунамі частуюць. Як рабочы пану галаву звярнуў. Шмат чаго навучыўся паказваць Мішка, і ў яго артыстычнай справе актыўна дапамагалі Барадаты і Жук. Жук звычайна падносіў у зубах Мішку якія-небудзь артыстычныя рэчы: палку, капялюш альбо барабан. Падносіў і, пачціва вільнуўшы хвастом, адыходзіў і скромна пазіраў на «прадстаўленне», падымаючы ў патрэбную хвіліну гучны або ціхі брэх. Гэта былі своеасаблівыя Жукавы апладысменты. Барадаты ж сам павінен быў выконваць з Мішкам некаторыя нумары. Асабліва не падабалася яму адна сцэнка, дзе даводзілася пакутаваць яго

барадзе. І як толькі Барадаты чуў каманду: «Ану, Мішуха, патрасі-тка сусветнага буржуя, сусветную гідру за бараду», — ён кідаўся звычайна куды-небудзь наўцёкі. Але ўцякаў толькі для прыліку. Яго хутка лавілі і прыводзілі сілком да Мішкі. Давалі зноў каманду, і Мішка паважна браўся абедзвюма лапамі за казлову бараду і даволі энергічна трос яе злева направа, торгаў уніз, прыгінаючы Барадатага да самай зямлі, ставячы яго на каленкі. Трос датуль, пакуль «сусветная гідра» не пачынала прасіць паратунку, не зусім мілагучна выводзячы на ўсе галасы сваё нязменнае:

— Бе-э-э-э…

— Асцярожна, Мішка, асцярожна! Трасі ды не растрасай, не лезь глыбока ў ролю! — папярэджвалі Мішку, і ён, падняўшы казла за рогі, пакідаў яго ў спакоі і важна раскланьваўся з публікай. Барадаты, атросшыся ад пылу, хуценька бег да чырвонаармейцаў, каб раней Мішкі перахапіць адпаведную плату за прадстаўленне.

«Вось ненасытны, ніколі не нажарэцца!» — думаў Мішка пра казла і за гэта крыху яго недалюбліваў.

У заключным нумары Мішка выступаў адзін. Хто-небудзь з чырвонаармейцаў урачыста аддаваў каманду:

— Ану, Міша, слаўны артыст яго вялікасці народу ўсяго трэцяга батальёна і ўсяго непераможнага стралковага палка, пакажы ворагам на страх і нам на забаву, як канае пад чырвоным штыком сусветная гідра контррэвалюцыі.

Мішка станавіўся на заднія лапы, хапаўся з жахам за бакі, валіўся на зямлю, пераварочваўся на хрыбет і дрыгаў куртатымі нагамі ў паветры, старанна высунуўшы язык. Мішка з такой дасціпнасцю выконваў гэты нумар, што ўсе хапаліся за жываты ад смеху. І да чаго быў скромны і ціхі Жук — і той паддаваўся агульнай весялосці і кідаўся бегаць з усіх ног, казла дражніў, брахаў на ўсіх. І нават Барадаты кідаў сваю заўсягдашнюю жвачку — заўсёды ў зубах сцяблінка якая, саломінка — і глядзеў не мігаючы вокам на Мішку, адабральна трос барадой ды ціхенька праз зубы выцэджваў:

— Бе-э-э-э…

І вось, калі скончыў Мішка чарговае прадстаўленне, выступіў адзін з маладых камандзіраў:

— Братцы, артыста мы любім, але ж не клапоцімся аб ім як трэба. Дзе гэта відана, каб артыст босы хадзіў? Дзе гэта відана, каб артыст, даруйце мне, без штаноў гуляў? Як-ніяк блізка восень… Як-ніяк Мішка можа прастудзіцца.

— Амуніцыю Мішку! Штаны Мішку! — у адзін голас крыкнулі чырвонаармейцы і без усякага лішняга галасавання пастанавілі абмундзіраваць Мішку, надаць яму выгляду баявога. Мішка, канешне, нічога не меў супраць гэтай пастановы, бо асабліва не разбіраўся ў такой тонкай справе, як амуніцыя.

Доўга думалі і гадалі, у якую форму апрануць артыста: у пяхотную, кавалерыйскую або лётніцкую. Але які ж з Мішкі лётчык? Ды яшчэ паспрабуй апрануць яго лётчыкам, ён тады і самалёт захоча, а дзе ты лішніх самалётаў набярэшся на фронце? Кавалерыстам хіба апрануць? Дык тады ж каня патрэбна. А які ж з Мішкі яздок? Спыніліся на пяхотнай форме, бо да пяхотнай справы Мішка быў дужа ж здатны, пешака ўвесь свой век малады прайшоў. А каб адзначыць усе Мішкавы заслугі перад палком, парашылі Мішку абмундзіраваць: боты даць, шаблю даць, мундзір уланскі, штаны з лампасамі залатымі.

Заваляўся-такі мундзірчык у палкавых запасах, з трафеяў, узятых у бойцы пад Баранавічамі. І хоць мундзір уланскі быў кавалерыйскай формы, але доўга не спрачаліся хлопцы — варожая кавалерыйская форма можа і пешака хадзіць.

І прыступілі да справы.

Але тут аказаліся сякія-такія цяжкасці. Калі Мішка даволі абыякава прымаў пастанову аб яго амуніцыі, дык калі справа падышла да яе практычнага вырашэння, Мішка стаў на дыбкі. І тут усе ўбачылі, што Мішка, які меў вялікі спрыт да ежы, нічога не разумеў у адзежы і выступіў супраць яе досыць сурова.

Спачатку ўсё ішло ціха і мірна. Мішка дужа ўпіраўся, соп, крактаў, касавурыў вокам, нават намагаўся на спіну легчы, калі некалькі чырвонаармейцаў прыводзілі яго да баявога выгляду, нацягвалі мундзір і штаны. Нават спрабаваў кусацца, калі пачалі чобаты нацягваць, але, атрымаўшы злёгку па загрыўку, артыст супакоіўся і даўся, каб прывязаць шаблю і прымацаваць шапку. Выгляд у Мішкі быў сапраўды важнецкі — мундзір блішчаў, лампасы блішчалі, а раззлаваны Мішка грозна і сурова пазіраў навокал.

Прыняўшы гэта за надругу над сваёй асобай, Мішка кінуў такі ўзлаваны позірк, што Барадаты, які стаяў побач, сігануў маланкай у кусты, ды і Жук палічыў за лепшае адысціся ад яго падалей. І тут пачалося прадстаўленне, якога яшчэ ніколі не бачылі чырвонаармейцы. Мішка панюхаў лампасы, учапіўся ў іх зубамі і ў адзін міг сарваў іх, як тое лыка з дрэва. Адны чырвонаармейцы ахнулі ад такой неспадзяванай надругі над галіфэ, а другія кінуліся ў рогат, падбадзёрвалі Мішку:

— Так, Мішутка, так! Руйнуй панскую форму!..

Але Мішка нічога не слухаў і, доўга не думаючы, стаў на галаву ды пачаў так старанна дрыгаць заднімі нагамі, што чобаты адзін за адным са свістам пранесліся ў паветры і адзін трапіў на елку, другі — у балота. Дайшла чарга і да штаноў. І праз які міг адна калашына ляцела ў адзін бок, другая — у другі.

Тут ужо некаторыя аж узлаваліся — асабліва ж капцёр, які дужа шкадаваў штаны, бо яны яму вельмі і вельмі падабаліся. Той аж крык падняў:

— Што ты робіш, гад? Гэткую адзежыну сапсуў!

А Мішка тым часам падняўся, стаў на заднія ногі, анучы атрос, скінуў шаблю, бразнуўшы ёю аб хвойку, і з пакрыўджаным выглядам пайшоў панура ў бок ад народу. На ім застаўся адзін толькі мундзір, мундзір без штаноў. Супраць мундзіра Мішка чамусьці нічога не меў, магчыма, таму, што мундзір гэты не замінаў яму асабліва ў хадзьбе. І колькі ні намагаліся потым хлопцы ўладзіць справу з Мішкавымі штанамі, нічога не выходзіла. Чаго, чаго не рабіў ён з імі, з гэтай адзежынай. Тапіў у балоце, хаваў пад корч, і калі намагаліся хлопцы ў чацвёрты раз апрануць артыста, ён зноў урачыста іх скінуў, разадраўшы на дзве палавіны. Але на гэты раз ён не стаў ні хаваць іх, ні тапіць у балоце. З самым суровым выглядам палез Мішка, трымаючы адзежыну ў зубах, на самую высокую хвойку і, прымасціўшыся на самым высокім суку, канчаткова і беспаваротна расправіўся з ненавіснай адзежынай. Парваў штаны на дробныя мэтлухі і, урачыста скінуўшы іх з дрэва, злез і маўкліва прыступіў да выканання сваіх чарговых артыстычных абавязкаў.

— Гм… З характарам Мішка! — пачціва адазваліся аб ім чырвонаармейцы і больш не прыставалі з амуніцыяй.

Так і хадзіў Мішка ў мундзіры без штаноў, без ботаў, без шапкі. Праўда, і мундзір хутка стаў падобны на адну толькі відзімасць, бо ад частага лазання па дрэвах ад мундзіра засталіся адны толькі лапікі. Але Мішка не прыдаваў гэтаму асаблівага значэння, маючы ад прыроды нахіл да прастаты і скромнасці. Так закончыліся ўсе спробы абмундзіраваць Мішку.

## НЕЗВЫЧАЙНЫ КУЛЯМЁТЧЫК

Полк ішоў усё далей і далей. Некаторымі днямі праходзілі больш чым па паўсотні вёрст. Белапалякі адступалі. Часам завязваліся ўпартыя баі, і тады Мішкаў абоз адпачываў. Там пакідалі

Мішку з яго артыстамі. Мішка хадзіў з сваімі таварышамі без справы, сумаваў — не было каго весяліць. Якая там, скажам, весялосць з капцёрамі ды з абознікамі. І хадзіў Мішка сам не свой, агрызаўся на Барадатага, намагаўся без дай прычыны Жука пакрыўдзіць і ўсё стараўся наступіць яму лапай на хвост, каб хоць чым-небудзь выказаць сваё нездавальненне. Чырвонаармейцы бачылі такі паганы настрой Мішкі і прымалі меры, каб развесяліць артыста.

— Чаго яму ў абозе аціраццa? З яго баец хоць куды, няйначай прыйдзецца стральбе навучыць…

І пачалі вучыць.

Праўда, справа не клеілася на лад. І калі Мішка яшчэ з поспехам і нават з захапленнем выконваў некаторыя нумары з вінтоўкай: браў на каравул, да нагі, на рамень, на ізгатоўку, — дык калі справа дайшла да стральбы, тут Мішка выказаў самы рашучы пратэст. Не толькі што самому страляць — аб гэтым не магло быць і гаворкі, — але нават і гуку стрэлу Мішка не мог пераносіць. І калі пальнулі пры ім з вінтоўкі, Мішка як дуж кінуўся з усіх ног наўцёкі і зашыўся ў стог саломы, што стаяў каля дарогі. Адны толькі заднія ногі тырчалі з саломы, ды дрыжаў з перапуду Мішкаў куртаты хвосцік. Насілу выцягнулі Мішку са стога за ногі.

— Ай да храбрэц! Саромся, Мішка, чырваней перад Барадатым!

І сапраўды, казёл, даўно звыкнуўшыся са стральбой, не звяртаў на яе аніякае ўвагі і абыякава жаваў жменьку мурожнага сена, скрадзенага з чужога воза. А Жук, той нават вочы ленаваўся расплюшчыць, калі чуў стрэл, і толькі варушыў вушамі, адганяючы імі назойлівых мух. На Мішку ж стрэл падзейнічаў задужа, ён ніяк ачухацца не мог, палахліва пазіраў на вінтоўку, і калі казаць па сакрэце, дык нават жыватом захварэў, і доўга адпойваў яго доктар чарнічным узварам. Так пачалася стралковая вучоба для Мішкі.

Але трэба сказаць, што ў хуткім часе Мішка змяніўся і зрабіўся такім адважным байцом, што Барадаты і Жук пачалі з яго проста дзівіцца. Ці свядомасць была тут прычынай, ці Мішка не хацеў плесціся ў хвасце Барадатага, але праз якія тры-чатыры дні вучобы Мішка спакойна пераносіў не толькі вінтовачныя стрэлы, але мог, не хмурачы вока, стаяць ці ляжаць каля кулямёта і спакойна выслухоўваць самую гарачую стральбу. І нават патроны падносіць навучыўся. Кулямётчыкі страляюць, а Мішка бегае да павозкі і каробкі з кулямётнымі істужкамі падносіць, набярэ

цэлую груду пад пахі і нясе, з нагі на нагу перавальваючыся, крэкчучы, сапучы.

У хуткім часе і падаўся Мішка на фронт у кулямётную каманду і прымаў актыўны ўдзел ва ўсіх бойках на перадавой лініі. І часта дзівіліся белапалякі, назіраючы за незвычайным байцом-кулямётчыкам. Ведалі яны, што стаіць за горкай чырвоны кулямёт, але збіць яго ніяк не маглі. Часам здаралася, што маўчыць кулямёт, ні адным стрэлам не абзавецца. І толькі гэта надумаюцца палякі ў атаку рушыць, каб горку забраць, як бачаць — па лагчыне, побач з горкай, хуценька-хутка перабягае дзіўны баец — няўклюдны, здаецца, кашлаты, нязграбны. Ад горкі бяжыць на чатырох, а назад на дзвюх нагах, прыгнуўшыся як мага да зямлі, і пад пахамі цэлыя склады патронаў. І толькі прамільгне ён у лагчыне, тады ў атаку не хадзі, — захлібаецца чырвоны кулямёт, ваўсю строчыць сваёй ніткай свінцовай, смяртэльнай. Паспрабуй сунься на гэтую нітку. То Мішка хуценька бегаў па патронныя істужкі на патронную двуколку, якая стаяла за лагчынай, схаваная ў кустах. І як толькі прыносіў новы запас, кулямёт пачынаў страляць так, што белапалякам і ў галаву не магло ўзбрысці сунуцца ў атаку. І доўга намагаліся яны ўлучыць зручную хвіліну, каб падстрэліць Мішку ў лагчыне. Але дзе там. Нязграбны з выгляду баец так спрытна бегаў, так зліваўся сваім колерам з шэрым колерам зямлі, што не толькі падстрэліць, але і прасачыць за ім было надзвычай цяжка.

Так зрабіўся Мішка сапраўдным франтавым байцом. А хутка пачаў у героі выходзіць, аб Мішку загаварыла ўся дывізія. Падзеі адбываліся позняю ноччу, пры выступленні, пры пераходзе праз шырокую і глыбокую раку. Мішка з кулямётчыкамі перапраўляўся на паплаўках на другі бераг. З імі быў кулямёт, былі патроны. Мішка сядзеў на плыце, прыслухоўваўся да начной цішыні, прыслухоўваўся да ўсплёску вёслаў, да ледзь чутных галасоў на рацэ — побач плылі яшчэ паплаўкі. На іх былі чырвонаармейцы. Цішыня прарывалася рэдкімі вінтовачнымі стрэламі. То стралялі з другога берага белапалякі, стралялі ўсляпую, не бачачы і не ведаючы, што падбіраецца пад іх немінучая бяда. Слухаў гэтыя стрэлы Мішка, успамінаў матку, родную бярлогу, заліты сонцам маліннік, Барадатага, які застаўся ў абозе. Успамінаў і засумаваў трошкі. Але адчуўшы Жукаў брэх — той дзесьці паблізу таксама прымаў удзел у пераправе, — павесялеў Мішка, прыбадзёрыўся, пачаў веслярам дапамагаць, заграбаючы, як вяслом, ваду сваёй шырокай і кіпцюрыстай лапай.

Былі ўжо недалёка ад берага. І тут нечакана іх заўважылі палякі. Пачалася шалёная страляніна. Задзвінкалі кулі навокал, уздымаючы цэлыя фантаны пырскаў і ўздзіраючы пеністыя дарожкі на вадзе, калі траплялі ў раку. Вось заўважыў Мішка: шыпяць пад імі два паплаўкі, прабітыя куляй. Шыпяць паплаўкі, выходзіць з іх паветра, і ўсё ніжэй і ніжэй нахіляецца плыт, ужо Мішкавы лапы ў вадзе, халоднай, чорнай, імклівай. Яшчэ хвілінка, і перавернецца плыт, паляціць на пясчанае дно кулямёт, захлібнуцца ў вадзе кулямётчыкі. І, доўга не думаючы, кінуўся Мішка ў ваду, нырнуў з галавой. Выплыў, ухапіўся зубамі за вяроўкі, якімі былі падвязаны перабітыя паплаўкі, і паплыў, цягнучы за сабою ўвесь плыцік.

Цяжка плысці па рацэ, збівае вада з ног, зганяе ўбок. Але намагаецца з усіх сіл Мішка, шырока заграбае чатырма лапамі. Яму дапамагаюць байцы-кулямётчыкі, падбадзёрваюць: «Цягні, Мішутка, цягні… Цягні, не здавай!» Стараецца Мішка і вось чуе ўжо цвёрдае дно пад нагой. На хвілінку спыніўся, каб перадыхнуць, адпачыць. Саскочылі з плыта кулямётчыкі, падхапілі кулямёт на рукі, патроны і па пояс у вадзе кінуліся на бераг, дапамагчы стомленаму Мішку выбрацца на сухое. І праз якую хвіліну, прымасціўшыся за нізкай капой сена, ірвануў кулямёт бліскучаю істужкай агню. Загрымеў ён грознымі перакатамі, пасылаючы ў цемень ночы гаручы свінцовы віхор. Агонь палякаў быў збіты, знішчаны. І пакуль грымеў кулямёт, праз раку спакойна пераправіліся яшчэ колькі соцень чырвонаармейцаў, прыйшло папаўненне, і бераг стаў нашым.

Так паспрыяў Мішка нашай перамозе, выратаваўшы ў час кулямёт і кулямётчыкаў. І з якіх толькі палкоў не прыходзілі чырвонаармейцы падзівіцца на казачнага артыста-кулямётчыка, прывітаць яго са славай і перамогай. Гэтую славу дзяліў з Мішкам і яго заўзяты таварыш Жук, які апынуўся разам з ім на заваяваным беразе. Але абодва яны не задзіралі носа ад славы і паціхеньку рабілі свае справы — артыстычныя і баявыя: гледзячы па абставінах. Калі бой — Мішка патроны насіў. Жук хадзіў у дазоры, у разведку. Калі ціха — абодва паказваюць чырвонаармейцам «сусветную гідру» і ўсякія іншыя свае «спектаклі». А ў часы адпачынку ціха сумавалі па сваім таварышу Барадатаму, які не мог плаваць і ўсё чакаў на другім беразе, калі паставяць праз раку дашчаты мост, каб перабрацца да дружбакоў. Ён стаяў часам над кручай і, пусціўшы па ветры бараду, жалобна галасіў там, выводзячы сваю адзіную песню:

— Бе-э-э-э-э…

Учуўшы гэта, Мішка падміргваў Жуку, і той залiваўся вясёлым і басавітым брэхам: «Гаў… гаў… гаў…» Гэта значыла: «Не сумуй, мілы, хутка стрэнемся!» І сапраўды, праз якія дні два Барадаты пераправіўся праз мост і далучыўся да сяброў. І радасці колькі было ў яго: ён і скакаў, і кідаўся ў рожкі, і спрабаваў на галаву нават стаць, і ніяк у яго гэта не выходзіла. Не ведаў казёл, што і рабіць ад вялікіх пачуццяў, і хапіўшы шматок сена, паднёс яго ў падарунак сябрам. Тыя хаця і адмовіліся пачціва ад такога шчырага падарунка, але не прамінулі лізнуць па чарзе ў самую бараду ў знак вялікай дружбы. Лізнулі і пачалі чыхаць. Як-ніяк, іх любімы таварыш не пакідаў сваіх дрэнных звычак, не пакідаў ласавацца махоркай. Таму і ад барады ішоў заўсёды такі цяжкі дух, што Жук задзіраў нос як мага вышэй, каб гэтага пазбавіцца. Але што ж ты зробіш з гэтым тытуннікам! Усё ж такі таварышы. Таму і даравалі яму звычайны гэты тытунёвы грэх.

## ЯК МІШКУ СКРАЛІ І ШТО З ТАГО ВЫЙШЛА

Мішкава вядомасць рабілася з кожным днём усё большай і большай. І Мішкавы кулямётчыкі назіралі часам падазроныя паводзіны некаторых дэлегацый, якія прыходзілі нібы падзівіцца са славутага артыста. Задужа ўжо залішне частавалі цукрам, прыносілі спецыяльныя порцыі добрага мяса, абпойвалі Мішку малаком. Відаць было, што Мішку хочуць падкупіць, каб тым ці іншым манерам пераманіць яго да сябе з трэцяга батальёна. Мішка даволі абыякава адносіўся да ўсякіх праяўленняў павагі і пачцівасці да свае паважанае асобы, яго асабліва не хвалявалі ўсякія замілаванні яго гераізмам і пахвальбы яго артыстычным здольнасцям. Але ўсё, чым частавалі, спажываў старанна і акуратна, не абдзяляючы і сваіх верных дружбакоў — Барадатага і Жука. І ў гэтых пачастунках была небяспека, на іх мог паслізнуцца Мішка, дапусціць той ці іншы благі ўчынак. Слабы быў характар у Мішкі на ўсякія ласункі.

І вось аднае начы, якраз перад самым наступленнем, не стала Мішкі. Быў Мішка і няма Мішкі! І не маленькі, здаецца, не іголка якая-небудзь, а знайсці ніяк не маглі. Абшукалі ўсе прыдарожныя кусты і лагчынкі, перавярнулі дагары нагамі ўвесь абоз — а можа, Мішка ў возе схаваўся, — але ніякіх слядоў Мішкавае прысутнасці знайсці не маглі. Пыталіся ў Барадатага і Жука, але якія з іх адказчыкі. Хадзілі абодва як тручаныя мухі, таксама па Мішку сумавалі. Барадаты нават кінуў махорку ў чырвонаармей-

цаў выпрошваць, да таго заселі ў яго галаве невясёлыя думкі аб загінуўшым без усякіх вестак таварышу. Прайшоў дзень, за ім яшчэ дзень, цэлы тыдзень прамільгнуў непрыкметна, а Мішкі няма і няма. Ні духу ні слуху аб батальённым артысце. Чырвонаармейцы з першага і другога батальёнаў пачалі падсмейвацца з трэцяга батальёна: «Ага! Не змаглі прыглядзець за сваім улюбёнцам, не ўпадабаў ён вас, упрочкі пайшоў! Цяпер мы к вам ні Жука, ні Вясёлую Бараду не пусцім, кепскія з вас гаспадары!»

Ну, як жа можна было зносіць падобную знявагу!

Няўжо здрадзіў батальёну? Няўжо да другіх уцёк? А мо пацягнула жывёліну ў лес, да родных дрэў і кустоў?

І сяк і так думалі чырвонаармейцы. І не знаходзілі адказу на свае думкі. Але гарачыя былі дні: паходы, штодзённыя бойкі, і хутка ў паходных клопатах пачалі забывацца на Мішку. І зусім нечакана і непрадбачана адбылася цёплая сустрэча са сваімі артыстамі.

Полк размясціўся на начлег у лесе. Расклалі цяпельцы, абагрэліся, павячэралі, спаць ляглі. А пад самую раніцу дазоры натрапілі паблізу ад трэцяга батальёна на цікавую сцэнку. На невялічкай палянцы сядзелі Мішка, Барадаты і Жук і спраўлялі не то ўрачыстую вячэру, не то шыкозны баль. Розныя харчы былі пакладзены пад кустом ляшчыны. Тут былі і сухія тараны, і кансервы, і сцягно кабана, дзясяткі са два селядцоў. Збоку ляжала некалькі пачак махоркі. Мішка, яўны завадатар усёй пачэснай кампаніі, сядзеў на невялічкім пеньчыку і старанна разбіваў аб камень бляшанку кансерваў. Бляшанка пагнулася, сплюшчылася, ніяк не паддавалася, і Мішка раз-пораз з яшчэ большай натугай біў яе аб камень. Урэшце яму ўдалося яе расплюшчыць, і Мішка частаваўся сам, частаваў і прыяцеля Жука. Барадаты, які скароміны асабліва не паважаў, налягаў больш на селядцы і на цукар і, пажаваўшы селядцовага хваста, кідаўся з усіх ног да ручая, каб суняць крыху смагу пасля селядцовай солі. Урэшце прыяцелі наеліся і, крэкчучы, сталі масціцца адпачываць. Барадаты пасля такой сытнай ежы ласаваўся махоркай і жаваў яе, соладка прыжмурыўшы левае вока, а правым назіраючы за сваімі дружбакамі.

Тут іх і накрылі. Чырвонаармейцы не ведалі спачатку, што рабіць: радавацца ці з Мішкам лаяцца. Знойдзеныя харчы гаварылі аб яўным рабаўніцтве, і прычынай ва ўсім гэтым быў няйначай Мішка.

Капцёры палка, убачыўшы Мішкавы харчовыя запасы, кінуліся з перапуду да сваіх вазоў, але там было ўсё ў парадку,

усё на месцы, ніякага крадзяжу не аказалася. Але ж не з неба звалілася ўсё да Мішкі.

І толькі позняй раніцай выявіліся ўсе абставіны справы. З суседняга палка, які начаваў непадалёку ад Мішкавага батальёна, прыбеглі напалоханыя капцёры.

— Братцы, бяда! Ваш Мішка — разбойнік, мех харчоў расцягнуў, рабаўніцтва ўчыніў сярод начы…

— А як да вас трапіў наш Мішка? — учынілі тут строгі допыт капцёрам чырвонаармейцы трэцяга батальёна. І капцёры, каб выручыць пакрадзеныя Мішкам рэчы, вымушаны былі расказаць усю шчырую праўду аб тым, як надумаліся яны скрасці Мішку і як удалося заманіць яго ў свой полк.

— Чым, чым не прываблівалі мы Мішку, каб пераманіць у свой полк. І мясам — не дужа Мішка быў ахвочы рушыць. І малаком — не ідзе…

І толькі калі дасталі яны паўкацялка мёду, спакусіўся Мішка і цёмнай парою пайшоў за імі, ішоў аж да самага палка. А там накінуліся на Мішку, звязалі яго, прывязалі да воза вяроўкамі. Так і вандраваў Мішка ў другім палку зусім другой дывізіі, увесь час прывязаны да воза. А калі і адвязвалі яго, дык пасля колькі дзён дарогі Мішка страціў усякую надзею вярнуцца ў родны батальён. Але за час паходу палкі зноў зблізіліся і, як бачым, нават начавалі ў адным лесе непадалёчку адзін ад аднаго. Тут Мішка і ўчуў уначы галасы сваіх таварышаў, Жука і Барадатага, і, пайшоўшы на гэтыя галасы, патрапіў зноў у родны батальён. Але, успомніўшы пра некаторыя харчовыя склады, якія па несвядомасці лічыў за сваю ўласную маёмасць, Мішка надумаўся перацягнуць гэтыя запасы ў родны батальён і перацёг сёе-тое паціхеньку з чужога палка.

Так абстаялі справы з Мішкавым знікненнем і з учыненым ім потым дзёрзкім рабаўніцтвам.

Чырвонаармейцы саромілі чужых капцёраў:

— Гэта вам навука, як чужых артыстаў красці, толькі жывотнае псуяце, дрэнныя звычкі яму прывіваючы…

Урэшце прымірыліся. Узялі з капцёраў пэўную кантрыбуцыю харчамі на ўтрыманне артыстаў і, не пакідаючы ўшчуваць іх, аддалі ім забраныя Мішкам харчы.

Так вярнуўся Мішка ў свой родны батальён, да сваіх заўзятых дружбакоў-таварышаў.

## НЕ ГАНЯЙСЯ, МІШКА, ЗА ПЕЎНЕМ — У БЯДУ ТРАПІШ

Чырвонаармейцы казалі праўду, калі папракалі капцёраў другога палка ў не зусім добрым абыходжанні з Мішкам, у благім выхаванні яго. Мішкава знікненне мела для яго не зусім добрыя вынікі ў яго характары і звычках. І мы раскажам тут, як наш здольны артыст па вялікай несвядомасці сваёй ледзь не загінуў, трапіўшы ў марадзёры. І што яшчэ горш, спакусіў на благі ўчынак і легкадумнага таварыша свайго — Барадатага. Жук, асабіста не зацікаўлены ў Мішкавых справах, у злачынцы не трапіў і застаўся ў баку ад гэтай справы.

Падзеі ж разгарнуліся такім чынам.

Батальёнам даручана было выбіць белапалякаў з аднаго сяла. Пачалося наступленне. Некалькім ротам удалося хутка заняць акраіны сяла, агароды, прыгуменні. У гэты час і трапіў Мішка ў прыгоды. Трапіўшы на агароды, ён напароўся на пеўня і, прызнаўшы, відаць, яго за цецерука, кінуўся спрытна лавіць, ганяючыся за пеўнем па ўсіх агародах і ломячы платы. У гэтым сур’ёзным занятку Мішку актыўна дапамагаў Барадаты, хоць ён і лепш ад Мішкі разбіраўся ў пеўнях і не меў у іх якога-небудзь вялікага асабістага інтарэсу. Ну, што для казла певень? Хіба ён смак у ім адчувае? Але як бы там ні было, Барадаты шчыра хацеў падсабіць свайму таварышу злавіць наравістую птушку і старанна бегаў і скакаў за пеўнем, імкнучыся забегчы яму наперад, каб адрэзаць усякія шляхі да адступлення. І такі тут вэрхал паднялі Мішка з Барадатым, такі грукат і стукат, што белапалякам здалося, нібы заязджае ў тыл цэлая дывізія кавалерыі, і яны паспяшылі як мага хутчэй адступіць і пакінуць сяло.

Толькі гэтая акалічнасць і адратавала потым Мішку пры далейшым разглядзе яго справы і вызначэнні патрэбнае кары за яго і Барадатага злачынствы. Мішка так і не злавіў пеўня. Той спрытна ўзляцеў перад самым Мішкавым носам і, сеўшы на высокай ігрушы, завёў такое гучнае і непераможнае «ку-ка-рэ-э-ку-у-у-у!», што Мішку засталося толькі аблізвацца ды сарамліва лыпаць вачыма. Барадаты і той прабляяў нешта збянтэжана, а што — разбірайся з яго мовай.

На гэтым і кончыліся б Мішкавы злачынствы, каб, ганяючыся за пеўнем, не натрапіў ён на пасеку. Але, як толькі ўчуў пчаліны дух, страціў Мішка ўсякі розум. Забыўся на ўсе свае ганаровыя абавязкі і, нядоўга думаючы, пачаў драць вулей. Сунуўся быў і казёл у пчаліную справу, але хутка, апанаваны пчоламі, густа пасеўшымі на кудлатую бараду, кінуўся ашалелы з пасекі, не

пераводзячы дух, маланкай пранёсся ў батальён, нагнаўшы перапуду і жаху на мірнага Жука.

А на пасецы ўсё стараўся Мішка. Ён і так і гэтак намагаўся ўзарваць невялічкія дзверцы ў пчалінай калодзе, каб прасунуць лапу да мёду. Але дзверцы былі моцна прымайстраваны, і ўсе намаганні Мішкі канчаліся яўнай няўдачай. Мішка злаваўся, біў лапамі па вуллі, грыз зубамі дзверцы — нічога не дапамагала. Пчолы заўзята абаранялі сваё жыллё, сляпілі Мішку вочы, кусалі ноздры, язык, лезлі ў кудлатую поўсць. Пах мёду кружыў Мішку галаву, і ён не думаў адступаць, не паспытаўшы салодкага. І калі ўбачыў, што ўсе яго намаганні ні да чаго не прыводзяць, тады прыйшла яму ў галаву геніяльная думка. І без лішніх разваг ухапіў Мішка аберуч вулей і кінуўся з ім наўцёкі, туды, дзе стаяў яго трэці батальён. Жука і Барадатага як вадой змыла — уцяклі ў кусты ад пчол. Урэшце здаўся і сам Мішка. Апанаваны пчоламі, ён кінуўся бегчы ў рэчку і толькі там пазбавіўся ад іх нападу, крыху ачухаўся ад сваіх злачынных прыгод.

Тут і злавілі чырвонаармейцы Мішку, каб пакараць яго за ўсе злачынствы: і за пеўня і за пчол. Пчаліны вулей, крыху падкурыўшы яго дымам, каб не дужа кусаліся пчолы, аднеслі назад на пасеку і паставілі на месца. А Мішку прыцягнулі да суровага адказу разам з актыўным саўдзельнікам злачынных спраў — Барадатым. Доўга ўшчувалі яны Мішку за ўсе ягоныя правіннасці, якія ўскладняліся яшчэ тым, што Мішка ўцягнуў у злачынства маладога і маласвядомага Барадатага. І парашылі чырвонаармейцы: за ўсе ганебныя ўчынкі пазбавіць Мішку і Барадатага іх артыстычнае годнасці і прагнаць з палка…

Мішка сядзеў ні жывы ні мёртвы і толькі соп, пачосваючы пакусаныя пчоламі месцы. Пыса ў яго ўся распухла ад пчаліных пакусаў. Запухлі вочы і нос, і ўвесь ён быў змізарнелы, разгублены, укачаны ў саломенную пацяруху і рэп'і — нахапаўся, ганяючыся за пеўнем. Барадаты ад страху не ведаў, дзе прылегчы, і ўсё трос барадой, намагаючыся сказаць нейкае слова ў сваё апраўданне, але яно ніяк не выходзіла ў яго. І толькі можна было разабраць аднастайнае, палахлівае:

— Бе-бе-бе-бе…

Жук прыслухоўваўся да справы з філасофскім спакоем: ён заўсёды паважаў закон і парадак.

Паглядзелі чырвонаармейцы на сваіх актораў, пашкадавалі. Як-ніяк Мішка і Барадаты зрабілі свае правіннасці па выключнай сваёй несвядомасці. Гэта — раз. А па-другое, правіннасці гэтыя змякчаліся і тым, што акторы, ганяючыся за пеўнем, здорава

напалохалі ворагаў, белапалякаў. І чырвонаармейцы палічылі магчымым пакараць абодвух вінаватых умоўна і пакінуць іх і надалей у палку: «Няхай, моў, выпраўляюцца ды на справе пакажуць стараннасць сваю».

Тут ужо не вытрымаў і Жук. Ён кінуўся з усіх ног да вінаватых, лізнуў аднаго ў распухлы нос, другога ў тытунёвую бараду, і хутка ўсе трое бегалі і скакалі на сваю і агульную радасць. Іх віталі, мякка папярэджвалі:

— Дык глядзіце ж, чэрці паласатыя, каб болей не падкачалі!

Так закончылася справа з вялікімі Мішкавымі злачынствамі, якія ён так легкадумна зрабіў. І тут жа нашы артысты неадкладна прыступілі да свае справы, да паказу «сусветнай гідры». «Гідра», якую паказваў сам Мішка, мела сапраўды ў гэты дзень такі сумны і смешны выгляд, што ўсе чырвонаармейцы качаліся са смеху. І сапраўды, як было не смяяцца, калі сам Мішка быў так забінтаваны ад пчаліных пакусаў, так перамазаны ёдам, што быў падобны на агароднае пудзіла, якое ставяць ад вераб’ёў. Выгляд меў далёка не ваяцкі.

Але ж справа не ў выглядзе. Справа ў натхненні. А Мішка ў гэты дзень граў з выключным натхненнем, з вялікай шчырасцю і любоўю.

Іначай і быць не магло пасля такіх хвалюючых перажыванняў. Даліся ў знакі Мішку гэты няшчасны певень і пчолы. І доўга потым абыходзіў ён за вярсту тыя месцы, дзе пахла мёдам ці пеўнямі.

## МІШКА Ў ЛЁТЧЫКІ ПАДАЕЦЦА, А ПАСЛЯ Ў КАВАЛЕРЫСТЫ

Як мы ўжо ведаем, Мішку навучылі быць спецыялістам па пяхотнай справе. Добра ведаў маршыроўку, некалькі нумароў з вінтоўкай: узяць на каравул, на рамень, на плячо, умеў падносіць патроны да кулямётаў. Але на гэтым і канчаліся яго веды. І вось здарылася так, што Мішка ледзь не трапіў у лётчыкі, а пасля зрабіўся нават на некаторы час нядрэнным кавалерыстам.

Усё гэта адбылося так.

Аднае раніцы чырвонаармейцы заўважылі над сабою белапольскі самалёт. Ён лятаў зусім нізка, вось-вось, здаецца, зачэпіць крылом за вяршаліны елак і хвой, за саламяныя стрэхі недалёкай вёскі. Відаць было па ўсім, што лётчык нібы нечага шукае або выглядае.

«Відаць, на разведку прыляцеў», — думалі чырвонаармейцы і хаваліся па лесе, па абочынах дарог, каб не быць заўважанымі з самалёта, бо адтуль маглі паляцець і бомбы, як гэта часта здаралася. Але ні бомб, ні кулямётнага агню з самалёта не было чуваць. Паспрабавалі абстраляць самалёт, і той хутка знік дзесьці над ляском, знік і не вяртаўся.

«Няйначай, паляцеў да сваіх», — падумалі чырвонаармейцы і забыліся на самалёт.

У Мішкі ж быў надзвычайны нюх. І павёўшы некалькі раз носам у паветры, Мішка заўважыў нешта для сябе незвычайнае. Хутка падаўся ў напрамку да пахаў, якія даносіліся з лесу. Праз якія дзвесце-трыста крокаў Мішка выйшаў на вялікую паляну, недалёка ад свайго батальёна. І тое, што заўважыў ён там, прымусіла яго насцярожыцца і доўга пазіраць з кустоў, хаваючыся за іх лісцем. На палянцы стаяла машына, якую ніколі Мішка не бачыў поблізу. І каля машыны завіхаўся чалавек у нейкай чужой, незнаёмай для Мішкі форме. Доўга стаяў у кустах наш артыст, але ўрэшце не вытрымаў і наважыўся пазнаёміцца бліжэй і з машынай, і з невядомым чалавекам. І паціхеньку, хаваючыся за асобнымі кусцікамі, Мішка падыходзіў бліжэй і бліжэй да машыны, не спускаючы вока з чалавека, які вазіўся з нейкімі бляшанкамі, нешта пераліваў з вядра, узабраўшыся на крыло машыны (гэта быў самалёт). Каб ямчэй працаваць ля матора, чалавек скінуў мундзір і папружку з рэвальверам. Улучыўшы хвіліну, Мішка сцягнуў мундзір і пачаў за хвастом самалёта паціхеньку апранацца ў яго. Як мы ведаем, Мішка нічога не меў супраць мундзіраў: яны не заміналі ў хадзьбе, з імі было зручней у дождж. Ад старога ж генеральскага мундзіра астаўся адзін каўнер ды рукавы. Таму і надумаўся Мішка аднавіць амуніцыю. Папружку з рэвальверам ён адкінуў далёка ўбок, бо не разбіраўся добра ў прызначэнні таго і другога. Чалавек жа так заюшыўся каля матора і так, відаць, спяшаўся, што зусім не заўважыў Мішкавых доследаў і яго прысутнасці. Чалавек папраўляў сапсуты самалёт, вымушаны сесці на нашай тэрыторыі. Мішка ж так асмялеў, што абмацаў добра хвост самалёта, потым смела ўзабраўся на самалёт і ўтульна ўлёгся ў задняй кабінцы. Там ён знайшоў некалькі пачак пячэння і надумаўся трохі падмацаваць свае сілы, бо ніколі не адмаўляўся, калі выпадала зручная хвіліна, перакусіць чаго-небудзь, падкінуць што-небудзь на зуб, як казалі чырвонаармейцы. І толькі гэта Мішка распатрашыў пачку пячэння, як на паляне падняўся такі гвалт, такія крыкі, што Мішка аж прыгнуўся, схаваўшыся з галавой у кабіну.

— Стой! Стой! Ні з месца!

То беглі чырвонаармейцы, якія заўважылі спуск падстрэленага польскага самалёта. Чалавек, што корпаўся ля матора, шалёна кінуўся да вінта самалёта, пачаў яго раскручваць. І не паспеў Мішка падняць галавы, каб зірнуць, што здарылася, як з машынай пачало рабіцца нешта несусветнае, ніколі не бачанае і незнаёмае Мішку. Яна пачала ліхаманкава дрыжаць, потым сарвалася шалёна з месца і як маланка панеслася па паляне, адарвалася ад яе. Калі перапалоханы не на жарт Мішка высунуў галаву з кабіны, ён ледзь не самлеў, — машына імчала над лесам, і цяжка было нават заўважыць і адрозніць паасобныя дрэвы, — усё ляцела насустрач нейкім дзіўным, шэра-зялёным віхорам. Мішка высунуўся яшчэ болей з кабіны і ўбачыў, што зямля апусцілася яшчэ ніжэй, па ёй бегаюць невялічкія людзі, усё роўна як мурашы, і падкідваюць угору шапкі. То было польскае войска, апазнаўшае свой самалёт па знаках на крыллях. А самалёт ляцеў, свісталі крыллі ад ветру, надрыўна гудзеў матор. Зірнуў яшчэ ўніз Мішка, і моташна яму стала — нязручна быць лётчыкам без прывычкі. Захацелася як мага хутчэй на зямлю. Ды так захацелася, што Мішка месца сабе не знаходзіў. Аж узлаваўся Мішка і пачаў выкідаць з кабіны розныя рэчы, якія там стаялі. Перш узяўся ён за пустыя бляшанкі з-пад бензіну і ну іх шпурляць уніз. А белапалякам здалося, што гэта бомбы ляцяць. Ім падумалася, што гэта чырвоны самалёт ляціць. І такая тут страляніна пачалася, такая пальба з гармат і з ружжаў, што збіты з усякага толку лётчык павярнуў самалёт назад і паляцеў зноў на савецкую тэрыторыю. Лётчык кіраваў машынай і палахліва азіраўся навакол, не разумеючы, чаму па ім, па польскім самалёце, так заўзята страляюць палякі.

Зірнуў ён і назад, на заднюю кабіну. Зірнуў і — вочы на лоб палезлі: проста на яго пазіраў і не хто-небудзь іншы, а самы сапраўдны мядзведзь, ды прытым у лётчыцкім мундзіры. «Сон дурны, страшны сон!» — падумалася лётчыку, і ён ушчыпнуў сябе некалькі разоў да крыві, каб прачнуцца. Нічога не выходзіла. «Сон» не праходзіў. Мядзведзь як сядзеў у кабіне, так і сядзеў, ды яшчэ намагаўся стаць на заднія ногі. Пабялеў лётчык, надумаўся ўцякаць з кабіны, падалей ад такога госця, прыўзняўся на сядзенні. Але Мішка таксама прыўстаў у кабіне і пярэдняй лапай так пацiснуў за плячо лётчыка, што той не асмельваўся болей і рухацца. А бензін тым часам сыходзіў, пачаў захлібацца матор, перабоі даваць. Самалёт ляцеў зноў над самым лесам, лётчык напалохана выглядаў мясціну, дзе б зручней сесці. І не

паспеў выбраць, як змяшалася ўсё ў стракатую кучу, і абодва нашы лётчыкі — сапраўдны і па няшчасці — Мішка — страцілі памяць, яны праляцелі некалькі сажняў у паветры, збілі цэлую гару хвойнага галля і, перакуліўшыся некалькі разоў па ўскраіне паляны, уляглiся непадалёчку адзін ад аднаго, ледзь варушачы рукамі і нагамі. Перакулены самалёт павіс на высокім хваёвым гушчарніку. «Апусціліся» на тую ж паляну, з якой падняліся.

Збегліся чырвонаармейцы, вылілі на лётчыкаў вядры са два вады, доктара прывялі. Той даў нашатыру, уліў па чарцы спірту ў рот. Вярнулася памяць да лётчыкаў, заварушыліся жвавей. Першым ачухаўся Мішка. Ён прыўзняўся на пярэднія лапы і асалавелым вокам — другое было падбіта, запухла — пазіраў на ўсіх, не зусім добра разумеючы, што з ім здарылася. А навокал смяяліся, жартавалі, віталі яго.

— Герой, Мішка! А мы ўжо думалі, што ты здраднік. Гэта ж трэба — у польскія лётчыкі падаўся, мундзір надзеў, уцякаць у Польшчу надумаўся… Аж глядзім, ляціць Мішка назад, цэлы самалёт цягне!.. Малайчына, Мішка, што прымусіў яго назад ляцець…

І толькі тады, калі заўважыў Мішка Жука і Барадатага, якія прыбеглі падзівіцца на здарэнне, прыйшоў канчаткова ў памяць і, цалуючыся са сваімі таварышамі, сумна ківаў галавою. Нібы хацеў сказаць: «Паляцеў бы ты, Вясёлая Барада, вось так як я, даведаўся б, пачым фунт ліха, абскуб бы сваю бараду аб хвойнік!»

Хутка прыйшоў да памяці і лётчык. У яго была вывіхнута нага, і ён непамерна стагнаў, пакуль доктар завіхаўся ля нагі. Але потым аправіўся і ўсё дзівіўся, як гэта магло здарыцца так, каб па ім стралялі свае. І яшчэ больш дзівіўся саўдзельніку свайго апошняга палёту — Мішку ў мундзіры. Лётчыка ўзялі ў палон, самалёт сцягнулі з дрэваў, падправілі, перафарбавалі і адаслалі ў нашу эскадрыллю.

Так пачаў і закончыў Мішка сваю лётніцкую кар’еру, абмежаваную, як мы бачым, адным палётам, які меў для яго не зусім вясёлыя вынікі — вока падбіў, лапы троху пашкодзіў, сям-там памяў рабрыны. Адным словам, пешака хадзіць было дужа цяжка для Мішкі пасля яго лётнай аварыі. Таму і вырашылі: папраўіцца Мішка — зрабіць яго кавалерыстам, паколькі не было вольнага воза, дзе можна было б вазіць Мішку. Магчымасці ж для кавалерыйскай справы былі ў выглядзе вялікага старога мула, якога нязручна было запрагаць у воз, а верхам на ім не адважваўся ехаць ніводзін з чырвонаармейцаў, бо паводзіў мул сябе надзвычай непрыемна, як і належыць патомку звычайнага

ішака. Мул быў зусім вольны, хадзіў без усякіх абавязкаў і толькі псаваў дарма харчы. Таму на яго і паў выбар вазіць на сабе Мішку да таго часу, пакуль канчаткова ачуняе няўдалы лётчык. Чырвонаармейцы прымайстравалі на мула некалькі звязаных мяшкоў з сенам, выйшла не сядло, а цэлая мядзведжая раскоша. Мішка мог садзіцца, мог ляжаць, мог нават станавіцца на гэтым сядле на заднія ногі. Адным словам, мог масціцца так, як таго пажадае яго генеральская воля.

І Мішка важна сядзеў на высокім муле і ўрачыста пазіраў наніз, дзе ішлі Жук і Вясёлая Барада. З мулам было багата клопатаў, быў ён наўздзіў упартым, наравістым. Упрэцца часам і з месца ні на крок. І колькі ні ўпіраецца Жук — а яму даручылі вадзіць мула ўслед за сабою — за вяровачку, — колькі ні скача навакол Барадаты, падганяючы кавалерыю, — мул ні з месца. Тады спрытны Жук змяніў тактыку. Ён кідаў повад, за які вадзіў кавалерыю, і адбягаў назад, каб, ухапіўшы мула за хвост, цягнуць яго назад. Упарты мул не паддаваўся, зразумела, на Жукавы намаганні пацягнуць яго назад і смела рушыў наперад. А гэта толькі і трэба было Жуку і ўсёй нашай палкавой капэлі, як празвалі чырвонаармейцы Мішку, Жука і Вясёлую Бараду. Капэля ўрачыста сунула па дарозе, каб спыніцца, дзе была патрэба ў ёй, дзе прасілі паказаць «сусветную гідру» ці іншае якое «прадстаўленне». Тут жа, на сядле, як на добрай шырокай сцэне, і пачынаў Мішка паказваць «гідру».

Але тут часта здараліся ў Мішкі буйныя непаразуменні з мулам. Толькі гэта Мішка на спіну ўляжацца і нагамі задрыгае, паказваючы кананне «сусветнай гідры», як мул возьме і зараве, і такім голасам, што ўсякаму прадстаўленню канец. Да чаго майстар быў мул крычаць і да чаго быў голас яго пранозлівы, можна меркаваць хаця па тым, што нават Барадаты — да чаго ўжо скромная асоба, не меўшая асаблівага музычнага слыху, — і той бег без памяці куды-небудзь у кусты, каб падалей схавацца ад мулавых галасавых практыкаванняў. Мішка, як артыст, не мог цярпець такіх мулавых зняваг і, спыняючы паказ «гідры», пачынаў вучыць добрым манерам гэтага патомка асла. Але як ты навучыш яго добрым манерам? І варта было мулу атрымаць разы два па загрыўку ад Мішкі, як ён зусім вар'яцеў і пачынаў выкідваць такія нумары, што Мішка адчуваў сябе як на самалёце: мул брыкаўся, кідаўся на дыбкі, імкнучыся скінуць артыста на зямлю, альбо кідаўся ў такі шалёны галоп, што ў Мішкі духі заходзіліся.

Звычайна капэля ў такія хвіліны мела надзвычай трагічны выгляд. Мул шалёна скакаў, як мага вышэй падкідваючы заднія ногі. Мішка, учапіўшыся абедзвюма лапамі за сядло і спаўзаючы з гэтым сядлом уніз, пачынаў несусветна раўсці, наганяючы яшчэ большую паніку на свайго скакуна. Побач з кавалерыяй ляцеў Жук, намагаючыся ўхапіць кавалерыю за павадок, каб спыніць яе. Зразумела, і ён не адставаў у агульным канцэрце, удзельнічаючы ў ім басавітым брэхам. Услед за капэляй, высалапіўшы язык, ледзь паспяваў Барадаты і галасіў на ўвесь свой дрыготкі і хліпкі голас:

— Бе-бе-бе-бе-бе-бе…

— Зноў артысты кур'ерскім паімчалі! — пасмейваліся чырвонаармейцы са сваёй капэлі. Кончыліся Мішкавы кавалерыйскія курсы даволі трагічна для яго скакуна. Узлаваны мул, калі Жук павёў яго ў балотную канаву на вадапой, ніяк не хацеў варочацца на дарогу і ўсё намагаўся ісці далей праз балота. Упіраўся да таго часу, пакуль не загруз на ўсе чатыры нагі.

Прыйшлося Мішку з мулам расстацца. Добра яшчэ, што да гэтага часу і лапы пазагойваліся пасля палёту, і ён зноў мог трапна хадзіць пешака, як і хадзіў дагэтуль.

## МІШКА — ГЕРОЙ

Так жыў і ваяваў Мішка, быў артыстам, а калі даводзілася, рабіўся ваякам. Было ў яго жыцці багата і смешнага, бо быў ён надзвычай вясёлай асобай. Любіў сябе ўсцешыць і другіх пасмяшыць. І за гэта любілі яго, як толькі могуць любіць веселуна ў такіх цяжкіх і грозных умовах, як вайна, як доўгія паходы.

Было ў жыцці ў Мішкі багата чаго і гераічнага. Але сам ён ніколі не думаў аб тым, як бы спецыяльна стаць героем, выкінуць які-небудзь асаблівы гераічны ўчынак.

Нам і асталося расказаць аб апошнім учынку Мішкі, калі ён зрабіўся самым сапраўдным, самым поўным героем.

Падыходзіла вайна да канца. Людзі пачалі пагаворваць аб блізкім замірэнні, але бойкі не сціхалі і зачыналіся часамі з яшчэ большай упартасцю, чымся з пачатку вайны. Была ўжо даволі позняя восень. Мішкаў батальён стаяў у тыле, адпачываў ад боек, хаця кожную хвіліну быў напагатове сустрэць ворага. Першы і другі батальёны былі на фронце на перадавой лініі. Чырвонаармейцы трэцяга батальёна начавалі ў глухім лесе і хаваліся ад назольнага восеньскага дажджу пад высокімі ялінамі,

пад кустамі алешніку і ляшчыны. Сям-там расклалі пад дрэвамі невялічкія цяпельцы, грэліся, высушвалі мокрыя гімнасцёркі, мокрыя шынялі.

Непрытульна ў лесе позняй восенню. Непрытульна і холадна. Мішка грэўся таксама каля цяпельца. Нават лапу адну крыху абсмаліў, стараючыся падсунуць бліжэй у агонь канец смалістага карча. Прыгрэўся Мішка і заснуў каля цяпла. А калі прачнуўся, пачало ўжо трошачкі развідневаць. Чырвонаармейцы яшчэ спалі, стаялі паміж дрэвамі вартавыя. Не сунімаўся дождж. Ён сеяўся як праз сіта і вільготнай імглой засціў дрэвы, засціў нізкае восеньскае неба і да самых касцей працінаў халоднымі дрыжыкамі анямелае ад сну Мішкава цела. Каб крыху сагрэцца і размяць здранцвелыя са сну ногі, Мішка палез на высокую хвою. Так практыкаваў ён кожную раніцу, і гэта называлася Мішкавай гімнастыкай, яго фізкультурнай зарадкай.

Доўга лез Мішка на хвою. Саслізаліся ногі на мокрай ад дажджу хваёвай кары, ды не было нешта асаблівага спрыту ў Мішкі ў такія пахмурныя, непагожыя дні. Але сяк-так ускарабкаўся на самую вершаліну, адкуль надзвычай добра было назіраць над усім лесам, над лесавымі дарогамі, над далёкім полем, якое ледзь-ледзь чарнела скрозь дажджавую імглу. Усеўся Мішка на сук і пачаў азірацца. І тут заўважыў ён нешта цікавае для сябе, чаго ўдзень не бачыў і не заўважаў. Зусім блізка ад яго батальёна з’явіліся паміж дрэў незнаёмыя коннікі, цэлыя групы гэтых коннікаў. Яны яўна набліжаліся да батальёна, ішлі надзвычай асцярожна, перабягаючы групамі паміж дрэў, пільна ўглядаючыся наперад.

«Адкуль-то яны маглі з’явіцца? У нашым жа палку амаль зусім няма коней, што б то значыла?» — і толькі падумаў гэта Мішка, як адзін за адным пачуліся некалькі глухіх стрэлаў, потым яны зачасціліся, і хутка пачалася такая стралянiна, што хоць ты вушы затыкай. Яго напрактыкаванае вуха пачало адрозніваць басавітыя перакаты кулямётаў, ліхаманкавы бой вінтовак. І ледзь не зваліўся Мішка з хвоі, калі недалёчка грымнула перунамі гармата, грозна страсянуўшы паветра і голлі дрэў, з якіх паліліся ўніз цэлыя струмені вады на жоўты пясок, на мокрыя верасы. Дужа не любіў Мішка гармат. Мо таму, што не асвоіў яшчэ артылерыйскай справы, мо таму, што задужа ўжо грозна стралялі яны, і водгукі стрэлаў доўга перакатваліся па лясах і палях, наганяючы жудасць і страх у Мішкава сэрца. Як бы там ні было, Мішка наважыўся пакінуць свой назіральны пункт і спусціцца ўніз, на зямлю, да сваіх. Але калі злез ён бадай на

апошні сук, то заўважыў, што з сваіх не відаць нікога, усе даўно пабеглі кудысьці ўбок, у лагчыну, адкуль чуваць былі частыя стрэлы. Пад хвояй выстраілася больш чым сотня коннікаў, і перад імі сядзеў на кані зусім незнаёмы чалавек і нешта таропка, спяшаючыся, гаварыў да іх і злосна пакрыкваў, паказваючы рукой на лагчыну. І тут заўважыў Мішка сінія штаны на ім, ну, няйначай тыя штаны, якія калісьці сілком надзявалі на Мішку і якія ён так старанна падраў тады на дробныя мэтлухі.

«Няўжо зноў тыя самыя штаны? — падумаў з крыўдаю Мішка. — Няўжо зноў хочуць апрануць мяне ў гэтую адзежыну? Ды каб я сцярпеў?»

Не мог, канешне, Мішка сцярпець такой знявагі, павінен ён яшчэ ў апошні раз расквітацца з гэтай амуніцыяй, ды так расквітацца, каб ніткі на нітцы не засталося ад гэтай прыкрай адзежыны. І толькі гэта чалавек пад дрэвам шабелькай махнуў, нейкую каманду пракрычаў, як Мішка, доўга не разважаючы і не думаючы аб парашутах, як дуж гоцнуўся з дрэва і так ёмка патрапіў, што адразу апынуўся на кані ззаду ў конніка з сіняй адзежынай. І толькі сеў, ды лапамі за штаны, і пачаў так шкуматаць іх, што толькі пыл паляцеў. І што тут нарабілася, Мішка і сам не ўяўляў добра потым. Адно памятаў, як зароў ён, скокнуўшы з хвоі, на ўсё сваё мядзведжае горла. Коннікі ўжо шалёна панесліся хто куды, скідаючыся ад страху на зямлю, валочачыся па зямлі паміж дрэў. Усе коні, і тыя, што былі пад дрэвам, і тыя, што ля кулямётаў і ля гарматы, адразу нібы ашалелі ад яго голасу, храплі, пырскаліся пенай і шалёна імчалі, не разбіраючы ні лесу, ні дарог, ні блытаных лесавых сцежак. А з лагчыны, куды прымушаны быў адступіць Мішкаў трэці батальён перад нечаканым нападам польскіх уланаў, ужо чулася моцнае «ўра», і ашчаціненыя штыкамі чырвонаармейцы вярталіся назад, падбіраючы за сабою польскія кулямёты і гарматы, ловячы перапалоханых польскіх коней, беручы ў палон коннікаў. Мішка ўсё яшчэ сядзеў на кані, з якога даўно зваліўся коннік з ненавіснай для Мішкі сіняй адзежынай. Конь шалёна насіўся па лесе, і каб не скінуцца з яго, Мішка ўхапіўся за грыву і пярэднімі лапамі моцна ашчарэпіў конскую шыю. Урэшце абяссілены конь на хвіліну спыніўся, і спрытны Мішка хутка саскочыў на зямлю, не маючы асаблівага жадання шалёна гарцаваць па лесе.

Да Мішкі падбеглі чырвонаармейцы.

— Ну і малайчына, Мішка! Ты ж проста герой, Міхайла Іванавіч! Ну і Таптыгін! Гэтакіх спраў нарабіў!

Мішка быў задаволены. Як-ніяк яго ўпершыню назвалі сапраўдным лесавым імем, паважаным Міхайлам Іванавічам Таптыгіным, як звалі яго прадзедаў і дзядоў. І толькі крышку саромеўся Мішка і ўсё ніяк не мог раскумекаць як след, чаму гэта праз яго глыбокую нянавісць да ўланскай формы нарабіліся такія незразумелыя для яго справы і цэлы атрад коннікаў быў разбіт ушчэнт.

Такім быў апошні геройскі ўчынак нашага Мішкі. Апошні таму, што хутка скончылася вайна.

## ШТО СТАЛАСЯ З АКТОРАМІ

Што ж сталася з нашымі героямі: Жукам, Мішкам і Вясёлай Барадой? Дзе яны цяпер? Што робяць, жывуць як?

Жук вельмі пастарэў за гэтыя гады, сівым зрабіўся, аглух на адно вуха. Што ж казаць — старасць… Але і да гэтага часу ён акуратна вартуе калгасныя свірны і гумны. І калі недачуе крыху стары, дык яму дапамагае яго вялікае пакаленне: сыны і ўнукі — такі брэх учыняць, што вораг калгаснага дабра як дуж кідаецца падалей ад гумнаў і свірнаў, каб не трапіць на зубы сыноў і ўнукаў слаўнага Жука. А некаторыя з Жукавага племя, наслухаўшыся яго былых прыгод на вайне, на граніцу пайшлі і дапамагаюць там чырвонаармейцам несці дазорную службу, вартаваць нашу граніцу ад ворагаў. Добрае племя ў Жука, вартае славы былога палкавога актора.

А што чуваць пра Барадатага? Нічога не чуваць пра яго. Даўно загінуў актор яшчэ на самай вайне, ды і загінуў па сваёй неасцярожнасці, сам сабе, можна сказаць, харакіры наладзіў. А выйшла ўсё так: калі памятаеце — любіў Барадаты скакаць, пераскокваць цераз што-небудзь: цераз плот, цераз пень, цераз канаву якую. І вось на прывале адным, калі гатавалі чырвонаармейцы кашу, Барадаты да таго разышоўся, што пачаў скакаць цераз вінтоўкі, якія былі складзены ў козлы штыкамі ўгору. І ці не разлічыў добра скоку ён, ці паслізнуўся капыцікамі на мокрай мураве і не даў добрага разгону, але не ўдалося яму пераскочыць цераз штыкі, напароўся на іх бедны актор, завіс і загінуў.

Батальённы капцёр прапанаваў быў пусціць актора ў кацёл, мяса яго спажыць, бо трохі недалюбліваў ён калісь казла, ды і мяса была няхватка ў палку. Але чырвонаармейцы заступіліся за яшчэ цёплы прах свайго ўлюбёнца і далі капцёру суровы адпор:

— Як жа можна надругу такую над слаўным акторам рабіць? І зноў жа, які наедак з яго: барада адна ды косці старыя…

І ўрачыста пахавалі Барадатага пад высокай елкай, курганок яму насыпалі з жоўтага пяску, упрыгожылі папараццю і дзеразой і на невялікай дошцы гэтакі надпіс пакінулі: «Тут пахаваны адзіны ў свеце, любімы наш Барадаты».

І крышачку ніжэй прыпісалі:

Няхай жа мірна спіць у жоўтым пяску
Вясёлая Барада…
І няхай сняцца ёй мурожнага сена жмуток
І пачак махоркі зялёнай…

Памяталі хлопцы пра тытунёвую слабасць актора.

Так загінуў Барадаты. Сумавалі па ім хлопцы, але што ж ты зробіш? Усякія ў жыцці здарэнні бываюць, і тым больш на вайне.

А што сталася з нашым галоўным героем, з незвычайным ваякам Мішкам? Кажуць, што ён яшчэ жыве, хоць таксама пастарэў задужа, пасівеў. Былі ў палку калішнія цыркавыя артысты. Як скончылася вайна, узялі яны Мішку з сабой, і зрабіўся ён сапраўдным артыстам цырка. Навучылі яго розным штукам. З таго часу і раз'язджае Мішка з цыркам па ўсёй краіне. Паказвае на арэне, як савецкія людзі распраўляліся са сваімі ворагамі, як білі яны фашыстаў, як выхваляўся Гітлер заваяваць нашу краіну і як ён падох у сваім логаве, загубіўшы свае арміі на нашай зямлі.

Паказвае Мішка і тых, хто, забыўшыся на ўрокі вайны, ізноў гатовы пайсці па шляху гітлераўскіх авантур. І Мішка паказвае, што ўсе гэтыя новыя падпальшчыкі вайны таксама падохнуць, як і іхні папярэднік і настаўнік Гітлер.

Любяць і шануюць гледачы, асабліва дзеці, свайго слаўнага артыста.

Дык вось якія слаўныя акторы былі ў нашым палку. Пра іх і расказалі тут, успамянулі іхнія справы і іхнія ўчынкі, звычайныя і незвычайныя, смешныя і нясмешныя, геройскія і абыдзённыя, што здараліся з імі штодня.

Узгадалі іхнюю старасць, цёплымі словамі іх успомнілі.

А на гэтым канчаем.

*1937*



# ПАД СОНЦАМ ІНДЫІ

*З зарубежных вандровак*

## ПЕРШАЕ ЗНАЁМСТВА

Наш самалёт прызямліўся на індыйскай зямлі на самым змроку, так што першыя ўражанні аб Індыі не былі асабліва багатымі. Ды і што можна ўбачыць познім вечарам? Сказваліся дальняя дарога, некалькі перасадак з самалёта ў самалёт і калейдаскоп уражанняў і назіранняў з жыцця гарадоў Еўропы і Азіі, у якіх нам давялося пабыць за дарогу. А пабывалі мы ў Стакгольме, начавалі ў Капенгагене, днявалі ў Амстэрдаме, прызямляліся ў Рыме, праляцелі над Грэцыяй і Турцыяй, пазнаёміліся з іранскім горадам Абаданам, агледзелі пакістанскую сталіцу. Адным словам, мы былі стомлены, і нам заставалася толькі адно: выкарыстаць ноч так, як належыць усім добрым людзям, — добра адпачыць.

Наша першае знаёмства з індыйскім горадам пачалося наступным днём. Раніцай мы трапілі на адну з гандлёвых вуліц Новага Дэлі і адразу акунуліся ў стракатую мітусню яе жыцця. Няспынна цілінкалі званкі веласіпедаў, веласіпедных рыкшаў, пераразвоньвалі званочкі на нагах вярблюдаў, на шыях ішакоў і буйвалаў, дудзелі сігналы рыкшаў-матацыклістаў, пафырквалі аўтамашыны. А над усім гэтым стаяў рознагалосы гул: крычалі, выкрыквалі, заклікалі, на ўсе лады расхвальваючы свой тавар, прадаўцы магазінаў, крам, палатак, кіёскаў, латкоў. У гэтым хоры разнастайных галасоў асабліва вылучаліся настойлівыя выкрыкі разносчыкаў і ўладальнікаў тых гандлёвых «стацыянараў», якія называюцца разваламі. Усе гэтыя прадпрыемствы спалучалі гучную слоўную рэкламу сваіх тавараў з энергічнымі дзеяннямі па ўгавору непадатных і абыякавых да ўсяго пакупнікоў. Тут і кляцьбы, і просьбы, і патузванне за крысо або рукаў пінжака прахожага, і падсоўванне пад самы яго нос той ці іншай рэчы для

большага пераканання ў яе высокай якасці. І ў вачах прадаўца ты бачыш надзею і просьбу: ды купі ты ўрэшце, не ўпірайся, хіба не бачыш, што ад самай раніцы не было ў мяне яшчэ пачыну…

Глядзіш — і здаўся прахожы. Успацелы ад усяго гэтага гармідару, не хаваючы свайго намеру хутчэй адчапіцца ад настойлівага прадаўца, ён з адчаем купляе непатрэбны яму муштук ці якую іншую бяздзеліцу. «Ашчасліўлены» набыткам, чалавек намагаецца, калі ён навічок на гэтай вуліцы, хутчэй пакінуць яе, каб выбавіцца з нязвыклай мітусяніны, пазбавіцца няспынных атак шматлікай арміі дробных «бізнесменаў».

На гэтай вуліцы і адбылося наша першае знаёмства з маладымі грамадзянамі Індыі. Гэта былі хлапчукі. Відаць, гэтае слаўнае племя аднолькавае ва ўсім свеце па сваёй экспансіўнасці, цікаўнасці і прайдошлівасці — у самым лепшым сэнсе гэтага слова. Не паспелі мы добра агледзецца, як група хлапчукоў акружыла нас, і, перабіваючы адзін аднаго, яны наперабой пачалі вітаць нас, яўна пахваляючыся «кароткім» знаёмствам з паасобнымі рускімі словамі.

— Здраствуй, Апанас! Дасвіданя, Апанас! Карашо, Апанас! — І ў дадатак да ўсяго заключалі:

— Хіндзі карашо! Русі карашо!

І тут жа на мігах, на жэстах давалі нам зразумець, што яны гатовы ва ўсім дапамагчы «апанасам»: дастаць таксі, купіць газету, правесці на любую вуліцу горада.

Мы доўга ламалі галовы над тым, чаму іменна нас усіх ахрысцілі «апанасамі». І толькі праз некалькі дзён, пазнаёміўшыся з хронікай мясцовых газет, даведаліся аб сапраўднай прычыне такой папулярнасці гэтага імя. Аказваецца, нашы і індыйскія кінаарганізацыі рыхтавалі здымкі фільма пра вядомага рускага вандроўцу ў Індыю Апанаса Нікіціна.

А тым часам сонца забіралася ўсё вышэй і вышэй над горадам і пачало так прыпякаць, што непакрытыя лысіны «апанасаў» інстынктыўна падаліся ў цянёк, ратуючыся ад незвычайнай для нас гарачыні. Добра яшчэ, што ў Новым Дэлі багата разгалістых трапічных дрэў, якія надаюць яму выгляд горада-парку. Дрэвы самыя разнастайныя, але ў большасці нам незнаёмыя. Усе яны, а таксама дэкаратыўныя кусты жывой агароджы паркаў і сяліб стаяць у пышным зялёным убранні. На некаторых кустах красуюцца чырвоныя, сінія, ліловыя кветкі. У гарачым паветры адчуваюцца пахі гваздзікі, эўкаліптавага лісту, сандалавага дрэва. І гэта ў лістападзе месяцы (было гэта і ў снежні), калі ў нас на Радзіме ўсё запарушана снегам. А тут, у Індыі, 25 градусаў

цяпла, і людзі ходзяць у такім адзенні, у якім бы нам рызыкоўна было выходзіць на вуліцу і ў чэрвені месяцы, яшчэ, чаго добрага, прастудзіліся б, асабліва калі меркаваць па няшчодрым на сонца мінулым леце.

Але мы крыху ўхіліліся ад тэмы. Не зважаючы на спякоту, пройдземся ўсё ж далей па вуліцах Новага Дэлі, сталіцы індыйскага народа. Пакінем гам і тлум гандлёвага месца і сыдзем на цяністыя і спакойныя вуліцы і завулкі, якіх так багата ў гэтым цікавым і своеасаблівым горадзе. Перакрыжаванні вуліц — прыгожыя круглыя пляцоўкі, аздобленыя кветкамі, зелянінай. З-за густых дрэў ледзь праглядаюцца абрысы стройных невысокіх будынкаў, якія размясціліся на прасторы і вабяць вока прахожага прахалодай утульных веранд і тэрасаў, зялёнай засенню дрэў, кветкамі клумб і газонаў. Двары, калі можна так назваць гэтыя зялёныя сялібы, аддзелены ад вуліцы невысокімі каменнымі агароджамі, якія ў сваю чаргу аддзелены ад тратуараў, ад вулічнага асфальту шырокімі палосамі падстрыжанага мурагу. Гэтыя вуліцы і завулкі нешматлюдныя. Сюды не далятаюць гам і тлуманіна гандлёвага месца, тут менш прахожых, меншы рух транспарту. Гэта кварталы дыпламатычных асабнякоў, катэджаў заможных грамадзян, сяліб прадпрыемцаў, камерсантаў, шматлікіх афіцыйных устаноў і арганізацый.

Новы Дэлі пачаў будавацца параўнальна нядаўна, у 1911 годзе. Англічане, колішнія паўнапраўныя гаспадары Індыі, плануючы горад, клапаціліся, вядома, больш за ўсё аб сваіх інтарэсах. Галоўная рэзідэнцыя каланізатараў, сталіца каралеўскай Індыі, павінна была адпавядаць усім іх запатрабаванням і быць зручнай для кіравання ўсёй калоніяй, мець добрыя ўтульныя дамы для шматлікай арміі чыноўнікаў і камерсантаў і, вядома, не абражаць іх тонкіх эстэтычных пачуццяў блізкім суседствам з непрыгляднымі карцінамі ўбогага жыцця шырокіх народных мас. Так і будаваўся Новы Дэлі, падобны на горад паркаў і садоў. Больш 30 год таму назад было закончана будаўніцтва буйнейшых урадавых будынкаў: палаца віцэ-караля, будынкаў міністэрстваў і парламента. Усе гэтыя збудаванні ў спалучэнні з добра спланаванымі плошчамі, паркамі і садамі ўяўляюць прыгожы архітэктурны ансамбль. Цяпер палац колішніх віцэ-каралёў з’яўляецца рэзідэнцыяй прэзідэнта Рэспублікі Індыя. Скарыстаны па прыналежнасці і іншыя будынкі: у іх размясціліся міністэрствы і іншыя вышэйшыя ўстановы індыйскай дзяржавы.

Ад урадавых будынкаў у напрамку да вялікай цэнтральнай плошчы горада праходзіць доўгая і шырокая алея, якая назы-

ваецца «Дарогай дзяржавы». У дні нацыянальных свят або ў часы прыёмаў ганаровых гасцей з іншых дзяржаў на гэтай алеі адбываюцца ўрачыстыя парады, святочныя шэсці і дэманстрацыі. На плошчы знаходзіцца трыумфальная арка «Вароты Індыі». Збудавана яна ў памяць індыйскіх воінаў-салдат, якія ўдзельнічалі ў Першай сусветнай вайне. Тут жа, непадалёку ад трыумфальнай аркі, прытуліўся адзін з тых помнікаў, якія з’яўляюцца яркім напамінкам аб недалёкім горкім мінулым індыйскага народа. Гэта помнік аднаму з англійскіх каралёў. І ў Дэлі, і ў іншых гарадах вы сустрэнеце безліч такіх помнікаў: каралям, герцагам, генерал-губернатарам, проста губернатарам і проста генералам. Чым жа ўславілі сябе гэтыя англійскія дзеячы, у чым іх заслугі перад шматмільённым народам Індыі? Калі гаварыць аб славе, дык слава гэтая з самых ганебных. Гэта слава сусветных захрыбетнікаў і прыгнятальнікаў, каланізатараў, якія на працягу больш чым двух стагоддзяў дратавалі жывое цела краіны, нацкоўвалі мусульман на індусаў, а індусаў на мусульман, жорстка эксплуатавалі народ, па-грабежніцку вынішчалі багацці краіны і крывёю залівалі яе прасторы, калі народ рабіў спробы скінуць са сваіх плеч ненавіснае каланіяльнае ярмо. Тут можна прыгадаць лютую расправу англічан з удзельнікамі індыйскага нацыянальнага паўстання ў 1857–1858 гг. (якое вядома яшчэ пад назвай паўстання сіпаеў). Тады паўстанцаў расстрэльвалі, прывязваючы іх к жэрлам гармат. Гарады Дэлі, Канпур, Лакнау і багата якія іншыя былі разгромлены і разграблены. Сотні і сотні індыйскіх вёсак былі сцёрты з твару зямлі.

Можна тут прыгадаць і падзеі параўнальна нядаўняга часу, хаця б Амрытасарскую бойню. У 1915 годзе англічане расстралялі ў горадзе Амрытасары мірную дэманстрацыю. Было забіта і паранена больш тысячы чалавек. Можна прывесці падзеі і зусім ужо нядаўняга часу. Мы бачылі ў горадзе Алахабадзе перад будынкам універсітэта сціплы помнік юнаку-студэнту, забітаму англічанамі ў час разгону дэманстрацыі які-небудзь дзясятак год таму назад.

Мы прывялі толькі некалькі прыкладаў «заслуг» англічан перад індыйскім народам. Іх можна прыводзіць бясконца,

# СПАДЧЫНА КАЛАНІЗАТАРАЎ

Да якіх жа вынікаў прывяла дзейнасць каранаваных і некаранаваных каланізатараў, якія называлі і называюць сябе «носьбітамі святла і цывілізацыі» і якія панаставілі сабе помнікаў на чужой зямлі? А вынікі сапраўды адчувальныя. Працавітаму і свабодалюбіваму індыйскаму народу даводзіцца рабіць гераічныя намаганні, каб урэшце як-небудзь пазбавіцца гэтых вынікаў. Сучасная сапраўднасць, ці, правільней будзе сказаць, тое, што пакінулі англічане пасля свайго доўгага гаспадарання ў Індыі, выклікае шмат законных пытанняў. Каго не здзівіць тая акалічнасць, што індыйскі народ, які, па сутнасці, стаяў ля самых вытокаў агульначалавечай культуры, які ўжо ў даўнія часы меў вялікія здабыткі ва ўсіх галінах чалавечых ведаў, на сённяшні дзень прымушаны сур’ёзна займацца ліквідацыяй элементарнай непісьменнасці. Амаль што ў самым пачатку нашай эры індыйцы ўмелі адліваць і ставіць жалезныя помнікі, а сёння яны апрацоўваюць сваю зямлю ў асноўным з дапамогай дапатопнай драўлянай сахі, якую ў нас не знойдзеш ужо нават у музеях. Яшчэ за некалькі стагоддзяў да нашай эры індыйцы ўзводзілі складаныя ірыгацыйныя збудаванні ўздоўж Ганга і іншых рэк. А сёння тысячы і тысячы сялян абвадняюць яшчэ свае ўчасткі, цягаючы ўручную або з дапамогай буйвалаў скураныя вёдры з вадой з прымітыўных калодзежаў. Індыйцы, якія стваралі цудоўныя і непаўторныя помнікі архітэктуры, мастацтва, якія пабудавалі яшчэ ў сярэднія вякі астранамічныя абсерваторыі ў Дэлі і Джайпуры, далі свету шахматы, вядомыя ўсім нам лічбы дзесяцічнай лічыльнай сістэмы (якія мы, дарэчы, няправільна называем арабскімі), жывуць сёння — я гавару аб большасці народа — у цяжкіх, нязносных умовах. Зайдзіце ў любую індыйскую вясковую хату, і вас адразу ўразіць надзвычай нізкі ўзровень жыцця. У глінабітнай хаце вы не знойдзеце ні светлага акенца, ні добрай падлогі, ні звычайнага хаця б тапчана для адпачынку (я не кажу ўжо аб ложках, сталах ці аб такой «раскошы», як звычайны ўслончык, — іх няма). Людзі і спяць на падлозе, і ядуць на падлозе. Няма ў хаце і звычайнага коміна — хаты курныя. Праблема гэтага коміна — адна з сур’ёзных дзяржаўных праблем краіны. Індыйцы-рамеснікі, залатыя рукі якіх вырабляюць славутыя індыйскія тканіны, па-мастацку расшытыя золатам і срэбрам, шэдэўры разбярства па косці і дрэву, чаканкі па медзі, латуні і бронзе, жывуць у непрыглядных умовах. А паглядзелі б вы, што ядуць і колькі ядуць індыйскія рабочыя, рамеснікі і тыя

ж сяляне, і вы б здзівіліся: як жа бедна жывуць гэтыя працавітыя людзі! Над Індыяй, кліматычныя ўмовы якой дазваляюць у паасобных раёнах знімаць па тры ўраджаі ў год, часта распасціралася кашчавая рука галоднай смерці, якая забірала мільёны і мільёны чалавечых жыццяў. А ў наяўнасці ёсць усе магчымасці для таго, каб Індыя магла не толькі пракарміць свой народ, а ператварыцца ў сапраўдную жытніцу Азіі.

Хто ж вінаваты ў тым, што казачная па сваіх прыродных багаццях і іншых магчымасцях краіна на сённяшні дзень з'яўляецца яшчэ шмат у чым адсталай краінай? Адказ на гэтае пытанне мы і знаходзім, гледзячы на помнікі былым каралям і губернатарам. Англійскі каланіялізм сваёй рабаўніцкай палітыкай адкінуў Індыю на некалькі стагоддзяў назад. Жывыя сляды гэтага каланіялізму адчуваюцца яшчэ ва ўсім укладзе жыцця народа, у яго эканоміцы, быце, псіхіцы. Калі жабрак на вуліцы нясмела звяртаецца да вас са словам «саіб» (пан), вы нібы адчуваеце атрутны пах каланіялізму, які кінуў на індыйскія вуліцы тысячы жабракоў, калек, пракажоных, прастытутак і тысячы іншага няшчаснага люду, які літаральна «жыве паветрам» — не мае ні прытулку, ні сталага занятку. Вы адчуваеце сябе не досыць зручна, калі ў атэлі калідорны, заўважыўшы вас, хапатліва ўскоквае з падлогі, на якой ён звычайна сядзіць, падкурчыўшы пад сябе ногі, і, выцягнуўшыся ў струнку, боязна вітае «саіба» з добрай раніцай. Вітанне — добрая рэч, але калі яно паўтараецца некалькі разоў на працягу якой паўгадзіны, калі чалавек нервова ўскоквае пры кожным вашым набліжэнні, тады вам становіцца не па сабе. І вам хочацца сказаць гэтаму чалавеку: кінь, браце, свае практыкаванні, я такі ж саіб, як ты…

Можа, гэта дробязь, але гэтая дробязь часта паўтараецца ў малым і ў вялікім.

Каланіялізм не пакінуў Індыі колькі-небудзь развітай прамысловасці. У краіне мала фабрык, мала заводаў, слаба выкарыстоўваюцца багацці зямных нетраў. Справа дайшла да таго, што англічане вывезлі нават абсталяванне некаторых прадпрыемстваў, якія ім належалі. Багата з таго, што можна было вырабляць у самой Індыі, прывозілася з-за мяжы ў абмен на каштоўную сыравіну або за высокую плату. Прывяду маленькі прыклад. Індыйскія жанчыны любяць насіць бранзалеты на руках і нагах. Вядома, не кожная жанчына можа набыць сярэбраныя або залатыя ўпрыгожванні, таму задавольваюцца вырабамі з каляровага шкла. Попыт на іх вялікі. І вось да нядаўняга часу горы гэтых шкляных бранзалетаў прывозілі з-за мяжы, з Амерыкі.

Улічваючы недаўгавечнасць падобных упрыгожванняў, можна ўявіць, колькі сродкаў даводзілася траціць, каб перавозіць з-за двух акіянаў горы гэтага шклянога друзу.

Кажучы аб бранзалетах, мы ні ў якім разе не думаем папракаць індыйскіх жанчын у залішнім модніччанні ці кпіць з іх сціплых упрыгожванняў. Гэта сталая традыцыя, народныя звычаі. Трэба сказаць, што адчуванне прыгожага вельмі ўласціва індыйскім жанчынам, як і ўсяму народу. Элементы прыгожага арганічна звязаны з усім жыццём народа, з яго песнямі, музыкай, з яго жыллём і адзеннем. Традыцыйны ўбор жанчын — сары — багата ўпрыгожаны вышыўкамі, у залежнасці ад дастатку — залатымі, сярэбранымі або шаўковымі. У беднейшых гэтае сары з простай тканіны, на якой узоры выкананы спосабам набойкі. Сялянкі любяць размалёўваць сваю хату сухімі фарбамі. Звычайная арба або рэчы хатняга ўжытку багата распісаны markрознымі ўзорамі. Гэтая любоў да фарбы, да маляўнічых узораў адчуваецца і ў адносінах да хатняй жывёлы. Індыец упрыгожвае бакі і хрыбет свайго рабочага буйвала. Рогі жывёліны звычайна афарбоўваюцца ў чырвоную або залацістую, бронзавую фарбу. Нават у працавікоў-сланоў любоўна размаляваны яркімі кветкамі бакі, шырокія, як лапухі, вушы, лоб. На падрэзаных біўнях красуюцца да бляску начышчаныя медзяныя кольцы.

Гэтыя прыклады — а іх можна прыводзіць без канца — гавораць аб глыбокім пачуцці прыгажосці, аб імкненні да харaства, якія так уласцівы індыйцу. Індыйскі працоўны любіць яркія народныя відовішчы, карнавалы, народныя шэсці, розныя абрады, звязаныя з тымі ці іншымі бытавымі падзеямі. Нам давялося бачыць вясельны «поезд» жаніха, які накіроўваўся да сваёй нявесты. Гэта было познім вечарам. Уся вуліца была запруджана вясельнай калонай, пасярэдзіне якой паволі пасоўвалася нешта падобнае на феерычную каляснiцу, запрэжаную парай сярэбраных лебедзяў. Гэта быў звычайны грузавік, спецыяльна дэкарыраваны гірляндамі, кветкамі і сярэбранай фольгай. На ілюмінаваным троне важна сядзеў жаніх у беласнежным адзенні і такой жа чалме. Па абодвух баках вуліцы працягнуліся шарэнгі факельшчыкаў, якія высока над галовамі неслі звычайныя лямпы напальвання, дэкарыраваныя пад факелы. Уперадзе ішлі два аркестры: адзін з нацыянальнымі інструментамі, другі звычайны ваенны з медзянымі трубамі, барабанамі і літаўрамі. Капельмайстар, апранены паверх уніформы ў леапардаву шкуру, выступаў так паважна, урачыста, што здавалася, нібы ён выконваў больш высокую місію, чымся сам жаніх. А трэба было бачыць,

як стараліся музыканты, намагаючыся ва ўмельстве і спрыце перасягнуць саміх сябе. Палачкі-біткі ў руках барабаншчыкаў выраблялі такія адчайныя піруэты, што здавалася: вось-вось — і яны вырвуцца з рук і метэорамі ўзляцяць пад самы месяц... А навакол весяліліся, скакалі, спявалі песні.

Нам даводзілася бачыць і іншыя працэсіі, звязаныя з бытавымі падзеямі. І там песні і музыка займалі сваё пачэснае месца, адпавядаючы, зразумела, таму ці іншаму моманту.

Разнастайныя і каларытныя індыйскія песні, у якіх знайшлі сваё адлюстраванне багатая гісторыя народа, геаграфічныя асаблівасці паасобных раёнаў, складанасць духоўнага свету, вераванняў, звычаяў і традыцый народа. Своеасаблівыя індыйскія скокі. У іх знаходзім самыя розныя матывы: працоўныя, міфічныя, любоўныя і г. д. Танцы вылучаюцца дакладнасцю рытму, параўнальнай павольнасцю рухаў, тонкай пластычнай ігрой рук і пальцаў. Праўда, часам павольнасць перабіваецца імклівым рухам і яшчэ больш імклівай чачоткай, якая адбіваецца не падэшвамі ботаў ці чаравікаў, як гэта бывае ў нас, а дасягаецца спецыяльнымі бразготкамі, якія надзяваюцца на ногі. Скачуць босымі. Босымі скачуць на сцэне і прафесіянальныя танцоўшчыцы. Для пэўнага эфекту падэшвы ног і далоні рук фарбуюцца ў чырвоны колер. У некалькіх радках не апішаш усіх асаблівасцей індыйскіх скокаў. Яны розныя ў розных штатах і акругах, у розных народаў і народнасцей, што насяляюць Індыю. Часам гэтыя скокі ўключаюць у сябе асобныя акрабатычныя элементы. Асобныя скокі прыстасоўваюцца да тых ці іншых бытавых падзей або да пэўных свят.

Мы не можам абысці маўчаннем працу індыйскіх умельцаў у шматлікіх рамёствах. Тысячы і тысячы людзей займаюцца вырабам тканін, высокамастацкай вышыўкай золатам, серабром і шоўкам, узорнай чаканкай па бронзе, медзі і латуні, разьбярствам па косці, дрэву і каменю, апрацоўкай індыйскіх самацветаў і іншымі ювелірнымі работамі. Шмат якія з гэтых вырабаў з'яўляюцца сапраўднымі шэдэўрамі мастацтва і гавораць аб таленавітасці народа, аб яго высокіх здольнасцях і мастацкім гусце.

Усё гэта прыгожае, усе гэтыя элементы хараства, якія арганічна звязаны з жыццём і побытам народа, яго багатая мастацкая творчасць, яго духоўны свет і засталіся тым адзіным, да чаго не маглі дацягнуцца прагныя лапы англійскіх каланізатараў. Нягледзячы на стагоддзі каланіяльнага прыгнёту, нягледзячы на лютую грабежніцкую палітыку захопнікаў, народ захаваў і

развіў далей сваю самабытную культуру, сваё жывое творчае слова, сваё мастацтва.

У рэспубліканскіх установах, цэнтральных і мясцовых, асноўнай дзяржаўнай мовай фактычна з'яўляецца англійская. Прычына гэтага ў тым, што ў школах пры англічанах, асабліва ў сярэдніх і вышэйшых, усё навучанне праводзілася на англійскай мове. Англічане ігнаравалі мясцовыя мовы, нават такія найбольш пашыраныя, як хіндзі, урду, бенгальская і іншыя. Ужо робяцца першыя спробы пераходу паасобных устаноў на найбольш пашыраную нацыянальную мову*.

Каланіялізм паклаў свой адмоўны адбітак на планіроўку гарадоў. Амаль усе буйнейшыя гарады, як Бамбей, Мадрас, Калькута і іншыя, рэзка падзяляюцца на дзве часткі — еўрапейскую і азіяцкую. Еўрапейская частка звычайна вылучаецца прыгожымі, утульнымі дамамі, добраўпарадкаванымі шырокімі вуліцамі і плошчамі. Яна і размяшчаецца, як правіла, у лепшых, найбольш зручных і жывапісных мясцінах. Зусім адваротны выгляд мае азіяцкая частка горада. Тут цеснata, лабірынт вузенькіх брудных вуліц, страшэнная антысанітарыя. Так жа рэзка адрозніваецца і Новы Дэлі ад Старога Дэлі (які называецца яшчэ Шахджэханабадам), хаця стаяць яны побач і, па сутнасці, зліваюцца адзін з другім. На крывых і вузкіх вулачках і завулках Старога Дэлі часам цяжка размінуцца дзвюм арбам. Нялёгка прабірацца і па галоўнай вуліцы Чандычку, на якой ад раніцы і да позняй ночы стаіць суцэльны гармідар. Дзіву даешся, як удаецца прадзірацца старэнькаму трамваю праз натоўпы людзей, якія тут жа жывуць, тут жа працуюць у шматлікіх майстэрнях, гандлююць у невялічкіх магазінах і крамках, а то і проста на вуліцы, раскладаючы свае тавары на вышчарбленых тратуарах і бруку, нават на трамвайных рэйках. Трамвай не так ужо часта ходзіць, каб быць вялікай перашкодай занятаму справай чалавеку. Дадайце да гэтага галасы жабракоў і калек, мітуслівы рух рыкшаў, парыпванне гружаных арбаў, перазвон малаткоў у чаканшчыкаў, удары званоў у малельнях, задумлівае мычанне каровы, якая меланхалічна перабіраецца праз вуліцу, крыкі і сваркі гандляроў — і вы ўявіце карціну старадэлійскай вуліцы. Тут жа, прыладзіўшыся дзе-небудзь да прылаўка або ў шчыліне паміж крамкамі, спяць, адпачываюць людзі. А на дэлійскіх ускраінах вы сустрэнеце звычайныя зямлянкі, халупіны з фанеры, з бамбуку, абцягненага

* Згодна з пастановай індыйскага ўрада, з 1965 года асноўнай дзяржаўнай мовай у краіне стала мова хіндзі.

рагожкамі, старымі мяшкамі, кавалкамі ржавай бляхі. Сотні і сотні людзей не маюць і гэтых прытулкаў. Па начах вы можаце ўбачыць, як бяздомныя людзі, часам цэлымі сем'ямі, спяць на зямлі пад сценамі агароджы, на тратуарах, у парках і скверах.

Гэта ўсё цяжкія сляды каланіялізму, якія яшчэ не пераадолены да канца індыйскім народам. Гэтыя сляды відаць яшчэ і на будаўніцтвах, малых і буйных. Мы назіралі за пабудовай некалькіх шматпавярховых дамоў. Мы не бачылі ніводнага пад'ёмнага крана, ніводнага нават больш простага механізма. Адзінымі інструментамі, якімі карысталіся рабочыя, былі звычайны кетмень і плецены кошык. Кетменем накопвалі зямлю ў кошыкі. На галовах пераносілі кошыкі з катлавана. Кошыкамі пераносілі цэглу, вапну, каменне, цэмент, гравій. На галовах пераносіліся і арматурнае жалеза, каменныя пліты, асобныя металічныя дэталі. Слупамі высокага рыштавання былі бамбукавыя ствалы, звязаныя звычайнымі вяроўкамі. Насцілам у гэтых рыштаваннях, па якіх хадзілі рабочыя, былі хісткія пучкі тонкіх бамбукавых жэрдак. Мармуровыя пліты для падлог і абліцоўкі сцен шліфаваліся і паліраваліся ўручную. Бетонную кладку рабочыя палівалі вадой з бурдзюкоў, якія прыносілі на сабе з вадаёма. На будаўніцтве працавалі і жанчыны. Некаторыя з іх былі з малымі дзецьмі. Маці працавалі, а дзеці поркаліся тут жа, на санцапёку, на зямлі, на будаўнічым смецці, бо дзіцячых садоў або ясляў няма і ў паміне.

Многія з рабочых тут жа і начавалі, прыладзіўшыся пад сценамі і захінуўшыся ў markрознае рыззё. Раніцай самі рыхтавалі бедны сняданак, пяклі танюсенькія — да празрыстасці — ляпёшкі, запраўлялі іх перцам, запівалі кубкам чаю і станавіліся на працу.

Усё, што мы назіралі, здзіўляла нас і поўніла сэрцы вострым болем за лёс людзей, за іх цяжкае жыццё, іх галечу, за ўсё тое горкае і сумнае, пра што людзі нашай савецкай зямлі забыліся даўным-даўно.

Нашымі думкамі мы абменьваліся і з некаторымі індыйцамі. Яны з болем адказвалі нам:

— А што вы загадаеце нам рабіць? Механізмаў сапраўды ў нас няма. Адкуль ім пакуль што быць, калі ў нас сотні і тысячы неадкладных патрэб, калі багата што даводзіцца пачынаць на голым месцы і, як бачыце, амаль што голымі рукамі? Пачакайце, і мы станем як след на ногі, будуць і ў нас механізмы, будзе ў нас усё, што ёсць ужо ў добрых людзей, якія раней нас развіталіся са сваім праклятым мінулым.

Мы шчыра верым, што гэтыя спадзяванні індыйцаў спраўдзяцца. Усяго сем год прайшло, як скінулі яны са сваіх плеч нявольніцкае ярмо каланіялізму. Багата зроблена народам і ўрадам Індыі па ліквідацыі каланіяльнай спадчыны. Будуюцца новыя фабрыкі і заводы. З дапамогай Савецкага Саюза індыйцы будуюць буйнейшы металургічны камбінат. Прымаюцца захады да рашучага ўздыму сельскай гаспадаркі, якой перашкаджаюць і спадчына каланіялізму, і перажыткі старой феадальшчыны. Будуюцца новыя школы і бальніцы. Распрацоўваюцца і ажыццяўляюцца планы ўздыму народнай гаспадаркі. Індыя робіць гераічныя намаганні, каб хутчэй падняць узровень жыцця, які быў бы дастойны вялікага і слаўнага індыйскага народа.

## ГОРАД ДЭЛІ

У горадзе Дэлі, як і ў іншых індыйскіх гарадах, ёсць багата старажытных помнікаў. У першую чаргу да іх трэба аднесці Чырвоны Форт, які быў пабудаваны ў 1644 годзе адным з Вялікіх Маголаў, імператарам Шах-Джэханам. Гэта цэлы ансамбль розных збудаванняў, акружаных высокай крапаснай сцяной. Да 1857 года ён з’яўляўся галоўнай рэзідэнцыяй дэлійскіх імператараў, а пасля быў крэпасцю і штаб-кватэрай войск англійскіх каланізатараў. Сваю назву форт атрымаў ад чырвонага пясчаніку, з якога ён пабудаваны.

У Чырвоным Форце багата парадных залаў, якія мелі ў свой час розныя прызначэнні. Сярод іх тронная зала, імператарская прыёмная (так званы зал Парадыз), каралеўскія купальні і іншыя. Усе гэтыя апартаменты здзіўляюць наведвальніка той шалёнай раскошай, якую дазвалялі сабе былыя дэспаты. У залах інкруставаныя мармуровыя падлогі. Сцены — той жа мармур, інкруставаны чорным каменем, серабром і золатам. Сцены нагадваюць суцэльныя карункі. У адной з залаў столь зроблена з чыстага серабра, упрыгожанага самацветамі. Глядзіш на ўсё гэта і здзіўляешся ў першую чаргу таму незвычайнаму майстэрству тысяч і тысяч безыменных умельцаў, якія больш трох стагоддзяў таму назад вырэзвалі па каменю гэтыя складаныя арнаменты, без станкоў, без дакладнага інструменту рабілі філігранныя каменныя рашоткі, дзівосную інкрустацыю, незвычайныя калоны, пілястры, аркі, лёгкія ажурныя столі.

Тут жа, у Чырвоным Форце, знаходзіцца Перлавая мячэць, пабудаваная ў сямнаццатым стагоддзі імператарам Аўрангзебам

спецыяльна для прыдворных жанчын. Ёсць у Дэлі і другія помнікі, звязаныя з эпохай Вялікіх Маголаў. Да гэтых помнікаў трэба аднесці вялізную саборную мячэць, а таксама мячэці-грабніцы імператара Хумаюна і Сафдар Жанга.

Знаёмячыся з гэтымі выдатнымі архітэктурнымі помнікамі далёкага мінулага, здзіўляючыся багаццю і майстэрству іх упрыгожванняў, не забываешся на тое, што кожны камень гэтых будынкаў, кожны адмысловы ўзор з самацветамі прапах крывёю і потам тысяч і тысяч нявольнікаў-будаўнікоў. Гэта ж яны літаральна ўласнымі рукамі паліравалі і шліфавалі мармуровыя пліты, надрываліся, пераносячы вялізныя каменні, страчвалі зрок на разбярных, падобных на ювелірныя, работах. І сама эпоха, у якую ствараліся гэтыя помнікі, была крывавай. Гэта былі гады спусташальных войнаў і набегаў, калі цэлыя тэрыторыі ператвараліся часам у мёртвыя пустыні. Ды і прыход да ўлады амаль што кожнага імператара з Вялікіх Маголаў суправаджаўся звычайна патокамі крыві. У якасці прыкладу можна прывесці Аўрангзеба. Каб прыйсці да ўлады, ён пасадзіў пажыццёва ў турму свайго бацьку, імператара Шах-Джэхана. А каб пазбавіць сябе ад залішніх прэтэндэнтаў на захоплены трон, пакараў смерцю ўсіх сваіх братоў. А колькі загінула людзей, якія супраціўляліся гвалтоўнаму амусульманьванню, якое праводзіў у краіне крывавы дэспат!

З сярэдневяковых помнікаў, якія маюць навуковае і гістарычнае значэнне, асабліва цікавым з'яўляецца абсерваторыя — цэлы комплекс розных каменных, у большасці мармуровых збудаванняў, спецыяльна прызначаных для вызначэння часу, для назірання за рухам сонца, планет і зорак.

Ёсць у Дэлі архітэктурныя помнікі і больш ранняга часу. Да іх можна аднесці Вароты Ала-ад-дзіна Хільджы, пабудаваныя ў пачатку XIV стагоддзя. У ваколіцах Дэлі знаходзіцца славуты мінарэт Кутб-Мінар. Гэта прыгожая вежа, пабудаваная з чырвонага пясчаніку, мае вышыню больш 72 метраў. Вежа як бы складзена з вертыкальных пучкоў-граней, паўкруглых і вастракутных, і апаясана на розных вышынях выразанымі па каменю надпісамі. Каля чатырохсот ступенек унутры вежы вядуць на самы верх. З лесвіцы ёсць выхады і на кальцавыя балконы, адкуль наведвальніку адкрываюцца шырокія краявіды мясцовага наваколля. Пабудавана вежа ў канцы XII стагоддзя.

Побач з Кутб-Мінарам знаходзяцца руіны мячэці Кууват-уль-Іслам. На яе двары стаіць арыгінальны помнік, старэйшы за Кутб-Мінар на сем ці на дзевяць стагоддзяў. Гэта невысокі,

прыблізна метраў ля сямі, круглы жалезны слуп, увянчаны капітэллю. Мяркуюць, што гэты помнік устаноўлены прыблізна паміж трэцім стагоддзем і пачаткам пятага. З гэтым помнікам звязаны розныя паданні. У выхадныя і святочныя дні можна назіраць, як шматлікія наведвальнікі гэтых маляўнічых мясцін спрабуюць абняць старажытны жалезны слуп. Кажуць, паводле паданняў, што чалавеку, якому ўдасца абняць, абхапіць рукамі гэты помнік, будзе спадарожнічаць шчасце ў жыцці. Такіх шчасліўцаў, аднак, мы не бачылі па той простай прычыне, што слуп гэты даволі-такі таўставаты.

У самым горадзе Дэлі ёсць адзін помнік, які адносіцца да III стагоддзя да нашай эры. Гэта каменная калона Ашокі. Уладары далёкага мінулага пісалі на такіх калонах свае законы і ўказы.

Непадалёку ад гэтага помніка, паблізу ракі Джамны, знаходзіцца Раджгот — месца, якое мае шырокую папулярнасць у народзе. Тут у 1948 годзе адбылася крэмацыя выдатнага грамадскага і палітычнага дзеяча індыйскага народа Махатмы Гандзі, якога індыйцы называюць айцом сваёй нацыі. Месца крэмацыі — шырокая, агароджаная пляцоўка, пасярэдзіне якой узвышаецца квадратная бетонная пліта, заўсёды ўпрыгожаная шматлікімі вянкамі і гірляндамі з жывых кветак. Няспынны паток наведвальнікаў гаворыць аб выключнай павазе індыйцаў да памяці славутага чалавека, які адыграў выключную ролю ў нацыянальна-вызваленчай барацьбе народа супраць англійскіх захопнікаў. Каб зразумець сапраўдную ролю Гандзі ў гэтай барацьбе, трэба быць добра знаёмым са складанай гісторыяй народа, з усімі асаблівасцямі яго жыцця, яго побыту, а галоўнае — з яго духоўным светам, з яго філасофіяй і рэлігіяй, з усімі яго шматвяковымі звычаямі і традыцыямі.

Мы расказалі аб старажытных будынках і помніках і найбольш папулярных мясцінах індыйскай сталіцы. Сярод збудаванняў больш пазнейшага і цяперашняга часу, акрамя будынкаў урада, вылучаюцца чыгуначны вакзал, індуісцкі храм Бірла, усеіндыйская радыёстанцыя, будынак нацыянальнай фізічнай лабараторыі, будынкі асобных каледжаў і іншыя.

У раёне старога горада размешчаны Дэлійскі ўніверсітэт. Тут навучалася ў мінулым акадэмічным годзе больш дваццаці тысяч студэнтаў, з іх каля трох з палавінай тысяч студэнтак. Асноўныя факультэты: гуманітарных, натуральных, юрыдычных, медыцынскіх навук, факультэты адукацыі (педагагічны), сельскай і лясной гаспадаркі, сацыяльных навук і тэхналогіі.

Факультэт гуманітарных навук мае аддзяленні філасофіі, гісторыі, бібліятэчных, палітычных навук і студыю афрыканазнаўства. Акрамя гэтага, факультэт мае аддзяленні розных моў: англійскай, санскрыцкай, бенгальскай, хіндзі, арабскай, персідскай і рускай. Ёсць яшчэ курсы нямецкай і італьянскай моў.

Мы былі ва ўніверсітэце на вечары студэнцкай мастацкай самадзейнасці. Юнакі і дзяўчаты выконвалі розныя народныя танцы, спявалі, дэкламавалі на розных мовах, знаёмілі нас з народнай музыкай. Мы гаварылі са студэнтамі, якія вывучаюць рускую мову. Многія з іх даволі свабодна гаварылі на нашай мове, распытвалі аб апошніх навінках літаратуры, аб студэнцкім жыцці ў нашай краіне. Бадай што кожны з іх дзяліўся з намі сваёй запаветнай марай: калі-небудзь пабываць у Маскве, на свае вочы пабачыць жыццё савецкіх людзей.

Нам даводзілася сустракацца з рознымі групамі індыйскай моладзі — студэнтамі, рабочымі, маладымі вучонымі, тэхнікамі, канструктарамі і г. д. Гэта адданыя патрыёты сваёй радзімы, якія глыбока ненавідзяць шматлікія яшчэ перажыткі каланіялізму і жадаюць як мага хутчэй пазбавіцца іх. Трэба было бачыць, з якім энтузіязмам паказвалі нам маладыя тэхнікі і вынаходцы вынікі сваёй працы на прамысловай і сельскагаспадарчай выстаўцы ў Дэлі. Тут і новыя спосабы вырабу пратэінаў, і новыя віды палепшаных перакрыццяў шасэйных дарог, і розныя ўдасканаленні ў тых ці іншых галінах вытворчасці. З вялікім захапленнем паказваў нам малады рацыяналізатар свой праект палепшанай арбы, якая з’яўляецца пакуль што асноўным транспартным сродкам на грунтавых дарогах Індыі.

— Вы не здзіўляйцеся, — гаварыў ён нам, — што я заняўся іменна арбой. Вы зразумееце мяне, калі прыгадаеце, што ў нашай рэспубліцы толькі-толькі пачынае разгортвацца свая ўласная аўтамабільная вытворчасць. Грузы ж перавозяць на арбах, і гэты транспарт такі ж, якім быў ён сотні і сотні гадоў таму назад.

Сапраўды, індыйская арба (ды, відаць, і ўсе арбы ў другіх краінах) — надзвычай цяжкае, непаваротлівае збудаванне. Каб пацягнуць яе нават пустой, патрэбны немалыя намаганні буйвалаў. Вялізныя колы, збітыя з тоўстых дошак, сяк-так трымаюцца на грубай восі. Дышаль, драбіны зроблены ледзь не з цэлых бярвенняў. Уражанне такое, што на такім возе лепш сланоў вазіць, чым перавозіць людзей і грузы. І вось малады рацыяналізатар значна аблегчыў арбу, надаў ёй больш прыемны выгляд і нават забяспечыў яе арыгінальнымі бамбукавымі рысорамі. Можа, з нашага пункту гледжання, гэта і не такая ўжо вялікая справа,

але ў індыйскіх умовах любая такая справа мае важнае значэнне ў народнай гаспадарцы.

У горадзе Дэлі няма якіх-небудзь буйных індустрыяльных прадпрыемстваў. Тут развіты паасобныя галіны лёгкай прамысловасці: швейнай, абутковай, харчовай, паліграфічнай, баваўнянай і інш.

Апісанне індыйскай гарадской вуліцы і заняткаў яе жыхароў не будзе поўным, калі не спыніцца яшчэ на адной групе людзей, якія па сваіх прафесіях вядуць вандроўны вобраз жыцця. Гэтых людзей сустрэнеце вы і ў горадзе, і ў вёсцы, і на бясконцых індыйскіх дарогах. Вось паволі ідзе з няхітрым сваім інструментам вулічны цырульнік. Налучыўшы кліента, усаджваецца з ім проста пад сцяной або на свабодным прылаўку ці зручным ганку. Глядзіш — і спрытная брытва, нясцерпна паблісківаючы на сонцы, наводзіць глянец на бараду кліента. Магчыма, брытва крыху і тупаватая, але што значаць некаторыя пакуты ў параўнанні з прыемнай гутаркай, якая так захапляе абодвух і толькі часам прыпыняецца на якую хвіліну, каб залішне жвавымі жэстамі — імі ж трэба падсабляць гутарцы — не нарабіць якой шкоды кліенту. А ўжо зацікавіліся другія і садзяцца побач. Яшчэ колькі хвілін — і дасціпны цырульнік намыльвае шчаку другому кліенту, які таксама пажадаў навесці красу на сваю бараду.

Тут жа непадалёк, дзе-небудзь пад ліхтарным слупом, важна сядзіць на кукішках сівавалосы вулічны доктар. Перад ім на посцілцы расстаўлены шматлікія слянкі з лекамі, мікстурамі, прыціраннямі і ўсялякай іншай «фармакапеяй». Адмервае, прадае, дае кансультацыі. І ўсё гэта робіць з такім велічным выглядам, што ўсумніцца ў яго леках было б проста злачынствам.

А тым часам на вуліцы раздаюцца выкрыкі:

— Каму вушы? Каму вушы?

Вы і не разберацеся спачатку, што і да чаго. Але новы выкрык: «Каму вушы залажыла?» — уносіць пэўную яснасць. Вы бачыце яшчэ аднаго прадстаўніка «медычнай прафесіі» — вулічнага вухаправа, вухавёрта. Знаходзяцца кліенты і для яго.

Трапляюцца прадстаўнікі і іншых прафесій. Вось паціху лавіруе сярод людзей смуглы вёрткі чалавек з белай чалмой на галаве, з невялічкай скрынкай на багажніку веласіпеда. Натрэніраваным вокам ён працінае натоўп. І раптам бачыш, як ён, націснуўшы, як гаворыцца, на ўсе педалі сваёй машыны, імкліва кідаецца ўбок. Яшчэ хвіліна — і які-небудзь прахожы ўжо «ўзяты на абардаж». Чалавек знайшоў свайго кліента. Ужо чуваць ціхая гутарка, настойлівыя ўгаворы:

— Бог найвышэйшы сведка! Сведкі — людзі… Не падману… Не падвяду… Усю праўду скажу: адгадаю імёны блізкіх, знаёмых. Будучыню сваю як на далоні ўбачыш!

Яшчэ вагаецца прахожы, але ўжо лішняя спасылка на Бога-сведку і шчырае жаданне пазнаёміцца са сваёй будучыняй робяць сваё — здаецца чалавек.

— Гадай… — шэпчуць бязгучна яго вусны, а вочы баяцца сустрэцца з пранiклівым позіркам вялікага астролага, хіраманта і мага, як называе сябе прадстаўнік гэтай прафесіі. Ён ужо аддае каманды:

— Рупію дай! Гэта за працу.

Рупія пакорна перасяляецца з кішэні ў кішэню.

— Цяпер дастань яшчэ рупію. Не бойся, гэта не для мяне. Трымай яе моцна ў жмені, глядзі, каб не выпала… Бог сведка, што так лепей… Цяпер на табе паперку. Бачыш, яна чыстая. Трымай яе ў другой руцэ, моцна трымай, потым пабачыш…

Пачынаюцца «магічныя» маніпуляцыі. Тут і шэпты-замаўлянні, і шматзначныя позіркі на чыстыя індыйскія нябёсы, і таемныя пасы рукамі. Праходзіць хвіліна, другая, пятая… Кліент канчаткова зачараваны.

— Ну! — рэзка ўсклiквае маг. — Глядзі цяпер у сваю паперку!

Кліент расціскае кулак, і на яго твары паступова расплываецца ўсмешка шчырага захаплення: на чыстай дагэтуль паперцы «цудадзейна» з'явіліся імёны яго блізкіх і знаёмых.

— Бачыш — Бог сведка — адгадаў! Жадаю ўсялякіх поспехаў, бывай! — і спрытны маг імкліва знікае ў натоўпе на сваім веласіпедзе.

Зачараваны кліент праводзіць яго шчаслівым позіркам. Урэшце ён успамінае пра свой другі кулак, паволі расціскае яго і здзіўляецца яшчэ больш: рупія, якую ён так моцна сціскаў у жмені, нібы растала. Чалавек ужо крыху разгублена азіраецца навакол сябе, глядзіць на зямлю, — а ці не выпала са жмені тая няшчасная рупія. Не, нідзе няма, бясследна знікла манета.

А навакол ужо рагочуць людзі, без злосці пасмейваюцца над чарговай ахвярай чарадзея. На мага не злуюць. Не ўсе вераць у яго «магію», але ўсе шчыра захапляюцца яго майстэрствам — фокуснік ён сапраўды віртуозны.

Не ўсе магі працуюць аднолькава. Не ўсе маюць веласіпеды. Вось другі астролаг усеўся на тратуары. Перад ім кліент і група гледачоў з хлапчукоў, з дарослых. Усе лагодна пасмейваюцца, сочачы за хітрымі маніпуляцыямі гадальшчыка. Дабрадушная ўсмешка блукае і на твары напаўголага мага.

Трапляюцца на вуліцы прадстаўнікі і іншых вандроўных прафесій. Пацяшаюць людзей дрэсіроўшчыкі мядзведзяў. Выступаюць са скокамі «вучоныя» малпы, якіх водзяць на ланцужку.

Часцей жа за ўсё на вуліцах з'яўляюцца так званыя заклінальнікі змей. З парай-другой круглых саламяных кошыкаў пад пахай, з невялічкім звярком-мангустам на плячы заклінальнік ідзе па вуліцы, прыглядаючыся, дзе б яму зручней спыніцца, каб даць чарговы сеанс свайго майстэрства. Ужо некалькі прахожых зацікавіліся ім. Заклінальнік выбірае больш свабодную мясцінку, садзіцца па-ўсходняму на брук, ставіць перад сабой два саламяныя кошыкі і, абвёўшы крытычным вокам натоўп, ці варта, так сказаць, пачынаць, знімае накрыўкі з кошыкаў. У кошыках, згарнуўшыся кольцамі, ляжаць дзве кобры, адны з самых ядавітых змей на зямлі. Ад іх смяротных укусаў ды ад укусаў невялічкай змяі караіт у Індыі штогод гіне некалькі тысяч чалавек.

Змеі ў кошыках ляжаць тым часам, не праяўляючы асаблівай цікавасці да ўсяго, што адбываецца навакол. Але вось заклінальнік бярэ ў рот пунгі, музычны інструмент, падобны — па крайняй меры па гуку — на нашу жалейку. Пачынаецца аднастайная цягучая мелодыя, якая зрэдку перабіваецца больш рэзкімі тонамі. Кобры пачынаюць варушыцца, высоўваюць з кошыкаў галовы, надзімаюць шыі, якія становяцца падобнымі на авальныя дыскі. Хвіліна, другая — і высунутыя на добрую трэць даўжыні тулавы кобраў стаяць вертыкальна. Галовы змей павернуты ў бок заклінальніка, замерлі ў нерухомасці, нібы яны і сапраўды зачараваны музыкай, якую ні на секунду не перапыняе заклінальнік. І вось наступае кульмінацыйны пункт сеанса: кобры як па камандзе пачынаюць пагойдвацца з боку ў бок у такт мелодыі. Паскараецца мелодыя, паскараюцца пагойдванні змей. Нібы бачыш нейкі фантастычны танец змей, які і ў сне табе не прысніцца.

Заклінальнік, выбраўшы зручны момант, спыняе музыку. У самыя адказныя моманты сеанса яму даводзіцца сачыць не толькі за сваімі «танцорамі», але і за слухачамі і гледачамі, сярод якіх заўсёды знойдуцца аматары пакарыстацца відовішчам нашармака. Кобры якую секунду, другую нібы разгублена паводзяць галовамі ва ўсе бакі. Надзьмутыя шыі танчэюць, і хутка змеі мірна ўкладваюцца на дно сваіх кошыкаў. Удзячная «аўдыторыя» сыпле медзякі — хто колькі можа. Калі плата задавольвае заклінальніка, ён выступае і «на біс» — падражнівае якую-небудзь з кобраў. Тая з лёгкім сіпеннем маланкава

ўскідваецца да рукі заклінальніка, намагаючыся ўкусіць яе. Вакол раздаюцца охі і ахі гледачоў, хоць кожны з іх ведае, што гэтыя кобры пазбаўлены сваёй страшнай зброі — у іх выдалены смертаносныя зубы.

Заклінальнік, запакаваўшы ў кошыкі сваіх выхаванцаў, гатовы ўжо рушыць далей, але сярод гледачоў знаходзяцца ахвотнікі паглядзець і другое змяінае відовішча. Тут справа ідзе ўжо аб больш высокай плаце, дзе медзякамі — «анамі» і «пайсамі»* — не адробішся. Гутарка ідзе ўжо аб рупіях (рупія па тагачаснаму курсу была роўная нашым 84 ранейшым капейкам). Калі дамоўленасць аб плаце адбылася, пачынаецца новы сеанс.

Тут ужо актыўным удзельнікам відовішча становіцца не сам гаспадар усяго «ансамбля», а яго выхаванец мангуст. Гэта невялічкі звярок ростам з нашу вавёрку, той жа прыблізна афарбоўкі, толькі хвост у яго не такі пышны, як у насельніцы нашых лясоў. Мангуст па сваёй «прафесіі» самы заядлы ад прыроды змеененавіснік, глядзець на іх, як гэта гаворыцца, раўнадушна не можа. Пакуль ішлі музычныя нумары, мангуст ляжаў натапырыўшыся, прывязаны кароткім ланцужком да нагі гаспадара.

Паколькі ў новым «атракцыёне» мангуст з'яўляецца галоўнай персонай, яму даецца параўнальная свабода — падоўжваецца ланцужок, якім ён прывязаны. Увесь «атракцыён» і складаецца з паядынку мангуста са змяёй. Не буду падрабязна апісваць гэты паядынак, для якога заклінальнік выкарыстоўвае запасных, больш танных, змей і ўдаваў (не рызыкаваць жа тут натрэніраванымі кобрамі, якія, так сказаць, і пояць і кормяць яго). Паядынак заканчваецца хутка. З незвычайным спрытам і вёрткасцю мангуст хапае мёртвай хваткай свайго ворага за «загрывак» і святкуе перамогу, якая і завяршаецца заслужаным сняданнем ці вячэрай. Гэта ўжо гледзячы па часу падзей…

Трэба сказаць, што наогул мангуст прыносіць вялізную карысць людзям, з'яўляючыся адным з самых актыўных знішчальнікаў змей, ядавітых і неядавітых. Ён не грэбуе ні тымі ні другімі.

Заклінальнікі змей з'яўляюцца ў большасці прадстаўнікамі аднаго з вандроўных плямён Індыі.

---

* Ана, ці анас, — медная манета — шаснаццатая частка індыйскай рупіі. Пайса — яшчэ больш дробная манета — дванаццатая частка аны.

## НАРОДНАЯ ГАСПАДАРКА

За час нашага знаходжання ў Дэлі мы наведалі багата розных выставак. Галоўныя з іх — гэта выстаўкі індыйскай прамысловасці, сельскай гаспадаркі, народных рамёстваў, народнай мастацкай творчасці, адукацыі і асветы.

Гэтыя выстаўкі даюць яркае ўяўленне аб тых сур'ёзных зрухах да лепшага, якія адбыліся ў эканоміцы і культуры індыйскага народа з часу вызвалення ад каланіяльнага прыгнёту. За сем год вырасла здабыча каменнага вугалю. Распрацаваны і паступова ажыццяўляецца цэлы комплекс гідразбудаванняў на індыйскіх рэках, што дасць народу новыя крыніцы энергіі і дапаможа вырашыць праблемы ірыгацыі. Толькі за апошнія пяць год на будаўніцтва электрастанцый у Індыі адпушчана сродкаў у два з палавінаю разы больш, чым за ўвесь час англійскага гаспадарання.

Вялікія намаганні робяцца, каб павялічыць у краіне здабычу ўласнай нафты. Адпускаюцца значныя сродкі на пошукі новых нафтавых радовішчаў, на будаўніцтва нафтаперагонных заводаў.

Пашыраюцца металургічныя прадпрыемствы. З дапамогаю Савецкага Саюза будуецца ў Бхілаі комплексны металургічны завод, які будзе даваць мільён трыста тысяч тон сталі ў год, прычым у будучым яго магутнасць можа быць павялічана ў два разы. Будуюцца і іншыя металургічныя заводы, прымаюцца меры да пашырэння каляровай металургіі, да павелічэння выплаўкі алюмінію.

За кароткі перыяд сваёй незалежнасці індыйскі народ здолеў арганізаваць уласную вытворчасць паравозаў і вагонаў, некаторых машын і станкоў. Ужо ёсць індыйскія дызельныя рухавікі, выпускаюцца індыйскія веласіпеды, электраматоры, трансфарматары. Будуюцца першы матацыклетны завод і вялікі шарыкападшыпнікавы завод. Засноўваецца ўласнае суднабудаўніцтва, выпускаюцца першыя індыйскія аўтамабілі і самалёты.

Багата зроблена за гэтыя гады і ў іншых галінах прамысловасці — хімічнай, баваўнянай, джутавай і харчовай. Вялікую ўвагу ўрад надае саматужнай прамысловасці, у якой заняты мільёны людзей. Пры міністэрстве вытворчасці створана ўсеіндыйскае ўпраўленне саматужнымі рамёствамі, якое прымае розныя захады, каб дапамагаць рамеснікам сыравінай, крэдытамі, збытам іх прадукцыі. Усё гэта спрыяе паляпшэнню ўмоў працы рамеснікаў, а галоўнае, вызваляе іх ад кабалы скупшчыкаў, ліхвяроў, якія раней жорстка эксплуатавалі народных умельцаў.

Каб зразумець ролю і значэнне саматужных рамёстваў у жыцці краіны, даволі прывесці такія прыклады. У 1948 годзе рамеснікаў-саматужнікаў было больш 80 працэнтаў з агульнага ліку людзей, якія працавалі ў прамысловасці. Прадукцыя ручной вытворчасці складала 60 працэнтаў прамысловай прадукцыі краіны. Зразумела, што гэты працэнт паступова паніжаецца. Ручная вытворчасць у значнай ступені тлумачылася і адсутнасцю развітай фабрычнай прамысловасці, і выключнай таннасцю рабочай сілы.

Некаторыя рамёствы, асабліва рамёствы мастацкіх вырабаў, захоўваюцца і ў сілу іншых прычын, звязаных з нацыянальнымі асаблівасцямі краіны, з густамі і звычкамі, якія з’явіліся ў выніку рэлігійных, кастава-бытавых і іншых векавых традыцый. Мы ўжо гаварылі, што індыйцу ўласцівы высокі мастацкі густ. Індыйская сялянка нясе ваду з калодзежа або з сажалкі не ў фабрычным вядры, а ў спецыяльнай меднай пасудзіне, багата ўпрыгожанай чаканным узорам. Гэта не проста пасудзіна, у якой трымаюць ваду. Яна выконвае і іншую ролю: гэта рэч, якая ўпрыгожвае хату. Часам гэта сямейная рэліквія. Тое ж можна сказаць і аб некаторых іншых рэчах бытавога ўжытку. А мужчынскія галаўныя ўборы, чалмы і турбаны! А жаночае адзенне сары, якое здзіўляе і багаццем узораў, і яркасцю фарбаў, і арыгінальнасцю самой тканіны!

Багатыя і разнастайныя вырабы індыйскіх умельцаў. Якія толькі матэрыялы не выкарыстоўваюць яны ў сваіх мастацкіх вырабах! Тут і такія дарагія матэрыялы, як золата, серабро і індыйскія самацветы. Тут і медзь, бронза, латунь, скура, шарсцяныя, шаўковыя і аксамітныя тканіны, слановая косць,套 рознае дрэва, каляровая эмаль. Народныя майстры ўжываюць у сваіх вырабах мармур, марскія ракавіны, пальмавы ліст, паўлінавае пяро, джут і нават салому. Мы бачылі мастацкія рэчы, зробленыя з панцыра чарапахі, са скуры кракадзіла, з рагоў жывёлін і нават з кобравай скуры.

Многа зроблена за сем год і ў сельскай гаспадарцы краіны. Праўда, не вырашаны яшчэ да канца асноўныя праблемы землекарыстання, яшчэ моцна адчуваюцца феадальныя і каланіяльныя перажыткі, розныя сістэмы арандатарства, наяўнасць вялікіх зямельных тэрыторый у руках памешчыкаў і магараджаў (князёў), беззямельнасць многіх сялян, агратэхнічная адсталасць гаспадаркі і г. д.

Індыйскі ўрад за апошнія гады правёў значную работу па выкупу зямлі ў памешчыкаў, па абмежаванню памераў іх ула-

данняў. Выкупленая зямля за пэўную плату прадаецца сялянам. Створаны спецыяльныя дзяржаўныя банкі, якія дапамагаюць сялянам набываць зямлю. У паасобных мясцінах зямля перайшла да сялян без выкупных плацяжоў.

Індыйскі ўрад праводзіць вялікія ірыгацыйныя работы. Аб маштабах гэтай работы сведчаць такія лічбы: за гады першай індыйскай пяцігодкі (урад увёў планавы пачатак у развіццё народнай гаспадаркі) на ірыгацыйныя работы адпушчана амаль у пяць разоў больш сродкаў, чым было затрачана на гэтую мэту англійскімі каланізатарамі за апошнюю сотню год іх гаспадарання.

Праводзіцца і цэлы рад іншых мерапрыемстваў, якія павінны садзейнічаць прагрэсу індыйскай сельскай гаспадаркі, павысіць узровень яе агратэхнікі, забяспечыць яе сучасным інвентаром і машынамі. Арганізуюцца вопытна-паказальныя дзяржаўныя фермы, паляпшаецца справа крэдытавання сельскай гаспадаркі, ажыццяўляюцца розныя планы папулярызацыі агратэхнічных ведаў.

Ужо адчуваюцца першыя поспехі ў развіцці сельскай гаспадаркі, якія выявіліся ў агульным павелічэнні сельскагаспадарчай прадукцыі, што знізіла ўвоз зярна з-за мяжы. Больш чым на тры мільёны гектараў пашырыліся за апошнія гады пасевы бавоўны.

Да важнейшых сельскагаспадарчых культур адносяцца рыс, пшаніца, проса, ячмень, кукуруза, розныя бабовыя. Прасяныя культуры — сорга, бадржа, джовар і іншыя — займаюць галоўнае месца ў сельскай гаспадарцы, даюць асноўныя прадукты для харчавання насельніцтва. З алейных культывуюцца арахіс, лён, кунжут і інш. Немалое значэнне ў сельскай гаспадарцы маюць плантацыі какосавай пальмы і асабліва цукровага трыснягу. Вялікае месца ў рацыёне насельніцтва займаюць розныя плады і фрукты, як манга, бананы, цытрусавыя, яблыкі, гова, гранаты і інш. У значных памерах культывуецца чай, ёсць невялікія кафейныя плантацыі.

Займаюцца ў Індыі культурай каўчуку, здабываюць з некаторых дрэў смалу шэлак, якая з’яўляецца каштоўнай сыравінай для лакафарбавай прамысловасці. Вялікае месца ў гаспадарцы займае культура тытуню. На поўдні краіны вырошчваюцца таксама расліны, якія выкарыстоўваюцца як розныя прыправы: чорны перац, імбір, шафран, кардамон, карыца.

Надзвычай адсталая ў Індыі такая галіна сельскай гаспадаркі, як жывёлагадоўля. І хаця індыйская карова з’яўляецца нават свяшчэннай персонай і карыстаецца агульнай павагай, карысць

ад яе надзвычай нізкая. Малака гэтая карова дае ў сярэднім крышку болей паўлітра ў дзень. І хаця гэтых кароў вельмі многа, больш, чым у любой іншай краіне свету (у 1951 годзе кароў і быкоў было больш 155 мільёнаў галоў ды буйвалаў 43 мільёны галоў), яны сваёй малочнай прадукцыяй не ўносілі чаго-небудзь істотнага ў харчовы рацыён насельніцтва. Пра мяса і казаць не прыходзіцца. Карова свяшчэнная. Рэлігійныя погляды індыйцаў, якія трымаюцца індуізму, забараняюць чалавеку забіваць жывёлу. Карова жыве да таго часу, пакуль сама не наважыцца, без якога б там ні было садзеяння чалавека, падацца «в мир иной». І вось мільёны галоў старой, ні да чаго не здатнай жывёлы блукаюць па зямлі, пагоршваюць і без таго вострую праблему кармоў, зніжаюць кармавы рацыён той жывёле, якая дае прадукцыю або працуе на полі ў якасці рабочай жывёлы.

У некаторых сектах дазваляецца ўжываць мяса, але толькі ад той жывёлы, якая была забіта адным ударам кінжала. Паколькі пакупніку цяжка бывае праверыць, колькі там было тых удараў, дык ён лічыць за лепшае не карыстацца мясам, каб быць далей ад граху. Большасць індыйскага насельніцтва мяса не спажывае. Праўда, нам даводзілася часта бачыць у індыйскіх вёсках звычайных хатніх свіней, а таксама авечак і коз, так што, відаць, мяса гэтых жывёл насельніцтвам ужываецца. Індыйская свіння не пародзістая і мала чым адрозніваецца ад сваіх дзікіх суродзічаў.

З рабочай жывёлы акрамя буйвалаў разводзяць коней, ішакоў і вярблюдаў. У паасобных месцах выкарыстоўваюцца рабочыя сланы. У Індыі яшчэ трапляюцца мясціны, дзе жывуць статкі дзікіх сланоў.

## КУЛЬТУРНАЕ БУДАЎНІЦТВА

На выстаўках, прысвечаных адукацыі і асвеце, кніжнай справе, а таксама ахове народнага здароўя, мы пазнаёміліся з сучасным станам культурнага будаўніцтва ў краіне. Каб зразумець, якія вялікія задачы стаяць перад краінай у культурным будаўніцтве, даволі прывесці такія лічбы: калі сем год таму назад індыйскі народ вызваліўся з-пад улады англійскіх каланізатараў, дык толькі восьмая прыблізна частка насельніцтва ўмела чытаць і пісаць, а сярод жанчын і таго менш — з сотні жанчын толькі дзве былі пісьменнымі. Зразумела, што такая непісьменнасць ставіць значныя перашкоды ў культурным будаўніцтве краіны, замінае весці паспяховую барацьбу з шматлікімі перажыткамі, якія пакінула напаўфеадальная і каланіяльная Індыя.

Становішча з пісьменнасцю народа, з разгортваннем справы агульнай і вышэйшай асветы, а таксама з медыцынскім абслугоўваннем насельніцтва значна палепшылася за апошнія гады. Амаль што ў два разы павялічыўся лік пісьменных, будуюцца новыя бальніцы і школы.

Па плану другой індыйскай пяцігодкі сродкі на тэхнічнае навучанне, вышэйшую адукацыю і навукова-даследчую працу павялічваюцца на 75 працэнтаў. К канцу першай пяцігодкі на тэхнічных факультэтах вышэйшых навучальных школ вучылася больш 150 тысяч студэнтаў ды больш мільёна навучалася ў тэхнічных і прафесіянальных школах. Усё гэта будзе спрыяць стварэнню ў краіне ўласных інжынерна-тэхнічных кадраў, у якіх адчуваецца вострая патрэба. Цяпер у Індыі налічваецца 31 універсітэт. Старэйшыя з іх знаходзяцца ў Бамбеі, Мадрасе і Калькуце. Заснаваны яны ў 1857 годзе і маюць даволі значныя кантынгенты студэнтаў. Так, у Калькуцкім універсітэце навучаецца больш 60 тысяч студэнтаў, з іх каля сямі тысяч студэнтак. Старэйшым універсітэтам з’яўляецца таксама Алахабадскі, заснаваны ў 1887 годзе. Каля чатырнаццаці ўніверсітэтаў адкрыты параўнальна нядаўна, у апошнія сем-дзесяць год, калі краіна была абвешчана дамініёнам, а потым дамаглася поўнай незалежнасці. Колькасць студэнтаў у кожным з гэтых універсітэтаў розная, яна хістаецца ад 3–6 тысяч да 15–25 тысяч чалавек.

Мы наведалі ў Дэлі і цэлы рад іншых выставак. Былі на выстаўцы дзіцячых малюнкаў, дасланых з многіх краін свету. Бачылі на ёй і некалькі малюнкаў нашых мінскіх дзяцей. Не памятаю ўжо, на якой выстаўцы ў некалькіх залах былі выстаўлены лялькі, якія былі сабраны з усяго свету і прадстаўлялі народныя тыпы розных краін. Сярод гэтых лялек мы знайшлі «прадстаўнікоў» амаль што ўсіх нашых савецкіх рэспублік, у тым ліку і нашай.

У Дэлі была арганізавана даволі арыгінальная выстаўка індыйскіх нацыянальных касцюмаў, якія ўжываліся ў краіне пачынаючы з пятага стагоддзя і да нашага часу. Выстаўка была часткова тэатралізавана: на сцэну выходзілі ў суправаджэнні музыкі персанажы з таго ці іншага стагоддзя: імператары, султаны, прыдворныя модніцы, махараджы і іх світа, воіны, купцы, рамеснікі і прадстаўнікі простага люду — гараджане і сяляне. Усё гэта спалучалася з пэўнымі жэстамі, мімікай, кароткімі дыялогамі і г. д. Ніводная лекцыя ці гутарка не магла даць такога поўнага і яркага ўяўлення аб неперасягнутым майстэрстве індыйскіх умельцаў — старадаўніх і цяперашніх, — як гэтая выстаўка. Былі прадэманстраваны розныя тканіны: цяжкія парчовыя з

шаўковых, залатых і сярэбраных нітак, упрыгожаныя перламі і самацветамі, тонкія шарсцяныя і шаўковыя, расшытыя разнастайнымі ўзорамі, і лёгкія, як паветра, газавыя тканіны, якія па пяшчотных пералівах фарбаў нагадвалі паўднёвае індыйскае неба ў час світання. Дэманстраваліся і розныя ўпрыгожванні ўсіх часоў. Вядома, шмат таго, што мы бачылі на гэтай выстаўцы, маглі мець у свой час багатыя, а то і казачна багатыя людзі, прадстаўнікі прыдворнай знаці, магараджы і інш. Але ўсё гэта было зроблена рукамі народных майстроў, рукамі сапраўды таленавітага народа.

Былі мы на выстаўцы і сучасных індыйскіх касцюмаў, якая мела чыста практычнае, камерцыйна-прамысловае значэнне. Прадстаўлены на ёй былі ўзоры і еўрапейскіх касцюмаў, і нацыянальна-індыйскіх, і, так сказаць, гібрыдных — індыйскіх еўрапеізаваных.

У паўночнай частцы краіны мужчыны носяць так званы шырван, што нагадвае сурдут з вузкімі рукавамі і стаячым каўняром, які цесна аблягае цела. Замест штаноў выкарыстоўваецца кавалак белай матэрыі, якой абгортваецца кожная нага паасобку. Астатняй часткай матэрыі захінаюцца сцёгны і часткова торс. Ногі абгортваюць па-рознаму. Часам робяць гэта надзвычай шчыльна, так што ствараецца ўражанне, нібы чалавек ідзе ў надзвычай вузкіх штанах. Але робяць і больш свабодна, а некаторыя мужчыны не абгортваюць кожную нагу паасобку, і тады кавалак матэрыі нагадвае кароткую спадніцу. Рабочыя, рамеснікі, сяляне замест нязручнага для працы сурдута носяць звычайную сарочку з якой-небудзь таннай матэрыі з разрэзамі па баках. Ужываюцца і звычайныя штаны або трусы, а ў паўднёвых краінах людзі абмяжоўваюцца павязкай на сцёгнах. Галаўнымі ўборамі з’яўляюцца чалма, турбан або звычайная павязка з кавалачка матэрыі.

Жаночае адзенне складаецца з кароценькай кофтачкі і сары. Сары — доўгая паласа матэрыі, якой абгортваюцца ногі, сцёгны і жывот. Канец гэтай матэрыі перакідваецца праз левае плячо, часам ім накрываецца галава. Адзенне, вядома, не ўсюды аднолькавае. Скажам, жаночыя ўборы ў Кашміры не падобны на ўборы ўраджэнак Бенгаліі, Майсура або Раджастана. А на поўдні, дзе найбольш гарачы клімат, жанчыны-сялянкі абмяжоўваюць свой туалет адной толькі спадніцай.

## ПЫТАННІ РЭЛІГІІ

У час канферэнцыі ЮНЕСКА* ў Дэлі адбываліся міжнародныя ўрачыстасці, звязаныя з 2500-годдзем існавання будызму. У Дэлі з'ехаліся буйнейшыя будысцкія дзеячы і дэлегацыі веруючых з многіх краін: Бірмы, Непала, В'етнама, Інданезіі, Кітайскай Народнай Рэспублікі і іншых. Ва ўрачыстасцях удзельнічаў і Панчэн-лама, які спецыяльна прыбыў з Лхасы. Урачыстасцям была прысвечана вялізная выстаўка. Праводзіліся мітынгі, наладжваліся так званыя сімпозіумы, сходы, на якіх заслухоўваліся шматлікія даклады аб будызме, аб яго ролі ў фарміраванні філасофіі і маралі, аб яго ўплыве на мастацтва і г. д.

Гэтыя ўрачыстасці праводзіліся ў Дэлі таму, што Індыя лічыцца радзімай будызму. Але цяпер прававерных будыстаў у Індыі мала. Кажуць, што іх менш двух мільёнаў. Будызм перайшоў у іншыя краіны, у частцы якіх ён з'яўляецца пануючай рэлігіяй.

Я закрануў рэлігійныя пытанні таму, што яны займаюць яшчэ значнае месца ў жыцці індыйскага народа, адбіваюцца на яго побыце, на яго традыцыях, на ўсіх галінах мастацтва і г. д.

Рэлігіяй большасці індыйцаў з'яўляецца індуізм. У ім знаходзім спалучэнне догматаў старажытных рэлігій брахманізму, будызму з некаторымі прымітыўнымі вераваннямі, што засталіся таксама ад далёкага мінулага (анімізм, татэмізм і г. д.). Асноўныя догматы загадваюць веруючаму задавольвацца сваім становішчам, не рабіць зла, верыць у сваё пераўвасабленне пасля смерці. А пераўвасобіўшыся, можна трапіць у лепшыя або нават у горшыя ўмовы жыцця, гэта ўжо ў залежнасці ад тваёй былой дабрадзейнасці ці грахоўнасці. Ідэалам з'яўляецца дасягненне нірваны, калі, паводле догмату, спыняецца працэс усякіх пераўвасабленняў і чалавек, пазбавіўшыся ўрэшце ад усіх пакут (а ў іх «сутнасць жыцця»), дасягае «найвышэйшага блажэнства».

Як бачым, мы сустракаемся тут са знаёмай песняй, уласцівай усім рэлігіям на зямлі.

Пантэон індуісцкіх багоў надзвычай шматлікі. На чале яго стаіць тройца: Брахма — бог-творца, Вішна — бог-ахоўнік і Шыва — бог руйнавання і тварэння. Буда ў індуізме зліўся

---

* Аўтар нарыса з'яўляўся членам беларускай дэлегацыі, якая прымала ўдзел у працы канферэнцыі ЮНЕСКА ў Дэлі ў 1956 годзе. ЮНЕСКА — міжнародная арганізацыя па пытаннях асветы, навукі і культуры.

з Вішнай, як адно з яго ўвасабленняў. За гэтымі багамі ідуць дзясяткі і дзясяткі іншых багоў і іх памочнікаў.

Акрамя ўсіх іншых багоў, індуісты абагаўляюць паасобныя рэчы — карову, малпу, раку Ганг, расліну лотас.

Сярод індуістаў існуюць яшчэ розныя групы, напрамкі, секты, як, напрыклад, джайны, сікхі і інш.

Індуізму прытрымліваюцца 250 мільёнаў чалавек насельніцтва краіны. 42 мільёны з'яўляюцца паслядоўцамі ісламу. Далей ідуць прадстаўнікі розных хрысціянскіх рэлігій, а за імі ў параўнальна невялікай колькасці будысты, зораастрыйцы (ці, як іх называюць яшчэ, парсы) і інш.

У свой час англійскія каланізатары распальвалі вострую барацьбу паміж рознымі па рэлігіі групамі насельніцтва, даводзілі яе часам да крывавых пабоішчаў, якія каштавалі тысяч чалавечых ахвяр. Яны ж прыклалі сваю руку і да падзелу былой Індыі на два дамініёны, паклаўшы ў аснову падзелу не якія-небудзь нацыянальныя, этнічныя і эканамічныя прынцыпы, а прынцып рэлігійнай прыналежнасці. У выніку засталася цяжкая спадчына гэтага падзелу: праблема бежанства, праблема Кашміра, тэрыторыі, некалі суцэльныя ў этнічных адносінах, парэзаныя па жывому целу, і г. д. Нават у апошні час свайго панавання ў Індыі англічане заставаліся вернымі асноўнаму правілу каланізатараў: падзяляй і валодай.

Сёння вы не сустрэнеце на індыйскай зямлі асаблівых праяў рэлігійнай барацьбы, рэлігійных спрэчак.

Прыналежнасць да той ці іншай рэлігіі адбіваецца, вядома, на розніцы ў пэўных пабытовых звычках і традыцыях. Відаць яна і ў розных спосабах пахавання нябожчыкаў. Вы адразу пазнаеце мусульманскія, хрысціянскія або яўрэйскія могілкі, бо кожныя з іх маюць свой спецыфічны выгляд. Ля паселішчаў індуістаў ніякіх могілак вы не знойдзеце. Індуісты спальваюць сваіх нябожчыкаў на каменных пляцоўках у спецыяльна адведзеных для гэтага на берагах рэк мясцінах масавай крэмацыі.

Гаршчэчкі-урны з прахам нябожчыкаў адвозяцца на Ганг, і іх прымаюць у свае вечныя абдымкі глыбокія воды свяшчэннай ракі і яе прытокаў. Кожны гаршчэчак-урна мае свой надпіс: гады нараджэння і смерці, імя і прозвішча нябожчыка. Гэтыя урны, як казалі нам, робяцца са спецыяльнай гліны, якая хутка размываецца вадой.

Але расказвалі нам і пра такія выпадкі, калі ў рыбацкія сеці часам трапляюць са дна ракі урны з датамі даўняга-даўняга часу.

Нам давялося на беразе ракі Джамны прысутнічаць на адным пахаванні — спальванні. Нябожчыка, загорнутага ў саван,

прынесла на насілках працэсія сваякоў, блізкіх і знаёмых. Іграла музыка, спявалі песні. Тым часам пахавальнае брацтва падрыхтавала на каменнай пляцоўцы нешта падобнае да ложа з сухіх смалістых дроў. Нябожчыка, перад тым абмытага ў рацэ, палажылі на гэтае ложа, абсыпалі духмянай крошкай сандалавага дрэва, аблажылі з бакоў пастаўленымі старчаком смалякамі. Атрымалася нешта падобнае на нізкі будан, упрыгожаны зверху гірляндамі з кветак — гваздзік.

Жалобны касцёр па звычаю падпальвае хто-небудзь са старэйшых братоў ці сыноў. У нябожчыка іх не было, і яго апошні касцёр падпаліла жонка нябожчыка, якой далі ў рукі палаючую лучыну. Касцёр разгарэўся, і ўдава адышлася прэч, да невялікай групкі жанчын, якія яе суправаджалі.

Жалобны касцёр гарыць звычайна тры гадзіны. Яго папялішча не чапаюць на працягу трох дзён. І толькі пасля гэтага тэрміну прах нябожчыка збіраюць у гаршчэчак-урну.

У парсаў свой спосаб пахавання нябожчыкаў. Яны лічаць за лепшае аддаваць іх на з’ядзенне дзікім звярам. А паколькі ва ўмовах вялікіх гарадоў, як, скажам, у Бамбеі (дзе пражывае асноўная група парсаў), дзікіх звяроў няма і заваду, нябожчыкаў заносяць на так званыя вежы маўчання і пакідаюць іх там на тры месяцы ў поўнае распараджэнне грыфам, якія цэлымі зграямі кружаць над індыйскімі гарадамі. Сумленная і сумесная праца грыфаў, індыйскага сонца, вятроў і ліўняў дасягае сваёй мэты: ад нябожчыка застаюцца адпаліраваныя костачкі. Сваякі нябожчыка змяшчаюць іх у невялічкую труну і адносяць на грамадзянскія могілкі — звычайную пуню дзе-небудзь на ўскраіне горада. Там гэтыя труны не закопваюць у зямлю, а проста складваюць штабялямі. Багатыя парсы, маючы вялікія, прасторныя кватэры, абзаводзяцца сямейным, так сказаць фамільным, склепам, пад які адводзіцца адзін з пакояў дома.

Акрамя індуістаў, мусульман, хрысціян, яўрэяў, парсаў, у Індыі трапляюцца яшчэ анімісты, прадстаўнікі розных першабытных вераванняў, якія абагаўляюць розныя з’явы прыроды.

Зразумела, што шмат якія з рэлігійных перажыткаў разам з каланіяльнымі, а таксама каставымі перажыткамі з’яўляюцца істотнымі перашкодамі ў прагрэсіўным развіцці краіны.

Індыйская канстытуцыя 1950 года адмяніла каставую няроўнасць людзей, але перажыткі гэтыя яшчэ моцныя, асабліва ў жыцці вёскі.

З іншых перажыткаў можна назваць раннія шлюбы, якія прыносяць, вядома, пэўную шкоду грамадству, маюць дрэнны

ўплыў на здароўе маладажонаў, якім, здавалася б, у самы раз лялькамі забаўляцца ці ганяць мяча па вуліцы, чым займацца мацярынскімі ці бацькоўскімі абавязкамі і клопатамі. Барацьба з гэтым перажыткам з'яўляецца адной з сур'ёзных праблем.

Тут можам мы прывесці цікавыя статыстычныя лічбы, узятыя намі з літаратуры аб Індыі. Так, у 1951 годзе ў краіне было жанатых хлапчукоў, не дасягнуўшых яшчэ чатырнаццацігадовага ўзросту, каля трох мільёнаў чалавек, а замужніх дзяўчынак таго ж узросту больш шасці мільёнаў. Таго ж узросту хлапчукоў-удаўцоў шэсцьдзясят шэсць тысяч, дзяўчынак-удоў сто трыццаць чатыры тысячы.

Урад і грамадства змагаюцца з гэтым перажыткам. Прыняты і спецыяльны закон, які забараняе шлюбы асобам, не дасягнуўшым чатырнаццацігадовага ўзросту.

## ДЖАЙПУР І АГРА

У лістападзе, выкарыстаўшы трохдзённы перапынак у працы канферэнцыі, нам давялося пабыць у двух старажытных гарадах Індыі: у Джайпуры і Агры.

Выехалі з Дэлі спецыяльным аўтобусам. З горада выбраліся перад самым усходам сонца. Як і ўсюды на поўдні, світанне (таксама як і змярканне) не бывае тут доўгім. Ранішні золак рассейваецца хутка, і неўзабаве сонца ўрачыста ўзнімаецца на чыстае, без хмурынкі, неба. Індыйскае неба не такое ўжо густа-блакітнае, як нам яно ўяўлялася раней. Справа ў тым, што зімой, калі не бывае дажджоў, паветра ў значнай ступені насычана сухім пылам. Адсюль і неба набывае бледна-блакітны колер. Гэтым жа тлумачыцца і тая дзіўная акалічнасць, што пад зімнім індыйскім сонцам дужа не загарыш, хаця яно прыпякае больш чым староанна, даводзячы тэмпературу паветра да 25–35 градусаў гарачыні. Перанасычанасць паветра пылам перашкаджае пранікненню пэўных сонечных праменняў, ад якіх залежыць звычайны загар. Іншая справа на ўзбярэжжах Бенгальскага заліва і Аравійскага мора, дзе прыморскае паветра чыстае ад пылу.

А дарога тым часам бяжыць і бяжыць, мінаючы вёскі, невялічкія гарадкі. Зрэдку трапляюцца ўзбоч дарогі невялічкія — метры на два, на тры вышынёй — конусападобныя вежы. Гэта старадаўнія, яшчэ ад часоў Магольскай імперыі, дарожныя знакі. Яны сведчаць аб тым, што і дарога наша старадаўняя. Цяпер гэта звычайнае шасэ з добрым і моцным грунтам. Паабапал растуць

высачэзныя, разгалінастыя дрэвы, якія і цяпер, зімой, не страцілі сваіх пышных зялёных убораў. А сонца, якое на світанні было такім ласкавым і лагодным, пачынае ўжо так прыпякаць, што мы ў сваім аўтобусе, нягледзячы на адчыненыя вокны, адчуваем сябе нібы ў кухоннай духоўцы.

Адразу разумеем, чаму так выгаралі і пажоўклі прыдарожныя травы. Часам трапляюцца на пясках цэлыя зараснікі сухой і калючай травы вышэй чалавечага росту. Сустракаюцца на дарозе і забалочаныя мясціны і заўсёды залітыя вадой вялікія ўчасткі. Але больш за ўсё сухіх мясцін, сям-там прарэзаных перасохлымі рэсламі дробных рачулак. У некаторых месцах на такіх руслах шасэ зусім размыта, аўтобус перабіраецца па пясчаным грунце. Гэта напамінае аб тым, што дробная рачулка ў часы летніх дажджоў ператварылася ў грозную сілу, перад якой не маглі выстаяць нават даволі моцныя дарожныя збудаванні.

Акрамя руслаў рэчак, трапляюцца і невялікія каналы. А вакол дарогі распасціраюцца бязмежныя палі. Праўда, яны не падобны на нашы. Гэта безліч невялікіх квадратных або прамавугольных участкаў зямлі, якія аддзелены адзін ад аднаго спецыяльна насыпанымі і высока ўзнятымі межамі. На частцы гэтых межаў, пакатых, спадзістых па даўжыні, зроблены невялічкія раўчукі, па якіх на ўчасткі падаецца вада. Бярэцца яна або з каналаў, калі яны ёсць паблізу, а больш за ўсё са звычайных калодзежаў. Ваду з калодзежаў бяруць старадаўнім спосабам: скураныя вёдры выцягваюць або ўручную, або пры дапамозе буйвалаў. Праблема абваднення палёў застаецца адной з самых сур’ёзных праблем сельскай гаспадаркі Індыі, і вырашыцца яна тады, калі народ будзе мець магчымасць поўнасцю механізаваць гэтую цяжкую і працаёмкую работу. Першыя крокі ў гэтай справе ўжо робяцца. Пабудаваны заводы, якія выпускаюць невялікія дызельныя рухавікі, спецыяльна прызначаныя для механізацыі ірыгацыйных работ.

Апрацоўка зямлі, як мы бачылі гэта ў час свайго падарожжа, робіцца звычайнай драўлянай сахой, запрэжанай парай буйвалаў. З’яўляюцца на індыйскай зямлі і першыя трактары, але яны, вядома, недаступныя яшчэ для дробных сельскіх гаспадарак, ды і не разгонішся з трактарам асабліва на невялічкіх участках зямлі, падзеленых высокімі межамі.

Большасць ураджаю была ўжо сабрана з палёў. Заворваліся ўчасткі з-пад струковых, з-пад арахісу. Стаялі яшчэ сям-там непрыбранымі плантацыі цукровага трыснягу, а ўжо на некаторых участках зелянела свежая рунь пшаніцы, якая з’яўляецца

тут зімовай культурай. Сеюць яе ў лістападзе–снежні, ураджай збіраюць у сакавіку–красавіку.

Індыйскія вёскі туляцца па магчымасці да рачулак, да буйных сажалак. Большасць домікаў і гаспадарчых будынкаў глінабітныя, саманныя. Мы бачылі, як рыхтуюць сяляне гліну для сваіх будынкаў. На роўным месцы выкопваецца глыбінёй з паўметра канава, якая апісвае поўнае кальцо. Пасярэдзіне круга, абмежаванага гэтым кальцом, укапаны слуп. Да яго ненаглуха прымацавана адным канцом драўляная перакладзіна, на другім канцы якой рухаецца, як на восі, вялізны круглы камень, дакладная копія нашага жорна. За канец перакладзіны, які выдаецца з гэтага жорна, прыпрэжана пара буйвалаў. Яны ідуць па кругу, камень коціцца па канаве, у якую падкідаюць змочаную гліну і здробненую салому. Камень перамешвае гэтую масу, размінае яе. Так робіцца будаўнічы саман.

Праязджаючы раніцай па вёсках, мы бачылі, як прачыналіся людзі, як рабілі ля калодзежаў, ля сажалак свой ранішні туалет — грунтоўныя абмыванні. Тут жа мылася бялізна, прычым гэтай справай былі заняты не толькі жанчыны, але і мужчыны.

Мы ехалі па бязлеснай мясцовасці, дзе асноўным палівам з'яўляецца кізяк. Праўда, паліва тут ужываецца не для ацяплення жылля. Цеплыні і так хапае, а ўлетку сяляне навешваюць на дзверы і невялічкія акенцы саламяныя цыноўкі, якія часта паліваюць вадой, каб захаваць у хаце хаця б бачымасць прахалоды, калі на дварэ стаіць нясцерпная гарачыня — пяцьдзясят пяць градусаў.

Кізяк патрэбны для кухонных спраў. Яго робяць жанчыны і дзеці. Мы бачылі па дарогах цэлыя караваны ішакоў, гружаных кошыкамі з кізяком. Паліва ішло на продаж у невялічкія гарады.

Траплялiся па дарозе і караваны вярблюдаў, наўючаных рознымі сельскагаспадарчымі грузамі. Трапілася аднойчы і багата ўпрыгожаная дыванамі, кветкамі арба, у якой маладажоны праўлялі сваё вясельнае вандраванне.

Праехаўшы больш двухсот кіламетраў, мы трапляем у Агру, якая размешчана на высокім беразе шырокай і мнагаводнай ракі Джамны, правага прытока Ганга. У даўнія часы, пры Вялікіх Маголах, Агра на працягу больш чым стагоддзя была сталіцай імперыі. З таго часу ў Агры і яе ваколіцах засталіся цэлыя ансамблі буйнейшых архітэктурных помнікаў: стары форт, палацы, мячэці, маўзалеі, усыпальніцы, якія на сённяшні дзень з'яўляюцца нацыянальнымі музеямі. Большасць з гэтых збудаванняў выразнай мусульманскай архітэктуры. Багата якія з гэтых помнікаў звязаны з імем імператара Акбара, раскошны маўзалей якога

знаходзіцца тут жа. Яго грабніца была ў свой час упрыгожана золатам і ўвянчана сусветна вядомым брыльянтам Кох-і-норам. Дзе цяпер тое золата і дзе той рэдкі брыльянт — ніхто дакладна не ведае. Праўда, адзін з праваднікоў робіць нясмелы намёк, што ў прапажы гэтых рэдкіх багаццяў вінаваты еўрапейцы. Мы добра ведаем, што гэта за еўрапейцы, якія на працягу стагоддзяў, акрамя жорсткай эксплуатацыі індыйскага народа, грабілі і абдзіралі яго святыні і славутыя рэліквіі старыны.

Сярод архітэктурных помнікаў, размешчаных у Агры і вакол яе, самым прыгожым і па-сапраўднаму паэтычным з'яўляецца Тадж-Махал, маўзалей, пабудаваны пятым па ліку падзішахам з Вялікіх Маголаў Шах-Джэханам. Маўзалей прызначаны быў падзішахам для пахавання сваёй любімай жонкі Мумтаз-і-Махал. Праз трыццаць сем год пасля яе смерці памёр і сам падзішах і быў таксама пахаваны ў гэтым жа маўзалеі. Маўзалей будаваўся на працягу васямнаццаці год цэлай арміяй рабочых у дваццаць тысяч чалавек. Найлепшыя майстры таго часу былі прывезены з розных мясцін Індыі, а таксама з Аравіі, Турцыі, Персіі і Ферганы, з горада Самарканда, адкуль быў родам і заснавальнік дынастыі Вялікіх Маголаў падзішах Бабур.

Тадж-Махал здзіўляе дакладнасцю і стройнасцю архітэктурных форм, выключнай лёгкасцю і ўзнёсласцю ўсяго збудавання, якое ад самага фундамента і да шпіляў пяці купалаў і чатырох стройных мінарэтаў з'яўляецца дзівосным спляценнем мармуровых карункаў. Мармуровая разьба ўпрыгожана — асабліва ў сярэдзіне ўсыпальніцы — мазаікай з серабра, золата і каляровых камянёў. У сярэдзіне ўсыпальніцы, агароджаныя ажурнай рашоткай, знаходзяцца дзве грабніцы. Сама рашотка, у аснове якой складаны раслінны арнамент, з'яўляецца непераўзыдзеным шэдэўрам разьбярскага майстэрства. Рэльефныя гірлянды кветак выразаны на грабніцах.

Усыпальніца мае 75 метраў вышыні. Перад ёю шырокі двор з вялікім басейнам і фантанамі. Бліжэй да ўваходных варот цягнуцца доўгія, вузкія басейны, абсаджаныя кіпарысамі.

Усё гэтае збудаванне настолькі прыгожае, што мы спецыяльна прыязджалі і ноччу, каб палюбавацца на яго пры месяцы. Відовішча сапраўды феерычнае. Пры падманлівым трапяткім святле месяца нібы ажываюць лёгкія белыя гмахі і імкліва выцягваюцца ўгару, насустрач цёмнаму з зеленаватым адценнем начному небу. Ледзь улоўныя водблескі святла мякка палыхаюць і пераліваюцца на гранях каменных пліт, якія, здаецца, захавалі жывую цеплыню тысяч і тысяч чалавечых рук, што некалі шлі-

фавалі іх, даводзілі да таго бляску, які мяжуе ўжо з сонечным ззяннем, з жывой сонечнай цеплынёй. Таму і жывуць стагоддзямі гэтыя казачныя гмахі і стагоддзямі будуць цешыць чалавечае вока, бо ў гэтай мармуровай сімфоніі скандэнсавана бязмежная чалавечая праца і такая ж бязмежная думка чалавека-творцы, чалавека-мастака.

З Агры мы паехалі на захад, у горад Джайпур. Мясцовасць набывала крыху іншы характар, чым на раўніннай дарозе з Дэлі ў Агру. На палях з'яўляюцца пальмы. На прыдарожных дрэвах мы ўпершыню бачым цэлыя стайкі зялёных папугаяў і іншых птах, якія характэрны для трапічнай зоны. Палявыя ўчасткі адгароджаны ад дарогі невысокай глінянай сцяной, густа-густа зарослай зверху калючымі кактусамі.

Усё часцей і часцей на палях, у хмызняковых зарасніках з'яўляюцца малпы. Яны блукаюць і па адной і невялікімі стайкамі, робячы сапраўдныя набегі на сады, палі, агароды, не грэбуючы нічым, чым толькі можна паласавацца. Розныя птушкі, грызуны, дзікія кабаны разам з малпамі наносяць вялікія страты сельскай гаспадарцы Індыі. Але з-за пэўных рэлігійных догматаў бадай што ніякай барацьбы з гэтымі шкоднікамі не праводзіцца. Ды і як ты будзеш змагацца з малпай, калі яна з'яўляецца такой жа свяшчэннай, а таму і такой недатыкальнай асобай, як і карова? Свяшчэнная карова хоць малака крыху дае, а з малпы, як з таго казла, ні малака, ні шэрсці. І вось гойсае па палях такое свяшчэннае стварэнне, латошыць боб, гарох, раскопвае арахісавыя пасевы, abломлівае пладовыя дрэвы.

Малпы жывуць не толькі ў лясах і на палях. Іх убачыце вы і ў гарадскіх кварталах. Рухавыя, вёрткія, яны бегаюць па дахах, з акрабатычным спрытам пераскокваюць з даху на дах праз нешырокую вуліцу, перабіраюцца па вадасцёкавых трубах з паверха на паверх, забіраюцца на балконы, на веранды. Убачыць каторая адчыненае акно, адразу ж падаецца «на разведку». І калі ў вас са стала ў пакоі знікла што-небудзь з ежы, вы ўжо ведаеце, што гэтую «дыверсію» ўчыніла святое стварэнне. Малпы прыносяць пэўную шкоду і помнікам старажытнасці, палацам, храмам, усім тым будынкам, на сценах якіх ёсць багатыя скульптурныя ўпрыгожванні, пазалочаныя купалы, шпілі і г. д. Такія мясціны на будынках звычайна ахутваюцца калючым дротам, каб адбіць ахвоту ў святых верхалазаў гойсаць па каштоўных скульптурах, здзіраць дарагую пазалоту.

Але мы ўхіліліся крыху ад тэмы. З другой палавіны дарогі выгляд мясцовасці пачынае рэзка мяняцца. Спачатку ўсё часцей і

часцей з’яўляюцца даволі высокія ўзгоркі, а потым дарога пачынае ісці побач з сапраўднымі ўзгоркамі. Гэта адгор’е Аравалі. Рэчышчы невялічкіх рачулак амаль усе перасохлыя. Яшчэ некалькі кіламетраў — і мы ў Джайпуры, своеасаблівым па архітэктуры і па ўсяму свайму абліччу горадзе. Дамы, арыгінальныя гарадскія сцены і вароты, грамадскія будынкі, палацы — усё гэта пабудавана з ружовага камення. Есць у Джайпуры цікавыя палацы. Сярод іх палац вятроў, арыгінальны мноствам своеасаблівых балконаў, якія ў часе ветру ўпадабляюцца эолавым арфам. Ёсць палацы мясцовага магараджы — гарадскія і загарадныя. Ёсць у горадзе добры музей, які, па сутнасці, з’яўляецца музеем усяго Раджастанскага краю. Музей заснаваны яшчэ ў 1887 годзе. У ім сабраны цікавыя экспанаты па гісторыі краю, яго геаграфіі. Ёсць багатыя матэрыялы па этнаграфіі, па мясцовай прамысловасці і рамёствах.

Сярод памятных мясцін у Джайпуры адно з самых цікавых — гэта джайпурская старажытная абсерваторыя Джай-Сінгха, пабудаваная разам з дэлійскай і іншымі трыма абсерваторыямі яшчэ ў XVI стагоддзі. Джайпурская абсерваторыя шмат у чым падобна на дэлійскую, але большая па памерах. Лічаць, што гноман* джайпурскай абсерваторыі, які з’яўляецца цэлым архітэктурным збудаваннем з лесвіцамі, пераходамі, купалам, падобным да вежы, — самае высокае сярод аналагічных збудаванняў на свеце. Зробленыя з мармуру і іншых матэрыялаў розныя інструменты, табліцы, паўсферы зорнага руху і іншыя прыстасаванні здзіўляюць сваёй выключнай дакладнасцю і акуратнасцю. Гэтыя прыстасаванні давалі магчымасць індыйскім астраномам таго часу рабіць складаныя вылічэнні руху планет і зорак. Гэтыя астраномы былі передавымі вучонымі сваёй эпохі, вопыт якіх шырока выкарыстоўваўся вучонымі і іншых краін. Некаторыя астранамічныя трактаты індыйскіх вучоных IV–VI стагоддзяў нашай эры сведчаць аб тым, што ўжо ў тыя далёкія часы індыйскі народ меў багатыя веды па астраноміі, матэматыцы, хіміі, фізіцы і медыцыне. Рад помнікаў сведчыць аб тым, што яшчэ значна раней, за цэлае тысячагоддзе да нашай эры, індыйскі народ меў ужо даволі развітую культуру.

З прамысловасці ў Джайпуры ёсць фабрыкі па ачыстцы бавоўны. Джайпурскія рамеснікі славяцца як адны з самых выдатных у Індыі чаканшчыкаў па бронзе, медзі і латуні. Іх вырабы

* Гноман — старажытны астранамічны інструмент.

вылучаюцца выключнай тонкасцю апрацоўкі, дакладнасцю і разнастайнасцю ўзораў, высокім мастацкім густам.

З Джайпура нам давялося зрабіць невялікую паездку ў горы на сланах. Не сказаць, каб мы, апынуўшыся ў ролі слановых кавалерыстаў, засталіся ў захапленні ад гэтага спосабу перасоўвання. Як на тое ліха, нашай чацвёрцы (на кожным слане ехала па чатыры чалавекі, не лічачы пагоншчыка) дастаўся самы нара-вісты слон. Увесь час ён выказваў яўныя намеры павярнуць назад і сігануць уніз з гары, таптаўся на месцы, пагрозна размахваў хобатам і злосна пачмыхваў. Няшчасныя кавалерысты, замест таго каб любавацца навакольнымі краявідамі, трывожна пазіралі на свайго скакуна, гадаючы, калі нарэшце ён схопіць хобатам за нагу або за шыю таго ці іншага пасажыра. І прымерваліся, як бы зручней пры выпадку сігануць долу. Думалі і аб тым, што будзем рабіць, калі слон надумаецца часам пайсці ў галоп, бо сланы, нягледзячы на сваю знешнюю непаваротлівасць, могуць выкідваць і такія фокусы. Вядома, каб здарылася гэта, то выгляд у нашых кавалерыстаў быў бы даволі сумны.

Але нічога такога экстраардынарнага не здарылася. Слон даставіў нас да належнага месца, пакорна стаў на калені, паставілі лесвіцу, а мы ўздыхнулі з палёгкай, адчуўшы пад нагамі надзейны грунт. Калі давялося вяртацца назад, мы спрабавалі ўсяляк адгаворвацца — «мы ўжо і пешкі сыдзем, тым больш што ўніз яно і лягчэй, не так цяжка, ды і парадкам ужо “насланяліся”».

З нашых намераў нічога, аднак, не выйшла, бо на сцэну выступілі пагоншчыкі і катэгарычна заявілі, што яны «дарма ганяць сланоў не браліся» і г. д.

Хочаш не хочаш — давялося ізноў ператварыцца на які час у кавалерыстаў і без асаблівай адвагі рушыць з гор. Сланы, аднак, ішлі спакойна, крыху, праўда, прыспешваючы крок, — ішлі якніяк уніз, а ў дадатак чакалі іх там чарговая вязка сена і іншыя слановыя ласункі і прысмакі.

Хутка мы былі ў Джайпуры, а адтуль падаліся другой дарогай назад у Дэлі, да якога было больш 300 кіламетраў.

## БЕНАРЭС І АЛАХАБАД

З больш вядомых індыйскіх гарадоў мы правялі па некалькі дзён у Бенарэсе і Алахабадзе. Ездзілі мы туды групай з пяці чалавек: трое беларусаў — Р. Кісялёў, С. Кудраўцаў і я, і двое ўкраінцаў — таварышы А. Русько і К. Літвін.

Канферэнцыя ЮНЕСКА ўжо закончыла сваю працу, дэлегаты раз’ехаліся хто дахаты, хто ў вандраванне па Індыі і па суседніх з ёй краінах — Непале, Цэйлоне і Бірме. Частка таварышаў з саюзнай і ўкраінскай дэлегацый паехала паасобнымі групамі ў Калькуту, Мадрас і Бамбей. Нашай групе намецілі паездку ў Бенарэс і Алахабад. Гэтыя паездкі не былі ўжо звычайнымі турысцкімі наведваннямі цікавых мясцін. Сумесна з мясцовымі арганізацыямі Таварыства індыйска-савецкай дружбы мы павінны былі правесці пэўную работу па пашырэнню прыязных сувязей паміж індыйскім і савецкім народамі.

З Дэлі вылецелі мы самалётам раніцай і апоўдні прызямліліся на Бенарэскім аэрадроме, кіламетрах у дваццаці ад горада.

Мы адразу адчулі, што зіма ў гэтай мясцовасці яшчэ цяплейшая, чымся ў Дэлі. Адчувалася блізкасць паўночнага тропіка. На палях часцей сустракаліся плантацыі цукровага трыснягу, больш было пальмаў. Трапляліся дрэвы, якія мы бачылі ў Індыі ўпершыню. Адно такое дрэва мы спачатку прынялі за цэлы пералесак: так багата было ствалоў, якія мы палічылі за асобныя дрэвы. Але, прыгледзеўшыся добра, мы ўбачылі, што перад намі толькі адно дрэва. Яго магутны ствол быў таўшчынёй у некалькі чалавечых абхватаў. З сукоў гэтага дрэва спускалася безліч паветраных каранёў. Некаторыя з іх ураслі ў зямлю і паступова ператварыліся ў новыя стваліны.

Пад некаторымі такімі дрэвамі на ўскраінах горада нам даводзілася бачыць мініяцюрныя алтары са статуэткамі — вобразамі тых ці іншых індуісцкіх багоў. Перад імі гарэлі свечкі, курыліся-тлелі спецыяльныя фіміямныя свечкі, якія крыху нагадвалі нашы ёлкавыя «бенгальскія агні», але яны значна танчэйшыя, гараць без полымя і даволі доўга, пускаючы танюткі струменьчык духмянага дыму. Такія своеасаблівыя алтары-каплічкі ўпрыгожаны кветкамі, стужкамі, рознымі сцяжкамі і г. д.

Трэба мець на ўвазе, што такія гарады, як Бенарэс і Алахабад, — гэта буйнейшыя рэлігійныя цэнтры індуістаў. Для прававерных індуістаў гэтыя гарады маюць такое ж значэнне, як Мекка і Медына для мусульман. У Бенарэсе паўтары тысячы індуісцкіх храмаў. І гэта не лічачы дробных капліц, малельняў і г. д.

Некаторыя з замежных дэлегатаў, якім давялося яшчэ раней за нас на кароткі час наведаць гэты горад, расказвалі нам усялякія жахі аб ім: аб зборышчах фанатыкаў на беразе Ганга, аб людзях, якія з-за рэлігійнага дурману страцілі ўсякае чалавечае падабенства, аб выключнай антысанітарыі на беразе свяшчэн-

нага абмывання. Некаторыя з гэтых дэлегатаў дагаворваліся да таго, што яны, пабыўшы ў Бенарэсе, нават расчараваліся ў сваёй прыналежнасці да чалавечага роду…

Але нам хутка давялося пераканацца, што ўсе гэтыя расказы з'яўляюцца хлуснёй, што шаноўныя турысты паспелі пабачыць толькі бераг Ганга, ды і на гэты бераг глядзелі крывым вокам, а самога горада і ўсяго таго, што робіцца ў ім і каля яго, яны зусім не бачылі і не зразумелі сапраўднай ролі Бенарэса ў сучасным жыцці краіны.

Але па парадку.

Яшчэ на аэрадроме нас гасцінна сустрэлі прадстаўнікі мясцовай грамадскасці і Таварыства індыйска-савецкай дружбы. Не абышлося без традыцыйных гірлянд кветак, якімі індыйцы сустракаюць сваіх гасцей.

Першы свой візіт мы нанеслі мэру горада пану Нагаму, у яго рэзідэнцыі. Чалавек параўнальна яшчэ маладых гадоў, рухавы, энергічны, мэр праявіў выключную гасціннасць. На гутарку з намі ён запрасіў яшчэ некалькі выдатных прадстаўнікоў горада, падрабязна пазнаёміў нас з яго прамысловасцю і рамёствамі. У горадзе развіта баваўняная, шаўковая і шкляная прамысловасць.

Гарадскія рамеснікі займаюцца вырабамі з бронзы і серабра, вырабляюць для парчовых тканін залатыя і сярэбраныя ніткі. Частка людзей займаецца таксама вырабам розных рэчаў, якія ідуць на абслугоўванне рэлігійных культаў.

Мэр аказаўся шырока эрудзіраваным чалавекам, які блізка цікавіўся пытаннямі савецкай літаратуры, мастацтва, добра ведаў індыйскую літаратуру. Ён сам быў вялікім аматарам-калекцыянерам старажытнай скульптуры і старажытнай зброі і павёў нас у свой дом паказваць свае сапраўды даволі багатыя калекцыі, аб якіх гаварыў ён з поўным веданнем справы. Тут жа мы выявілі, што ён з'яўляецца зацятым паляўнічым: на сценах параднага пакоя віселі яго трафеі — шкуры леапардаў, тыгра і вялікай дзікай кошкі. Тут жа на сцяне вісела карціна — эпізод з палявання на тыграў, у якім браў удзел наш гаспадар. Нешматлікія пакоі мэра былі абстаўлены больш чым сціпла: простая мэбля, звычайныя драўляныя ложкі, простыя, з таннай грубай тканіны, дываны-дарожкі на падлозе.

Нас вельмі чула прывітала старэнькая маці мэра, прывяла знаёміцца з намі ўнукаў. Не забыўся мэр і пачаставаць нас: у садзе быў арганізаваны чай з нязменнымі індыйскімі ласункамі — разнастайным пячэннем і ўсялякімі іншымі вырабамі з цеста, сыру, багата насычанымі рознымі фруктовымі сіропамі.

Былі і розныя арэхі, і падсмажаны арахіс, і фрукты. Здагадлівы гаспадар жартаўліва папярэдзіў нас:

— Не бойцеся, не ашукаю! Тут усё для вас спажыўнае.

Ён намякаў на некаторыя індыйскія прысмакі, якія нам былі, як гаворыцца, не пад сілу і праз якія мы траплялі часам літаральна ў «горкае» становішча. Маю на ўвазе каварны індыйскі перац, які не раз падводзіў нас.

На развітанне гасцінны гаспадар захапіўся ідэяй запрасіць нас на паляванне на тыграў:

— Джунглі ў нас недалёка, возьмем некалькі сланоў і — айда! Ну, страціце які дзень, не болей…

І ён з такім захапленнем пачаў расхвальваць нам паляванне на тыграў — і са сланоў, і з засад на дрэвах, — што ў нас, як гаворыцца, аж засмактала пад лыжачкай: вось гэта дык так… на тыграў…

Хто ў дзяцінстве не марыў пра такія прыгоды ў джунглях!

Але як бы яно там ні смактала, мы ўсе далікатна і, трэба сказаць, даволі аднадушна адмовіліся ад такога дзівоснага запрашэння. І калі гаварыць па шчырасці, прычынай нашага адмаўлення была не толькі звычайная сціпласць гасцей, а і даволі празаічная думка, што на гэтым паляванні такім адчайным паляўнічым, як мы, давялося б значна горай, чым тыграм. Хто на каго паляваў бы, ці мы на тыграў, ці наадварот, — нам было не досыць ясна. Адным словам, вырашылі мы пакінуць грозных уладароў джунгляў у спакоі. Тыгры Індыі засталіся цэлымі… Вядома, для прыліку мы гаварылі аб другіх прычынах нашага адмаўлення. Тлумачылі гэта занятасцю, недахопам часу і інш.

— Калі вы не хочаце, каб я зрабіў вам гэтую прыемнасць, тады разлічвайце на любыя другія мае паслугі. Вы хочаце праехацца па Гангу, прадастаўляю ў ваша распараджэнне мой маторны катар з усёй камандай.

Гэта прапанова была нам вельмі дарэчы. Мы па-сяброўску развіталіся з гасцінным мэрам, які і надалей не пакідаў нас сваёй увагай і дапамогай.

У той жа дзень мы сустракаліся з чытачамі гарадской публічнай бібліятэкі. І госці і гаспадары, пазнімаўшы абутак, размясціліся проста на двары, на пасланых дыванах. На сустрэчы былі музыканты. Чытачы дэкламавалі вершы на санскрыце, выступаў адзін малады паэт з Непала. Нашы таварышы спрабавалі дэкламаваць вершы ўкраінскіх і беларускіх паэтаў. Мы падарылі бібліятэцы невялічкі збор кніжак беларускіх пісьменнікаў.

Вечарам была наладжана сустрэча з прафесарамі Бенарэскага ўніверсітэта. Гэта быў своеасаблівы вечар пытанняў і адказаў.

Пытанні былі самыя разнастайныя: аб сістэме савецкай адукацыі, аб жыцці савецкіх прафесароў, аб тэхнічным навучанні, аб стыпендыях, аб падрыхтоўцы навуковых кадраў і г. д. і да т. п.

Наступным днём былі мы на спецыяльнай урачыстасці ва ўніверсітэце, дзе адзначалі і ўзнагароджвалі падарункамі (кніжкамі) лепшых студэнтаў. Адкрываў урачыстасць спікер мясцовай палаты парламента штата. Уручылі і нам такія ж самыя падарункі. Гэтыя кніжкі, як нам сказалі, былі зборнікамі догмаў маралі. На жаль, мы так і не пазнаёміліся са зместам гэтых кніжак, бо надрукаваны яны на мове хіндзі. Студэнцкія ўрачыстасці закончыліся мастацкай часткай. Тры дзяўчыны і трое юнакоў праспявалі песню аб мараках, якая па-сапраўднаму захапіла нас сваёй цудоўнай мелодыяй. Суправаджалася песня музыкай. Выступала яшчэ багата музыкаў і спевакоў. Удзельнікі ўрачыстасці прымалі нас з выключнай цеплынёй. Былі і гірлянды кветак, і нейкія пахучыя рэчывы, якімі «ўмашчалі» нашы далоні.

На працягу дня мы сустракаліся яшчэ са студэнтамі каледжа, заснаванага Гандзі, былі на спецыяльнай сустрэчы са студэнтамі ўніверсітэта. Бенарэскі ўніверсітэт заснаваны параўнальна нядаўна, у 1916 годзе. У ім каля дзевяці тысяч студэнтаў. Значная частка іх жыве ў інтэрнатах. Універсітэт мае і спецыяльныя інжынерна-тэхнічныя аддзяленні. Трэба сказаць, што Бенарэскі ўніверсітэт выгадна вылучаецца ў параўнанні, скажам, з Дэлійскім сваім размяшчэннем, забяспечанасцю добрымі будынкамі, якія займаюць тэрыторыю ў дзве квадратныя мілі. Прыгожы будынак мае ўніверсітэцкая бібліятэка. Унізе размешчаны кнігасховішчы, чытальныя залы знаходзяцца на другім паверсе, пад невялікім купалам. У бібліятэцы багата кніжак, старажытных рукапісаў і манускрыптаў. Мы папоўнілі бібліятэку і некалькімі кнігамі беларускіх аўтараў.

На ўніверсітэцкай тэрыторыі знаходзяцца таксама жылыя будынкі з кватэрамі прафесароў і выкладчыкаў. Будуецца на гэтай тэрыторыі і спецыяльны ўніверсітэцкі храм.

* * *

Мы пазнаёміліся і з самім горадам Бенарэсам, з яго достапамятнымі мясцінамі. Наведалі славуты Сарнат, своеасаблівы запаведнік, які знаходзіцца на ўскраіне горада. Тут стаіць будыйскі храм, адзін з першых будыйскіх храмаў, пабудаваных у Індыі. Тут і дрэва, на месцы якога, паводле паданняў, выступаў з сваёй першай пропаведдзю Буда. Побач, непадалёк, вежапа-

добныя «ступы» — грабніцы будыйскіх прапаведнікаў. Тут жа вялізныя руіны старажытных храмаў, рэшткі калоны Ашокі, ёмістая сажалка, у якой цвітуць свяшчэнныя лотасы. Яны вельмі падобны — і лістамі, і кветкамі — на нашы вадзяныя лілії, толькі крыху большага памеру і рознага колеру: белага, ружовага, блакітнага, жоўтага. У спецыяльнай вальеры пасвяцца на лужку казулі і плямістыя алені.

Зняўшы абутак, заходзім у храм. У ім пуставата. Сцены пакрыты фрэскамі, якія малююць розныя эпізоды з жыцця Буды. Адна са сцен поўнасцю занята фрэскай, якая паказвае Буду ў нірване. Ля задняй сцяны скупавата задрапіраваны алтар. На ім паясная статуя Буды, букеты і гірлянды кветак, гарэць звычайныя і фіміямныя свечкі. З малельшчыкаў у храме толькі адзін. На падлозе ляжыць, распасцёршыся ніцма і выцягнуўшы ўперад злучаныя ў далонях рукі, тыбецкі манах-пілігрым. Вось ён паволі ўстае, падыходзіць да алтара, запальвае свечкі і, пастаяўшы яшчэ з паўхвіліны ў малітоўнай позе, ідзе да выхаду. У выхадзе-калідоры вісіць вялізны звон. Перад ім падвешана гарызантальна на дзвюх вяроўках вялікае драўлянае біла. Малельшчык, выходзячы, робіць гэтым білам адзін удар у звон.

Праз колькі хвілін заходзіць другі малельшчык, таксама манах-пілігрым. Але па адзенню, па ўсім сваім абліччы ён зусім непадобны на свайго папярэдніка з Тыбета. Жоўты хітон не прыкрывае правага пляча і рук. На голых руках чорныя ажурныя пальчаткі. Калі пілігрым выйшаў з храма, мы запыталіся, з якой ён краіны. Ён адказаў, што з Камбоджы. Даведаўшыся, што мы савецкія людзі, выказаў шчырае захапленне: «Я ўпершыню бачу савецкіх людзей, я толькі чуў, што людзі вашай краіны — вельмі добрыя людзі».

Мясцовых малельшчыкаў амаль што не відаць у гэтым храме. Яны ў большасці індуісты, для іх паслуг храмы і малельні ў самім горадзе.

* * *

Наведалі мы археалагічны музей, які знаходзіцца тут жа, у запаведніку. У ім сабраны багацейшыя калекцыі старажытных скульптур. Некаторыя з іх маюць больш чым двухтысячагадовую даўнасць. Сярод іх знаходзіцца тут і славутая львіная капітэль, малюнак з якой узяты ў аснову сучаснага дзяржаўнага герба Рэспублікі Індыя.

Непадалёк ад Сарната мы выпадкова трапілі на заняткі ў адну пачатковую школу. На невялікай пляцоўцы побач з разга-

лістымі дрэвамі сядзелі проста на зямлі бенарэскія школьнікі, размясціўшыся больш-менш правільнымі радамі. У руках іх былі грыфельныя дошкі, грыфелі, яны старанна выпісвалі літары, словы. Вучні былі зусім маленькія. Трэба сказаць, што ў Індыі ў пачатковую школу дзяцей пасылаюць з пяці-шасцігадовага ўзросту.

Сярод дзяцей праходжваўся настаўнік, рабіў заўвагі, выпісваў прыклады на класнай дошцы. Наша раптоўнае з'яўленне некалькі парушыла наладжаны распарадак, і мы, пажадаўшы настаўніку і яго малым выхаванцам добрых поспехаў, пакінулі гэтую школу, якая не ведае ні сцен, ні даху, ні лавак і не клапоціцца пра паліва на зіму.

І хаця індыйскае сонца і кампенсавала да пэўнай ступені востры недахоп у школьных будынках, усё ж хацелася б бачыць гэтых маленькіх і слаўных бенарэсцаў у больш зручных для вучобы ўмовах.

Багата падобных школ бачылі мы і ў іншых паселішчах Індыі.

* * *

Вуліцы Бенарэса такія ж, як і ў іншых індыйскіх гарадах. І толькі ў раёне так званага базару яны ператвараюцца літаральна ў зігзагападобныя шчыліны, у якіх цяжка размінуцца тром-чатыром чалавекам. Ніякаму транспарту тут не прайсці, сюды не забіраюцца нават рыкшы-веласіпедысты. І хаця дамы тут зусім невысокія — у два, тры паверхі, — сюды слаба дасягае сонца, і ў гэтых цяснінах пануе паўзмрок. Цесната тут страшэнная. Крамы, майстэрні, розныя малельні нібы спрасаваны ў адно цэлае, у нешта падобнае на катакомбы ці на нейкую дзікую фантасмагорыю. Хутчэй выбіраемся з гэтых цяснін на больш прасторную вуліцу, каб дыхнуць свежым паветрам і сустрэцца з сонцам, з якім мы ўжо асвойталіся, прызвычаіліся да яго спякоты.

Раніцай аднаго дня мы паехалі на Ганг. Калі першыя промні сонца пазалацілі гарадскія вежы і купалы шматлікіх храмаў, мы былі ўжо на рацэ ў маторным катары, які нам гасцінна даў мэр. Катар абслугоўвалі два матросы.

Мы некалькі раз праехалі паўз гарадскі бераг. Бенарэс надзвычай прыгожа выглядаў з боку ракі. Тут як бы парадны яго фасад, з найлепшымі дамамі, найбольш прыгожымі храмамі, вежамі і іншымі будынкамі. Круты бераг тэрасамі спускаецца да самай вады і нібы спецыяльна прыстасаваны для абслугоўвання

шматтысячных мас веруючых, пілігрымаў. Тут шмат зручных лесвіц-сходняў, спецыяльных пляцовак. Безліч розных прычалаў, чоўнаў, вялікіх і малых. Высяцца шырокія парасоны, пад якімі слабейшыя пілігрымы ратуюцца ад спёкі.

Як акінуць вокам — усюды тоўпяцца людзі: сядзяць на пляцоўках і сходнях, на імправізаваных прычалах з дошак і бамбукавых слупоў, на шматлікіх чоўнах. Адны вядуць паміж сабою ціхія гутаркі, другія, злажыўшы малітоўна рукі, сядзяць, не зварухнуцца, аддаўшыся малітвам. Багата пілігрымаў моляцца, стоячы па пояс у вадзе. У ваду заходзяць у адзенні.

Гэта адбываецца рытуал свяшчэннага абмывання.

А на беразе, на сходнях, на пляцоўках і проста на каменных тумбах размясціліся шматлікія жабракі, калекі. Тут жа ідзе гандаль markdown рознымі амулетамі, кветкамі, свечкамі і рознымі іншымі рэчамі рэлігійнага ўжытку. Сям-там рыхтуюцца да правядзення рытуалу крэмацыі, якая і адбываецца тут жа, ля самай вады, на спецыяльна адведзеных пляцоўках. І ўсюды снуюць несціханыя разносчыкі пітной вады, чаю, розных народных прысмакаў.

Ганг — свяшчэнная рака. Запаветная мара кожнага прававеднага індуіста — пабываць на яго берагах, акунуцца ў яго воды. А калі надыходзіць старасць, калі адчувае чалавек набліжэнне свайго апошняга дня, ён намагаецца дабрацца да Ганга, каб памерці на яго берагах. І дабіраюцца, і паміраюць, і хаваюць іх за кошт тых медзякоў, якія скідаюць прахожыя на прыкрытае посцілкай цела нябожчыкаў. Грошы патрэбны на набыццё дроў для крэмацыі. Тых, хто памёр на беразе Ганга, веруючыя лічаць шчаслiўцамі.

Па-рознаму трактуюць людзі чалавечае шчасце…

І тут жа, на беразе, бачыш тых, хто да гэтага шчасця прыходзіць па-іншаму, відаць, па-новаму. Сярод пілігрымаў, якія адразу вылучаюцца сваім выглядам, мы заўважаем і групы моладзі. Гэта мясцовыя студэнты, наведвальнікі шматлікіх каледжаў. Яны таксама акунаюцца ў ваду, але робяць гэта зусім інакш, без таго маўклівага малітоўнага сузірання свяшчэнных вод, як гэта робяць пілігрымы. Яны спускаюцца ў ваду ў трусах, мыюцца, чысцяць зубы. Выбраўшыся на бераг, робяць фізкультурную зарадку. Гэта звычайнае ранішняе купанне, а не святое абмыванне. Яны трымаюцца асобна ад пілігрымаў. Праўда, яны робяць усё ціха, без гучнага пляскання ў вадзе, без шуму і гаму, каб не парушыць пэўнага парадку гэтага месца, не абразіць пачуццяў веруючых.

Здаецца, што стары Ганг, зірнуўшы на моладзь, і сам пачынае маладзець. Глыбокі, шырокі, ён імкліва імчыць свае воды міма

гарадскіх берагоў, сям-там ускіпае пеністымі вірамі, злёгку пагойдвае човен на сваіх хвалях. У сонечных струменях гарэзна купаюцца, гуляюць вялізныя дэльфіны. Не заўсёды Ганг такі мірны і лагодны, як сягоння. Яго сілу, часам лютую, бязлітасную, добра ведае горад. Аб гэтым сведчаць белыя гарызантальныя палосы, выведзеныя фарбай на некаторых дамах на ўзроўні другіх і трэціх паверхаў. Гэта памяткі аб вялікай паводцы, якая не так даўно нарабіла багата шкоды гораду, затапіўшы асобныя раёны, зруйнаваўшы багата будынкаў. Разгневаны Ганг, забыўшыся на свае свяшчэнныя абавязкі, падмыў і кульнуў з берага цэлы храм. І да гэтага часу стаіць старчаком у вадзе купал гэтага храма.

Каб крыху ўціхамірыць Ганг і захаваць ад размывання гарадскі бераг, у паасобных месцах уздоўж берага забіваюцца ў грунт металічныя шпунты, якія забяспечаць паасобныя, больш важныя ўчасткі ад небяспекі падмывання.

Ганг — прыгожая паўнаводная рака. Доўга мы любаваліся ёю, развітваючыся з Бенарэсам, гэтым арыгінальным, цікавым горадам. Гэта не толькі рэлігійны цэнтр, не толькі «свяшчэнны» горад. Бенарэс з’яўляецца і вялікім культурным цэнтрам краіны. Яго ўніверсітэт, яго каледжы рыхтуюць тыя шматлікія нацыянальныя кадры, якія дапамогуць народу хутчэй пазбыцца прыкрых ценяў мінулага.

* * *

З Бенарэса мы паехалі поездам у Алахабад. Індыйскія паязды крыху адрозніваюцца па свайму выгляду ад нашых. Вокны ў вагонах нізенькія. Купэ ізаляваны адно ад другога. Кожнае купэ мае свой асобны ўваход знадворку, так што ў часе руху поезда вы не зможаце ні прайсціся па вагону, ні тым больш трапіць у суседнія вагоны.

На кожнай станцыі тая ж самая мітусня, якая ўласціва вакзалам усяго свету. Але ёсць і свае асаблівасці. Гучна выкрыкваюць хлапчукі-разносчыкі словы: «паны», «паны». Спачатку мы не разумелі, да каго стасуюцца гэтыя словы. Аказваецца, паны — назва бетэлю (пахучыя лісты адной расліны разам з іншымі вострымі спецыямі), які любяць жаваць індыйцы. Багата на перонах разносчыкаў звычайнай пітной вады, а таксама чаю, кофе, якія разносяцца ў пасудзінах, крыху падобных на нашы самавары. У кожнага разносчыка гэтых напіткаў ёсць яшчэ па кошыку, поўнаму невялікіх гліняных пасудзінак, падобных на мініяцюрныя вазоны для кветак. Гэта кубкі аднаразовага карыс-

тання. Спажывец выпівае ваду ці чай і кідае долу пасудзіну, якая, зразумела, тут жа рассыпаецца на кавалкі. Вытворчасцю гэтых кубкаў, век якіх надзвычай кароткі, займаецца вялікая колькасць індыйскіх ганчароў. Зразумела, што такі спосаб ужывання гэтай пасуды вельмі гігіенічны.

Горад Алахабад, як і Бенарэс, лічыцца таксама адным з рэлігійных цэнтраў індуістаў. Ён стаіць на сутоцы дзвюх рэк — Ганга і яго прытока Джамны. Гэтая сутока і лічыцца, як берагі Ганга ў Бенарэсе, адным з самых свяшчэнных месц. Тут мітусіцца штодня цэлая флатылія чоўнаў з пілігрымамі і манахамі. Асобныя чоўны са жрацамі і ўпрыгожанымі алтарамі розных багоў паволі прабіраюцца сярод усёй гэтай флатыліі. Наладжваюцца маленні, збіраецца пэўная даніна з веруючых. Разносяцца над прасторамі вады выклікі малітваў, заклінанні. Гарачае паветра насычана тут сандалавым пахам курыльных свечак. У самім горадзе вы не заўважыце, аднак, асаблівых праяў яго рэлігійнай ролі і значэння.

Па колькасці насельніцтва Алахабад мала чым адрозніваецца ад Бенарэса. Кожны з іх мае менш чым па трыста тысяч жыхароў. Алахабад не падобны на Бенарэс па свайму знешняму выгляду. За выключэннем самога цэнтра, размешчаны ён больш прасторна, мае шмат зеляніны. Ёсць у ім вялікі парк, заснаваны яшчэ ўнукам Акбара. Да помнікаў старажытнасці адносіцца форт Акбара, пабудаваны на самым беразе сутокі, дзе мутныя жаўтаватыя воды Джамны зліваюцца з больш празрыстымі водамі Ганга. З другіх помнікаў можна назваць тры вялізныя ўсыпальніцы-маўзалеі нашчадкаў Акбара.

Але не помнікі старажытнасці, не свяшчэнныя месцы ствараюць сучаснае аблічча горада, які па сённяшні дзень з’яўляецца адным з культурных і адміністрацыйных цэнтраў краіны. У ім адзін са старэйшых універсітэтаў Індыі, багата розных каледжаў, школ, клубаў, розных аб’яднанняў творчай інтэлігенцыі, вышэйшы суд правінцыі і г. д.

З выключнай гасціннасцю сустракалі нас прадстаўнікі мясцовай грамадскасці і студэнцкай моладзі. Раным-рана прыйшла прывітацца з намі дэлегацыя рамеснікаў і іншых працоўных горада. Людзі спяшаліся на працу, а таму і прыйшлі вельмі рана, каб пабачыць прадстаўнікоў той краіны, аб якой яны чулі толькі добрае. Багата сардэчных пажаданняў нашаму народу перадалі гэтыя простыя людзі: ткачы, ганчары, чаканшчыкі, рабочыя некаторых дробных прадпрыемстваў і рыкшы.

Асабліва расчуліла нас дэлегацыя вучняў-дзяцей, якія наведаліся да нас проста ў атэль, каб перадаць свае падарункі для

савецкіх дзяцей. Яны прынеслі з сабой спецыяльна сплецены вялізны кошык, у якім былі акуратна запакаваны падарункі. Чаго тут толькі не было: і кардонная размаляваная мадэль індыйскай хаты, і зроблены дзіцячымі рукамі гліняны гладышык з багатым арнаментам, і розныя малюнкі, і паштоўкі, і нават мініяцюрная статуэтка бога навучання. А да ўсяго гэтага па-мастацку размаляваны адрас з надпісам: «Ад каштоўнасцей Індыі — савецкім дзецям».

У нас мае ўжытак фраза: дзеці — кветкі шчасця. Індыйцы называюць сваіх дзяцей каштоўнасцямі Індыі.

Дзеці правялі ў нас каля дзвюх гадзін. Спявалі, гралі на музычных інструментах, выканалі некалькі танцаў, дэкламавалі вершы. Асабліва запомнілася нам песня, дзе паўтараліся рэфрэнам словы: прыходзьце да нас, прыходзьце! Паколькі ўсё гэта адбывалася ў агульнай зале гасцініцы, мімавольнымі гледачамі і слухачамі гэтага дзіцячага канцэрта аказаліся і замежныя турысты, сярод якіх траплялiся амерыканцы, англічане і іншыя. Яны шчыра здзіўляліся, чаму гэта да нас, савецкіх людзей, індыйскія дзеці ставяцца з такой выключнай павагай і прыязнасцю.

У Алахабадзе мы правялі багата сустрэч з рознымі групамі насельніцтва. Наведалі клубы работнікаў народнай асветы, асацыяцыі пісьменнікаў, журналістаў, вучоных-гісторыкаў. Былі спецыяльныя сустрэчы, на якія склікаліся прадстаўнікі розных груп інтэлігенцыі. Наведалі вышэйшы суд правінцыі, дзе нас знаёмілі з парадкам вядзення судовых спраў. Пабылі на судовых пасяджэннях, на якіх бачылі ўсю працэдуру і абставіны гэтых устаноў. Дарэчы, у свой час у Алахабадскім вышэйшым судзе працаваў адвакатам прэм’ер-міністр Індыі пан Джавахарлал Неру. Яго тагачасны партрэт вісіць у прасторнай бібліятэцы адвакатуры гэтага суда. Судзейскі і адвакацкі персанал выступае на афіцыйных пасяджэннях у традыцыйных чорных мантыях і белых гальштуках.

Мы наведаліся ў Алахабадзе і ў адну з індыйскіх медыцынскіх устаноў — гарадскі радзільны дом, які носіць імя Камелі Неру, пакойнай жонкі прэм’ер-міністра (яна памерла ў 1936 годзе). Гэтая ўстанова зрабіла на нас прыемнае ўражанне. Мы наведалі ўсе палаты, хірургічнае і амбулаторнае аддзяленні, гаспадарчы сектар бальніцы і г. д. Урачы, сёстры са шчырым захапленнем гаварылі нам, што большасць медыцынскага абсталявання і інструментаў — індыйскага паходжання. У палатах усюды панавала чысціня, багата было паветра і сонца. Нам паказалі і самых юных грамадзян Індыі, якія толькі што нарадзіліся ў сценах

гэтага дома. Мясцовыя газеты, якія падрабязна і прыязна асвятлялі кожны наш крок, пісалі наступным днём, што нам вельмі спадабаліся самыя маленькія па ўзросту «каштоўнасці Індыі».

У гэтым доме мы пазнаёміліся з сістэмай аплаты за карыстанне лячэбнай установай. Адны палаты былі бясплатнымі. Праўда, на стале пасярэдзіне такіх палат стаялі скарбонкі, у якія кліенткі маглі, калі яны мелі на гэта магчымасць, кідаць тую ці іншую манету, гледзячы па свайму дастатку. Другая катэгорыя палат была напаўплатнай — за суткі знаходжання ў такой палаце трэба было плаціць 3 рупіі і 8 ан. І трэцяя катэгорыя — платная. Тут за суткі плацілі 8 рупій. Але трэба сказаць, што асаблівай розніцы паміж палатамі — у абсталяванні, у бялізне, у абслугоўванні — мы не знайшлі.

Імя Камеля ў перакладзе з санскрыту азначае лотас. Усе арнаментальныя ўпрыгожванні бальніцы, роспісы на сценах, разьба на лесвічных поручнях, архітэктурнае афармленне фантана перад бальніцай маюць у аснове сваёй лотас.

Мы пажадалі медыкам гэтай установы добрых поспехаў у іх высакароднай працы, а кліенткам — добрага здароўя і светлага мацярынскага шчасця.

На развітанне Таварыства індыйска-савецкай дружбы наладзіла нам урачысты прыём, які прайшоў у выключна прыязнай і таварыскай атмасферы. Мы надоўга захаваем у памяці прозвішча адваката пана Сарана, адданага патрыёта свайго горада. З вялікай гасціннасцю ён сустракаў і праводзіў нас, клапаціўся, каб мы былі пастаўлены ў самыя спрыяльныя ўмовы і ў сэнсе атэльнага абслугоўвання, і магчымасці наведаць усе дастапамятныя мясціны горада, і забеспячэння транспартам (у Алахабадзе таксі няма, прыватных машын мала) і г. д.

Назаўтра раніцай нас праводзіла на вакзал і клапатліва пасадзіла ў вагон вялікая група нашых сапраўдных сяброў, прадстаўнікоў розных груп грамадства. Былі тут і нашы маленькія сябры — дзеці горада Алахабада.

Праз дванаццаць гадзін мы прыехалі ў Дэлі. Адтуль самалётам вылецелі ў Бамбей, вялікі прамысловы і партовы горад на беразе Аравійскага мора. У гэтым горадзе мы пражылі тры дні, чакаючы месц на самалёт, каб падацца ў дарогу на Радзіму.

Некалькі слоў яшчэ аб некаторых прыемных асаблівасцях у абліччы, у самой атмасферы індыйскіх гарадоў.

За ўвесь час, што мы былі ў краіне, мы ні разу не бачылі на вуліцах яе гарадоў, нават такіх буйных, як Бамбей, п’яных або хуліганаў, дэбашыраў і да іх падобных.

У Індыі існуе сухі закон. Праўда, калі ў сям'і індыйца трапляецца якая радасная, урачыстая падзея — вяселле, нараджэнне дзіцяці, тое ці іншае свята, — сям'я атрымоўвае дазвол на набыццё ў спецыяльным магазіне належнай колькасці тых ці іншых напіткаў. Без такога дазволу ніхто не атрымае ні грама спіртнога.

І яшчэ — а гэта самае галоўнае — аб чым бы мне хацелася сказаць у заключэнне сваіх нататак, гэта аб той выключнай гасціннасці, таварыскай цеплыні і добразычлівасці, з якімі ўсюды сустракалі нас, савецкіх людзей, індыйцы. У савецкіх людзях, у савецкім народзе бачаць яны сапраўдных сваіх прыяцеляў і надзейных саюзнікаў у барацьбе за мір, за мірнае суіснаванне народаў.

* * *

За сем год сваёй незалежнасці індыйскі народ дабіўся значных поспехаў у сваёй эканоміцы і культуры. Рэспубліка Індыя, адна з буйнейшых дзяржаў свету, карыстаецца шырокай павагай сярод усіх міралюбівых народаў.

Добра ведаючы цану каланіялізму, індыйскі народ з глыбокім спачуваннем ставіцца да нацыянальна-вызваленчай барацьбы прыгнечаных народаў.

Багата зроблена індыйскім народам за апошнія сем год. Але яшчэ вялікі і непачаты край работы стаіць перад ім, каб поўнасцю ліквідаваць цяжкую спадчыну мінулага, каб у найкарацейшыя тэрміны ўзняць жыццёвы ўзровень шырокіх народных мас, паставіць іх у такія жыццёвыя ўмовы, якія б былі дастойнымі слаўнага і таленавітага народа.

## ДАРОЖНЫЯ ПРЫГОДЫ

Ноччу на чатырохматорным самалёце мы вылецелі з Бамбея. Ляцім над Аравійскім морам. Далёка ўнізе паблісквае пад месячным святлом лёгкая марская зыб. Распалены да малінавай чырвані выхлапныя трубы пад крылом. З іх бруяцца светлыя агніста-блакітныя каснікі адпрацаваных газаў і тут жа нікнуць, гаснуць у змроку. Гэтыя каснікі нагадваюць нешта фантастычнае, казачнае. Лёгкае пакалыхванне самалёта, начная дрымотнасць — і ты ўжо не звычайны пасажыр, а нібы персанаж з дзіцячай казкі, ляціш праз мары-акіяны на пачвары-драконе, а з ноздраў яго, з пашчы яго шугае агонь і дым. Але большасць

пасажыраў не схільна была перасяляцца ў казачныя прасторы. Адны спалі, другія вялі ціхія гутаркі. Некаторыя аддавалі належную даніну звычайнай пульцы. І чым бы ні займаліся людзі, ва ўсіх быў лагодны настрой: як-ніяк вярталіся на Радзіму.

Але пад раніцу, калі за ілюмінатарамі пасвятлела, настрой у пасажыраў пачаў псавацца. Мы заўважылі, што самалёт наш робіць незразумелыя для нас рухі. То ён збіраўся нібы садзіцца, рабіў крутыя віражы, апускаўся, то пачынаў кружыць, ізноў набіраць вышыню. Прызямляцца мы павінны былі ў Стамбуле, але ад сцюардэсы даведаліся, што знаходзімся над нейкім іранскім горадам і што лётчык наважыўся пасадзіць тут машыну. Зірнуўшы на крылы самалёта, мы адразу зразумелі ўсю справу. Крайні матор на левым крыле выйшаў са строю, ляцець далей было рызыкоўна. Аднак прызямліцца не ўдалося, шматслаёвая воблачнасць і густы туман над зямлёй перашкаджалі пасадцы. Лётчык выраўняў машыну і павёў яе далей. Хутка зніклі воблачнасць і туман, мы зноў апынуліся над водным прасторам. Пад намі ў яркім сонечным бляску зіхацеў Персідскі заліў. Але нам было не да яго прыгажосці — на левым крыле выйшаў са строю і другі матор. Самалёт яўна губляў вышыню. Нікога не захапляла перспектыва даць вымушанага нырца ў блакітныя воды заліва. Але неяк абышлося і без гэтага. Мо таму, што не знаходзілася сярод нас шукальнікаў жэмчугу на дне марскім. А хутчэй за ўсё таму, што лётчык наш з выключным майстэрствам дацягнуў самалёт да Бахрэйнскіх астравоў і трапна пасадзіў яго на аэрадром англійскай ваеннай базы. Пасадзіў, зразумела, не чакаючы спецыяльнага дазволу, бо чакаць было некалі.

І толькі мы апынуліся на зямлі, як нос у нос сутыкнуліся з цэлай эскадрылляй французскіх самалётаў з парашутыстамі-дэсантнікамі. Гэта быў час, калі толькі што ганебна правалілася англа-французска-ізраільская агрэсія на Суэцкім канале. Адсюль, з Бахрэйна, вылятаці на бамбёжкі англійскія і французскія эскадрыллі. Як толькі мы сышлі з самалёта, французы ўзняліся ў паветра і падаліся, як гэта гаворыцца, «восвояси». Хутка на аэрадроме застаўся толькі наш самалёт. Апынуўшыся на зямлі, мы, натуральна, захацелі бліжэй пазнаёміцца з вострававам, прагуляцца да берага, палюбавацца парусьнікамі, якія паволі праплывалі па заліве. Але толькі мы памкнуліся да берага, як тут жа, нібы з-пад зямлі, з’явіўся салдат з вінтоўкай і параіў нам не стамляць залішне нашы ногі і трымацца лепш непасрэдна ля нашага самалёта. Не было нічога лепшага, як пагадзіцца з такой парадай, бо ваенная база ёсць база, а не курорт і не парк для прагулянак.

Тым часам каманда самалёта пачыняла маторы. Урэшце пагрузіліся мы, паляцелі. Але да Стамбула ізноў не дапялі. Толькі дабраліся мы да турэцкай зямлі і імчалі над нейкай горнай цяснінай, як маторы, тыя, што падвялі нас раней, вытрымалі, як гэта гаворыцца, свой характар і адмовілі зноў. Добра яшчэ, што далёка мы не адляцелі, лётчык павярнуў машыну, і неўзабаве мы зноў рабілі вымушаную пасадку ля іранскага горада Абадан. І зноў распачаўся рамонт, і па ўсім відаць было, што хутка нам не вылецець. Насоўвалася ноч. Гасцініцы не было. Урэшце дазволілі нам скаратаць ноч у фае клуба інжынераў нафтаперагоннага завода.

Раніцай стала ясна, што на старым самалёце нам далей не ляцець. Лётчык паслаў радыёграму ў Бамбей, каб выслалі спраўную машыну. Пасля некалькіх гадзін прыбыў новы самалёт, пагрузіліся, паляцелі і ўжо без усякіх прыгод дабраліся да Стамбула, адтуль да Рыма і, адпачыўшы якую гадзіну, трапілі ў Жэневу, дзе і заначавалі. Большасць пасажыраў ляцела ў Англію, таму лётчык вырашыў даставіць іх у першую чаргу ў Лондан, ну а разам з імі і мы зрабілі незапланаваную экскурсію ў англійскую сталіцу.

У той жа дзень нам удалося вылецець у Прагу, а адтуль праз Варшаву на Радзіму.

Так завяршылася наша двухмесячная вандроўка ў Індыю.

*1953*

# З РОДНЫХ КРЫНІЦ
## *Аўтабіяграфія*

Пісаць аўтабіяграфію, асабліва пашыраную, не такая ўжо лёгкая справа. Тым больш калі табе вось-вось пойдзе не трэці і не пяты, а сёмы дзясятак год жыцця. Гэта, як-ніяк, пахне ўжо восенню, і не якім-небудзь там бабіным летам з залатой павуцінкай, а восенню позняй, калі пажухлы ліст назаўсёды расстанецца з роднай галінкай. Калі блякнуць, нікнуць жывыя фарбы зямлі і неба, саступаючы месца восеньскай шэрай стыні, калі палахліва прыпадаюць да самай зямлі апаленыя сцюдзёным інеем травы, калі былое блакітнае неба імжыць і імжыць па цэлых тыднях, нібы ўмываецца скупымі старэчымі слязьмі, калі мімаволі прыходзяць на памяць сумныя радкі:

Поздняя осень. Грачи улетели,
Лес обнажился, поля опустели,
Только не сжата полоска одна…
Грустную думу наводит она.

І вось азірнешся назад ды падумаеш: а колькі нязжатых палосак асталося ў тваім жыцці! Ды ці толькі нязжатых?.. А колькі іх асталося і незасеяных, задзірванелых, парослых быльнікам, дзядоўнікам ды ўсякім іншым пустазеллем! Багата чаго прыгадае чалавек, калі пойдзе яму сёмы дзясятак. Як-ніяк «век пражыць — не поле прайсці за сахою».

Вось і задумаешся: а як жа напісаць гэтую аўтабіяграфію? Ці яна павінна быць нейкім падагульненнем твайго жыцця? Ці поўнай справаздачай перад людзьмі і перад самім сабой? Ці ўспамінамі аб усім, чым ты жыў, што рабіў, чым захапляўся, якую карысць прынёс чалавеку — блізкаму і далёкаму, чалавеку-брату і той роднай зямлі, якая нарадзіла і ўскарміла цябе. Аднак даўно ўжо аўтабіяграфія як пэўны жанр набыла свае сталыя формы, а таму, «не мудрствуя лукаво», пішу пра ўсё тое, пра што і пішацца ў такіх «творах». А пісаць усё ж непрыемна, бо

даводзіцца часта ўжываць слова «я», а якое ж надакучнае гэтае «яканне» для чытача…

Мне давялося захапіць крыху мінулага стагоддзя, бо нарадзіўся я ў 1899 годзе, 18 лістапада. Наконт дакладнай даты нараджэння я крыху сумняваюся, бо, паводле метрычнага выпісу, гэтая мая асабістая падзея адбылася, здаецца, 8 лістапада, а дзень 18 лістапада быў так званым «днём анёла», днём, калі ахрысцілі, прысвоіўшы імя Міхаіла. Метрычны выпіс разам з усім сямейным і асабістым архівам загінуў у часе апошняй вайны, так што дакладна праверыць гэтую дату не маю магчымасці, ды ў гэтым і няма пільнай патрэбы. Як калісьці ўспаміналі нябожчыкі бацькі, нарадзіўся я ў дзень «святога Міхаіла, князя Цвярскога», а хрысцілі мяне ў дзень, калі чарговым святым быў таксама Міхаіл, на гэты раз «архангел, предводитель войн небесных». Адным словам, падстаў звацца Міхаілам было больш чым дастаткова.

Нарадзіўся я ў вёсцы Зазыбы Сялюцкай воласці былога Віцебскага павета Віцебскай губерні (цяпер Лёзненскі раён). Бацькі былі сяляне гэтай вёскі, мелі кавалак уласнай зямлі, крыху больш за дзесяціну. Сваёй хаты не было. Зразумела, што такая гаспадарка пракарміць сям’ю не магла. Бацька з самых малых год хадзіў на розныя заработкі. Працаваў ён некаторы час падзённым рабочым на Рыга-Арлоўскай чыгунцы, дзе і быў залічаны потым штатным рамонтным рабочым па «службе пуці».

Асабліва яркіх успамінаў з самага ранняга маленства ў мяне не захавалася. Паводле слоў маці, быў я не сказаць каб удалым дзіцем. Год да трох, да чатырох не мог хадзіць з-за розных хвароб. З гэтай прычыны быў сталым кліентам ва ўсіх вясковых шаптух і знахарак, якія і практыкавалі на мне ўсе спосабы тагачаснай вясковай «медыцыны». Але нарадзіўся я, відаць, цягавіты, паколькі астаўся жыў пасля ўсіх гэтых, часам вельмі рызыкоўных, эксперыментаў.

З асобных эпізодаў памятаю, як вучыўся хадзіць. Ставілі мяне ў спецыяльны драўляны станок на калёсіках, з якога я не мог — нават каб і хацеў — упасці на падлогу або на зямлю. Нягеглае дзіця намагалася прыняць звычайны свой сядзячы стан, нахілялася ўбок і гэтым самым рухала ў тым ці іншым кірунку свой «транспарт». Так і рабіліся пэўныя вандроўкі па хаце, па двары, па вуліцы. Адна з такіх вандровак закончылася аднойчы поўнай аварыяй: з усёй «калясніцай» я шуснуў з мастка ў невялікую рачулку, якая працякала пасярэдзіне вёскі. Нейкая цётка своечасова заўважыла мае задужа раннія практыкаванні па скачках з трампліна ў ваду і выцягнула мяне адтуль ледзь жывога. Такія прыгоды ўзрушылі і не на жарты занепакоілі маіх

бацькоў. У сям'і я быў першынцам, і зусім зразумелыя бацькоўскія трывогі за лёс свайго дзіцяці, у той час яшчэ адзінага. Ва ўсякім разе, няўдаламу плыўцу перапала і пачастункаў, хапіла і папрокаў і перасцярог, каб не вельмі легкадумна ставіўся да такой сур'ёзнай стыхіі, як вада. Паспачувала бацькам і бліжняя радня: гэта ж трэба так пакутаваць з малым няўдакам. І хоць не вельмі прыхільна ставілася гэтая радня да маёй незайздроснай асобы — як-ніяк залішні рот у хаце, — але ўсё ж спачувала: было гэтае няўдалае стварэнне ўсё ж жывой душой чалавечай — няхай жа яно жыве на жывое.

Відаць, пасля ўсіх гэтых прыгод і даволі моцных перажыванняў я адолеў урэшце сакрэт хады чалавечай, пачаў самастойна перасоўвацца на ўласных нагах. А калі стаў паўнапраўным чалавекам, то з'явіліся і першыя абавязкі: калыхаць меншых сясцёр і братоў, якія акуратна штогод з'яўляліся на свет божы. На маё сур'ёзнае запытанне, адкуль толькі яны бяруцца, гэтыя мае падапечныя (як жа — калышы, соску дай, большых накармі ды прыгледзь за імі, безліч розных абавязкаў у пяцігадовай-шасцігадовай нянькі), мне не менш сур'ёзна адказвалі, што чарговага брата ці сястрыцу маці знайшла на гародзе ў капусце. Да чаго ж узненавідзеў я тады няшчасную капусту! Але неўзабаве ўцяміў, што справа тут не ў адной капусце, бо адзін з чарговых братоў з'явіўся тады, калі капуста была даўно пашаткавана і заквашана. І калі паўтарылася старая спасылка на капусту, мне асталося катэгарычна запратэставаць супроць такой «інфармацыі»:

— Не веру я ў вашу капусту, калі я даўно ўжо ўсе храпкі ад качаноў паеў, і ў гародзе зусім пуста, адны лужыны там ды мокры снег…

Бацькі спасламіся на бусла.

— Дзе ж той бусел? Ён жа даўно ў вырай паляцеў!

Тады прыведзена была такая прычына, супроць якой я не меў магчымасці пярэчыць:

— То ж нам Бог даў!

— Ну што як, калі Бог, дык няхай ужо… Яму, канечне, добра дурыкі строіць, а мне адзін толькі клопат: калышы і не знайся. Вось няхай бы сам пакалыхаў… такі разумны…

— Пагавары, пагавары яшчэ!..

І я лічыў за лепшае дыпламатычна змоўкнуць. Таямнічая істота Бога і так прыносіла мне шмат непрыемнасцей. Праз гэтую істоту мне часта даводзілася больш чым блізка знаёміцца з матчынымі матузамі, а зрэдку і з бацькавай папругай. То пераблытаеш «багародзіцу» з «ойчанашам», то ў часе малітвы залепіш ляшча каму-небудзь з меншых, то задасі ў часе той

жа малітвы якое-небудзь запытанне недарэчы — і за ўсё гэта, вядома, належнае ўшчуванне.

Хапала ў мяне абавязкаў і акрамя клопатаў нянькі. Летам глядзі, каб не ўбілася ў грады чужое парася, каб не ўцякло ў поле цяля, навязанае на дзедавым прыгуменні.

Дарэчы, пра дзядоў. Імёны іх я памятаю, а як яны зваліся па бацьку — не ведаю. Адным словам, радаслоўнае дрэва вельмі куртатае, як і ў кожнай сялянскай або рабочай сям'і. Геральдычныя кнігі не пісаліся, і былыя пакаленні адбылі ў нябыт, нязнаныя і забытыя назаўсёды.

Калі я ведаю што крыху пра дзядоў, дык больш па расказах бацькоў. Былі гэтыя дзяды крыху дзівакаватыя людзі і памерлі не зусім звычайна. Дзед па маці быў чалавек вялікага веку. Доўга пажыўшы на свеце, ён сам сабе вызначыў час, калі памерці. Сабраў аднаго разу сваіх сыноў і дачок на сямейную нараду і без асаблівай урачыстасці заявіў ім:

— Відаць, аджыў я сваё, хопіць з мяне, цяпер жывіце сабе самі, сваім розумам, сваім надумам.

Аддаў яшчэ сякія-такія загады: пра дамавіну, пад якой хвояй пахаваць, у якіх святочных лапцях, і каб не вельмі плакалі, бо лішнія слёзы толькі перашкодзяць яму ў далёкай вандроўцы ў нябеснае царства. Каб крыху развесяліць душу перад такім адказным шляхам у невядомае, загадаў паднесці яму чарку гарэлкі. Пайшлі насустрач яго жаданню, хоць і думалі, што бацька альбо хітруе, альбо вярзе несусвеціцу, як гэта здараецца са старымі людзьмі. Дзед асушыў чарку, пажадаў усім доўгага веку, залез на печ і тут жа памёр. Як бачым, не любіў жартаваць чалавек і слоў сваіх на вецер не кідаў.

Цікавы быў і другі дзед, але жыццё сваё кончыў крыху іначай. У часе вялікай навальніцы палез на званіцу, каб адагнаць звонам страшныя перуны ад вёскі. Відаць, адагнаў, бо вёска асталася цэлая, дзеда ж на званіцы пляснула маланка. Не ведаю, наколькі гэтыя расказы адпавядалі сапраўднасці, бо сведкам гэтых падзей я не быў, а чуў пра гэтыя прыгоды ад бліжэйшых сваякоў.

Было ў мяне яшчэ некалькі цікавых дзядоў, праўда, не родных. Сярод іх былі шапавалы, каробачнікі, канавалы і сукнавалы, латышскія півавары (побач былі латышскія хутары), вандроўныя шаўцы і краўцы. Сярод усіх гэтых дзядоў самы цікавы і найбольш паважаны для нас, малых, быў дзед-пярун. Ён прыходзіў у вёску восенню альбо самай ранняй вясной, як толькі сыходзіў снег. На полі было багата каменння. Траплялiся і такія камяні, што яго і паўсялом не зрушыш з месца. У дзеда было багата розных цікавых і невядомых нам інструментаў: долатаў, малаткоў і ма-

латочкаў, свярдзёлкаў. І якіх свярдзёлкаў! Не тых, што свідруюць дрэва, калі, скажам, граблі ці якую іншую рэч майструюць, а той свярдзёлак мог і камень свідраваць. Увесь гэты інструмент дзед насіў у касматай скуранай торбе. А ў другой торбе ён насіў, як казалі нам, каменную смерць. І мы заўсёды са страхам пазіралі на тую торбу і на самога дзеда, якога таксама людзі называлі каменнай смерцю. Але часцей называлі яго дзед-пярун.

І вось падыходзіў дзед да якога вялікага каменя на полі, абыходзіў навакол яго, прыглядаўся, прыкідваў нешта на вока. Стукаў малатком і прыслухоўваўся да гуку, каб вызначыць, якой моцы той камень. Бо ў кожнага каменя свой гук. Адзін, каторы гніляк, з якога сыплецца пацяруха, дык і гуку добрага не мае: малаток б'е па ім, як па сырой зямлі. Другі ж — як жалеза, гудзе як звон, аж іскры сыплюцца з яго, калі вытнеш малатком. Злуе камень, не хоча паддавацца. Але дзе ты не паддасіся дзеду-паруну! Працуе ён, завіхаецца ля каменя, малаточкам пастуквае, свірчыць калаўротам. І ўсе ведаюць: робіць дзед-пярун дзірку ў камені, каб пусціць туды грымотную стралу. Завіхаецца дзед, аж спіна ў яго пачынае курэць парай. Потым правярае тую дзірку, прадзьмухвае яе, бярэ торбу са «смерцю» і засыпае нешта ў дзірку. Закладвае кнот, забівае пакуллем, ды яшчэ зверху замазвае ці то воскам, ці глінай — дзе ты там разбярэш, калі блізка не падпускалі. І калі скончыць дзед усе падрыхтаванні, тады адносіць паважна абедзве свае торбы куды-небудзь за другі камень і ўрачыста падае каманду:

— Бяжыце далей, а то заб'е! Зараз будзе пярун!

Гаварыць доўга не трэба. Бяжым, аж пыл курыць з-пад пятак. Добра адбегшыся, хаваемся дзе-небудзь у канаве ці за кучай камення ля дарогі. А дзед, не спяшаючыся, падыходзіць да каменя, паволі дастае красала і трут і ўрачыста высякае агонь. Спачатку раскурвае сваю люльку, потым, яшчэ раз азірнуўшыся навокал, каб не асталося поблізу якога-небудзь падшывальца, кідае лішні раз для перасцярогі:

— Глядзіце ж у мяне!

Дзед падпальваў трутам кнот і, не спяшаючыся, паволі адыходзіў куды-небудзь і лажыўся за зручны камень. А мы ляжым, затаіўшы дых, чакаем грому. І вось урэшце як бабахне, аж скаланецца зямля, ды нешта са свістам праляціць у паветры. Мы баімся нават паварушыцца. Але бярэ верх цікаўнасць — а што ж там робіцца? І, яшчэ шчыльней прыціскаючыся да зямлі, асцярожна прыўзнімаем галовы. Воблака дыму ўзвілося там, дзе пусціў дзед-пярун грымотную стралу ў камень. Цяпер ужо можна падняцца і бегчы туды з усіх ног, глядзець, як паволі

расплываецца, растае воблака шызага дыму ды сыплецца з неба розная пацяруха. А вялікага каменя як не было. Толькі груда дробных аскепкаў ды markdownрознага друзу, які можна пераносіць альбо перавозіць да дарогі. Пойдзе ён на брукаванне шашы альбо на падмуркі хат, гумнаў. Ці проста, складзены ў прыдарожныя кучы, будзе ляжаць гады, абрастаючы крапівой і быльнікам.

Мы глядзелі на дзеда, як на вялікі цуд.

— Асілак ты, дзед! Як гэта мог ты адолець яго?

— Вось і змог. Сакрэт такі трэба ведаць, тады ўсё зможаш.

— А ці мог бы ты разбіць Яловы камень, што ля рэчкі ляжыць?

— Што той камень… Мне гару падавай, і яе на порах сатру!

Мы аж раты разяўлялі ад вялікага захаплення. І кожны з нас зайздросціў дзеду-перуну. Яловы камень быў такі, што яго не то сялом, але, відаць, усёй воласцю, ды што там воласцю, нават усім Віцебскам не паднялі б. Дзе там падняць — і з месца не зрушылі б. Дзіва, той камень разлёгся на цэлы поплаў, аж парасліі ў яго шчылінах вялікія, пад самыя хмары, кашлатыя яліны, аброслыя знізу зеленавата-шызым мохам.

І, падумаўшы колькі хвілін, мы зноў пыталіся ў дзеда:

— А каб вось такі камень, які аж пад самае неба, ці здолеў бы ты яго?

Дзеду надакучвалі, урэшце, нашы бясконцыя пытанні, і ён, зрабіўшы страшны твар, пужаў нас каменнай смерцю:

— Вось напушчу на вас, талаконнікі!

За талаконнікаў мы не крыўдзіліся. Не такая ўжо кепская рэч гэтае самае талакно, якім мы часта жывіліся і ўдзень і на вячэру. Мы ведалі, што дзед толькі жартуе, а калі і пусціць на нас гэтую смерць, дык хіба толькі самую лёгкую, маленькую, без вялікіх грымот і маланак.

— Ну і пушчай сабе, мы не баімся…

І дзед браў са сваёй страшнай торбы шчопаць гэтай смерці, усыпаў яе ў паперыну, якую скручваў трубкай, і падпальваў з аднаго канца. Мы аж прысядалі ад страху і цікаўнасці, калі малая смерць з вялікім сіпеннем узлятала ў паветра, рассыпаючы іскры і пакідаючы за сабой ледзь прыкметны дымны след. І ўсё… Толькі ляцелі ў паветры, кружыліся, як сняжынкі, шэрыя папялінкі ад спаленай паперы. Мы шмыгалі насамі: ноздры казытаў даўкі, непрыемны пах, які доўга стаяў у паветры.

— Ну яшчэ раз пусці! — з замілаваннем узіраліся мы ў суровы дзедаў твар, парэзаны глыбокімі маршчакамі, прадублены сонцам і ветрам. Дзед супіў яршыстыя бровы і, завязваючы раменьчыкам сваю торбу, гаварыў ужо зусім лагодна:

— Хопіць з вас, падшывальцы. Дражніць смерць без патрэбы не варта…

Так і астаўся на ўсё жыццё вобраз дзеда-перуна, які мог адолець любы камень, і малы і вялікі, хоць з хату ростам, а то і вышэй. Праўда, не такія ўжо вялікія былі тыя камяні, як нам яны здаваліся. І нават Яловы камень быў самым звычайным каменем, на якім расло некалькі звычайных нізкарослых ялінак. Але ж здаваліся нам тыя ялінкі высокімі-высокімі, аж пад самае неба. У маленстве яно ўсё вышэй, не толькі дрэвы, але і жыта, і травы. Пойдзеш па лузе, і не відаць цябе з-за густых рамонкаў. Забярэшся ў рачулку, якую даросламу чалавеку самы раз пераступіць, а табе яна цэлае мора-акіян: занадта глыбіні, хапае і шырыні!

З таго далёкага часу памятаю яшчэ зварот дзядзькі Васіля з японскай вайны. Гэта быў самы старэйшы дзядзька, бацькаў брат. Высокі, з густой русай барадой і такімі ж пышнымі вусамі. Апрануты ён быў у тагачасны салдацкі чорны мундзір з бліскучымі гузікамі і доўгі шэры шынель. Дарэчы сказаць, бацька мой ніколі сапраўдным салдатам не быў, у войску не служыў і лічыўся ратнікам апалчэння ці то першага, ці то другога разраду. Само слова «ратнік» выклікала ў нас, у дзяцей, асацыяцыю з такім жа словам, якое мела зусім іншае значэнне. Ратнікамі называлася танная салёная рыба, якая разам з маласолкай (была і такая рыба), таранамі і воблай была найбольш даступным для такіх сямей, як наша, сродкам харчавання. Звычайны селядзец быў ужо раскошай і з’яўляўся на нашым стале толькі ў вялікія святы, хрысціны і іншыя падобныя ім дні. Таму мы часта пыталіся ў бацькі:

— А чаму ты ратнік?

Аднак мы адхіліліся крыху ўбок ад звароту дзядзькі з вайны. З прычыны такой падзеі ў хаце было вялікае свята: частавалі дзядзьку, спявалі песні, граў гармонік. Але весялосць была нейкая незразумелая нам, малым. То жанчыны спявалі песні, а то раптам пачыналі плакаць наўзрыд. Аказваецца, з вайны не вярнуўся другі дзядзька (па маці), ён загінуў на моры разам з караблём, на якім служыў матросам-музыкам. Пазней я даведаўся, што карабель той быў славуты крэйсер «Петрапаўлаўск».

У дзядзькі Васіля не было ў той час дзяцей, і ён вельмі прыхільна ставіўся да мяне як аднаго са сваіх любімых пляменнікаў. У першы ж дзень па звароце з вайны ён падараваў мне срэбную манету — японскага паўрубля — і прыгожую бляшанку з-пад чаю. На ёй намаляваны былі розныя кветкі і дзівосная кітаянка з парасонам. Бляшанка была галоўным набыткам і першай цацкай

у маім дзіцячым жыцці, з ёй не расставаўся я ні ўдзень, ні ўночы. Японскі ж паўрублёвік прынёс мне шмат непрыемнасцей. У той жа вечар, калі быў ён падараваны, я ўмудрыўся згубіць яго! Неяк выпусціў з рук, ён пакаціўся па падлозе ды і знік, трапіўшы ў шчыліну. Зразумела, мне было вельмі шкада яго. Але, відаць, яшчэ болей шкадавалі яго дарослыя, бо за страту манеты атрымаў я добры ўшчунак. З тых падзей я доўгі час лічыў японцаў самай горшай нацыяй, бо яны — ніхто іншы — мелі простае дачыненне да маіх загінуўшых капіталаў. І калі выпадкам хто дарыў мне капейку ці дзве, я асцярожна пытаўся:

— А гэта капейка не японская?

Вось усё, што захавала памяць аб тых далёкіх днях, калі ў Расіі адбываліся вялікія падзеі: руска-японская вайна і рэвалюцыя 1905 года. Было мне тады пяць-шэсць гадоў, і тагачасны свет запомніўся толькі па тых ці іншых выключных эпізодах у жыцці сям'і, па некаторых цацках накшталт кітайскай бляшанкі…

Неўзабаве пасля японскай вайны бацькі пераехалі на сталую працу на чыгунку, якая была толькі што пабудавана ад Віцебска да Жлобіна і афіцыйна называлася Віцебска-Жлобінскай веткай Рыга-Арлоўскай чыгункі. Жылі ў казарме паміж станцыямі Магілёў і Лотва. Навакол былі густыя лясы, багатыя на грыбы, ягады і арэхі. Лес заўсёды прывабліваў мяне сваім адвечным хараством і — калі я быў малы — безліччу казачных таямніц. Што можна параўнаць з невялічкім кастром у начным лесе? Ты бліжэй тулішся да цяпельца — навокал жа такая цемрадзь, і ў ёй розныя дзівы-страхі. Асцярожна пазіраеш у гэту цемрадзь шырока адкрытымі вачыма, і за кожным дрэвам, за кожным кустом здаюцца табе розныя пачварныя істоты, насельнікі страшных казак. Вунь бліснулі за кашлатай ялінай два далёкія агеньчыкі, і ты адразу прыціскаешся да бацькі, і сэрцайка тваё так затукае, нібы дзяцел на хвоі пад сонцам.

— Мне страшна, там воўк ці мядзведзь…

— Які там воўк? Гэта ж звычайныя светлякі, вось я прынясу табе зараз іх.

І хутка бледна-зялёныя агеньчыкі на тваёй далоньцы. Яны ж зусім не пякучыя, не грэюць, а свецяць, як маленечкія ліхтарыкі. Вось адзін скаціўся з далонькі ў траву і ледзь прыкметны пры водблісках цяпельца. Хутка і зусім ён знікне. Згубіўся і другі.

— Дзе падзеліся мае ліхтарыкі? — ледзь не плачу я.

— Знойдуцца твае ліхтарыкі, іх багата ў лесе. Вунь зірні лепш на неба — бачыш, колькі ліхтароў гарыць там?

— Гэта зоркі, а не ліхтары… — адказваю я.

Зоркі — гэта далёка, іх не дастанеш, а вось маленькія ліхтарыкі былі ў тваёй руцэ і зніклі. Зорка, можа, і прыгажэй. І там, дзе паблісквакоць яны, мігцяць, пераліваюцца, гудзе вяршалінамі бор. І ветру няма, а ён гудзе і гудзе. Слухаеш яго і не наслухаешся. Дзесьці паблізу абзавецца сава, злавесна фуфыркне пугач, трэсне недзе сухая галінка і нібы нехта раптам уздыхне цяжка, быццам узлажылі яму па вагону камення на плечы.

— Хто гэта такі? — са страхам пытаюся ў бацькі, а сэрца сціскаецца ў трапяткі камячок.

— Гэта багна ўздыхае на балоце.

— А што такое багна?

Пачынае бацька расказваць. Добра слухаць, уткнуўшыся ў яго калені, угрэтыя цяплом. Слухаеш, слухаеш, і неўзабаве пачынае здавацца, што і словы, і зоры пачынаюць кружыцца ў дзівосным карагодзе, а само цяпельца раптам ператвараецца ў вялікі паравозны ліхтар, які робіцца ўсё большым і большым, вось-вось загудзе, засвішча паравоз: ану, сыходзь з дарогі!

А вочы зліпаюцца, галава бяссільна хіліцца долу, да шорсткіх верасоў, і праз сон ты яшчэ раз пытаешся ў бацькі:

— А дзе ж мае ліхтарыкі?

— Уставай, брат, ды пойдзем дахаты, там нас, відаць, даўно прачакаліся.

Дахаты дык дахаты. Без агню лес губляе сваё хараство, астаюцца толькі начныя страхі.

Усе рэчы набываюць нерэальны, фантастычны характар. Звычайны корч здаецца нейкай пачварай. Клубіцца туман над рачулкай, а табе здаецца, што гэта стоўпішча страшных прывідаў, якія працягваюць да цябе халодныя кашчавыя рукі, і ты быццам бачыш іх жахлівыя твары, чуеш, як пастукваюць касцьмі гэтыя мёртвыя, але такія прагныя да твайго жыцця істоты. Ты баішся дыхаць. Ты шэптам гаворыш:

— Баюся…

— Не бойся, дурненькі, ты сам выдумляеш свае страхі. Вось прыйдзеш у лес раніцой і сам убачыш, што нічога страшнага тут няма і не было.

І сапраўды, раніцай у лесе — ніякіх страхаў. Сонечныя зайчыкі гуляюць па верасе, на папараці. Ягады касцянкі гараць пад сонцам чырвоным агеньчыкам. Як залатыя, стаяць бярозы, арабіны. Чырвоны кляновы ліст апускаецца на зямлю, і калі ступіш на яго, дык, здаецца, адчуваеш яго халадок. Адцвітаюць верасы. Падасінавік у сваёй чырвонай шапцы важна выглядае з травы, не раўнуючы, як той начальнік станцыі. А колькі радасці ад баравікоў, і пах ад іх ядраны. Выхваляюцца сваімі ўборамі

мухаморы, але нікога не ашукаюць сваёй прыгажосцю. Непатрэбны, шкодны грыб. А на імшарыне, дзе пахне багульнікам і лазой, чырванеюць россыпы журавін. Па ўзгорках паблісквуюць гронкі пераспелых брусніц. Стракатай маланкай мільгане між дрэў непаседлівы дзяцел. У пажухлым лісці зашамаціць калючы вожык і схаваецца пад куст, калі ўчуе цябе. На хваёвай галінцы ўселася вёрткая вавёрачка, спрытна лушчыць яловую шышку і пільна ўзіраецца на цябе чорнымі пацеркамі воч. Раптам спужаецца і сігане стрымгалоў на другое дрэва, з таго на трэцяе, усяго і заўважыш, як прамільгне пушысты камячок у спляценні кашлатых галінак. Вось і зусім знікла з воч. Толькі зводдалі раптам пачуеш яе трывожнае ці пагражаючае — цэ-цэ, цэ-цэ… Але які ж яна грозны звер? Вось бы злавіць гэтую ўвішную, вясёлую звярынку, гэта было б так цікава!

Прыгожа ў лесе ў восеньскія дні. Яшчэ прыгажэй у ім летам. А колькі сапраўды чароўнага ў вясновым лесе, калі распускаюцца першыя лісткі на бярозе, такія клейкія і пахучыя. А хіба кепска ў лесе зімой, калі ў серабрыстым інеі стаяць магутныя хвоі, калі на зацярушаных снегам палянах і прасеках столькі розных цікавых слядоў, што проста дзіву даешся: а дзе ж яно, усё тое жывое, што распісала снежную роўнядзь такімі адмысловымі ўзорамі? А яно, гэтае жывое, весела адгукаецца. Звонка праценькае сініца, з куста на куст пераляціць чырванагруды снягір; у развілцы хваёвых галін наладзіў сваю майстэрню клёст, і вылушчаныя шышкі сыплюцца і сыплюцца зверху, нібы з якой малатарні. Па ўскраіне лесу прабяжыць лісічка. І не заўважыў бы разбойніцу, каб не яе хвост — мільгане з-за сумётаў рухавае полымя і знікне дзесьці за ядлоўцавым кустом. А лес і зімой жыве несціханым жыццём, трэба толькі ўмець прыслухоўвацца да яго прыглушаных рытмаў.

З самага ранняга маленства люблю я лясное царства. Сярод дрэў ёсць мае любімцы: бярозкі, арабіны, клёны, магутныя дубы, грабы, паэтычныя ясені, пахучыя ліпы. Падабаюцца мне і стромкія сосны, і кашлатыя яліны. Ды кожнае дрэва мае сваю асаблівую прыгажосць і прывабнасць. Дзе б я ні жыў, я заўсёды намагаўся пасадзіць некалькі дрэў. Калі цяпер даводзіцца часам пабачыць свае колішнія пасадкі, душа і радуецца і сумуе. І як не радавацца, калі высаджаныя табой у далёкім дзяцінстве тонкія хлабысцінкі выцягнуліся цяпер у стромкія дрэвы, і іх кучаравыя вяршыні цягнуцца высока-высока, да сонца. І крышачку сумнавата: час ідзе, і ты ўсё далей і далей ад тых беззваротных часоў, калі глядзеў на свет божы шырока адкрытымі дзіцячымі вачыма. І свет гэты раскрываўся перад табой ва ўсёй сваёй захапляючай

прыгажосці з неабсяжнымі прасторамі і перспектывамі, радуючы заўсёды твае вока багаццем фарбаў і гукаў. Дамінуючымі сярод гэтых фарбаў былі ружовыя і блакітныя.

Аднак я зноў адхіліўся ад тэмы.

З жыцця ў казарме ў мяне не асталося якіх-небудзь асаблівых успамінаў, акрамя грыбных і ягадных паходаў у лес. Успамінаецца яшчэ нешта выключна дзіцячае. Аднаго разу зімой, гуляючы па двары ў марозны сонечны дзень, я заўважыў пад лёдам у лужыне нейкую невялічкую рэч. Яна так паблісквала і гарэла на сонцы, што здавалася — пад стылым лёдам нібы ўспыхвае жывы агеньчык. І такі яркі-яркі, што аж зажмурваеш вочы. Дастаць яго, адразу ж узяць у свае рукі!.. Колькі намаганняў, колькі настойлівасці праявіў я, пакуль раскалупваў лёд голымі пальцамі. Ледзь не абмарозіў іх і ў дадатак моцна парэзаўся. Было багата крыку і слёз, калі пырснула кроў, і я без памяці кінуўся дахаты.

— Там! — праз слёзы гаварыў я, пакуль маці завязвала парэзаны палец.

— Што там?

— Блішчыць, як агеньчык.

Урэшце дасталі тое, што так уразіла мяне. Гэта быў аскепак звычайнага чырвонага шкла з чыгуначнага ліхтара. Былі ў тых ліхтарах і чырвоныя, і зялёныя, і звычайныя празрыстыя шкліны, яны асабліва не ўражалі мяне, да іх я прызвычаіўся. Але ж гэты кавалачак гарачай чырвані пад лёдам — нібы аскепачак жывога сонца! Які ён быў чароўны і прываблівы.

…Мабыць, праз год ці праз два бацькі пераехалі на новае месца працы, кіламетраў за сотню ад нашай казармы. Ехалі ў таварным вагоне, дзе размешчана была і ўся наша гаспадарка. Тут жа ў кутку вагона мычэла наша карова, часам узнімаў адчайны брэх невялікі наш цюцік — ці то Валет, ці то Каштан. Прабыванне на абмежаванай сценамі вагона тэрыторыі, відаць, не давала яму асаблівага задавальнення, і ён увесь час наважваўся сігануць на волю, пакуль урэшце не прывязалі яго. Затое мы, дзеці, адчувалі сябе на сёмым небе ад захаплення. Як жа, што ні хвіліна, то новыя краявіды, новыя лясы і палеткі, вёскі, мястэчкі. Праязджалі праз невялічкія гарады. На кожнай станцыі або дзе-небудзь на глухім раз’ездзе поезд падоўгу прастойваў, і нам, малым, дазвалялі на колькі часу пакідаць вагон і пабегаць паблізу. Як гэта прыемна — знаёміцца з новымі мясцінамі, бачыць столькі незнаёмых людзей, пабегаць ля паравоза і нават падражніць яго, пераймаючы гукі, калі ён чмыхае парай. І калі прамазучаны качагар ці паважны обер-кандуктар запытае: «А чые ж вы, падшывальцы?» — мы з гонарам адказваем: «Ра-

монтнікі мы, вось хто мы…» На станцыю хадзіць не дазволена, туды трэба ісці цераз пуці, а па рэйках соўгаюцца манеўровыя «кукушкі», ды на платформе важна пахаджвае жандар у сінім мундзіры і чырвонай шапцы. А жандар — гэта страшна, ім пужаюць малых: «Вось не будзеш слухацца — забяруць цябе жандары, усыплюць табе “селядцом”». Пры чым тут селядцы — мы не разумелі. Жандара мы бачылі рэдка, жывучы ў казарме, а тут вось на кожнай станцыі яны пахаджваюць, як буслы. Чаму б і не спытацца ў самога жандара пра тых селядцоў. Скарыстаўшы момант, калі вагон наш стаў на адной станцыі якраз супроць платформы, мы і запыталіся ў дужага дзядзькі ў сінім мундзіры і з пышнымі рудымі вусамі.

— Дзядзечка!

— Вам чаго?

— А скажыце, дзе ваш селядзец?

— Ах вы, суччыны сыны, ды я вас, ды я вам… — аж твар яго набрыняў чырванню, і ён пагрозна ляснуў эфесам шаблі па ножнах.

А «суччыны сыны» ад страху залезлі пад вагонныя палаці і духі прытаілі. Бацькі не адобрылі нашых перамаўленняў з рудымі вусамі.

— Вы іх не чапайце, а то нарвяцеся на якога злога, дык нам не абрацца тады непрыемнасцей.

— Мы ж толькі пра селядзец запыталіся, чаму ж ён зазлаваў?

— Дурненькія вы! Людзі празвалі селядцамі іхнія шаблі. Вось чаму ён зазлаваў.

— До-о-брыя селядцы! Іх з цыбулькай не з’ясі…

— Калі, брат, паспытаеш гэтага селядца, дык ніякай цыбулі не захочаш.

— А чаму ён ходзіць па станцыі з гэтым… селядцом?

— Чаму, чаму… Багата будзеш ведаць — хутка стары зробішся. Падрасці крыху, тады і сам усё зразумееш.

— Гэта вы заўсёды так: падрасці ды падрасці… А я ўжо вунь на цэлых паўдзвярэй вырас. — І з самым сур’ёзным выглядам я стаў «мерацца» каля вагонных дзвярэй. У гэты час поезд крануўся, дзверы са скрыгатам пасунуліся, і на маім ілбе з’явіўся добры гузак… Стаў я ў поўнай нерашучасці: а ці плакаць, ці не?

— Вось, ніколі не выхваляйся! — сказала маці, прыкладаючы да гузака халодны пятак. — Калі вырасцеш на ўсе гэтыя дзверы, тады і станеш сапраўдным чалавекам.

— А хіба цяпер я не чалавек?

— Паспрачайся ў мяне болей, дык атрымаеш… Калышы вунь малога…

Нецікавая гэта справа — калыхаць малога, калі поезд ідзе, калі ён набірае хуткасць, а ў вячэрнім паўзмроку цэлыя снапы іскраў вылятаюць з шырачэннай трубы паравоза і паволі гаснуць на тэлеграфных правадах. Відаць, тыя правады халодныя, калі гаснуць іскры на іх. Малы тым часам заснуў, і самы раз цяпер высунуць нос за дзверы, паглядзець, што робіцца там, на белым свеце. Але цябе адцягваюць за руку назад.

— Не высоўвайся задужа, бо шчэ вока запарушыш!

— Дык я тады ў акно буду глядзець з палацей.

— Не адчыняй, бо малых прастудзіш, прахопіць іх ветрам.

— Туды не высоўвайся, там не адчыняй. А што ж мне рабіць?

— Кладзіся спаць, вось усе твае справы на сёння.

Кепска, калі ты яшчэ не сапраўдны чалавек. Табе і тое не дазваляюць і гэтага не даюць. Адно, што даручаюць самыя нудныя абавязкі: калышы, чысці бульбу, прасачы, каб не «ўрабіўся» які меншы, забаўляй іх, каб не румзалі…

Ну што ж, спаць дык спаць. Усё роўна праз шчылінку ў дзвярах нічога ўжо не відаць, хіба прамільгне які цьмяны агеньчык, а дзе той агеньчык — цяпер не разбярэш. Узлазіш на палаці, скідаеш няхітрыя свае ўборы і забіраешся пад дзяружку збоку, дзе покатам ляжаць нашы меншыя. Поезд закалыхвае цябе, ад салодкай дрымоты паступова зліпаюцца павекі. Як праз сон чуюцца словы маці:

— А ты памаліўся хаця нанач?

— Дзе там памаліўся… Бог усё роўна не пачуе, калі вагон грукоча…

— Вось я табе пагрукачу зараз! Ану, пачынай…

Пачынай — азначае маліся. Для адчэпнага сяк-так бубню паасобныя словы. Адны гучней, другія цішэй, каб як-небудзь неўзаметку скараціць гэтыя надаедныя словы.

— А ты не глытай словы, ну-тка, пачынай спачатку, каб я чула кожнае слова!

— Ах, божа ты мой! І хто выдумаў малітвы? І што гэта за Бог, які не дае спаць добрым людзям?

— Пагавары, пагавары ў мяне, атрымаеш…

Калі гаварылася слова «атрымаеш», то ўсякія дыскусіі спыняліся і даводзілася спачатку, слова ў слова, паўтараць «Ойча наш», які ўжо набіў аскоміну. Праўда, і тут я ўхітраўся часам, гледзячы па настрою маці, спытацца ў яе:

— А чаму толькі «хлеб насушчны»? Хіба кепска было б, каб «Ойча наш» даў нам і добрых абаранкаў з макам?

— Вось я табе зараз усыплю з макам!

Косячы вокам на матчыны матузы, якія вось-вось гатовы былі пайсці ў рашучую атаку на маю грэшную асобу, я ў адзін момант мяняў тактыку, памятаючы, што эфемернае «царства нябеснае» ўсё ж лепш за празаічныя зямныя матузы. І тут жа катэгарычна заяўляў маці:

— Дык я ж заканчваю малітву! — І ўрачыста, як можна гасней, абвяшчаў на ўвесь вагон: — І не лішы нас і нябеснага твайго царства!

— Ну і разышоўся, яшчэ малых пабудзіш, — ужо больш лагодным тонам гаварыла маці і ішла да палацей, каб старым бацькавым паўкажушком лепш накрыць нанач сваіх нашчадкаў, каб жа ім было цяплей у халодным, без печкі, вагоне. Дарэчы, з гэтых нашчадкаў не ўсе выжылі. Бадай што палавіна з іх памерла ў розным узросце. Памятаю, што гэта і не хвалявала асабліва нікога. «Бог даў, Бог і ўзяў», — існавала такая ўжо традыцыйная формула, якая прымірала людзей з такім цяжкім няшчасцем у сям'і, як страта дзяцей.

Можна падумаць, што маці мая была вельмі рэлігійная, што яна ажно калечыла дзяцей усякімі абрадамі, малітвамі. Гэта далёка не так. У Бога яна верыла па-свойму. Ён быў для яе нейкай вышэйшай істотай, увасабленнем праўды, справядлівасці, сапраўднай любві да людзей. Папоў, манахаў і ўсіх, хто меў непасрэднае дачыненне да афіцыйнай царквы, яна страсна ненавідзела.

— Боскія абірацелі, на людской бядзе жыруюць… — так гаварыла яна пра царкоўны клір. Аднак у царкву хадзіла, праўда, зрэдку, каб не даць людзям падставы абвінавачваць яе ў бязбожнасці.

— Бог у маім сэрцы заўсёды, ці буду я ў царкве, ці ў будні дзень на працы.

Яна, простая сялянская жанчына, непісьменная, выхоўвала ў дзяцей непрымірымасць да несправядлівасці, да ашуканства, да ўсякага зла ў дачыненнях чалавека да чалавека. З самага нашага маленства яна прывівала дзецям павагу да шчырасці, да сумленнасці, да ўсялякай чалавечай працы, прывучала любіць і паважаць чалавека працы. Таго, хто, не працуючы, добра жыў (трэба разумець — багата жыў), маці прылічала да катэгорыі людзей, якіх называла пузанамі і захрыбетнікамі. Яе страснай марай было — вывесці дзяцей «у людзі». Прычым гэтае паняцце «людзі» было своеасаблівае, не пазбаўленае пэўнай дэмакратычнасці. «Я хачу, — гаварыла маці, — каб вы сапраўднымі людзьмі сталі, каб вас не папіхаў кожны гнойны жук, а каб гэтыя жукі вас пабойваліся». Яна любіла дзяцей і, каб забяспечыць

ім лепшую будучыню, гатова была ісці і ішла на самыя цяжкія пакуты і ахвяры.

Бацька быў звычайны рабочы. Ён пабачыў багата чаго на свеце, ездзячы раней на заработкі. Быў у Архангельску, на Далёкім Усходзе, куды ездзіў на розныя землякопныя работы, на пракладку чыгуначных пуцей.

Для свайго часу ён быў пісьменны чалавек: мог напісаць пісьмо, прачытаць кнігу, умеў чытаць і на царкоўнаславянскай мове. Часам у нядзелю пачне чытаць Евангелле або Псалтыр. Маці слухае, слухае ды і скажа:

— Ты вось чытаеш для сябе толькі, ніхто цябе не разумее. Пачытаў бы дзецям што-небудзь цікавае!

Тады бацька браў кніжку пад гучнай назвай «Грамабой», чытаў нам пра разбойнікаў бранскіх лясоў, пра Салаўя-разбойніка. Гэта было цікава. Мы слухалі, затаіўшы дых. У тым жа «Грамабоі» былі і апавяданні Кацюбінскага і яшчэ некаторых пісьменнікаў, а таксама народныя казкі, песні, паданні. Было яшчэ ў бацькі больш за дзясятак кніжак з мастацкай літаратуры, сярод іх і томік Максіма Горкага. Было некалькі папулярных кніжак аб розных з'явах прыроды. З пару кніжак было — «Жыціі святых» («Пра Аляксея — чалавека Божага», «Пра Сімяона-столпніка») і яшчэ нешта падобнае. Гэтыя кніжкі нас зусім не цікавілі; куды было святым да разбойнікаў! Штогод бацька купляў настольны каляндар, да якога ў якасці дадатку прыкладаўся сямейны партрэт «Яго Імператарскай Вялікасці». «Аўгусцейшы партрэт» штогод мяняўся на сцяне пад шклом у рамцы з-пад «Правіл сігналізацыі расійскіх імператарскіх чыгунак». Партрэт гэты вывешваўся, зразумела, на самым пачэсным месцы, непадалёк ад двух абразоў — Спаса і Міколы-цудатворца. Крыху ніжэй, у пачцівым аддаленні ад аўгусцейшых асоб, вісела пара скромных фатаграфій: нейкага дзядзькі і сямейны здымак. Акрамя гэтых упрыгожанняў параднай сцяны часам траплялiся там розныя лубачныя малюнкі: генерал Скобелеў, сказанне пра блуднага сына, пазней, у часы імперыялістычнай вайны, — Кузьма Кручкоў і г. д. «Аўгусцейшая сям'я» не выклікала ў нас, у дзятвы, якіх-небудзь асаблівых эмоцый. Быў гэты свет надзвычай ад нас далёкі. Толькі часам з'яўленне новага партрэта давала падставы для нас, дзяцей, да пачатку гарачай дыскусіі. Мы адзначалі, што аўгусцейшыя падраслі за год, што яны нядрэнна выглядаюць — відаць, жаруць не ў сябе, бо такія гладкія… На мурцах (хлебная цюра), якімі мы часта прабаўляліся, такіх мурлоў не разгадуеш… Гэтым і абмяжоўваліся нашы дачыненні да партрэта аўгусцейшых персон, калі не лічыць некаторых нашых

спроб яшчэ лепш упрыгожыць царскія асобы нашым уласным умельствам у мастацтве. Калі ў нашы дзіцячыя рукі трапляў такі партрэт (вядома, з тых, які мяняўся на новы), мы прырабнялі цару большую бараду, а «Яе Вялікасці» прымалёўвалі вусы. Не пакідалі без увагі і астатніх. Тут памагалі нам і наша дзіцячая фантазія, і тыя выяўленчыя сродкі, якія ў нас, можна сказаць, былі заўсёды ў дастатку. Звычайны вугаль, крэйда і засохлая замазка — грунтоўка са сцен — давалі ў нашы рукі ажно тры фарбы: чорную, белую і жоўтую. Гэтых сродкаў заўсёды хапала, каб любы аўгусцейшы твар прывесці ў больш прыемны для нас выгляд. Звычайна маці скоса пазірала на нашы мастацкія практыкаванні, абуралася для прыліку —«вось убачыць які шпік, дык мала вам не будзе…» І калі нам надакучваў урэшце ўвесь гэты жывапіс, яна непрыкметна забірала нашы «эцюды» і паціхеньку, каб ніхто не бачыў, спальвала ў печы.

Новым месцам жыцця сям'і аказалася не казарма, а будка на 230-й вярсце, паміж 16-м раз'ездам і станцыяй Рагачоў. Гэта была стандартная чыгуначная будыніна памерам прыблізна метраў шэсць на шэсць. Былі ў ёй тры даволі вялікія акны — адно проста на чыгунку і два ўздоўж яе, у розныя бакі. Акрамя іх былі яшчэ два маленечкія акенцы, спецыяльна для таго, каб назіраць з іх за чыгункай у абодвух напрамках. Бадай што ўсю будыніну займала вялікая руская печ, якая стаяла на самай сярэдзіне памяшкання, — вакол яе хоць карагоды вадзі. Каб надаць гэтаму памяшканню хоць трошачкі прытульнага жыллёвага выгляду, паміж печчу і задняй сцяной, у якой былі дзверы, пастаўлена была шалёвачная перагародка, якая іператварала ўсю запечную частку памяшкання ў нешта падобнае на спальню. Там стаялі з дошак-шалёвак суцэльныя нары-палаці, дзе спалі мы, малыя, пад незайздроснымі саматканымі дзяружкамі.

Стаяў у хаце і самаробны драўляны ложак, але ён менш за ўсё выкарыстоўваўся па прызначэнню, а быў, так сказаць, дэкарацыйнай рэччу. Ён быў заўсёды па-святочнаму засланы стракатай самаробнай коўдрай, пашытай з розных кавалачкаў паркалёвай, сацінавай і розных другіх абрэзкаў танных крамнін. Адным словам, ложак быў парадняй мэбляй. З розных рэчаў хатняга ўжытку памятаю дзве скрыні: адна чорная, пафарбаваная, для адзення і бялізны, і другая, што стаяла ў сенцах, з простых дошак: для мукі, круп, хлеба і іншых прадуктаў. У чорнай скрыні была запаветная шуфлядка, дзе захоўваліся дзве падвянечныя свечкі бацькоў, два срэбныя шлюбныя пярсцёнкі, напарстак, ножны, маток суравых нітак, кавалачак воску і ўсякая іншая

драбяза, пакорпацца ў якой быў я вялікі аматар. Былі ў хаце з іншых рэчаў качалка для бялізны, дубовы рубель з разбярным арнаментам: лісце і жалуды. Незадоўга перад нямецкай вайной у хаце з’явілася ручная швейная машына «Зінгер», купленая ў растэрміноўку на некалькі год. Маці ўмела кроіць і шыць простыя вясковыя сукенкі і блузкі. Яна не толькі абшывала нас, але часта шыла і другім за пэўную плату. Якімі б мізэрнымі яны ні былі, яе заробкі на шытве, усё ж яны мелі немалое значэнне ў сямейным бюджэце. Бацька атрымліваў у месяц дванаццаць рублёў з капейкамі, маці як пераезная вартаўніца — тры рублі з капейкамі.

Недалёка ад нашай будкі было Сяло Старае, а за якога паўкіламетра — рэчка і на ёй даволі вялікі чыгуначны мост. На новым месцы таксама хапала лясоў, як і некалі за Магілёвам, але тут былі яны кіламетры за тры, за чатыры ад нашага жылля. А вакол прасціралася, як мора, поле. Аднаго году шумела каля нас жыта, другога — ярына, а на трэці прыпадаў папар. Да маіх абавязкаў нянькі дадаліся новыя. Трэба было пасвіць карову, пільнаваць, каб не трапіла Лысая пад паравоз. Ды і самому пільнавацца, каб не задрамаць, не заснуць, седзячы дзе-небудзь на рэйках, і не падмазаць уласнай персонай паравозныя колы. Аднак, колькі ні намагаўся я сумленна несці свае абавязкі пастушка, разы са два за час маёй практыкі падапечныя мае лыскі ўхітраліся трапляць пад поезд. Зразумела, што такія выпадкі былі для сям’і вялікім няшчасцем. Не кажу ўжо, чым завяршаліся такія падзеі для пастушка: нёс ён тут поўную адказнасць — і маральную і фізічную — і меў усе падставы праклінаць сваю «прафесію».

Аднак не кожнага ж году здараліся такія падзеі, так што і пастушкова доля не была такая ўжо непрыглядная. Вакол было так багата цікавага для назірання. На чыгунцы працавалі рабочыя, мянялі летам шпалы, рабілі так званую «рыхтоўку» пуці, штопку, пад’ёмку, разганялі зрэдку зазоры між рэек. Усё гэта рабілася пры дапамозе няхітрага інструмента: кіркі, лапаты, молата, штопкі, кастылёвай лапы, звычайных калкоў, звычайнага бервяна-вагі. Праца вымагала чалавечай сілы, натужвання рук і спіны да сёмага поту, да знямогі. Рабілася ўсё гэта пад адну і тую ж песню:

Раз, два — дружна!
Паддаць нужна!
Яшчэ разам,
Гэй, узважым!

Часам іншыя словы гаварыліся, часам ім надавалася жартоўнае адценне. Гэта ўжо ў залежнасці ад таго, хто праходзіў у гэты час паўз дарогу: ці дзяўчына, ці мужчына, ці якая бабулька. І ў песню-каманду прыпляталіся розныя словы, яўна па адрасу гэтых выпадковых падарожных. Часам траплялiся і такія слоўцы, за якія мы, дзеці, калі ўголас паўтаралі, атрымлівалі ці суровае папярэджанне (гэта ў лепшым выпадку), ці пэўную кару па заслугах. Такія падзеі былі для нас незразумелыя: дарослым можна гаварыць і нават спяваць такія словы, а нам «няможна». Чаму?

Аднак дыскусіі доўгай тут не ўзнікала: справа заканчвалася даволі празаічна, з ужываннем найбольш «папулярных» сродкаў, як бацькава папружка або матчыны матузы.

На работах на чыгунцы камандаваў звычайна старшы рабочы. Ён лажыўся папярок пуці, прыпадаў вокам да бліскучай рэйкі і так сачыў за яе ледзь прыкметнымі зрухамі і адхіленнямі. Мы, малыя, таксама прыпадалі да рэек, углядаліся ў іх бліскучыя рыскі. І нам здавалася, што і сапраўды пасля гэтых «раз, два — дружна» бліскучая рыска рэйкі рабілася раўнюткай, як страла, выпростваліся яе завіліны, якія і да «рыхтоўкі» адступалі ад нормы на якога-небудзь камарынага паўкрыла.

Больш цікавыя работы былі на мосце, на закругленні, на змене стрэлачных крыжавін на раз’ездзе.

Але для нас, малых, кожная работа была цікавая. Вось ідзе па чыгунцы пуцявы вартаўнік, ці іначай — пуцявы абходчык. На плячах у яго малаток, гаечным ключом ён злёгку пастуквае па рэйкавых стыках, каб вызначыць, ці не аслабла каторая гайка, якую зараз жа трэба падкруціць, падцягнуць. На баку ў яго вісяць на поясе ў акуратным скураным футляры чырвоны і зялёны сцяжкі — сігналы, бляшанка з петардамі, медны ражок. У скураной торбе — запасныя гайкі і кастылі. Часам ён валачэ за сабой «чорта», няхітры драўляны інструмент, якім выводзіць ён роўную рыску-канаўку па броўцы пясчанага насыпу. Уперадзе паказваецца поезд. Вартаўнік знімае «чорта», гучна трубіць у ражок, каб перасцерагчы рабочых, што працуюць на рэйках, аб падыходзе поезда. А сам становіцца на правы бок чыгункі (у залежнасці ад напрамку руху поезда), разгортвае зялёны сцяжок-сігнал і трымае ў выцягнутай руцэ насустрач поезду. А той ужо заўважыў сігнал і часам адгукнецца працяглым гудком. Гэта азначае: сцеражыцеся ўсе, хто на пуцях!

Паязды ў бок Рагачова, асабліва таварныя, ідуць пацiху, павольна. Тут пад’ём угару, у дадатак закругленне. Часам таварны паравоз пыхкае, цягнучы безліч гружаных вагонаў, і, засопшыся да знямогі, спыняецца, каб перадыхнуць, набраць пары. А часам

і зусім пакоціцца назад, каб спыніцца на роўным месцы, набрацца сілы і ўзяць горку з разгону. Як жа тут не падчапіцца на падножку вагона, платформы. Трэба пільна сачыць, каб гэтую аперацыю не заўважылі бацькі. Трэба сцерагчыся і кандуктароў, якія таксама не любяць такіх практыкаванняў. Можна, зазяваўшыся, і кухталя зарабіць, і вушы падставіць на здзек, і, што самае горшае, страціць выпадкам шапку. Адбярэ яе кандуктар, і што ты з ім зробіш. Даказвай тады бацьку, дзе падзелася твая шапка. Ужо не кажу аб тым, што пры гэтых практыкаваннях можна часам і нагу падставіць пад кола. Не застрахавана таксама і галава. Не дзіва, што такія практыкаванні, калі яны выкрываліся бацькамі, неслі за сабой усякія непрадбачаныя кары. Але пазней, калі мне было ўжо год дзесяць ці адзінаццаць, бацька глядзеў на ўсе падобныя справы больш лагодным вокам:

— Які ж з яго будзе рабочы, калі ён не налаўчыцца сесці на поезд ці саскочыць з яго на хуткай хадзе…

Паязды з Рагачова ішлі такой хадой, што толькі татахкалі колы: та-та-та… та-та-та… Да іх не падступішся. Цікавыя былі пасажырскія паязды. У вокны выглядала багата рознага народу. З жоўтых, сініх, блакітных вагонаў першага і другога класа пазіралі на нас розныя паны, багата апранутыя дзеці. І мы часам марылі: вот бы добра, каб сарвала ветрам прыгожую шапку з каторага… Часам мары збываліся, і ў нашы рукі трапляла якая-небудзь адмысловая шапка-матроска, з істужкамі, з залатымі літарамі. Мы былі ў захапленні. Надзявалі, прымервалі, каму падыходзіць, зайздросцілі шчаслiўцу. Маці папярэджвала:

— Глядзіце ж, калі будзе ехаць на дрызіне дарожны майстар, дык не дужа вытыркайцеся з гэтай шапкай на вочы, адбярэ…

Паспрабаваў бы хто-небудзь адабраць нашы набыткі! Пасажырскія паязды неслі нам і другія здабыткі, забяспечвалі цацкамі: прыгожымі карабкамі ад папярос, ад цукерак, бляшанкамі, ды ці мала чаго ўпадзе выпадкам з цягніка: кніжка, часопіс, якая-небудзь цікавая рэч. Ды нават звычайная медная гайка з паравоза ці трубка — усё гэта знаходзіла месца ў нашым дзіцячым ужытку. Здавалася, знаходзілі цэлы скарб, калі трапляўся які-небудзь адмысловы ножык-сцізорык з бліскучымі тронкамі ці што іншае падобнае. Хадзілі ў той час і такія паязды, якія асабліва не цікавілі нас, бо пасля іх мы не знаходзілі чаго-небудзь каштоўнага ў сэнсе нашых дзіцячых інтарэсаў. Такім поездам быў таварна-пасажырскі, ці, як звалі яго ў тыя часы, «Максім Горкі». У таварным поездзе было некалькі пасажырскіх трохвосных вагонаў чацвёртага класа. Тут ехаў просты народ, такі ж, як нашы бацькі. Народ гэты не курыў дарагіх папярос, не

забаўляўся цукеркамі, не насіў прыгожых шапак. І мы шчыра шкадавалі, калі пасля такога поезда дзе-небудзь пад адхонам знаходзілі звычайны парыжэлы картуз ці прамазучаную кепку. Шкадавалі ўласніка такой рэчы: ну як жа ён паедзе далей без шапкі, калі ўжо на дварэ ідуць восеньскія дажджы?..

Было шмат цікавага для нас і акрамя паяздоў. Праходзілі брыгады тэлеграфных рабочых, якія нацягвалі новыя драты на слупы. Белы фарфоравы ізалятар для нас быў таксама добрай цацкай. Брыгада маляроў фарбавала чыгуначны мост на зялёны альбо блакітны колер — ну як не выпрасіць у іх бляшанку фарбы і не заняцца потым жывапісам дзе-небудзь на сцяне хлеўчука альбо на плоце? Часам у нядзелю хадзілі з бацькам у лес па ягады, грыбы, арэхі альбо на рэчку лавіць рыбу ці ракаў.

Багата было розных гэтакіх забаў і заняткаў. У штабялях шпал гняздзіліся плісаўкі. На магутнай хвоі, што стаяла ў полі, жылі заўсёды буслы, і мы кожнай раніцы назіралі, як яны кармілі сваіх буслянят, як вучылі лятаць, як збіраліся ў вырай. У шчылінах буславага гнязда знаходзілі прытулак дзясяткі вераб’іных сем’яў, так што на буславым паселішчы заўсёды стаяў такі гармідар, нібы там сабраліся птушкі з усёй акругі і вырашалі свае важнейшыя справы.

Па восені мы, дзеці, збіралі грушы-дзічкі, ці, як іх называлі яшчэ, гнілушкі, лежанкі. Хадзілі ў дуброву па жалуды. Ля будкі і ўздоўж чыгункі садзілі маладыя бярозкі. Яны разрасліся потым, сталі вялікія, цяністыя. У мяне быў свой уласны «лес»: у зацішным куточку побач канавы я вырасціў дзясяткі са два маладых хвоек, елак і бяроз. Тут жа, пад елкай, пабудаваў хатку з дзвярамі, са шклянымі акенцамі. У гэтай хатцы не пераводзіліся насельнікі: траплялі сюды майскія жукі-хрушчы, палонныя вераб’і, яшчаркі, вожык, вуж і ўсякая іншая жыўнасць. Аднаго разу пасяліў я там прыгожага ўдода, які падбіў крыло аб тэлеграфны дрот. Удод быў надзвычай прыгожы. Яго пер’е гарэла на сонцы, як камні-самацветы, і ён нагадваў мне жар-птушку з вядомых казак. Усё гэта, зразумела, поўніла маё сэрца вялікім гонарам, цешыла мяне. Я нават верыў, што гэта жар-птушка прынясе мне незлічоныя багацці — горы абаранкаў, цукерак, бліскучых гузікаў і розных цвікоў і цвічкоў для маіх будаўнічых спраў. Але не ўлічыў я адной акалічнасці. Прыгожы ўдод меў такі непрыемны пах, што засмуродзіў усю маю «сялібу». Урэшце, як ні шкада мне было няздзейсненай мары пра дзівосныя скарбы, я шчыра быў рады, калі неахайны кватарант уцёк-такі з маёй будыніны. Ды, праўду кажучы, усе мае кватаранты знаходзілі таго ці іншага спосабу, каб уцячы з майго ўтульнага, як мне здавалася, доміка.

Доўга намагаўся я пасяліць у гэтай хатцы некалькі чмялёў, каб за маю ласку да іх збіралі яны мёд для мяне. Я нават пахваліўся ўсім блізкім, што хутка абкармлю ўсіх мёдам. Але, акрамя самай чорнай няўдзячнасці з боку чмялёў, нічога не атрымалася з маіх шчырых клопатаў аб іх дабрабыце. Угледзеўшы мой распухлы ад чмяліных пацалункаў нос, бацька заўважыў:

— Пара чмяліных спраў майстру брацца за навуку…

Праз які тыдзень ён прывёз мне з горада лемантар. Так апынуўся я на бліжніх подступах да навукі, якая, калі шчыра казаць, не вельмі радавала мяне спачатку і прыносіла шмат непрыемнасцей. Багата клопатаў даставіў мне лемантар, і чаго толькі ні рабіў я, каб выйсці з-пад яго ўлады: і хаваў пад печ, і закопваў у зямлю, і засоўваў куды-небудзь пад штабель старых шпал. Нават тапіць у рэчцы сабраўся. Але «навука» нідзе не гінула. Магчыма, прычынай такой з'явы служыў пэўны страх перад магічнай банькай на бацькавай казённай папрузе, на якой красаваўся двухгаловы арол і чатыры літары — Р.О.Ж.Д., што азначала — «Риго-Орловская железная дорога». Магчыма, прычынай было тое, што з самых ранніх год я прывучаны быў гаварыць толькі праўду. Як бы там ні было, а калі бацька загадваў прынесці лемантар для праверкі маіх ведаў, я вымушаны быў шэптам апраўдвацца:

— Я зноў не вывучыў… А лемантар дастаць цяжка, ён пад трыма цаглінамі пад печчу…

— Цягні, брат, цягні навуку!..

Нічога не зробіш, лемантар зноў з'яўляўся на свет белы, і пачыналася нуднае, бяссэнсавае чытанне: бля, вля, гля, для, жля, зля і г. д.

Я не бачыў пасля ніводнай кнігі, якая б магла быць падобнай да гэтага лемантара па сваёй бязглуздасці і нуднасці. Неяк жа сабіла бацьку купіць гэты пракаветны лемантар, які даўно ўжо выйшаў з ужытку. Дарэчы, на кожную літару там даводзілася па слову-малюнку. Некаторыя з іх, як «рама», «піла», «юла», былі яшчэ зразумелыя. Але вось малюнкі «фігура», «эхо», «міро» ніяк не паддаваліся майму разуменню.

— Што гэта такое за фігура? — пытаўся я.

— А ты дужа не думай, раз называецца «фігура», значыць, і намалявана фігура.

Ну што ж, фігура дык фігура. Праўда, гэтая «фігура» потым мне далася ў знакі ўжо ў школе, калі я па дзіцячай шчырасці сказаў аднаго разу папу, пасля таго, як ён накруціў мне вуха:

— Вы проста фігура, вось хто вы…

— Што ты сказаў?

— Фігура вы, вось што…

— Чаму фігура?

— У вас і барада, як у фігуры…

Поп так і не дабраў ладу, чаму ён іменна фігура. Затое я добра разумеў гэта: у «фігуры» ў лемантары была такая ж кучаравая барада, як у папа. Але хіба яму давядзеш гэта?

Пачатковую школу я наведваў у Старым Сяле. Маё паступленне туды было для сям'і важнай падзеяй. Будучаму вучню пашылі новыя штаны, новую кашулю. Бацька змайстраваў новыя скураныя лапці, маці пашыла спецыяльную торбачку для маіх будучых кніжак. Сам бацька завёў мяне ў школу і здаў «з рук на рукі» настаўніку, якога прасіў трымаць мяне ў дысцыпліне і не шкадаваць, у выпадку патрэбы, ні лазы, ні бярозавай кашы для лепшага засваення асноў навукі. Мне ж даў суровы наказ:

— Глядзі, вучыся, на бязульствы дужа не кідайся, бо калі пачую ад гаспадзіна вучыцеля, што ты дрэнна вучышся, дык не пагляджу, што на табе новыя штаны, а ўсыплю па дваццаць пятае чысло…

Я слухаў і меркаваў: дваццаць пятае чысло далёка (бо ў школу я прыйшоў першага верасня), так што не такі ўжо страшны наказ, як здаецца спярша. Але ізноў жа — чаму па дваццаць пятае? Відаць, з'явілася такая прымаўка ў сувязі з тым, што тагачасныя рабочыя і служачыя атрымлівалі зарплату каля гэтага чысла, так што «плата» за мае заслугі прыўрочвалася таксама да гэтай даты. Але я ведаў, што бацька не такі ўжо суровы, як гэта можа здацца па яго словах, асабліва тых, што ён гаварыў пры чужых людзях.

Ці баяўся я за свае новыя штаны, ці былі тут іншыя прычыны, але вучыўся я ў школе няблага. За гады вучобы перачытаў усе кніжкі, якія былі ў скромнай школьнай бібліятэцы і ў саміх настаўнікаў (іх было двое). Як жывая, устае ў маёй памяці ссутуленая постаць настаўніка Кірыла Іванавіча Бечына, хворага на сухоты. Гэта быў бязмежна адданы сваёй справе вясковы настаўнік, які інтарэсы школы і сваіх вучняў ставіў вышэй за ўсё на свеце. Дзякуючы яму я палюбіў рускую літаратуру і бліжэй пазнаёміўся з ёй, вядома, у тых маштабах, якія адпавядалі майму тагачаснаму ўзросту. Пры сканчэнні школы я атрымаў у падарунак кніжку Гогаля «Вечары на хутары ля Дзіканькі». Гэта сапраўды была ў мяне самая любімая кніжка ў тыя часы.

Настаўнік угаварыў майго бацьку паслаць мяне ў горад Рагачоў на далейшую вучобу ў двухкласным вучылішчы пры настаўніцкай семінарыі. Рагачоў у той час быў вельмі маляўнічым

гарадком. Нізенькія драўляныя домікі хаваліся ў багатай зяляніне садоў. З больш буйных будынкаў вылучаліся дабротныя, на цэлы квартал, камяніцы рэальнага вучылішча, белыя карпусы не так даўно пабудаванай настаўніцкай семінарыі, двухпавярховы будынак земства, пажарная каланча, старажытны замак каралевы Боны (у ім змяшчаўся нейкі склад), шасэйная станцыя з часоў Екацярыны і чыгуначная станцыя. Акрамя семінарыі і рэальнага вучылішча, у гэтым невялікім гарадку (у тыя часы налічвалася ў ім тысяч чатырнаццаць жыхароў) былі яшчэ жаночая гімназія, гарадское і рамесніцкае вучылішчы і некалькі пачатковых школ, міністэрскіх і царкоўнапрыходскіх. З прамысловых прадпрыемстваў у гарадку было некалькі пільняў, кардонны і спіртны заводы, нафтавыя склады Нобеля. У самым цэнтры гарадка, побач з астрогам, абгароджаным высокім плотам з завостраных бярвенняў, стаяў тэатральны будынак, у якім мясцовай трупай аматараў ставіліся спектаклі. Было яшчэ кіно, ці, як называлі тады яго, ілюзіён. Усё гэта знаходзілася на цэнтральнай вуліцы. Называлася яна тады Быхаўскай. Супроць тэатра на другім баку вуліцы быў гарадскі бульвар. У старых драўляных казармах размяшчаўся Яраслаўскі пяхотны полк. Яго аркестр іграў летам на бульвары альбо ў невялікім скверыку па-над кручай Дняпра, дзе ўнізе знаходзілася параходная прыстань.

Сам гарадок стаяў як бы на паўвостраве, на мыску. З аднаго боку працякаў Дняпро, з другога боку гарадскія землі абмывала Друць, даволі імклівая і глыбокая рака.

У гэтым гарадку і правёў я свае дзіцячыя і юнацкія гады. Два гады вучыўся ў двухкласным вучылішчы. Жыў у гэты час у сям'і знаёмага грузчыка-дрываклада з чыгункі, на тэрыторыі нафтавага склада, у старажоўні. Было мне тады год 11–13. Летам я працаваў ужо на чыгунцы, зарабляючы капеек па трыццаць у дзень. Траплялiся сякія-такія заработкі і зімой: перапампоўваць нафту з цыстэрны ў бакі, дробныя пагрузачныя работы на станцыі, на дрывотным складзе на рацэ.

Восенню 1913 года, калі мне не было яшчэ патрэбных для паступлення ў семінарыю чатырнаццаці год, я, пасля просьбы дапусціць мяне ўсё ж да экзаменаў, паспяхова вытрымаў уступны экзамен у настаўніцкую семінарыю. Паколькі добра вучыўся ў двухкласным вучылішчы і добра вытрымаў экзамен, мне прадаставілі казённую стыпендыю, аж пятнаццаць рублёў на месяц, у тым ліку і на летнія месяцы. Гэта было надзвычайнай маёй удачай: памер стыпендыі перавышаў бацькаву зарплату. Я адчуваў сябе самым шчаслівым чалавекам на зямлі. Не менш за мяне радаваліся бацькі.

Але гэтая радасць была нядоўгая. Нягледзячы на тое што вучыўся я добра, асабліва па такіх прадметах, як геаграфія, літаратура, гісторыя, нягледзячы на тое што пісаў я розныя сачыненні на «выдатна», мне ў другой чвэрці года зусім неспадзявана выставілі ні больш ні менш як па двойцы па маіх любімых прадметах. Мне гэта спрабавалі неафіцыйна растлумачыць тым, што вінавата маё «павядзенне», хоць я асабіста не бачыў у ім нічога ні «крымінальнага», ні ганебнага, ні несумяшчальнага з семінарскімі распарадкамі. Як пазней высветлілася, трэба было даць стыпендыю нейкаму «свайму чалавеку». Мая стыпендыя перайшла чалавеку, бацькі якога былі не толькі забяспечаныя людзі, але нават багатыя ў параўнанні з маёй сям'ёй.

Як бы там ні было, тры двойкі ў тагачасных маіх умовах азначалі для мяне самую сапраўдную катастрофу. З-пад маіх ног была выбіта сталая матэрыяльная база для вучобы. Я зусім быў заняпаў, як гаворыцца, духам. Непрыемна было расчароўваць бацькоў, якія прыкладалі ўсе намаганні, каб сын «выбіўся ў людзі».

Выбавіцца з гэтага прыкрага становішча памаглі таварышы, а таксама адзін з настаўнікаў, выкладчык фізікі, які памог мне падшукаць заработкі платнымі ўрокамі. З чатырнаццаці год зрабіўся я рэпетытарам дзяцей у купецкіх і чыноўніцкіх сем'ях, вучыў гультаяватых балбесаў-рэалістаў, якія часам былі старэйшыя за свайго настаўніка гады на тры, на чатыры. Не сказаць, каб захаваліся ў мяне добрыя ўспаміны аб гадах маёй рэпетытарскай дзейнасці. Мае «работадаўцы» не дужа цырымоніліся ў абыходжанні з рэпетытарам, не ўважалі яго часам як чалавека, лічылі за вялікую ласку пададзеную яму — без заліку ў аплату — шклянку чаю, не вельмі спяшаліся расплаціцца, а пры выпадку і проста махлявалі, не плацілі. Прычым не плацілі за працу часам на «законнай падставе»: зарабіў твой падапечны зноў двойку — значыць, табе можна і не плаціць.

Спрабаваў я знайсці заняткі па падрыхтоўцы дзетвары чыгуначнікаў да паступлення ў розныя школы. Тут справа ладзілася лепей, бо гэта былі свае людзі: паравознікі, пуцейцы, грузчыкі, стрэлачнікі, счэпшчыкі. Тут і аплата была меншая, а калі катораму «кліенту» і цяжка было заплаціць які траяк за ўвесь сезон «навучання», то мы заўсёды знаходзілі спосаб вырашыць справу да ўзаемнай згоды.

Наогул жа ў летнія месяцы, у час канікул, я заўсёды працаваў на чыгунцы па рамонту пуці, на маставых работах, на пашырэнні ў першыя гады імперыялістычнай вайны запасных пуцей на станцыі Рагачоў.

Настаўніцкую семінарыю я скончыў першага лютага 1917 года. Ва ўмовах вайны гэта быў датэрміновы выпуск. У нармальных умовах трэба было вучыцца да выпуску яшчэ месяцаў пяць. Усіх выпускнікоў, за выключэннем трох чалавек, якія не мелі яшчэ патрэбнага ўзросту (у ліку гэтых трох быў і я), паслалі ў розныя ваенныя школы, што рыхтавалі прапаршчыкаў. Туды ж былі пасланы раней семінарысты і папярэдніх выпускаў. Некаторыя з іх пасля сканчэння афіцэрскай школы па дарозе на фронт наведвалі на які-небудзь дзень-два семінарыю. Зразумела, такія візіты падагравалі ў семінарыстаў патрыятычныя настроі, папаўнялі кадры так званых «вольноопределяющихся». Што грахі таіць, і мы, маладзейшыя, з зайздрасцю пазіралі на новыя, як гаворыцца, з іголачкі, мундзіры, бліскучыя пагоны, рыпучыя рамяні, партупеі, афіцэрскія шаблі і наганы. Але глыбока мы задумваліся над сутнасцю ўсіх падзей ваеннага часу тады, калі ў дамавой семінарскай царкве ўжо завельмі часта служыліся паніхіды па загінуўшых на франтах выхаванцах семінарыі. І цяжка было разабрацца ў тых складаных пачуццях, якія адольвалі нас. Тут быў самы шчыры патрыятызм, глыбокая любоў да радзімы, сум па загінуўшых таварышах і роздум аб усіх тых падзеях, што адбываліся ў першыя месяцы сямнаццатага года, чуткі аб якіх даходзілі да нас. Надыходзілі дні рэвалюцыі, і яе подыхі адчуваліся ўсё выразней нават праз каменныя сцены карпусоў нашай семінарыі.

Пасля сканчэння семінарыі я адразу атрымаў прызначэнне настаўнікам у Ліпініцкую земскую школу Буда-Кашалёўскай воласці Рагачоўскага павета (цяпер гэтая вёска ў Буда-Кашалёўскім раёне).

Што дала мне семінарыя ў сэнсе агульнай адукацыі? Яе праграма была разлічана на падрыхтоўку будучага настаўніка пачатковай школы, на прывіццё яму практычных навыкаў у педагогіцы, у методыцы выкладання. Але справа была, вядома, не толькі ў гэтых навыках. Настаўнік павінен быў стаць надзейнай апорай існуючага дзяржаўнага ладу, і яго стараліся выхаваць як адданага слугу царскага ўрада, змагара «за веру, цара і айчыну». Сказаць, што афіцыйным колам поўнасцю ўдавалася ажыццявіць гэтыя мэты, было б няпраўдай. Сярод выкладчыкаў семінарыі былі і прагрэсіўныя людзі, якія глядзелі на справу выхавання будучых настаўнікаў трохі інакш, чым гэтага патрабавала афіцыйная казённая думка. Яны імкнуліся, наколькі было магчыма ў тагачасных умовах, выхаваць будучага настаўніка як перадавога грамадзяніна сваёй краіны.

Курс агульных ведаў не вылучаўся якой-небудзь асаблівай шырынёй. Але ў нашай семінарыі, якая лічылася больш прагрэсіўнай у параўнанні з іншымі, што даўно існавалі, семінарыямі, былі ўсе магчымасці для шырокай самастойнай працы над сабой. Існавалі розныя гурткі, легальныя і нелегальныя. Выдаваўся рукапісны літаратурна-грамадскі часопіс. Была добра ўкамплектаваная бібліятэка. Асаблівага ўдзелу ў гуртках я не браў, бо пытанні, якія там вывучаліся і распрацоўваліся, былі яшчэ мне не па ўзросту. Як я гаварыў ужо, пры паступленні ў семінарыю мне не было і чатырнаццаці год, а большасць маіх аднакурснікаў мелі па дзевятнаццаць, па дваццаць, а то і па дваццаць пяць гадоў і выглядалі сталымі дзядзькамі. Агульных інтарэсаў з большасцю аднакашнікаў я не меў, бо хадзіў, як гаворыцца, у падлетках, у падшывальцах.

Асноўная мая ўвага была скіравана на бібліятэку, якую я вельмі актыўна наведваў. Трэба аддаць справядлівасць і выкладчыку рускай мовы і літаратуры, які выхаваў у нас сапраўдную любоў да мастацкага слова. Дзякуючы яму веды нашы ў галіне рускай і заходняй літаратуры былі куды шырэйшыя, чым у вучняў такой «арыстакратычнай» у параўнанні з намі навучальнай установы, як рэальнае вучылішча. Адсюль зразумела, што на якіх-небудзь літаратурных вечарах або дыспутах нашы семінарысты «пабівалі» ў пух і прах рэалістаў і гімназістаў, яны часта звярталіся да нас, каб памаглі, далі кансультацыю пры распрацоўцы тых ці іншых літаратурных пытанняў.

Адно, у чым мы, семінарысты, адставалі ад іх, гэта так званая «свецкасць», прыстойныя манеры і ўсё такое іншае. І як ні намагалася семінарыя даць нам хаця відочнасць гэтага знешняга «лоску» (нават гурток танцаў арганізавала, заахвочвала вывучэнне французскай мовы), з гэтага нічога не выходзіла. Мы ў гэтым сэнсе асталіся «невукамі», ці, як гаварылі тады, «неацёсанымі мужланамі». Дарэчы, за ўсё сваё жыццё я так і не здолеў навучыцца танцаваць хаця б якую-небудзь польку ці кадрыль. Тут я поўны «невук» (хаця шкадаваць аб такім прабеле ў адукацыі мне ні разу не даводзілася).

Успамінаючы семінарскае жыццё-быццё, я з удзячнасцю адзначаю, што семінарыя прывучала сваіх выхаванцаў любіць і паважаць усякую працу. Семінарыі належаў вялікі сад і агарод, у якіх мы праходзілі шырокую практыку па аграноміі, садоўніцтву і гародніцтву. Семінарская сталовая была заўсёды больш чым дастаткова забяспечана сваёй гароднінай і садавінай. У працы вясковага настаўніка практычныя навыкі і веды прыносілі вялі-

кую карысць як вучням школ, так і насельніцтву наогул. Грунтоўна вывучылі мы на практыцы слясарную і сталярную справы.

Вывучэнне музыкі і спеваў было абавязковым у семінарыі. Настаўнік павінен быў умець іграць на скрыпцы, валодаць асновамі музычнага і вакальнага мастацтваў, каб несці гэтыя веды ў шырокія масы насельніцтва, арганізоўваць дзіцячыя хоры і хоры з дарослымі. Вядома, мелася на ўвазе, каб ён мог кіраваць, скажам, і царкоўным хорам, быць «сваім чалавекам» на клірасе, умець чытаць у царкве «апостала», добра арыентавацца ў «васьмігласіі», ведаць назубок асаблівасці царкоўнай службы і г. д., і г. д.

Калі са спевамі ў мяне яшчэ сяк-так атрымлівалася (у малодшых класах нават спяваў на клірасе дыскантам), дык з музыкай справа не ладзілася. Скрыпку ведаў, ноты ведаў, тэхніку іграння на скрыпцы за чатыры гады абавязковага навучання вывучыў, а настроіць яе, навесці на лад, нават з дапамогай камертона, не мог. І калі сярод іншых практычных заняткаў у двухкласнай школе пры семінарыі мы, семінарысты-выпускнікі, павінны былі праводзіць і паказальныя практычныя ўрокі па спевах, дык такая задача заўсёды ставіла мяне ў тупік. Перад самым пачаткам заняткаў таварышы ўхітраліся перадаць мне непрыкметна настроеную скрыпку, але даволі было ў часе ўрока расстроіцца хаця б адной струне, як я трапляў у прыкрае становішча: скрыпка гучала, як нямазаныя колы, дзеці цягнулі мелодыю песні, як гаворыцца, хто ў лес, хто па дровы. Кіраўнік заняткаў, наш семінарскі выкладчык спеваў, сядзеў на крэсле, як на іголках (кожную ж хвіліну ў клас мог зайсці дырэктар семінарыі), адчайна чухаў сваю патыліцу і ўрэшце, не вытрываўшы, рашуча ўставаў, адбіраў у мяне скрыпку, наладжваў яе і выводзіў увесь клас на прасторныя вакальныя сцежкі. У канцы ўрока, змераўшы мяне самым знішчальным позіркам, ён коратка кідаў:

— Та-а-а-к-с, малады чалавек! Галаву даю на адсячэнне, што з вас Паганіні не выйдзе… Та-а-а-кс-с, не выйдзе… Гэта ж трэба, не адрозніць звычайнае сі-бемоль ад фа-дыеза…

Зразумела, што з самым скромным выглядам я згаджаўся з гэтымі бясспрэчнымі думкамі.

Акрамя абавязковых заняткаў са скрыпкай я іграў у аркестры струнных інструментаў. Іграў, праўда, на такіх няхітрых інструментах, як домра і балалайка-кантрабас, але ж там неяк ладзілася справа. Са скрыпкай не выходзіла… І да таго абрыдла мне яна за чатыры гады абавязковага пілікання, што ў першы ж дзень пасля выпускных экзаменаў я ўрачыста занёс на рынак і там жа збыў за недарагую цану маю чатырохгадовую мучыцельку. Вырučаныя

сродкі былі велікадушна пушчаны на развітальную таварыскую вечарынку. Так бясслаўна закончылася мая музычная асвета.

Калі ў музычным мастацтве я астаўся, як гаворыцца, поўным невукам, дык меў затое значныя поспехі ў другім мастацтве — у маляванні, у жывапісе. Я нядрэнна валодаў алоўкам, вугалем, акварэльным і масляным пэндзлем, рабіў неблагія копіі з карцін вядомых мастакоў. На семінарскіх выстаўках малюнкаў мае работы займалі не апошняе месца. Вёў заняткі па маляванню здольны малады мастак, які ўмеў прывіваць сваім вучням любоў да хараства. Ён жа быў страсным аматарам тэатральнага мастацтва, і мясцовая самадзейная трупа часам ставіла пад яго кіраўніцтвам спектаклі ў гарадскім тэатры. Пазней ён выступаў прафесійным акцёрам у кінематаграфіі. Я любіў і люблю тэатр. У самадзейным тэатральным мастацтве выступіў толькі адзін раз, сыграўшы нескладаную ролю татарына ў п’есе «На дне» А. М. Горкага. Відаць, асаблівых лаўраў не «пажаў», бо на тэатральныя падмосткі больш узыходзіць не адважваўся. Праўда, спрабаваў пісаць п’есы, але таксама без поспеху. Было гэта яшчэ да пачатку з’яўлення маіх першых апавяданняў.

Здольнасць да малявання, развітая ў семінарыі, вельмі спатрэбілася мне ў час працы, калі быў я настаўнікам. Нават пазней, калі я працаваў у рэдакцыі акруговай газеты ў Бабруйску, мне даводзілася часам ілюстраваць уласныя артыкулы і нарысы ўласнымі малюнкамі, для якіх я сам вырэзваў клішэ з лінолеуму і сам прыпраўляў іх на машыне ў друкарні.

Некалькі слоў аб настаўніках семінарыі. Сярод іх былі розныя людзі. Адны былі звычайныя чыноўнікі (балазе і чыны мелі тытулярных і надворных саветнікаў) і па-казённаму ставіліся да вучэбнай і выхаваўчай справы. У вучобе рабілі ўпор на зуброжку «ад сіх і да сіх», выхаванне абмяжоўвалі суровай муштрай, педантычнай патрабавальнасцю дакладнага выканання ўсіх правіл семінарскага раскладу. Такія настаўнікі больш клапаціліся аб акуратным выдаткаванні сродкаў на ваксу, адпушчаных па бюджэту вучню, чымся аб духоўным свеце, аб духоўных запатрабаваннях сваіх падапечных. Зразумела, што такое выхаванне і такая вучоба давалі і свае адмоўныя вынікі. Аднак не толькі такія настаўнікі аказвалі ўплыў на семінарыстаў. Былі таксама сярод іх людзі, якія, як гаворыцца, укладвалі ў справу ўсю сваю душу. Яны намагаліся легальнымі і нелегальнымі сродкамі рассунуць вузкія рамкі афіцыйнай праграмы навучання, увесці сваіх вучняў у свет актуальных праблем і пытанняў, якія хвалявалі тагачасную грамадскасць. Іншыя, не ставячы перад сабой непамерна шырокіх задач, усё ж грамадска сумленна выкладалі

сваe дысцыпліны, памагалі набыць навыкі самастойнай працы над кнігай, пашыралі фармальныя веды. І тым і другім семінарыя абавязана выхадам з яе сцен цэлага шэрагу выхаванцаў, якія сталі пазней вядомымі вучонымі, буйнейшымі педагогамі-тэарэтыкамі і практыкамі, дзеячамі мастацтва і літаратуры, грамадскімі дзеячамі і г. д. Лік іх быў бы значна большы, каб не імперыялістычная і грамадзянская войны, у часе якіх загінула багата здольных і таленавітых выхаванцаў семінарыі.

Былі сярод настаўнікаў семінарыі і такія людзі, якіх зламала тая эпоха, яны апусціліся на дно, трымаліся па-панібрацку з вучнямі, пілі горкую… Яны рабілі стаўку на папулярнасць сярод семінарыстаў, знаходзілі часам сіх-тых прыхільнікаў, але, вядома, ніякага поспеху не мелі. Мы проста па-чалавечы шкадавалі гэтых людзей.

У дарэвалюцыйнай пачатковай школе я прабыў настаўнікам самы кароткі час, так што не паспеў асабіста добра пазнаёміцца з умовамі і абставінамі жыцця вясковага настаўніка да рэвалюцыі. Знаёмы з усім гэтым па жыццю і працы маіх папярэднікаў, якія былі маімі настаўнікамі.

Прыехаў я ў вёску настаўнічаць, калі мне было сямнаццаць год. Рэчаіснасць сустрэла мяне не вельмі ветліва.

Са станцыі да маёй вёскі было кіламетраў дзесяць-дванаццаць. Быў у мяне ордэр на фурманку ў земскую конную пошту, выдадзены земскай управай. Зірнулі на гэты ордэр на пошце, змералі мяне позіркам з ног да галавы, нешта прабурчалі пад нос накшталт «чакай, малады чалавек, можа, і дачакаешся…» Чакаў я гадзіну, другую, трэцюю, і вынікаў аніякіх, а ноч надыходзіць.

Урэшце адна спагадлівая душа, відаць, прыбіральшчыца пошты, пошапкам параіла мне:

— Тут нічога не дачакаецеся. Яны коней даюць толькі важнаму начальству. А вы ідзіце на станцыю, там сяляне купецкі лес прывозяць, абавязкова натрапяцца людзі з вашай вёскі…

Я так і зрабіў, і неўзабаве сядзеў на санях, з якіх толькі што разгрузілі на станцыі купецкія дровы, а праз якія дзве гадзіны быў на месцы прызначэння і грэўся ля печы, клапатліва распаленай вартаўніком школы.

Сама школа была запушчаная. Мае папярэднікі былі выпадковыя людзі, якія на працу настаўніка глядзелі як на часовы занятак. Вопыту ў мяне самога аніякага. А тут трэба весці аднаму чатыры групы. Вучні старэйшай групы большыя за мяне і па росту і па ўзросту. Сама школа размешчана ў маленькай і цяснюткай сялянскай хатцы. Школьных прылад, кніжак, дапаможнікаў амаль што няма. Стаіць толькі выцертая да белізны

школьная дошка, пабіты глобус, на якім самы найлепшы педагог не здолеў бы знайсці Еўропу ці Амерыку — усё гэта выліняла, падрапана, запылена. Цяжкасці перада мной стаялі вялікія. У дадатак і сяляне падазрона пазіралі спачатку на зялёнага настаўніка: «Чаму ён навучыць, калі самому самы раз з вучнямі ў снежкі гуляць».

Але ж прыехаў я са страснай марай рабіць нешта добрае, карыснае. Прыехаў, поўны думак і замыслаў, выкліканых у мяне найлепшымі кнігамі маіх любімых пісьменнікаў і славутых педагогаў. Што тычыцца канкрэтнай навучальнай працы, то тут асаблівых сумненняў і цяжкасцей у мяне не было: вучыць я мог і мог прымушаць і заахвочваць вучыцца. Я хутка адчуў — пасля аднаго, другога месяца вучобы, — як сяляне пачалі добра адзывацца аб маёй працы. Але я не ведаў яшчэ, як мне трэба паводзіць сябе перад народам, у чым павінна выяўляцца мая грамадская дзейнасць. А тут наспявалі вялікія падзеі ў краіне. Адбылася Лютаўская рэвалюцыя. У маю глухую вёску прыходзілі самыя цьмяныя, неакрэсленыя весткі аб ёй. Газеты ў вёсцы не бывала ніводнай, разгубленае начальства воласці, ды і начальства павета, нічога не рабіла, каб наладзіць якую-небудзь інфармацыю аб падзеях. Але вось сталі прыязджаць у вёску салдаты-франтавікі. У школе наладжваліся бурныя сходкі. Сюды наведваліся на мітынгі студэнты-эсэры з Буда-Кашалёўскай лясной школы. Разгараліся гарачыя дыскусіі паміж імі і салдатамі-франтавікамі. І трэба прызнацца, што якія-небудзь месяц-два зблізкэння з салдатамі-франтавікамі далі мне куды большую палітычную школу, чым усе чатыры гады вучобы ў семінарыі. Я стаў глядзець на жыццё, на свет другімі вачыма, ці, правільней, гэты свет адкрыўся перада мной яшчэ раз і зусім па-новаму. А ўжо сяляне везлі снапы з панскага поля, везлі бярвенне з панскага лесу, давалі ў каршэнь усім, хто ў гутарках аб рэвалюцыі забываўся сказаць канкрэтна, па-ленінску, а што ж будзе з зямлёй, з вайной, з мірам.

Працы ў маладога настаўніка ў гэты час было па горла. Ён ездзіў і дастаўляў для школы падручнікі, для вёскі плакаты і палітычную літаратуру. Ён арганізоўваў першы ў вёсцы кааператыў, ездзіў за паўсотню кіламетраў па тавары (плугі, косы, сярпы) у горад. Ён сам, пакуль не падвучыў сабе змену, быў загадчыкам і сядзельцам кааператыўнай крамы ў летнія месяцы. Яму трэба было праводзіць і шырокую культурна-асветную працу на вёсцы.

Надышла Кастрычніцкая рэвалюцыя. Сяляне, падрыхтаваныя бурнымі падзеямі таго лета, радасна сустрэлі яе, бурна віталі кожны новы дэкрэт Савецкай улады. Тым часам з пачатку

васямнаццатага года ўсё часцей і часцей прыходзілі весткі аб нямецкіх арміях, якія насоўваліся на краіну. Вёскі, сёлы наважыліся абараняцца, каб не дапусціць немца, як не дапусцілі раней белапольскіх легіёнаў, што атабарыліся ў той час у Рагачове, у Жлобіне і прысылалі загады і сваіх прадстаўнікоў, каб падначаліць сабе і валасці, якія былі на поўдзень ад гэтых гарадкоў. І прадстаўнікоў і іх загады сяляне пасылалі далей. А калі легіянеры паспрабавалі наскочыць узброенымі атрадамі і пусцілі ў ход зброю, іх адбілі і павярнулі назад.

Сяляне вёскі Ліпінічы арганізавалі партызанскі атрад. У той час багата якія вёскі аб'ядноўваліся ў такія атрады. Аб'яднаны штаб атрадаў знаходзіўся ў Роўкавічах — кіламетраў за пятнаццаць ад Ліпініч. Аднаго салдата-франтавіка і мяне паслалі ў Гомель па зброю. Але калі мы прыехалі туды, Гомельскі рэўкам ужо спешна перакідваў запасы зброі на ўсход. У горад уваходзілі першыя нямецкія часці. Рэўкам параіў нам, што рабіць далей, якімі шляхамі і дзе здабываць зброю. Мы хутка вярнуліся назад. Вінтоўкі, пісталеты і шаблі прывезлі з-за ракі Сож са штаба, калі не памыляюся, Першай рэвалюцыйнай арміі. Я на гэты раз па зброю не ездзіў. Тым часам немцы захапілі чыгунку Гомель–Жлобін. Першыя калоны немцаў, як памятаю, высадзіліся на станцыі Буда-Кашалёўская 25 сакавіка 1918 года (па старому стылю). Партызанскія атрады некалькіх вёсак, у тым ліку і наш Ліпініцкі атрад, адцяснілі кайзераўцаў назад, да чыгункі. Мы наіўна думалі, узрадаваныя першым поспехам, што нам такі ўдасца пацясніць усе нямецкія рэгулярныя часці. Немцы ж тым часам высадзіліся і на другіх станцыях і паўстанках, пачалі наступленне з кулямётамі і артылерыяй на слаба ўзброеныя і наспех сабраныя партызанскія атрады. У адзін дзень яны падпалілі некалькі вёсак, у тым ліку і сяло Кашалёва, у якім было некалькі сот двароў. Ад сяла асталіся толькі ці папялішчы. Зразумела, што нашы мясцовыя атрады, якія і арганізоўваліся хутчэй як атрады самаабароны, маглі доўга супрацьстаяць узброеным да зубоў рэгулярным часцям кайзераўскай арміі. Але немцам, што часова захапілі тэрыторыю, так і не ўдалося ўціхамірыць край. Што ні дзень, то ў адным, то ў другім месцы ўзнікалі буйныя сялянскія хваляванні, выступленні супроць немцаў, зрываліся іх мерапрыемствы па вывазу нарабаванага хлеба, сяляне расправляліся з памешчыкамі, якія наважыліся вяртацца назад пад аховай нямецкіх штыкоў.

У прыгранічнай зоне на рацэ Сож сяляне-партызаны гramілі па начах памешчыцкія маёнткі, пераганялі памешчыцкую жывёлу за раку, каб перадаць яе савецкім войскам. Адбываліся

выступленні супроць немцаў у Гомелі, асабліва сярод гомельскіх чыгуначнікаў, якія ўжывалі ўсе сродкі, каб зрываць нямецкія перавозкі.

Пасля выгнання немцаў з краіны я зноў настаўнічаў у вёсцы Ліпінічы. Летам 1919 года па мабілізацыі прафсаюзаў мяне прызвалі ў Чырвоную Армію. Быў некалькі месяцаў у запасным стралковым палку ў Вязьме, потым у Дарагабужы, дзе праходзіў вайсковую падрыхтоўку ў мінамётнай камандзе.

У палку ўспыхнула эпідэмія тыфусу, якая нанесла вялікія страты ў людзях. Шпіталя не было, абвясцілі тыфусны карантын. Медыцынская дапамога амаль не існавала — краіна аддавала ўсё, што мела, у першую чаргу франтавым часцям. Не было ніводнага чалавека ў палку, які не перахварэў бы тыфусам. Я ляжаў ужо некалькі дзён пад нарамі ў палкавым медпункце (месцаў не хапала, хворыя ляжалі покатам на нарах і пад нарамі), і мае таварышы-шчасліўцы, якія раней за мяне захварэлі і выжылі, літаральна выкралі мяне адтуль ноччу, на саначках завезлі ў горад і падкінулі на ганак ваеннага шпіталя, які толькі-толькі прыехаў з горада Віцебска. Падкідыша падабралі, і ён апынуўся на шпітальным ложку, на якім праз які месяц і ачуняў. Галадна і халадна было ў той час у краіне, яе з усіх бакоў акружалі полчышчы інтэрвентаў, намагаліся агнём і жалезам задушыць маладую рэспубліку Саветаў. Жывучы ў казарме, мы туліліся ў адной палавіне, а другую разбіралі на дровы, каб сяк-так абагрэцца. Шынялі ў нас былі з тканіны, якая самы раз была б на летнія сукенкі дзяўчатам. Салдацкіх чаравікаў не хапала, насілі ліпавыя лапці з абмоткамі. Пра харч можна меркаваць хіба па тым, што хворыя, якія ўжо ачуньвалі ў шпіталі ад тыфусу, ласаваліся такімі далікатэсамі, як суп з цэлага жыта альбо сачыўкі, запраўлены воблай ці галовамі ад селядцоў. Здаровыя былі ў горшых умовах.

Я месяц адпачыў дома пасля тыфусу, а пасля быў залічаны ў 70-ы стралковы полк 8-й стралковай дывізіі. З гэтым палком удзельнічаў у паходзе супроць белапалякаў, увосень і зімой 1920 года — у разгроме банд Булак-Булаховіча. У арміі быў я спачатку чырвонаармейцам, потым культурна-асветным работнікам, пазней — упаўнаважаным па забеспячэнню палка і інжынерных часцей дывізіі.

Гады Грамадзянскай вайны далі мне багата назіранняў. Шмат чаго пабачыў я за той час, шмат перажыў. Да тых год адносяцца, па сутнасці, і першыя спробы выступаць з мастацкім словам. Памятаю, надрукаваў адзін верш у 1919 годзе ці то ў смаленскай, ці то ў дарагабужскай, а магчыма, што ў вяземскай газеце.

У пачатку 1921 года, калі дывізія стаяла ў раёне Бабруйска, надрукаваў я другі верш у газеце «Камуніст». У той час газета друкавалася на тоўстай абгортачнай паперы і расклейвалася на сценах, на платах. Недзе на сцяне аднаго з дамоў Бабруйска і прачытаў я другі свой апублікаваны «твор». Хапала, вядома, і неапублікаваных. Гэтым сваім літаратурным практыкаваннем я не надаваў ніякага сур'ёзнага значэння, тым больш і часу на гэта не хапала, бо заняты быў рознымі другімі справамі. Са спецыяльным атрадам мяне накіравалі на Чарнігаўшчыну ў раён Старадуба і Ноўгарад-Северска на нарыхтоўку фуражу і барацьбу з бандытызмам. З восені 1921 года мяне ўжо адкамандзіравалі ў Перм, потым у Чалябінск, у якім я прабыў па восень 1922 года, працуючы ў паўваеннай, паўграмадзянскай арганізацыі «Упрадгуб чалябінскі». Быў у той час голад на Паволжы, на Урале, часткова ў Заходняй Сібіры. Багата новага бачыў я ў месцах, у якіх раней ніколі не быў. Давялося багата чаго перажыць цяжкага ў сувязі з голадам.

Увосень 1922 года мяне дэмабілізавалі, і я вярнуўся дамоў, у родную будку 230-й вярсты. За гэты час памёр бацька. Замест яго на рамонтныя работы хадзіла і маці, якая адна цяпер утрымлівала сям'ю. Сам я цяжка захварэў, вярнуўшыся дахаты. Пасля хваробы пайшоў ізноў на настаўніцкую работу ў Свержанскую няпоўную сярэднюю школу. Толькі я ўладзіўся на працу і сабраўся перавезці да сябе сям'ю, як атрымаў паведамленне, што маці трапіла пад пасажырскі поезд. Гэта быў надзвычай цяжкі для мяне ўдар. Я вельмі любіў сваю маці, звычайную сялянскую жанчыну, якая вельмі клапацілася аб дзецях і з усіх сіл намагалася, каб як найлепш уладзіць іх у жыцці. Дбайна выхоўвала іх, ішла на ўсякія ахвяры, каб забяспечыць ім лепшыя ўмовы існавання, зрабіць з іх сапраўдных людзей. Просты чалавек, яна ніколі не ішла на кампраміс са сваёй сумленнасцю, маючы сваё ўяўленне аб праўдзе і справядлівасці, была вельмі ўсцешана рэвалюцыяй, якая адкрыла шырокую дарогу перад простым людам.

Маці гаварыла, што калі б не рэвалюцыя, то сям'і давялося б проста загінуць ад голаду. Пасля смерці бацькі рабочыя арганізацыі памаглі сям'і, памаглі маці атрымаць работу.

Сумныя дні перажывала будка 230-й вярсты. У гэтай будцы прайшло маё дзяцінства, з ёй звязана багата светлых успамінаў з майго колішняга жыцця.

У ноч перад пахаваннем маці прыехала мая сястра, якая ў часе маіх вандраванняў па свеце выйшла замуж у вёску. Прыехала яна хворая. Ноччу мне давялося бегчы ў вёску, каб паклікаць якую спрактыкаваную жанчыну на дапамогу ў справе, да якой

я зусім не падыходзіў: у з’яўленні на свет новага чалавека. Пад раніцу сястра нарадзіла мне пляменніцу. Пахаванне спалучалася з радзінамі.

Пасля пахавання маці я перавёз да сябе ў Свержань сям’ю — двух братоў і малодшую сястру, якія былі яшчэ малымі дзецьмі. Афіцыйным апекуном над імі і іх маёмасцю прафсаюзныя арганізацыі дарогі зрабілі мяне. Маёмасць была невялікая: стары самавар, чайнік ды некалькі чыгункоў і місак.

Пачалася новая паласа майго жыцця. Працаваў я ў школе, прымаў блізкі ўдзел ва ўсім жыцці мястэчка, у працы сельсавета, камітэта ўзаемадапамогі, камсамольскай ячэйкі, у рабоце павятовай прафсаюзнай настаўніцкай арганізацыі. Чытаў лекцыі па асновах марксізму-ленінізму мясцовым камсамольцам, хоць сам у той час быў беспартыйны. Партыйнай арганізацыі ў мястэчку яшчэ не было. Я звязаўся з партыйнай ячэйкай Турскай вопытнай сельскагаспадарчай станцыі, якая была кіламетраў за восем ад мястэчка, хадзіў туды на адкрытыя партыйныя сходы. Гэтай партыйнай ячэйкай і быў я прыняты ў 1924 годзе кандыдатам у члены партыі. Разам з настаўніцкай працай і ўдзелам у жыцці мясцовых грамадскіх арганізацый уключыўся ў актыўную селькараўскую працу, дасылаў заметкі ў бабруйскую акруговую газету «Камуніст». Пісаў і друкаваў, прызнацца, і вершы. Былі яны, аднак, слабыя, і захапляўся я імі, каб сказаць, не вельмі.

У маі 1925 года акруговы камітэт партыі меў намер прызначыць мяне на прафсаюзную настаўніцкую працу, але, уважыўшы некаторыя мае схільнасці і пажаданні, паслаў працаваць у рэдакцыю газеты «Камуніст». Газета была штодзённая, работнікаў рэдакцыі было чалавекі тры-чатыры разам з рэдактарам, так што працаваць даводзілася на ўсю сілу. Часам, калі рассылалі супрацоўнікаў па раёнах, даводзілася газету выпускаць і аднаму. Акрамя рэдактарскай працы займаўся я рознымі справамі і ў групкаме работнікаў асветы горада.

У 1926 годзе быў я прыняты ў члены партыі. У тым жа годзе напісаў і апублікаваў першыя свае апавяданні. Праўда, яшчэ ў 1925 годзе напісаў дзве п’есы, але «ходу» яны не атрымалі, і я развітаўся з гэтым жанрам.

За пяць год маёй працы ў рэдакцыі газеты, спачатку сакратаром, потым намеснікам рэдактара і, урэшце, адказным рэдактарам газеты, мной было напісана багата розных артыкулаў і заметак і, відаць, сотні паўтары фельетонаў на розныя злабадзённыя тэмы. Пісаў іх пад рознымі псеўданімамі, якіх цяпер не памятаю, бо камплекта газеты за той час у мяне не захавалася.

За гады працы ў рэдакцыі мне вельмі часта даводзілася быць на розных прадпрыемствах, на шкляных заводах, на фабрыках і заводах Бабруйска, дзе я пазнаёміўся з жыццём і працай рабочых розных прафесій.

Праца ў газеце, блізкі ўдзел у рабоце партыйных арганізацый горада і акругі далі мне надзвычай багаты ў сэнсе пашырэння кругагляду, набыцця новых ведаў, назіранняў, уражанняў, якія так патрэбны былі мне як маладому, пачынаючаму пісьменніку.

З 1926 года я пачаў прымаць блізкі ўдзел у літаратурным жыцці рэспублікі, быў членам «Маладняка», заснаваў яго філію ў Бабруйску, наладзіў выпуск літаратурнага альманаха «Уздым» і штомесячнага літаратурнага дадатку да газеты пад назвай «Вясна». З Бабруйскай філіі «Маладняка» выйшлі такія пісьменнікі, як Шынклер, Вітка, Мікуліч, Зарыцкі, Жаўрук, Грахоўскі, Скрыпка і некаторыя іншыя, якія таксама прайшлі школу селькараўскай работы.

У 1930 годзе я быў пераведзены на працу ў Мінск, у Дзяржаўнае выдавецтва рэспублікі, дзе працаваў два гады і адначасова кіраваў некаторы час літаратурнай арганізацыяй БелАПП, уключна па час яе ліквідацыі і арганізацыі Саюза савецкіх пісьменнікаў. Пасля працаваў рэдактарам часопіса «Полымя рэвалюцыі», быў сакратаром партыйнай арганізацыі Саюза пісьменнікаў, з 1936 года прымаў удзел у працы Акадэміі навук БССР, дзе быў выбраны членам-карэспандэнтам. З 1938 па 1948 год быў старшынёй Саюза пісьменнікаў, працаваў і цяпер працую ў Акадэміі навук у Інстытуце літаратуры імя Янкі Купалы.

У 1939 годзе ў час вызваленчага паходу Чырвонай Арміі я быў рэдактарам газеты «Беларуская звязда», якая выдавалася палітkіраўніцтвам Беларускага фронту. Гэты паход даў мне багата ў сэнсе азнаямлення з жыццём нашага заходнебеларускага насельніцтва, якое доўгі час знаходзілася пад уладай панскай Польшчы.

У першыя гады Вялікай Айчыннай вайны я знаходзіўся ў Чырвонай Арміі. Быў рэдактарам газеты «За Савецкую Беларусь». Выдавалася гэтая газета на Заходнім фронце, пасля на Цэнтральным, на Бранскім і зноў на Заходнім. Айчынная вайна была для кожнага з нас не толькі суровым выпрабаваннем, жорсткай праверкай кожнага як грамадзяніна Савецкага Саюза. Яна была для нас і вялікай школай, з якой мы выйшлі ўзмужнелыя, набылі значны жыццёвы і дзяржаўны вопыт. Кожны з нас намагаўся аддаць усе свае сілы, усе свае здольнасці адной-адзінай справе: разгрому лютага ворага, выгнанню яго

за межы Радзімы. Вайна прынесла для кожнага з нас і вялікія страты — вораг загубіў багата каго з нашых родных і блізкіх.

З маіх літаратурных работ пасляваенных год асноўнае месца ў маёй творчасці займае раман «Векапомныя дні». Я імкнуўся паказаць наш савецкі народ ва ўсёй велічы яго высокіх маральных якасцей, той народ, які знайшоў практычнае ажыццяўленне сваіх спрадвечных мар і спадзяванняў аб сапраўднай свабодзе і сапраўдным чалавечым шчасці, які ў часы суровых іспытаў добра ведаў, за што ён змагаецца і супроць каго ён змагаецца. Адсюль яго маральна-палітычнае адзінства, яго выключная адданасць справе Леніна, яго непахісная стойкасць у барацьбе супроць фашысцкіх вылюдкаў, яго мужнасць і гераізм у гэтай барацьбе. Адсюль і ўсенародны характар партызанскага руху.

У пасляваенныя гады я некалькі разоў ездзіў у Амерыку, у краіны Еўропы і Азіі. Было багата ўражанняў, назіранняў з жыцця чалавека працы (у капіталістычных краінах і ў краінах народнай дэмакратыі). Шырока выкарыстаць у мастацкай літаратуры матэрыялы, якія сабраў я ў выніку гэтых паездак, — адна з задач маёй творчай працы.

Вось коратка мой жыццёвы і творчы шлях. Многім, што было напісана мной у ранейшыя гады, я незадаволены цяпер і расцэньваю некаторыя творы як вучнёўскія спробы.

Хто быў настаўнікам у маёй творчай працы? Такім настаўнікам была ў першую чаргу вялікая руская літаратура, класічная і сучасная. Я вучыўся ў Гогаля, Талстога, у Аляксея Максімавіча Горкага. Некалькі непасрэдных сустрэч з Горкім аказалі на мяне, як і на многіх іншых беларускіх пісьменнікаў, вялікі ўплыў і ў сэнсе ідэйнай накіраванасці нашай творчасці, і ў сэнсе звычайнай фармальнай вучобы.

Адны з любімых маіх сучасных пісьменнікаў — Фадзееў, Федзін, Ляонаў, Шолахаў.

Аказвалі на мяне пэўны ўплыў і творы лепшых пісьменнікаў братніх літаратур, і творчасць нашых выдатных народных паэтаў — Янкі Купалы і Якуба Коласа.

Калі гаварыць аб пэўным ідэйна-творчым росце, то я павінен сказаць, што гэты рост неадрыўны ад палітычнага і культурнага росту народа.

Сваёй творчай дзейнасцю, сваім званнем пісьменніка і акадэміка я абавязаны ў першую чаргу нашай слаўнай Камуністычнай партыі. Яна зрабіла мяне свядомым савецкім грамадзянінам, яна зрабіла мяне пісьменнікам беларускага народа.

***1959***



## 1. ЯКУБУ КОЛАСУ

*17 жніўня 1941 года, дзеючая армія*

Дарагі Канстанцін Міхайлавіч!

Учора атрымаў Ваш ліст, напісаны Вамі па старому адрасу, ад якога мы цяпер кіламетраў каля сямісот далей. Мы блізка тых месц, адкуль прыехаў да Вас у Маскву Пятрусь[1]. Ваш ліст ішоў шаснаццаць дзён, са старога адраса яго прывёз мне Латышаў, мой супрацоўнік. Са мной Кандрат[2], Глебка[3] (сёння адаслаў яго ў госпіталь — адолелі хлопца скулянкі), Гурскі[4], Панчанка[5], Барысёнак[6] і Стаховіч[7].

За ліст вялікая падзяка. Кожнае роднае слова ўлівае ў нас свежыя сілы. Шмат перажылі мы — і раней, яшчэ разам з Вамі ў родным горадзе, і ў гэтыя дні. Але ўсё перажытае мы пастараемся забыць, калі зноў давядзецца нам апынуцца з Вамі ў родных мясцінах пасля разгрому праклятых гітлераўскіх гадаў. Як хочацца пабыць там, на родных папялішчах. Адно, што турбуе мяне да сённяшняга дня, — не ведаю, ці жывы мой сынок і жонка. Дзе яны, ці выбраліся яны адтуль — не ведаю. Былі чуткі, што яны ішлі пешкі, што іх бачылі ля Дукораў. Вось гэта самае цяжкае, што цісне маё сэрца, не дае супакою. У працы стараюся не то што забыцца, але проста адганяць гэтыя думкі.

Кандратава сям'я і сям'я Барысенкі ў Саратаўскай вобласці. Стаховіч ведае шлях сям'і да Мсціслаўля. Дзе сям'я цяпер — не ведае.

Але я надакучыў ужо Вам з нашымі сямейнымі справамі. Працуем мы з усіх сіл, стараемся як мага хоць нашым словам дапамагаць байцам, дапамагаць нашым партызанам біць карычневую нечысць. Бываем бязмежна рады, калі наша праца ўдаецца, калі не бывае тых ці іншых перашкод на нашым шляху.

Мы надрукавалі і Вашых некалькі рэчаў — работ і перадрукі з цэнтральнай прэсы, каб данесці Ваша слова далёка-далёка, у тыя мясціны, аб якіх Вы шточасна думаеце і марыце.

Жывём і працуем дружным калектывам — разам яно неяк весялей. Думалі мы сустрэць тут Петруся, але ён не звярнуўся яшчэ сюды. Сустракаліся з Кузьмой Чорным, ён працуе там, дзе працаваў і Пятрусь. Праўда, цяпер ужо ён не там, дзе былі раней, — маю на ўвазе месца.

Як хочацца нам сустрэцца з Вамі, з усімі нашымі роднымі людзьмі. Колькі можна было б пагаварыць, парасказаць. І верым мы — прыйдзе недалёкі час, і вернемся мы зноў на родныя мясціны, каб шчасліва жыць і шчасліва працаваць, сустракацца разам у нашай добрай, радаснай сям'і. Прыйдзе гэты час, бо не хопіць пораху ў гэтай гнуснай фашысцкай погані разбурыць наш малады савецкі сад. Веру ў нашу перамогу, веру так, як толькі можна верыць у самаго сябе, у сваіх блізкіх друзей.

Горача абнімаю Вас і цалую. Будзьце бадзёрымі і шчаслівымі.

*Ваш Міхась.*

*P. S.* Янкаў[8] верш мы атрымалі яшчэ на старым месцы і надрукавалі яго.

Прывітанне яму ад мяне і ад усіх хлопцаў.

Прывітанне Вам і Янку ад усіх нашых хлопцаў.

Перадайце мае гарачыя прывітанні Мар'і Дзмітрыеўне, Даніле і Міхаську[9].

*М. Л.*

Адрас: Действующая армия, полевая почтовая станция 805, почт[овый] ящик № 18, М. Т. Лыньков.

## 2. ХВЯДОСУ ШЫНКЛЕРУ[1]

*18 сакавіка 1942 года, каля Масквы*

Дарагі Хвядосе!

Даведаўся ў Кузьмы Чорнага пра твой адрас. Ён жа паказаў мне і твой апошні ліст, дзе ты пішаш, што нібыта Вольскі напісаў Маўру, што знайшлася мая сям'я. Што гэта за містыфікацыя? Калі б гэта было не містыфікацыяй, я б на сённяшні дзень адчуваў бы сябе найшчаслівейшым чалавекам на свеце. Напішы мне, браце, дакладна аб гэтым.

Я жыў, здароў. Са мной Крапіва, Броўка, Стаховіч і Барысенка. Былі яшчэ і Гурскі, Глебка і Панчанка. Яны аддзяліліся ў самастойную газету і працуюць на другім фронце.

Багата перажыта, багата пройдзена, багата бачана. Калі-небудзь раскажам.

Паколькі мы каля Масквы, то можна пісаць у адрас Саюза сав[ецкіх] пісьм[еннікаў] СССР, для мяне.

Прывітанне ўсёй тваёй камуне.

Цісну руку.

*Міхась Лынькоў.*

## 3. ІЛЬЮ ГУРСКАМУ

*20 чэрвеня 1942 года, Масква*

Даражэнькі Іллец!

Атрымаў тваё пісьмо ад 9-га гэтага месяца, першае тваё, між іншым, пісьмо. Дзякую, што напісаў. А то паслаў я раней некалькі лістоў, а ад тваёй брыгады ніводнага слова. Аж узлаваў я тым часам — ну, што ж, не пішуць, і ліха з імі.

Што ў нас новага? Дванаццатага сабраліся мы выязджаць на захад, пагрузіліся на машыны, і тут жа нам перадалі загад нашага гаспадара[1]: не рыпацца нікуды, коней разнуздаць. Вечарам былі мы ў яго на прыёме і ён сказаў нам: даволі вы пабрадзяжылі, хопіць пакуль што, бярыцеся за літаратуру. Адсюль пачынаецца новы перыяд нашага жыцця. Магчыма, перайдзём у распараджэнне ЦК КП(б)Б. Аднаўляем саюз, арганізуем пры саюзе невялічкае выдавецтва. Чысла сёмага-дзясятага ліпеня праводзім наш першы пленум. На пленум запрашаем ад вас Глебку і Панчанку. Мы хацелі б усіх запрасіць, але нам сказалі, што не варта прыпыняць выхад газеты. Калі б вы змаглі наладзіць выпуск газеты без вас, загадзя падрыхтаваўшы пару нумароў, то думаю, што вы б усе змаглі б наведаць пленум.

Рад, што наладжана ў вас праца газеты, і, галоўнае, гэтая праца не ідзе ўпустую, а звязана з тымі, каму яна прысвечана. Гэта надзвычай добра. Я прасіўся тут, каб далі магчымасць наведацца роднай зямлі — той жа край мая сапраўдная радзіма, я радзіўся там, — але да пленума мне гэтай магчымасці не даюць.

Што робяць нашы хлопцы? Кандрат закончыў чарговы варыянт п’есы. Пятрусь пацее над лібрэта оперы. Максім пацее

над паэмай. Вася складае розныя зборнікі для Дзетгіза. Тут жа цяпер Вольскі, заканчвае п’есу. Кузьма Чорны працуе над раманам. Адным словам, «трудятся в поте лица». Васямнаццатага прыехаў Янка. <…>. Такія вось, браце, справы.

Дагаворы з Англіяй і Амерыкай, бамбардзіроўкі Кёльна і Эсена вельмі нас усцешылі. Няхай пазнаюць нямецкія сабакі, як лёгка жывецца пад бомбамі, яны прызвычаіліся толькі кідаць бомбы, але няхай вось паспрабуюць падставіць хрыбта пад іх.

Аб сям’і ведаю столькі, сколькі і ты. Цяжка аб гэтым пісаць. Мне мой брацішка лейтэнант Мікола прыслаў Першага мая здымак майго Марыка, зазняты вясной мінулага года. Зачыніў я дзверы сваёй хаты і ўвесь дзень пускаў паціху слязу, хоць у гэтым і сорамна прызнацца. Потым напіўся да страты прытомнасці, але ўсё гэта не можа загасіць смяротнай тугі. Цяжка. Добра, што тлее на дне душы малюсенькая прасветлінка-надзея: а можа, можа… Каб жа так выйшла!

На гэтым бывай! Прывітанне ад Кандрата.

Моцна цісну лапу.

*Міхась Лынькоў.*

## 4. ЛАРЫСЕ ФЕДЧАНЦЫ[1]

*11 ліпеня 1942 года, Масква*

Дорогая Лариса!

Получил твое письмо, писанное карандашом. Над одной из строчек твоего письма — где ты писала о «граче — птице весенней» — мы весело и искренне посмеялись целым нашим маленьким коллективом: я, Кондрат Крапива и поэт Максим Танк. До чего это чудесно звучит «грач — птица весенняя». Ты даже представить не можешь, как хорошо это у тебя написано. А Юрке[2] я все же не завидую. Не знаю я его, не видел, не встречался, а известную долю порицания передай ему и от моего имени. Как-никак, алгебра — наука почтенная и заслуживающая всяческого уважения. Хотя, если признаться по совести, и я в известные годы относился к ней более чем скептически, а по сему случаю и терпел всяческие неприятности — в смысле соответствующих отметок в школьных журналах. Об этом ты, конечно, Юрке не говори.

А теперь вот я должен написать тебе о страшно грустных вещах, о которых ты, очевидно, знаешь уже из газет. 28 июня умер в Москве, в гостинице «Москва», наш народный поэт Янка Купала. Приехал он погостить к нам на несколько дней из Казани. Пробыл в Москве всего десять дней. Это большая, невозвратимая утрата не только для белорусской литературы и нашего народа, но и для литературы всего Советского Союза: Купала был величайшим поэтом нашего народа, представляющим целую эпоху в жизни народа и его культуры. До конца дней своих оставался он лучшим сыном своей Родины, страстно ненавидевшим фашистскую нечисть, полонившую нашу землю. Можешь представить мое личное горе, когда буквально за несколько минут до своей смерти он сидел у меня, в моем 1036-м номере на десятом этаже гостиницы «Москва». Сидел веселый, бодрый, жизнерадостный, мечтающий о родимых просторах Белоруссии. А когда вышел, мне минуты через три-четыре позвонили, что Янки Купалы нет больше в живых, он умер. Это было в одиннадцатом часу ночи 28 июня. 1 июля его тело мы предали кремации. Урну с его прахом увезем после войны в родной Минск, где будет сооружен памятник поэту. Таковы вот наши грустные новости.

Передай мой горячий привет Николаю Ивановичу[3] и Ядвиге Александровне[4]. И Юрке, конечно.

С искренним приветом

*Міхась Лынькоў.*

## 5. ЯКУБУ КОЛАСУ

*9 кастрычніка 1942 года, Масква*

Дарагі Канстанцін Міхайлавіч!

Атрымаў аж тры Вашы лісты: два па пошце і адзін праз Уралаву. За ўсе гэтыя пасланія шчыра дзякую. А я крыху ўжо завінаваціўся перад Вамі: пасля паштоўкі не пісаў лістоў, усё спадзяваўся сустрэць у маім 1063-м нумары самага старэйшыну сінедрыёна нашага паважанага і любага бацьку Якуба. Выязджаў я тут колькі разоў на захад, а калі прыехаў да мітынгу, дык аказалася, што мае чаканкі на Вас дарэмныя, і мы крыху, а мо і больш, чым крыху, расчараваліся з гэтае прычыны. А пасля мітынгу дзён з дзесяць зусім не мог пісаць аніякіх лістоў, і вось

з якой прычыны. Прыляцелі да нас на мітынг нашы слаўныя лясныя сокалы, і адзін з іх — Герой Савецкага Саюза тав[арыш] Казлоў Васіль Іванавіч — перадаў мне такую вестку: «Жыва твая сям'я, не сумуй, мы пастараемся як-небудзь даставіць яе табе». Можаце сабе ўявіць, чым я цяпер жыву і чым дыхаю. Хаджу літаральна як вар'ят, страціўшы ўсякі розум ад радасці. І разам з тым апанаваў мяне страшэнны непакой: сям'я жыве ў акружэнні ворагаў, у пастаяннай небяспецы за жыццё, бо, як сказалі мне, яна хаваецца, відаць, пад чужымі прозвішчамі. У вёсцы, у якой яна жыве, стаіць фашысцкі гарнізон. Частыя вобыскі, арышты, рэпрэсіі і г. д. і да т. п. Гэта раз. Па-другое, калі я падумаю, чым жа яны жывуць там і як жывуць, дык мае сівыя валасы гатовы пазелянець ад тугі і адчаю. Па-трэцяе, каб выбавіць іх адтуль, з таго пекла, патрэбна даволі складаная аперацыя. Па-чацвёртае, яны ж, відаць, там голыя і босыя, а ўжо восень позняя. Вось як набярэцца гэтых «па-першае» ды «па-шостае», дык проста месца сабе не знаходзіш, нягледзячы на ўсю маю спакойнасць і ўраўнаважанасць… А ўсё ж самае галоўнае — яны жывыя. І калі мне ўдасца ў бліжэйшыя часы на свае ўласныя вочы ўбачыць сваю сям'ю, дык я не ведаю, ці знойдзецца тады чалавек, шчаслівейшы ад мяне на свеце. Вось і хаджу ў нейкім тумане, ніяк не дабяру да парадку думкі. Часам закрадзецца чорнае сумненне: а што, калі гэта ўсё няпраўда? Мяне ж ужо два разы дзіка падводзілі. Але ж тут маю справу з надзейнымі людзьмі, з мужнымі людзьмі, з людзьмі, якія не ведаюць слова «цяжкасці», не прызнаюць ніякіх перашкод і не ў іх звычаях займацца хлуснёй. Асаблівых падрабязнасцей яны мне не перадавалі. Скакалі толькі, што сям'я жыва і што партызаны заўсёды акажуць патрэбную дапамогу, калі будзе якая небяспека. Назвалі і вёску, дзе знаходзіцца сям'я. Тую вёску я ведаю — гэта кіламетраў з сотню ад нашага Мінска.

Такія вось справы, Канстанцін Міхайлавіч. Жыву, спадзяюся на сваю долю, а можа не падвядзе.

Асабістымі справамі так і заняў вось цэлага ліста. Хлопцы нашы жывуць па-старому, працуюць, пацеюць. Калектыў наш яшчэ паменшыўся: Барысенку адазвалі ад нас разам з Латышавым і яшчэ адным хлопцам у палітупраўленне фронту. Мы ўсё чакаем змен, рэарганізацый.

Іван Напрэевіч[1] цяпер не ў Маскве, ён падаўся бліжэй да Беларусі. Ул[адзіслава] Фр[анцаўна][2] прыязджала гэтымі днямі ў Маскву, цяпер паехала за рэчамі ў Казань, думае адтуль перабрацца сюды.

Вашу тэлеграму аб дапамозе Модэлю не змаглі яшчэ выпаўніць, бо пакуль што не маем грошай. Як толькі будуць, зараз жа падашлём сякую-такую толіку.

Абодва Вашы вершы пусціў у ход у тры інстанцыі: «Разд[авім] фаш[ысцкую] гадзіну», радыё і «Сав[ецкую] Беларусь». Вось і ўсе нашы навіны. Толькі што прыехаў дзён на дзесяць Іван Напрэіч, шле Вам прывітанне. Вітаюць Вас Сазоныч[3] і ўсе нашы хлопцы.

Прывітанне Мар’і Дзмітрыеўне, Данілу і Міхаську.

Абнімаю Вас і цалую.

*Міхась Лынькоў.*

## 6. АРКАДЗЮ КУЛЯШОВУ

*3 лістапада 1942 года, Масква*

Даражэнькі Аркадзь ці «непакойны вуюнаш», як ты кажаш!

Выбач, што да гэтага часу не адгукаўся на твае пасланія. Рабіў гэта знарок, бо ўсё чакаў вынікаў твае справы. Цяпер гэтая справа ўрэшце вырашана, і ты хутка будзеш у Маскве. У Маскве будзе і калектыў Гурскага, так што наша пісьменніцкая «падраздзяленія» адразу падвоіцца. Такія вось, пане-браце, справы. Чысла 20-га была ў нас нарада ў тав[арыша] Панамарэнкі, і тады ж гаспадар рашуча загадаў выцарапаць цябе адтуль пабліжэй да свайго крыла. А цяпер, наколькі мне вядома, ёсць на гэта і адпаведны загад. Таму вось і пішу табе зараз. Наконт паэмы[1] не турбуйся: абы выйшла б яна ў цябе добрай, то месца ёй заўсёды знойдзецца.

Аб чым табе яшчэ напісаць? Ёсць некаторыя цьмяныя чуткі аб маёй сям’і і сям’і Ільі Гурскага. Чуткі такога зместу, што яны быццам бы — нашы сем’і — яшчэ існуюць на гэтым свеце. Адным словам, я знаходжуся цяпер нібы на сёмым небе. Але ж страшэнна баюся ўпасці з гэтага неба…

Прывітанне ад усіх хлопцаў.

*Твой Міхась Лынькоў.*

*P. S.* Кандрат паехаў у Ташкент вітаць Якуба з шасцідзесяцігоддзем.

## 7. ЯКУБУ КОЛАСУ

*10 ліпеня 1943 года, Масква*

Дарагі Канстанцін Міхайлавіч!

Атрымаў Вашу паштоўку ад 29/VI. Хлопцы нашы не пісалі таму, што ўсё чакалі Вашага прыезду і толькі нядаўна даведаліся аб адкладзе пераезду. Навін у нас асаблівых нямашака. Кузьма знаходзіцца яшчэ ў санаторыі, папраўляецца. Кандрат прывёз сям'ю, а цяпер захварэў на почкі, ляжыць, лечыцца. Петрусі адчуваюць сябе някепска. Як бачыце, усё ў парадку. Нядрэнна правялі гадавіну Янкі Купалы. Літаратурны вечар з канцэртам правялі ў зале Чайкоўскага. На афішах і ў білетах значылася і Ваша ўступнае слова. Старшынёй быў Фадзееў. Рабіў даклад я. Хлопцы дэкламавалі вершы. Выступалі Александроўская і Млодэк. Такія вось нашы навіны. А галоўныя навіны, як ведаеце, на фронце. Там вырашаецца лёс нашай Беларусі. Па ўсім відаць, Гітлер кідаецца з апошніх сіл, з адчаю, са страху. Мне так здаецца, а можа, мне хочацца, каб так здавалася… Час ужо рашаць гэтага забойцу, даволі ён напіўся нашай крывёю.

Такія вось справы, Канстанцін Міхайлавіч. Пару слоў аб сабе. Пішу вось нейкія словы, а думкі лятуць, мітусяцца. Апынуўся я ў становішчы чалавека, які неяк жыў, нешта рабіў, хацеў рабіць заўсёды нешта добрае для ўсіх людзей, будаваў сваё жыццё, і нядрэнна будаваў, як добры чалавек, і раптам усё гэта знікла, правалілася, і ў выніку перад табой страшэнная пустэча, правал. Сёмага гэтага ліпеня атрымаў я ліст з нашай радзімы. Напісала мне родная сястра, настаўніца. Яна цяпер з мужам у адным з партызанскіх атрадаў. З пісьма я даведаўся, што жонка мая з Марыкам жылі ў яе больш года, а потым іх забралі забойцы, якіх парадзіў нямецкі народ, і адвезлі ў бабруйскі лагер. Разам з маёй сям'ёй забралі сям'ю брата Рыгора[1]. Мяркуючы па пісьму, сястра думае, што Рыгор тут, я ж нічога не ведаю аб яго лёсе, ён, відаць, загінуў у першыя дні вайны. У пісьме прыпіска, што я атрымаю падрабязнасці, калі сястра даведаецца, што пісьмо трапіла мне ў рукі. Навошта ж мне цяпер гэтыя падрабязнасці… Жыў я апошні год цьмянымі спадзяванкамі, па ўсім бачыў, што яны ператвараюцца ў ілюзіі. Цяпер няма і ілюзіі… Астаюцца цуды. Але ж практыка немцаў-дзетазабойцаў гаворыць аб тым, што цудаў не бывае.

Цяжка, завельмі цяжка, дарагі Канстанцін Міхайлавіч. Адно неяк прытрымлівае на паверхні: багата людзей цяпер нясуць

цяжар велічэзнага гора і пакутаў. Значыць, трэба неяк жыць, і жыць так, каб дапамагчы ўсім нашым людзям увагнаць у магілу забойцаў і катаў, душагубаў, якія апіліся нашай крыві.

Бывайце ж, любы і родны! Прывітанне Мар'і Дзмітрыеўне, Данілу і Міхаську. Абнімаю і цалую.

*Ваш Міхась Лынькоў.*

## 8. ПІМЕНУ ПАНЧАНКУ

*10 снежня 1943 года, Масква*

Дарагі вуюнаш!

Атрымаў тваё пасланіе. Чытаў і нават хадзіў для паўторнага чытання ў ЦК да Цімоха Сазонавіча. Прачытаў і ён, але ўзрадаваць чым-небудзь цябе ў сэнсе вынікаў гэтага паходу не магу: нічога станоўчага і неадкладнага пакуль што не абяцана. Адно, што скажу, да твайго прыезду ён ставіцца прыхільна. Што новага ў нас? Думаем ехаць у Гомель на свята дваццаць пятай гадавіны рэспублікі. Учора бачыў у нашым выдавецтве тваю кніжку «Дарога вайны». Выйшла. Выйшаў альманах (яшчэ толькі першы нумар). Друкуецца першы нумар часопіса. Як хлопцы жывуць? Здаецца, нішто. Часам бяруць і ў губу. Мы жывём разам з Максімам[1]. Піша новую паэму. Падазрона часта ходзіць у кіно, і сеансы ў яго завельмі працяглыя. З чаго б то магло стацца? Вясна ж яшчэ далёка, а вось жа ўзлюбіў так кіно… А наогул хлопец нішто. Нармальны. Адна анамалія: не бярэ ў губу. Па ёй можна жыць, тым часам.

З поўдня, ці, правільней будзе сказаць, з усходняга поўдня, прыехаў Колас. Сядзіць у Клязьме і думае пра баравікі, сумуе па ляшчах. Ад думак і суму крыху схуднеў. Але маркі не здае: дуж ва ўсім як дуб. Кандрат спецыялізуецца на хваробах: то печань лечыць, то ўсякія «рожы» зганяе з цыбатага цела. З усіх гэтых прычын зрабіўся поўнай анамаліяй і ні ў губу… ні… адным словам — ні сюдэю, ні тудэю… Гэта, аднак, не перашкаджае яму душыць фашысцкую гадзіну.

Прыбіўся да Масквы Маўр. Выглядаў, як біблейскі Іоў. Паступова прыходзіць да хрысціянскага віду.

Паклон ад усіх тылавікоў.

Цісну лапу.

*Міхась Лынькоў.*

## 9. МАЦІЛЬДЗЕ ЮФІТ[1]

*3 лістапада 1945 года, Мінск*

Милая и славная Матильда Иосифовна!

Вы не можете представить, как горячо и дружески поздравляю я Вас с маленьким сыном. Это же такое огромное счастье, о котором мечтают порой хорошие и честные люди. Может быть, я и нехороший, но мечты вот такой я, грешным делом, тоже не оставляю…

Вы спрашиваете о моем согласии быть крестным папаней Михаила Павловича. Да разве можно об этом спрашивать? В ответ я только радостно целую Вас, счастливую, а чтобы не было накладно Павлу Филипповичу, целую и его, разбойника, а Вы уже сообща поцелуйте от моего имени *моего* малышку-крестника.

Несколько слов о моем житье-бытье. Живу на прежнем месте, на прежней квартире. Она несколько улучшилась по сравнению с прошлым — появились столы и стулья и даже скатерти на столах. Говорить о сносной хотя бы обстановке в наших минских условиях не приходится, Вы же видели наши руины. Но все это мелочи. А главное, Матильда Иосифовна и Павел Филиппович, в том, что я уже целый месяц (це-лы-ы-й ме-сяц!) как перестал быть бесприютным бобылем и стал вполне приличным человеком, занимающим, так сказать, вполне определенное семейное положение. Короче говоря — женился. И как это ни странно в наш век — чувствую себя счастливым. И кажется, что это действительно так. Жена моя Софья Захаровна Куспиц — молодой научный работник нашей Академии наук, историк. «Чуточку» моложе меня, этак лет на семнадцать. Правда, это не омрачает нашу жизнь и нашу судьбу, соединившую нас обоих, понесших за войну тяжелые утраты. Что еще сказать о моей половине? Люблю ее и отношусь к ней, как добрый старый (и в том и в другом смысле) «лыцарь». Как видите, я уже совсем заговорился — но все это простительно в моем теперешнем положении. Остается только просить Вас — пожелайте мне хоть чуточку самого обыкновенного человеческого счастья, которое так редко приходит к человеку.

Теперь о других делах.

Прошло уже около четырех месяцев, как я вернулся из Америки. Был там больше двух месяцев. Насмотрелся на многое, познакомился с совершенно иным миром, иными людьми,

іной страной. Когда-нибудь при встрече расскажу подробно. Поездка, вернее — полет — исключительно интересны. Туда и назад «покрыл» по воздуху тридцать две тысячи километров — над равнинами, тайгой, степями, горами, морями и океанами. Рассказать о чем — есть.

На днях был в Литве на первом съезде писателей-литовцев.

Вот и все мое послание-рапорт. Еще раз приветствую Вас с маленьким сыном.

Крепко жму руки Вам, обоим, славным моим друзьям.

*Ваш Міхась Лынькоў.*

## 10. АЛЕНЕ ВАСІЛЕВІЧ

*18 красавіка 1948 года, Мінск*

Паважаная тав[арыш] Васілевіч! Вы ўжо, відаць, «усе чаканкі паелі», спадзеючыся з дня на дзень атрымаць мой ліст. І напэўна «і руганіем мя поругах» і ўсякім «злым речением мя поносих». Каюсь. Грэшан. Заслужыў. І Вам, як маладому аўтару, спачуваю: некалі быў у Вашай, груба кажучы, скуры. Але Вы можаце сказаць, што гэта кракадзілава спачуванне.

Але пярэйдзем бліжэй да справы. А справа ў тым, што я не зусім вінаваты ў гэтым спазненні з адказам на Ваш рукапіс. Мне перадалі яго літаральна за два дні перад нашым рэспубліканскім сходам. Не меў ніякай фізічнай магчымасці пазнаёміцца з ім, бо трэба было экстранна канчаць падрыхтоўку даклада, прынамсі — сам даклад. А пасля сходу я пралежаў некалькі тыдняў хворы. Я нават прасіў Піліпа Пестрака, каб ён паведаміў Вам аб прычынах майго спазнення. За час маёй хваробы ў мяне на маёй службе ў акадэміі сабралася тэрміновых рукапісаў (па падручніках па літаратуры для сярэдняй школы) старонак на 800. Іх трэба было безадкладна адрэдагаваць, бо ўсякія тэрміны, вызначаныя ЦК нашай партыі, былі прапушчаны. А тут яшчэ абарона дысертацый супрацоўнікамі нашага інстытута. А я ж, грэшным дзелам, кіраўнік, альбо часам афіцыйны апанент. А дысертацыі — гэта пухлыя рукапісы. А ўсё гэта адбірае вялізныя кавалкі часу. А тут ізноў грып.

Адным словам, як Марка па пекле.

Але мы ізноў-ткі далёка ад справы, якая Вас непасрэдна закранае і цікавіць. Мне хацелася ўсё ж сур’ёзна пасядзець над Вашай аповесцю[1], каб даць Вам і сур’ёзны адказ. І вось Ваша

аповесць у мяне праканспектавана, «хірургічна ўскрыта», выпісаны дыягназ.

Агульнае мае ўражанне? Аповесць я прачытаў з задавальненнем, зжыўся з некаторымі героямі, трымаю ў памяці паасобныя карціны, трапныя зарысоўкі, удалыя параўнанні. Усё добрае, удачнае ў мастацтве заўсёды застаецца ў памяці.

Што ж добрага, харошага ў Вашай аповесці?

Сур’ёзная ідэйная задума. Паказ таго штодзённага і не заўсёды прыкметнага гераізму нашых жанчын-калгасніц, якія вынеслі на сваіх плячах увесь цяжар вайны (я маю на ўвазе іх намаганні падтрымаць, не запусціць сельскую гаспадарку).

Гэта паказана Вамі нядрэнна, а ў асобных раздзелах добра, нават бліскуча.

У гэтым, па-мойму, асноўная ўдача аповесці. Не ў «шляхахдарогах», як пішаце Вы ў загалоўку, а іменна ў паказе гераічнага жыцця і змагання савецкай жанчыны.

Аб загалоўку скажу ніжэй.

Вамі любоўна выпісаны паасобныя жаночыя вобразы: асноўнай гераіні Любы, Волькі і некаторыя другія.

Волька — арыгінальны вобраз, хаця яму, можа, і не стае яшчэ дакладнасці. Не зусім ясны ўзаемадачыненні яе з былым мужам, якія б больш апраўдвалі яе паводзіны. Моцны біялагічны пачатак у ёй не шкодзіць, на маю думку, трактоўцы гэтага вобраза як станоўчага.

Цікава расказана Вамі аб сямейным жыцці — даваенным — Хадкевіча.

Да чытача даходзіць увесь своеасаблівы каларыт ваеннай вёскі. Відаць, што аўтар ведае сялянскае жыццё, яго асаблівасці, увесь вясковы побыт, праявы, перажыткі ідыятызму вясковага жыцця і г. д. Забыў сказаць: у Вас цудоўна выпісана летняя граза — багата свежага, новага ў гэтым апісанні. Надзвычай удалыя фразы: «Жыта, як перац, схапілі», «Прападзе жыта ў бабках, як бачыш бараной парасце» і інш.

Гэта ўсё добрае, дадатнае, станоўчае ў аповесці. Але, як гэта гаворыцца, мы не можам прайсці і міма істотных недахопаў. Самы асноўны з іх — пэўная кампазіцыйная рыхласць аповесці, аднастайнасць яе сюжэтнай пабудовы. Вы яшчэ не навучыліся як след вязаць сюжэтныя вузлы, інтрыгаваць чытача. Вы будуеце твор, нанізваючы ў строгай храналагічнай паслядоўнасці асобныя эпізоды. Тут варта Вам сёе-тое запазычыць, пераняць у лепшых майстроў рускай і сусветнай літаратуры. Можна ж ужываць і пераносы ў часе падзей і ўсякія іншыя спосабы, якіх

тысячы, каб трымаць чытача ў напружанні — а што будзе далей? Ёсць «длинноты», паўтарэнні. Аповесць яшчэ трэба падчысціць, падскараціць — ад гэтага яна толькі выйграе.

Цяпер аб асобных недахопах, недакладнасцях, недапрацаванасцях. У трактоўцы ўзаемадачыненняў Любы і Хадкевіча ёсць непатрэбныя, залішнія моманты, якія гучаць пэўнай абразай памяці загінуўшага Юзіка. Не трэба аўтару залішне акцэнтаваць на перажываннях сваіх герояў такога роду, як, скажам, «праблема», устаўшая перад Любай: «Юзік і Хадкевіч». Зусім дрэнна гучыць аўтарская сентэнцыя: «як расходзяцца і хутка знікаюць кругі ад кінутага на ваду камня, так разыходзіўся і знікаў у думках Любы вобраз Юзіка». Ці так гэта бывае ў жыцці? Не зусім так, тым больш што Юзік быў, ці правільней, іх дачыненні былі ідэальна шчаслівымі. Тут аўтар страціў да пэўнай ступені пачуццё мастацкага такту ў дачыненні да некаторых адвечных ісцін. Аўтар як бы знарок імкнецца апраўдаць любоў гераіні да Хадкевіча. Гэта любоў абсалютна законная, натуральная, і няма ніякай патрэбы яе апраўдваць, а тым больш выжываць гвалтоўна з памяці чалавека вобраз Юзіка. А Вы некалькі разоў акцэнтуеце на гэтым. Атрымоўваецца прыкра, фальшыва, без належнай павагі да вялікай годнасці чалавека і проста да светлай памяці добрага чалавека.

Яўна занізілі Вы вобраз Міхала Корбута — маю на ўвазе канец аповесці. Ці нельга было даць яму больш адпаведнае месца ў жыцці? А Вы яго проста кінулі ў брыгадзіры, абы толькі развітацца з героем.

Лічу няўдалым вобраз настаўніцы Марыны Паўлаўны. Калі спачатку яна абяцала нешта цікавае ў творы, то потым яе роля выклікае яўнае расчараванне. І няўдалы іменна таму, што Вы спрабуеце не то што перакрыжаваць дзве дарогі — Любы і яе, — а правесці нейкія паралелі: шляхі-дарогі дзвюх гераінь. Адсюль нават робіце назву аповесці, гэтыя дарогі кладзяце ў аснову ідэйнай задумы твора. Павінен сказаць, што гэта ніяк не апраўдваецца і выклікае ў чытача недаўменне. Тут маем мы не дзве дарогі, а, па сутнасці, адну, дарогу Любы, шлях чалавека, занятага вялікімі справамі, шлях гераічны, мужны, ад якога патыхае веліччу эпохі, і побач сцежка, я б нават сказаў — сцяжыначка, непрыкметнага чалавека, якім з’яўляецца Марына Паўлаўна, чалавека з не зусім яснай біяграфіяй, носьбіта сваёй маленькай, уласнай драмы, занятага сваімі вузкімі, не зусім цікавымі перажываннямі. Гэта хутчэй тып звычайнага няўдакі ў жыцці, прычым няўдакі шэранькага, нецікавага. Зразумела, што

і гэты вобраз мае права на існаванне, але ніякага права не мае ён на супастаўленне з вобразам Любы, на прэтэнзіі на нейкую вялікую «дарогу», што зрабіла Марына Паўлаўна, каб адводзіць ёй такое месца ў аповесці. Што вучылася ў цяжкіх умовах? Гэта быў удзел усіх у часы вайны. Што дапамагла Любе падвучыцца? Справа не з выдатных. Адным словам, гэтую сцяжыначку не варта ператвараць у «шлях-дарогу». Сцяжынка застаецца сцяжынкай. Пішу Вам аб гэтым, маючы на ўвазе недакладнасць, неапраўданасць загалоўка.

З недахопаў аповесці, якія патрабуюць выпраўлення, — мова твора.

Што ж цяпер будзем рабіць з Вашай аповесцю? Празаічная секцыя сабіраецца абмеркаваць твор з Вашым выклікам у Мінск. На жаль, саюз не мае цяпер лішніх сродкаў, каб размножыць аповесць, кожны будзе чытаць рукапіс. Гэта адзавецца крыху на часе. Але нічога не паробіш, іншага не выдумаем. Калі Вы папрацуеце яшчэ над аповесцю, яна стане паўнакроўным мастацкім творам, бо ўсе дадзеныя на гэта ў яе ёсць. Гэта я і падкрэсліваю яшчэ раз.

Прашу яшчэ раз прабачэння за спазненне з адказам. Шчыра зычу Вам далейшых поспехаў у літаратуры. Цікава выслухаць Вашы думкі на мае заўвагі.

З павагай да Вас

*Міхась Лынькоў.*

## 11. ЯКУБУ КОЛАСУ

*16 чэрвеня 1955 года, Мінск*

Вітанне шаноўнаму схімніку і страстацерпцу!

Рыданіем возрыдах і скорбію воскорбех, прачытаўшы Ваша пасланіе ад 8 чэрвеня, якое лайдакі з Дома пісьменніка прынеслі мне толькі ўчора. А перад тым я паслаў Вам пісьмо, якое Вы, напэўна, даўно прачыталі, калі толькі яно дапяла да Вас.

Калектыўна перажываем усе Вашы пакуты і перажыванні, асабліва тыя, што звязаны з некаторымі непаразуменнямі з вядомай «маркай». Да нізрыне алах гнеў свой на главы несумленных рабоў сваіх, оныя не можаху ўразумець святыя ісціны, што ні адзіным барыем жыў чалавек і не ў рэнтгене суць веселіе душы чалавечаскай і што немашчэн чалавек стварыць цуды і

прэтварыць ваду ў піціе добрай маркі, як некалі рабіў Ісус у Кане Галілейсцей. Да ніспадзе хула на іх, неразумных.

Што новага ў нас? Сяды-тады перападаюць добрыя дні, ясныя, цёплыя. А наогул, неба ўсё хмурыцца, не-не ды і павее халодным ветрам, і не ведаеш, ці гэта лета, ці гэта восеньскі дажджлівы дзень, ці самы пачатак вясны. А сёння як-ніяк ужо 16 чэрвеня. У мінулым годзе ў гэтыя дні я ўжо сядзеў на сваім Нарачы, і лагодныя хвалі ціха пагойдвалі маю брыганціну. А цяпер сяджу вось у хаце, сумна пазіраю на двор ды псую паперу.

Дачабудаўніцтва маё крыху затрымалася было, здарылася няшчасце з прарабам: ехаў на матацыкле і разбіўся насмерць. Сёння пазванілі мне з Вілейкі, што брыгада рабочых зноў выехала на Нарач, будуць насцілаць падлогу, класці столь, ставіць вокны і дзверы. Спадзяемся ўсе ж, што ў першых чыслах ліпеня будзем спраўляць наваселле. У Максіма Танка ўжо накрылі дах. Ён крые так званай фінскай стружкай (щепа), у мяне дах будзе шыферны. Дамы яшчэ не гатовыя, а трэба ўжо ставіць громаадводы. Адным словам, клапот не абярыся. Усю гэтую будаўнічую турбацыю вядзе мая паважаная Зося Захараўна, з якой і ўзнікаюць у нас частыя дыскусіі, якія часам прыводзяць да спынення дыпламатычных адносін на які дзень-другі. Дакладна вывучаючы ўсякія асаблівасці маланак, вычытаў нават у Ламаносава: «…Стрелы на местах, от обращения человеческого по мере удаленных, ставить за небесполезное дело почитаю, дабы ударяющая молния больше на них, нежели на головах человеческих и на храминах силы свои изнуряла».

Увогуле кажучы, азёрная храміна наша парадкам «изнурила» нашы сілы. Спадзяемся ўсё ж, што ў самым недалёкім часе справім мы наваселле, у якім [удзел] прымеце і Вы, наш шаноўны барвіхаўскі нявольнік[1].

У саюзе ніякіх асаблівых навін. У акадэміі адзначаем сягоння шасцідзесяцігоддзе майго аднакашніка па бурсе Паўла Пракопавіча Рагавога.

На гэтым і заканчваю сваё пасланіе з надзеяй на хуткую сустрэчу.

Цалую, абнімаю і моцна цісну руку.

*Ваш Міхась Лынькоў.*

*P. S.* Прывітанне ад Зосі і ўсіх нашых знаёмых.

*М. Л.*

## 12. ЯКУБУ КОЛАСУ

*30 чэрвеня 1956 года, Мінск*

Дарагі Канстанцін Міхайлавіч!

Ужо дні з чатыры, як атрымаў Ваша пасланне, і вось толькі сягоння сабраўся з духам напісаць Вам адказ. Справа ў тым, што гэтыя дні я знаходзіўся ў дарозе паміж Мінскам і нашым слаўным Нарачам. Забраўся ў Мінск па розных тэрміновых справах і прабегаў тры дні, высалапіўшы язык. Справы, праўда, дробныя: гаспадарчыя, пісьменніцкія, дэпутацкія, лячэбныя і інш.

Сардэчна дзякуем з Зосяй за Ваша пісьмо.

Пасумавалі мы па «обремененных недугами и всякою скорбию телесной», па «невзыскующих пития и возроптавших на бездождие и на десницу и шуйцу своя» і «зело возвеселихомся, елико прочитах, яко врачують телесы ваша и яко зелие, дабы исцелити вуды ваши, изыскують».

Жывем мы на зямлі нарачскай больш чым добра. Бадай увесь чэрвень месяц быў цёплым, некаторыя дні нават жаркім. Добрыя праходзілі і дажджы. Былі і нядрэнныя навальніцы, адзін дзень быў надзвычайным — прагрымела аж пяць навальніц.

Дні чатыры таму назад знайшоў я першых пяць баравікоў недалёчка ад нашай хаты. На рыбалку яшчэ не выходзіў, не адпускаюць мяне мае «Векапомныя»[1], якія парадкам ужо замучылі мяне. Думаю ў ліпені месяцы завяршыць усё ж чарнавы рукапіс. Тады і адпачыць змагу па-людску, бо ўжо колькі год як я па-сапраўднаму не адпачываў ніводнага месяца. А гэта даецца ў знакі.

Мы з Зосяй чакаем Вашага прыезду. Пакой для Вас заўсёды гатовы, можа прыняць у любы дзень і час. Зможаце жыць альбо ў тым пакоі, у якім былі ў мінулым годзе, альбо ў любым, які Вам падабаецца. У нас і двор цяпер не тая пустая гала, як было летась. Бяруцца ў сілу маладыя яблынькі, зелянее і цвіце ўжо бульба. Ёсць, вядома, і цыбуля, і ўкроп, і гарох, і боб, і фасоля і капуста, і салат, і ўсякія іншыя «зернебабовыя» і «злакі». Адным словам, плантацыя, якая патрабуе штодзень багата вады, а паколькі гідрамеханізацыя апіраецца галоўным чынам на ўласныя нашы плечы, дык я часам праклінаю дзень і час, у які ўсявышні сатварыў жанчыну не па падобію свайму і надзяліў яе залішняй страсцю да залішніх град з цыбуляй, з макам і проста так.

Такія, Канстанцін Міхайлавіч, нашы аграсправы. А зрэшты добра: жывем, працуем, хлопцы (два Максімы[2], Куляшоў, Кандрат Крапіва — таксама пасяліліся ў Купе) рэжуцца ў пульку, а

жаночая палавіна — у дурня (у вольны ад агракультурных спраў час). Куляшоў (адбудаваўся ўжо), Танк і я завялі па пеўню, так што ў нас цяпер цэлая капэла, якая, праўда, забываецца часам на свае непасрэдныя абавязкі і кідаецца ў зацяжныя бойкі. Прычына — адна курка на трох спевакоў, прычым распараджаецца непасрэдна ёй толькі адзін, а другія два вымушаны назіраць усялякія заляцанні з-за плоту і, вядома, перажываць так, што схуднелі і страцілі ўсякую спажывецкую вартасць. Зося прымае рашучыя захады і падшуквае нашаму спеваку «маладзіцу». Адна бабка прыносіла ўжо курку, але яна аказалася сляпой на адно вока, так што «шлюбны кантракт» не састаяўся, і я пакінуў свайго пеўня ў халасцяках.

Акрамя пеўня маем мы яшчэ грознага цэрбера па імені Валет. Ад роду яму месяцы тры. Належыць да племені патомственных дварняг, вызначаецца выключнымі здольнасцямі брахаць на гаспадароў і лашчыцца да кожнага незнаёмага чалавека. Гэты выдатны цюцік перажыў ужо багата прыгод пры сваім азнаямленні са светам. Былі сур'ёзныя сутычкі з мурашкамі, чмялямі і крапівой (асабліва давалася яму ў знакі апошняя: чым больш ён нападаў на яе, тым больш яму і перападала ад яе). Гэты мудры і грозны пёс цэлы тыдзень шукаў у возеры смажаныя сасіскі і з рызыкай для жыцця адважна абследаваў прыбярэжнае дно (аднаго разу я кінуў для яго ў ваду сасіску, ён і прыйшоў да вываду, што гэтыя сасіскі жывуць і плодзяцца ў возеры).

Аднак пішу я Вам аб такіх ужо дробязях, за якія Вы можаце мяне і палаяць.

Цяпер аб сур'ёзных справах. Навін асаблівых у нас няма. Учора быў у саюзе, правёў паседжанне франкаўскага камітэта. А з усяго камітэта быў толькі Пятрусь ды я.

Сёння вечарам адбываю ў сваю нарачскую вотчыну. Сардэчнае прывітанне Вам ад Зосі, Жэні, ад двух Максімаў, Аркадзя і Кандрата і ад Петруся.

Зося шле Вам пацалунак і напамінак аб прыездзе. Усе мы жадаем Вам хутчэй «восстать от одра» і прыйсці да нармальнага жыцця.

Асцярожна пацікаю Вашу длань, абнімаю і цалую.

*Ваш Міхась Лынькоў.*

## 13. СТАНІСЛАВУ ШУШКЕВІЧУ

*30 чэрвеня 1956 года, Мінск*

Паважаны тав[арыш] Шушкевіч! Прашу прабачэння за позні адказ на Ваша пісьмо. Прабачце і за тое, што не ведаю Вас па бацьку, а таму і зварочваюся па фаміліі. Імя ведаю, называлі ж Вас раней Стахам, але пісаць так у пісьме неяк нязручна.

Прычына спазнення з адказам такая: пісьмо Ваша мне перадалі ў Маладзечанскую вобласць, дзе жыву я часова, разам з паведамленнем з саюза, што патрэбныя фармальнасці для Вас ужо зроблены. Учора быў у саюзе і даведаўся, што Вы адноўлены ў кандыдатах, а з часам будзеце і паўнапраўным членам саюза[1].

Карыстаюся выпадкам і віншую Вас з завяршэннем усёй Вашай больш чым сумнай эпапеі. Шкада, вельмі шкада Барыса Мікуліча[2]! Цяпер рэабілітуюцца шмат хто з хлопцаў. Рэабілітацыя рэабілітацыяй, а некаторых хлопцаў няма ўжо ў жывых…

Жадаю Вам з сям’ёй усяго найлепшага і паспяховага звароту на Радзіму.

З сардэчным прывітаннем

*Міхась Лынькоў.*

## 14. ДЗМІТРЫЮ БУГАЁВУ

*23 сакавіка 1959 года, Мінск*

Паважаны тав[арыш] Бугаёў!

Адказваю на некаторыя Вашы пытанні, пастаўленыя ў Вашым пісьме.

Пачнём па парадку з А. М. Горкага. Вядома, і я, як і іншыя нашы пісьменнікі, паважаю А. М. Горкага перш за ўсё як вялікага мастака, у якога шмат чаму можна павучыцца. Паважаю і як выдатнага грамадскага і культурнага дзеяча, шмат зрабіўшага і ў часе яго прабывання старшынёй Саюза пісьменнікаў, калі нам давялося з ім сустракацца і гаварыць на розныя тэмы. З яго твораў найбольшы ўплыў на мяне як пісьменніка зрабілі яго раннія, рамантычныя апавяданні. З другіх класікаў рускай літаратуры мне як чытачу і пісьменніку падабаюцца творы Гогаля, Тургенева і Л. М. Талстога.

Што датычыцца творчасці Я. Купалы, Я. Коласа і іншых беларускіх пісьменнікаў, то трэба сказаць, што ў самым пачатку маёй

літаратурнай дзейнасці іх уплыў на мяне не быў ні рашаючым, ні значным, бо я толькі-толькі знаёміўся з іх творчасцю, з якой у юнацкія гады я зусім быў незнаёмы. Зразумела, што ў далейшым, калі блізка пазнаёміўся з іх творчасцю, я палюбіў яе і паважаў яе творцаў, як сапраўдных пісьменнікаў-трыбунаў свайго народа. Іх творчасць — гэта сапраўды вялікая і павучальная школа для ўсіх пісьменнікаў любога народа, любой нацыі. Адсюль зразумела, што ўплыў нашых народных паэтаў на маю пазнейшую творчасць меў месца, і сказваўся ён, вядома, у наследаванні пэўных традыцый. Павінен сказаць, што з Якубам Коласам мяне звязвала і добрая дружба (асабліва ў пасляваенныя гады). Колас не раз крытыкаваў мае творы, і гэта ніколі не псавала самых добрых, прыязных узаемаадносін. Здарылася і мне (не публічна і не ў друку, а ў таварыскай бяседзе з Коласам) пакрытыкаваць яго асобныя творы («Суд у лесе», «Адплата»). Колас не вельмі любіў крытыку (вінаваты тут былыя вульгарызатары, якія спрабавалі нават такія шэдэўры нашай літаратуры, як «Новая Зямля», абвяшчаць ні больш ні менш як кулацкім творам), але да маіх заўваг прыслухоўваўся.

Што датычыцца тэматычнай блізкасці з Галавачом, то зразумела, што ў нас было шмат агульных інтарэсаў — і грамадскіх, і творчых, і проста самых звычайных жыццёвых.

Цяпер аб прататыпах у маіх творах. Прататыпамі некаторых маіх даваенных апавяданняў з местачковага жыцця былі жыхары мястэчка Свержань Рагачоўскага раёна. Цяпер цяжка прыпомніць іх фаміліі, амаль што ўсе гэтыя людзі загінулі ў часе вайны, загінулі і ўсе мае даваенныя запісы, архіўныя матэрыялы. Прататыпамі герояў «Чырвоных лядаў»[1] былі жыхары мястэчка Свержань, вёскі Старае Сяло Рагачоўскага раёна, вёскі Ліпінічы Буда-Кашалёўскага раёна. Фамілій большасці з іх прыпомніць не магу. Прататыпам «Пішчыка» былі бабруйскія беспрытульнікі. Пад «Пірыным» выведзены ў мяне сапраўдны чэкіст Фірын, які працаваў на будаўніцтве канала.

У «Векапомных днях» багата розных герояў. Галоўнымі прататыпамі былі В. І. Казлоў, Варвашэня, Бондар, Заслонаў, Мазанік і інш.

Што тычыцца Хведара Бужана, то на сённяшні дзень я не маю аб ім дакладных вестак. Некалі, да вайны, ён быў сапраўды лесніком, я аказаў яму тады некаторую падтрымку ў выданні яго кнігі. Пасля вайны — у першыя гады — я атрымаў быў ад яго два лісты. Па некаторых намёках відаць было, што ён некалькі год «адпачываў», але быў рэабілітаваны. Ён пісаў, што працуе ў

Львове ў нейкім упраўленні па азеляненню чыгуначных дарог. Больш я лістоў ад яго не атрымаў і не ведаю, дзе ён цяпер і чым займаецца.

Такія мае кароткія адказы на Ваш ліст. Прашу прабачыць мне, калі не змог падрабязна адказаць на ўсе Вашы пытанні.

З прывітаннем

*Міхась Лынькоў.*

## 15. МАКСІМУ ТАНКУ

*29 кастрычніка 1960 года, Мінск*

Максіме!

Па-першае — прывітанне!

Па-другое — я ўжо занудзіўся без цябе, разбойнік! Сяджу вось і сумую — «и некому руку пожать…» Пытаюся часам у Любові Андрэеўны[1], як ты там, ці надакучылі табе авеню і стрыты? Сачыў, браце, і за «Балтыкай» і за першымі тыднямі працы Асамблеі, цяпер весткі аб ёй пайшлі ў больш сціплых маштабах.

З Нарачы я вярнуўся числа 10 кастрычніка. Сядзеў бы там і надалей, але паважаная мая Соф'я Захараўна выцарапала мяне адтуль, каб я канчаткова не здзічэў са сваімі шчупакамі. Быў там і некалькі дзён назад: завёз туды новую сваю лодку (алюмініевую) і цэлы транспарт дрэў: таполі, ясені, дубы, каштаны, плакучыя івы, арэхі і г. д. Адным словам, па дамоўленасці з Л[юбоўю] А[ндрэеўнай] пасадзіў я табе сем таполяў, дзве плакучыя івы і адзін чырвоны дуб. Цяпер унізе схілу ад возера працягнулася цэлая шарэнга таполяў (канадскіх, кітайскіх і пірамідальных) — аж 24 дрэвы супраць нашых трох дач. Спецыяльна ездзіў у Шчомысліцу і завёз на возера грузавік дрэў. Ездзіў з Валодзем[2] і на рыбалку, але пагода не вельмі спрыяла, злавілі толькі аднаго шчупака ў 5½ кг. А якіх толькі шчупакоў не лавіў я ў верасні і кастрычніку! Праўда, мае ўласныя рэкорды не перавысілі шасці кілаграмаў (Валодзя злавіў аднаго разу шчупака і ў 8½ кг), але вопыт рыбацкі набыў я за гэты час не малы, асвоіў амаль што ўсё возера. Хацелі парыбачыць 23 кастрычніка, але пайшоў першы снег, быў моцны вецер і шалёныя хвалі, і рыбалку мы адмянілі і паехалі дахаты. Дзён праз пяць, калі будзе падыходзячае надвор'е, думаю ўсё ж яшчэ раз наведаць Нарач і патурбаваць

шчупакоў. Старая мая лодка стаіць яшчэ на якары, трэба ўрэшце і яе выцягнуць на бераг.

А каб ты ведаў, якога шчупака я ўпусціў у пачатку кастрычніка! Гэта ж цэлая казка! Тыдні са два ён мне сніўся кожную ноч, гэты кароль нарачскіх шчупакоў. Разоў з пяць ездзіў я на тое месца, але дарэмна. Праўда, узяў аднаго, відаць з яго світы, у 4 кг.

Як бачыш, крыху я «помешался» з гэтымі рыбацкімі справамі, з якіх і павінен ты рабіць некаторыя вывады.

Што новага ў нашым саюзе? Асаблівых навін не чуваць. Сходы адбываюцца ў новым клубе, які, між іншым, нядрэнны. Броўка на тры месяцы ў Маскве. Гэтымі днямі адбыўся перавыбарчы сход — сакратаром ізноў абралі вядомага табе Івана Іванавіча[3]. У лістападзе юбілей Л. М. Талстога — я дакладчык па акадэміі і, магчыма, у саюзе.

Надвор’е ў нас цяпер дажджлівае, былі замаразкі, галалёдзіца, але ў апошнія дні крыху пацяплела.

Аб чым жа табе яшчэ пісаць? Перадай сардэчнае прывітанне Кузьму Венедзіктавічу, Валодзю Грэкаву і іншым хлопцам (я не ведаю, хто там са знаёмых таварышаў). Пры выпадку павітай Літошку, карэспандэнта «Правды». Мы аднаго разу ехалі з ім з Нью-Ёрка.

На гэтым і заканчваю сваё сумбурнае пасланне, якое ты атрымаеш, магчыма, тыдні праз два, а можа, і раней. Прывітанне табе ад маёй шаноўнай Соф’і Захараўны.

Моцна пацiскаю тваю длань.

*Міхась Лынькоў.*

## 16. ВОЛЬЗЕ ЛАПІЦКАЙ[1]

*22 жніўня 1968 года, Нарач*

Паважаная Ольга Аляксееўна!

Вялікае дзякуй за Ваша пісьмо.

Рад, што Вы жывы-здаровы, добра перанеслі аперацыю і цяпер адпачываеце, папраўляецеся. Праўда, праз які тыдзень Вы зноў возьмецеся за настаўніцкую працу.

Як нашы справы? Жыву на возеры, а ні разу не купаўся, не загараў — забаранілі мне ўсё гэта нашы дактары. Соф’я[2] з 15 ліпеня знаходзілася ў Мінску ў бальніцы, нядаўна выпісалася і прыехала на Нарач. Здароўе ў яе зусім кепскае. Мне назначылі

ўколы розныя і цэлы месяц будуць пужаць шпрыцам. Але я лічу сваё становішча здавальняючым і лепшым, чым у Соф'і. Галоўны наш лекар — унучка Ірка, яна нас пацяшае, развясельвае, танцуе, спявае. Так вось і жывём.

Цяпер адносна Вашых пытанняў аб героях маіх твораў. Я не дакументаліст, пішу не дакументальныя творы. Большасць вобразаў — гэта абагульненыя, у якіх можна знайсці рысы, характэрныя для многіх і многіх людзей. Некаторыя героі маюць сваіх прататыпаў. У некаторых паасобныя рысы нагадваюць да некаторай ступені канкрэтныя факты з жыцця канкрэтных людзей (Саколіч — Казлоў Васіль Іванавіч, Слышэня — Варвашэня, Бохан — Бондар, Марына — Марыя Восіпава[3] і г. д.). Некаторыя — Надзя Канапелька, Сёмка-матрос, Дубок, Майка і інш. — вымышленыя. З найбольшай дакументальнай дакладнасцю выпісаны вобраз К. С. Заслонава. Гэта канкрэтны чалавек з канкрэтнай біяграфіяй. На вакзале ў Оршы стаіць помнік Заслонаву, там жа, у самім горадзе, існуе музей Заслонава. Аб гэтым чалавеку існуе багатая літаратура. Астап (з апавяд[ання] «Астап») выпісаны мной на аснове канкрэтных падзей, меўшых месца на Палессі (фашысты расстралялі двух старых, братоў, калі не памыляюся, па фаміліі Цуба). Некалькі слоў аб паводзінах Астапа. Што рухала яго ўчынкамі? Лютая нянавісць да ворагаў падказвала яму патрэбнасць як мага хутчэй адпомсціць фашыстам, таму ён параўнальна хутка згадзіўся правесці незнаёмых людзей да партызан, але ўжо ў самым пачатку дарогі ён выкрыў сапраўдны твар гэтых людзей і дастойна расплаціўся з імі.

Вось, коратка, адказ на Вашы пытанні. Зразумела, што ў кароткім пісьме нельга раскрыць усёй кухні пісьменніцкай працы, тым больш што гэтая кухня ў кожнага мае свае асаблівасці. У прамысловасці вялікае значэнне мае стандарт. У мастацкай творчасці стандарт супрацьпаказан. Кожны твор павінен быць арыгінальным, унікальным, не падобным ні на якія іншыя. Толькі тады ён будзе падабацца чытачу і прынясе яму пэўную карысць.

На гэтым заканчваю сваё «пасланіе».

З сардэчным прывітаннем Вам і Вашай сям'і ад мяне і Соф'і Захараўны.

*Міхась Лынькоў.*

## 17. ЯНКУ БРЫЛЮ

*Лета 1968 года, Нарач*

Дарагі Янка!

Вялікае дзякуй за тваё «пасланіе» нарачлянам. Аднак і мясцінку ты абраў, адна назва настройвае на паэтычны лад. Сапраўды, той, хто даў такую назву дому адпачынку, належыць да паэтычнага племені.

У нас на Нарачы справы ў гэтым годзе не зусім добрыя. І Максім[1], і я аскудзелі зело целесамі: заместа добрых піцій глытаем розныя мікстуры і таблецii. Максім разы са два акунуў свае целясы ў нарачанскія воды і на гэтым завяршыў сезон амавеній. А мне эскулапы рэкоша: хошчэшы прадліць леты свае, не суйся ў воды і пад промнем сонечным не заголяйся, ібо сіе табе на згубу. І яшчэ рэкоша мне: не пожэлай ні жаны бліжняга свайго, ні асляці яго, ну і г. д. і г[этаму] падобнае. Наконт «жаны бліжняга» блюду заветы эскулапаў, бо ашчэ і васхацеў бы прэступіць іх запаведзі, нічэгожэ не сатварыў бы, поеліку замацерэх во днех сваіх. А на кожнага бліжняга взіраю яко на асляці, онае можа маторасе мае восцягнуць на брэг і вадрузіць на маю каравелу, дабы восседоша які капітану і адміралу дзерзаць на Гатавічы, на Наносы, Чараўкі і іншыя селішчы нарачанскія.

Мінулым днём спакусіў я едзіных з малых сіх — Сашку Куляшова і яго супружніцу Святлану (каму ж, як не ім, цягнуці на брэг маторые?) і даша кожнаму па спінінгу, адплыша ў мора. І пачашася веліе смяценіе на водах і на воздусех. Возгрымелі грамы веліі і пякоша маланкі, а хлябі нябесныя разверзліся і амачыху нас, які цюцей. І бысць нам веліе посрамленіе і ўсякае рыбіе насмеяхуся з нас — і шчупацы, і акуніе, і калючыя ершые. На прычале ўзрэў нас Максіме і яко схімен, обітаяй у тайных, ізрэк: «Ну што, налавіў?..» На сіе маўчаніем адказаша, ізышэд я пад кроў свой, дабы асушыці адзежды свае і мысліе да парадку прывесці.

Так вось і жывём. У Максіма са здароўем вельмі кепска — кравяны ціск 160 і 120. Занядужала і мая дружына, у нядзелю паехала ў Мінск, давядзецца, відаць, класціся ў бальніцу. Мяне даглядаюць Надзя і малая Ірынка, якая лепш ад усіх нас карыстаецца нарачскімі шчадротамі: купаецца, загарае і верхаводзіць сваімі «калегамі» — малым Максімкам і яго аднагодкам Кокам — унукам Аркадзія.

Яшчэ раз дзякую за тваё мілае пасланіе і жадаю добрага адпачынку на «Рэчаньцы».

Сардэчнае прывітанне Ніне Міхайлаўне[2] і тваім слаўным нашчадкам.

У чаканні лепшага надвор'я

*твой Міхась Лынькоў.*

## 18. ВАСІЛЮ БЫКАВУ

*16 студзеня 1971 года, Мінск*

Паважаны Васіль Уладзіміравіч!

Даўно атрымаў ад Вас пісьмо, а своечасова не адказаў, а таму вось і каюся «во гресех своих», і ўшчуваю сябе, і прашу прабачэння.

А прычына спазнення звычайная: адалявае старасць з усімі сваімі «хворями» и трасцамі. Галоўны ж мой вораг — пракураныя амаль што да рэштак лёгкія. Адсюль вар'яцкая задышка, калі для таго, каб прайсці які квартал, трэба зрабіць некалькі прыпынкаў і нахапацца паветра, як хапае яго выкінуты на бераг шчупак. Вось было апошняе праўленне па прыёму ў саюз, былі і Вы на ім. Пабыў і я — гэта была мая першая вылазка ў людзі за апошнія месяцы. Думаю 20 студзеня наведацца ў саюз — цікава пaглядзець на моладзь — наша папаўненне, абнаўленне, наша змена. Ідуць гады, і тыя, што «змянілі» нас пасля вайны, цяпер таксама ўжо немаладыя і для людзей якога-небудзь дванаццацігадовага ўзросту яны ўжо сапраўдныя дзядулі: Шамякін, Мележ, Брыль… Ды і Вы ўжо блізка да гэтых рубяжоў. А для нас, пачаўшых разменьваць восьмы дзясятак, узрост Вашых аднагодкаў самы што ні ёсць піянерскі ўзрост.

Аднак адхіліўся я ад тэмы майго пісьма. Перш за ўсё — шчырае дзякуй за Ваша пісьмо, навагодняе павіншаванне і пажаданні, за напамінак аб маёй колішняй маладосці. Даўно мне хочацца пагаварыць з Вамі па некаторых праблемах нашай літаратуры, па асобных пытаннях, звязаных непасрэдна і з Вашай творчасцю. Але ўсё не траплялася зручнага выпадку. Спадзяюся, што такі выпадак будзе. Вельмі рады за Вашага Сотнікава[1]. Думаю, што Вы зразумелі прычыны і сутнасць гэтай радасці. Я ніколі ў жыцці не крывіў душой, а таму і не магу сказаць, што я як чытач быў задаволены ўсімі Вашымі рэчамі. З некаторымі з

іх, а таксама з некаторымі асобнымі палажэннямі, асобнымі сітуацыямі быў я нязгодны. Ну, а такія творы, як «Альпійская балада», «Трэцяя ракета» і шмат якія іншыя, прымаліся мной, як гэта гаворыцца, на сто процантаў. Але ўсё гэта — тэма для нашай асабістай гаворкі.

Яшчэ раз дзякуй за Ваша пісьмо. Жадаю, каб Новы год і ўсе наступныя гады не здраджвалі Вам у творчых пошуках, у творчых удачах і здабытках, а сям'і Вашай — у шчасці і радасці!

Моцна цісну Вашу руку.

*Міхась Лынькоў.*

## 19. КАНДРАТУ КРАПІВЕ

*22 жніўня 1972 года, Нарач*

Дарагі Кандрат!

Жыў я і здраў, хацеў нават наведацца на пару дзён у Мінск, каб падмацаваць крыху дачны бюджэт, але адзін з маіх эскулапаў, які не пакідае яшчэ мяне сваёй увагай, забараніў мне гэтую вылазку. У выніку такую вылазку зробіць заўтра Соф'я, хаця яна крыху і пабойваецца пакідаць маю асобу без кантролю.

Я бываю ўжо і на двары, нават вадзілі мяне Соф'я і Іра ў лазню, і я ў першы раз не парыўся, а крыху пацялёпкаўся ў цёплай вадзе і, па праўдзе кажучы, не столькі мыўся сам, колькі мылі мяне Соф'я з унучкай.

Ты дарэмна бярэш на сябе нейкую долю віны ці ўсю віну за мае прыгоды з запаленнем лёгкіх. Ты зусім тут ні пры чым. Падвёў мяне касцёр, ля якога я пасядзеў без пінжака і нават памятаю, як адчуў азноб, бо ад возера даволі-такі павейваў ветрык-вятрыска. Адчуў, але сядзеў, як прыкіпеў.

А я сапраўды перажываў, бо так і не давялося мне з табой выехаць на шчупакоў. Ігар жа, вядома, асвоіць возера, яго рыбацкія мясціны за кароткія выезды, ды яшчэ ў гарачыню, не змог і не мог. Наш Геля (муж Надзі) з зяцем Танка Сашкам некалькі раз выязджалі на рыбалку. За час ад 5 жніўня на яго рахунку налічваецца ўжо 8 шчупакоў — некоторыя з іх па 4, па 6 кілаграмаў. Рэшта па 1½ і 2 кілаграмы. Вядома, што трапілі б такія шчупакі і на наш рахунак. Але з-за мяне была сапсута ўся «абедня». Такія, браце, нашы шчупацкія справы.

А некаторыя падзеі настройваю[ць] на сумны лад. Мой аднагодак Ілья[1] паспяшаўся з фінішам, а быў ён чалавекам здаровым (ці гэта толькі так здавалася…). Вось і думай тут пра нейкія там рыбацкія старты…

Але пакуль жывём, то маем права і думаць і нават замышляць рыбацкія прыгоды.

З найлепшымі прывітаннямі і пажаданнямі ад мяне, Соф'і і Іры (Юлія ў Маскве) табе, Зоі Мікалаеўне, Ігару, Алёне і Міколу.

*Міхась Лынькоў.*

## 20. ЯНКУ КАЗЕКУ[1]

*9 лютага 1974 года, Мінск*

Паважаны Іван Дарафеевіч!

Мая сястра Пелагея Ціханаўна прыслала мне пісьмо з просьбай, каб я дапамог ёй адказаць на Ваша пісьмо аб маім браце, бо пэўных звестак пра яго яна не мае, ніякіх дакументаў у яе не захавалася, ды і не было (сямейны архіў захоўваўся ў мяне і ўвесь загінуў у вайну). Я паведаміў ёй пра некаторыя, вядомыя мне допісы. Магчыма, яна і пашле Вам пісьмо. Я ж наважыўся паведаміць Вам некаторыя звесткі з жыцця брата, каб не затрымліваць гэтую справу. Нарадзіўся ён у 1909 годзе, вясной (месяца не памятаю) у сям'і рамонтнага рабочага-чыгуначніка ў будцы на 230-й вярсце на перагоне між станцыямі Рагачоў і Тошчыца каля вёскі Старае Сяло Кісцянёўскай воласці Рагачоўскага павета Магілёўскай губерні. Вучыўся ў Старасельскай народнай школе, потым у Свержанскай няпоўнай сярэдняй школе і ў адной з сярэдніх школ гор. Бабруйска (нумара школы не памятаю). Не закончыўшы апошняга класа, пайшоў па камсамольскай пуцёўцы працаваць ізбачом на вёску (назвы вёскі не памятаю). Адслужыў потым пэўны тэрмін у Чырвонай Арміі і пасля дэмабілізацыі працаваў у рэдакцыі Бабруйскай акруговай газеты «Камуніст» да 1932 года, пасля чаго пераехаў у гор. Мінск.

У Мінску працаваў у рэдакцыі газеты «ЛіМ» літсупрацоўнікам. Захапляўся паэзіяй, пісаў пад псеўданімам «Рыгор Суніца» вершы, рабіў пераклады з рускай мовы на беларускую. Не бяруся даваць ацэнку яго паэтычнай творчасці (як-ніяк я самы блізкі сваяк яго), скажу толькі, што быў ён чалавекам здольным,

багата часу аддаваў самаадукацыі, быў сапраўдным патрыётам Савецкай дзяржавы, сумленным чалавекам і грамадзянінам.

У 1941 годзе ў першы дзень Айчыннай вайны быў мабілізаваны ў армію. З таго часу ніякіх звестак аб ім я не меў. Невядома, дзе, на якім фронце, пры якіх акалічнасцях ён загінуў. Лічыцца «пропавшим без вести». Сям'я яго — жонка і маленькая дачка (ёй не было і двух год) закатаваны гітлераўцамі ў пачатку восені 1942 года ў Старадарожскім р-не разам з маёй сям'ёй.

Такія кароткія звесткі пра майго брата Рыгора. Пішу толькі што выбыўшы з бальніцы, у якой «аддзяжурыў» месяц.

З прывітаннем

*Міхась Лынькоў.*

